# Алесь Якімовіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У ТРОХ ТАМАХ

## ТОМ ДРУГІ

*Аповесці*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1979

## НА ПАНСКІМ ЛУЗЕ

Я не скажу, каб вельмі любіў свайго каня. І на гэта былі прычыны. Дэраш — так звалі мы яго — даволі-такі сцёр зубы, часта наравіўся, хмыліўся не толькі на чужых, а і на мяне самога. Прызнаваў за гаспадара аднаго толькі бацьку, бо ў бацькі быў цвёрды голас і нялёгкая рука з пугаю-дратаванкаю.

Але, як і кожнаму пастушку, мне заўсёды хацелася напасвіць свайго Дэраша да поўных пахвін. Шкада было глядзець на яго вострую спіну, на якой сядзіш, як на калу, на выпуклыя рабрыны, якія лёгка пералічыць. Бацька кажа, што старыя коні сытымі не бываюць. Дзед з ім не згаджаецца. «Дай,— ківае ён сіваю галавою,— яму аўса ўволю, добрай вобмешкі, не запрагай лішне, то паглядзіш».— «Каб даць,— адказвае бацька,— трэба мець. А калі не запрагаць, то не тое што авёс — хлеб на стале звядзецца».

Гэта была праўда. Стары, худы Дэраш, недабоек, як празваў яго дзед, не толькі ўрабляў нашу невялікую гаспадарку, а і зарабляў нам грошы: бацька вазіў на ім і калоды на рум, і купецкую муку ў далёкі горад, і ўсё, што траплялася.

У тую раніцу я пасвіў Дэраша на папары пры панскім лузе. На папары травы мала — там ахватней пасвіліся каровы і авечкі. А каню — яму больш поплаў даспадобы. Яму на цвёрдыя густыя зубы патрэбен густы мурог, а не рэдкі хвошчык ці бярозка. І ён усё цягнуў на луг. Але ж паспрабуй раскажы Дэрашу, што туды ні яму, ні мне ня-

можна і нагою ступіць: барані бог, убачыць там цябе аднавокі панскі стражнік Лаўрэн!

Праўда, смялейшыя пастушкі сяды-тады прыпускаюць і на панскі луг. Цяпер на ім ніштаватая атава адскочыла. Касілі тут тыдні два таму.

Гэты луг я ведаю даўно. Ведаў, што завуць яго Абадок, што за яго наша сяло судзіцца з панам Ясінскім. Выходзіла так, што ні то пан адабраў некалі ад сяла гэты Абадок, ні то не аддаў яго сялу, калі адмянілі паншчыну. Тут мне разабрацца было цяжка. Ды я не вельмі і даходзіў да ісціны. Ведаў толькі, што Абадок — панскі і аднавокі Лаўрэн можа заняць на ім твайго каня ці карову ды загнаць у панскі двор.

І яшчэ я ведаў, што гэтым самым Абадком займаўся некалі мой дзед Язэп. Ён ад усяго сяла судзіўся за яго з панам. Цяпер судзіцца бацька. Чаму бацька, а не хто іншы? Гэта мне было таксама вядома: мой дзед крыху разбіраўся ў грамаце, а ад яго навучыўся і бацька. Лепшых грамацеяў у нашым сяле бадай і не было, калі не лічыць мяне і маіх сяброў. Ужо чацвёрты год, як пабудавалі ў нас сельскую школу, куды мы хадзілі вучыцца.

Пры самым полі была палоска нашага поплаву — як завярнуцца каню з плугам ці сахою. А далей стаялі слупы — значыць, граніца. Я паддаўся Дэрашу: пусціў яго на свой поплаў. На ім рос адзін сівец, ды і той чыста абгрызены. Дэраш паспрабаваў сівец — старыя зубы яго заляскалі ўпустую. А тут жа, крыху ніжэй, ён бачыць і чуе нюхам смачную дзяцеліну — маладую, свежую. Якраз на яго зубы!

За Абадком зелянела пушча. Яна абгінала луг няроўнаю падковаю. Пасярэдзіне гэтай падковы ў самым лесе і жыў аднавокі Лаўрэн. Звычайна мы чакалі яго з таго боку, дзе была яго старожка. Я паглядзеў кругом — нідзе нікога не відаць. Прыпушчу, думаю, на часінку, не канечне ж Лаўрэну цягацца тут, яму вунь якія абшары старажаваць.

Прыпусціў — і ўжо Дэраша не адарваць. Так упыліўся ў дзяцеліну, аж вушамі стрыжэ: баіцца, каб не адцягваў я яго з такой выгоды. Нават мух хвастом не ганяе.

Сонца ўжо было над лесам, а раса яшчэ, як срэбная шчотка, блішчыць — такая яна сёння ядраная. Гляджу, пахвіны Дэрашавы пухнуць увачавідкі. Я радуюся, ды і бацька, думаю, пахваліць. Учора бацька быў у мястэчку

і прывёз мне гасцінец — новую шапку. Слаўная гэта была шапка — з блішчастым лакіраваным брылем, са спружынаю ўсярэдзіне! Праўда, трошкі павеліка. Але бацька падлажыў пад аколыш палоску бяросты. «Падрасце галава,— сказаў,— тады бяросту вымеш». Я ўжо абышоў усіх сваіх сяброў, усім пахваліўся новаю шапкаю. А сёння сюд-туд знімаю яе з галавы, каб лішні раз даведацца, што гэта не сон. Старую, выпетраную на сонцы шапку з аблупленым паламаным брылем, якая мне даўно ўжо стала цеснай, я з ахвотаю перадаў малодшаму брату Юзіку. Яго шапка была і цесная і яшчэ горшая за маю.

Лаўрэна я так і не ўпільнаваў. Ён выслізнуў, як вуж, з левага боку пушчы, адкуль я менш за ўсё яго чакаў.

Калі я ўбачыў Лаўрэна ды хапіўся за аброць, дык Дэраш так нахмыліўся на мяне, што я аж спалохаўся. Я туразаю яго, а Лаўрэн ужо напярэймы бярэцца. Што ж рабіць? Уцякаць самому ці заставацца пры кані? Мне яшчэ не даводзілася пападацца ў рукі Лаўрэну.

За плячыма ў Лаўрэна тарчала стрэльба-аднастволка. Падбегшы, ён моўчкі вырваў у мяне з рук павады. Здаровае левае вока яго аж круцілася ад злосці. Я заплакаў.

— Дзядзечка, больш не буду!

І павіс на руцэ, у якой ён трымаў павады.

Нічога не сказаўшы, Лаўрэн адкінуў мяне ўбок і ноккнуў на Дэраша. Дэрашу і так не хацелася адрываць галавы ад смачнай роснай дзяцеліны. А тут яшчэ нехта чужы камандуе. І ён выскаліўся. Так, як гэта ўмеў рабіць адзін толькі Дэраш. Лаўрэн тузануў аброць мацней. Раззлаваны Дэраш адарваў на момант свае старыя зубы ад маладой дзяцеліны і з сілаю грызянуў няпрошанага гаспадара за руку.

Лаўрэн адхапіў руку.

— А каб ты здох! — ускрыкнуў ён і ўдарыў каня ботам па мызе.

Тады Дэраш ужыў больш надзейную сваю абарону: павярнуўся і смальнуў заднімі нагамі. Адкуль толькі і спрыт у яго ўзяўся! Лаўрэн паспеў адскочыць. І добра зрабіў. А то паспытаў бы ён Дэрашавых капытоў.

Я перастаў плакаць. Бачу, Дэраш сам не даецца Лаўрэну. «Малайчына! — думаю я пра свайго каня.— Так яму і трэба, панскаму сабаку».

Лаўрэн прыглядаецца да мяне сваім злосным вокам.

Чырвоны, як рак вараны. Сапе як мех кавальскі. Відаць, гнеў аж бушуе ў ім.

— Ты чый? — пытаецца.

Я маўчу, выціраючы кулакамі заплаканыя вочы.

— Чый? — шалее Лаўрэн. Здаецца, вось-вось накінецца на мяне і прыдушыць сваімі тоўстымі ручышчамі.

Тым часам Дэраш падаўся далей да свежага мурагу.

— Забірай! — паказаў Лаўрэн на Дэраша.

Калі я памкнуўся да каня, Лаўрэн сарваў з маёй галавы шапку. Тую шапку, якой я так цешыўся з учарашняга дня!

Цяпер я не ведаў, што мне лепш: вярнуцца дадому без Дэраша ці без шапкі?

— Дзядзечка!..— загаласіў я, кідаючыся да Лаўрэна.

А ён нават не глянуў на мяне. Хмуры і злосны пацягнуўся з маёю шапкаю туды, адкуль прыйшоў. Я прабег за ім некалькі крокаў і адстаў.

Галосячы на ўвесь Абадок, я вярнуўся да каня. Дэраш, відаць, напасвіўся, бо цяпер не нахмыліўся на мяне, а спакойна даўся ў рукі. Я падвёў яго да высокай купіны, сеў і паехаў дадому, не бачачы дарогі ад горкіх слёз.

## ВАЙНА

Дзень быў будны. Гэта я добра ведаў. Чаму ж тады на вуліцы скрозь людзі? Наша хата дзесятая ад канца сяла. Я ехаў па вуліцы на сваім Дэрашу і дзіву даваўся: усе бегаюць, як на пажары, бабы выціраюць ражкамі хустак вочы, некаторыя галосяць, як на пахаванні.

«А мой жа ты сынок, а мой жа ты Пілiпка...» — ясна пачуў я голас старой Піліпавай маткі.

Памёр Піліп...— кальнула ў мяне каля сэрца.— Калі ж гэта здарылася? Яшчэ сёння раніцай, як вёў каня на пашу, я бачыў яго на двары. Ён высокі, здаровы, як дуб. Ніхто з ім дужацца не бярэцца. І раптам памёр! І, відаць, гэта па ім усе нашы канчане гэтак устрывожыліся. Ды і не дзіва. Добры быў чалавек. Гаваркі, вясёлы. А як ён іграў на гармоніку! Бывала, як утне са скрыпачом Тодарам полечку, дык ніхто не ўстаіць і не ўседзіць.

Я таксама збіраўся ўжо заплакаць па добрым дзядзьку Піліпу, як раптам убачыў яго самога. Ён выходзіў з

сянец, а на яго левай руцэ павісла цётка Марыля — Піліпава жонка. Яна не галасіла, як старая маці, а енчыла нема без слоў. Піліп гладзіў яе па галаве праваю рукою, нешта гаварыў.

Я працёр вочы. Ці не здаецца мне ўсё гэта? Можа ў мяне гарачка пасля сустрэчы з аднавокім Лаўрэнам?

Праз тры хаты і наш дом. Бачу, каля калодзежа людзі сабраліся. Прыглядаюся, аж тут траха не ўсе нашы сваякі і суседзі. Я вяду каня ў двор. Усе глядзяць на мяне такімі невясёлымі вачыма, нібы хочуць нешта сказаць, ды не адважваюцца. Я таксама не адважваюся запытацца першым, што тут робіцца. А калі, думаю, гэта не Піліп памёр, а мой дзед ці можа нават бацька? Ні дзеда, ні бацькі на двары не відаць. І маткі няма. З меншых таксама — нікога. Я пускаю каня ў хлеў і спяшаюся ў хату. Сэрца вяшчуе бяду.

Гляджу з парога — усе дома. Бацька сядзіць за сталом. Маці падае яму яешню. Толькі плечы яе чамусьці калоцяцца ад узрыдаў. Дзед моўчкі смокча сваю самаробную арэхавую люльку на ўслоне з боку стала. Меншыя дзеці — брат Юзік і сястра Ядзя — туляцца каля печы на палацях.

Значыць, усе жывы і здаровы! Дык чаго ж тады плача маці? І чаму ўсе такія засмучаныя, як быццам і праўда ў доме нябожчык?

Глянуўшы на мяне, маці пляснула рукамі і загаласіла голасам:

— А сыночак, а ты ж нічога і не ведаеш...

І тут жа захліпнулася ад рыданняў.

Я падбег да яе.

— Што, мама? Што?

— Бацьку нашага на вайну бяруць...

Я ведаў, што кожны год бралі ў салдаты навабранцаў. Але ж ніхто па іх гэтак не галасіў. Нядаўна з сяла ўзялі і некалькі чалавек старэйшых — ратнікаў запасу. І па іх гэтак не плакалі. Не на смерць жа іх выпраўлялі. Паслужаць ды вернуцца. Вайны ж няма.

Я перапытаўся ў маткі:

— На якую вайну? Ты думаеш — у салдаты?

— Каб жа ў салдаты, сынок...

— Нямецкі цар пайшоў на нас вайною,— растлумачыў дзед, сплюнуўшы на гліняную падлогу.

— Калі пайшоў? Адкуль такія чуткі?

— Сёння з воласці аказю далі,— сказаў дзед. А бацька дадаў:

— І павесткі прывезлі на чарговы набор запасных. А я — запасны...

— Нават сабрацца чалавеку не даюць,— галасіла маці.— Сёння ж і ехаць загадалі...

Стараючыся зрабіць весялейшы твар, бацька паглядзеў на мяне.

— Пакідаю цябе, Пятруська, за гаспадара. Будзеш памагаць дзеду і мацеры.

Да горла ў мяне падкаціў горкі камяк. Я не мог нічога адказаць бацьку і толькі паківаў галавою.

— Дзед ужо не работнік...— ледзьве прагаварыла маці праз плач.— Дзед сваё адрабіў...

Маці казала праўду. Дзед наш і стары і хворы. У яго дрыжаць рукі. Ні за плугам, ні за касою ён ужо не ходзіць. Сібір, кажа дзед, забрала яго сілу. Дзесяць гадоў адпакутаваў ён там на катарзе некалі ў маладыя гады.

— От, неяк будзе,— сказаў дзед да маткі.— Супакойся ўжо. Што зробіш? Не мы тут вінаватыя...

Дзед зірнуў на кут, дзе ў акружэнні іншых абразоў вісеў стары бог Саваоф з круглаю сіваю барадою. Відаць, хацеў сказаць, як звычайна гаварылася ў бядзе: «Усё ад бога», ды ўстрымаўся. Дзед не вельмі верыў у бога. У царкву хадзіў раз у год — на вялікдзень. А дома маліўся з пятага ў дзесятае. І калі дзед яшчэ не зусім адцураўся ад бога, дык яго намесніка ў нашай царкве папа Васіля ён проста ненавідзеў. «Абдзірала, міраед,— бурчаў дзед на папа.— Свайго дабра цераз горла, а ўсё яму дай: нарадзіўся чалавек — плаці папу, ажаніўся — плаці, памёр — таксама...» Поп Васіль жыў не горш за пана Ясінскага.

— А дзе ж твая, сынку, шапка? — раптам запытаўся ў мяне бацька.— Ты ж, здаецца, павёў каня ў новай шапцы?

Што мне было адказаць бацьку? Падмануць, сказаць, што згубіў? Можа ў другі час я што-небудзь і прыдумаў бы хлуслівае, каб не зарабіць папрокаў. Але сёння, калі бацька ідзе на вайну і можа бачу яго апошні раз, салгаць я не мог. Я вельмі любіў свайго бацьку. Я не казаў яму аб гэтым, не лашчыўся надта да яго, бо лічыў сябе ўжо дарослым мужчынам, але ж у душы мая любоў да яго ад гэтага не меншала.

Я сказаў праўду. Думаў, бацьку цяпер не да маёй шапкі, хоць яна і новая. Аднак ён чамусьці вельмі ж бліз-ка прыняў да сэрца мой расказ.

— Ён напужаў цябе, сынок? — дапытваўся бацька, пабялеўшы ад гневу.— Вот гад! Як ён надаеў людзям! Гэта ж думаць: да дзіцяці прычапіўся, шапку адабраў. Ах, каб табе рукі і ногі адабрала! Ужо ж выбілі людзі яму адно вока, не — яшчэ мала...

Я ўпершыню пачуў, што панскаму стражніку Лаўрэну вока выбілі людзі. Мы, малыя, такім яго помнім увесь час і думалі, што іншым ён ніколі і не быў.

Апранаючыся, бацька ўсё яшчэ лаяў панскага стражніка. Здавалася, што ён забыўся нават на тое, што яму трэба ехаць на вайну. Мусіць, даўся яму ў знакі гэты аднавокі Лаўрэн.

Бацька і дзед выйшлі на двор — да сваякоў. За імі пайшлі і мы — дзеці. Маці пакавала ў драўляны куфэрак бялізну і яду бацьку на дарогу.

Бацька, як мне здавалася, не вельмі хваляваўся, ці то стараўся трымаць сябе спакойна. Ды яно і праўда: што было б, калі б і ён расплакаўся, як маці? Мужчыны ў нас наогул не плакалі. Я такіх мужчын не помню.

— Нічога, браткі,— суцяшаў бацька сваякоў,— дасць бог, вайна скора кончыцца... А можа забракуюць...

Каб жа яна скора кончылася! Толькі на гэта была ў нас надзея. Бо хто забракуе бацьку? Ён жа не хворы які. Наадварот, шмат хто зайздросціць яго здароўю. Бывала, ён валіў з ног нават дзядзьку Піліпа. У нас любілі дужацца — і малыя і старыя. У лесе бацька любую калоду адзін узвальваў на сані. «Недарэмна тваё прозвішча Валовіч,— жартавалі з яго суседзі.— Дуж, як вол». Сярэдняга росту, шырокі ў плячах, смуглявы, з чорнымі густымі вусамі — такім быў мой бацька.

Пакуль бацька гаварыў са сваякамі, да варот пад'ехалі падводы. На пярэдняй падводзе ехаў наш староста Палікар, высокі мужык сярэдняга веку з залатою завушніцаю ў правым вуху. Ззаду за падводамі ішоў цэлы гурт мужчын, жанчын і дзяцей.

Фурманкі прыпыніліся. Староста закінуў лейцы на нашы штыкеты, а сам зайшоў на двор.

— Ну як, Сцяпан, гатоў? — запытаўся ён у бацькі.

— Ды ўжо ж,— неяк цяжка ўздыхнуў бацька. Твар яго прыкметна спахмурнеў.— Вот толькі куфэрак забяру.

Бабы загаласілі. Мужыкі замахалі на іх рукамі:

— Не рвіце сэрца...

Стараста стаяў каля шула, паблісквашочы залатою завушніцаю. Ніхто з мужчын у нас завушніц не насіў. І таму гэтая завушніца добра вылучала старасту сярод іншых мужыкоў. Палікар быў чалавек не благі, толькі любіў крыху пафанабэрыцца, бо апроч чыну ён лічыўся самым багатым у сяле. Хто мог у нас насіць боты ў будныя дні? Палікар. Хто меў такое дзіва, як грамафон? Палікар. Хто выязджаў на кірмаш на пары коней з шамкамі? Зноў жа Палікар. Бадай усе ў нас жылі на чацвертаках ды трацяках, а Палікар раскашаўся на двух чвэртках[1]. Ніхто цяпер і не ўспамінае, адкуль ён узяў гэтую паўвалоку[2]. Усе прывыклі, што Палікар паўвалочнік, багатыр. А набыў ён зямлю, трэба сказаць, не зусім сумленна. Раней, у маладосці, Палікар служыў прыказчыкам у купца Залмана. Кажуць, на гэтай службе ён добра пагрэў рукі. Адным словам, праз гадоў дзесяць службы ён накраў гэтулькі, што змог прыкупіць яшчэ чвэртку зямлі да бацькавай спадчыннай чвэрткі.

Вярнуўшыся з куфэркам у руках, бацька пачаў развітвацца. Я дрэнна бачыў усё гэта, бо жаль душыў мяне, а слёзы засцілалі вочы.

Потым я пабег у хату па ваду — матцы зрабілася млосна. У гэты час падводы рушылі ад нашых варот.

Калі маці трохі акрыяла, я кінуўся даганяць падводы, каб яшчэ раз убачыць бацьку.

## ШАПКА ВЯРНУЛАСЯ...

Познім адвячоркам таго дня каля нашага двара зноў спынілася падвода. Я першы ўбачыў яе з акна. На павозцы сядзеў стараста Палікар.

Я сказаў маме. Яна пакінула свае гаршкі і таксама ўтаропілася ў акно. Стараста злез з воза, адчыніў фортку.

— Да нас ідзе...— сказала маці і кінулася наводзіць парадак каля качарэжніка.— Чаго ж бы ён? Мусіць, бацька нешта пераказаў?

---

[1] Чацвяртак — мера зямлі: $3\frac{1}{2}$ дзесяціны (дзесяціна — 1,09 гектара); трацяк — 5 дзесяцін; чвэртка — 7.

[2] Паўвалока — 14 дзесяцін.

Я ўсё яшчэ не адрываўся ад акна. «Верыць ці не верыць?» — думаю. У правай руцэ ў старасты была шапка. І зусім-зусім такая, як мая: чорны брыль яе аж блішчаў!

Я нічога не сказаў ні матцы, ні дзеду, які ляжаў каля печы на сваім палку. Яму сёння нездаровіцца з самага ранку. Няўжо бацька купіў мне другую шапку?

Палікар пераступіў парог, даў «добры вечар» у хату. Цяпер я выразна бачыў у яго руцэ сваю шапку. Не новую, а тую, што бацька купіў мне ўчора. Я не мог памыліцца. Сваю шапку я, здаецца, пазнаў бы сярод сотні іншых падобных. Сустрэўшыся вачыма са мною, Палікар падаў мне маю шапку.

— На,— кажа,— і больш Лаўрэну ні на вочы не трапляйся, ні ў рукі не пападайся.

Я схапіў шапку, прыцісну́ў да грудзей.

— Скажы дзякуй дзядзьку Палікару,— падказала маці.

— Дзякую...

— Няма за што,— адказаў Палікар, прысеўшы каля стала пад абразамі.— Бяда...— дадаў ён, паглядаючы ў акенца.

— Дзіва што, Палікарка...— сказала маці.— Як жа нам цяпер без Сцяпана?

Палікар пакашляў.

— Са Сцяпанам бяда...— сказаў ён.— Не хацелася мне лішні раз трывожыць вас, ды што зробіш...

Маці і ўсе мы глядзім збянтэжана на Палікара, не разумеючы, што ён гаворыць.

— Пасадзілі Сцяпана ў астрог...

Калі да маткі дайшлі гэтыя словы, яна апусцілася на ўслон і толькі прагаварыла праз сілу:

— За што? Ён жа паехаў цвярозы...

— Паехаў цвярозы,— адказаў Палікар.— Гэта праўда. Ды, на няшчасце, сустрэў Лаўрэна...

З Палікаравага расказу мы даведаліся вось што.

Падводы з нашымі ратнікамі запасу праязджалі каля панскага маёнтка якраз у той час, калі туды цягнуўся Лаўрэн са стрэльбаю. Бацька саскочыў з воза.

— Пачакай, Лаўрэн! — гукнуў ён.— Куды спяшаешся?

— Куды трэба, туды і спяшаюся,— буркнуў панура Лаўрэн, не спыняючыся.

Бацька дагнаў яго.

— Навошта забраў шапку ў сына?

— Папытайся ў яго...— зноў буркнуў сабе пад нос Лаўрэн, прыбаўляючы шагу.

З вазоў загаманілі:

— Што ты з гэтым халуём панскім у гаворку пусціўся? Дай яму па дурной мазгаўні разок, другі на памяць. Калі мала будзе, мы падкінем.

Бацьку гэтыя падказкі толькі яшчэ больш распалілі. Ён хапіўся за Лаўрэнаву стрэльбу, сарваў яе з пляча. Разгублены такім паваротам справы, Лаўрэн дастаў з-за пазухі маю шапку і падаў бацьку.

— На, на табе шапку. Чаго ты так усхадзіўся праз глупства...

Бацька ж, замест таго каб узяць шапку і вярнуць Лаўрэну стрэльбу, смальнуў яго гэтай стрэльбай па плячах.

— Вось табе, гадзіна, за шапку!

— Гвалт! Ратуйце! — зароў тоўсты Лаўрэн на ўсё поле.

Напад на яго быў такі нечаканы, што ён нават не адбіваўся. Толькі выстаўляў рукі, закрываючы імі адзінае сваё вока.

— Давай яшчэ! Давай! — падахвочвалі бацьку з вазоў.

Бацька збіў Лаўрэна з ног.

Стараста хацеў заступіцца за панскага стражніка. Ды на яго так зашыкалі ратнікі, што ён толькі галаву ўцягнуў у плечы.

Бацька паламаў на Лаўрэне яго стрэльбу, забраў шапку і вярнуўся на воз.

Не паспелі даехаць да мястэчка, як там ужо было вядома пра бацькаву сутычку з Лаўрэнам. Ганец ад пана праскочыў нацянькі, праз рэчку. Так што мужчыны нашы яго і не бачылі.

Каля валаснога праўлення бацьку сустрэў ураднік Сымон Вярбіла — камлюкаваты паліцэйскі, з тоўстым сінім носам, якога добра ведалі ў воласці і старыя, і малыя. Ды і сам Вярбіла ведаў траха не ўсіх мужыкоў у твар. Ён лёгка чапляўся да людзей, асабліва калі спадзяваўся на выпіўку.

— Нядобра, Сцяпан, нядобра,— сказаў ураднік да бацькі.— Цар-бацюшка паклікаў цябе біць немца. А ты

што робіш? Б'еш вернага слугу шаноўнага пана Ясінскага? Што ты скажаш на гэта?

У бацькі яшчэ не адлягла злосць на Лаўрэна, і ён адказаў:

— Шкада, што не было там цябе і твайго шаноўнага пана...

— Дык што? — недарэчна заміргаўураднік.— Што ты хочаш сказаць?

— Даў бы заадно па карку і табе і твайму пану — вот што я хачу сказаць.

Пасля гэтага бацьку адразу ж павялі ў астрог. Астатніх ратнікаў адправілі ў павет — у воінскую камісію.

Выслухаўшы такую навіну, маці загаласіла, як па нябожчыку:

— А Сцяпаначка, а за што ж такая кара на нас... А што ж цяпер будзе?

Дзед спрабаваў супакоіць яе:

— Яшчэ невядома, дзе лепш: у астрозе ці на вайне.

І трэба сказаць, маці сапраўды супакоілася. Відаць, дайшлі да яе дзедавы словы. Вядома, калі выбіраць адно з двух, то лепш няхай будзе астрог, чым вайна.

Мне шкада было бацьку. Але сам сабе я і радаваўся, што ён аддубасіў Лаўрэна.

— Дрэнна зрабіў твой сын,— сказаў староста дзеду.— Пайшоў па бацькавым следу... Ды яшчэ ў такі час...

Дзед не змаўчаў.

— Мой след,— сказаў ён,— хоць і праз турмы прайшоў, але чысты, не тое што другіх...

Стараста пачырванеў, надзеў шапку і, бліснуўшы сваёю залатою завушніцаю, порстка падаўся за парог.

## НОВАЯ НАВІНА

Дзён праз тры стараста зноў зайшоў у нашу хату. Мы ўсе — і дзед, і маці, і я, і меншыя дзеці — траха не елі яго вачыма, калі ён пераступаў парог. Так сабе стараста да нас не хадзіў. Значыць, нейкая новая бяда ці навіна з бацькам. Як нам хацелася, каб гэтая навіна ўзрадавала нас! Усе гэтыя дні мы толькі і думаем пра бацьку. Такая гаркота агарнула нас, што і выказаць цяжка. Дзед і я больш маўчым. А маці маўчаць не можа. Яна сюд-туд ды і заводзіць гаворку. У яе ўжо, здаецца, і слёз няма — гэ-

тулькі яна іх выплакала. І мы нічога не робім па гаспадарцы. Рукі вянуць, як кажа дзед. Свет няміл, дык і работа не наўме. Я ваджу Дэраша на пашу, за вярсту аб'язджаю ды абыходжу панскі Абадок. Няхай яго агні высмаляць разам з панам! Карову і цялушку пасе Юзік.

Стараста прывітаўся. Маці адказала. Яна борздзенька выцерла скарачом лаву каля стала.

— Садзіся, дзядзька Палікар.

Стараста акінуў вачыма нашу незайздросную старую хату з акенцамі, асунутымі траха не да глінянай падлогі, паглядзеў на печ, якая займала добрую палавіну хаты, і сказаў быццам сам сабе:

— Зноў бяда...

І змоўк, кратаючы рукою сваю залатую завушніцу, нібы яна яму засвярбела. З першых слоў можна было здагадацца, што стараста не прынёс нам добрай навіны. Маці трывожна замаргала апухлымі ад слёз вачыма. Дзед палез у кішэню па капшук з тытунём.

Калі мы падрыхтаваліся выслухаць горшае, стараста сказаў:

— Загадалі коней у воласць весці...

Мы з палёгкай уздыхнулі. Значыць, новая бяда не кранае бацькі. А што да коней, то якая ж тут бяда?

— А для чаго іх весці? — запытаўся дзед.

— Мабілізацыя...— скупа адказаў стараста.

— Коней?

— Але. Армія ж без коней не ваюе.

— Дык у нас жа, Палікарка, стары конь,— сказала маці.— І худы, адны рабрыны.

— Усё роўна трэба весці,— адказаў стараста.— Там паглядзяць, які стары, а які — малады. Так што заўтра раніцай каб былі гатовы.

Больш стараста ў гаворку не ўдаваўся. Ён пайшоў далей па сяле, а мы пачалі меркаваць і разважаць:

— Горшага каня за нашага Дэраша мала ў каго знойдзецца...

— Ён жа не толькі стары і худы, а і наравісты...

— Віцінар як паглядзіць, дык адразу забракуе...

Выходзіла, што нам баяцца няма чаго. Дарэмна толькі дзень патрацім.

А хто ж павядзе? Маці кажа, што ёй дома работы хапае. Няхай вядзе дзед. Дзед згадзіўся. Але мне ж таксама хацелася пабыць у мястэчку. Там жа бацька. А мо-

жа ўдасца яго хоць праз астрожнае акно ўбачыць? Я папрасіўся ў дзеда, каб узяў і мяне.

— Добра,— сказаў дзед.— Удваіх весялей. Запражом Дэраша ў павозку і паедзем.

— А калі, крый божа, забяруць,— спалохана глянула на нас маці.— Хто вам тады павозку назад прыцягне?

— Не забяруць! — рашуча заявіў дзед, трасучы люлькаю.— Як гэта забяруць? Што ж я, не быў у салдатах, не бачыў, якіх там коней бралі?

Маці змоўкла. Дзеду, вядома, відней. Дзед некалі ў маладыя гады ваяваў у атрадах Кастуся Каліноўскага. Потым, ужо ў сталыя свае гады, з генералам Скобелевым дзед браў турэцкую крэпасць Плеўну. Шмат чаго мы наслухаліся ад дзеда пра войны. Дык не дзіва, што мы лёгка яму паверылі. І праўда: на якое ліха спатрэбіўся на вайне наш Дэраш? Стараста проста мае на нас злосць. Мусіць, ён запомніў дзедавы словы наконт чыстай дарогі. Вось і захацелася яму, каб мы дзень змарнавалі.

— Зайдзіце там да бацькі, калі пусцяць,— параіла маці.— Я падрыхтую што-кольвек. Ён жа пэўна галодны сядзіць...

— Вядома, зойдзем! — сказаў я.— Абы толькі пусцілі.

Назаўтра, як і загадаў стараста, людзі павялі коней у мястэчка. Адзін за адным ехалі — і конна, і на вазах. Між іншым, на вазах ехалі і такія, што мелі добрых коней. Значыць, яны не спадзяюцца, што іх коней забяруць. Ну, тады нам і пагатоў няма чаго баяцца!

Мы запрэглі Дэраша ў павозку, падкінулі ў палукашак мурожнага сена. Маці палажыла на воз торбачку з харчамі для бацькі, потым пакапалася ў куфэрку і дастала сярэбраны рубель.

— Газы купіце ды солі,— сказала яна дзеду, падаючы рубель.

— На цэлага рубля?

Маці падумала, потым махнула рукою:

— На цэлага. Няхай лепш будзе ў запасе.

— Пашукай, Петрусёк, бутлю ад газы,— папрасіў мяне дзед.

Я збегаў у клуню і лёгка знайшоў там бутлю, апляценую лазовымі дубцамі. На соль маці дала нам торбу.

Калі ўсё было гатова, мы селі з дзедам побач на сене і паехалі ўслед за людзьмі ў мястэчка.

## ХАБАРНІКІ І ДРАПЕЖНІКІ

Мястэчка ад нас не так далёка. Пераехалі поле свайго сяла, потым грэблю з мостам цераз рэчку, потым поле суседняга сяла, потым панскі маёнтак з сядзібаю і — перад намі мястэчка. Зіхаціць на сонцы купал мураванай царквы. З правага боку ад яе, калі глядзець з нашай дарогі, высіцца стары драўляны касцёл. Там моляцца каталікі, або шляхта, як мы іх звалі. Туды ж ходзяць і ездзяць на маленне і багатыя паны.

Дэраш нас не падвёў: ні разу не занараваўся... Дзед усю дарогу кашляў. Дэраш, мусіць, думаў, што гэта яго паганяюць, і, не разабраўшыся, цягнуў воз як належыць. Раніцай я добра напасвіў яго на межах і ўзмежках, а дома падкінуў ахапак канюшыны — цішком ад дзеда: няхай, думаю, наядаецца, хто ведае, колькі давядзецца тарчаць у тым мястэчку. Ну і стараста! Ведае ж, што конь наш бракоўны, на здачу не гадзіцца. Сказаў бы так валасному старшыні ці яшчэ там каму — і ўсё. Дык жа знарок, каб напакасціць дзеду, прыцягнуўся са сваім загадам.

На шырокім зялёным дзядзінцы насупраць валаснога праўлення сабраўся цэлы кірмаш. Тут сотні коней. Адны запрэжаны ў вазы, другія прывязаны за платы, трэціх гаспадары трымаюць за павады. Некаторыя коні бунтуюцца, іржуць, ірвуцца ў бойку з чужымі, незнаёмымі коньмі. Гаспадары трымаюць іх, крычаць, тпрукаюць, нокаюць...

Мы спыніліся побач з дзядзінцам на вузенькай вуліцы. Завуць яе Свіною. Чаму яна Свіная? Тут жа і свіней рэдка ўбачыш, не тое што на нашай селавой вуліцы.

Я выпраг Дэраша, прывязаў за павозку, і ён пачаў хрумстаць памаленьку сена, выбіраючы спачатку лепшае.

Дзед пакінуў мяне каля воза, а сам пайшоў да людзей праведаць, што чуваць на свеце, дзе і хто будзе аглядаць коней.

Я тупаў каля павозкі, разглядаючы Свіную вуліцу, сяды-тады кідаў вачыма на будынак валаснога праўлення. Гэта вялізная драўляная хата з асобнымі пакоямі. Перад хатаю прасторны ганак на тоўстых слупах. На лаўках там сядзяць людзі. На двары, за будынкам, тупаюць паліцэйскія стражнікі. Побач з хлявамі там і знаходзілася валасная турма, або астрог, як мы яе называлі. У гэты астрог і

пасадзілі майго бацьку. Вось бы ўбачыцца з ім! Туды, вядома, не пусцяць. Там дзень і ноч стаяць вартавыя са стрэльбамі. Але ў астрозе ёсць акенца, якое выходзіць на двор. Яно маленькае, перагароджанае накрыж жалезнымі прантамі — кратамі, і размешчана высока, траха не пад самаю страхою, з зямлі ў яго не заглянеш. Можа бацьку ўдасца як-небудзь падняцца да гэтага акенца ды пагаварыць з намі хоць здалёку?

Мы вырашылі схадзіць у астрог пасля, як пакажам свайго Дэраша прыёмнай камісіі.

Пакуль я думаў пра бацьку, да воза падышоў нейкі шустры местачковец — невысокі чалавек у крамнай вопратцы, з цьмянымі прыпухлымі вачыма і вострым, як спіца, носам. Спыніўся каля мяне, пагладзіў каня па мызе. Дэрашу гэта не спадабалася, ён сярдзіта забразгаў цуглямі.

— Ого,— здзівіўся местачковец,— чужых не любіць. Добры конь. Быць яму ў абозе...

— Чаму ў абозе? — запярэчыў я.— Ён бракоўны.

Местачковец выскаліўся на мяне.

— А хто ж яго забракаваў?

— Я сам ведаю, што бракоўны.

— Чый жа ты?

Я сказаў.

— Адзін?

— З дзедам.

— А дзе ён?

— Пайшоў недзе.

— Ну,— пашморгаў вострым носам местачковец,— чакаць мне няма калі. Перадай дзеду, як вернецца, няхай нясе пісару пяць рублёў. Толькі няхай дае так, каб ніхто не бачыў...

— Навошта пісару пяць рублёў? — запытаўся я, не разумеючы, у чым справа.— У нас няма грошай.

— Няма грошай, то не будзе і куслівага каня,— хітра падмаргнуў шустры местачковец.— Забяруць, каб я так жыў. А калі зафундаваць пісару, ён возьме на заметку, і конь ваш. Запомніш, што сказаць дзеду?

— Запомню,— скрывіўся я ад злосці за такую параду.

— Грошы няхай пазычыць у купца Залмана...

Местачковец шмыгнуў убок і праз момант круціўся ўжо каля другога воза.

«Што ён, напраўду ці жартуе?» — думаў я. Значыць,

каб бракоўнага Дэраша забракавалі, трэба даць пісару хабар. Але хіба ж пісар будзе аглядаць коней? На гэта ёсць віцінар. Ён гляне Дэрашу ў зубы і адразу ўбачыць, чаго конь варты.

Тым часам вярнуўся дзед.

— Скора, кажуць, агляд пачнецца,— сказаў ён.— Народу нагналі поўны дзядзінец. Хаця б да вечара ўправіліся.

— А хто будзе глядзець? — запытаўся я ў дзеда.

— Начальнікі. Старшыня, пісар, віцінар. Ваенныя будуць.

Я расказаў дзеду пра шустрага местачкоўца. Дзед насцеражыўся. Адразу ж на яго напаў кашаль. Кашляў ён доўга, трымаючыся за біла павозкі. Дэраш увесь час стрыг вушамі ад яго кашлю. Адкашляўшыся, дзед першнаперш моцна скляў падасланага пісарам прайдзісвета.

— Каб табе пяць скул у горла, гад ты печаны! Каб табе пяць год прахварэць!..

Дзед умеў клясці, і тут ён не шкадаваў свайго красамоўства. Хапіла і пісараваму пасланцу і самому пісару.

— Трасцу, хваробу ім! — цвёрда вырашыў дзед.— Я вунь паглядзеў, якія ў людзей коні. Наш Дэраш — недабоек супроць добрых коней. Хіба ж такога могуць забраць? Што ж, у кавалеру яго пашлюць? Або ў абоз, гарматы па гразі цягаць? Каб вас на могілкі выцягнулі...

Дзед больш нікуды не адыходзіўся. Сядзеў на аглоблі і кляў пісара і яго пасланца.

Неўзабаве з валаснога праўлення паказалася камісія. Першым ішоў, накульгваючы на правую нагу, валасны старшыня Сымон Дубавіцкі. За ім цеснаю кучаю рухаліся пісар, ветэрынар, ваенны афіцэр і ўраднік Вярбіла. Паліцэйскія стражнікі неслі да варот стол і некалькі крэслаў.

Пакуль мы знімалі з Дэраша хамут, каля стала ўжо вырасла чарга з коньмі. Мы таксама сталі ў чаргу. Дзед трымаў каня за аброць. А я пратышчыўся бліжэй да камісіі. Цікава было паглядзець, як будуць здаваць коней.

Але я так нічога і не разабраўся, што там рабілася. Вось падвялі да стала першага каня. Ладны такі сівак, у яблыках. Гаспадар яго — чалавек з суседняга сяла. Пісар запісаў гаспадарова прозвішча. Ветэрынар паглядзеў каню ў зубы, памацаў жывот, пахвіны, пастукаў пальцамі па нагах.

— Ну як,— запытаўся пісар.— Не годны?

— Не,— пацісвуў ветэрынар плячыма.— Капыты паколаты.

— Праводзь! — скорагаворкаю пракрычаў пісар і паспешліва паклікаў: — Чарговы!

Падвялі чарговага каня. Не раўнуючы, як наш Дэраш. Пісар запісаў, што трэба, і гукнуў да ветэрынара:

— Годны?

— Здаецца, нічога,— адказаў ветэрынар, гледзячы каню ў зубы.— Стараваты, ды не зусім. У абоз...

Пісар тут жа зрабіў запіс у сваім журнале. Потым нешта напісаў на асобнай паперцы.

— Якая цана? — запытаўся ён, не адрываючы вачэй ад паперкі.

Ветэрынар глянуў на афіцэра.

— Я думаю — сорак,— сказаў афіцэр.

Старшыня матнуў галавою.

Пісар запісаў цану і падаў паперку гаспадару — старому Сідару, які ўвесь час здзіўлена таропіўся на членаў камісіі. Відаць, ён не разумеў, што тут робіцца. Пісар сказаў яму:

— Твой конь, дзядзька Сідар, ацэнены камісіяй у суме сарака рублёў. Гэта добрая цана. Грошы палучыш у банку. Усё. Чарговы!

Да Сідаравага каня падбег паліцэйскі стражнік і працягнуў руку да аброці. Сідар нарэшце расшалопаў, што адбылося.

— Вы не забракавалі майго каня? — закалаціўся ён, моцна сціскаючы ў руках павады.

— Не,— адказаў пісар, адвярнуўшыся.

— Дзе ж праўда! Людцы!

Але Сідару не далі дабівацца праўды.Ураднік Вярбіла цыкнуў на яго грозна, а стражнік вырваў з рук павады.

Я падышоў да дзеда і сказаў яму, што бачыў.

— Не можа быць! — не верыў дзед.— Віцінар чалавек вучоны. Ён мусіць разабрацца — добры конь ці дрэнны, стары ці малады.

— Віцінар пісара слухае,— кажу я.

А праз якую гадзіну дзед і сам на свае вочы ўбачыў, ці праўду я казаў.

З нашым Дэрашам здарылася тое ж самае, што і з канём дзядзькі Сідара: ён быў прызнаны годным для службы ў дзеючай арміі Расійскай імперыі. А цана яму была

вызначана трыццаць пяць рублёў, бо ён быў худзейшы за Сідаравага каня.

Дзед стаў на дыбкі. Паспрабаваў спрачацца, не даваць каня. Ды стражнік штурхануў яго так, што дзед ледзь на нагах устояў.

— Зладзеі! Хабарнікі! — закрычаў дзед не сваім голасам.

Ураднік падняўся з крэсла.

— Ну, ну! — сярдзіта заварушыў ён рудымі вусамі.— Ведаеш, што з табою зробяць за супраціўленне ўладам у ваенны час?

— Каб табе труну зрабілі! — закашляўся дзед, хапаючыся за грудзі. Яму не хапала паветра.— Не вырвалі хабару, дык вунь што вычвараюць!

Але яго ніхто не слухаў. Дэраша прывязалі за шчыкеціну побач з камісіяй. Там ужо стаяла дзесяткі са два такіх жа недабойкаў.

І так мне шкада стала Дэраша, што слёзы самі паліліся з маіх вачэй. Здавалася, я страціў тое, што ўжо не вернеш ні за якія грошы. Дэраш служыў нам мо гадоў дзесяць. Я прывык да яго з самага маленства. Праўда, ён часта хмыліцца і наровіцца, як я ўжо казаў. Але цяпер я дараваў бы яму самы найгоршы брак, каб толькі вярнуць яго.

«Бывай, добры мой Дэраш!» — шаптаў я, выціраючы кулакамі вочы.

Ад дзеда ды і ад другіх людзей я часта чуў прыказку: «Адна бяда не ідзе, другую за сабою вядзе». Так цяпер было і ў нас. Якая гэта ўсё ж праўдзівая прыказка!

Пасля такой бяды мы забыліся і пра бацьку. І толькі ўжо к канцу дня ўспомнілі матчыну торбачку. Выцягнулі яе з сена і пайшлі ў астрог. І там даведаліся, што бацькі ў астрозе няма... «А дзе ён?» — дапытваўся дзед у знаёмага стражніка. «Выслалі»,— адказаў стражнік. «Куды?» — «У павятовую турму».

Мы пастаялі каля астрога і вярнуліся да воза.

— Трэба ж папрасіць каго, каб павозку хоць завёз дадому,— заклапаціўся дзед.

Каля нас праходзіў Васіль Дубок — чалавек з нашага сяла. У Васіля конь не благі. Але камісія забракавала яго. Васіль не з бедных. Відаць, не паскупіўся на хабар. Цяпер гэтая ісціна даходзіла і да дзеда.

Васіль ахвотна згадзіўся забраць нашу павозку. Ён ра-

даваўся сваёй удачы і спачуваў, хоць можа і няшчыра, нашай бядзе.

— Толькі пачакай крыху, браце,— папрасіў дзед Васіля,— схаджу яшчэ ў краму.

Мы ўзялі бутлю, торбу і пайшлі да знаёмага крамніка.

— Чалавеча,— замахаў рукамі крамнік,— ужо з тыдзень як у мяне няма ні пляшкі газы, ні фунта солі... Усё расхваталі, каб я так жыў...

Праўду ён казаў ці не — хто яго ведае. Мы пайшлі ў другую краму. Там адказалі тое ж самае. Кінуліся ў трэцюю, чацвёртую...

Ды так без солі і газы і вярнуліся назад.

— Пахавалі, недавяркі,— сказаў Васіль.— Потым будуць шкуру лупіць.

— Каб з іх саміх шкуры пазлупліваліі...— не стрываў дзед.

Ён страшэнна змарыўся. Здавалася, вось-вось упадзе. Я памог яму ўзлезці на воз. Ён прылёг на сена і змоўк. Толькі цяжка дыхаў.

Так моўчкі мы і дахаты даехалі.

### ПЕРШЫЯ ПІСЬМЫ

Дзед захварэў. Не сказаць, каб у яго пабольшаў кашаль — вечная дзедава хвароба. Кашляў ён, як звычайна. І, як звычайна, піў свае зёлкі: настой з ліпавага цвету.

На гэты раз моцны душэўны боль апанаваў дзеда. Ён зрабіўся больш панурым, пазіраў на свет нейкімі непрытомнымі вачамі. Начамі не спаў. А калі засынаў, то часта крычаў спрасонку, лаяўся, захліпаўся.

Удзень дзед спрабаваў падымацца. Ды слаба трымаўся на нагах. Сюд-туд — і зноў лажыўся на свой палок пры цёплай печы. Нават есці перастаў. Трэба было ўпрошваць яго, карміць, як малога.

— Мусіць, памрэ наш дзед,— бедавала маці перад суседзямі.— Што я тады рабіць буду адна з малымі дзецьмі?

І праўда, дзед хоць і невялікі работнік, а ўсё ж гаспадар у хаце. Што зробіць, а што параіць зрабіць, пакамандуе. Спакайней жыць, калі ёсць хоць такі гаспадар.

Але самая горшая цяпер была ў нас бяда — конь. Дзе нам яго дастаць? І за якія грошы? Па чутках, коні дара-

жэлі з кожным днём. За тыя грошы, што нам выплаціла казна, зараз і стрыгуна не купіш.

А конь у гаспадарцы да зарэзу патрэбен. Людзі ўжо скора азіміну будуць сеяць. Зямлі ў нас няшмат, ды без каня яе не ўробіш. Сам не пацягнеш ні плуга, ні бараны.

— Прыйдзецца прасіць у каго каня,— кажа маці.

— А хто дасць?

— Дарэмна не дадуць. Адрабляць будзем або плаціць.

Не, гэта не работа. Без каня — не гаспадарка. У нас ёсць карова і цялушка-выпустак. Карова ўжо старая, малака дае мала. Бацька хацеў выгадаваць з цялушкі маладую карову, а старую прадаць. Мы ўсё лета рабілі сена на часць у пана. Бо сваім сенам гэтулькі жывёлы не пракорміш. Цяпер, мусіць, давядзецца прадаць цялушку, а можа і авечак, каб купіць якога каня. Але пра цялушку маці і гаварыць не даецца. Яна так прывыкла да яе, і раптам прадаць! Мы Дэраша і то не можам ніяк забыць. Ды і карова наша не вечная. Год-два — і перастане даіцца. А тады што? Як жыць?

Тыдні праз два пасля таго, як пакінуў нас бацька, пачалі прыходзіць пісьмы ад салдат. Добрая частка гэтых пісьмаў трапляла да мяне. Усе нашы канчане ведалі, што я не дрэнны грамацей. Славу гэтую распускаў пра мяне і настаўнік Павел Данілавіч, і бацька. Бацька хоць і разбіраўся трохі ў грамаце, але таго не ведаў, што я. Я чытаў ясна і без запінкі не толькі звычайныя кніжкі, а і царкоўнае евангелле. Бацька калі пісаў, дык траха не ў кожным слове рабіў памылкі. І я папраўляў яго. Ён мог напісаць слова цар без мяккага знака ў канцы, а бог — з літарай «х» замест «г». Усю гэтую прамудрасць я адолеў за тры школьныя гады.

Дзе цяпер наш настаўнік? Яшчэ ў пачатку лета яго перавялі ў другую воласць. Чаму? Хто ведае. Ці то не дагадзіў папу, як гаварылі ў нас, ці валасным начальнікам. Я паважаў свайго старога настаўніка. І стараўся вучыцца так, каб не зарабляць у яго лішніх лап і каленак. «Скончыш школу,— казаў мне Павел Данілавіч,— і паедзеш у Нясвіж, у настаўніцкую семінарыю». Я не верыў, што гэта калі збудзецца. Хто мяне пашле ў тую семінарыю? Хто будзе карміць, плаціць за навучанне? Але мне прыемна было слухаць такія словы ад самога настаўніка. А які цяпер будзе ў нас настаўнік? Ды і ці будзе яшчэ? І калі мне цяпер вучыцца? Каб быў здаровы дзед, то

яшчэ можа і ўдалося б закончыць сваю школу. А так у мяне і рукі апусціліся. У апошні год я і пры бацьку часта прапускаў урокі. Усё ніяк ён не мог абысціся без мяне: увосень малацілі, зімою ў лес у заработкі ездзілі, вясною плыты вязалі і ганялі, то яшчэ якая работа знаходзілася.

З салдацкімі пісьмамі было так. Аднойчы пад вечар да нас зайшла Піліпава жонка Марыля. У руках у яе было пісьмо.

— Прынеслі,— кажа,— з воласці. Віця мой узяўся чытаць. Ды не разабраўся. Можа ты, Петрусёк, расчытаеш?

«Ну,— падумаў я сабе,— Віця яшчэ толькі другое аддзяленне скончыў. Дзіва што не разабраўся».

Адрас на канверце быў напісаны выразна. Усе літары выведзены роўна. «Дык жа тут і разбіраць няма чаго!» — падумаў я. Дастаў лісток, на якім было напісана само пісьмо. Почырк як быццам хто падмяніў. Я ведаў, што дзядзька Піліп сам пісаць не ўмеў. Значыць, ён некага прасіў. А гэты нехта такі грамацей, як нашы першагодні-кі. Я доўга ўглядаўся ў няроўныя, нязграбныя літары. І ўсё ж пачаў патроху разумець іх. Адно слова разбяру, другое — дадумаюся сам.

Першымі ў пісьме ішлі паклоны. Іх разабраць было не цяжка, бо адны і тыя ж словы часта паўтараліся: «І яшчэ кланяюся мацеры. І яшчэ кланяюся цётцы Мальвіне і яе дзецям...» Такіх паклонаў было дзесяткаў са два — усім сваякам і знаёмым. Добры дзядзька Піліп нікога і там, на вайне, не забыў і не абышоў.

У другой частцы пісьма дзядзька Піліп расказваў пра сябе. З таго, што мне ўдалося разабраць, відаць было, што ён ужо трапіў на перадавую пазіцыю. У баях яшчэ не быў — часць сядзіць у акопах, у абароне. Потым два радкі былі зусім выкраслены чорным, як сажа, чарнілам. Ды так старанна, што ніводнай літары за гэтаю чарнатою я так і не расчытаў. Хто гэта зрабіў? Той, хто пісаў? Дык навошта было гэтак заўзята чарніць сваё пісанне? Ды яшчэ і нейкім дзіўным чарнілам. Яно ж блішчыць, як лакіраваны брыль маёй новай шапкі.

У канцы пісьма дзядзька Піліп распытваўся, што робіцца дома, і нават напісаў пра мяне! «Схадзі ты, Марылька,— вычытаў я ў пісьме,— да Сцяпанавага Петруся. Папрасі, няхай ён адпіша мне пісьмо ад цябе. Бо там,

здаецца, у нашым канцы больш няма каму гэта зрабіць. А ён жа лепшы грамацей за нашага Віцьку, ён добра піша».

Ого, мне і ў галаву не прыходзіла, што дзядзька Піліп ведае, як я пішу! Мне сорамна было чытаць гэтыя радкі цётцы Марылі. Ці праўду ж кажа дзядзька Піліп? Ці такі ўжо я грамацей, каб мяне хваліць?

Цётка Марыля слухала пісьмо так, што аж хустку адкінула з вушэй. Я сяды-тады глядзеў на яе твар. Ён то радаваўся, то хмурнеў, і здавалася, вось-вось цётка Марыля расплачацца.

А калі я скончыў, яна адвярнулася і пачала выціраць вочы ражком паркалёвай, у бобачкі, хусткі.

— А можа і праўда, Пятруська, адпішы дзядзьку Піліпу,— сказала маці, якая таксама слухала пісьмо.— Ён, бачыш, цябе просіць.

Я ніколі яшчэ нікому не пісаў пісем. Мне і хацелася гэта зрабіць і баяўся, каб не асароміцца перад цёткай Марыляй, а галоўнае — перад добрым дзядзькам Піліпам.

— Канверта ж няма,— пачаў я аднеквацца.

— Канверт я ў мястэчку куплю,— сказала цётка Марыля.

— Дык на канверце ж трэба адрас напісаць...

Цётка Марыля задумалася.

— То можа я збегаю заўтра і куплю канверт?

— Навошта так рабіць,— умяшалася ў нашу гаворку маці.— Гэта лішняя хада. Пойдзеш на пошту з пісьмом. А там купіш канверт і папросіш каго, каб напісаў, куды яго пасылаць.

І праўда ж! З гэтым мы адразу згадзіліся.

Я пачаў рыхтавацца да важнай работы. Чыстай паперы ў мяне не было. Я вырваў светла-ружовую вокладку са старога сшытка. Падліў у чарніліцу вады — яна зусім высахла за лета. Размяшаў ваду пяром, паспрабаваў на сшытку — чарніла атрымалася хоць і светлае, але нішто, літары выходзяць заметныя.

Галава мая аж закружылася ад думак. Як я напішу тое пісьмо! Але адступаць ужо было позна. Узяўся за гуж, не кажы, што нядуж! Што ж, пачну, як і ўсе пішуць. А там відней будзе.

«Добры дзень, дарагі муж Піліп»,— напісаў я і задумаўся: упамінаць імя яго бацькі ці не? Па бацьку ў нас велічалі толькі настаўніка. Ды і то не мы, а сёй-той са

старэйшых. А больш я не чуў, каб каго звалі іначай, як па імені. Паразважаўшы так, я паставіў кропку. У тым, што ў такім сказе трэба ставіць клічнік, я не быў цвёрда пераканаваны. Потым пачыналася само пісьмо — з тых жа паклонаў, толькі ішлі яны цяпер наадварот: дзядзьку Піліпу ад жонкі, маткі, дзяцей, братоў, сватоў...

Паклоны занялі ў мяне добрую палавіну старонкі. А далей я спыніўся і зноў задумаўся. Каб я пісаў ад сябе, дык расказаў бы, што за гэты час адбылося ў сяле, якія ў нас навіны, пра мабілізацыю коней і як нас ашукалі ў воласці: Піліпавага каня таксама мабілізавалі...

Цётка Марыля ўсё роўна як чытала мае думкі.

— Напішы, Петрусёк,— падказала яна мне,— што мы жывы і здаровы, што ў нас усё добра... Няхай ён там не нудзіцца. Лён, напішы, мы яшчэ не паслалі. Але пасцелем. Грэчку змалацілі. Жыта яшчэ не сеялі.

Ну, цяпер мне было зусім лёгка пісаць. Цётка Марыля мне проста дыктавала, як у школе настаўнік. Усё ўспомніла яна, нават і пра тое, што ў малодшай дачкі Соњкі прарэзаўся пярэдні зубок. Я, вядома, напісаў і пра зубок. І дадаў, што скора ў яе пойдуць расці і іншыя зубы і што дзясны ёй ані не баляць — няхай радуецца дзядзька Піліп!

Але чаму ж пра каня нічога не гаворыць цётка Марыля? Забылася, ці што? І калі ўжо ў яе не было чаго дыктаваць, я напомніў пра каня.

— Не, не, Пятруська,— трывожна замахала яна рукамі.— Пра каня не трэба. Піліпу і так не лёгка. Не трэба. Неяк будзе. Жыта толькі, не ведаю, ці здолеем пасеяць. Ды не, не пішы пра гэта.

Не дык не. Я напісаў у канцы: «З нецярплівасцю чакаю адказу, любячая цябе твая жонка Марыля». Такую канцоўку, як і паклоны, я запазычыў з пісьма дзядзькі Піліпа. Ён пісаў: «Любячы цябе твой муж». Гэтыя словы мне здаваліся вельмі важнымі ў пісьме, і я іх паўтарыў, толькі наадварот. Пасля гэтага я прачытаў напісанае мною пісьмо ўголас.

І цётцы Марылі і маёй матцы пісьмо вельмі спадабалася, хоць абедзве яны і ўсхліпвалі ўвесь час, калі я чытаў. Маці пахваліла, што я добра ўсё напісаў, а цётка Марыля падзякавала і паабяцала прынесці мне з мястэчка гасцінца. Я пачырванеў яшчэ больш, як ад пахвалы дзядзькі Піліпа.

Праз дзён колькі да мяне прыйшлі з пісьмамі дзве другія салдаткі — мы іх ракруткамі звалі. Ад іх я даведаўся, што мяне вельмі хваліла цётка Марыля. «Так,— казала,— напісаў пісьмо майму Піліпу, што і пісар не дакажа...»

З таго часу я пачаў пісаць пісьмо за пісьмом.

## ПІСЬМО АД БАЦЬКІ

Пра бацьку мы думалі кожны дзень. Дзе ён і што з ім? Лаўрэна ліха не ўзяло — зноў цікуе за нашымі пастушкамі ў Абадку. Стрэльбу яму пан купіў новую, на гэты раз двухстволку. Усе ў нас толькі радаваліся, што бацька яго трохі папужаў. Вельмі ж ужо ён шчыра служыў пану.

І вось нарэшце прыйшло пісьмо ад бацькі. Раней, да вайны, у наша сяло рэдка калі прыходзілі пісьмы. Цяпер жа пісьмо не навіна. У салдаты бяруць усё новых ратнікаў запасу. Кажуць, скора і прызыўнікі пойдуць.

Маткі дома не было. Я паслаў Ядзю пашукаць яе. А сам тут жа разгарнуў пісьмо.

«Добры дзень, дарагія жонка, бацька і дзеці! — прачытаў я першыя словы, напісаныя хімічным карандашом знаёмым бацькавым почыркам.— Я жывы і здаровы, чаго і вам жадаю...»

У мяне закалацілася ўсё ўсярэдзіне. Жывы і здаровы! А мы ўжо чаго не перадумалі. Я перачытаў гэтыя словы ўголас дзеду — ён усё яшчэ палежваў на сваім палку каля печы. Дзед даўно ўжо не галіўся і не стрыгся. Але і праз густое сівае шчацінне відаць было, як на старым худым яго твары прабівалася святло радасці.

— Ну, ну, чытай далей! — падганяў мяне дзед.— Як ён там? Што з ім?

Далей, як і ва ўсіх пісьмах, ішлі паклоны — кожнаму паасобку. Нас, дзяцей, бацька таксама пералічыў па імёнах. І ўжо потым дайшлі мы да самага важнага. Бацька, аказваецца, увесь гэты час сядзеў у павятовай турме. Нядаўна быў суд. Яму далі пяць гадоў астрогу. Але адбыць іх ён мусіць пасля вайны. Цяпер жа яго абмундзіравалі і паслалі на перадавую пазіцыю — у Аўгустоўскія лясы [1].

Калі я прачытаў пра гэта, дзед зноў спахмурнеў.

— А я радаваўся,— загаварыў ён пацішу.— Астрог,

---

[1] Аўгустоўскія лясы — мясцовасць на ўсходзе Польшчы.

праўда, не родная хата, ды там хоць кулі над галавою не свішчуць.— Счакаўшы, дзед сказаў са злосцю: — Бач, да чаго дадумаліся: спярша паваюй за цара-бацюхну, а потым адседзь пяць гадоў. А калі не будзе ўжо каму сядзець, то яны, дабрадзеі, даруюць... Якое круцельства ўсюды, як здзекуюцца з нашага брата!

Я і раней часта чуў ад старэйшых скаргі на сваё жыццё. Мала хто з іх радаваўся жыццю. Найчасцей яго праклінала. Хадзілі ў царкву і маліліся дома, просячы ў бога лепшага жыцця. А былі і такія, што прасілі ў бога толькі аднаго: скорай смерці. «Як гэта можна прасіць у бога смерці?» — дзівіўся я. Мне б і ў галаву не прыйшла такая благая думка. Аднаго разу я бачыў вісельніка. Гэта быў наш недалёкі сусед Архіп. Павесіўся ён у гумне за бэльку, і ўсе мы бегалі глядзець, пакуль яго не знялі. Во страхоцце! Жывы чалавек быў і раптам вісіць у пятлі... Чаму ён павесіўся? Дрэнна жылося, казалі людзі. Сям'я вялікая, а зямлі паўчацвертака.

Але я ніколі не задумваўся над такімі пытаннямі. Мне жылося добра. Нават калі рукі і ногі дубянелі, калі хацелася есці, калі маці лупцавала, я не думаў, што дрэнна жыць на свеце. Наадварот, вельмі цікава жыць!

Задумаўся я першы раз над усім гэтым толькі з таго часу, калі аднавокі Лаўрэн садраў у мяне з галавы новую шапку, калі забралі бацьку на вайну, а потым калі паліцэйскі стражнік вырваў з дзедавых рук Дэраша... Раней я любіў спяваць сам сабе. Бывала, пасу кароў або каня і мармычу, што ў галаву прыходзіць. Песні я лёгка запамінаў. А цяпер неяк не адважваюся зацягнуць уголас. У галаве песня спяваецца, а на язык не ідзе. Быццам жалобу нашу. Дома ў нас усе сумныя. Дзед вохкае, што не можа падняцца.

— Трэба пра каня думаць,— кажа ён, кусаючы губу.— Ды дзе яго за нашы грошы купіш.

Нашы грошы — гэта значыць невялікія грошы. Сена ў нас ёсць. На балоце за Абадком стаяць два стажкі. У іх і наша доля — паўстажка. Сена мы рабілі на панскай сенажаці на чацвёртую часць. Улетку вывезці нельга было, трэба чакаць, пакуль замерзне балота. А цяпер, калі не будзе каня, хто нам яго прывязе?

Ці трэба казаць, як узрадавалася маці пісьму. Яна ўжо збіралася сама ісці ў павет. Ды ўсё адкладвала. Павет ад нас не блізка — дзевяноста вёрст. Паспрабуй сха-

дзіць туды і назад. Маці ні разу не была ў павятовым горадзе. Як ісці адной па незнаёмых дарогах? Дзе начаваць? Усё гэта яе вельмі палохала.

— Пойдзем, сынок, на багача[1] ў Мікалаеўку,— сказала маці, праслухаўшы бацькава пісьмо.

— Чаго?

— Купляць каня.

— За трыццаць пяць рублёў? — паморшчыўся дзед.

— Паглядзім,— сказала маці.— Дзесяць рублёў у мяне яшчэ ёсцека, што мы з бацькам назбіралі. Можа рублёў пяць у каго пазычым. А то папрашу ў старасты ці ў папа — на адработак.

— Ну, каб мець рублёў пяцьдзесят, то можна паспрабаваць шчасця,— згадзіўся дзед.— Шкада, што я сам не магу падняцца...

— А бацьку адпісваць не будзем? — запытаўся я.

— Пачакаем да нядзелі,— сказала маці.— Як жа мы напішам бацьку, што ў нас няма каня?

— Можна пра каня не пісаць.

— Не, сынок, лепш было б напісаць, што конь у нас ёсцека.

## НА КІРМАШЫ

Сяло Мікалаеўка здаўна славілася сваімі кірмашамі. А самыя большыя кірмашы, вядома, збіраліся ў самыя большыя гадавыя святы. Такім святам быў і асенні багач. Але святамі больш займаліся папы і старцы. А ўсе іншыя людзі прыязджалі на кірмаш купляць і прадаваць.

Чаму такія важныя кірмашы праводзіліся не ў мястэчку, а ў Мікалаеўцы, я не ведаў. Не ведала і маці. Дзед і той нічога пэўнага не мог адказаць на гэтае пытанне. Чуў ён, што ўстанавіў так некалі сам архірэй, што нібыта поп мікалаеўскай царквы добра дагадзіў яму за гэта. Затое цяпер мікалаеўскія кірмашы даюць папу немалы прыбытак.

Каб не прапусціць ранняга кірмашу, мы выйшлі з дому нацямочку. Вядома, з дзедам я ахвотней бы пайшоў на гэты кірмаш. Але і з маткай нічога. Калі яна ў конях не

[1] Багач — рэлігійнае свята, якое святкавалася ў першай палове верасня.

разбіраецца, дык я сам разбяруся. Мы, пастушкі, часта заглядвалі коням у зубы і ведаем, каторы малады, а каторы — стары. Вось толькі б на наравістага не нарвацца. Яго адразу не распазнаеш. Ён наровіцца, калі яму ўздумаецца. Ну, ды на кірмашы відней будзе.

Дзень пачынаўся пагодлівы, ціхі, і мы радаваліся яму. Я прыкідваў у думках: калі ўдасца купіць каня, то яшчэ і жыта пасеем і пазяблім на зіму. Мы б тады бацьку так і напісалі: жыта пасеялі, пад ярыну пазяблілі. Вось радасць была б яму!

Мы так завіхаліся ісці, што яшчэ да ўсходу сонца добра змакрэлі. Ды і есці захацелася. Дома ў такую рань я не мог есці. Цяпер жа я ўсё часцей паглядваў на дужаваты вузел, што несла маці за плячыма. У тым вузле было наша снеданне і абед. Добра, што маці сама здагадалася і сказала:

— Можа зойдзем, Петрык, у Слабодку да цёткі Марысі, трохі паснедаем.

Я, вядома, не пярэчыў.

Слабодка ляжала якраз на нашай дарозе, за лесам. А цётка Марыся нам такая радня, пра якую я і не ведаў. Выходзіла нешта падобнае да прыказкі: дзесятая вада на кісялі.

Доўга ішлі мы па Слабодцы. Дзе тая цётка Марыся? Мне не цярпелася хутчэй да яе трапіць, і я ўсё пытаўся ў маткі: «Далёка яшчэ?» — «Далёка,— адказвала маці.— Яна на тым канцы жыве». Ну і сяло! Наша сяло не маленькае, а Слабодка мо разоў у тры большая.

І ўжо траха не ў самым канцы сяла маці нарэшце зайшла на адзін двор.

Цётка Марыся паліла ў печы. Хата ў яе такая, як наша: маленькая, бярвенні трухлявыя, нешаляваныя. Сцены голыя, толькі драўляныя крукі дзе-нідзе тарчаць. На покуце два абразы вісяць: распяты на крыжы Хрыстос і святы Юрай, які коле пікай страшнага змея.

Маці прывіталася.

— А вой-вой! — здзівілася цётка Марыся.— Адкуль жа ты, Парасачка?

— З дому, цётухна.

Цётка Марыся была старэйшая за маю матку. Твар у яе сухі, маршчыністы, жоўты. На галаве хустка — цёмная, брудная. На згорбленых плячах самаробны кабат.

—А дзе ж твой чалавек? — запыталася маці.

— Каня павёў пасвіць.

— А ў нас жа, цётачка, забралі каня...

— Куды?

— На вайну.

— А вой-вой!..— забедавала цётка.— Мусіць, добры конь быў?

— Дзе там. Стары, наравісты.

— Дык чаму ж яго забралі? У нас старых не бралі.

— У вас, можа, стараста лепшы,— сказала маці.— А наш бедным людзям не спагадае.

— Не, наш не такі, дзякаваць богу. За людзей заступаецца.

Размаўляючы аб тым ды сім, маці развязала вузел, дастала хлеб, агуркі.

— Пачакайце,— захадзілася цётка Марыся.— Скора картоплі зварацца.

— Не, цётухна, спяшаемся ж мы на кірмаш. Хочам коней паглядзець. Кажуць, у Мікалаеўку шмат коней на продаж прыводзяць.

— Не ведаю,— сказала цётка Марыся.— Мы з сваім Адасём на кірмашы не ездзім. Няма чаго ў нас, як той казаў, прадаваць і няма за што купляць.

Мы паснедалі на скорую руку і развіталіся з цёткаю Марысяю.

Цяпер не шмат дарогі і засталося. Хутка перад намі паказалася званіца мікалаеўскай царквы. Стаяла царква на высокім месцы, серабрысты купал яе ярка блішчаў на сіняве блакітнага неба.

Па дарозе нас усё часцей абганялі фурманкі. Ішлі і пешыя, такія, як мы. І бадай усе везлі і неслі што-небудзь на продаж. Адны толькі мы ішлі з пустымі рукамі. Праўда, не зусім з пустымі. У анучцы, якую маці схавала за пазуху, мы неслі пяцьдзесят пяць рублёў. Усё наша багацце...

У Мікалаеўцы маці адразу ж падалася ў царкву. Мне не хацелася туды цягнуцца — толькі час дарма патрацім. Але маці сказала:

— Трэба святому Юраю свечку паставіць. Можа ён паможа нам...

Ну, калі святы Юрай паможа выбраць і танна купіць добрага каня, то чаму не паставіць яму свечку? Юрай, я ведаў, быў заступнікам жывёлы перад богам. Так што ён, трэба думаць, знаецца на конях.

Царква ў Мікалаеўцы была такая ж, як і ў мястэчку. Толькі крыху лепшая. Усярэдзіне, дзе ні глянь,— дарагія абразы, бліпчастыя падсвечнікі, на гладкіх сценах скрозь малюнкі багоў і святых.

Людзей у царкве было яшчэ мала. І маці хутка справілася са сваёю работаю. Купіла ў царкоўнага старасты ніштаватую свечку на дзесятку [1], запаліла яе ад другой, што ўжо гарэла, і паставіла побач на вольнае месца ў падсвечніку. Потым укленчыла перад абразом святога Юрая, згаварыла нейкія кароткія пацеры, і мы рушылі на шырокі дзядзінец, дзе збіраўся кірмаш.

Кірмаш ужо шумеў markdown рознымі галасамі. На кожным кроку трапляліся старцы. Колькі іх тут сёння назбіралася! І старыя, і малыя, і калекі, і здаровыя. Мусіць, з цэлай акругі паз'язджаліся ды пасходзіліся. Яны і спявалі, і на лерах гралі, і маліліся, і хрысціліся, мёртвыя душы паміналі, жывым добры ўмалот ды прыплод абяцалі... Іншыя ў дадатак гандлявалі крыжыкамі, святымі кніжачкамі. Яны крычалі, хапалі людзей за рукі, за ногі. Здавалася, памрэ чалавек тут жа пры табе, калі не дасі яму грош ці капейку. Спачатку маці давала па грошу калекам — сляпым, бязногім, бязрукім. А потым бачыць, што і ўсіх яе грошай, сабраных на каня, не хопіць, каб абдарыць старцоў. Яна апусціла галаву і шпарка прабіралася сярод гэтага жабрачага люду да канца дзядзінца, туды, дзе гандлявалі коньмі.

Апроч старцоў праходу не давалі дробныя гандляры і карабейнікі. Яны выставілі ў рады ўсё, што трэба і што не трэба чалавеку. І кожны хваліў свой тавар, клікаў купцоў. Можна было аглухнуць ад аднаго тлуму і крыку.

На конскім рынку было спакайней. Коні стаялі прывязанымі да вазоў або да знарок змайстраваных жардзяных пераплёцін. Гаспадары коней не крычалі і не заклікалі купцоў.

— Ну, сынок, дай бог нам шчасця,— перахрысцілася маці.

Спярша мы хадзілі па рынку і прыслухоўваліся да цэн. Выявілася, што за такія грошы, як нашы, ніхто каня не прадае. Менш сямідзесяці ніхто не просіць. Ды такіх коней я і дарэмна не ўзяў бы. Гэта былі недабойкі, ад якіх, відаць, і шкурадзёры адракліся.

[1] Дзесятка — пяць капеек (дзесяць грошаў).

Патупалі мы з гадзіну і адышліся ўбок.

— Дарэмна, сынок, мы цягнуліся за блізкі свет,— уздыхала маці.

— Пачакаем яшчэ,— суцяшаў я матку.— Можа пад-вядуць лепшых і дзешавейшых.

— На кірмашы то яно так,— згаджалася маці.— Калі мала купцоў, то прадаюць танней.

Недалёка ад нас стаяў рыжанькі, таўсматы конік. Я падышоў да яго.

— Прадажны? — запытаўся ў дзядзькі, што сядзеў на возе, уплятаючы добры кавалак сала з хлебам.

— А ты што, купіш?

— Можа і куплю.

— Давай,— усміхнуўся дзядзька.— Дорага не вазьму.

Я паглядзеў рыжаму ў зубы. З'едзены яны яшчэ горш, чым у Дэраша.

Падышла маці.

— Колькі за яго? — запыталася ў дзядзькі.

— Шэсцьдзесят пяць.

Мы адышліся ад воза.

— Ну куды ж вы? — паклікаў дзядзька.— Якая ваша цана?

— Сорак дам,— сказала маці,— калі не вельмі стары.

— Які стары! — выскаліўся дзядзька.— Ён маладзейшы за мяне і за цябе. Пяць рублёў скіну.

— Можа патаннеюць пад вечар,— сказала маці.— Пачакаем.

— Ну, чакайце! — буркнуў дзядзька.— Такога не купіце.

Мы зноў пайшлі на кірмаш. Трапілі ў рады гаршчэчнікаў і лажэчнікаў. У маткі аж вочы загарэліся. Яна любавалася гаршкамі, пстрыкала па іх пальцамі, слухала звон, мацала ўсярэдзіне і знаходзіла там нейкі брак — няроўную паліроўку, ямінкі або гузы. Гаршчэчнікі наперабой совалі ёй свае тавары: «Дзесяць год варыць будзеш і не расколецца. А потым апляцеш — яшчэ на дзесяць хопіць...» Былі такія, што ўмелі хваліць гладка, у рыфму:

> Калі без гаршка гаруеш —
> Купі, не пашкадуеш!
> Гэй, дружок!
> Бяры гаршчок!

А якія лыжкі красаваліся на вазах: і вялікія — апалонікі, і сярэднія, і маленькія. Адны былі дзябёлыя, важ-

кія, арэхавыя ці грушавыя, другія — лёгкія, асінавыя, пафарбаваныя.

І гаршкі, і міскі, і лыжкі нам бы спатрэбіліся. Дома ў нас усё ўжо старое, бітае, перабітае. Ды не за тым жа мы прыйшлі. Нам карціць конь.

Нацягаліся мы на кірмашы так, аж ногі загулі. Купіць нічога не купілі — баяліся грошы патраціць. І ўжо калі сонца павярнула на адвячорак, зноў падышлі да конскага рынку. На гэты раз убачылі цыганоў. Яны гайсалі па рынку з коньмі, хвасталі іх пугамі, нокалі-галёкалі.

— Можа ў цыганоў танней,— сказала маці.

Пачалі прыцэньвацца. Не, такія ж цэны, як і ў іншых прадаўцоў. Але вось за аднаго коніка цыган папрасіў усяго шэсцьдзесят рублёў. Конік быў не такі ўжо і благі на выгляд. Маленькі, як жарабя, сівай масці. Хвост завязаны вузлом. Грыва заплецена ў косы, чолка апушчана на лоб так, што аж вочы закрывае. Стары цыган з чорнаю барадою спрытна свістаў пугаю, і конік круціўся вакол яго як уюн.

Я паглядзеў.

— Па-мойму, маладзейшы за Дэраша,— сказаў я.

Я абышоў навокал коніка, памацаў рабрыны. Нічога, конік рахманы, не хмыліцца. Цыган стаяў спераду коніка, пальцамі прычэсваў яму на вочы чолку. Пры гэтым ён хваліў яго так, што другога такога каня, здаецца, і на ўсім рынку не было.

— Не конь, а золата. Сам бы ездзіў, ды грошы патрэбны.

— Малы,— спрабавала маці шукаць загану.

— Малы ды ўдалы,— адказваў цыган.— Я яго на ардэна не памяняю.

— А не наравісты? — пытаюся я.

— Псс!..— запсыкаў цыган, вылупіўшы на мяне свае хітрыя чорныя вочы.— Ён і не ведае, што гэта за нораў, каб я так жыў,— забажыўся цыган,— каб мае дзеці так жылі... На, садзіся, убачыш!

Я лёгка, з аглоблі, сеў на нізенькага сівака. Цыган свіснуў пугаю, і конік порстка рвануўся наперад. Разагнацца не было дзе. Я аб'ехаў вакол прывязі. У адным месцы конік наляцеў на выстаўленыя аглоблі, але я крута павярнуў яго, і ён пайшоў роўна.

— Нічога,— сказаў я матцы,— здаецца, паслушны.

Маці пачала таргавацца.

— Сорак,— прапанавала яна цыгану.

Цыган аж падскочыў, як уджалены.

— Пяцьдзесят пяць давалі, каб я так жыў, каб мае дзеці так жылі...

Маці прыбавіла тры рублі. Цыган скінуў тры.

Мо з гадзіну кляўся і бажыўся цыган, што за такога каня ён узяў бы ўсе шэсцьдзесят рублёў, каб пастаяў да позняга вечара. Але яму няма калі.

Нарэшце маці выкажыла траха не ўсе свае карты — пяцьдзесят!

Бачачы, што больш у нас нічога не вырвеш, цыган падаў матцы руку.

— Ну, няхай маё прападае. Разбівай! — гукнуў ён да мяне.— На тваё шчасце.

Я разбіў рукі.

— А як жа яго хаця клікаць? — запытаўся я.

Цыган падумаў.

— Арол! — сказаў ён, счакаўшы.

— Чаму Арол? — здзівіўся я.

— Што ж ты, не бачыш,— заматаў цыган чорнаю барадою,— гэта ж арол, а не конь!

Праз хвілін колькі мы ўжо выводзілі з конскага рынку свайго сівага Арла.

Ці трэба казаць, як я радаваўся. Здаецца, нібы вярнуўся да нас Дэраш.

За сялом я сеў на Арла верхам. Маці пайшла побач, не зводзячы вачэй з каня. Яна таксама радавалася не менш за мяне. Асталіся мы без грошай. Але затое пры кані. Цяпер не прыйдзецца нам прадаваць цялушку і авечак. Сена ёсць, як-небудзь перазімуем. А там карову прадамо, і будуць грошы на патрэбу.

Быў ужо адвячорак. Сонца стаяла нізка. У паветры пасвяжэла. Але нам было цёпла і добра.

Па дарозе, як і раніцай, ехалі і ішлі людзі, цяпер ужо з кірмашу. Адны з іх спявалі, другія моцна гаманілі. Бабы супакойвалі мужыкоў. Траляліся і фурманкі, што ехалі насустрач.

У адным месцы я шмаргануў за повад, каб збочыць і даць дарогу сустрэчнай фурманцы. Арол павярнуў управа. Раптам ён стукнуўся пярэднімі капытамі ў прыдарожны камень і гопнуўся з усіх чатырох на зямлю. Маці паспела адскочыць. А я кульнуўся цераз грыву. Конь невысокі, і я не вельмі выцяўся. Я ўсхапіўся, напалоханы,

тузаю Арла. Ён паляжаў крыху, потым паднатужыўся і падняўся.

Я зарадаваўся. Значыць, не забіўся Арол!

— Што ён у вас, сляпы? — запытаўся дзядзька, які ехаў насустрач нам.

Мяне так і кальнула ад гэтых слоў. Я ж не глядзеў яго вачэй! І маці не глядзела. Зубы праверыў, а вочы — не!

Падышоў я да Арла, калоцячыся ад страху, падняў чолку над правым вокам, зірнуў і — абвяў...

— Што, сынок? — затармасіла мяне маці.

— Сляпы...— ледзь прагаварыў я.

— Няўжо? А божачка...

Маці паглядзела сама.

— Я нічога не бачу. Вока белае...

— А зрэнкі,— тлумачу я,— не відаць...

Я паглядзеў левае вока. Яно было крыху жывейшае. Але не такое, як у Дэраша.

Маці залілася слязамі. Я баяўся, што яна ўпадзе на дарозе і сэрца яе не вытрымае такога гора. Вінаваты ва ўсім, вядома, я. Маці не вельмі разбіраецца ў конях. Яна магла і не дадумацца паглядзець каню ў вочы. А калі б і паглядзела, то наўрад ці ўбачыла б у іх слепату. Дурань я, дурань...

Апамятаўшыся, маці сказала:

— Давай, сынок, назад павядом. Можа цыган яшчэ на кірмашы...

Вядома, трэба назад весці. Трэба шукаць цыгана з чорнаю барадою і хітрымі чорнымі вачыма. Толькі цяпер у маю галаву прыйшла думка, што сярод цыганоў трапляецца нямала зладзеяў і падманшчыкаў. Чаму я на рынку аб гэтым не падумаў? Трэба ж было папрасіць каго з старэйшых людзей, каб паглядзеў Арла.

Я ўжо не садзіўся на каня, а павёў яго ў руках за повад. Маці ішла ззаду, галосячы. У мяне таксама цяклі слёзы, толькі галасіць я не адважваўся.

Людзі спынялі нас, распытвалі, якое ў нас гора. Што мы маглі ім сказаць?

Кірмаш ужо не шумеў, як раніцай. Прадаўцы змагліся за дзень ад крыку. Адны толькі п'яныя спявалі, гарланілі і наладжвалі бойкі. У конных радах людзей ужо і паловіны не было. Я даў матцы повад, а сам пабег шукаць цыгана. Аблазіў усе вазы і прывязі, усе закуткі, але

знаёмага цыгана нідзе не ўбачыў. Спрабаваў распытвацца ў людзей. Не, ніхто не ведаў, куды знік той цыган. Ды і другіх цыганоў ужо таксама не відаць было.

Сам не свой вярнуўся я назад. Маці перадала мне повад.

— Пайду,— кажа,— сама пашукаю.

Хістаючыся ад гора, яна пайшла шукаць ветру ў полі. А я ўспомніў святога Юрая. Маці ж малілася яму, ставіла свечку. А ён вунь як насмяяўся. Ашуканец ён, а не святы!

Кірмаш у Мікалаеўцы ўжо апусцеў, калі мы пакідалі яго ў другі раз.

Дацямна мы сяк-так дабраліся да Слабодкі. Там спыніліся ў цёткі Марысі нанач.

Што было з маёю маткаю, цяжка расказаць. Яна, здаецца, менш пакутавала, калі выпраўляла на вайну бацьку. Дзякуй яму, крыху супакоіў нас цётчын мужык Адась. На сваім вяку ён бачыў не аднаго сляпога каня. І па яго расказах выходзіла, што сляпыя коні не такія ўжо і дрэнныя, як мы думалі. «У каня ж не толькі вочы, а і нюх,— тлумачыў нам дзядзька Адась.— Бывае, нюхам конь не горш бачыць, чым вачамі». Як гэта конь бачыць нюхам, я не ведаў. Конь добра чуе вушамі і нюхам, добра запамінае дарогу, гэта мне было вядома. А каб ён бачыў нюхам — не ведаю. Пра другое, левае вока дзядзька Адась нічога пэўнага сказаць не мог. Аглядаў яго пры святле газовачкі. «Калі і бачыць што, то не вельмі»,— зрабіў ён свой прысуд.

Маці ўсю ноч не спала, а мне ўсю ноч сніўся кірмаш, цыган з чорнаю барадою і сівы наш Арол.

На досвітку маці пабудзіла мяне. Мы падзякавалі сваякам за турботы і моўчкі павялі Арла дадому.

### РАЗГРОМ МАЁНТКА

У той жа дзень мы рашылі праверыць Арла ў плузе. У поле сабраліся ехаць з маткаю. Але дзед не ўцярпеў:

— Паеду і я!

Яму таксама карцела скарэй даведацца, што мы купілі. Арла аглядаў ён доўга — і зблізку і здалёку. І, відаць, каб лішні раз не палохаць нас, сказаў:

— Можа і нешто будзе. Трэба ў рабоце праверыць.

Хамут Дэрашаў быў заповелік для шчуплага Арла. Але дзед сказаў:

— За адзін раз карка не натрэ. Потым падшыем штонебудзь пад лямец.

Мы запрэглі Арла ў драбіны (аглоблі яму таксама былі задоўгія), ускінулі на воз плужок, паселі самі.

— Ці пацягне ён нас усіх? — сказала маці.— Можа, я лепш пяшком пайду.

Дзед тарғануў за лейцы.

— Калі нас не пацягне,— махнуў ён пужкаю,— то няма чаго і ў плуг яго запрагаць.

Арол, хіснуўшыся раз, другі ў бакі, зрушыў з месца.

— Но-о, каб ты здаровенек быў! — пасвістваў дзед пужкаю дзеля прыліку, выязджаючы з прыгумення.

На гладкай дарозе Арол пайшоў як належыць. Горш было, калі мы звярнулі з роўных каляін ды пачалі выязджаць на свой загон. Тут мы ехалі ўлукаткі.

На загоне перапрэглі Арла ў плуг.

«Хто ж з нас дваіх будзе араць?» — думаў я. Тое, што маці не павядзе плуга, я ведаў: яна, здаецца, ніколі яго ў руках не трымала. Застаёмся мы з дзедам. Але ж дзед яшчэ слабы пасля хваробы. Я ж бачыў, як трэсліся яго рукі, калі ён запрагаў Арла. Араць я трохі ўмеў, дзед гэта ведаў. Тым больш спраўлюся я з плугам на мяккай пясчанай зямлі. Дзед, відаць, разважаў гэтак жа, як і я, бо ахвотна перадаў плуг у мае рукі.

— Прывучайся, Петрусёк,— сказаў ён мне,— ты цяпер у нас гаспадар. Я ўжо, бачыш, стары, нядужы.

Я пусціў Арла пасярод загона. Так робяць усе аратыя: прыкідаюць пласт да пласта. Тады апошнія разоры прыпадаюць каля мяжы. Палоса наша вузкая, і я, не пытаючы нават у дзеда, ведаў, што з яе можна зрабіць толькі адзін загон.

Арол ступіў некалькі крокаў і пацягнуў управа. Разора скрывілася. Я тарғануў за лейчыну. Арол павярнуўся ўлева, разора стала раўнейшай. Але праз момант сталася тое ж самае.

— Бярыся, Параска, за повад,— закамандаваў дзед.

Маці ўзялася за аброць і павяла Арла роўна.

Мы прайшлі дзве баразны — зрабілі склад пасярэдзіне. Цяпер конь павінен быў хадзіць каля разор.

— Пускай аднаго! — сказаў дзед да маткі.— Паглядзім...

Маці выпусціла аброць з рук і адышлася ўбок. Арол пайшоў адзін. З правага боку ў яго была разора, з левага — царіна.

Вось тут Арлу і спатрэбіліся другія вочы, аб якіх казаў дзядзька Адась. Ён чуў пабач пах свежай раллі і стараўся не ступаць на яе. Не заўсёды ж ён быў сляпым! Яго конская памяць добра ведае дарогу ў плузе. Праўда, разы два ён збіваўся на разору. Але тут жа папраўляўся. Стараўся як мог. І хутка засопся, небарака.

— Пачакай,— спыніў мяне дзед.— Няхай аддыша.

Я ўжо зрабіў тры баразны. Гэта не мала для першага разу. Тым больш што загон на гэтым палетку быў не кароткі.

Дзед пагладзіў Арла па худой спіне.

— Малайчына,— пахваліў яго.— Старанны. Пайшоў, як і відучы. Адпражы, няхай трошкі паскубе на мяжы.

Я зняў з каромысла пастронкі і пусціў Арла на мяжу. На ёй паміж быльнягу расла ніштаватая траўка.

— Калі паправіць яго,— казаў дзед,— то можа і ўзаром самі без чужой ласкі.

— Узаром! — запэўніў я дзеда.

— Яно-то яшчэ не позна. Бывае, што і да пакроў сеюць. Сена да зімы ў нас хопіць. А там прывязом з балота. Балазе, цяпер будзе на чым прывезці. Возікаў два-тры набярэцца. Будзем сечку рэзаць,— разважаў дзед, падзяляючы нашу агульную думку наконт Арла.

У той жа вечар я напісаў пісьмо бацьку. Апісаў, як мы жывём, што робіцца ў сяле, каго ўжо забралі ў салдаты, а хто на чарзе. Ужо загадалі збірацца навабранцам. Ад нас пойдзе чалавек дваццаць. Цяпер яны бадай што нічога не робяць, ходзяць па вуліцы з гармонікам, ладзяць ігрышчы, чакаюць, калі паклічуць у воласць. Напісаў я і пра коней — Дэраша і Арла. «Ты, бацька, не вельмі бядуй,— пісаў я.— Дэраш быў наравісты, і мы без цябе ўсё роўна не маглі б рабіць на ім. А новы конь — рахманы, старанны. Яго нават Ядзя здолее вадзіць на пашу. Трошкі недабачыць, затое не забяруць яго ў абоз, як Дэраша...»

Назаўтра маці дала мне грошы на канверт, і я пайшоў у мястэчка на пошту.

Справіўся я там скора. Ужо ў поўдзень варочаўся назад. Дарога да нас у мястэчка праходзіць, як я ўжо казаў, каля маёнтка пана Ясінскага. Панскі дом, высокі,

цагляны, з круглымі калонамі пры ўваходзе, стаяў пры садзе ля шырокага дзядзінца. Вакол дзядзінца, паўкругам, размяшчаліся розныя гаспадарчыя будовы — скляпы, свірны, стайня. За імі ішлі абора, адрына, парабкоўскія баракі. I сад і дзядзінец былі абгароджаны высокімі шчыкетамі.

Я ніколі яшчэ не быў на гэтым дзядзінцы, хоць здалёку бачыў яго не раз. Самога пана я часцей сустракаў не каля маёнтка, а каля нашага сяла або на дарогах. Ездзіў ён не адзін, а з цэлаю хеўраю сваіх слуг і стражнікаў. Звычайна пан сядзеў у сядле на сытым, у яблыках, жарабцы. У руках у яго быў бізун з кароткімі раменнямі. На грудзях вісеў бінокль — гэта я потым даведаўся, як звалася тая падзорная труба, у якую глядзеў пан. Сам ён быў шчуплы, нейкі хваравіты, з жоўтымі, упалымі шчокамі, з рэдкімі рыжымі вусамі, як у прусака. Усе ў нас так і звалі пана прусаком. I я ўсё дзівіўся, чаму яго так баяцца людзі. Не чалавек, а прусак, ды яшчэ здохлы. Каб дзе сустрэўся адзін на адзін, я сам бы не пабаяўся схапіцца з ім загрудкі. Ён жа не Лаўрэн. Той дужы, як мядзведзь. Пра пана Прусака ў нас расказваюць цэлыя страхоцці. Дзед кажа, што нават некалі ў часы прыгону мала было такіх «паскудных» паноў. Судзіцца з Прусаком ці скардзіцца на яго валасным начальнікам — марная справа. Ён падкупіць любы суд. I дзед, і бацька гадамі судзіліся з панам за Абадок. А што высудзілі?

Яшчэ здалёк ад маёнтка я пачуў нейкі шум і крыкі. «Мусіць, Прусак парабкоў муштруе»,— падумаў я, угледаючыся на дзядзінец. А калі падышоў бліжэй, дык ясна ўбачыў: на дзядзінцы бегалі ўзад і ўперад нашы хлопцы — навабранцы. Што б гэта значыла? Учора ўвечары я чуў, як Дзям'янаў Сымон і Саўкаў Язэп гаварылі паміж сабою: «Пойдзем выкурваць Прусака!» Я прапусціў тады гэтую гаворку міма вушэй. «Жартуюць»,— думаў я. А цяпер мне ўсё стала ясна. Значыць, навабранцы і праўда напалі на маёнтак. Добра прыдумалі! Што ім хто зробіць! Бацьку ж таксама нічога не зрабілі. Дзед кажа: абы жыў астаўся, а там бог бацька. Няхай ім — гэта значыць, пану, яго слугам і суддзям — сядзе па пяць скул у горле...

Мяне як віхрам падхапіла, і я тут жа апынуўся на дзядзінцы сярод сваіх хлопцаў.

— А, падмога прыбывае! — гукнуў Сымон, убачыўшы мяне.— Давай, брат, сюды!

Сам ён бег да склепа. За ім бегла яшчэ некалькі чалавек. Я таксама далучыўся да іх. На бягу я ўбачыў, як з панскіх пакояў праз дзверы і вокны ляцелі падушкі, коўдры, крэслы... Ні пана, ні парабкоў нідзе не відаць было.

На склепе вісеў тоўсты круглы замок. Хлопцы знайшлі вялікі камень і як бач разбілі замок.

Я забыўся на ўсё. Мы выкочвалі са склепа кубельцы сала, бочкі масла. Усё гэта тут жа разбівалі і раскідалі па дзядзінцы. Я хацеў схаваць у кішэню кавалак сала.

— Не руш! — сказаў Сымон.— Мы не зладзеі...

Я кінуў сала ў гразь. І з такім жа імпэтам, як Сымон і яго сябры, пачаў таптаць панскае дабро нагамі.

— Вот яму, Прусаку, за нашы слёзы! — крычалі хлопцы.— Вот яму, гаду, за Абадок!

— А дзе пан? — запытаўся я ў Сымона.

— Збег, недавярак.

Мы растрыбушылі склеп і кінуліся да адрыны. У ёй было немалочанае збожжа.

— Палі! — крыкнуў Сымон.

Не паспеў я і агледзецца, як нехта ўжо кінуў цэлы пачак падпаленых запалак у сярэдзіну сцірты. Агонь весела пабег ад снапа да снапа, салома затрашчала.

— Вот яму, Прусаку, нашы адработкі за патравы!

Калі б пан Ясінскі трапіў цяпер у нашы рукі, мы, мусіць, і яго ўкінулі б у гэтую сцірту.

Я ўсё прыглядаўся навокал, думаў, можа тут Лаўрэн туляецца. Вось бы расквітаўся я з ім за ўсё. Хлопцы скруцілі б яму рогі.

Мы так захапіліся сваёю работаю, што не заўважылі, як на дзядзінец прымчаўся ўраднік Вярбіла са сваімі стражнікамі.

Ураднік стрэліў угору. Хлопцы разгубіліся. Адны кінуліся ўцякаць. Другія хапаліся за калы.

Але доўга не наваявалі. На дапамогу ўрадніку пазбягаліся панскія стражнікі. Відаць, яны сядзелі недзе ў кустах каля ракі.

Я падбег да шчыкет, хацеў пераскочыць за дзядзінец. Але мяне схапіў за каўнер стражнік і пацягнуў да панскага дома. Там ужо было дзесяць нашых хлопцаў.

Ураднік лаяўся на ўсю ваколіцу і хвастаў нас нагайкаю. Што я малы і зусім не падобны на навабранца, гэтага ён і не заўважыў. Нас акружылі стражнікі і пагналі ў мястэчка.

## У АСТРОЗЕ

Я сяджу ў астрозе. Ужо трэці дзень. Ніхто пакуль нас не трывожыць, апрача скочак.

Астрог — гэта вялікая стадоліна з адным акенцам пад столлю, аплеценым кратамі. Гэтае астрожнае акенца я не раз бачыў знадворку, калі праязджаў ці праходзіў каля турмы. Яна стаіць якраз пры дарозе побач з будынкам валаснога праўлення. А з самім астрогам я знаёмлюся ўпершыню. На дашчанай падлозе каля сцен тут наслана салома. Праўда, гэтая падсцілка была некалі саломаю. Цяпер гэта звычайная пацяруха. На ёй мы сядзім, спім, валяемся. Тры разы на дзень нам прыносяць яду. Яда не такая і благая: картоплі з лупінамі і прасяная або ячменная каша. Да лепшай яды мы не прывучаны. Так што ніхто пакуль на яду не скардзіцца. Шкада толькі, што мала даюць. Апалонік кашы ў абед — гэта нават мне на тры-чатыры разы глынуць. Хлопцы сумуюць без работы, жартуюць з мяне. Цяпер, кажуць, цябе пагоняць разам з намі і на вайну.

І праўда, мяне ж злавілі ў маёнтку разам з навабранцамі. А што я малы, кажуць хлопцы, гэта не апраўданне. Бываюць малыя і ў дваццаць гадоў. Вось хоць бы Саўкаў Язэп. Ён толькі камлюкаваты, а па росту мала больпы за мяне. Лявон і Мікалай таксама малыя. Мікалай дык яшчэ і з твару дробны, як хлапчук. Яго і цяпер усе завуць не Мікалаем, а Міколкам. Вышэйшы за ўсіх з хлопцаў Сымон. Ён у іх завадатар. Сымон — добры гарманіст. Нават дзядзька Піліп хваліў яго за полькі ды вальсы. У астрозе ён сумуе больш за ўсіх. Каб гармонік сюды, кажа, то яшчэ можна было б жыць.

Ды хоць бы карты ў каго былі. Ляжаць увесь час — адна пакута.

Хлопцы мала гавораць пра свой учынак. І зусім не каюцца, што так зрабілі. І не думаюць, што іх чакае суд і кара. Можа гэта таму, што большай для людзей кары як вайна няма на свеце. Ва ўсіх вёсках і сёлах ужо аплакваюць першых забітых і параненых. Прыбавілася ўдоў і сірот і ў нашым сяле. Кожная салдацкая сям'я з жахам думае пра вайну.

Пад вечар трэцяга дня дзяжурны стражнік адчыніў дзверы астрога і паклікаў:

— Пятрусь Валовіч!
— Ёсць такі нававбранец,— адказаў за мяне Сымон.
Стражнік здзіўлена ўтаропіўся ў Сымона.
— Гэта ты?
Сымон і ўсе хлопцы зарагаталі.
— Маці ж сказала, што ты — хлапчук... Значыць, яна падманула старшыню!
Пачуўшы слова «маці», я выйшаў наперад.
— Дзе мая маці?
Стражнік збянтэжыўся.
— Дык хто з вас Пятрусь Валовіч?
— Гэта я.
— Цьфу ты! Я ўжо думаў, маці твая і праўда зманіла. А ты жартуеш, глядзі, дажартуешся! — пагразіў стражнік Сымону і загадаў мне: — Ідзі за мною!
Мне не хацелася пакідаць хлопцаў. Сярод іх я адчуваў сябе як дарослы. Яны хоць і жартавалі з мяне, але і хвалілі. «Наш Пятрок,— казалі,— распраўляўся з Прусаковым дабром, як леў. Шкада, што ты, Сымон, не даў яму кавалка сала прыхаваць. Цяпер бы як знайшлі...»
Стражнік прывёў мяне да валаснога старшыні Дубавіцкага. І там я ўбачыў сваю матку.
— Сынок! — кінулася яна да мяне, расплакаўшыся ўголас.
— Супакойся, супакойся, кабеціна,— бурчаў старшыня.— Нідзе не дзеўся твой сынок. Не бяда, калі і пасядзеў трохі. Няхай прывыкае...
Старшыня распытаўся ў мяне, як я трапіў у маёнтак разам з нававбранцамі. Я расказаў, як было: ішоў з мястэчка, убачыў на панскім дзядзінцы сваіх хлопцаў і падышоў да іх. Пра тое, што я бушаваў разам з імі, я, вядома, змаўчаў. Але хітры старшыня напомніў мне:
— А што ты рабіў у маёнтку?
«Цікава,— падумаў я,— ведае ён ці не, што я рабіў?» Я рашыў не казаць.
— Нічога не рабіў,— кажу.— Стаяў каля плота і глядзеў.
— Толькі?
— Але.
— А чаму ж цябе ў астрог прыгналі?
— Не ведаю...
Старшыня, мусіць, паверыў мне, бо не крычаў на мяне, а толькі пажурыў:

— Глядзі ў мяне. Цікаўны які! Няма чаго вочы лупіць на панскі маёнтак. Другі раз абыходзь.

— Добра, дзядзечка,— сказаў я.— Другі раз я і не гляну на яго.

Старшыня ўзяў са стала завостранае гусінае пяро, пакалупаў зубы і, сплёўваючы, сказаў:

— А каб маці помніла гэта і секла цябе часцей розгамі ці скарачом, яна будзе мець штраф... Можаце сабе ісці.

Маці кінулася да старшыні, хацела пацалаваць яго руку. Старшыня не даў рукі.

— Ідзі, ідзі.

— Век цябе, дзядзюхна, не забуду,— гаварыла маці, выходзячы з пакоя.

Старшыня заўхмыляўся жоўтымі губамі:

— Вот як улепяць табе штраф, то не забудзеш!

Маці не думала, што будзе далей. Слова «штраф» нічога не гаварыла яе сэрцу. Ёй важна было, што яна бачыць мяне жывога і здаровага.

## АДНА БЯДА НЕ ІДЗЕ...

Надыходзіла зіма. А з ёю новая бяда. Ды не адна. Цяпер я ўсё часцей успамінаў дзедаву прыказку пра бяду. Дзед крыху акрыяў. Яму цяжэй было перажыць гнілую восень. Зараз ён і кашляў радзей і менш скардзіўся на млявасць.

Дзед ужо агледзеў сані. Зрабіў да аглабель новыя закруткі. Паправіў развалкі. Скора ж сена вазіць. Пра сена ў нас цяпер толькі і гаворка. Хто будзе дзяліць? Сам пан звычайна гэтага не рабіў. Былі гады, што нават і аканом Крывульскі ленаваўся прыязджаць зімою на сенажаці, асабліва ў дрэннае надвор'е. Тады яго замяняў хто-небудзь з больш дробных панскіх слуг. У такія гады нам шанцавала — з дробным слугою не цяжка было паладзіць і падзяліць не на чацвёртую частку, а на трэцюю.

Ды была і тут свая бяда. Дзе дастаць гарэлкі? У пачатку вайны манапалькі [1] пазачынялі. Гэта непакоіла дзеда. «А раптам,— казаў ён,— прыедзе на балота які-небудзь панскі п'янчужка. Без гарэлкі ж яго, чорта, не ўга-

[1] Манаполька — крама, дзе прадавалася гарэлка.

ворыш падзяліць па-людску. Яму трэба заліць вочы, каб лішне не прыглядаўся».

Тым часам, пакуль дзед ламаў галаву, дзе дастаць гарэлкі, па сяле папаўзла трывожная чутка — быццам пан і не збіраецца дзяліць сена. Прывёз гэтую чутку з воласці сам стараста. А яму сказаў пісар Скварцоўскі, які ўсё знае і ведае, што робіцца ў воласці.

Гэта была жахлівая навіна. Але на некаторы час яе прыглушыла новая бяда: навабранцаў нашых судзілі. І тых, хто папаўся ў рукі стражнікам, і тых, хто ўцёк. Сымона прызналі галоўным завадатарам разгрому маёнтка і прысудзілі да расстрэлу. Іншым далі ад пяці да сямі гадоў астрога. Адседзець у астрозе яны мусяць пасля вайны, так, як і мой бацька. Найбольш, вядома, мы шкадавалі Сымона. А бацькі дык плачуць несціхана.

Бяды ў нас і без таго хапала. Некалькі чалавек з нашага сяла ляжыць у шпіталях — хворыя і раненыя. Са шпіталя прыслаў нядаўна пісьмо і Марылін Піліп. Я чытаў яго пісьмо. Ён ранены ў грудзі. Куля прайшла праз лёгкія. Марыля цяпер ходзіць як непрытомная. Дзед супакойвае яе.

— Лёгкія — гэта не сэрца,— кажа.— Паправіцца. У турэцкую вайну мы, бывала, зайздросцілі такім ранам.

Ды дзе ты супакоіш цётку Марылю!

Ад бацькі прыйшло ўжо тры пісьмы. І кожнае пісьмо, пакуль я разгарну ды прачытаю яго, перакалоціць матку. Бацька суцяшае нас, піша, што яму добра. Да куляў і снарадаў прывык. Добрая прывычка! Хлеб і кашу падвозяць на перадавую пазіцыю, сяды-тады. «А хлеб і каша — уся страва наша»,— жартуе бацька ў пісьме. Смерці ён ужо не баіцца, бо наглядзеўся на яе нямала. Шмат разоў даводзілася яму вылазіць з акопаў ды кідацца на немцаў са штыком. «Ніколі раней не думаў,— пісаў бацька,— што змагу забіць чалавека. А вайна навучыла гэтаму. Наш салдацкі поп кажа, што забіць немца ці аўстрыйца не грэх. Немцы і аўстрыйцы не вераць у нашага бога. А калі так, то наш бог не заступаецца за іх. Наш бог абараняе толькі сваіх».

Некалькі разоў за гэты час стараста збіраў сходы. На сходах гаварылі пра наша жыццё і пра вайну. Часамі стараста прывозіў з воласці газету «Минский курьер». Добрых грамацеяў у сяле не засталося, і стараста чытаў газету сам. У яго вельмі дрэнна выходзіла. Пакуль прачы-

тае новае слова, дык старое забудзеш. Мужчыны з нашага канца параілі старасту даць газету мне. Стараста не згадзіўся.

— Абыдземся і без дзяцей!

Ён наогул не цярпеў нас на сходах. Мы зашываліся дзе-небудзь у заднія рады, каб не трапляць яму на вочы.

Калі паслухаць, што пісалася ў газеце пра вайну, дык можна было толькі радавацца. Выходзіла, што рускія ўсюды б'юць немцаў. Тыя баяцца нават носа высунуць з акопаў. Колькі іх перабілі ды пераранілі за першыя месяцы вайны!

— Калі так пойдзе, то скора вайне канец,— радаваўся стараста.— Вільгельм [1] лопне. Мы пакажам яму вайну!

Весялейшымі пасля такіх чытак разыходзіліся людзі па хатах. Можа і праўда вайна скора кончыцца. Ваююць нашы салдаты недзе далёка, каля Прусіі ды ў Карпатах. Сюды, да нас, вайне не дайсці. Патузаюцца там, пераб'юць з палавіну немцаў ды заміраццa. Дрэнна толькі, што прыходзяць у сяло трывожныя звесткі і пра нашых забітых і раненых...

І вось у адзін з такіх дзён дайшла да нас, як я казаў, чутка пра сена.

Дзед і іншыя мужчыны адразу ж кінуліся да старасты. Стараста пацвердзіў чутку.

— Не можа гэтага быць! — дзівіліся мужчыны.— Пан не мае права забіраць нашу частку!

Стараста сказаў:

— Пан вам заплаціць за работу.

— Як гэта заплаціць? Нам сена трэба, а не плата. За плату мы не гадзіліся.

— Ну,— пацінуў стараста плячыма.— Я ў гэта не ўмешваюся.

— Ты ж стараста! Павінен памагчы людзям.

Стараста патрос залатою завушніцаю.

— Я не збіраюся праз вас сварыцца з панам. Ідзіце да яго самі і гаварыце.

— А што ж! І пойдзем! Не мае права так рабіць!

Мужчыны вырашылі зараз жа ісці да пана.

— Толькі помніце,— сказаў стараста,— гаварыць з панам гаварыце, а самавольства ніякага каб не было. Бо будзе, як навабранцам...

---

[1] Вільгельм II — нямецкі кайзер *(цар)*.

— Няхай яго сарочка не чапае,— скляў пана дзед.— На ліха ён нам!

Мужчыны рушылі ў маёнтак. Хацеў ісці і дзед, ды не спадзяваўся на свае ногі.

Вярнуўшыся з маёнтка, мужчыны расказалі, што пан нават і не выйшаў да іх. Гаварыў з імі аканом Крывульскі.

— Пан,— сказаў ён,— сена з прыпушчанскіх сенажацяў перадае ваеннаму інтэндантцтву цэлымі стагамі...

— І нашу часць? — запыталіся мужчыны.

— І вашу...

— Як жа так? Хіба ж ёсць такі закон?

— Пан супроць закону не ідзе,— сказаў аканом.— Ён заплаціць вам за работу.

— Нам сена патрэбна! Чым жа нам жывёлу карміць?

— Вы самі вінаваты! — павысіў голас аканом.

— У чым наша віна?

— Вашы навабранцы ўчынілі разгром маёнтка. Вялікі ўрон зрабілі. Пану цяпер патрэбны грошы, каб паставіць гаспадарку на ногі.

— Каб мы так згалелі, як пан, то лепшага не хацелі б! — зашумелі мужчыны.— Няхай пан прадасць сваё сена, і яму хопіць аж цераз горла.

— Вы што — бунтаваць уздумалі? — сярдзіта закрычаў аканом на мужчын.— Дык вам дадуць месца там, дзе і вашым разбойным сынкам! Вы касілі — гэта праўда. Дык пан вам заплаціць!

— Па якой цане?

— Па той, якую плацілі ў касьбу.

— Ого! Цяпер не тыя грошы.

— Ну, як хочаце. Можаце скардзіцца на пана. Больш я вам нічога сказаць не магу.

Аканом павярнуўся і пайшоў да панскага дома. Мужчыны з трывожным шумам правялі яго да самага ганка. Пастаялі там, пагаманілі і пайшлі дахаты.

## Я ПІШУ ПРАШЭННЕ

Цяпер у нас толькі і гаварылі пра сена. Ды і не дзіва. Свайго сена мала ў каго хапала. Хіба толькі ў тых, хто трымаў адну карову: былі і такія гаспадаркі — без коней і без авечак.

Купіць сена за тыя грошы, што пан заплаціць за работу, ніхто не спадзяваўся. Сена ўсю восень закуплялі для арміі. Армейскія закупшчыкі даюць за пуд балотнай асакі такую цану, што раней за гэтыя грошы можна было пуд аўса купіць. Так што пан Ясінскі не так сабе надумаўся разлічыцца з намі не сенам, а грашыма.

Дзед таксама ламаў галаву: што рабіць? Спадзявацца на панскае сумленне? Але ж пан і раней не спачуваў бедным мужыкам. А цяпер, калі ў яго пабывалі нашы навабранцы, ён і зусім глядзіць на нас воўкам. Адны казалі — трэба ўсё ж да валаснога старшыні або да земскага начальніка ісці. Другія — на суд падаваць. «Суд — ён справядлівы»,— даводзілі яны сваім слухачам. «Суд то можа і справядлівы,— пярэчылі іншыя,— а суддзя?» — «Але ж апроч суддзі засядаюць і прысяжныя. Усіх пан не падкупіць». Дзед не верыў ні валасным начальнікам, ні суду і яго прысяжнымі. «Хто там у прысяжных? — пытаўся ён і тут жа сабе адказваў: — Багатыры такія ж, як Дубавіцкі. Клопат ім, калі ў якога бедняка з Галынаўкі здохне ад бяскорміцы конь ці карова! У іх не здохне...»

— Што ж тады рабіць? — пыталіся мужчыны ў дзеда.

— Трэба падаваць прашэнне самому губернатару.

— Пакуль тое прашэнне дойдзе да губернатара, то і стагоў не будзе.

— Значыць, не трэба доўга валаводзіцца, а везці прашэнне ў Мінск самім,— развіваў дзед сваю думку.— Кажуць, цяперашні губернатар лепшы. Калі ён прызнае наша права на сена, то Прусак, нябось, падагне хвост.

— А як гэта ён можа не прызнаць? — узнімалі галовы мужчыны.— Сам жа Прусак ведае, што сена мы рабілі на часць, а не за плату. Хіба ж няма праўды на свеце?

На трэці дзень гамонкі перамагла дзедава парада. Пад увагу ўзялі і тое, што суд можа зацягнуцца. А пан драмаць не будзе: знойдзе купца і прадасць стагі.

Каго ж прасіць пісаць прашэнне? Выбару вялікага ў нас не было: валасны пісар Скварцоўскі або настаўнік з суседняга сяла Падгайскі. Новага настаўніка ў нашу школу так і не прыслалі. Кажуць, многа настаўнікаў забралі на вайну і цяпер іх не хапае на ўсе школы. Чалавек з дзесяць з нашай Галынаўкі ходзяць вучыцца да Падгайскага. Гэта не так і далёка. Маці хацела, каб і я хадзіў. Але Падгайскі не прыняў мяне. Сказаў, вольных месцаў у чацвёртым аддзяленні няма...

Дзед, аднак, не паверыў яму.

— Каб ён так жыў,— казаў дзед.— Ён жа пану рукі ліжа, а пану — боты. Дзе ён прыме сына таго, хто пабіў панскага слугу Лаўрэна.

Мусіць такі, была дзедава праўда.

Не ляжала, як кажуць, у нас душа ні да пісара, ні да настаўніка Падгайскага.

— Напіша каторы, а потым пабяжыць перакажа пану,— чухалі патыліцы мужчыны.— Пан ім мілей, чым мы.

Уводзіць жа пану ў вушы, што мы едзем да самога губернатара, не хацелася. Пан хітры. Не паспееш да Мінска даехаць, як ён ужо будзе там махляваць з губернатаравымі памочнікамі. А тыя потым цябе і на парог не пусцяць.

Быў на прымеце яшчэ адзін пісар — адвакат Кручок. Ды ён — горкі п'яніца, накрэмзае з пахмелу такое, што ніхто не разбярэ.

Тады нехта назваў маё імя. Гэта было падобна на тапельца, які хапаецца за саломінку. Аднак калі мужчыны крыху паразважалі, то згадзіліся, што я не такі ўжо блазан. Я напісаў ужо кучы пісем салдатам.

— Як думаеш, дзядзька Язэп? — запыталіся мужчыны ў дзеда.

Дзеду цяжка было адказаць што пэўнае. Сам ён прашэнняў ніколі не пісаў. Ён, як і бацька, робіць памылку на памылцы. Ды і літары ў яго няроўныя, нязграбныя. Перавага ў мяне перад дзедам відавочная. Але ці хопіць розуму скласці такое важнае прашэнне?

І дзед адказаў ні тое ні сёе:

— Можна паспрабаваць. Справа наша простая. Мудрагеліць тут няма чаго.

— Сам паможаш! — падказалі мужчыны.

Пасля гэтага мне нічога не заставалася, як прыступіць да работы. Пісарская снасць у мяне была наладжана. Чарніла я рабіў сам з хімічнага каранадша. Запас паперы, у адну лінейку, у мяне таксама меўся.

— Мажа я спачатку напішу сам,— сказаў я дзеду,— а потым будзем папраўляць разам?

Дзед кіўнуў галавою: значыць, добра, згода. Каб не перашкаджаць мне, ён адышоўся да другога акна і ўзяўся падшываць суконкаю новыя лапці.

Аднаму пісаць было лягчэй — гэта я ўжо спрактыкаваўся на пісьмах. Я распытваўся, што хацела напісаць

салдатка свайму мужыку. Яна расказвала, а я запамінаў. Потым усё звязваў у гладкія радкі пісьма. Калі салдатка ўспамінала яшчэ што-небудзь, то гэта дапісвалася ўжо ў канцы: «І яшчэ хачу напісаць табе, дарагі муж...»

Справа аб сене сапраўды была простая. Для прашэння тут хапіла б некалькі радкоў. Але што ж гэта будзе за прашэнне, ды яшчэ самому губернатару! Пра губернатара ў нас гаварылі бадай такім жа голасам, як і пра цара. Ён той жа цар, толькі царства яго — адна губерня, а не ўся Расія. Трэба, каб губернатар зразумеў нашу бяду і памог нам. Іначай загіне наша жывёла. Мне здавалася, што цяпер усё залежыць ад мяне — напішу я добрае прашэнне, і справа будзе выйграна.

Ці трэба пасля гэтага казаць, як перажываў я сам, беручыся за пяро.

Як жа велічаць губернатара? Не напішаш жа: «Губернатару Мінскай губерні». Ён жа, як і ўсе начальнікі, мае свой тытул: благароддзе, высокаблагароддзе, праваходзіцельства і іншыя. Тытулы гэтыя я не раз чуў, а каторы з іх прыстане да губернатара — ліха яго ведае.

Дзед сядзеў да мяне спінаю, і мне не хацелася з першых жа слоў клікаць яго на дапамогу. Я выбраў з вядомых мне тытулаў «высокаблагароддзе». Потым, пры перапісцы з чарнавіка, думаў, падстаўлю другі, калі гэты няправільны.

Вось што выйшла з-пад майго пяра праз гадзіны дзве:

*«Яго (высокаблагароддзю) губернатару Мінскай губерні*

*Ад сялян Мінскай губерні Ігуменскага павета сяла Галынаўкі Язэпа Валовіча, Ігната Леўшука, Адама Махнача, Андрэя Дуброўскага, а ўсяго — трыццаці чалавек*

Прашэнне

Сяло наша беднае. Зямлі ворнай у сялян мала. Мала і сенажацяў. А якія ёсць, дык і тыя лядашчыя: на іх расце адзін мох ды лаза. Пашы ў нас зусім няма. Селавы выган голы як бубен. Некалі нашы дзяды і прадзеды пасвілі ў лесе і на лузе, які ў нас называецца Абадком. А як прыйшла царская воля, то пан перастаў пускаць нас у лес і на

Абадок. Сяло доўга судзілася з панам. Але ўсе суды панаву руку трымаюць.

Каб пракарміць сваю жывёлу, мы кожны год косім панскія сенажаці на часць — чацвёртую або нават і пятую. Сёлета мы таксама рабілі сена на часць. Улетку не вывезлі яго, бо было гразкае балота. Дык мы паставілі стагі. Цяпер ідзе зіма. Скора наладзіцца санная дарога, можна будзе дзяліць стагі і вывозіць сена. Але пан Вільгельм Ясінскі збіраецца прадаць стагі разам з нашай часткай вайсковым нарыхтоўшчыкам. Нам жа ён думае заплаціць за работу грашыма. І плаціць збіраецца не па цяперашніх цэнах, а па тых, якія былі ўлетку, калі касілі сена. Гэта значыць, мы будзем мець плату, за якую цяпер не купіш і дзесятай долі нашай законнай часткі сена.

Што ж нам рабіць? Чым карміць жывёлу? Гаспадаркі нашы і так бедныя. А цяпер давядзецца распрадаць жывёлу ды ісці жабраваць з жонкамі і з малымі дзецьмі.

Мы слёзна просім вас, ваша (высокаблагароддзе) заступіцца за нас, бедных сялян. Загадайце пану Ясінскаму, каб ён не рабіў такой згубы і аддаў нам нашу частку сена. З нецярплівасцю чакаем вашай міласці».

Я пачаў чытаць прашэнне дзеду. Дзед заслухаўся так, што нават лапаць адсунуў убок. Толькі часцей цяпер кусаў ніжнюю губу. Гэта, як мне ўжо было вядома, дзед рабіў, калі надта хваляваўся.

— Добра,— сказаў ён.— Проста ўсё і ясна. Пісар тут напусціў бы такога туману, што і сам губернатар не разабраў бы. Я іх ведаю, гэтых пісароў. Іншы намудрагеліць, каб паказаць, што ён вунь які вучоны. А што і да чаго — ліха яго ведае.

Я спытаўся ў дзеда, як правільна велічаць губернатара.

Дзед пакруціў галавою:

— Мусіць, не высокаблагароддзе, як ты напісаў. Гэтак мы некалі велічалі маёра. А губернатар — гэта ўсё роўна што генерал — «ваша высокаправасхадзіцельства». Так і напішы. Тут мы не памылімся.

— А каго велічаюць «ваша вялічаства»? — пацікавіўся я.

— А так, мусіць, толькі самога цара велічаюць.

Падумаўшы крыху, дзед сказаў:

— Трэба яшчэ напісаць у прашэнні, што нам з панам

сервітут не разведзены. Некалі мы па гэтаму праву пасвілі жывёлу і ў лесе і на Абадку.

Я напомніў дзеду:

— У прашэнні так і напісана, што раней так было, а цяпер пан не пускае нас ні ў лес, ні на Абадок.

— Напісаў ты добра,— сказаў дзед,— але трэба яшчэ дадаць гэтыя словы пра сервітут. Прачытай, дзе там пра Абадок напісана.

Я пачаў чытаць.

— Дык вот,— спыніў мяне дзед,— пасля слова «Абадком» дапішы: «Гэта было наша сервітутнае права. Яго ніхто законам не адмяняў. Так што нам з панам сервітут не разведзены і па сённяшні дзень».

Я напісаў так, як сказаў дзед, хоць слоў «сервітут», «сервітутнае права» і не разумеў. А і праўда, думаў я, што гэта такое — сервітут? Я чуў яго і раней, калі гаворка заходзіла пра пашу. «Нам сервітут не разведзены!» — навышаў голас дзед, і ўсе з ім згаджаліся. Не згаджаўся, як відаць, адзін толькі пан Ясінскі ды яго службакі — аканом, Лаўрэн і іншыя. Раней мяне не надта цікавіла гэтае слова, і я спакойна жыў на свеце. Цяпер жа іншая рэч: мне прыйшлося ўставіць яго ў прашэнне да губернатара. А я ніколі яшчэ не пісаў слоў, якіх не ведаў.

Я запытаўся ў дзеда, што такое сервітут. Дзед пачаў тлумачыць. Аднак ці то ён і сам дрэнна ведаў гэтае слова, ці я не мог скеміць яго значэння, сервітут так і застаўся для мяне загадкаю. З дзедавага тлумачэння выходзіла, што сама пушча і Абадок — уласнасць пана. Дзед прызнаваў такое права за панам. Касіць сена ў Абадку, рэзаць дровы ў пушчы, ды не толькі дровы — драць лыкі, збіраць грыбы і ягады мы не мелі права. А пасвіць жывёлу і ў пушчы і на Абадку нам па старых законах не забаронена. Забараняе нам гэта рабіць не закон, а пан. Вось тут і разбярыся ў такіх законах. Недарэмна ж кажуць: «Закон, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла...»

## ВЫБАРЫ ПАСЛАНЦАЎ ДА ГУБЕРНАТАРА

Я пачаў перапісваць прашэнне на чыставік, а дзед пайшоў клікаць людзей.

Цяпер усе важныя зборы і сходы ў нас праводзіліся ў школе. Яна ж усё роўна пустуе.

Калі я прыйшоў у школу з перапісаным прашэннем, там было ўжо чалавек з дзесяць з нашага канца сяла. Мужчыны курылі махорку, паціху гаманілі. Адны сядзелі за партамі, другія стаялі каля акон.

Я прывітаўся, палажыў на стол прашэнне і паставіў побач з ім чарніліцу з ручкаю, а сам падышоў да круглай чорнай печы, што стаяла пасярод пакоя пры ўнутранай сцяне.

— Ну як? — запыталіся ў мяне мужчыны.— Напісаў?

— Напісаў,— адказаў я нясмела.

— Добра напісаў?

— Не ведаю...

Я памацаў рукою печ, як часта рабіў гэта раней. Халодная стаіць наша галандка — так называлі мы сваю печ. Холадна і ў школе.

Сум агарнуў мяне. Праз цэлых тры зімы грэла мяне гэтая мілая майму сэрцу круглая галандка. А колькі шуму і гоману было тут на перапынках! Мы гайсалі па партах як апантаныя. На гладкай дашчанай падлозе наладжвалі кучкі-невялічкі: «Гэй, кучка-невялічка, яшчэ аднаго чалавечка!» І хапалі каго папала, каб папоўніць кучку. А колькі лап зарабілі тут мае дураслівыя сябры! Колькі гадзін выстаялі на каленках!

Неўзабаве ў школу прыйшоў дзед і з ім цэлая грамада мужчын.

— Ну што, мерзнеце? — загаварыў дзед да тых, хто ўжо чакаў сходу.

— Але,— адказалі яму мужчыны.— Не здагадаліся прынесці дроў ды нагрэць трохі гэтую стадоліну.

— Ну, яе і нагрэць не лёгка,— сказаў дзед.— Гэта табе не простая хата.

Школьная стадола і праўда нераўня была звычайнай хаце. У тры рады тут стаялі парты: для кожнага аддзялення свой рад. Чацвёртага рада ў нас пакуль што не было. Спераду стаяла чорная дошка, стол для настаўніка, шафа і печ. Рабіць з гэтай стадолы пакоі для асобных аддзяленняў не было патрэбы, бо ўсіх нас вучыў адзін настаўнік. Звычайна два аддзяленні займаліся самі — вучылі тое, што задаваў настаўнік. У гэты час Павел Данілавіч вёў урок у трэцім аддзяленні: выклікаў да дошкі, слухаў адказы, тлумачыў новыя заданні. Потым ён пераходзіў да суседняга аддзялення. Мы прывучалі сябе да таго, каб не слухаць і не чуць сваіх суседзяў. Ды не лёгка

давалася нам такая прывычка. Як жа не падкажа другагоднік першагодніку, калі іх разлучае толькі вузенькі праход паміж радамі партаў? Так і цягне за язык, калі чуеш, як бязбожна хлусіць твой малодшы сусед, адказваючы настаўніку, што калі да сямі дадаць пяць, будзе адзінаццаць, а не дванаццаць. Трэба мець каменнае сэрца, каб не паспачуваць небараку і не дапамагчы яму ў бядзе. А сам настаўнік тым часам так і цікуе за ахвотнікамі падказваць. Зловіць — і лапа гатова. Лапы мы баяліся горш, чым каленак. З лапай не змахлюеш. Тыя, хто часта зарабляў каленкі, абкручвалі калені анучамі або падшывалі на штанах мяккія падушачкі. Тады стой на каленках хоць два ці тры ўрокі — і нішто. Рабі толькі жаласлівыя вочы, калі настаўнік зірне на цябе, каб не здагадаўся аб тваіх хітрыках.

Невясёлыя мае ўспаміны перапыніў дзед:

— Давайце, хлопчыкі, пачынаць. А то тут і праўда замерзнеш!

Але каму ж пачынаць сход? Старасты з намі не было. Яго наша справа зусім не цікавіць. Сена ў пана ён не касіў.

— Ідзі, Паўлюк, да стала! — прапанаваў свайму суседу дзядзька Якаў, барадаты мужык у рыжай кучме.

— Чаму мне? — адказаў Паўлюк.— Ёсць старэйшыя. Няхай дзядзька Язэп пачынае.

— А і праўда,— згадзіліся другія.— Займай, Язэп, настаўніцкае месца.

Мужчыны засмяяліся, а дзед сказаў жартам:

— А што — магу. Толькі лапы не хапае...

— Нічога, можна і папругаю адсцябаць непаслушнага.

— Хіба што...

Дзед падышоў да стала.

— Я думаю,— сказаў ён ужо сур'ёзным тонам,— спярша паслухаем прашэнне. А потым будзе відаць, што рабіць далей.

— Давай прашэнне!

— Хадзі сюды, Пятрусь! — паклікаў мяне дзед.— Во хто ў нас сёння будзе за настаўніка.

Мужчыны загаманілі зноў — адны жартавалі, а другія быццам і сур'ёзна меркавалі:

— А чаго? Малаваты, праўда. Дзеці слухаць не будуць.

— А лапа навошта?

— Дык за чым астаноўка? Давайце выберам яго за настаўніка!

Я нясмела сеў за настаўніцкі стол, разгарнуў прашэнне і, калі жартоўная гамонка наконт майго настаўніцтва сціхла, пачаў чытаць.

Дзед адышоўся ад стала і прысеў на першай парце.

Чытаць мне было не лёгка. Ведама, перад цэлаю грамадою. Я і кашляў, і круціўся, і захліпаўся...

— Мацней чытай! — прасілі з задніх лавак.

Я павышаў голас, але тут жа зноў зрываўся.

Нарэшце сяк-так прачытаў. Настала хвіліна маўчання. «Мусіць, не спадабалася дзядзькам маё прашэнне»,— падумаў я, апусціўшы вочы ў падлогу. Мне аж горача стала ад такой думкі. Але вось чую неўзабаве:

— Добра, далібог!

Гэта гаварыў Паўлюк.

— Але,— згаджаўся з ім Якаў.— Усё як мае быць апісаў!

— Давай падпісвацца, хто можа,— пачуліся галасы.— Лепшага прашэння нам і пісар не напіша.

Дзед маўчаў, папыхваючы люлькаю. Але відаць было, што ён рады чуць такія словы. Ён першы падняўся з-за лаўкі, падышоў да стала і распісаўся крывымі каракулямі ў канцы прашэння. За ім паставілі свае подпісы яшчэ пяць чалавек. Астатнія былі зусім непісьменныя.

— Стаўце крыжыкі,— сказаў дзед непісьменным.— А ты, Петрусёк, запішы каля крыжыкаў прозвішчы, каб відаць было, чый крыжык.

Мы так і зрабілі. А калі скончылі з гэтаю справаю, пачалі гадаць, каму везці прашэнне ў Мінск да губернатара. Доўга меркавалі і так і гэтак, нарэшце ўсе згадзіліся, каб ехаў дзед. Праўда, дзед стары, хворы, а дарога не блізкая. Ды хто лепш раскажа там губернатару пра нашу бяду? Дзед жа і раней вунь колькі гадоў хадзіў ды ездзіў ад сяла на розныя суды і перасуды.

Дзед спачатку аднекваўся. Але відаць было, што адказ яго не цвёрды, што ён і сам баіцца даручыць такую важную справу каму з маладзейшых. А можа проста ачнулася ў ім старая прывычка былога хадатая па селавых справах.

— Хіба каб з кім удвух,— сказаў ён нарэшце.— Памочнік мне патрэбен.

Ахвотнікаў ехаць з дзедам набралася многа. Выбар

паў на Паўлюка: ён яшчэ не стары, здаровы. Ды Паўлюк развашыў так:

— Што я за памочнік дзядзьку Язэпу? Калі прыйдзецца што сказаць, то ён сам скажа. А калі напісаць ці прачытаць? То я хіба што толькі распісацца сяк-так змодаю, а дзядзька Язэп таксама грамацей невялікі.

— Ды і не бачу я цяпер дробных букваў,— махнуў дзед рукою.— Не тыя вочы...

— То няхай унук едзе з табою,— сказаў дзядзька Якаў.— Ён і прашэнне вунь якое напісаў!

— І праўда,— загаманілі іншыя.— Ён у нас цяпер першы ў сяле грамацей.

На гэты раз дзед доўга не думаў.

— Калі так,— сказаў ён,— то мы паедзем і на сваім кані. Конь, вядома, не рысак, ды ўлегцы давязе памаленьку.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Зіма яшчэ не лягла. Сяды-тады выпадаў снег, але трымаўся нядоўга. Дзед казаў, мяркуючы па сваіх прыкметах:

— З тыдзень яшчэ восень пастаіць.

З гэтага ён зрабіў вывад, што смела можна ехаць на калёсах.

Мы пачалі ладзіць павозку. Праверылі, ці добра трымаюцца лёсткі ў білах, падцягнулі атосы, паправілі палукашак, густа падмазалі дзёгцем колы. Цэлы вечар пры лучыне дзед правіў хамут і паўшоры, падшываў новы лямец да падсядзёлка. Ведама, едзем жа мы не ў мястэчка, а ў губернскі горад, і не на адзін дзень! Дзед быў руплівы і акуратны. Ён нават не забыўся ўзяць з сабою добры кавалак дратвы і шавецкую іголку. Мала што ў дарозе здарыцца.

Цяжэй было з харчамі — і каню і сабе. Але памаглі супольшчыкі: па жмені, па дзве сабралі цэлы мяшок аўса. Прыхавалася ў нас у гумне крыху канюшыны. Напакавалі мы ёю стары сяннік. У палукашак туга натапталі сена. Так што Арлу на дзён тры, а то і чатыры хопіць. Для сябе ўзялі бохан хлеба і торбу агуркоў. Маці забедавала, што нічога не можа даць са скаромніны, бо сала сваё мы даўно з'елі, а карова запусцілася. Дома цяпер варылі бульбу і капусту з грыбамі-апенькамі. У дарогу та-

кога харчу не возьмеш. Дзе там зварыш тую бульбу? Аднак маці ўспомніла пра Гарасіма.

— Заедзеце да яго ды наварыце...

— Відаць, давядзецца праведаць Гарасіма,— згадзіўся дзед.

Маці знайшла торбу і ўсыпала ў яе з гарнец бульбы.

Гарасім — родны брат нашага суседа Міхаіла. Яшчэ замалада падаўся ён у горад, знайшоў там работу. Гады тры таму ён прыязджаў у госці да брата, і я яго добра ведаю. Я тады першы раз убачыў рабочага. Гарасім быў апрануты, як местачковец: у новых ботах з добрага тавару, у цёмным суконным касцюме, з невялічкім круглым гадзіннікам у бакавой кішэньцы. Усе — і старыя і малыя — разглядалі яго гадзіннік як дзіва. У нашым сяле гадзіннікі меліся толькі ў школе ды ў старасты. Але не такія, а насценныя. Звалі іх «ходзікамі». Сам Гарасім быў невысокі, худы, з нейкім хваравітым тварам. У горадзе ён жыў ужо даўно. Там у яго была сям'я — жонка і дзеці.

Выехалі мы з дому яшчэ нацямку. Дзед меркаваў большую частку дарогі зрабіць за першы дзень. Начаваць мы меліся ўжо траха пад самым Мінскам — у карчме. А там да горада, як кажуць, рукою падаць.

Апрануліся мы цёпла. Дзед надзеў свой доўгі да пят кажух, абуў новыя лапці, падшытыя жоўтымі цялячымі апойкамі, на галаву надзеў цёплую кучму, а ў воз укінуў яшчэ і башлык — укручваць галаву ад ветру. Мне таксама сабралі ўсё цёплае. Кажуха ў мяне не было. Але мне добра падышла матчына куртка на ваце. А на яе ўзлезла мая шэрая світка, пашытая навырост. Шапку-кучомку я надзеў бацькаву. Яна мне заповеліка, ды мы яе трохі сцягнулі ўсярэдзіне. Замест башлыка і шаліка маці дала мне сваю цёмную хустку-тарнатоўку. Лапці ў мяне былі таксама новыя, але падшытыя не скуратамі, а суконкамі. Маці бедавала, што ў такіх лапцях можна прамачыць ногі, калі адсырэе надвор'е. Але дзед сказаў, што ў горадзе гразі няма, там усюды брук і драўляныя або каменныя тратуары. Так што баяцца намачыць ногі няма чаго. А калі трохі і намокнуць, то не бяда: я ж не стары, кашляць з-за ўсякага глупства не буду.

Селі мы з дзедам побач у палукашку на мяккім сене. Арол хутка ўзяў нюхам дарогу і, весела пырхаючы, пайшоў роўна. Дзед добра пакарміў яго перад ад'ездам, даў нават два гарцы аўса. Арол выкругліўся і заметна паду-

жэў. У апошні час ён найбольш стаяў у хляве. Травы ўжо няма. Пацягаецца на пустым выгане і сам ідзе дадому. Хоць і сляпы, а двор свой знаходзіць.

Сена ў нас хаця б да каляд хапіла. А што будзе, калі пан і праўда прадасць стагі?

Гэтая трывожная думка не выходзіць у мяне з галавы. Я думаю пра сена і пра нягоднага пана. Няўжо яму мала свайго дабра? Праўда, нававбранцы трохі патрэслі яго свірны, спалілі гумно. Але ў маёнтку засталося яшчэ гэтулькі ўсяго, што і сто паноў не пераядуць. Значыць, голад яму не пагражае. Чаго ж ён хоча? Грошай? Дык хапіла б яму грошай і за сваю частку сена. Яна ж не маленькая, тая частка!

Раней я мала думаў пра пана Ясінскага. Не задумваўся і над тым, чаму пан адзін мае зямлі і сенажацяў больш, чым усё наша і нават суседнія з намі сёлы. Хто яму даў усё гэта? У нас лесу зусім не было. А ў пана — цэлая пушча. Можа ён купіў усе гэтыя абшары? Але хто ж прадаў? Ды і колькі трэба мець грошай, каб купіць іх! Мой бацька вельмі хацеў прыкупіць дзе хоць адну ці дзве дзесяціны зямлі. «Дзеці растуць,— казаў ён,— на чацвертаку не пражывеш». І не купіў да самай вайны ні пядзі.

Аб усім гэтым я часта задумваўся ў апошнія месяцы. Круцілася ў маёй галаве і нейкае цьмянае слова «сервітут», які нам з панам, як кажа дзед, не разведзены. Дзіва! Значыць, выходзіць, мужыкі былі неяк звязаны з панам праз гэты самы Абадок. Іначай навошта б дзед і бацька судзіліся за яго?

Едучы зараз побач з дзедам, я папрасіў, каб ён ясней расказаў, якое права мы маем на Абадок і адкуль у пана Ясінскага такія абшары поля і лесу, а ў нас — чацвертакі ды трацякі?

— Ат,— адмахнуўся дзед ад маёй просьбы,— што табе, малому, забіваць галаву! Невясёлы гэта расказ. Ды і не кароткі.

Я змоўк, хоць думкі і не давалі мне спакою. Я ўспомніў, што некалі ў маладыя гады дзед адбываў катаргу ў Сібіры. Аб гэтым я чуў не раз. Але за што і як ён трапіў на тую катаргу, не цікавіўся. На катаргу пасылалі разбойнікаў. Але хіба ж дзед каго забіў?

Сядзець на возе моўчкі сумна. І праз некаторы час я зноў пачынаю загаворваць да дзеда.

— Ну што ж,— кажа дзед,— відаць, ты ўжо не маленькі, калі думаеш пра такія справункі.

Паглядзеўшы на мяне дабрадушна сваімі старымі, вільготнымі ад слёз вачыма, ён запытаўся:

— А што такое паншчына, ты ведаеш?

Слова гэтае я чуў не раз. Старыя людзі часта гаварылі: «Гэта было яшчэ за паншчынаю». Або: «Цяпер у нас не паншчына!» Аднаго разу, кленучы пана Ясінскага, дзед сказаў: «Мінулася яму, гаду, паншчына!» Я здагадаўся, што слова гэтае мае нейкую сувязь са словам «воля». Летась, калі святкавалася трохсотгоддзе дома рускіх цароў Раманавых, настаўнік расказваў нам пра цара-вызваліцеля Аляксандра Другога. Усе цары былі добрыя, казаў настаўнік, а самым лепшым — цар-вызваліцель. Ен даў волю сялянам.

Мы нават вучылі верш пра дзяўчынку, якая чытала сваім бацькам і суседзям царскі ўказ пра волю:

Посмотри, в избе, мерцая,
Светит огонек.
Возле девочки-малютки
Собрался кружок.

Даже, с печи не слезавший
Много-много лет,
Свесил голову и смотрит
На малютку дед...

Далей некалькі радкоў я забыўся. А канец быў такі:

Что ж так слушают малютку?
Аль уж так умна?
Нет, в семье она умеет
Грамоте одна.

Якую волю цар даў сялянам і чаму раней яны не мелі волі, настаўнік нам не гаварыў. Так што на дзедава пытанне мне цяжка было адказаць.

— Вот бачыш,— сказаў дзед,— а ты хочаш ведаць, адкуль у пана зямля, а ў нас — няма. На гэта і я не адкажу табе адным ці двума словамі. Тут давядзецца расказаць пра ўсё, як мы жылі раней, калі не было на свеце не толькі цябе, а і твайго бацькі.

— Дык раскажы, дзеду! — ухапіўся я за яго словы.— Часу ж у нас многа.

— А будзеш слухаць?

— Буду!

— I добрае, і дрэннае?

— Усё буду слухаць!

Дзед, не спяшаючыся, дастаў сваю люльку, доўга набіваў яе махоркаю, потым выкрасіў агонь, прыкурыў. Я з нецярплівасцю чакаў.

— Гм...— зачмыхаў ён, раскурваючы люльку.— Пра што ж табе расказаць?

— Пра ўсё!

— Пра ўсё доўгая гаворка. Раскажу хіба, за што я з царом ваяваў і за што ў Сібір на катаргу трапіў.

Мне здалося, што я недачуў ці не зразумеў дзеда.

— З самім царом ты ваяваў? — перапытаў я.

Дзед усміхнуўся, пакархваючы:

— Выходзіць, так.

Гэта ўжо было для мяне дзіва з дзіў. Пра цара ж гаварылі, як пра бога. У царкве маліліся за цара і за ўвесь яго род. Усюды вывешваліся царскія партрэты, як святыя абразы. Мы, школьнікі, назубок ведалі ўсю царскую сям'ю. А тут на табе — просты мужык, мой дзед, ваяваў з царом! Не за цара, а супроць цара!

Цяпер ужо я не адчапіўся б ад дзеда, хоць бы ён і не хацеў мне расказваць, як гэта было.

І дзед распачаў свой невясёлы, як ён казаў, расказ.

З яго расказу я запомніў вось што.

Дзедаў дзед, дзедаў бацька і сам дзед былі прыгоннымі сялянамі паноў Ясінскіх. Ішлі гады, мяняліся пакаленні. А прыгон заставаўся нязменным. Прыгонныя людзі належалі пану гэтак жа, як любая рэч. Ні адзін прыгонны чалавек не меў над сабою волі. Ён належаў пану, і пан мог зрабіць з ім, што хацеў,— прадаць другому пану, прагуляць у карты, нават забіць...

Калі і як паны запрыгонілі сялян, дзед не ведаў. Праўда, сяляне не жылі разам з панамі. Пры маёнтку паны трымалі толькі слуг. Набіралі іх з тых жа прыгонных мужыкоў. А іншыя жылі асобна — вакол маёнткаў. Пан вызначаў ім надзелы зямлі, вядома не лепшай. За надзелы людзі адраблялі пану — гэта значыць, служылі прыгон. Плюнуць на ўсё, пакінуць панскі надзел і самога пана прыгонны не меў права. Калі ён гэта рабіў, панскія і царскія стражнікі лавілі яго хоць на краі свету. Жывёлу сваю прыгонныя пасвілі ў панскіх лясах або на гуртавых выганах. Такія выганы і выпасы называліся сервітутамі.

Усё гэта добра запомніў мой дзед ужо ў першыя гады

свайго жыцця. Малым хлапчуком яго забралі ў двор. І дзед запрогся ў панскае ярмо. Потым пан прагуляў яго ў карты...

Але ўсяму бывае канец, як кажа дзед. Прыйшоў канец і прыгону. Век за векам дабіваліся прыгонныя волі. І дабіліся нарэшце. Цар-вызваліцель Аляксандр Другі загадаў скасаваць прыгон. Было гэта 19 лютага 1861 года.

Аднак скора людзі разабраліся, што царская воля не лепшая за панскую няволю. Цар абяцаў волю толькі праз дзевяць год, калі мужыкі выкупяць у пана свае надзелы зямлі. Да гэтага ўсё мусіла аставацца па-старому. Хіба толькі і было новага, што цяпер пан не меў права біць сваіх прыгонных і прадаваць іх і іхніх дзяцей.

Грошай на выкуп зямлі прыгонныя, вядома, не мелі. А за пазыку царская казна драла сем шкур. Не тры, як кажа прымаўка, а сем...

І тады народны гнеў выбухнуў ужо не толькі супроць паноў, але і супроць «добрага» цара-вызваліцеля. Напрадвесні 1863 года ўспыхнула паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі. Да паўстання далучыўся і мой дзед, хоць быў ён яшчэ зусім маладым. Гэта і была, як кажа дзед, яго вайна супроць цара.

Пад восень таго ж года царскі генерал Мураўёў задушыў паўстанне. Атрады паўстанцаў пачалі рассыпацца. Хто трапіў у палон, таго Мураўёў паслаў на шыбеніцу або ў Сібір на катаргу. Дзеда таксама не мінула катарга. Загінуў на шыбеніцы і правадыр паўстання ў Літве і Беларусі Кастусь Каліноўскі. Дзед добра помніў яго і цяпер. «Малады яшчэ дзяцюк быў,— расказваў пра яго дзед,— а любілі мы Кастуся, як свайго, роднага».

Але паўстанне не прайшло без следу. Каб сцішыць разгневаных людзей, цар вымушаны быў да рэшты скасаваць прыгон у беларускіх і літоўскіх губернях ужо ў 1863 годзе, а не праз дзевяць гадоў. Плата за зямлю змяншалася. Сялянам дазвалялася пасвіць жывёлу ў панскіх лясах і на старых селавых выпасах. Такім гуртавым выпасам у галынаўцаў і быў Абадок.

Гадоў з пяць пасля гэтага пражылося ціха. Потым асмялелы пан Браніслаў Ясінскі, той, што прагуляў дзеда ў карты, рашыў далучыць Абадок да сваіх сенажацяў. Людзі кінуліся шукаць праўды. Ды дзе яе знойдзеш! Плана Абадка ў галынаўцаў не было. Сказана толькі было ў нейкіх паперах аб выкупе зямлі, што Абадок застаецца

агульным выпасам і што сервітут на яго паміж панам і галынаўскімі мужыкамі не разведзены. А што за Абадок, якую плошчу ён займае, у паперах не гаварылася.

Пачаліся суды. Ды даўно ўжо нехта разумны сказаў: з дужым не дужайся, з багатым не судзіся...

## У КАРЧМЕ

Дзень позняй восені не доўгі. А мне ён здаўся і зусім кароткім. Увесь дзень я слухаў дзедаў расказ. Мне проста не верылася, што дзед кажа праўду. Але ж мой дзед не жартун, якому абы гаварыць. Ды і па тону гаворкі можна пазнаць, праўду чалавек кажа ці не. У нас ёсць адзін выдумшчык — стары Лукаш. Ён хлусіць так, што кожнаму адразу відаць. Ды Лукаш і сам жартуе са сваёй хлуснi. Хочаш вер, кажа, хочаш не, а хлусіць не перашкаджай.

Мы ўжо крыху вучылі гісторыю. Настаўнік нам пра ўсіх цароў расказваў. Ды і ў падручніку пра іх пішацца. А вось пра жыццё людзей такіх, як мой дзед і бацька, там ні слова не гаворыцца. Не напісалі, што паны здзекаваліся з людзей, білі, забівалі і прадавалі прыгонных. У гісторыі пералічваюцца ўсе войны, якія вялі нашы цары супроць чужаземных. І ні паўслова няма пра вайну, якую вёў мой дзед і яго паплечнікі супроць паноў і самога цара. Ці ж не цуды гэта? Мне было над чым задумацца.

Арол ішоў памалу. Дзед не махаў на яго пугаю. Толькі сяды-тады цмокаў ды торгаў лейцамі. Але гэта больш па прывычцы. Я не ведаю ў сваім сяле ніводнага фурмана, які б сядзеў на возе спакойна. Нават самыя маўклівыя і тыя нокаюць ды цмокаюць, трэба ці не трэба. А колькі прымавак сыплецца на каня-небараку! Толькі конскія вушы і могуць вытрымаць іх.

Два разы мы спыняліся, давалі Арлу перадых. Дзед чапляў яму на галаву торбу з аўсом. Першы раз гэта было ў лесе, другі — у сяле Дабрынёве. Там мы зайшлі ў хату да знаёмага дзеду чалавека і трохі папалуднавалі. Гаспадара дома не было. Гаспадыня ж сустрэла нас, як мне здалося, негасцінна. Маўклівая і заклапочаная нечым, яна ачысціла нам край стала, а сама выйшла ў сенцы. Потым мы даведаліся, што нядаўна забіты на вайне яе старэйшы сын Іван. І ёй цяпер было не да гасцей.

Ужо цёмным адвячоркам дабраліся мы да карчмы. Пра гэтую карчму я чуў не раз. Усе, хто ездзіў ад нас у Мінск, спыняліся на папас і на начлег у карчме. Стаяла яна ў чыстым полі пры дарозе. Па гэтай дарозе ішлі і ехалі ў горад людзі з многіх вёсак і сёл, блізкіх і далёкіх. Яна была адным з тых шляхоў, якія злучалі губернскі горад з паветамі і валасцямі. Відаць, гэта і ўлічваў карчмар, калі ставіў тут свой гандлёвы дом. Зручным было і само месца: недалёка ад горада. Пераначаваў — і на ранні кірмаш.

Ярка асветлены дом пры дарозе мы ўбачылі здалёку. Дзед у гэты час расказваў пра сібірскі руднік, на якім ён адбываў катаргу. Халадэча, слота, сырасць у падзямеллі. Толькі мільгаюць цьмяныя ліхтары ды мітусяцца цені катаржнікаў. Дзень у дзень б'юць гэтыя людзі-цені цяжкімі кайламі цвёрдую руду. Падымаюцца з рудніка толькі на начлег... Аж страшна слухаць. Здавалася, я і сам пабываў у тым пякельным падзямеллі. І раптам — жывыя прывабныя агні на цёмнай халоднай дарозе!

— Карчма! — весела сказаў дзед, перапыняючы свой расказ.— Но, сівак, варушыся. Тут ты ўжо выстаішся. Цяпер ноч немалая. А мы з табою, Пятрок, папросім у Гіршы гарачай капусты на якую залатоўку [1] ды — на бакавую.

Хутчэй бы ў цёплую хату, думаў я. Як бы там ні было, а праседзець цэлы дзень на возе нялёгка. Пракалывалі мы можа вёрст сорак. Гэта не тое што ў мястэчка з'ездзіць. Повідну Арол ішоў роўна, трымаўся бітай дарогі. Цяпер жа, змораны, ён часта кволіўся, збіваўся за сваёй сцежкі, тузаўся ў аглоблях. І толькі такі спрактыкаваны фурман, як дзед, мог кіраваць ім.

Спыніліся мы каля самай брамы — шырокай, дашчанай. Дзед злез з воза, размяў здранцвелыя ногі, потым падышоў да бліжэйшага акна, зняў рукавіцу і пастукаў пальцамі ў шыбіну. Акно да палавіны было завешана фіранкаю. На дзедаў стук фіранка адсунулася, і з-за яе паказалася калматая галава.

— Адчыні, гаспадар! — папрасіўся дзед. Голас яго цяпер здаўся мне надта ж нейкім ахрыплым, прастуджаным. Мусіць, ад таго, што траха не ўвесь дзень вёў ён свой расказ.

---

[1] Залатоўка — пятнаццаць капеек.

Праз хвіліну за шырокай дзябёлай брамай пачуліся цвёрдыя крокі.

— Каго бог нясе?

— Падарожных,— адказаў дзед.— Каго ж яшчэ да цябе бог носіць?

Як відаць было з дзедавага адказу, браму адчыняў нам сам карчмар.

— Бачу, знаёмы,— прыглядаўся карчмар да дзеда.— А хто, не ўспомню.

— Дзіва што,— сказаў дзед.— Даўненька не гасцяваў у цябе.

— Ці не Язэп з Галынаўкі?

— Ён самы.

— Пастарэў, пастарэў, чалавеча...

Гаворачы, дзед уз'ехаў на досыць шырокі двор. На ім ужо стаяла некалькі вазоў. Каля аднаго з іх дзед і спыніў Арла. Карчмар тым часам зачыніў браму на тоўстую завалу і пайшоў да дзвярэй, што вялі ў дом. Мы выпраглі каня і прывязалі да воза. Дзед накінуў яму на спіну посцілку, якою было накрыта сена ў палукашку.

— Нябось, змакрэў, небарака,— сказаў ён пры гэтым.— Конь, як і чалавек, прастудзіцца можа.

Узялі торбу з хлебам і рушылі ў карчму. Падняліся на ганак, увайшлі ў дашчаную прыбудову, асветленую ліхтаром, што стаяў на невялікім століку. У прыбудове было двое дзвярэй, пафарбаваных у цёмна-чырвоны колер. Дзед спыніўся на момант.

— Куды ж нам? Ці не ў гэтыя? — паказаў ён на дзверы з правага боку.— Там,— махнуў ён рукою проста перад сабою,— здаецца, сям'я жыве.

Дзед не памыліўся. Мы трапілі ў досыць прасторны пакой, дзе стаялі сталы з лаўкамі. За некаторымі сталамі сядзелі людзі.

Даўшы «добры вечар» усім, дзед палажыў торбу на вольны стол.

У пакоі было цёпла, пахла капустаю, смажанаю цыбуляю і рознымі іншымі пахамі, якія мне цяжка было разгадаць. Вялікая лямпа, падвешаная да столі, ярка асвятляла карчму, асабліва на самай сярэдзіне. Апрача дзвярэй, праз якія мы ўвайшлі сюды з двара, тут было яшчэ двое дзвярэй. Не цяжка было здагадацца, што адны з іх, большыя, на дзве палавіны, выходзілі на дарогу, а другія — у тую частку дома, дзе жылі гаспадары. Пры гэтых

дзвярах стаяла нізкая і шырокая шафа, адгароджаная ад нас дашчанаю стойкаю.

З другога боку пакой быў завешаны ад сталоў цёмнымі посцілкамі.

Неўзабаве з меншых дзвярэй выйшаў гаспадар-карчмар Гірша. Цяпер пры святле я мог добра разгледзець яго. Ён быў невысокі, з чорнаю барадою і чорнымі кучаравымі валасамі, якія выбіваліся з-пад чорнай ярмолкі. На ім быў чорны сурдут, чорныя штаны і чорныя боты... Відаць, ён быў яшчэ не стары, бо здалёку сівізны не заўважалася ні ў яго барадзе, ні ў кучаравых валасах.

Некалькі мужчын усталі з-за сталоў і падаліся да карчмара. За імі пайшоў і дзед.

Я ўсё яшчэ разглядаў карчму. Людзі тут былі такія ж, як мы — праезджыя ды прахожыя, старыя і маладыя. Адны сядзелі распранутыя, другія — у вопратцы. Сяды-тады адчыняліся большыя дзверы, і адтуль, з дарогі, уваходзілі новыя наведвальнікі карчмы. Відаць, гэта былі падарожныя або з блізкіх сёлаў. Праезджыя, такія, як мы, уваходзілі з двара.

Неўзабаве на парозе паказаўся чалавек, на якога я адразу загледзеўся больш, чым на іншых. На чалавеку быў доўгі шынель без пагонаў і зімовая салдацкая шапка без цэшкі. Росту ён быў вышэй сярэдняга, на шырокім бледным твары заметна вылучаліся густыя цёмна-русыя вусы. І тут жа я заўважыў, што правы рукаў яго шыняля пусты.

Ну, вядома ж, падумаў я, гэта салдат! Паранены. З фронту. Шынель і салдацкую шапку ў нас цяпер убачыш усюды: іх насілі і тыя, хто ніколі салдатам не быў. Але ж гэты чалавек у шынялі без рукі.

Салдат гучна прывітаўся з усімі. І спыніўся, прыглядаючыся да сталоў.

— Хадзі сюды, служывы! — паклікаў яго дзядзька ў старым лапленым кажусе. Ён сядзеў побач з нашым сталом.

— Ды мне ўсё роўна,— сказаў салдат і накіраваўся да дзядзькі.

Я не спускаў з яго вачэй. Можа хто знаёмы? Параненых ды пакалечаных салдат цяпер сустрэць не навіна. У нашай Галынаўцы іх таксама нямала. Колькі мы ўжо наслухаліся ад іх расказаў пра вайну! І па іх расказах выходзіць, што ваююць нашы не так, як пішацца ў газетах. Стараста калі-нікалі прывозіць з воласці газеты

«Минский голос» або «Минские губернские ведомости». Цяпер і ён прызнае мяне за грамацея і дае чытаць газеты на сходах. Калі верыць газетам, немцаў ужо даўно пераблі ўсіх чыста. Хто ж тады ваюе з нашымі салдатамі? Хто іх забівае і раніць? Раненыя, што варочаюцца з фронту, моршчацца, слухаючы газеты. Чым жа, кажуць, пераб'еш немцаў? Кулакамі іх б'юць, ці што? «Чаму кулакамі? — злуецца на іх стараста.— Казак Кручкоў вунь пікаю іх пераколе...» Салдаты гэтаму таксама не вераць. «Пакуль ты да яго з пікаю,— адказваюць,— дык ён цябе за вярсту гарматаю разарве або кулямётам скосіць. А ў нас, бывае, што на двух ці на трох адну вінтоўку выдаюць. І так у бой гоняць. А там чакай, пакуль каго заб'юць ці параняць. Тады табе яго вінтоўка застанецца. Якая ж гэта вайна? У немца, кажуць, не тое. Высунеш з акопа шапку на палцы, а ён ужо стралянін ўзнімае. І лупіць па шапцы датуль, пакуль не пасячэ яе кулямі на мэтлахі».

Пакуль я думаў так пра вайну, салдата акружылі мужчыны. Некаторыя падсоўвалі сюды свае сталы.

— Адкуль, служывенькі? — распытваліся ў яго.

— Тутэйшы, з Дабрынёва,— адказваў салдат.

— А-а-а...

Усе тут добра ведалі Дабрынёва.

— А дзе ваяваць даводзілася?

— Ці скора ўжо вайне канец?

— Ці праўда, што нашы генералы прадаюцца немцу?

Пытанні да салдата сыпаліся адно за адным. Усім карцела выведаць у свежага чалавека з вайны нешта новае. Салдат пакуль што маўчаў, пасміхаючыся ў свае густыя вусы. Барада яго была гладка паголена.

Тым часам на сталах заблішчалі пляшкі з гарэлкаю. Дзядзькі даставалі з торбаў сала, хлеб, салёныя агуркі. Налілі чарку і салдату.

— Дай божа, каб скора ўсе дадому вярнуліся,— сказаў дзядзька ў старым кажусе, падняўшы чарку.

— Дай божа! — падхапілі астатнія.

— Толькі каб не пакалечаныя гэтак, як я! — дадаў салдат, падымаючы сваю чарку левою рукою.

Ён выпіў палавіну чаркі, скрывіўся.

— Горкая, ліха на яе. Даўно не спрабаваў.

— А што, хіба на вайне не давалі?

— Хто там дасць? — пакруціў галавою салдат.— Там не кожны дзень кавалак хлеба дойдзе да цябе.

Салдату падлілі чарку.

— Давай, служывы, да дна.

— Што ж я, адзін мушу піць? — запярэчыў салдат.

Яму адказалі:

— Ды мы, брат, не ваенныя, нам гэтай гаркоты часцей перападае.

— А не забараняюць гандляваць ёю?

— Раней забаранялі, калі ішла мабілізацыя. А цяпер не так. Ды, зрэшты, наш Гірша не з палахлівых. Калі, бывае, і наскочыць ураднік або стражнік, то хопіць і яму заліць вочы...

— Ну, дык за ваша здароўе,— сказаў салдат і выпіў на гэты раз да дна.

Дзед прынёс вялікую міску гарачай капусты і дзве драўляныя лыжкі. Цяпер мы елі капусту і слухалі, што гаварылася за суседнімі сталамі.

— Дык вот,— казаў салдат, закусіўшы пасля другой чаркі,— вы хочаце ведаць, як там і што на вайне. Наконт генералаў прадажных. Ліха іх ведае. Кажуць, што хапае і такіх. Але гэта больш генералы з немцаў. Кажуць, ім нібыта сама царыца спрыяе. Яна ж з нямецкага краю... Вот і нашай арміяй камандаваў нейкі немец — Рыненкамп [1]. Павёў ён нас у наступленне. Было гэта за Сувалкамі, каля Мазурскіх азёраў. Ну, пайшлі мы. Усё загуло і зараўло. Немец смаліць з гармат. А мы — «ура!». Накасіў ён нас, пракляты. Ды і сам не вытрымаў, папёр у сваю Прусію. Тут бы на яго яшчэ націснуць і загнаць туды, куды Макар цялят не ганяў. Дык не. Кажуць, пашкадаваў наш генерал немца. Не пусціў у бой сваіх рэзерваў. А іх было нямала — аж пяць ці шэсць казацкіх дывізій.

— Дзіва што пашкадуе немец немца,— зашумелі мужыкі.— Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе.

— А хіба нельга было свайго генерала паставіць?

— Каб жа мы самі ставілі,— усміхнуўся салдат,— то немца і на гарматны стрэл да фронту не падпусцілі б...

— А што цар думае? Ён жа не з немцаў...

Салдат зноў усміхнуўся.

— А ты сваёй жонцы шмат напярэчыш, калі яна ўздумае што на сваім паставіць?

Малады яшчэ з выгляду мужчына, які задаў салдату пытанне пра цара, задумаўся.

---

[1] Правільнае яго прозвішча Рэненкампф.

— Так то яно так,— сказаў ён.— Але мая жонка і царыца — не адно і тое ж. Калі я паскачу пад жончыну дудку, дык ад гэтага ніякай бяды нікому не будзе...

Салдат працягваў свой расказ:

— Тыдні праз тры недабіты немец сабраў новыя палкі і рынуўся назад да Сувалак. Наш генерал на гэта не спадзяваўся і да новых баёў не рыхтаваўся. А можа і праўда немец падкупіў яго, як пра гэта потым казалі ў нас. Чорт яго матару ведае. Адным словам, зрабілі нам такое пекла, якога свет не бачыў. Там я і руку сваю пакінуў...

— Бачыш, што робіцца,— мацней загаманілі мужчыны.— А мы і не ведаем. У газетах нам пра гэта не чытаюць.

— Але,— сказаў дзядзька ў старым кажусе, ён яшчэ не скінуў яго, хоць іншыя даўно ўжо зрабілі гэта,— трудна нам, браткі, ваяваць з немцам, калі такое на свеце робіцца...

— А думаеце, нашы рускія генералы лепшыя,— сказаў салдат.— Ёсцека і сярод іх не лепшыя за Рыненкампа. Вазьміце тылавых афіцэраў, інтэндантаў, як іх завуць. Хто толькі з іх не нажываецца на вайне! Пакуль дойдзе да салдата паложаны яму па закону харч, то і есці няма чаго. Абскубуць тваю пайку, як тыя пацукі. Выдадуць табе шынялёк, што яго і месяца не паносіш. А чаму? Казна адпусціла на шынель добрыя грошы. А нарыхтоўшчыкі купілі ў купцоў гнілое, стогадовай даўнасці сукенца. Або яшчэ лепш: сукенца не старое, але гатунак не той, да шэрсці залішне ануч дабавілі... Выйгранка ад гэтага толькі купцам ды нарыхтоўшчыкам.

Гаворка пра вайну ў карчме цягнулася доўга. Я ўжо не ўсе словы чуў. Вочы мае самі зліпаліся. Убачыўшы гэта, дзед завёў мяне за цёмныя посцілкі. Там стаялі доўгія нары з сеннікамі. Я лёг на адзін з сеннікоў і тут жа заснуў.

## ГОРАД МІНСК

Спаў я на карчмаровых нарах ці толькі прылёг? Дзед казаў — спаў, добра і нават доўга. А мне той сон здаўся адным мігам. Уставаць зусім не хацелася. У карчме замест лямпы гарэў цьмяны ліхтар. Вокны яшчэ былі цёмныя. Дзед адкашліваўся пасля сну і катурхаў мяне:

— Уставай, Пятрусь! Пакуль збяромся, то і развіднее.

Так яно і было. Калі мы выязджалі з двара, на чыстым ясным усходзе ўжо зацяплілася неба. Зямля за ноч яшчэ больш пацвярдзела. На стрэхах і на траве блішчаў густы іней.

Пасля цёплай карчмы мяне апанавалі дрыжыкі. Нават зубы заляскалі. Дзед накінуў на мае плечы радняную посцілку, знятую з Арла.

— Гэта пасля сну,— сказаў ён.— Скора пройдзе.

Потым ужо, у дарозе, параіў:

— А ты прыляж, паспі яшчэ.

Я ахвотна зашыўся ў мяккае сена, сагрэўся і пачаў драмаць.

Прахапіўся я ад моцнага крыку. Але тут жа здагадаўся, што гэта не просты крык, а песня, бо ясна чуліся знаёмыя мне словы:

Салавей, салавей, пташачка,
Канарэюшка жалабна паёт!
Раз, два, гора не бяда,
Канарэюшка жалабна паёт!

Працёр вочы і ўбачыў недалёка перад сабой салдат. Яны ішлі радамі пасярод вуліцы. Дзед павярнуў каня ў правы бок, каб даць ім дарогу. Дамы абапал вуліцы былі драўляныя, такія, як у нашым сяле, толькі што крыху большыя. Значыць, гэта нейкае мястэчка, падумаў я і запытаўся ў дзеда.

— Мінск,— адказаў дзед, разглядаючы салдат.

— І ўвесь Мінск такі? — здзівіўся я.

— Які? — перапытаў дзед.

— Ну, як мястэчка?

— Не,— паківаў галавою дзед.— Толькі пры ўездзе ён такі. Паглядзіш вунь за каменным мостам.

Салдаты тым часам праходзілі міма нашага воза. Яны былі зусім маладыя, бязвусыя. Шэрыя шынялі ў шмат каго цягнуліся траха не па зямлі. Добра, што суха, а то забрудзілі б яны іх да каленяў. Толькі ў першых радах ішлі больш спрытнейшыя хлопцы, а рэшта — як падпаскі. Вёў іх высокі і шырокі ў плячах афіцэр з сярэбранымі пагонамі.

Дзед уздыхнуў неяк асабліва сумна і прагаварыў сам сабе:

— Ім бы яшчэ кацёлку качаць, а не ваяваць...

Потым, калі салдаты мінулі нас, дадаў, выціраючы кулаком вільготныя вочы:

— У кожнага ж бацька, маці... Як ім цярпець, небаракам?..

У дзеда вочы часта слязяцца без дай прычыны. А цяпер мне здалося, яны змакрэлі не толькі так сабе. Мы ўжо даўно не ведаем, што з бацькам. Раней пісьмы прыходзілі траха не кожны тыдзень. А гэта ўжо мо з месяц як няма. Што цяпер і думаць? Салдаты, каторыя вярнуліся з вайны без рук ды без ног, кажуць,— адчайвацца яшчэ рана. На вайне ўсё можа быць. Мо паперы на пісьмо няма. Мо часць пераязджае на новае месца. Мо хварэе. А мо, на горшы выпадак, у палон трапіў. Бо калі б забілі, то прыйшла б нейкая вестка з часці. Вось мы і гадаем цяпер кожны дзень, чакаючы невядома чаго. Цяжкое гэта чаканне. Ой, якое цяжкое!

З думкамі пра вайну, пра бацьку мы і ўз'ехалі на доўгі высокі мост. Тут перад намі і праўда адкрыўся іншы горад. Перш-наперш я заглядзеўся на чыгунку. Колькі тут рэек. І над імі ўзвышаецца мост, па якім мы едзем. Гэта значыць, калі б цяпер, у гэтую хвіліну, па рэйках ішлі цягнікі, то, выходзіць, мы ехалі б над імі... Дзіва! Але цягнікі толькі стаялі воддаля, пыхкаючы сваімі чорнымі комінамі. Дзед паказаў на доўгія будынкі за рэйкамі.

— Тавара-пасажырская станцыя,— сказаў ён.— Запамінай, можа калі ехаць на поездзе давядзецца.

Дзед не першы раз у горадзе. Яму тут усё вядома не горш, чым мне ў сваім мястэчку. А ў мяне аж вочы разбягаюцца. Не ведаю, на што і глядзець.

За мостам уперамешку з драўлянымі ўсё часцей трапляліся дамы мураваныя — аднапавярховыя і двухпавярховыя. Спачатку мне нават цікаўна было: стаіць дом на доме, толькі пад адной страхою. І стрэхі тут не саламяныя, як у нас, а бляшаныя або гонтавыя. У некаторых дамах за шырознымі вокнамі ляжалі розныя тавары, караваі хлеба, румяныя булкі, абаранкі. Ці здагадаецца дзед купіць хоць адну з гэтых румяных булак? І сама вуліца тут іншая — шырокая, брукаваная, з драўлянымі тратуарамі абапал.

Тым часам Арол сунуўся памаленьку далей і далей. Нас абганялі балаголы, рамізнікі і пешаходы, што ішлі побач па тратуары. Усё часцей трапляліся паліцэйскія

або гарадавыя, як называў іх дзед. Вось мы праехалі пад нейкаю каменнаю сцяною, паваленай над вуліцай угары. Дзед сам без майго запытання расказаў мне пра гэтую дзіўную сцяну на тоўстых мураваных падпорах. Гэта — чыгуначны мост. Па ім ідуць цягнікі з пасажырскага вакзала. На таварнай станцыі цягнікі ходзяць пад мостам, а тут — над галовамі людзей. Яшчэ большае дзіва!

— І не ўпадзе мост? — запытаўся я ў дзеда.— Параход жа вунь які цяжэрны!

Дзед адказаў:

— Каб упаў, то ляжаў бы на вуліцы. Тут, брат, майстры будавалі, інжынеры. Гэта не тое што наш мосцік цераз рэчку.

За чыгуначным мостам пайшлі яшчэ большыя дамы. З правага боку чырванеў высачэзны будынак з вострымі вежамі. Па крыжах на вежах я адразу пазнаў, што гэта — касцёл. Такія крыжы тарчаць на касцёле і ў нашым мястэчку. Мы ехалі, як казаў дзед, па вуліцы Маскоўскай. Усё часцей трапляліся тут балаголы і звычайныя фурманкі. Шмат было вазоў і вазакоў такіх, як мы.

— Блізка рынак,— растлумачыў дзед.— Туды ўсе і едуць — і гарадскія і селавыя.

За чырвоным касцёлам мы павярнулі налева. Я ўжо ведаў, куды мы едзем: на вуліцу Ракаўскую. Там заезны дом. Пра яго я не раз чуў ад тых, хто ездзіў у Мінск. Усе нашы спыняюцца на пастой толькі на Ракаўскай вуліцы. Бо ў горадзе ж не паставіш каня з возам, дзе хочаш.

Ракаўская вуліца размяшчалася на высокім узгорку, і змораны Арол ледзьве цягнуў павозку. Мы з дзедам паслазілі з воза і папіхалі, нукаючы на каня.

Даехаўшы сяк-так да нейкай царквы, дзед павярнуў каня направа і спыніўся каля шырокай, на дзве палавіны, дашчанай брамы. Потым зайшоў праз фортку на двор і сам адчыніў браму.

На двары стаяла некалькі падвод. Дзед знайшоў вольны закутак і выпраг Арла.

— Хаця б не спазніцца да губернатара,— заклапаціўся ён, паглядаючы на неба.

Сонца было закрыта светла-шэрымі асеннімі хмарамі. І адкуль яны ўзяліся? Зранку ўсё паказвала на пагоду. Але ўвосень гэта не навіна: пагода можа мяняцца кожную гадзіну.

— Прашэння не згубілі? — пацікавіўся дзед.

— Не павінны,— кажу.

Каб не пакамячыць прашэння, мы везлі яго ў невялікай скрынцы пад сенам. Я дастаў скрынку, выняў прашэнне. А дзед зайшоў у дом гаспадара. Вярнуўшыся, ён развязаў торбу, адкроіў дзве лусты хлеба. Адну падаў мне.

— Снедаць няма калі,— сказаў.— Перакусім трохі па дарозе.

І мы выйшлі з двара з лустамі хлеба ў руках. Вуліца крута спускалася ўніз. На тратуары нас даганялі і абганялі пешаходы. Было такое ўражанне, быццам усе яны вельмі спяшаюцца некуды. Я ўвесь час кідаў вокам то ў той, то ў другі бок. І часта наступаў каму-небудзь на ногі сваімі лапцямі або штурхаў локцямі.

— Ты ідзі за мною,— сказаў дзед.— Бо гэта табе не ў сяле. Тут людзей, як у лесе мурашак.

Хутка мы спусціліся з узгорка.

— А вунь і рыбны рынак,— махнуў дзед рукою перад сабою.— За ім — таўкучка.

Я глянуў, куды паказваў дзед. Там стаялі доўгія дашчаныя лавы, каля якіх мітусіліся людзі. Чуваць быў глухі шум і гоман.

Калі мы падышлі бліжэй, я ўбачыў на лавах безліч рыбы. Валам навалена. І малая і вялікая. Зычна крычалі гандляры і гандляркі, заклікаючы купцоў. Такой процьмы рыбы я яшчэ ніколі не бачыў. На нашым мястэчковым рынку ніхто, здаецца, рыбаю і не гандлюе. У нас рыбу ловіць кожны сабе. А гандляваць рыбай — які з яе гандаль! Калі, бывае, хто наловіць залішне, то нясе суседзям.

Шкада, што мы шпарка праскочылі міма гэтага рыбнага рынку і я не паспеў добра яго разгледзець. А да таўкучкі так і не дайшлі — на першай жа сустрэчнай баковай вуліцы дзед павярнуў направа.

Цяпер прыйшлося падымацца ўгору. Мне-то нічога, а дзед адразу задыхаўся: узгорак трапіўся надта круты. А калі падняліся наверх, на шырокую плошчу, мне адразу кінулася ў вочы новае дзіва — велізарны гадзіннік на высокай вежы, прыбудаванай да цаглянага дома. Гадзіннік быў не прывешаны да сцяны, а неяк умацаваны ў самую сцяну, на якой блішчаў цыферблат з дзвюма стрэлкамі. Але гэтае дзіва тут жа засланілася іншым: пад вежай з гадзіннікам праходзіў тратуар, высланы шырокімі каменнымі плітамі. І па тратуары ўзад і ўперад хадзілі людзі. Прайшлі і мы з дзедам праз тую дзірку, не баючыся, што

высокая вежа з гадзіннікам упадзе на нас. Ды і наогул тут, куды ні глянь, стаялі будынкі, якіх я яшчэ ніколі не бачыў. І ніводнага драўлянага.

Неўзабаве дзед спыніўся каля белага двухпавярховага дома і сказаў:

— Нам сюды.

Каля шырокіх дубовых дзвярэй тупаў гарадавы — здаецца, самы вышэйшы і самы таўсцейшы з тых, якія траплялiся нам на вочы дагэтуль. Не кажучы ўжо пра мяне, дзед супроць яго выглядаў камаром. «Вот жа раскарміўся чалавек,— падумаў я.— Мусіць, яго адным параным гарохам кормяць». Так кормяць у нас багацейшыя гаспадары парсюкоў, калі хочуць нагадаваць тоўстае сала.

Як толькі мы павярнулі да дзвярэй, гарадавы загарадзіў нам дарогу.

— Куды?

І пакратаў тоўстымі пальцамі шаблю, нібы збіраючыся вымаць яе з ножнаў.

Дзед паказаў прашэнне. Гарадавы агледзеў нас з ног да галавы.

— Зброі няма?

Дзед развёў рукамі.

— Якая ў мяне зброя, пан гарадавы. Хіба што адна папруга на штанах.

Гарадавы нездаволена скрывіўся і адышоўся ўбок, пакручваючы доўгі светлы вус на тоўстым сытым твары.

### ВА ЎСІХ АДНА БЯДА

Мы ўвайшлі ў калідор. Пад столлю гарэла электрычная лямпачка, запыленая і забруджаная мухамі. Каля сцен на лаўках сядзелі людзі. Мяркуючы па вопратцы, паноў і гараджан сярод іх не было. Усе былі апрануты проста — у кажухах або світках, у старых куртках, так, як мы з дзедам. І я неяк адразу адчуў сябе вальней. Быццам трапіў на сельскі сход у сваёй роднай Галынаўцы.

Дзед даў усім «добры дзень», як быццам ён зайшоў у хату да суседзяў, і некалькі галасоў прыветна адказалі яму. Потым ён сказаў мне прысесці на лаўцы, а сам, стоячы, пачаў распытваць у людзей, ці прымае губернатар і як трапіць да яго.

— Не вельмі спяшайся, стары! — адказаў дзеду худы

чалавек у салдацкім шынялі.— Тут вунь па тры-чатыры дні сядзяць, і без толку.

— Не пускаюць да губернатара,— дадаў яго сусед па лаўцы.

— Як гэта не пускаюць? — захваляваўся дзед.— Чаму не пускаюць?

— Не пускаюць, і ўся гавэнда. Кажуць, губернатар заняты.

— Чым жа ён гэтак заняты?

— Багі яго ведаюць.

Дзед задумаўся, кусаючы ніжнюю губу.

— Хто ж тады прашэнні прымае?

— А там,— паказаў худы,— у канцы калідора прымаюць.

— Прашэнне здаць не штука,— сказаў барадаты мужык у доўгай сівай світцы.— А хто і калі табе на яго адкажа?

Паслухаўшы невясёлыя навіны, дзед зусім спахмурнеў.

— Відаць, усюды адно ліха,— сказаў ён, апускаючыся на лаўку.— У воласці ўправы на пана не знойдзеш, і тут — тое самае...

Пакашляўшы крыху, ён падняўся.

— Пайду хоць прашэнне падам. Не везці ж яго назад. Дома новае напішам, калі патрэбна будзе.

Я застаўся на лаўцы адзін. Сяджу, разглядаю суседзяў, слухаю гаворку. Гавораць тут усе па-нашаму, як у нашым сяле. Толькі асобныя словы не зусім мне знаёмыя. Чую — расказвае худы з жоўтым тварам чалавек у салдацкім шынялі. Хто ён, думаю: салдат ці проста апрануў шынель замест світкі? Цяпер такіх многа. Шынялі прадаюць і купляюць. І расказвае ён, мусіць, нешта цікавае, бо слухаюць яго і тыя, што сядзяць далей.

Пачынаю і я прыслухоўвацца.

— Ну, тры месяцы адлежаў у шпіталі,— відаць, працягвае ён свой расказ. І мне адразу становіцца ясна — пэўна ж ён салдат! — Цяпер,— кажа,— на пабыўку пусцілі. Хацеў сёе-тое дома зрабіць. Хоць дроў на зіму прыдбаць. Ды вот з першага дня па судах ды па розных канцылярах цягаюся. Людзі нашы кажуць: «Ты — салдат, за веру, цара і айчыну кроў праліваў. Можа, з табою царскія слугі гаварыць будуць. Бо нас яны і слухаць не хочуць». Ну, я і хаджу і езджу другі тыдзень. А які толк?

Салдат зморшчыў і без таго худы маршчыністы твар.

— А які ў цябе, калі не сакрэт, інтэрас да губернатара? — запытаўся барадаты мужык у доўгай шэрай світцы.

— Відаць, такі ж, як і ў цябе,— адказаў салдат.— Не ў госці, вядома, прыехаў за блізкі свет.

— Ну, у мяне справы селавыя...

— А ў мяне, думаеш, свае? З панам за пашу валтузімся. Спрадвеку наша сяло пасвіла ў лесе. Так і ў сервітутных дакументах запісана. Лес панскі, гэта праўда. І мы лесу не чапалі. Няхай яго хвароба чапае, пана гэтага праклятага. Калі хто які грыб падыме ці ягаду сарве, дык і то стражнікі наровяць адабраць. Ды чорт з імі. Няхай душацца сваімі грыбамі. Але ўжо каторы год пан не пускае нашых кароў у лес. А дзе нам пасвіць? У нас не тое што карову — курыцу на сваім не напасеш. Зямлі мала, а сенажаці, лічы, і зусім няма.

Цікава, падумаў я. Значыць, пан гэтага параненага салдата робіць тое ж, што і наш пан Ясінскі. Значыць, усе паны аднаго поля ягады. І ніякай управы на іх няма. Гэтую маю думку нібы пачуў дзядзька ў доўгай світцы.

— Дарэмна, салдат, правуешся,— паківаў ён галавою.

— Чаму?

— Нічога не даб'ешся. Была і ў нас такая цяганіна з панам за выпас. Ды з дужым, як кажуць, не дужайся... Што яму, пану, зробіш? Ён дзе ні пайшоў — усюды ў яго свая рука...

— Але ж закон, права...— перапыніў яго худы салдат.

Субяседнік горка ўсміхнуўся:

— Закон, кажуць, што дышла... На сілу трэба мець сілу, а не закон!.. Ось гадоў дзесяць таму, калі па Расіі пайшла завaруха, то і наш пан, нябось, адразу памякчэў. Сам у вёску прыехаў. Пасіце, кажа, на маім выпасе, я дазваляю. Ну, гады тры пасвілі і — нічога. А як мінуў страх для паноў — зноў сваю песню запелі. Паспрабавалі мы сілаю. Дык што ж — у іх стрэльбы, а ў нас голыя рукі. Тры чалавекі нашых забілі насмерць, а колькі паранілі, пакалечылі... Кінуліся мы да начальнікаў, значыць, каб пакаралі забойцаў. А што выйшла? Тых, хто дабіваўся праўды і справядлівасці, за калы [1] загналі...

— Значыць,— развёў рукамі салдат, выслухаўшы гэты сумны расказ,— так і адрачыся ад свайго? А як жыць?

---

[1] За калы — у астрог.

На калідоры паказаўся лысы дзядзька ў чорным пінжаку, пры гальштуку.

Мужчыны прыціхлі.

— Ракопчык! — гукнуў ён да ўсіх.

Салдат усхапіўся.

— Я!

— Зайдзі ў канцылярыю.

Салдат подбегам кінуўся за лысым дзядзькам.

— Мусіць, дачакаўся салдат чаргі,— пазайздросціў яму барадаты дзядзька.— Цікава, што яму губернатар скажа.

— Губернатар? — зрабіў вялікія вочы шчуплы мужчына, што сядзеў насупраць.— Добра яшчэ, калі самы апошні губернатараў памочнік прыме. Я тут не першы раз...

— Але каго-небудзь жа і сам губернатар прымае?

— Паноў ды тых, хто добры хабар падсуне ўсім гэтым лысым. Во каго ён прымае. Ды адно ліха! Губернатар не заступіцца за мужыка, калі гэты мужык скардзіцца на пана.

— Гэта праўда,— загаманілі іншыя мужчыны.— Губернатар сам з паноў. А пан за пана цягне.

— Я сваім людзям таксама кажу: праўды не было і няма. А яны ўсё яшчэ вераць у праўду.

— Зусім няма? — спалохана прагаварыў чырванашчокі мужчына ў новым кароткім кажушку.

— Зусім! — рэзка адказаў расчараваны шчуплы мужчына.

І тут жа запытаўся:

— А якой праўды ты шукаеш?

— А вот такой,— кашлянуў шукальнік праўды.— Памяркуй сам. Як пачалася вайна, нашы ратнікі трохі папужалі пана. Ну ты ж ведаеш, як гэта робіцца. Парвалі панскія паперы, паламалі сталы, крэслы. І добра зрабілі, бо ў тых паперах значыліся нашы мужыкі: хто за патраву, хто за сарваныя ягады або грыбы ў лесе... Адным словам, за ўсялякія правіннасці перад панам. Потым надавалі трохі грымакоў аканому і стражнікам. На гэтым і скончылася. Пана якраз дома не было.

Расказчык змоўк, уздыхнуў на поўныя грудзі і працягваў далей:

— Дурні, трэба было пусціць з дымам гэтае асінае гняздо. Усё роўна адзін суд быў бы. Дык што ж. Вярнуў-

ся пан і заявіў, што ў яго ўкралі дзве тысячы рублёў. Тут як бач зляцелася ўсё вараннё — прыстаў, земскі, суддзя... І прысудзілі сыскаць з бунтаўшчыкоў дзве тысячы рублёў. Што ты скажаш? Га? Хто мог да такога дадумацца? Ну, тым часам ратнікі паехалі ваяваць. А грошы павінны вярнуць пану іх сем'і. Выходзіць, аж па сто рублёў на сям'ю. Ураднік апісаў усю скаціну, і ўсё роўна не хапае. Два разы ўжо таргі прызначаліся. Ды, дзякуй людзям, ніхто не купляе скаціны. Усе ж ведаюць, што гэта пагібель для няшчасных ракрутак з дзецьмі. Галосяць яны цяпер, небаракі, так, што, здаецца, каменнае сэрца не вытрымае. А пану і суддзям напляваць на чужое гора. А вы кажаце — праўда... Я — стараста. Ведаю, што ніякіх грошай у пана нашы людзі не бралі, бо ад мяне нічога не схаваеш. Даказваю ўсім гэта. А мяне начальнікі яшчэ лаюць: «Ты, такі-сякі, за мужыкоў заступаешся! Ты верыш мужыкам, а не пану!» А сам аканом прагаварыўся, падпіўшы, што ў пана ў той час дома і дваццаці рублёў не было, што грошы пан трымае ў банку.

Стараста прыціх, шукаючы нечага ў кішэні.

— Шкада, што тут курыць няможна.

Ён падняўся з лаўкі.

— Выйду на вуліцу, да фараона [1],— сказаў.— Калі часам без мяне паклічуць Антона Валодзіна, дайце аказію.

— Добра, паклічам,— адказалі мужчыны.— Не так скора дачакаешся, каб паклікалі.

— Ну, усё можа быць,— сказаў стараста ўжо каля дзвярэй.— Калі губернатар не паможа праўду знайсці, то не ведаю, што і рабіць.

За ім падняліся яшчэ некалькі чалавек.

— Выйдзем і мы пакурыць,— сказаў адзін з іх да тых, што заставаліся на лаўках.— Гукайце, калі што.

Гаворка мужчын мяне зацікавіла. Значыць, выходзіць, ва ўсіх адна бяда: усе шукаюць праўды. А можа яе няма? Ад гэтай думкі мне зрабілася нядобра. Прадчуванне нейкай новай бяды сціснула мяне. А што, калі губернатар або яго памочнікі не заступяцца за нас?

Але ж нешта дзед бавіцца. А можа яго як старога, хворага чалавека, адразу да губернатара дапусцілі. Слухае, думаю, там недзе наверсе губернатар дзеда і толькі

---

[1] Фараон — паліцэйскі (пагардлівая клічка).

гнеўна галавою ківае: «Ну і пан у вас. Сэрца ў яго няма...» І ўсякія такія думкі апанавалі мяне. А калі не так? Калі, наадварот, губернатар крычыць на дзеда: «Вы што ж, супраць пана бунт падымаеце ды яшчэ хочаце, каб пан вам сваё сена аддаў?» Пра бунт супроць пана ў прашэнні, вядома, нічога не напісана. Але ж, відаць, губернатар ведае пра гэта, пан, напэўна, паскардзіўся яму.

Нарэшце я ўбачыў дзеда. Ён ішоў з канцылярыі, моцна хістаючыся ў бакі. Твар яго пацямнеў. Вочы здаваліся непрытомнымі. У руках ён трымаў нейкую паперу, зусім падобную на маё прашэнне. А калі дзед падышоў бліжэй, то я адразу пазнаў тую паперу.

— Пойдзем, Пятруська,— прагаварыў ён нейкім здушаным голасам.— Няма праўды на свеце!

Я падняўся, не адважваючыся распытваць у дзеда, чаму ён нясе назад наша прашэнне і аб якой праўдзе вядзе гаворку.

І ўжо толькі на заезным двары, жуючы сухі хлеб, дзед расказаў мне, што было ў губернатаравай канцылярыі.

— Увайшоў,— кажа,— я ў пакой. Шырокі такі, светлы. Зняў шапку і стаў каля дзвярэй. Сталоў там дзе ні паглядзі. І за кожным сядзіць начальнік. Да каго ж падысці, думаю. Самі начальнікі нават галавы не падымаюць, не глядзяць на мяне. Пастаяў я так крыху ды рушыў да першага ад дзвярэй стала. Доўга стаяў, пакуль начальнік нарэшце глянуў на мяне. Падаў яму прашэнне. «Па якой справе?» — буркнуў ён і зноў унурыўся ў свае паперы. «Тут напісана»,— кажу. Прабег вачыма і махнуў рукою на другі стол, дзе сядзеў лысы начальнік. Дачакаўся я, пакуль той адарваўся ад сваіх папер. Прачытаў ён і варочае назад: «Губернатар не можа прыняць такое прашэнне...» У мяне і вочы на лоб палезлі. «Чаму?» — «Ён заняты больш важнымі справамі».— «А гэта хіба няважная?» Гэту, кажа, і ў воласці разбяруць. Едзь, стары, дадому. У воласці, кажу, усе пана слухаюць. Там праўды не знойдзеш. «Як гэта не знойдзеш! — вызверыўся на мяне лысы чорт.— Ты, стары, узводзіш паклёп на валасную адміністрацыю. За такія рэчы ў турму садзяць». Ах, каб ты сеў ды не ўстаў, гад печаны! Колькі ні прасіў яго пусціць да губернатара,— хоць ты страляй у яго аблезлую галавешку! Ды яшчэ бач што кажа: раз няма ў нас з панам пісанага дагавору, то і губернатар нічога не зробіць. Ах, каб на тваёй шкуры чорт пісаў, гіцаль ты губерната-

раў! Калі гэта хто пісаў тыя дагаворы на касьбу сена? Кожны ж год так было. Пагаворым з аканомам, і ўвесь дагавор. Навошта ж яшчэ тая пісаніна? Гэта ж пры людзях робіцца, каб табе ў грудзях зарабіла!

Дзед кляў лысага чыноўніка ўсімі кленічамі, якія толькі ведаў. І калі лысы застанецца пасля гэтага жывы, то ён проста сам чорт, а не чалавек.

Перакусіўшы збольшага, дзед напаіў каня.

— Што ж нам рабіць? — сказаў ён, гледзячы на неба.— Пакуль знойдзем Гарасіма, то і сцямнее. А што ён нам скажа? Або мы яму? Мо паедзем лепш дадому? Трэба скарэй да земскага падавацца. Хоць на яго і ніякай надзеі, але тапелец, кажуць, і за саломінку хапаецца.

Я не ведаў, што адказаць дзеду. Мне хацелася расказаць яму пра тое, што я чуў ад людзей у губернатаравым калідоры. Але дзеду цяпер, відаць, не да маіх расказаў. Дзед жа тым часам разважаў услых:

— Завідна выедзем з горада. А там да позняй вячэры і да карчмы дакалываемся. Дарога гладкая. Арол трохі аддыхаў, дацягне як-небудзь. Бо і пагода не вельмі трывалая. Хто ведае, што заўтра будзе. Каб не сыпануў снег...

Паслухаўшы дзеда, мне і праўда захацелася хутчэй вярнуцца ў цёплую карчму. І я сказаў:

— Добра, паедзем.

Здавалася, дзед толькі і чакаў гэтых слоў. Бо адразу ж моўчкі пачаў запрагаць. Рукі яго дрыжалі больш, чым трэба, і я памог яму засупоніць хамут і завязаць на аглоблі пасак падсядзёлка.

Калі выехалі з двара, я падумаў: не забыцца б па дарозе купіць свежую газету. А то як вернемся дадому, пачнуць распытвацца, што ў горадзе пра вайну чуваць. А дзе тут ад каго пачуеш? Нават у губернатаравай чакальні ніхто пра яе не ўспомніў. Гаварылі ўсе пра сваю бяду. Відаць, гэтая свая бяда не менш душыць нашага брата, чым страшная вайна. На вайне адны маладыя мужчыны. А як жыць іх сем'ям і тым, хто не на вайне? Хто пра іх паклапоціцца? Паны? Ды яны апошнюю сарочку з цябе здзяруць, апошні кавалак хлеба з рота вырвуць...

## ЦЯЖКАЯ ЗАДАЧА

Пакуль земскі начальнік разбіраў нашу справу, прыйшла зіма. Падскочыў мароз і закаваў балоты і рэкі.

Мы кожны дзень пасылалі хадака ў канцылярыю земскага начальніка даведацца, ці няма якіх навін. Але навін не было. Пісьмавод канцылярыі цвярдзіў адно і тое ж: «Яшчэ не прыйшла чарга на ваша прашэнне. Чакайце».

І мы чакалі. І дачакаліся, як кажуць, пустога канца. Прыбягае аднойчы з маёнтка панскі парабак Васіль і кажа нашым: «Пан прадаў сена. Ужо вунь і падводы з салдатамі на балоце...» Васіль, дзякуй яму, спачуваў нашай бядзе.

Мужчыны кінуліся на балота. А там і праўда дзесяткі падвод, сагнаных з суседніх сёлаў. Камандуюць усім салдаты-фуражыры. Галынаўцы пачалі тлумачыць салдатам: «Тут, у стагах, наша доля сена. Пан не мае права яе прадаваць». Ну, а салдаты і слухаць не хочуць. Нам, кажуць, загадана вывезці сена на станцыю. Яно для фронту пойдзе. А чыё яно — не наш клопат. Што салдату зробіш? Загад для яго закон.

Мужчыны кінуліся ў валасць, да земскага. Прабіліся да яго сілаю. Земскі, відаць, напалохаўся. Хапіўся за шашку. Але, убачыўшы, што перад ім людзі з голымі рукамі, супакоіўся. «Што скажаце?» — лагодна запытаўся. Яму напомнілі пра скаргу на пана Ясінскага. Земскі памаўчаў крыху, пахадзіў па пакоі, глянуў у акно на аснежаныя прысады на вуліцы. Потым сказаў: «Сена цяпер належыць ваеннаму ведамству. А ў іх свае начальнікі. Яны мяне не слухаюць».— «Але ж наша сена ваеннаму ведамству незаконна прадаў пан Ясінскі. А ён павінен слухаць земскага начальніка»,— адказалі яму мужчыны. Земскі зморшчыў нос, паспрабаваў усміхнуцца.

— Павінен то павінен. Але адкуль жа вы ўзялі, што гэта ваша сена на панскай сенажаці?

— Мы касілі на частку!

— А з кім дамаўляліся пра частку?

— З аканомам.

— А дзе дагавор?

— Які ж яшчэ на касьбу дагавор трэба?

— Пісаны,— цвёрда сказаў земскі, бачачы, што ў пакой уваходзяць паліцэйскія стражнікі, відаць, выклі-

каныя пісьмаводам.— Без пісанага дагавору не магу рассудзіць вас з панам... Вы кажаце адно, пан Ясінскі — другое.

— Што другое?

— Тое, што ён наймаў вас касіць за плату. Але не паспеў разлічыцца. А цяпер, прадаўшы сена, разлічыцца.

Земскі прысеў, махнуўшы рукою:

— З богам, мужыкі! Пан разлічыцца з вамі.

Мужчыны зашумелі не на жарт. Але расшумецца лішне ім не далі стражнікі. Аднаго за адным яны павыкідалі іх на двор і адагналі далей ад земскай канцылярыі.

Адным словам, усё адбылося так, як і казаў дзед: у воласці праўды не знойдзеш. Тут пан Ясінскі ўсяму галава.

Ці трэба казаць, колькі слёз мы вылілі па гэтым няшчасным сене, пакуль яго вывозілі з балота. А калі ўсё скончылася, моцна задумаліся: што з жывёлаю рабіць? Купіць сена, тым больш за панскую плату, ніхто не спадзяваўся. Хто яго прадасць? Дзе толькі можна, сена купляюць ваенныя фуражыры.

Цяпер у нас кожны дзень толькі і гаворкі было, што збыць, а што пракарміць сваімі запасамі?

Дзед разважае так: свайго корму ад сілы хопіць на паўзімы. Не больш. І то, калі садраць страху ў гумне.

— Значыцца,— кажа ён,— большую палавіну зімы карміць скаціну няма чым...

Каго ж збыць? Задачу гэтую зусім не лёгка вырашыць. Усе мы без лішніх слёз згаджаемся збыць авечак. Без воўны як-небудзь пражывём. А без мяса тым больш.

— Мала,— кажа дзед.— Авечка, што трус, ёй многа не трэба.

Каго ж тады? Хто больш есць?

— Вядома,— цмокае пакусанымі губамі дзед,— карова...

Але пра карову маці і слухаць не хоча.

— Як жа застацца без каровы з малымі дзецьмі?

— Тады — конь!..— кажа дзед.

Маці зноў пачынае хвалявацца. Конь нам дастаўся не лёгка. Мы прывыклі да яго, хоць ён і маленькі, і сляпенькі. Весялей на душы, калі ў хляве стаіць конь.

— Можа да авечак прыбавіць... цялушку? — з адчаем у голасе кажа маці.

Дзед круціць галавою:

— Каня і карову не вытрымаем. Цялушка і авечкі з'ядуць тое, што адна карова або адзін конь. Значыцца, без іх трэба мець корму не на палавіну, а на дзве часткі зімы.

Мо з тыдзень ламалі мы галаву над такою складанаю задачаю. А сена і салома жывёле тым часам ідуць. І нам ніяк нельга адкладваць надоўга развязкі сваёй задачы. Маці ўжо ледзь ногі цягае з нуды. Дзед зусім аслаб. І нам, дзецям, не соладка жывецца. Нават Юзік і Ядзя прыціхлі і спахмурнелі. Ніякія гульні ў іх не ладзяцца.

На другім тыдні нашых пакут дзед падзяліў жывёлу на дзве роўныя, як ён казаў, палавіны: конь і цялушка — адна палавіна, карова і авечкі — другая. Выбірай, якую хочаш.

Але такая дзедава арыфметыка нас зусім не супакоіла. Маці кажа: «Гэта ўсё роўна, што адрэзаць правую або левую руку, выняць правае або левае вока». Авечкі ўжо такой бяды. Шкада толькі, што колькі дзён дарэмна сена глумяць. А карова? Але ж, калі пакінуць карову, тады развітвайся з канём...

Дзед супакойвае матку:

— Зусім малых у нас няма. Малака можам калі-нікалі купіць у суседзяў або на рынку.

— За што?

— За грошы, што выручым за карову і авечак. А тым часам праз год-паўтара цялушка стане кароваю. Што ж зробіш? Конь — гэта ўсё ж конь. Які б ён ні быў.

Дзед, вядома, кажа праўду. Я з ім згаджаюся першы. А потым згадзілася і маці. Толькі параіла авечак зарэзаць самім і прадаць адно мяса. Дзве аўчыны ў нас былі ў запасе. А пяць — гэта ўжо калі не поўны кажух, то паўкажушак. Праўда, за авечак без шкур многа не возьмеш. Ды такой бяды. Грошы нам пакуль што не так і патрэбны. Сена за іх не купіш. Соль і газу таксама даставаць не лёгка.

У першую ж нядзелю мы з дзедам рушылі на кірмаш. У развалках, накрытыя посцілкаю, ляжалі тры авечыя тушы, а ззаду нехаця ішла старая Мальвіна.

Маці не захацела ехаць на такі кірмаш. Заплаканая, яна з меншымі дзецьмі стаяла каля шула, пакуль мы не схаваліся з вачэй за бліжэйшым узгоркам.

## БЕЖАНЦЫ

Міналі тыдні і месяцы, а вайна ўсё не канчалася. Мы ўжо страцілі ўсялякую надзею пачуць што пра бацьку: ні ад яго, ні пра яго жаданай вестачкі так і не дачакаліся. Не шчаслівейшымі былі і тыя нашы сяльчане, каму такія весткі прысылалі з часцей. Удовы і сіраты ўсё прыбаўляліся. Яны нам нават зайздросцілі: у нас яшчэ хоць кропля надзеі цяплілася, што можа бацька ў палон трапіў. З часці нічога нам не адказалі. Гэта праўда. Але ж магло так здарыцца, як казалі бывалыя салдаты, што і ад усёй часці нікога і нічога не засталося. Хто тады табе што адкажа?

Не буду расказваць, як мы перазімавалі, як пераляталі. Слепавокі Арол, дзякуй яму, ратаваў нашу невялікую гаспадарку. Што б мы рабілі, каб не ён? Дзед тады мудра разважыў, што аснова ў гаспадарцы не карова.

З панам у нас пайшоў страшэнны задзёр. Цяпер мы яму, а ён нам — ворагі не на жыццё, а на смерць. Мы ўжо не прыпускаем на яго пракляты Абадок сваю жывёлу, як раней. Не, мы збіраемся гуртам, траха не ўсім сялом, і начамі робім налёты на панскія сенажаці. Што патравім, што патопчам. Пан не даў нам рабіць сена на частку, дык няхай жа не будзе ні нам, ні яму! Панскія стражнікі баяліся і падступацца да нас уночы. Хоць трэба сказаць, што і ўдзень яны не вельмі храбрыліся. Храбрасць з іх збілі нашы ратнікі і навабранцы ўжо ў першыя месяцы вайны. Нападаюць яны цяпер на нашых галынаўцаў хіба што толькі адзін на адзін. А гурту баяцца як агню. Нават аднавокі Лаўрэн і той крыху паспакайнеў. А бывала ж, у лесе за кожным ягаднікам ці грыбнікам ганяўся. Цяпер жа, калі нават хто і лыка выража,— прыкінецца, што яго там і блізка не было.

Ашалелы ад злосці Прусак насылаў на сяло ўрадніка са стражнікамі. Ды што ўраднік зробіць, калі невядома, да каго прычапіцца. Ураднік можа скласці пратакол і пасадзіць у турму пэўнага патраўшчыка, а не цэлае сяло.

Такое было наша звычайнае жыццё.

Незвычайнае ж пачалося ўжо неяк пад восень. Да нас дайшла невясёлая навіна: немцы занялі Варшаву. Мы ведалі, што гэта не маленькі горад. І раптам яго здалі немцу. Значыць, немец не стаіць на месцы. Калі ён узяў Варшаву, то можа дабрацца і да Мінска, і да Галынаўкі.

Не паспелі мы апамятацца ад гэтай страшнай навіны, як пачалі даходзіць да нас іншыя, такія ж невясёлыя. Загаварылі пра адступленне рускай арміі на ўсім заходнім фронце...

А потым дажджлівым асеннім адвячоркам у сяло заехаў цэлы абоз незнаёмых нам людзей. Траха не над кожным возам узнімалася мокрая палатняная буда, а ў ёй, цесна збіўшыся ў кучу,— і старыя і малыя. І гаршкі і міскі...

Спачатку мы думалі — цыганскі табар. Аж бачым, людзі ў будах светлага воласу. А хто і цёмнага, дык на цыганоў зусім не падобны.

— Адкуль вы, людзі добрыя? — пыталіся ў іх нашы галынаўцы.

— Здалёку, браткі... Аж з-за Навагрудка.

Гаварылі яны гэтак жа, як і мы.

— Бежанцы мы. Ад вайны ўцякаем...

— Дык хіба ж і Навагрудак немец забраў? — не верыў дзед.— Я ж Навагрудак добра ведаю. Гэта не так і далёка...

Бежанцы — мы ўпершыню пачулі гэтае слова — адказвалі, што, калі яны ад'язджалі, сам Навагрудак яшчэ не быў пад немцам. А цяпер хто яго ведае, што там робіцца.

— Па дарогах,— расказвалі бежанцы,— гэтулькі людзей ідзе і едзе з нашага боку,— хай бог крые і ратуе...

— А куды ж вы едзеце?

— Спачатку загадалі ехаць у Карэлічы, потым у Стоўбцы. Цяпер трэба аж да Бабруйска дабірацца.

— Далёка ж яшчэ вам ехаць,— спачувалі ім нашы галынаўцы.— Ды і дарога псуецца...

— А там што? — уздыхалі бежанцы.— Ці будзе хоць страха над галавою? Гэта ж не к лету ідзе. І хто нас карміць будзе на чужой старане? Што з дому ўзялі — хутка кончым. Ці ж многа на воз возьмеш?

Нам шкада было няшчасных людзей. Коні іхнія хісталіся ад зморы. І мы пачалі запрашаць бежанцаў у хаты на перадышку.

Каля нашых варот таксама спынілася адна падвода. Кіраваў канём малады светлавалосы хлопец, мо трошкі старэйшы за мяне. Ён шустра саскочыў з воза. Я адчыніў вароты насцеж.

— Калі ласка,— запрашаў дзед гасцей.

— Дзенькуе, дзядуля,— адказаў хлопец.

Ён узяў свайго стракатага каня з худымі ўпалымі бакамі за аброць і павёў на двор.

Калі воз спыніўся, з мокрай буды пачалі паказвацца людзі. Першай вылезла высокая жанчына сярэдніх гадоў з бледным тварам.

— Пахвалёны Езус Хрыстус,— прагаварыла яна мяккім прыемным голасам і пакланілася ўсёй нашай сям'і.

— На векі вякоў,— адказаў дзед.

Услед за жанчынай саскочылі з воза дзяўчынка і хлопчык, меншыя за першага, што паганяў каня.

Апошняй злазіла з воза старая бабуля, маленькая, маршчыністая. Яе падхапіла маладая жанчына на рукі і паставіла на зямлю.

Я ўзяўся памагаць хлопцу распрагаць яго стракатага каня.

— Як цябе завуць? — запытаў ён.

— Пятрусь,— адказаў я.— А цябе?

— Казя.

Ён гаварыў са мною так, як і мы гаворым. Вось толькі імя яго нейкае дзіўнае: не Іван, не Сцяпан, а Казя. Ці не з католікаў ён? Нашы засцянкоўцы таксама на Ісуса Хрыста гавораць Езус Хрыстус. Я толькі не чуў, каб яны пры сустрэчах з галынаўцамі гэтак віталіся, як Казікава маці. Засцянкоўцы вітаюцца так, як і мы: «Дзень добры» або «Добры дзень». Праўда, замест «дзякуй» могуць сказаць і «дзенькуе».

Уся Казікава сям'я зайшла ў хату. А ён павёў са мною каня ў хлеў. Хлеў у нас цяпер быў вольны. У ім стаяў адзін Арол ды цялушка, маленькая, таўсмаценькая, многа месца яна не займала. Я завёў свайго каня ў загародку, дзе раней стаяла Мальвіна, а Казікавага прыпусціў да кармушкі з сенам.

— Няхай трошку аддыша,— сказаў Казік,— тады напоім.

— А калі распагодзіцца,— сказаў я,— можам на выган выпусціць.

Я запытаўся ў Казіка, ці доўга яны ў дарозе.

— Другі тыдзень,— адказаў ён.

— Ого,— здзівіўся я.— А дзед казаў, да Навагрудка не вельмі далёка.

— Мы ехалі толькі ўдзень з доўгімі папасамі. Гэта ж не адзін. Ды і дарогі забіты — ні праехаць ні прайсці...

— А дзе начавалі?

— Дзе даводзілася. У вёсках, у лесе, як цыганы.

— Ды ў вас і буды на вазах цыганскія,— сказаў я.

— А без іх у такую дарогу лепш і не выбірайся. Гэта не буда, а наша бежанская хата.

— А вайна далёка была ад вас?

— Не ведаю. Мы толькі чулі вечарамі і начамі гул, быццам недзе пад зямлёю гуло. Потым прыехалі казакі і загадалі, каб мы пакінулі сваю вёску. На збор далі два дні. Ледзьве паспелі пераплёт для будаў зрабіць.

— А дзе вашы каровы, авечкі?

Твар Казікаў спахмурнеў. Відаць, яму не лёгка было адказваць на гэтае маё пытанне.

— Спачатку мы іх гналі з сабою,— пачаў ён расказваць.— Потым у дарозе ўсё забралі...

— Хто?

— Казакі... Сказалі, з каровамі ды авечкамі мы далёка не заедзем: немец насцігне і перахопіць нас з усім нашым скарбам. Ой, што там было... Успамінаць страшна. Нам выдалі паперкі — квітанцыі. І ўсё...

— А што з тымі людзьмі, у каго не было коней? — пацікавіўся я.

— Ім загадалі дабірацца да чыгункі. Там пасадзілі на поцэнгі [1] і павезлі, кажуць, недзе далёка, аж у Расію.

— А калі хто не хацеў ехаць?

Казік горка ўсміхнуўся.

— Ніхто не хацеў. Каму гэта хацелася кідаць свой дом і сваю гаспадарку. Нас выгналі.

Ён памаўчаў, як быццам нешта ўспамінаючы. Потым сказаў:

— Ды і аставацца страшна было... Немцы ж вунь нават малых дзяцей на пікі садзяць...

Я скалануўся ад жаху.

— Адкуль ты ведаеш?

— На малюнках бачыў. Іх у нас усюды развешвалі.

Мы стаялі з Казікам каля хлява пад страхою і не маглі нагаварыцца. У нас вялікае гора, а ў людзей яшчэ большае. Казікаў бацька таксама ў салдатах. Цяпер Казік старэйшы ў сям'і з мужчын. У нас хоць дзед жыве. У Казіка няма дзеда. Жыве толькі баба — бацькава маці.

У галаву мне прыходзіла страшная думка: а што, калі

---

[1] Поцэнг — цягнік, поезд.

немец і да нас дойдзе? Тады давядзецца і нам гэтак жа кідаць усё ды ехаць у белы свет. Я стараўся адганяць ад сябе гэтую страшную думку, а яна ўсё не пакідала мяне.

## СУТЫЧКА З ПАНАМ

Коні бежанскія за дарогу выбіліся з сілы. Перш чым выязджаць у далёкі Бабруйск, іх трэба было добра адпасвіць. У нас жа не было дзе гэта зрабіць. На сваіх пакошах мы пасём усю восень самі. Там конь не вельмі наскубецца. Заставаўся панскі Абадок. Яго сёлета не касілі, і на ім яшчэ ярка зелянела лугавая канюшына і свежы асенні мўражок. Туды мы і параілі бежанцам пусціць коней на другі дзень, як толькі распагодзілася. Праўда, растлумачылі ім, што гэта за луг.

— Мы вунь усё пакідалі чорту лысаму,— сказалі на гэта бежанцы.— Пан ваш не ўпадзе ў калекі, калі мы дзень, другі папасём на яго Абадку. Пускайце і вы сваіх у гурт.

І праўда такі: пры чужых людзях пасмялелі і нашы пастухі — адзін за адным павялі коней на Абадок.

Казік падгаварыў і мяне весці свайго Арла. Я сказаў дзеду.

— Вядзі,— згадзіўся дзед.— Хто ведае, што будзе заўтра... Можа і нам давядзецца пакідаць свой дом. Дык няхай хоць напасецца ўволю.

Значыць, і дзеда трывожыла тая ж думка, што і мяне. А калі так, то і іншыя людзі, відаць, думалі тое ж. Так што сапраўды цяпер нашы спрэчкі з панам за Абадок здаваліся дробнымі і нікчэмнымі. Немец забірае вунь гарады і сёлы, а мы ўсё яшчэ баімся дохлага Прусака і абыходзім той луг, на які маем гэткае ж права, як і ён сам.

Бежанцаў у нас спынілася фурманак каля ста. А калі да бежанскіх мы далучылі і сваіх коней, то не толькі аднавокі Лаўрэн, зусім сляпы заўважыў бы гэты табун на панскім лузе.

Пастухоў і пастушкоў сабралася таксама нямала. Мы расклалі вогнішчы і пяклі ў прыску бульбу, якую капалі на недалёкіх палетках. Бульбы нашы галынаўцы не шкадавалі. Усе ж, як і дзед, думалі, што можа і не давядзецца спажываць яе самім. Лепш няхай з'ядуць добрыя людзі, чым немец.

У нас, малых пастухоў, было сваё асобнае вогнішча. Дровы мы знаходзілі ў кустах або бегалі на ўскраіну пушчы.

Усё ішло добра. Мы хутка пасябравалі, расказалі бежанцам пра сябе, а яны нам пра сваё жыццё. Казік ужо скончыў пачатковую школу два гады назад. Хацеў паступіць у гімназію. Але яго не прынялі. Там вучацца толькі дзеці багатых бацькоў, хто можа плаціць за навучанне, а ў яго бацькі такі ж чацвяртак, як і ў нас.

У прыску пяклася бульба, або картоплі, як у нас кажуць. Мы выграбалі яе галавешкамі з агню, студзілі, перакідаючы з далоні на далонь, здзьмухвалі попел і ачышчалі гарэлыя лушпіны.

Ці трэба казаць, якая яна смачная — гарачая бульба, спечаная ў прыску на лузе ці ў полі! Ды калі гэтай бульбай ласуешся не адзін, а ў гурце такіх жа аматараў-бульбянікаў, як і сам.

Мы так захапіліся бульбаю, што і не заўважылі Лаўрэна. Убачылі яго ўжо траха не каля самага агню. Не выцерпеў-такі, гад! Цяпер я ўжо добра ведаў гэтага панскага служаку. Высокі, тоўсты, з азызлым барвовым тварам, Лаўрэн ужо адным сваім выглядам наганяў страх на нас, пастушкоў. Я і цяпер скалануўся неяк, хоць быў не адзін.

— Стражнік панскі,— шапнуў я хлопцам.— Будзе крыку...

Але Казік і яго сябры зусім не зацікавіліся Лаўрэнам. Людзей са стрэльбамі яны нагледзеліся за дарогу нямала. І крыку чулі таксама нямала. Так што панскім стражнікам іх цяпер не здзівіш.

Лаўрэн абмінуў нас і пайшоў да вогнішча, дзе сядзелі старэйшыя пастухі. Тыя, як відаць было, таксама трымалі сябе спакойна.

Лаўрэн даў добры дзень, яму адказалі. І зноў пастухі заняліся сваімі гаворкамі. Лаўрэн пастаяў крыху, пачмыхаў тоўстым носам, потым загаварыў:

— Хто вам дазволіў пасвіць на панскім лузе?

Яму ніхто не адказаў.

Лаўрэн патупаў каля вогнішча, твар яго запунсавеў яшчэ гусцей.

— Зараз жа забірайце коней! — сказаў ён са злосцю.

З зямлі падняўся стары бежанец у доўгай світцы. Разглядаючы Лаўрэна, як нейкае дзіва, ён запытаўся ў яго:

— А што ты, чалавеча, за ўказчык нам?

— Я стражнік пана Ясінскага,— адказаў Лаўрэн, знімаючы з пляча стрэльбу.

«Няўжо страляць збіраецца?» — падумаў я.

— Вельмі добра,— сказаў стары.— Скажы свайму пану, калі ён паслаў цябе, што ў нас сваёй пашы няма. Мы не маглі яе прывезці сюды ў сваіх бежанскіх будах.

— Мала ў каго чаго няма,— прабурчаў Лаўрэн, пакручваючы стрэльбаю.— Калі так гаварыць, дык вы можаце і ў чужы свіран залезці.

— Ты пайдзі, панскі стражнік,— загаварыў другі бежанец, маладзейшы,— скажы гэта немцу: ён не толькі ў наш свіран залез... А табе травы гэтай шкада? Ну і людзі!

— Чорт пана твайго не возьме! — загаманілі іншыя пастухі.— Праходзь, чалавеча, сваёю дарогаю, а то горш будзе...

Лаўрэн закінуў стрэльбу за плячо, павярнуўся і пацінуў, як пабіты сабака, прэч з лугу.

Я радаваўся — гэта табе, думаю, не шапку зрываць у мяне з галавы. Тут вунь сіла якая! Яе ніякія стражнікі не адолеюць. У патраўшчыкі бежанцаў не запішаш. На суд на іх не падасі.

Я расказаў Казіку пра сваю шапку і пра тое, як бацька аддубасіў за яе Лаўрэна.

— Панскія стражнікі ўсе роўныя,— сказаў Казік.— У нас аднаго дык зусім уходалі. А хто і што — не знайшлі.

— І ў нас іх не любілі,— сказаў шчуплы хлапец маіх гадоў, Юрась.— Летась, як пачалася вайна, дык спалілі не толькі панскі дом, а і хаты самых заядлых стражнікаў. Іх ніхто не любіць.

Неўзабаве на Абадок прыскакаў на чорным жарабцы сам пан Ясінскі. І не адзін, вядома. Як заўсёды, яго акружала ахова — конныя стражнікі. Значыць, Лаўрэн усё ж данёс пану.

Пан Ясінскі не прывітаўся з пастухамі, а, размахваючы бізуном, закрычаў сваім тонкім піскЛявым галаском:

— Загадваю ачысціць мой луг! Зараз жа!

Пастухі загледзеліся на пана. Але ніхто не ўсхапіўся і не кінуўся лавіць коней.

Пан закруціўся на жарабцы каля самага вогнішча. Некаторым прыйшлося падняцца, каб не трапіць жарабцу пад ногі.

— Каму я кажу?! — паўтарыў пан, штурхаючы страмёнамі каня пад бакі.

Стары бежанец падняў руку перад панскім жарабцом.

— Не гарыць, пане. Начаваць на тваім лузе мы не збіраемся.

Пана як хто ўкалоў вострымі іголкамі.

— З кім ты патыкаўся, хам! Я свіней з табою не пасвіў.

— А я такога і ў падпаскі не ўзяў бы, не тое што за хаўрусніка...

Пан замахнуўся на старога бізуном. Стары не скрануўся з месца, і пан чамусьці не ўдарыў яго.

— Хто вы такія? — закрычаў ён, захлынаючыся ад злосці.

— Бежанцы,— адказаў стары.— Хіба ж табе не сказаў твой слуга? Мы пакінулі свае хаты і зямлю немцу. Я думаю, пан у калекі не ўпадзе, калі нашы коні трохі паскубуць на яго лузе.

Пан паварушыў сваімі рыжымі вусамі і сказаў лагадней:

— Хто вы і што вы за людзі, мне ўсё роўна. Я вас не выганяў з дому. Забірайце коней і — з богам! Каля майго маёнтка вам цяпер рабіць няма чаго. Бо сёння вы травіце мой луг, а заўтра будзеце сад калаціць, збожжа красці...

У гаворку пачалі ўмешвацца іншыя бежанцы. Адзін сказаў:

— Але ж, пане, мы чулі, што луг гэты зусім і не панскі...

— Хто мог так сказаць? — заёрзаў пан у сядле.

— Людзі.

— Пляваць мне на людзей!

Бежанец адказаў:

— Навошта на людзей пляваць? Пан жа таксама, мусіць, чалавек, а не жывёліна...

Пан вытрашчыў свае вадзяністыя вочы на бежанца.

— Ну,— свіснуў ён бізуном у паветры,— я цярплю вашу мужыцкую грубасць толькі таму, што вы бежанцы. Хоць я і не вінаваты ў вашай бядзе. Вайну вядзе наш аўгусцейшы імператар, і ён клапоціцца пра вас.

— Але ж аўгусцейшы імператар не можа накарміць нашых галодных коней,— сказаў бежанец.

— Дык што, я павінен карміць? Уласнасць у нас не

адменена. Зямля мая, луг мой, і я што хачу, тое на сваёй бацькаўшчыне раблю.

— Мы, пане, таксама мелі сваю бацькаўшчыну,— сказаў стары бежанец,— хоць і не такую, як у пана. А цяпер у нас — сам бачыш: толькі душа ў целе. І калі нам не памогуць людзі, то мы загінем ад голаду і ад холаду...

— А я пры чым тут! — адказаў пан.— Няхай вам людзі і памагаюць.

— Мы вот прыпыніся ў людзей, далёкіх нам, незнаёмых,— працягваў гаворку стары.— Яны прынялі нас, як братоў і сясцёр. Яны бедныя людзі, бог не надзяліў іх зямлёю гэтак, як пана. Але яны — сапраўдныя людзі, а не такія недавяркі, як некаторыя...

Пан зразумеў, у чый агарод кідае камень стары бежанец, і зноў успыхнуў:

— Я не пацярплю вашай хамскай балбатні на сваім лузе! Зараз жа выбірайцеся вон! А не — загадаю страляць...

— Ды ўжо ж,— пачухаў патыліцу стары,— каб ведалі, дык бы аб'ехалі ды абышлі такога...

Стары спыніўся, шукаючы трапнае слова, каб яно гладка прыліпла да пана. Але не знайшоў, кракнуў і сказаў:

— Дай, божа, і пану такую долю, якую даў нам...

Потым махнуў рукою да пастухоў:

— Забірайце, хлопчыкі, коней. Сыты галоднаму не спагадае. Ці ж гэта чалавек?

— Замаўчы, хам! — перапыніў яго раз'юшаны такою недалікатнаю размоваю пан.

Усіх аж калаціла ад злосці на Прусака. І хто ведае, чым бы скончылася гэтая сутычка з панам, каб не ўзброеныя стражнікі. Толькі яны выратавалі яго ад нашага гневу.

## ЦЯЖКАЯ ВОСЕНЬ

Бежанцы пакінулі сяло на чацвёрты дзень.

Мая маці і Казікава абняліся і расплакаліся. У мяне таксама нагортваліся слёзы на вачах. Як усё ж хутка людзі прывыкаюць адзін да аднаго! Казік стаў для мяне такім жа блізкім, як і тыя, з кім я сябраваў з малых год. Гэтыя дні мы з ім проста не разлучаліся. Разам пасвілі коней, разам гулялі і разам, плячо ў плячо, спалі на нашых дашчаных палацях.

Маці спякла гасцям на дарогу тры боханы хлеба, насыпала мех бульбы. Мы з дзедам выслалі іх воз зялёным пахучым мурагом. Потым, ужо на ад'ездзе, дзед насыпаў яшчэ добрую торбу аўса. Аўса ў нас было зусім мала. Я гэта ведаў. Ды і хлеба хаця б да каляд хапіла. Але нам вельмі хацелася зрабіць нешта добрае для сваіх новых сяброў — няшчасных бежанцаў.

Пры развітанні я сказаў Казіку:

— Калі будзеце варочацца назад, не абмінайце нас. Буду чакаць...

Казіку таксама не лёгка было расставацца са мною і ехаць невядома куды.

Я тады яшчэ не ведаў, што Казік і яго землякі не першыя выгнаннікі са сваіх родных гнёзд.

Наступленне нямецкай арміі на заходнім фронце пачалося к канцу лета. За жнівень месяц вайна мінула Польшчу і дакацілася да Беларусі. Бежанцы з Польшчы не траплялі да нас, тым больш з коньмі і скарбам. Яны дабіраліся да бліжэйшых станцый і адтуль ехалі на цягніках у глыб краіны — на Волгу і на Урал. Да таго ж далёка не ўсім, што пакідалі свае сёлы і гарады, удавалася вырвацца ў тыл. Нямецкая армія абганяла іх на дарогах. Тады перапалоханыя генералы рускай арміі пачалі ачышчаць свой тыл ад мірных жыхароў загадзя — на глыбіню ста і больш вёрст. Цяпер у людзей быў час адарвацца далей ад фронту. І ўсе, хто меў каня, міналі станцыі, спадзеючыся перачакаць бяду дзе-небудзь бліжэй да родных мясцін. Усім хацелася верыць, што не сёння-заўтра немцы выдыхнуцца і іх пагоняць назад. У людзей жа засталася нявыкапанай бульба, поўныя гумны неабмалочанай збажыны. У кожнага земляроба балела душа па кінутым на волю лёсу скарбе, здабытым нялёгкаю працаю за гарачае лета. Ці ж хацелася яму далёка ад'язджаць ад сваёй хаты і свайго дабра?

К канцу верасня траха не ў кожнай хаце ў нас жыла бежанская сям'я. Адпачыўшы, людзі ехалі далей, а на іх месца прыбывалі новыя бежанцы. Многія вялі і гналі з сабою кароў, авечак, свіней. Цяпер ваенныя не так адбіралі жывёлу, як у першыя дні адступлення. Ім не было куды яе дзяваць. Усю гэтую жывёлу трэба было пасвіць і карміць. І мы паказвалі людзям на Абадок.

Першыя дні Лаўрэн акуратна заглядваў да патраўшчыкаў і ганяў іх з лугу. Ды што ён мог зрабіць? Разоў

колькі прыязджаў і пан са сваімі стражнікамі. А потым, відаць, убачыў, што работа яго марная: зганіць адных, іх месца займаюць другія. Да таго ж бежанцы ўжо запаланілі і ўвесь панскі двор. Прусак, вядома, ганяў іх як мог. Ды не даў рады. У пана ж вунь колькі хлявоў, свірнаў. А людзі начуюць пад адкрытым небам. Дажджлівая восень прынесла з сабою прастудныя хваробы, і яны ліпнуць у першую чаргу да тых, хто не мае страхі над галавою.

Так што пану цяпер не да Абадка. Скупы і прагны, ён аж учарнеў ад злосці. Галодныя бежанцы нападалі на яго сад, капалі бульбу... Да вайны пан мог паклікаць на абарону сваёй уласнасці салдат, калі мала было земскай паліцыі. Цяпер жа салдат не хапала для фронту. Паменшала ў воласці і паліцэйскіх.

У нашай хаце прыжылася сям'я з Карэліч — маці з дзецьмі. Дзеці былі яшчэ малыя — тры дзяўчынкі, усе меншыя за мяне. Ядзя наша адразу пасябравала з імі. А мы з Юзікам зайздросцілі тым, у каго спыніліся сем'і з хлопчыкамі. Я часта ўспамінаў Казіка. Дарэмна яны паехалі ў той Бабруйск. Ім загадалі, і яны паслухалі. Цяпер бежанцам таксама загадваюць ехаць далей. Ды мала хто слухае загадаў.

У адзін з такіх трывожных дзён староста Палікар прывёз з воласці загад і для нас — збірацца ў бежанскую дарогу... Сталася тое, чаго мы так баяліся.

Разам з гэтым загадам староста прывёз некалькі вялізных аркушаў паперы са страшнымі малюнкамі на іх. Гэта былі тыя малюнкі, пра якія расказваў Казік: немцы ў жалезных касках вешалі і расстрэльвалі мірных людзей, узнімалі на пікі маленькіх дзетак...

Сяло загаласіла. Усе ж бачылі сваімі вачыма, хто такія бежанцы. Але ж і заставацца страшна. Хто ведае, якія пакуты давядзецца перанесці, трапіўшы да тых людаедаў у жалезных касках, што паказаны на малюнках. Лепш памерці сярод сваіх людзей, чым загінуць ад немцаў.

Дзед зноў цяжка захварэў.

— Нікуды я не паеду,— казаў ён.— Хай колюць, страляюць — мне ўсё роўна...

Маці казала, што яна таксама смерці не баіцца. І каб не дзеці, нікуды б не паехала.

А як было нам, малым, слухаць такую гаворку?

Наплакаўшыся ўволю разам з намі горкімі слязьмі, маці сказала:

— Пачакаем, дзеткі, як людзі, так і мы.

Наша бежанка цётка Юзэфа таксама затурбавалася. Аддаляцца ад дому ёй зусім не хацелася. І яна пераажывала нашае гора, як сваё.

Я пайшоў да свайго сябра Міхася. Ён жыў за тры хаты ад нас. Мне хацелася даведацца, што думае пра бежанства яго бацька.

У Міхасёвай сям'і ўсе былі такія ж сумныя, як і ў нас. Бацька Міхасёў ужо не малады. У салдаты яго пакуль не ўзялі.

Мы выйшлі з Міхасём на двор. Тут я і запытаўся ў яго пра бацьку: ці думае ён ехаць у бежанцы.

— Не ведаю,— адказаў Міхась.— Маці трывожыцца, плача. А бацька нічога не кажа.

Міхась любіць майстраваць. Цяпер ён рабіў малатарню. Не якую-небудзь цацку, а сапраўдную малатарню. Розніца толькі тая, што яго малатарня разоў у пяць меншая за сапраўдную. І запрагаць у яе ён збіраецца не коней, а сабак. Мне падабалася Міхасёва работа. Ён ужо парабіў капылы і вычасаў адзін вобад. Але цяпер было не да малатарні.

— Калі паедзем,— сказаў Міхась,— дык глядзі, каб разам...

Я адказаў, што, вядома, нам трэба ехаць разам, хоць бы нас загналі і за тысячу вёрст ад дому. Ды не толькі нам, а і ўсяму сялу. Бо як жа жыць сярод людзей чужых і незнаёмых?

Хоць дзед і не збіраўся, як ён казаў, пакідаць свой дом, аднак выкінуць з галавы думак пра бежанства ён не мог. Капляючы на сваім палку, ён сюд-туд заводзіў гаворку.

— На чым ехаць? — пытаўся ён сам у сябе.— На нашай павозцы? Што на яе паложыш? Ды і колы якія! Іх па сухой дарозе конь ледзьве цягне. От каб гэта павозка на жалезным ходу...

Павозкі на жалезным ходу, гэта значыць з жалезнымі восямі, раней я бачыў толькі ў маёнтку ды ў мястэчку. Цяпер на такіх павозках прыехалі да нас і некаторыя бежанцы.

— Каб гэта ўлетку ехаць,— разважаў ён.— А цяпер што — сёння суха, а заўтра балота. Кажуць жа: вясною

бочка вады — лыжка гразі, а ўвосень лыжка вады — бочка гразі...

Лягчэй было дзеду сказаць: «Не паеду!» А калі ўсе пакінуць сяло? Што яму тут аднаму рабіць? Як жыць? Ён жа з аднае нуды памрэ. А мы добрыя будзем, калі пакінем яго, старога і хворага, аднаго?

Усе дні маці сушыла патроху сухары. Так сабе, на ўсякі выпадак. Бо ехаць нам ці не ехаць, мы яшчэ не вырашылі.

Не магла нам нічога параіць і цётка Юзэфа. Яна, як і наша маці, усё плача, баіцца за сваіх дачушак. У нас яны ўжо крыху прывыклі, гуляюць з Ядзяю. Сама цётка Юзэфа ходзіць да засцянкоўцаў капаць бульбу. Даюць ёй два кашы бульбы за дзень работы, бо яна капае лепш за ўсіх засцянкоўскіх жанчын. У яе заставаўся яшчэ мех мукі і з паўмяшка гароху. Як будзе далей, невядома, а пакуль што голад яе абыходзіў. Калі ж пакінем мы сваё сяло, то і ёй давядзецца шукаць прытулку ў іншых людзей.

Тым часам ішлі дні за днямі, а мы, апрача сухароў, нічога на дарогу не нарыхтавалі. У нас нават дзёгцю няма, каб падмазаць сухія колы. Мы чакалі самага горшага, як вол доўбні. Калі ўбачыш старасту, усё ўсярэдзіне закалоціцца. Вось-вось падыдзе ён ды скажа: «Пара выязджаць». Але стараста пакуль што маўчыць. А калі ў яго пытаюцца пра бежанства, махае рукою: «Не спяшайцеся! Скажуць, калі прыйдзе пара».

Сам стараста сабраўся адным з першых. Пад павецню напагатове ў яго стаяць дзве спраўныя павозкі з нацягнутымі на іх палатнянымі будамі. Усё дабро яго закапана ў сакрэтных сховах. А што рабіць нам?

Я ўспомніў дзедавы расказы пра Кастуся Каліноўскага. Паўстанцы тады збіраліся ў лясах. З лясоў рабілі налёты на царскія войскі. І ў лясах у іх было ўсё — і зброя, і харчы. Там жа былі і паўстанскія хаты-зямлянкі або шатры з яловых лапак.

А што, калі б і нам падацца ў лес замест бежанства? Немцы ж не вечна будуць на нашай зямлі. Кончыцца вайна, і яны вернуцца назад у сваю Нямеччыну.

Калі я сказаў пра гэта матцы, яна аж скаланулася.

— Страшна, сынок. Гэта дзед мог жыць у лесе ў зямлянцы. Ён салдатам быў. А вы?

— Я ўжо не маленькі,— сказаў я.

— Ну, ты з Юзікам туды-сюды. А Ядзя?

Але думка пра лес усё ж запала матцы ў памяць. Яна пачала раіцца з дзедам. Дзед не адгаворваў яе. Наадварот, сказаў, што ў добрай зямлянцы жыць не так і дрэнна. У ёй можна зрабіць акенца і паставіць печку. Тады жыві, як пан. Дроў хапае. Што яшчэ патрэбна чалавеку? Харчы? І гэта не страшна. Можна ўжо сёе-тое назапасіць. Выкапаць яму для бульбы, студню. Змайстраваць шалаш для збожжа. Але хто гэта будзе рабіць? Дзед хварэе. Маці не здолее. Мы памочнікі яшчэ слабыя. Іншая рэч, калі б падабраўся гурт.

Думалі мы і пра немцаў: ці ўдасца схавацца ад іх у лесе? Дзед кажа, што рызыка тут невялікая. У нас не лес, а цэлая пушча. Чалавек у ёй, што іголка ў стозе сена. Дзед успамінаў, што царскія войскі баяліся лясоў як чорт крыжа. «Пусці мяне,— казаў дзед,— у пушчу. А за мною — полк салдат. І яны мяне не знойдуць. Чаму? Бо я іх бачу, а яны мяне — не. У лесе кожнае дрэва, кожны куст — твая абарона».

Пачалі мы шукаць ахвотнікаў на пераезд у пушчу. Цётка Юзэфа адмовілася наадрэз. Не, яна лепш паедзе далей. Рабіць збораў у дарогу ёй не трэба. Тое ж гаварылі і іншыя бежанцы. А нашы адказвалі ні тое ні сёе: «У лесе добра, але можна і загінуць зімою ад холаду ды голаду. Калі ж ад'ехацца куды-небудзь далей ад вайны, то можа ўдасца знайсці які цяплейшы прытулак. Ды і сярод сваіх людзей будзеш, а не сярод ваўкоў».

Так пакуль што мы і заставаліся адзінокімі са сваімі марамі пра схованку ў пушчы.

## НЕЧАКАНАЯ ПРАПАНОВА

Усё мае свой пачатак і канец. Ісціна гэтая вядома людзям з малых гадоў.

Аднойчы мы даведаліся, што наступленне немцаў спынена па ўсяму фронту. Той дзень, калі дайшла да нас гэтая вестка, быў хмуры і дажджлівы. Але да позняга вечара мы не пакідалі вуліцы. Людзі гаманілі і не маглі нагаманіцца. Значыць, мы нікуды не едзем! І гэтыя словы гучалі для галынаўцаў, як лепшая песня. Я першы раз за ўсю вайну ўбачыў у гэты дзень матчыну ўсмешку. Лягчэй стала дыхаць і хвораму дзеду.

Бежанцы кінуліся ў воласць: ці не пара варочацца дадому? Але каманды такой воласць яшчэ не мела. З газет вядома было толькі, што фронт запыніўся недзе паміж Мірам і Карэлічамі і што Баранавічы заставаліся ў немцаў.

Бежанцы збіраліся ў гурткі і раіліся, што рабіць. Потым, адзін за адным, пачалі пакідаць сяло. Першымі пакінулі тыя, хто жыў на гэты бок Баранавіч і Карэліч. Тыя ж, хто яшчэ заставаўся ў нас, страшэнна нудзіліся па родных мясцінах. Калі нават землі іхнія і пад немцам, разважалі яны, то ўсё ж весялей зімаваць бліжэй да роднага дому. І яны таксама запрагалі сваіх коней і падаваліся на захад.

Бежанцы пакідалі не толькі наша сяло. Спяшаліся дадому або бліжэй к дому і тыя, што апынуліся ў Бабруйску і іншых дальніх сёлах і гарадах. Зноў у нас спыняліся яны на папас, і зноў мы пасылалі іх на Абадок. Нідзе лепшай травы ўжо не было.

Мы так асмялелі за гэтую восень, што зусім не прызнавалі пана Ясінскага за гаспадара Абадка. Смялей цяпер мы заглядалі і ў панскую пушчу. Бывала, каб назбіраць у лесе апенек на зіму, трэба было купіць у пана квіт. У гэтую ж восень ніхто квітоў не купляў. Лаўрэн хоць і ганяў баб і дзяцей з лесу, аднак шапак і хустак не зрываў. Між іншым, як кажа дзед, некалі галынаўцы таксама мелі права і жывёлу пасвіць у панскіх лясах, і грыбы ды ягады збіраць. «На лес у нас з панам сервітут не разведзены, як і на Абадок»,— даказваў дзед. Гэта ўжо неяк гадоў праз колькі пасля адмены прыгону пан пачаў заводзіць новыя парадкі — за ўсё браць плату. «Каб ён плакаў усё сваё жыццё»,— кляў дзед пана, калі прыходзілася купляць квіт. Ад іншых я чуў іншыя кленічы: «Каб пан згалеў ды, апроч ягад і грыбоў, нічога не меў і не еў!» Або: «Каб пану бокам выйшлі нашы грошыкі!»

Пана клялі, хто як умеў. Мяне заўсёды дзівіла, як пасля гэтага пан жыве на свеце. Што ж, выходзіць, кленічы не маюць ніякай сілы? Яны адскакваюць ад пана як ад сцяны гарох. Тады, выходзіць, не клясці трэба пана, а біць, так, як білі пры зручным выпадку яго стражнікаў. Ды ніхто, відаць, зрабіць гэтага не адважыцца. Пан адзін не ездзіць. Паспрабуй да яго падступіцца! Напасці на яго можна толькі дружным гуртам, так, як гэта рабілі паўстанцы Кастуся Каліноўскага. Вось жа адважны быў

Кастусь! Нікога не баяўся — ні паноў, ні цара. Ды і дзед наш малайчына — кінуў свайго пана Жардзецкага ды падаўся ў партызаны. Хоць і нацярпеўся потым, небарака, на катарзе, але і цяпер не каецца. «За праўду і смерць не страшная»,— любіць паўтараць дзед, успамінаючы свае маладыя гады.

І вось у адзін з такіх дзён, калі мы радаваліся, што мінулася новая самая страшная бяда, на нашым двары зноў закалыхалася высокая постаць старасты Палікара.

— Мусіць, нешта здарылася,— устрывожылася маці, убачыўшы старасту.— Можа пра нашага бацьку што пачуў...

Весткі пра бацьку, як я казаў, няма ўжо другі год. А мы ўсё чакаем яе. Маці распытваецца ў кожнага салдата, ці не ваяваў ён разам з бацькам, ці не ведае, што магло з ім здарыцца. Але ж не, не трапляюцца такія, што чулі пра бацьку. Салдат на вайне, кажуць, мільёны. Усіх ведаць не будзеш. Вось скончыцца вайна, тады будзе вядома: калі ў палоне, значыць, вернецца. А не вернецца з палону, то больш і чакаць няма чаго. Ах, як мы чакалі цяпер канца вайны!

Стараста прывітаўся і прысеў каля стала.

— Халаднавата ўжо,— загаварыў ён, аглядаючы хату.— Восень.

— Але,— адказаў дзед.— Вясна галодная, а восень халодная.

Я слухаў гэтую гаворку і стараўся ўгадаць, чаго хоча стараста, з якімі ён думкамі ці з якою навіною завітаў да нас. Не пра надвор'е ж размову весці прыйшоў ён. Дзеля гэтага ён ходзіць да сваіх блізкіх сяброў і суседзяў. А з дзедам якое ў яго сяброўства!

Пагаманіўшы аб тым ды сім, стараста глянуў на мяне вясёлымі, як здалося мне, вачыма і сказаў:

— Просяць, Пятрусь, людзі, каб ты дзяцей вучыў. Як на гэта глядзіш, га?

Мне вучыць дзяцей? Я збянтэжыўся і не мог слова вымавіць. За мяне адказаў дзед:

— А што ж. Гэта цяпер пайшла мода, каб толькі настаўнікі вучылі. Некалі гэтага не было. Настаўнікі вучылі толькі ў гарадах ды ў мястэчках. А наш брат вучыўся, каму ўдавалася, адзін у аднаго або ў такіх жа вучняў, як Пятрусь.

— Дык і я ж у такога вучыўся,— сказаў Палікар.—

Мы яго дарэктарам звалі. Ты ж можа помніш яго, стары?

— Гэта Зяньковічаў меншы сын?

— Але. Толькі я зусім мала вучыўся. Ды і то добра: сам збольшага прачытаць магу і распісацца дзе трэба.

Ад размовы дзеда са старастам я крыху паспакайнеў. І праўда ж: хіба толькі настаўнік можа навучыць чытаць і пісаць? Навучыў жа дзядзьку Палікара местачковы вучань Зяньковіч!

Але ж ці будуць слухаць мяне малыя? Што ж мне, на каленкі ставіць або даваць «лапы» свавольнікам і гультаям, як гэта рабіў Павел Данілавіч?

Я не згаварваўся з маткаю. Але яна сказала якраз пра тое, пра што я думаў:

— Які з яго настаўнік! Ён жа дзіця яшчэ. А малыя ж вунь якія гарэзы! На іх ушчунак патрэбен. А ён што зробіць?

Палікар пачмыхаў трохі, пакратаў пальцамі сваю залатую завушніцу.

— Дык што ж, выходзіць, праз гэта няхай і сёлета пустуе школа? — сказаў ён сур'ёзна.— А дзеці няхай растуць невукамі? Я вунь не раз прасіў у воласці: «Прышліце настаўніка!» — «Прышлём, чакай!» — адказваюць. А я думаю, чакаць больш няма рахубы. Няхай становіцца Пятрусь за настаўніка, і ўся тут гаворка. Прышлюць лепшага — тады тое будзе. А каб дзеці слухалі яго, я сам пагаманю з імі.

Зрабіўшы перадышку, Палікар запытаўся:

— Ну, дык як, Пятрусь?

— Не ведаю, дзядзька Палікар,— адказаў я.— Я ж не змагу вучыць тры або чатыры аддзяленні, як Павел Данілавіч.

— Тры або чатыры табе і не трэба,— сказаў Палікар.— Хоць бы адно першае вучыў. Той, хто ўжо хадзіў у школу, пачакае. Няхай трохі падвучацца тыя, хто зусім нічога не ведае.

Падумаўшы над апошнімі словамі дзядзькі Палікара, я сказаў:

— Другое аддзяленне мне таксама не цяжка будзе вучыць.

— То яшчэ лепш,— падхапіў староста мае словы.— Вучы два аддзяленні. А мы з дзедам назапасім лазы і памагаць табе будзем. У мяне рука не лёгкая, нябось...

Усміхаючыся, староста працягнуў мне сваю нялёгкую руку.

— Разбівай, Язэп,— сказаў ён дзеду.— Барыш з мяне.

Дзед весела крэкнуў і злёгку стукнуў рабром далоні па нашых руках.

## Я — НАСТАЎНІК!

Я даў згоду, а потым і не рад быў. Лёгка сказаць — стаць настаўнікам таму, хто сам скончыў толькі тры аддзяленні. Мяне адразу агарнуў клопат: як я буду вучыць? Павел Данілавіч звычайна займаўся з адным аддзяленнем, а двум іншым даваў заданні — пісаць або рашаць задачкі. Потым на нейкі час падыходзіў да другога аддзялення. Аднак ён добра бачыў усіх нас. Калі хто лішне заварушыцца нават на задніх лаўках, ужо чуваць зычны і строгі голас настаўніка:

— Дуброўскі Сымон, не штурхай суседа! Сядзі спакойна!

Або:

— Кучук Васіль, не спі на ўроку!

Нават калі мы пачыналі штурхаць адзін аднаго нагамі пад лаўкамі, ён бачыў і гэтае наша свавольства. І заўсёды на стале каля яго побач са школьным журналам у чорнай вокладцы ляжала дубовая лінейка — лапа. Дурасліўцы добра яе ведалі і ўсё збіраліся як-небудзь паламаць. Але Павел Данілавіч замыкаў лапу ў шафе не толькі на ноч, а і на пераменках або, выходзячы, забіраў яе ў сваю кватэру.

А што мне рабіць з гэтым дурасліўцам Дуброўскім ці яго сябрукамі?

Я ўжо хацеў ісці да старасты, каб адмовіцца ад сваёй згоды, ды пакуль сабраўся, староста абвясціў першы дзень заняткаў.

Усю ноч перад тым я сніў школу, Паўла Данілавіча. Быццам я ўсё ніяк не мог адказаць яму ўрока. А ён злаваўся на мяне, крычаў і замахваўся лапаю, хоць дастаць мяне ёю і не мог.

З трывожнымі думкамі прыйшоў я назаўтра ў школу. Тут мяне сустрэла наша школьная старожка цётка Аўдоля. Яна падмятала ганак.

— Самы ранні ты, Петрусёк,— ласкава сказала яна, разагнуўшы спіну.

Я даў ёй дзень добры. І падумаў: як часта я чуў ад цёткі Аўдолі гэтыя словы раней, калі прыходзіў у школу першым. Яна тут з першага дня маёй вучобы. Хата цёткі Аўдолі стаіць побач, за школьнай агарожай. Жыве яна адзінокай. Я нават не ведаю, была ў яе калі сям'я ці не. Гадоў ёй, відаць, ужо нямала, бо твар увесь у маршчынах і плечы згорблены. Але яна яшчэ дужая старая, сама рэжа і коле дровы, сама носіць іх вязанкамі ў школу. Мы наперабой кідаліся на перапынках дапамагаць ёй. Ды цётка Аўдоля не вельмі каго і падпускала да пілы або сякеры. Яна ўсё баялася, што мы ногі сабе пасячом, рукі парэжам.

У школе было чыста і ўтульна. Падлога памыта. Вокны таксама. Ад круглай галандкі павявала прыемным цяплом. Здавалася, усё было, як і раней. Не хапала толькі школьнага шуму і Паўла Данілавіча з лапаю ў руках.

Але дзе ж мае вучні? Можа ніхто і не пойдзе да такога недарослага настаўніка? Мне нават хацелася, каб так і было.

Я папрасіў у цёткі Аўдолі ключ ад школьнай шафы, якая стаяла ў кутку за чорнай галандкаю. У шафе кучамі ляжалі старыя падручнікі для ўсіх аддзяленняў, сшыткі, алоўкі, дубовая лапа. Я знайшоў школьны журнал, паліставў яго і палажыў на стол. Пагледзеў чарніліцы — яны зусім высахлі. Але ўнізе шафы знайшліся дзве пляшкі чорнага чарніла. Я наліў у адну чарніліцу чарніла і таксама паставіў яго на настаўніцкі стол. «Упрочкі выбірайся, а жыта сей»,— успомніў я прыказку, разважаючы аб тым, прыйдзе хто-небудзь да мяне вучыцца ці не. Першнаперш вучняў трэба запісаць па аддзяленнях. Я гэта ведаў. А каб запісаць, патрэбны журнал і чарніла. Цяпер у мяне ўсё гэта было.

Тым часам, пакуль я рыхтаваўся, у школу пачалі заходзіць дзеці. Яны нясмела аглядваліся па баках, моўчкі садзіліся за парты і пазіралі на мяне або на печ. Малыя ў нас не віталіся паміж сабою. Не прывіталіся са мной і мае першыя вучні. З гэтага я зрабіў вывад, што яны не прызнаюць мяне за дарослага, а лічаць сваёю раўнёю. Ніводнай дзяўчынкі сярод іх пакуль што не было. Ды іх і раней было мала, хоць Павел Данілавіч і ўгаварваў бацькоў, каб прысылалі сваіх дачок у школу гэтак жа, як сыноў.

Разам з малымі ў школу заходзілі і некаторыя бацькі.

Яны віталіся са мной — усе ж ужо ведалі, што я настаўнік,— і спыняліся каля цёплай печы. Адтуль чулася іх прыглушаная гаворка. Я чырванеў ад сораму, што сяджу адзінока за настаўніцкім сталом. Каб прыхаваць сваю збянтэжанасць, я ўнурыўся ў школьны журнал, разглядаючы спісы вучняў мінулых гадоў.

Траха не апошнім у школу зайшоў стараста.

— Ну, бачыш,— сказаў ён мне,— збіраюцца дзеці. А я думаў, па іх яшчэ раз пасылаць давядзецца. Значыцца, хочуць вучыцца. Гэта добра. Запісваць у цябе ёсць чым?

— Ёсць, дзядзька Палікар,— сказаў я, паказваючы журнал і ручку.— У шафе ўсё знайшлося, нават кніжкі і сшыткі.

— Ну, то запісвай ахвотнікаў.

Павярнуўшыся да дзяцей, стараста сказаў:

— Хто хоча вучыцца, падыходзьце да стала. Пятрусь вас запіша ў свой журнал. Настаўніка другі год нам не прысылаюць. Кажуць — няма. Маладзейшых на вайну пабралі, а старэйшыя ў сваіх школах вучаць. То мы з вашымі бацькамі надумаліся: няхай вас вучыць Сцяпанаў Пятрусь. Ён хлопец старанны. Хто захоча, таго з вас навучыць і чытаць, і пісаць, і задачкі рашаць. Праўда, Пятрусь?

— Праўда,— адказаў я паціху.

Стараста прысеў на пярэднюю лаўку. Лаўка затрашчала, і ён усхапіўся.

— Ого, яшчэ бяды нараблю.

Стоячы каля стала, стараста гаварыў далей:

— Пятрусь будзе добрым настаўнікам, я за яго ручаюся. Але глядзіце, каб слухалі яго. Добра? Будзеце слухаць?

— Будзем,— адказала некалькі нясмелых галасоў.

— Ну глядзіце ж. Я буду калі-нікалі правяраць, ці слухаеце вы свайго настаўніка.

Стараста выйшаў са школы. За ім пайшлі і бацькі.

Я пачаў запісваць дзяцей у школьны журнал: спачатку першагоднікаў у першае аддзяленне, потым тых, хто ўжо хадзіў у школу, асобна — у другое аддзяленне.

У першае аддзяленне запісалася дзевятнаццаць чалавек, у другое — дванаццаць.

Нішто сабе сямейка, падумаў я. Хаця б справіцца з ёю.

Пасля запісу я дастаў з шафы кучу старых падруч-

нікаў і раздаў вучням: першаму аддзяленню — буквары, другому — кнігі для чытання. Дзеці адразу ж зашасталі падручнікамі, разглядаючы малюнкі. Я не перашкаджаў ім. Ведаў па сабе, як гэта цікава знаёміцца з новаю кнігаю перш-наперш па малюнках.

Потым я расказаў сваім вучням, як будзем вучыцца. Збірацца на ўрокі будзем па званку цёткі Аўдолі. Дзеля гэтага ў раздзявалцы вісіць гадзіннік — ходзікі. Цётка Аўдоля будзе званіць і на перапынкі. На ўроках трэба сядзець ціха. А калі хто захоча выйсці на двор да званка або запытацца аб чым у мяне, мусіць падняць руку. А як жа запытацца? Я так і не надумаўся, як дзеці павінны мяне велічаць. Цяпер жа думаць ужо не было калі, і я сказаў:

— А зваць мяне будзеце... ну так, як і дагэтуль звалі...

— А «гаспадзін» казаць не трэба? — запытаўся кірпаты хлопчык з другога аддзялення, Саўкаў Антось.

— Не, не трэба. «Гаспадзінам» мы звалі толькі Паўла Данілавіча. А я — не сапраўдны настаўнік, а толькі буду замяняць настаўніка.

Дзеці ахвотна згадзіліся з маімі тлумачэннямі, і я пачаў заняткі. Другому аддзяленню сказаў вучыць верш на першай старонцы падручніка: «Бабуля і ўнучак». А навічкам задаў вусную задачу-загадку, такую, якую нам задаваў у першы школьны дзень Павел Данілавіч: «Несла баба ў кашы дзесяць яек, а дно выпала. Колькі яек засталося ў кашы?»

Першагоднікі заварушыліся, зашапталі.

— Ніводнага,— падказвалі вучні з другога аддзялення.

— Ціха,— падышоў я да падказчыкаў.— Яны і без вас разбяруцца.

Падказчыкі прыціхлі, унурыўшы галовы ў падручнікі.

Неўзабаве некаторыя першагоднікі паднялі рукі.

— Ну, колькі? — запытаўся я ў дзяўчынкі з першай скамейкі.

— Дзевяць,— адказала яна.

— Добра, садзіся. А ты як рашыў? — запытаўся ў хлопчыка з трэцяй скамейкі.— Колькі яек засталося ў кашы?

— Дзевяць,— адказаў ён.

— Ніводнага! — мацней зашапталі галасы з другога аддзялення.— Дно выпала... Дно...

Я зноў супакоіў падказчыкаў. І, задаволены, што першагоднікі не разгадалі падману ў задачы, гэтак жа, як і мы некалі, растлумачыў:

— І праўда, дзеці,— ніводнага не засталося. Бо выпала дно каша, а не адно яйка...

Малыя дружна рассмяяліся: спрытна ж іх падмануў малады настаўнік! Але пачакай жа, другі раз яны будуць хітрэйшыя. І ўсе пачалі падымаць рукі і прасіць загадаць ім яшчэ такую задачку на падман. Я пачаў успамінаць загадкі Паўла Данілавіча.

— А і Б,— сказаў я,— сядзелі на трубе. А ўпала, Б прапала. Колькі засталося?

Падманутыя першаю загадкаю, першагоднікі на гэты раз дружна адказалі:

— Нікольні! Нічога не засталося!

І як жа яны расчараваліся, калі даведаліся, што і на гэты раз трапілі пальцам у неба.

— Яшчэ, яшчэ загадвай, настаўнік Пятрусь! — прасілі мае няўдачнікі.

Страху ў мяне цяпер як і не было. Ці мо проста не было калі думаць пра яго? У нас ішла гульня, звычайная, нібы мы гулялі не ў школе, а на вуліцы. І ўсе былі роўныя — не было ні настаўніка, ні вучняў.

Цяпер я загадаў задачу цяжэйшую — для двух аддзяленняў:

— Ляцелі галкі, селі на палкі. Калі на кожную палку сядзе па адной галцы, то не хопіць палак. А калі сядзе па дзве галкі, то не хопіць галак. Колькі было галак і колькі было палак?

Але толькі распачалася ў нас цікавая гульня з галкамі і палкамі, як зычна зазвінеў званок у раздзявалцы. Нікому не хацелася спыняць гульню, ды я цвёрда сказаў:

— Перапынак. Можаце выйсці на двор, хто хоча. А як пачуеце званок на ўрок, бяжыце назад у школу.

— А задачку пра галкі і палкі будзем рашаць? — запыталася дзяўчынка з першай скамейкі.

— Будзем, будзем,— адказаў я.

Я замкнуў шафу, накінуў у раздзявалцы світку нараспашкі і выйшаў са школы.

На дварэ было мокра, церушыў дробны дожджык. Але я, здавалася, не бачыў перад сабою ні дажджу, ні хмарнага неба. Удалы пачатак майго настаўнічання бадзёрыў мяне і радаваў.

## КАЗІК ВЯРНУЎСЯ!

Назаўтра ў нашу Галынаўку заехаў чарговы бежанскі абоз з усходу. Заняткі ў школе ўжо скончыліся, і я разам з іншымі хлопцамі выбег сустракаць людзей. І як жа мы зарадаваліся, калі ўбачылі сваіх знаёмых! Гэта былі першыя бежанцы, што спыняліся ў нашым сяле на папас у пачатку восені. І сярод іх я ўбачыў... Казіка! Толькі сядзеў ён чамусьці на чужым возе. І пазнаць яго адразу цяжка было. Спачатку я пазнаў яго шапку — стаўбунаватую з суконным брылем, а потым ужо і яго самога.

— Казік! — кінуўся я да яго.— Казік!..

Казік саскочыў з воза. Мы абняліся, як гэта робяць дарослыя.

— А дзе твой воз? — запытаўся я, шукаючы вачыма знаёмага стракатага каня.

Казік адвёў ад мяне свае сумныя вочы. Худы твар яго здаваўся нейкім надта хваравітым.

— Няма, Пятрок, у нас ні воза, ні каня,— сказаў ён.— Няма.

— Чаму? Дзе конь?

Тут я ўбачыў цётку Мальвіну — Казікаву маці. Яе я таксама ледзьве пазнаў. За цёткаю Мальвінаю стаяла яе дачка Ева. Я пакінуў Казіка і падышоў да цёткі Мальвіны. Яна прывіталася са мной тым жа сваім «Пахвалёны Езус Хрыстус».

— Хадзем да нас, цётка Мальвіна,— запрасіў я яе.— Маці рада будзе...

— Дзенькуе, Петрусёк.

Казік зняў з воза мяшок, завязаны зверху абрыўкам тонкай вяроўкі. Мяшок, відаць, быў не цяжкі, бо Казік лёгка ўскінуў яго на плячо. Такі ж мяшок зняла з другога воза цётка Мальвіна. Гэты мяшок быў цяжэйшы. Мы з Еваю памаглі цётцы Мальвіне падняць яго на плечы. І ўсе пайшлі да нашай хаты, адкуль насустрач гасцям ужо бегла маці.

— А мая ж ты сястрыца! А мая ж ты галубка!

Маці павісла на шыі ў цёткі Мальвіны, калі тая паставіла мяшок на ганку. Потым прытуліла да сябе Казіка.

— Зблажэў, небарака... Цяжкая, мусіць, дарога была. А дзе ж Адамка? Дзе старая?

Замест адказу Казікава маці зарыдала горкімі слязамі.

І мы здагадаліся, што здарылася нешта страшнае...

Потым Казік мне расказаў пра сваё няўдалае падарожжа ў Бабруйск.

Было яно так.

Памучыўшыся з тыдзень, бежанцы даехалі да Бабруйска. Знайшлі там камітэт па бежанскіх справах. У камітэце сказалі: «Прадавайце коней ды садзіцеся на цягнік». Гэта значыць, цяпер трэба ехаць далёка, куды конь ужо не давязе. А хто не хацеў ехаць на цягніку, камітэтчыкі казалі: «Тады жывіце дзе хочаце і як хочаце. Па дапамогу да нас не заяўляйцеся».

Мала хто паслухаў камітэтчыкаў. Бяздомныя людзі раз'язджаліся па ваколіцах Бабруйска. Казік са сваімі землякамі спыніўся недалёка ад горада пры маёнтку пана Бараноўскага. Там ужо сабраўся цэлы бежанскі табар. Бліжэйшыя вёскі і сёлы былі перапоўнены.

Пан Бараноўскі ганяў няшчасных людзей як мог. А табар усё рос ды рос. Бежанцы абляпілі маёнтак з усіх бакоў. Яны раскладалі вогнішча і пяклі бульбу, выкапаную на панскім полі. Хваробы лютавалі тут з першых дзён прыезду Казіка і яго сям'і. Начамі было холадна, і людзі прастуджваліся ў сваіх летніх буданах.

Аднойчы моцна захварэў ад прастуды меншы Казікаў брат — Адамка. Ён гарэў як у агні і цяжка стагнаў. Доктара нідзе паблізу не было. Яго трэба было шукаць у самім горадзе. Маці Казікава яшчэ мела грошы, на доктара хапіла б. Але куды падзець хворага? Дзе знайсці яму лепшы прытулак? Маці кінулася ў дашчаны домік пана Бараноўскага. Ён быў ужо запоўнены хворымі. Сяк-так знайшла там мясціну і для Адамкі ды паехала ў горад шукаць доктара.

Адамка, аднак, не дачакаўся доктара...

Праз некалькі дзён пасля яго смерці захварэла Казікава бабуля. У табары загаварылі пра халеру. Маці не знаходзіла сабе месца ад вялікага гора. Тады Казік запрог каня, і сям'я пакінула маёнтак пана Бараноўскага. У першай жа вёсцы яны прадалі свайго стракатага каня і павозку на жалезным хаду, бо ні хлеба, ні грошай ужо не мелі. Гэта і выратавала рэшту сям'і ад смерці. Праўда, бабуля ўжо не паднялася: памерла ад запалення лёгкіх.

Выгналі хваробы з маёнтка пана Бараноўскага і іншых Казікавых землякоў.

У гэтую сустрэчу я яшчэ больш зблізіўся і пасябраваў

з Казікам. Перажытае ім гора адклікалася болем і ў маёй душы. Як я каяўся, што не адгаварыў тады Казіка ехаць у той далёкі Бабруйск! У нас такой бяды не здарылася б. Халеры ў нас таксама пакуль што не чуваць.

Я расказаў Казіку пра школу. Казік спачатку не паверыў.

— Ты настаўнік? — моцна здзівіўся ён.— Хто цябе паставіў за настаўніка?

— Стараста.

— А ці ж ён мае на гэта права? Настаўнікаў прызначае воласць.

— Воласць пэўна ж не паставіць мяне вучыць дзяцей. А стараста можа. Хто яму ў сваім сяле забароніць? Не верыш — прыходзь заўтра ў школу, убачыш.

— А хто табе плаціць?

— Пакуль ніхто. Стараста казаў, будуць плаціць самі бацькі — хто што дасць.

— У нас гэтак пастухоў наймалі,— сказаў Казік.

— І ў нас гэтак наймаюць.

Казік пацікавіўся, як я вучу. Калі я расказаў, ён шчыра паспачуваў мне:

— Дарэмна ты ўзяў два аддзяленні. Цяжка будзе.

— Мне ўжо не лёгка,— прызнаўся я.— У першы дзень запісалася больш трыццаці вучняў. А потым прыйшло яшчэ чалавек дзесяць.

— А дзе ты кніжкі бярэш?

— Старыя знайшліся. Наш настаўнік запаслівы быў. Нават крэйды з паўпуда ў шафе валяецца.

— І дошкі грыфельныя ёсць?

— Ёсць і дошкі.

Назаўтра, калі я збіраўся ў школу, Казік сказаў:

— Давай і я пайду з табою, пагляджу.

— Добра, Казік,— згадзіўся я.— Ты мне паможаш. Я табе дам другое аддзяленне.

З першага ж урока я ўбачыў, што вучыць удваіх у адным школьным пакоі, хоць ён і прасторны, цяжэй, чым аднаму. Вучням невядома, каго слухаць — свайго настаўніка ці яго суседа. Аднаму з нас усё роўна трэба весці ўрок моўчкі.

На перамецы Казіку прыйшла ў галаву добрая думка.

— Удвух вучыць лягчэй,— сказаў ён.— Толькі не разам.

— Дык што, па-твойму, ставіць перагародку?
— Навошта перагародку.
— А як жа?
— Хто займае настаўніцкую кватэру?
— Ніхто.
— Пакажы яе мне.

Я папрасіў у цёткі Аўдолі ключ і адамкнуў дзверы, што вялі ў настаўніцкую кватэру. Гэта быў досыць вялікі пакой, крыху выцягнуты ўдоўжкі, з двума светлымі вокнамі. За дашчанаю перагародкаю была невялічкая кухня — там стаяла прысадзістая печ з плітою пры боку, стол і два зэдлікі.

— Цудоўна! — усклікнуў Казік.— Калі б у цябе быў памочнік, дык лепшага класа для другога аддзялення і не трэба.

— І праўда! — згадзіўся я.— Не хапае толькі дошкі.

— Дошку можна зрабіць.

Пасля гэтага добрая думка прыйшла раптам і ў маю галаву:

— Вось і станавіся, Казік, у мяне за памочніка, або я ў цябе. Гэта ўсё роўна.

Я сказаў гэта зусім шчыра. Казік не горш, і лепш за мяне можа вучыць другое аддзяленне: ён і старэйшы і больш вучыўся.

Але Казік не прыняў маёй прапановы.

— Не,— сказаў ён,— мы паедзем бліжэй да сваёй бацькаўшчыны. А ў вас хіба нікога не знойдзецца?

— Знойдуцца такія, як я. Але мне б хацелася вучыць разам з табою. Вам жа ўсё роўна трэба будзе зімаваць недзе ў чужых людзей...

Казік задумаўся.

— Я мог бы застацца,— сказаў ён нарэшце.— А маці? Яна баіцца адарвацца ад сваіх. Ды і стараста ваш не згодзіцца. Я ж не тутэйшы...

У той жа дзень я гаварыў са старастам. Ён не пярэчыў.

— Няхай вучыць,— сказаў ён,— калі ты яго так хваліш. Але адказваць за ўсё будзеш сам.

Я перадаў Казіку старастава словы. Казік аж засвяціўся ад радасці. Відаць, яму вельмі хацелася застацца ў нас. Затое маці і слухаць не хацела ні яго, ні мяне.

Выратаваў справу дзед.

— Папрасі,— параіў ён цётцы Мальвіне,— сваіх знаё-

мых, і яны напішуць, што там і як. Калі што якое, то я сам запрагу Арла і завязу вас куды захочаце. Сходзіў летась наш Арол у Мінск, сходзіць памаленьку і за Нясвіж ці за Стоўбцы. Не так гэта і далёка.

Маці мая таксама моцна ўгаварвала цётку Мальвіну.

— Як-небудзь перазімуем, сястрыца,— казала яна.— Хлеба вобмаль, то можа хлопцам што дадуць людзі. Неяк жа будзе.

Не лёгка было цётцы Мальвіне адрывацца ад сваякоў ды землякоў, але гуртам мы ўсё ж угаварылі яе.

Праўда, яна, відаць, больш паслухала Казіка, чым нас.

## ПОП ВАСІЛЬ

Нашы школьныя справы пайшлі лепш. Я вучыў першае аддзяленне, Казік — другое. Вучылі мы як умелі. Замест школьнай дошкі Казік прымайстраваў да сцяны грыфельную. Пісаў на ёй буйнымі літарамі.

У шафе запаслівага Паўла Данілавіча знайшлася разразная азбука, па якой вучыўся і я сам. Цяпер другое аддзяленне нам не перашкаджала, і мы на ўвесь голас паўтаралі літары і склады з гэтай азбукі: ма-ма, Ма-ша, ка-ша... Потым знаходзілі такія ж літары ў буквары пад малюнкамі. Калі нам надакучвала азбука, пісалі ў сшытках палачкі — і роўныя, і закругленыя ўверсе або ўнізе.

Але найбольш любілі мае першагодкі хітрыя задачкі і загадкі. Запас загадак у мяне быў невялікі, і хутка самі вучні пачалі папаўняць яго. Яны збіралі загадкі па ўсім сяле, і вельмі радаваліся тыя, каму ўдавалася прынесці ў школу самую мудроную загадку. А і праўда, паспрабуй адгадаць, не ведаючы: «Сядзіць дзявіца ў цёмнай цямніцы, каса на вуліцы». Або: «За белым бярэзнічкам талалай брэша». Здагадайся, што дзявіца — гэта звычайная моркаўка, а талалай — язык? Мы доўга ламалі галовы, а той, хто прынёс загадку, цярпліва чакаў, пакуль я не даваў каманду: «Ну, скажы, Сымон (ці Сцяпан), адгадку, а то мы тваёй загадкі не раскусім».

Павел Данілавіч раней часта чытаў нам апавяданні і казкі. Я знайшоў у шафе знаёмыя мне кніжкі. Казкі і апавяданні зацікавілі маіх слухачоў не менш, чым загадкі.

Адным словам, наракаць на сваю работу мне пакуль што не было прычыны.

Праз які тыдзень у школу зайшоў поп Васіль. Я не чакаў такога госця. Стаю і не ведаю, што рабіць.

— Здрастуйце, дзеці! — сказаў ён, знімаючы капялюш.

Збянтэжаныя вучні прамаўчалі гэтак жа, як і я.

Поп падышоў да стала, акінуў вачыма наш прасторны клас, паўглядаўся на сцены, дзе віселі партрэты цара і царыцы, а потым, павярнуўшыся да дзяцей, запытаўся:

— Што вам трэба рабіць, калі ў школу заходзіць настаўнік або хто старэйшы?

Дзеці маўчалі. Адкуль яны ведалі, што рабіць? Пра гэта я ім не гаварыў.

Усе мы не раз бачылі папа Васіля і добра ведалі яго. Але чамусьці ўсе і баяліся яго.

Невысокі, камлюкаваты, у доўгім да пят чорным балахоне з шырознымі рукавамі. На галаве брудна-рыжы капялюш замест шапкі. Валасы доўгія, як у бабы. На нагах бліпчастыя боты, халявы якіх закрыты балахонам,— такім быў знешні партрэт папа Васіля. Мы, малыя, заўсёды цікавіліся, што носіць поп пад чорным балахонам: штаны ці спадніцу? Шырокая з сівізною барада сведчыла, што поп — мужчына. А доўгія валасы збівалі з панталыку: а можа ён і несапраўдны мужчына?

— Трэба ўстаць, калі ў школу заходзіць старэйшы! — строга сказаў поп.

Толькі цяпер я пачынаў разумець сваю памылку. Мне самому трэба было загадаць дзецям устаць і адказаць на папова прывітанне. Разгублены, я не ведаў, што рабіць: папраўляць памылку ці прамаўчаць і далей.

Поп прысеў на крэсла, чырвоны, сярдзіты.

— Вядзі ўрок,— сказаў ён мне,— я паслухаю.

Ці трэба казаць, які там быў у мяне ўрок. Я не мог слова вымавіць. Страх сушыў мне горла. Да гэтага часу ніхто са старэйшых да мяне на заняткі не заходзіў. З вучнямі я ўжо асвойтаўся і трымаў сябе вольна. Я нават дзівіўся, адкуль у мяне што бярэцца. Думкі і словы лёгка прыходзілі мне ў галаву. Цяпер жа я пыкаў, мыкаў і ледзьве трымаўся на нагах.

Поп слухаў мой блытаны ўрок і нездаволена круціў калматаю галавою.

— А малітвам ты вучыш? — раптам перапыніў ён мяне.

Малітвам? Ды мне проста ў галаву не прыйшла такая

думка. Раней, калі я вучыўся, мы гаварылі і спявалі разам з настаўнікам «Отча наш» і «Дастойна есць» — перад пачаткам і пасля ўрокаў. Я ведаў гэтыя пацеры, або малітвы, як кажа поп. Ды не думаў, што і мне цяпер трэба спяваць іх са сваімі вучнямі. Стараста сказаў мне вучыць дзяцей чытаць і пісаць, а не спяваць «Дастойна есць». Так што малітвы проста выскачылі ў мяне з галавы. А Казік, той і зусім нашых малітваў не ведае. Ён хрысціцца і моліцца па-каталіцку, як яго маці.

Вядома, я сказаў папу шчырую праўду: не, малітвам я не вучу...

— Школа без малітваў і закону божага — не школа,— сказаў поп.— Чаму ты іх навучыш?

— Чытаць, пісаць і рашаць задачы,— адказаў я здубянелым языком.

— Вучыць дзяцей спярша трэба слову божаму, а потым ужо чалавечаму,— паправіў мяне поп.— Ты чый будзеш?

Я адказаў.

— Стары Язэп Валовіч, значыць, твой дзед?

— Ага.

Поп падняўся з крэсла, пахадзіў па класе, памацаў рукою цёплую круглую печ. Потым утаропіўся на мяне.

— А сам ты, настаўнік самазваны, ведаеш малітвы? Ці такі ж бязбожнік, як твой дзед?

— Ведаю, бацюшка,— адказаў я папу не вельмі ўпэўненым голасам.

— Дзесяць запаведзяў ведаеш?

Я матнуў галавою.

— Раскажы.

Я пачаў расказваць і адразу ж зблытаўся: з другой запаведзі пераскочыў на чацвёртую, з чацвёртай — на трэцюю...

Поп спыніў мяне:

— Хопіць.

Я змоўк, калоцячыся ад страху. Ведаю ж я гэтыя запаведзі, дзесяткі разоў паўтараў іх, а тут як хто пераблытаў іх у галаве.

— Хто цябе паставіў за настаўніка? — запытаўся поп.

— Стараста,— сказаў я.

— А там вунь, у настаўніцкай кватэры, галасы чуваць — хто там займаецца?

— Мой сябар Казік.

— А ён што, гэтак жа ведае малітвы, як і ты?

— Не, бацюшка,— адказаў я.— Ён ведае толькі свае каталіцкія малітвы.

Поп вырачыў на мяне спалоханыя вочы.

— Дык ён не праваслаўны?

— Не.

— І ўзяўся вучыць у праваслаўна-рускай школе?

— Ён не ўзяўся,— растлумачыў я папу.— Я сам упрасіў яго.

Мне хацелася яшчэ расказаць папу, што Казік вельмі добры хлопец, што ён няшчасны бежанец. Але я адчуў, што словы мае да папа Васіля не дойдуць. Мне стала сумна і крыўдна, і я змоўк.

Поп надзеў свой брудна-рыжы капялюш і, нічога не сказаўшы, бразнуў дзвярыма.

Пад вечар стараста Палікар паклікаў мяне і сказаў, што ён закрывае школу.

## ДЗЯДЗЬКА ГАРАСІМ

Вестка пра тое, што стараста закрыў школу, моцна ўразіла і малых і старых.

Бацькі нашых вучняў кінуліся да старасты.

— Не я закрыў школу,— сказаў стараста.— Навошта мне было яе закрываць.

— А хто?

— Бацюшка.

— Гэта не папова школа,— абураліся бацькі.— Ён можа царкву закрыць, а не школу.

— Школа наша не царкоўнапрыходская, а земская!

Збіты з панталыку стараста разводзіў рукамі:

— Што я магу зрабіць? Маладыя нашы настаўнікі, бачыце, не вучаць дзяцей пацерам. Ну, поп і ўзлаваўся.

— Дык няхай ён сам вучыць!

— А хто яму плаціць будзе? Папу ж не пасуліш гарнец жыта. Яму трэба плаціць грашыма, ды і не малымі.

— Хіба ў яго сваіх не хапае? — перапынялі мужчыны старасту.— Вунь якія абшары вакол царквы! І за ўсё бярэ...

— Схадзіце самі да яго,— параіў стараста.— Можа ён вас паслухае. А мне цвёрда заявіў: калі не закрыю шко-

лу, у царкве каб і нагі маёй не было. Дык што ж мне, ад бога адракацца. Я чалавек набожны...

Смялейшыя ды байчэйшыя на гаворку галынаўцы рушылі да папа.

— Навошта вам школа,— сказаў ім поп Васіль.— Вы самі раслі без школы, вырастуць і вашы чады [1]. Клапаціцеся, праваслаўныя, каб чады вашы раслі ў пакоры, маліліся ўсявышняму. А калі іх у школе не вучаць слову божаму, то якая ж гэта навука. Грэх адзін. Грэх! Навучацца ды пачнуць чытаць усялякія багахульныя кніжкі. Цяпер іх вунь колькі развялося — гэтых бязбожнікаў.

Поп Васіль не здаўся і забароны сваёй не зняў. «Пакуль не прышлюць настаўніка, які будзе вучыць так, як прадпісвае свяшчэнны сінод,— цвёрда сказаў ён,— ніякай гаворкі, праваслаўныя, пра школу і быць не можа».

Хадакі вярнуліся ад папа хмурыя і разгубленыя.

Засмучаны Казік пачаў збірацца ў дарогу. Якраз у гэты час прыйшло пісьмо ад сваякоў. Яны спыніліся недзе за Стоўбцамі ў вёсцы Ялоўка. Хат пустых, пішуць, там пакуль што хапае, бо шмат хто з гаспадароў трапіў на Волгу і на Урал і вернуцца адтуль не скора.

Дзед, як і абяцаў, завёз цётку Мальвіну да яе сваякоў. «Далей,— казаў,— нікога не пускаюць. Там скрозь адны салдаты». Развітваючыся з дзедам, Казік горка плакаў. Мне так шкада яго, што я і сам гатоў цяпер плакаць. Як яны там будуць жыць? У іх жа ніякай гаспадаркі!

Тым часам, пакуль дзед вазіў Казіка, у сяле адбыліся дзве новыя падзеі. Першая — гэта вярнуўся з горада з усёю сям'ёю сусед Гарасім. Другая падзея — палавіна галынаўцаў не пайшла ў чарговую нядзелю ў царкву...

Пачалося гэта ад Гарасіма. Гэта ён падліў масла ў агонь. «Богу,— казаў ён,— вы шкоды не зробіце, памаліцеся яму дома, а поп няхай паскрабе грыву, падумае, чаму царква пустуе». Злосць на папа была яшчэ такая свежая, што доўга ўгаворваць людзей не прыйшлося.

Бацькі Гарасімавы памерлі, і ў маленькай хатцы, дзе ён нарадзіўся, жыла цяпер сям'я малодшага брата Рыгора. Сам Рыгор быў на вайне. Гарасім — невысокі, бледны, з упалымі грудзьмі, з лёгкаю сівізною на скронях чалавек — часта кашляў, як і наш дзед. Але, кашляючы, ён трымаў каля губ хустачку, чаго дзед не рабіў.

---

[1] Чада — дзіця *(царк.-слав.)*.

Першыя дні Гарасім усё хадзіў па сяле, па ваколіцы, да ўсяго прыглядаўся. Потым узяў у рукі сякеру і пілу і пачаў высякаць і выразаць у варывеньцы, што стаяла на двары супраць старой бацькавай хаткі, вокны. Сам збіў для акенцаў рамы, сам зашкліў. Толькі печ памог яму скласці стары і глухі пячнік Цімох. Пасля гэтага Гарасімава сям'я — жонка і дзве дачкі-падлеткі — перабралася з цеснай бацькавай хаткі ў варывеньку.

Пачалася зіма, і ўсё ў сяле на нейкі час супакоілася.

Па-ранейшаму я чытаў і адпісваў салдацкія пісьмы. Цяпер пісьмы з фронту былі трошкі весялейшыя. Салдаты сядзелі ў акопах або кватаравалі па пустых сёлах і вёсках. Немцы таксама закапаліся на зіму ў зямлю.

Пачалі прыязджаць салдаты і на пабыўку. Гэта была добрая прымета. Раней, калі арміі адступалі і наступалі, салдат дамоў не пускалі.

«Немец выдыхся,— расказвалі салдаты-адпускнікі.— Сядзіць у акопах і пілікае на губных гармоніках. Ды і ў нас не лепш. Хаця б к вясне сабраліся з духам».

Генералаў і сваіх камандзіраў салдаты таксама не хвалілі, як і ў першы год вайны. «Адзін камандуе адно, другі — другое,— расказвалі яны.— Адзін наступае, другі адступае. Ніякага парадку. А з салдата шкуру дзяруць. Ваюй з голымі рукамі і пустым жыватом! Якая гэта вайна?!»

Але пачуў я і нешта новае ад салдат-акопнікаў. Яны часта ўспаміналі цара. Нібыта цар Мікалай (Мікалашкам звалі яго салдаты) — нейкі дурны і сляпы, не бачыць, што ў яго пад носам робіцца...

А пад носам у Мікалашкі рабіліся зусім брудныя справы. Усю ўладу над ім і яго жонкаю з нямецкага роду, царыцай Аляксандрай Фёдараўнай, захапіў распусны поп-расстрыга [1] Грышка Распуцін. І цяпер цар без Распуціна, што дзіця без нянькі. Што Распуцін скажа, тое цар і робіць.

Можа ён які чарадзей, гэты Распуцін? Царыца, дык тая, кажуць, дня пражыць без яго не можа. Захоча Распуцін міністра зняць або генерала, шапне царыцы — і міністра ці генерала толькі і бачылі. «Дык як жа,— абураліся салдаты,— можна ваяваць за цара, калі ён зусім і не цар, а слуга Грышкі Распуціна і сваёй жонкі-немкі? Мы ж

[1] Расстрыга — поп, пазбаўлены свайго сану.

прысягалі ваяваць за веру, цара і айчыну. А цяпер, выходзіць, ваюем за Распуціна...»

Гэта было для мяне вялікім дзівам. Мне захацелася пасля гэтага пайсці ў школу, садраць дурнога і сляпога Мікалашку са сцяны ды выкінуць на сметнік. Такая была на яго злосць.

Я ўжо нават збіраўся схадзіць да цёткі Аўдолі папрасіць ключ, быццам мне трэба кніжку якую ўзяць у шафе. Але ў гэты час сустрэўся з Гарасімам адзін на адзін. Я чэрпаў ваду ў калодзежы. Гарасім сам падышоў да мяне, даў добры дзень.

— Ну, як жывеш, малады настаўнік?

— Нічога, дзядзька Гарасім, добра,— адказаў я, крыху разгубіўшыся.

— А я, брат, вот жыву нядобра,— уздыхнуў ён.

— Чаму ж гэта?

— Сухоты не даюць спакою. Зараз вот падсохла, трохі ў грудзях палягчэла. А ў гнілую восень цяжка...

Я ўжо ведаў, што ў дзядзькі Гарасіма сухоты. Мусіць, з гэтай прычыны яго і ў салдаты не бяруць. Казалі нават, што нядаўна ён сядзеў у турме. Нікога не пакрыўдзіў, нічога не ўкраў, а пасадзілі яго за тое, што нейкія забароненыя кнігі чытаў. Цікава, якія гэта ёсць кнігі забароненыя? Хто і навошта друкуе такія кнігі, якія забаронена чытаць? Мне нават хацелася распытацца пра гэтае дзіва дакладней у самога Гарасіма, ды не адважваўся.

— Нарабіў ты, брат, папу клопату,— усміхнуўся Гарасім.

— Якога?

— Ну, другую нядзелю вунь нашы ў царкву не ідуць...

— А-а,— зразумеў я.— Наш дзед ніколі ў царкву не ходзіць, і нічагусенькі.

— Дзеду то што? А папу?

— А што папу. Дзед яго не чапае.

— Папу, брат, два ўроны ад гэтага. Адзін, што дзед свечак не ставіць, а другі, што, гледзячы на яго, і іншыя не вельмі шчыра моляцца. А ты кажаш — што папу? Каб, барані бог, архірэй даведаўся, што ў прыходзе папа Васіля жыве такі дзед Язэп, які не ходзіць у царкву, даў бы ён папу перцу.

— Поп не раз страшыў дзеда пеклам, ды дзед усё роўна не слухае яго.

— І добра робіць,— сказаў Гарасім.— Дзед сам сваім розумам дайшоў, што папы людзям не патрэбны.

— Як не патрэбны? — здзівіўся я.— А хто ж будзе хрысціць людзей?

Гарасім задумаўся. Відаць, маё пытанне было для яго не простым.

— Ну,— сказаў ён пачакаўшы,— хрысціць справа іншая. Нехта ж павінен даць імя чалавеку. Хоць не канечне гэта рабіць папу. А розныя абедні ды вячэрні — каму яны патрэбны? Богу? А дзе ж ён, той бог? Хто яго бачыў?

Я першы раз пачуў такое, што гаварыў Гарасім. Дзед толькі папоў не прызнаваў. Бога ён не чапаў.

— Хочаш,— сказаў Гарасім,— я дам табе пачытаць цікавую кнігу пра багоў?

— Я іх чытаў,— адказаў я.— І закон божы вучыў.

— Ну, такой ты не чытаў. Называецца «Ці быў Хрыстос?».

Не, сапраўды такая кніга мне не траплялася. Я чытаў кніжкі пра святых, як яны шчыра пасцілі і маліліся богу, як бог пачуў іх малітвы і забраў да сябе на неба. Цікавыя кніжкі, што і казаць. Але вельмі ж усе на адзін лад. Бадай адно і тое ж расказваецца пра ўсіх святых. Мяняюцца толькі імёны. Гэтыя кніжкі і цяпер ляжаць у школьнай шафе.

Дзядзька Гарасім зайшоў у сваю варывеньку і неўзабаве вярнуўся адтуль з кніжкаю.

— Пачытай,— сказаў, падаючы мне досыць тоўстую кніжку ў мяккай светлай вокладцы.— Тут не ўсё ясна напісана. Ды сёе-тое зразумець можна. У мяне, відаць, грамата мала большая за тваю.

У той жа дзень я пачаў чытаць кніжку «Ці быў Хрыстос?». Яна павяла мяне ў далёкую гісторыю старажытных народаў Егіпта і Рымскай імперыі. Раней я не вучыў і не чытаў нічога пра такую старасветчыну. Але сёе-тое ведаў пра яе з закону божага. І таму ў кніжцы я часта сустракаў знаёмыя імёны паганскіх багоў, фараонаў і цароў, назвы рэк і гарадоў. У ёй расказвалася, як жылі некалі народы тых старажытных краін, якім багам яны пакланяліся да нараджэння Ісуса Хрыста. Упаміналася многа імён і падзей, не ўсе яны запаміналіся, але чытаць пра іх было цікава. На другі дзень я дабраўся да самога Хрыста. І тут пайшло для мяне дзіва за дзівам.

Кніжка павяла спрэчку з новым запаветам закону бо-

жага, у якім расказваецца пра нараджэнне Хрыста і яго святое жыццё. Усё, аб чым напісана ў законе, яна тлумачыць па-свойму. Ды так, што пачынаеш верыць гэтай кніжцы, а не закону божаму. Праўда, нідзе не сказана ясна, што Хрыста не было на свеце. Але выходзіла, што магло і не быць, бо ён не пакінуў ніякага следу ў гісторыі таго часу. А жыццё і святыя справы Хрыста вельмі ж падобны на жыццё і справы ранейшых паганскіх багоў...

Адным словам, кніжка дзядзькі Гарасіма закранула мяне за жывое. Мне хацелася гаварыць аб ёй, чытаць яе другім. Ды з кім я мог гаварыць? Каму чытаць? Дзед гісторыі не чытаў і не ведае ні старой, ні новай. Фараонаў ён ведае толькі жывых. Урэшце, яму, здаецца, усё роўна, быў Хрыстос ці не. Маці, тая і зусім такімі справамі не цікавіцца. Яна ўмее хрысціцца, ведае «Отча наш», і гэтага ёй хапае. Юзіка я ўсё яшчэ лічыў малым, хоць малодшы за мяне ён усяго на два гады.

І я пайшоў да Гарасіма. Мы доўга гаварылі пра кніжку «Ці быў Хрыстос?», а потым Гарасім сказаў мне, што ён даўно цікавіцца царкоўнымі справамі. Што-нішто ён і яшчэ чытаў пра багоў і папоў. Ды тых кніжак у яго цяпер няма.

— А ты думаеш, усе папы вераць у бога? — раптам сказаў ён, азіраючыся навокал. Мы гаварылі на двары каля яго варыванькі.

Як жа, каб папы не верылі? Для мяне тут і гаворкі не магло быць. І я адказаў, што іначай не былі б яны папамі. Гарасім зноў азірнуўся.

— Малы ты яшчэ. Падрасцеш, убачыш, што на свеце робіцца. Многія папы, брат, моляцца не для Ісуса, а для хлеба куса. Адбяры ў папа рызу,— кім ён стане? Такім жа бедняком, як твой дзед або я.

Я паспрабаваў уявіць папа Васіля бедняком. Ды зрабіць гэта мне ніяк не ўдавалася: не хапала ўяўлення. Для гэтага папу трэба было б пахуднець разы ў тры, абуць лядашчыя рваныя лапцікі, старэнькія саматканыя штаны, латаную шэрую світку... Адным словам, поп стаў бы тады не папом, а маім дзедам. Раскошныя папоўскія харомы прыйшлося б ператварыць у варывеньку, падобную на Гарасімаву, а сытых коней — у нашага слепавокага Арла. Не, такая задача не для мяне.

Я сабраўся ісці дахаты. Гарасім сказаў:

— Толькі ты, Петрусёк, лепш не кажы нікому, што

браў у мяне гэтую кніжку. А то мала што — дойдзе, чаго добрага, да папа Васіля... Пачне дапытвацца, адкуль і што ўзялося...

Я дакляраваў, што буду маўчаць, хоць мне і было незразумела, чаму Гарасіму трэба асцерагацца папа. Поп жа не паліцэйскі стражнік!

## КУДЫ МУЖЫЦКІЯ ГРОШЫ ІДУЦЬ

Нарэшце прыйшла сапраўдная зіма — з глыбокімі снягамі і моцнымі маразамі. Мы, малыя, радаваліся зіме, хоць яна і не песціла нас у нашых лёгкіх, ношаных і пераношаных світачках, у летніх шапках і лазовых лапцірах. З горак засвісталі санкі, па люстраных коўзанках на рэчцы і на азёрцах загулі драўляныя з драцяною абцяжкаю канькі. Любілі мы ў адліжныя дні і паваляцца ў снягу ды пашпурляць адзін у аднаго снежкамі. Ссінееш, бывала, састылееш на холадзе, а даклікацца ў хату маці не можа. Зіма з яе нягодамі больш даймала дарослых, чым нас. Мы лягчэй перажываем гора і нястачы ў сям'і. А калі збіраліся на вуліцы ў гурт, то, вядома, не бажкалі, як старыя, а забаўляліся так, як і трэба малым.

Клопат з ракруцкімі пісьмамі ўзяў на сябе цяпер Гарасім. Сталася гэта так. Гарасім жыў вельмі бедна. З бацькавай гаспадаркі ён меў права на палавіну надзелу. Але ж вярнуўся ён дадому ўвосень. Цяпер чакай вясны, калі ўдасца што пасеяць, потым чакай восені, калі ўдасца сабраць ураджай. А пакуль што ён жыў з таго, што рабіў шчоткі са свінога шчаціння, вязаў венікі, плёў круглыя саламяныя падсцілкі на падлогу і ўсё гэта насіў у мястэчка прадаваць. З мястэчка ён заадно прыносіў пісьмы, чытаў іх і ахвотна браўся адпісваць. Ніякай платы ён не дамагаўся. Але хто-ніхто адкройваў яму кавалак хлеба або ўсыпаў у торбачку гарнец жыта ці ячменю. Я быў вельмі рады, што бедны дзядзька Гарасім знайшоў сабе сякую-такую работу.

У цеснай Гарасімавай варывеньцы збіраліся старыя мужчыны. Ён гаварыў з імі пра жыццё-быццё, чытаў свежыя газеты. Сяды-тады браў у яго пачытаць газету і я. Іншы раз Гарасім сам прыносіў газету ў нашу хату і паказваў, што варта пачытаць. Аднойчы разам з газетаю ён прынёс мне невялічкую кніжачку.

— Паглядзі, калі будзе час,— скупа сказаў.— Толькі чытай адзін. Потым раскажаш, пра што тут пішацца...

— А вы хіба яшчэ не чыталі яе?

— Чытаў, ды не вельмі разабраўся,— загадкава ўсміхнуўся Гарасім.

Калі ён пайшоў, я замест газеты спачатку ўзяўся чытаць кніжку. Кніжка мела нейкую дзіўную назву: «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць». Словы «гутарка» і «грошы» мне вядомы. Але ж яны нашы, мужыцкія словы. У кніжках яны не сустракаюцца. Там іх замяняюць словы «беседа» і «деньги». Ды і наогул кніжкі пішуцца не так, як мы гаворым. А тут нават і іншыя словы не так напісаны, як трэба. Дзіва! Я прабег вачыма першыя радкі кніжкі. І мне стала ясна: кніжка знарок напісана і надрукавана па-нашаму. Значыць, гэта не памылкі. Ужо адно гэта прымусіла мяне не адрывацца ад кніжкі. Але хутка я ўбачыў, што за простымі мужыцкімі словамі хаваўся і просты, ясны змест. Ды які змест! Гаворка ішла аб тым, чаму мужыкам дрэнна жывецца, хто нажываецца з іхняй працы і беднасці. Тут ужо я забыўся і пра напамін дзядзькі Гарасіма чытаць кніжку аднаму, а адразу ж падсеў да дзеда.

— Паслухай, дзед, што расказваецца ў кніжцы пра наша жыццё.

І я прачытаў невялічкую кніжку адным духам. А дзед нават курыць перастаў — слухаў, як добрую казку.

Потым мы чыталі з дзедам гэтую дзіўную мужыцкую кніжку яшчэ разы тры і ніяк не маглі начытацца: што ні слова ў ёй, то праўда. Праўда, што мужыка як ліпку абдзіраюць рознымі зборамі, паборамі, акцызамі і ліха ведае чым. Праўда, што мужыкі з голаду паміраюць, а цар і паны ў золаце купаюцца. Усё праўда! Што ні слова, то праўда. І пра паноў-крывасмокаў праўду напісалі.

Не, Гарасім не павінен хаваць гэтай кніжкі ад людзей, яе трэба чытаць усім, усім!

Я пабег да Гарасіма і сказаў яму, што мне хацелася сказаць пра яго кніжку.

— Трэба сабраць сход,— параіў я,— і прачытаць яе ўсім.

Гарасім быў вельмі рад, што я так усхваляваўся ад кніжкі. Але сказаў:

— Не, Петрусёк, кніжка гэтая забаронена... За чытанне такіх кніжак людзей у турму садзяць.

— Але ж у ёй усё праўда.

— Вот жа гэтая праўда і коле вочы тым, каго яна выкрывае. Што, ваш поп пахваліць гэтую кніжку так, як ты?

— Не,— рашуча адказаў я.— Там і пра папоўскія крудельствы расказваецца.

— То-та ж. А ўраднік?

— Ён цару служыць...

— А сам цар?

Тут ужо і адказваць не было патрэбы.

— Дык як ты думаеш,— сказаў Гарасім,— яны нас па галоўцы пагладзяць ці ў турму пасадзяць?

Пасля такога тлумачэння мне ўсё стала зразумелым.

— А хто ж тады выпускае такія кніжкі? — запытаўся я, збянтэжаны пачутым.

— Гэта рэч іншая,— хітра адказаў Гарасім.— Той жа цар ці яго міністры выпусцяць такую кніжку?

Я развёў рукамі.

— Вот бачыш? І губернатар не надрукуе такой кніжкі для народа. І архірэй не надрукуе. Надрукуе толькі той, хто выступае і супраць цара, і супраць архірэя і ўсіх іх парадкаў.

Было мне над чым паламаць галаву пасля гэтай нашай размовы з Гарасімам. І, відаць, надоўга б запаланілі мяне думкі пра ўсё гэта, каб не новая бяда.

Яна прыйшла гэтак жа нечакана, як і ўсе іншыя беды.

## СМЕРЦЬ ДЗЕДА

К другой ваеннай зіме галынаўцы засталіся без дроў. Раней мы куплялі ў пана квіты на падчыстку лесу, на сухастой. Насячэш воз галля — аддай Лаўрэну квіт. Іначай з лесу ён цябе не выпусціць. Цяпер жа пан з галынаўцамі і гаварыць не хацеў. Сена прадаў ваенным фуражырам на корані, а наконт дроў сказаў, што пакуль будзе жыў, не прадасць нам з свайго лесу ні дубца. Гэта была яго помста за леташняе. І трэба сказаць, біў ён нас у самыя балючыя месцы. Людзі збывалі траха не апошнюю жывёлу, бо свае сенажаці не маглі пракарміць яе. За першую зіму мы спалілі ўсе запасы дроў. Дайшла чарга да платоў і лішніх хлеўчукоў. А потым што будзем рабіць? Хаты разбіраць?

Усё часцей пачалі пагаварваць мужчыны, што трэба ехаць у лес самавольна, калі пан не хоча прадаць квіты. Іншага ратунку няма. Не купляць жа нам дровы на рынку?

І калі прыйшла зіма, мужчыны адзін за адным падаліся ў пушчу.

Дзед к гэтаму часу крыху акрыяў. Яго хвароба, як і Гарасімава, не любіць гнілой восені. Сані ў нас былі спраўныя. Бацька, бывала, даглядаў іх не менш, чым каня, бо кожную зіму разам з другімі галынаўцамі наймаўся ў купца Залмана вазіць з лесу на рум калоды.

Мы з дзедам запрэглі Арла ў сані, узялі пілу і сякеру ды рушылі за людзьмі ў пушчу па дровы. «Што будзе міру,— сказаў дзед устрывожанай матцы,— тое і бабінаму сыну».

Пакуль мы прыехалі, пушча ўжо гаманіла звонам піл і стукам сякер.

Мы прывязалі Арла на ўскраіне, падкінулі яму сена і таксама ўхапіліся за работу.

Снегу ў лесе было мала, а галля многа, і яно было добра відаць. Раней у гэтых месцах рэзалі лес для вывазкі на рум, верхавін жа яшчэ ніхто не чапаў. Іх хапіла б на ўсё наша сяло.

Людзі працавалі ахвотна і спорна. Сяды-тады чуліся жартоўныя воклічы:

— Дзе ж Лаўрэн?

— Чаму Лаўрэна не відаць? Нудна без яго.

— Баіцца, што сэрца яго разарвецца, дык і носа не паказвае.

Але Лаўрэн не спаў у шапку. Не такі ён стражнік.

Заявіўся ён у пушчу не адзін. Разам з ім прыехалі на санях з маёнтка ўсе панскія стражнікі.

У нас быў яшчэ самы разгар работы. Кожны хацеў насеч большую кучу дроў, каб прыехаць па іх другі або і трэці раз.

Стражнікі забегалі па лесе, загалёкалі:

— Вон! Вон з лесу!

Але ніхто іх не слухаў. Шоргат піл і стук сякер не сціхалі.

Мы з дзедам распілоўвалі сухую верхавіну ад хвойкі. Пах свежых апілак прыемна казытаў у носе. Я не адчуваў стомы, а дзед хутка задыхаўся і скінуў кажушок. Але не здаваўся, завіхаўся, як і ўсе нашы суседзі.

Лаўрэн падскочыў да нас, ухапіўся за пілу, пачаў вырываць з дзедавых рук.

— Адыдзі, Лаўрэн! — сказаў дзед.— А то горш будзе...

— Што горш? — ускіпеў Лаўрэн.— Правучылі твайго сынка за разбой, правучым і цябе, стары чорт!

Дзед закалаціўся, схапіў сякеру і кінуўся да Лаўрэна.

— Гвалт! — зароў Лаўрэн.— Забіваюць!

На яго крык збегліся стражнікі. Дзед разышоўся не на жарты. Адкуль толькі і сіла ўзялася! Ён махаў перад сабою сякераю і крычаў на ўсю моц:

— Не падыходзіць! Засяку!

Я падняў кінутую Лаўрэнам пілу і стаў каля дзеда. Я думаў, стражнікі пабаяцца нас дваіх і адступяцца. Не будуць жа яны страляць у нас!

Але, убачыўшы перапалоханага Лаўрэна, стражнікі ашалелі ад злосці. Адзін з іх схапіў доўгую палку і ўдарыў дзеда па руках. Сякера выпала з дзедавых рук. Тады ўсе стражнікі рынуліся на яго, падмялі пад ногі.

Я закрычаў:

— Ратуйце! Памажыце!

Пакуль збегліся людзі, стражнікі зрабілі сваю чорную справу. Дзед ужо сам не падняўся. З рота ў яго сачыўся струменьчык крыві. Лёгкі дымок пары ўзнімаўся над гэтым струменьчыкам.

Мне памаглі палажыць дзеда на воз, і я, галосячы, павёз яго дахаты...

Пасля гэтага дзед пражыў зусім нядоўга.

Хаваць яго сабралася ўсё сяло — і старыя, і малыя. Я да гэтага і не ведаў, як усё ж любілі нашы галынаўцы майго дзеда. Сусед наш Гарасім сказаў слова над яго магілаю.— Дзед Язэп,— сказаў ён,— нямала перажыў гора за свой век. Але ніколі не цярпеў ён несправядлівасці. Некалі ў маладыя гады ён змагаўся як мог за волю. Потым дзесяткі гадоў прававаўся з панам за наш спрадвечны і законны селавы выпас. Дзед Язэп дбаў не толькі аб сабе, а і аб усіх нас, галынаўцах...

Поп Васіль не даў дагаварыць Гарасіму свайго слова. Ён заўзята замахаў кадзілам і заспяваў:

— Упакой, госпадзі, раба божага...

Як я ўжо казаў, дзед не любіў папа Васіля. І нават прасіў перад смерцю, каб не клікалі яго на пахаванне. Але маці і слухаць не хацела. Як гэта можна хаваць чалавека без папа! Так рабілі дзяды і прадзеды, так мусіць

рабіць і яна. Грошай у яе на папа не было. А той жа без грошай і шагу ступіць не мог. Дык старгаваліся, што маці адробіць яму тыдзень вясною. Гэта была тая страшэнная несправядлівасць, якую так не цярпеў мой дзед: поп памахае кадзілам і паспявае гадзіну, другую, а маці за гэтыя яго песні будзе гнуць спіну і пячыся цэлы тыдзень.

## ПІСЬМО АД КАЗІКА

Нeяк перад самымі калядамі Гарасім прынёс нам пісьмо. Сэрца маё затахкала трывожна. Маці таксама раптам змянілася з твару. Юзік і Ядзя глядзелі Гарасіму ў вочы з раскрытымі ратамі. Другі год мы чакаем пісьма ад бацькі. А што, калі гэта яно?

Гарасім падаў канверт мне ў рукі.

— Гэта табе,— сказаў ён.— Пятру Валовічу.

І мы зразумелі: не, не пісаў бы бацька пісьмо на маё імя...

Ахоплены трывожным пачуццём, я разарваў канверт.

— Ад Казіка,— сказаў я, прабягаючы вачыма першыя радкі.

Маці выцерла вочы і падала Гарасіму ўслончык.

— Не турбуйся,— сказаў Гарасім.— Я зараз пайду. А хто гэты Казік? — пацікавіўся ён.

Маці пачала расказваць Гарасіму пра Казіка і яго сям'ю, а я чытаў пісьмо сам сабе. Пісьмо было поўнае нечаканых для мяне навін. Скончыўшы чытаць, я палажыў яго на стол.

— Ну, што табе піша твой сябрук? — Гарасім узяў у рукі пісьмо.— Можна пачытаць? Сакрэтаў няма?

— Калі ласка,— сказаў я.— Чытайце ўголас, няхай і маці паслухае.

Гарасім кашлянуў раз-другі, каб прачысціць горла, і пачаў чытаць:

«Добры дзень, дарагі Пятрусь!

Піша табе твой знаёмы Казя. Як ты жывеш? Як маешся? Ці здаровы маці, дзед, Юзік, Ядзя? Мы ўсе, дзякаваць богу, жывы і здаровы, чаго і табе і тваім родным жадаем.

Дарагі Пятрусь! Кожны дзень я ўспамінаю цябе, вашу вёску, якую вы сялом называеце, і вашу школу. Ці дазволіў табе ваш поп вучыць далей? Мне ўсё здаецца, што праз мяне ён і цябе выгнаў са школы. Я — каталік. Гэта

праўда. Але ж я лёгка мог бы вывучыць і вашы пацеры. Цяпер я ўвесь час думаю, чаму гэта ў нас бог адзін, а папы і цэрквы розныя. Хто гэта зрабіў і для чаго?

У нас, братка Пятрусь, вялікае гора. Пакуль ездзілі па свеце, мы не мелі ніводнага пісьма ад бацькі. А потым, як асталяваліся на сталым месцы, адразу ж напісалі яму свой адрас. Адказу чакалі з нецярплівасцю. Нарэшце ён прыйшоў. Але не ад бацькі, а з ваеннай часці: прыслалі кароценькую паперку-пісульку, што бацька наш прыняў гераічную смерць на полі бою за веру, цара і айчыну... Ты не можаш сабе ўявіць, братка, як мне горка было вымавіць гэтыя словы матцы і сястрычцы. Цяпер я сірата, такі ж, як і ты. Хоць хто ведае, можа твой бацька яшчэ і вернецца калі-небудзь. А я свайго ўжо не дачакаюся ніколі. І дзе магіла яго, не ведаю.

Людзей такіх, як мы, тут мала, траха не ўсе хаты займаюць салдаты. Ды і скрозь бачыш салдат. Кажуць, недалёка акопы. Нас туды не пускаюць.

З салдатамі я пасябраваў з першага дня — я ім пішу і чытаю пісьмы, так як ты дома. Сваіх грамацеяў у іх зусім мала, ды і тыя робяць памылку на памылцы. Каб ты ведаў, як цікава слухаць іхнія расказы. Яны ледзь не плачуць, калі гавораць пра вайну. «За што,— пытаюцца адзін у аднаго,— мы ваюем?» Я тут гэтулькі наслухаўся ўсяго, што аж пісаць страшна. Але напішу. Мне хочацца, каб і ты ведаў тое, што ведаю я.

Салдаты кажуць, што вайну пачалі не адны немцы. І не тыя немцы, якія сядзяць у акопах, а немцы-багацеі. Вайна, кажуць яны, рабочым людзям не патрэбна. Што яна ім грошай ці хлеба прыбавіць? А хто ваюе? Мужыкі і рабочыя. А хто з паноў, то або афіцэры, або па тылах сланяюцца, або і зусім ад вайны за грошы адкупляюцца. Затое як нажываюцца багатыя на вайне! Казна ім не ў тры, а ў дзесяць раз даражэй плаціць за ўсё, што патрэбна для вайны.

Так што, братка, усё, што пішуць у газетах пра вайну,— адна мана. І праўда, ці ж можа быць, каб праз аднаго нейкага аўстрыйскага герцага[1] пакутавалі і гінулі

[1] Герцаг — правільна эрцгерцаг — наследнік прастола былой Аўстра-Венгерскай імперыі Франц Фердынанд, забіты сербскім студэнтам Гаўрылам Прынцыпам. Гэтая падзея, як пісалі тагачасныя газеты, сталася прычынаю першай імперыялістычнай вайны.

мільёны людзей. То няхай бы сабе аўстрыякі ваявалі з сербамі за свайго герцага, калі яны яго так любяць. Навошта ж было лезці ў бойку немцам, рускім, французам, англічанам?.. Салдаты кажуць, што справа не ў адным герцагу. Герцаг — гэта прычэпка. Цяжка паверыць, але кажуць, што і наш цар хацеў вайны, што ён слухае толькі паноў ды фабрыкантаў і дагаджае ім.

Я ўсё думаў, адкуль салдаты ведаюць пра ўсё гэта. Пачаў нават дапытвацца. Мне сказалі: «Малы ты яшчэ, не слухай, што мы, дарослыя, гаворым». Вот жа дзівакі гэтыя дарослыя! Яны думаюць, што калі чалавеку чатырнаццаць ці пятнаццаць год, то ён яшчэ малы! Але нядаўна я такі даведаўся, адкуль што ў іх бярэцца. Адзін салдат, якому я пісаў пісьмо, даў мне пачытаць лісток, надрукаваны літарамі, як у газетах або ў кніжках. Я пачытаў і аж за галаву хапіўся. Там напісана якраз пра тое, што я чуў ад салдат. А пра цара дык такое расказваецца, што і не прысніцца. Салдат вельмі прасіў, каб я нікому не гаварыў пра гэты лісток. Я і не гавару. Пішу толькі табе, як самаму блізкаму сябру.

Жывём мы тут, братка Пятрусь, дрэнна. У нас жа ні кала ні двара. Толькі што прытулак маем: у адной, большай, палавіне хаты стаяць салдаты, а другую, меншую, займаем мы. Гаспадары гэтай хаты не вярнуліся з бежанцаў. Ніякага іхняга дабра мы ўжо не засталі — адны голыя сцены. Сена і салому, дзе якая была, тут скрозь забіраюць для фронту. Так што хто з нашых вярнуўся з канём, ужо плачуць. Што будзе далей, не ведаю. Мы пакуль што харчуемся каля салдат. На нашым двары пад павеццю стаіць салдацкая кухня. Мы з мамаю памагаем кухарам. Яны вельмі любяць у карты гуляць. А мы за іх бульбу чысцім, катлы мыем. За гэта нам сёе-тое перападае з яды.

Да нашага дому адгэтуль не так і далёка. Як мне хочацца збегаць у сваю вёску. Аж млею, як падумаю. Ну, братка, буду канчаць. Напішы, як ты жывеш, што робіш. Перадай ад мяне і маёй мамы нізкія паклоны ўсім вашым — дзеду, матцы, Юзіку, Ядзі. Абнімаю цябе, як брата. Казік Невярэўскі».

Прачытаўшы, Гарасім палажыў пісьмо на стол. Я і маці маўчалі, ашаломленыя пачутым. У кніжцы дзядзькі Гарасіма расказвалася, як царскія чыноўнікі ў хаўрусе з

багацеямі абіраюць бедных мужыкоў. Але пра вайну там нічога не гаварылася. І таму многае з таго, аб чым напісаў Казік, для мяне было новым, невядомым. Я ўспомніў пана Ясінскага. Выходзіць, і праўда, што паны і фабрыканты нажываюцца на вайне. Пан Ясінскі не палічыўся з мужыкамі, калі ваенныя фуражыры заплацілі яму за сена, колькі ён захацеў. Другі год ён прадае для арміі збожжа, кароў, свіней, воўну. І ўсё за вялікія грошы. Дык дзіва, што ён будзе за вайну стаяць. А купцы? У іх цяпер самы бойкі гандаль. Казна сыпле ім грошы мяшкамі. А што дала вайна нашай або Казікавай сям'і? Адно гора горкае.

Пакуль я думаў так, Гарасім углядаўся ў наша нізкае акенца. На двары падымалася мяцеліца, шумеў вецер.

— Вось што, Пятрок,— загаварыў ён нарэшце.— Казік напісаў праўду. Але ён, відаць, не ведае, што ўсе пісьмы зараз чытаюць ваенныя цэнзары. А яны праўды не любяць. Казіку проста пашанцавала: цэнзар не прачытаў яго пісьма, паленаваўся, ці што. Але што нам рабіць цяпер?

— Як што? — адказаў я.— Я напішу яму адказ.

— Гэтага мала. Казіка трэба ратаваць...

— Ад каго ратаваць? — не зразумеў я.

— Ад бяды,— растлумачыў Гарасім.— Ён жа можа і яшчэ каму напісаць такое пісьмо, і тое пісьмо можа не праскочыць праз ваенную цэнзуру незаўважаным. Тады будзе бяда і самому Казіку, і салдатам, ад якіх ён чуў праўду пра вайну.

Мы доўга гаварылі, і я на гэты раз многа чаго даведаўся новага і ад самога Гарасіма. Змагары за праўду, казаў ён, робяць сваю работу ціха, тайна ад царскай паліцыі і царскіх чыноўнікаў. Іначай і нельга, каб не трапіць у лапы жандараў. Бо тыя цябе не пашкадуюць, хто б ты ні быў — стары ці малы.

Адказ Казіку мы пісалі ўдвух з Гарасімам. Гарасім казаў, што пісаць, а я пісаў. Пісьмо выйшла не такое, якое б я напісаў адзін. Мне хацелася расказаць сваймў сябру пра смерць дзеда, пра забароненыя кніжкі. Замест гэтага апроч паклонаў у пісьме былі такія словы: «Ты, Казік, больш доўгіх пісем не пішы ні мне і нікому. Такія пісьмы нецікавыя. Мала хто што гаворыць. Ты пішы толькі пра сябе: як жывеш, што робіш. Добра? І нікому не гавары пра тое, дзе што пачуеш».

Мне вельмі не хацелася пісаць гэтых радкоў: яны то ўжо самая горшая няпраўда! Але Гарасім сказаў:

— Дык што ж для цябе даражэй: тваё сумленне ці Казік і яго сябры-салдаты?

— І тое і другое,— адказаў я. І гэта была шчырая праўда.

— Бывае,— сказаў Гарасім,— што часам трэба чым-небудзь ахвяраваць. Ты ж не хочаш наклікаць бяду на Казіка?

— Не хачу.

— Значыць, гэта зараз галоўнае. А схлусіш ты Казіку дзеля яго ж дабра. Калі-небудзь пры сустрэчы папросіш прабачэння.

Маці таксама адчула нешта небяспечнае для нас у Казікавым пісьме.

— Але ж, але ж, дзіцятка,— сказала яна,— паслухай дзядзьку Гарасіма. У нас ужо і так гэтулькі няшчасця...

Дзядзька Гарасім, як я ўжо не раз пераканаўся, быў чалавек асцярожны. Не баязлівы, не, а проста асцярожны. Відаць, гэтаму была прычына. Якая? Паліцыя яго пакуль што не чапае. А можа і няпраўда, што яна выслала яго з Мінска, як казалі ў нас. Распытацца пра гэта ў дзядзькі Гарасіма я ўсё не адважваўся.

## РЭКВІЗІЦЫЯ

Са словам рэквізіцыя і з самой рэквізіцыяй мы пазнаёміліся ўжо з першых дзён вайны. Наш наравісты Дэраш быў першаю ахвяраю рэквізіцыі. Тады гэта называлася мабілізацыяй: мабілізацыя людзей, мабілізацыя коней... Розніца была толькі тая, што людзей мабілізоўвалі бясплатна, а коней — за плату: тады яшчэ казна грошы мела.

Рэквізавалі для вайны ўсё — жывёлу, збожжа, фураж, збрую, аўчыны, воўну... Пісалі квітанцыі і казалі: «Пасля вайны казна разлічыцца».

У нас не было чаго рэквізаваць — у гаспадарцы засталіся толькі слепавокі Арол ды рыжая цялушка Манька. Авечак мы прадалі яшчэ летась, свінні самі звяліся, збруя і снасці нашы лядаштыя. Паглядзяць рэквізіроўшчыкі на стары абшарпаны хамут ды плюнуць. Чапляліся яны толькі да Манькі. Але мы ўзнімалі такі енк і плач,

што салдаты вушы затыкалі і ўцякалі з двара. Праўда, казалі, былі нейкія загады, каб апошняй каровы не бралі. Ды хто глядзеў на тыя загады. Тым больш што ў загадах гаварылася пра кароў, а ў нас была не карова, а цялушка. Рыжанькая, з невялічкімі вострымі рожкамі цялушка Манька была нашай любіміцай і ўцехай. Гадавалі яе мы ўсёю сям'ёю. Усё лета пасцілкамі збіралі для яе і сушылі лепшае сена. І хоць цялушка была не пародзістая, але шэрсць на ёй заўсёды блішчала. Мы гатовы былі замарыць да рэшты Арла, а цялушку песцілі, як маглі.

Яшчэ з нябожчыкам дзедам мы прыкінулі ўвосень, што корму на дзве галавы ў нас павінна хапіць, бо і Арол наш мала большы за Маньку. Потым, у пачатку зімы, рэквізіроўшчыкі вырвалі ў нас пудоў дзесяць сена. Мы пабедавалі, ды што зробіш: калі больш дамешваць да сена саломы, то можа як дацягнем да вясны. Выратаваць нас можа і ранняя вясна. Па дзедавых разліках, зіма сёлетняя не павінна быць халоднай. Гэта таксама давала нейкую выйгранку — цёплая зіма менш бярэ корму, чым халодная. Недарэмна ж на лёгкую зіму кажуць, што яна — зіма бедных.

Ды нашы мары і планы раптам развеяліся як дым. На чарговую рэквізіцыю прыехалі казакі. Да гэтага казакоў не было ў нашым сяле. Мы іх не бачылі, а толькі чулі, якія яны героі. Адзін Кузьма Кручкоў чаго варты! Праўда, Гарасім гаварыў пра іх зусім іншае: «Казакі, ого,— самыя галаварэзы! Горшыя за жандараў...»

І вось гэтыя хвалёныя героі ў высокіх папахах, з шаблямі пры баку і карабінамі за плячыма замільгалі перад нашымі вачыма. І адразу мы ўбачылі, што і праўда ніякія яны не героі, а проста ліхія жандары, як казаў Гарасім. Грэблі яны ўсё, што трапляла пад рукі. Ні просьбы, ні галашэнні не памагалі.

Убачыўшы гэта, мы кінуліся ратаваць цялушку. Маці начапіла ёй на рогі вяроўку і пацягнула да рэчкі, дзе раслі альховыя кусты. Цялушка ўпіралася, не хацела пакідаць цёплага стойла ў хляве. Я схапіў пугу і пачаў падганяць.

Ледзь паспелі мы вывесці сваю Маньку за агарод, як да нас падскочыў казак на вялізным кані цёмна-чырвонай масці.

— Назад! — замахаў ён бізуном.

Маці збялела ад страху.

— Паночак, даражэнькі...

Маці хацела, відаць, разжаліць гэтага мардатага салдата з рыжымі вусамі, называючы яго паночкам ды яшчэ даражэнькім.

— Назад! — зноў паўтарыў казак.

Мы ўсё яшчэ стаялі, чакаючы літасці.

Тады казак саскочыў з каня, выхапіў у маткі з рук вяроўку і пацягнуў на вуліцу нашу маленькую цялушку і свайго велізарнага каня.

Маці бегла побач з казаком.

— Яна ж у нас апошняя,— галасіла маці.— Пакінь яе, даражэнькі, залаценькі... У мяне дзеці малыя.

Але «даражэнькі і залаценькі паночак» нават і не глянуў на нас, не тое каб слова сказаць. Тоўсты надзьмуты твар яго здаваўся каменным.

Казак заставаўся каменным і тады, калі маці кідалася яму ў ногі.

Маньку прывязалі да воза. Казацкі старшына сунуў матцы ў рукі квітанцыю.

Плач і енк нашай сям'і змяшаўся з плачам і енкам іншых абрабаваных і пакрыўджаных. Ніхто нашага енку і не слухаў. Адна толькі хіба Манька разумела нас — яна жаласна рыкала, паглядаючы сваімі добрымі вачыма ў наш бок. Падыходзіць да яе нам не дазвалялі. Паскардзіцца на сваю вялікую крыўду не было каму. Стараста збянтэжана лыпаў вачыма. Я чуў, як ён сказаў казацкаму старшыні: «Гэта рэкрутка-ўдава. У яе апошняя карова...» Старшына на хаду працадзіў праз зубы: «Ты што — сляпы? Якая гэта карова? Гэта ж цялё!» Стараста хацеў яшчэ нешта сказаць, ды старшына адвярнуўся ад яго і заняўся рабой свіннёю, якую цягнулі казакі да воза.

«Грабежнікі!» — успомніў я гнеўнае дзедава слова. І праўда, іначай гэтых людзей не назавеш.

Маці пасля гэтага зусім асунулася. Яна пачала загаворвацца. Мяне іншы раз звала Юзікам, а Юзіка — маім імем. І часта хапалася за грудзі ды лезла на палаці або на печ. «Вельмі ж нешта пад грудзямі смокча, устаяць на нагах не магу,— скардзілася яна.— Дзетачкі мае, хаця б не памерці...» У мяне шэрхла ўсё ўсярэдзіне ад гэтых слоў. Гэта ўжо было б самае горшае. Што мы, малыя, будзем тады рабіць? Смерць цяпер для мяне не здавалася нечым цьмяным і загадкавым. Пры мне паміраў дзед. За

сялом у нас могілкі, куды мы часта бегаем гуляць. Пра забітых салдат я чытаў ракруткам паперкі з воінскіх часцей. Так што са смерцю я ўжо быў добра знаёмы.

Я стараўся рабіць усё за маму — і дома і каля дому. Ёй было цяжка даставаць ваду з калодзежа, і я не спускаў вока з вядра. Як толькі вада канчалася, сам бег да калодзежа. Сам карміў і паіў Арла. Па дровы мы ездзілі з Юзікам крадком і вазілі іх на малых санках-коўзанках. У лесе стараліся абыходзіцца без сякеры, каб не нарабіць стуку. Шукалі гатовага галля. Гэтым галлём і палілі ў печы.

Не паспелі мы апамятацца ад налёту казакоў, як у сяло завітаў цэлы абоз новых грабежнікаў — фуражыраў. Яны падчышчалі і падмяталі ў нашых гумнах траха не апошняе сена.

— Армейскія коні вунь дохнуць як мухі,— адказвалі яны старасту Палікару, які спрабаваў заступацца за людзей.

Тое, што пасля фуражыраў пачнуць дохнуць нашы коні, ім клопату мала.

— На вашых конях гармат не возяць,— выскаляліся фуражыры.— Ліха іх не возьме. А возьме — бяда не вялікая.

Салдаты зайшлі і ў наша гумно. У кутку застаронка ляжала яшчэ капы са дзве сена.

— Колькі жывёлы ў гаспадарцы? — запыталіся ў старасты.

— Адзін конь,— адказаў стараста, апускаючы вочы.

На гэты раз мы не прасілі ў фуражыраў спагады. Яны адарвалі сахарамі большую палавіну сена і вынеслі на вуліцу. Пад'ехалі сані, і наша сена апынулася зверху на возе.

Сані рушылі далей.

## ГАЛОДНАЯ ВЯСНА

К вясне наш Арол змарнеў, як камар. Карміць яго ўжо не было чым. Мы пачалі здзіраць гнілую страху з гумна ды рэзаць сярпом сечку. Да пашы заставалася яшчэ тыдні тры. Калі б як-небудзь перабіцца гэты час, думалі мы, то можа вясною Арол і акрыяў бы. Але Арол быў занадта стары, і сцёртыя яго зубы без усякай ахвоты жавалі саламяную сечку, запараную цёплаю вадою.

— Каб у гэтую сечку ды вотруб'я,— уздыхала маці.— Або хоць бы картопель наварыць...

Вотруб'я ў нас не было. А бульбу мы і самі баяліся есці: яе заставалася ўжо толькі як на насенне. У маткі кожны раз калаціліся рукі, калі яна перабірала ў варывеньцы рэшту бульбы і вырашала, якую зварыць, а якую пакінуць на насенне. Добра яшчэ, што мы назапасілі ўвосень квашанай капусты-шаткаванкі і сушаных апенек. Цяпер гэтая нішчымная страва і ратавала нашу сям'ю. Хлеб мы траха не ўсю зіму елі мякінны або пуховы, як мы яго звалі. Пуховы таму, што ў дзень выпечкі ён быў вельмі мяккі, як пух. Затое на другі або на трэці дзень ператвараўся ў цэглу.

Так што, як нам ні хацелася, са сваіх харчоў нічога для Арла мы не маглі выкраіць. І ён, небарака, дайшоў, як кажуць, да ручкі. Уставаць яму было ўсё цяжэй і цяжэй. А аднаго разу ён і зусім не падняўся, як ні намагаўся зрабіць гэта.

Мы напалохаліся: не выцягне Арол да вясны! Што тады без яго рабіць будзем?

Маці кінулася да суседзяў, каб пазычыць у каго сена. Ды дзе там. Калі каму і ўдалося прыхаваць якую капу ад няспынных рэквізіцый, то не адбярэ ж ён яе ад сваёй жывёліны, каб ратаваць нашага Арла.

Ва ўсіх было адно гора: галодная вясна і для сябе, і для жывёлы.

Суседзі параілі падвязаць Арла на вяроўках да бэлькі. Стоячы, казалі яны, Арол пражыве даўжэй і мо дацягне як да травы.

Мы ўзялі тоўстае вужышча, якім улетку ўціскалі сена на возе, падсунулі яго сяк-так каню пад худы жывот, потым канцы перакінулі цераз бэльку і пачалі падымаць Арла: я з Юзікам цягнулі за адзін канец, маці з Ядзяю — за другі. Сілаю ніхто з нас не вызначаўся. Але, адчуўшы падмогу, Арол сам пачаў варушыцца жвавей. «Но, но, кося,— падахвочвалі мы яго.— Уставай, даражэнькі. А то так і ногі выцягнеш». Арол крыху прыўзнімаўся і зноў апускаўся назад, уздыхаючы, не раўнуючы, як чалавек.

Я ўжо хацеў ісці клікаць каго на дапамогу, але маці сказала:

— Давайце, дзеткі, паспрабуем падмяшаць яму ў сечку картопель. Можа ён паесць і падужэе. Самі ўжо, такой бяды, пацярпім...

Маці зварыла чыгунок бульбы. Патаўкла яе і змяшала з сечкаю.

Арол ляжаў з апушчанаю галавою. Вочы яго былі зусім вялыя, здавалася, ён ужо даходзіў. Але пах цёплай свежай бульбы ажывіў яго. Ён прыўзняў галаву, пачмыхаў, прачышчаючы ноздры, і пачаў паволі жаваць сечку.

Мы павесялелі. З надзеяй не зводзілі з Арла вачэй. Як нам хацелася, каб ён і праўда падужэў ды дажыў да вясны!

Праз якую гадзіну мы зноў ухапіліся за канцы вужышча. Я нокнуў, і Арол вырваў з-пад сябе пярэднія ногі. Мы напялі вужышча.

— Но, но! — гукалі мы з абодвух бакоў.— Яшчэ трошкі!

На гэты раз Арол падняўся, хоць ногі яго дрыжалі і падгіналіся, як у цяжка хворага. Мы борздзенька звязалі канцы вужышча. Потым узялі яшчэ лейцы і падмацавалі імі знясіленага каняку. Цяпер Арол стаяў на дзвюх падвесках: з вужышчам каля пярэдніх ног і з лейцамі каля задніх.

Увесь дзень мы не адыходзілі ад Арла і ўсё думалі, чым бы яшчэ накарміць яго. У гаспадарцы нашай апроч насеннай бульбы заставалася яшчэ трохі ярыны — таксама насеннай. І мы нічога лепшага не маглі прыдумаць, як адсыпáць патрошку Арлу з насеннай ярыны.

— Такой бяды,— сказала маці,— менш пасеем...

Ішлі дні, цяжкія, марудныя. Вясна зацягнулася. Усё меншыя і меншыя меркі насеннага ячменю і бульбы мы ахвяроўвалі Арлу.

І ўжо неяк у самую паводку, калі вось-вось збіралася выскачыць першая траўка, Арол абвяў і павіс на вяроўках...

А калі людзі рабілі першы выган у поле, мы закопвалі свайго Арла за агародам...

Цяпер мы моцна задумаліся, як жыць самім. Харчы нашы канчаліся. Насенне траха не ўсё звёў Арол. Плуга ці бараны цягнуць няма каму. Заставалася адно — браць торбы ды падавацца ў белы свет.

Але перш чым брацца за торбы, маці надумала паспрабаваць іншага шчасця: аддаць мяне і Юзіка ў пастушкі. Вядома, калі хто возьме. Мы ж ведалі: голад даймаў не адных нас. Галадалі тысячы бежанцаў, рассеяных па ваколіцы.

Доўга хадзіла пасля гэтага маці па сёлах і засценках. І ўсё ж знайшла нам гаспадара. І нават аднаго на нас дваіх. Гэта быў багаты засцянковец Вінцук Альхіровіч. Маці расхвальвала нас, як магла: мы і вялікія ўжо хлопцы, і паслухмяныя, і нават граматныя. Вінцук захацеў убачыць хвалёных пастушкоў.

— Ката ў мяшку не купляюць,— сказаў ён.— А што да платы, то няма і гавэнды.

Ён будзе карміць пастушкоў — вось і ўся плата. За такую плату ён можа наняць хоць сто бежанцаў. Але яму не хочацца мець справу з бежанцамі: людзі яны прыезджыя, сёння тут, а заўтра ў другім месцы. Яшчэ абкрадуць...

Маці павяла нас да Вінцука. Засценак, у якім ён жыў, знаходзіўся недалёка ад нашай Галынаўкі. Там стаялі чатыры хаты. І мы нават ведалі, хто жыў у гэтых хатах, бо адтуль прыходзілі да нас хлопцы і дзяўчаты на вечарынкі, а калі быў настаўнік, у нашу школу бегалі дзеці засцянкоўцаў. Часта ўлетку мы сустракаліся з засцянкоўскімі пастушкамі і ў полі. Бывала, што і лупцавалі іх пугамі. За што? Так сабе. Яны — шляхцюкі, іншай веры. Дражнілі мы іх «шэршнямі».

Вінцуковы сыны ўжо выраслі. Большы, Адась, на вайне. А меншы, Волісь, чакаў прызыву. Дачок малых у яго таксама не было. Так што свае пастушкі, можна сказаць, звяліся.

Неўзабаве мы апынуліся каля шырокага і прасторнага двара, застаўленага кругом будынкамі — старымі і новымі. Засцянкоўцы забудоўваліся не так, як нашы галынаўцы. Сядзібы нашы былі вузкія, як хату паставіць ды з калёсамі праехаць. Усе астатнія будынкі размяшчаліся ў даўжыню, гумны выносіліся за агароды. Засцянкоўцы ж сяліліся на сваіх шырокіх сялібах, як паны. Зямлі ў іх хапала. Яны арандавалі яе ў пана Ясінскага па дзесяцін пятнаццаць — дваццаць. Праўда, зямля была незайздросная: пясчаныя ды камяністыя ўзгоркі. На сваіх узгорках засцянкоўцы сеялі многа грэчкі, бо толькі грэчка і любіць такую благую зямлю.

Вінцук сустрэў нас на двары: выйшаў на брэх сабакі. Ладны руды дварняк з добрае цяля выскаліў зубы і трымаў нас каля варот. Гаспадар, пажылы шляхціц з густою каштанаваю барадою, прывязаў сабаку каля будкі і падышоў да варот.

— Прывяла вам пастушкоў, дзядзька Вінцэсь,— сказала маці, выстаўляючы мяне і Юзіка наперад.— Шкадаваць не будзеце. Далібог.

Вінцэсь, або Вінцук, як найчасцей звалі яго, нейкі час разглядаў нас, пачмыхваючы ў сваю каштанавую бараду. Ні мне, ні Юзіку не хацелася аставацца ў чужых людзей, тым больш у Вінцука, які палохаў нас і сваёю барадою і хмурым выглядам. Мы чакалі, што ён сам адрачэцца ад такіх пастушкоў, якімі былі мы з Юзікам.

— Малаватыя,— сказаў нарэшце Вінцук, нібы ўгадваючы нашы думкі.— Ці можна паверыць ім скаціну? Пастух — гэта не жартачкі. Мала што ў полі здараецца.

Я зарадаваўся такому павароту справы, а маці аж рукамі пляснула, ледзь не загаласіла:

— А дзядзечка, а саколік, яны ж самыя пастушкі. Прашу вас, напрамілы бог...

Вінцук перапыніў яе:

— Я ж не сказаў, што не бяру. Паглядзім яшчэ, як яны да работы. Калі што якое, то не гневайся, выпраўлю назад. Мне пастухі патрэбны, а не нахлебнікі. Хлеба ж цяпер, ведаеш, лішняга няма ні ў кога.

Маці павесялела, хацела пацалаваць Вінцукову руку. Але ён злосна затрос барадою:

— Я не поп, каб мне рукі цалаваць. Цалуй свайму папу.

Збянтэжаная маці падазрона замаргала вачыма. Вось-вось, здавалася, расплачацца. Мне вельмі не хацелася, каб гэта здарылася, і я сказаў рашуча:

— Не бойся, мама. Мы будзем старацца.

— Старайцеся, дзеткі, старайцеся,— паціху прагаварыла яна, перасільваючы свой страх і жаласць да нас.— Старайцеся...

Вінцук абмацаў нашы світкі.

— Танкаватыя,— сказаў ён,— у дождж як бач прамокнуць.

Маці зноў захвалявалася.

— Няма лепшых...

— Ну, паглядзім, можа знойдзем што-небудзь са старых, сынавых,— сказаў Вінцук.

Маці падзякавала яму за ласку.

— А калі ж ім прыходзіць? — запыталася яна.

— Гм...— прабурчаў хмуры Вінцук.— Яны ж прыйшлі ўжо. Заўтра ў поле выганяць. Хадзем!

У мяне задрыжалі ногі. Я спадзяваўся, што яшчэ вернемся дадому, прывыкнем неяк да такой перамены. А тут абярнулася ўсё па-іншаму. Азіраючыся на матку, якая на гэты раз ужо не ўтрымала слёз, мы пайшлі за Вінцуком да вялізнай хаты з ашаляванымі сценамі і пафарбаванымі зялёнаю фарбаю аканіцамі.

З пляскатага каменя ад жорнаў, які ляжаў пры ўваходзе ў сенцы, я яшчэ раз глянуў на матку. Асунутая, худая, з сумнымі заплаканымі вачыма, праводзіла яна нас да дзвярэй чужога дома. Відаць, ёй было цяжэй ісці назад адной, чым нам у свой новы дом.

## ПЕРШЫ ВЫГАН

У Вінцука была немалая гаспадарка: дзве каровы, бык і цялушка, цэлая чарада свіней, падсвінкаў і авечак. «Як гэта яму ўдалося ўтрымаць такую гаспадарку ад рэквізіцый?» — гадаў я назаўтра, выганяючы ў поле.

Вінцук доўга не мог падзяліць паміж намі сваю жывёлу: каму што пасвіць. Каровы мелі асобную пашу: лугавіну пры Абадку. Зноў праклятаы Абадок на маёй дарозе! Я ведаў гэтую лугавіну: гэта ўпадзіна паміж узгоркаў. Адным канцом яна ўпіраецца ў Абадок, так, як наш паплавец пры полі, толькі з другога боку. Свіней і авечак засцянкоўцы пасвілі аднаю чарадою дзе папала: на лысых узгорках, у алешніку і ў хмызняках пры бары. Добрай пашы ў іх не было гэтак жа, як і ў нас.

Я сказаў, што можа мне лепш узяць кароў, а Юзіку — свіней і авечак. Я думаў так: я большы, значыцца, мне і жывёла буйнейшая, Юзік меншы, яму хопіць і свіней з авечкамі.

Гаспадар аднак разважыў інача́й.

— Паша кароўская,— сказаў ён,— у нас блізка. Тут усё на відавоку. А свіная — далей, у хмызняках. Малы яшчэ баяцца будзе...

Выходзіла, што за свіней трэба брацца мне.

Ну што ж, мне дык мне. Работа знаёмая і адна і другая.

Вінцук даў нам вераўчаныя пугі і сказаў Юзіку пачакаць на двары. А я пайшоў з ім выганяць свой статак.

Дарога да бору была простая. Свінні і авечкі добра яе ведалі. Рохкаючы і мэкаючы, яны шустра патрухалі ў канец засценка.

За засценкам Вінцук сказаў:

— Тут, хлопча, крыху пачакай. Толькі не распускай лішне. Я зараз падганю яшчэ табе ў чараду...

Я не зразумеў яго слоў. Здаецца ж, у хлявах больш но заставалася ні свіней, ні авечак. Ну, ды будзем чакаць, калі такі загад. Я забег наперад і, пасвістваючы пугаю, запыніў чараду, завярнуў яе на поле.

Сёння я крыху павесялеў. Чорная ўчарашняя нудота не так сціскала мяне. Я аж спаць не мог ад суму і жалю. Толькі ўжо неяк пад дзень прысніўся мне якісьці страшны і блытаны сон: быццам я памёр і ўсе па мне галосяць. Я чую гэта, але не магу паварушыць языком, каб сказаць, што я жывы. І дзеда сасніў, і бацьку. І нават з Казікам вёў некуды свайго Арла. Учора я не мог нават есці, хоць і быў галодны. Можа гэта мне і прысніўся той сон ад голаду? Затое сёння паснедаў са смакам. Гаспадыня, цётка Галена, паставіла нам з Юзікам паўначовачак бульбы ў мундзірах і міску кіслага малака. Згаладаныя, мы як бач уплялі ўсё сваё снеданне. Елі аж цераз сілу. Я ўжо не помню, калі мы каштавалі малако. А тут яго цэлая паліваная міса. Ды і бульба трапілася смачная — сопкая, разварыстая, лепшая, чым наша. Я чуў раней, што смачная бульба расце толькі на пясчаных узгорках. Калі так, то засцянкоўцам на бульбу пашанцавала. Лепшых узгоркаў ва ўсёй ваколіцы не знойдзеш. Сяды-тады я абмацваю сваю пастухоўскую торбачку. У ёй — луста белага жытняга хлеба і два вялікія салёныя агуркі. Гэта — мой абед. Не ведаю толькі, ці вынашу я на плячах свой абед да абеду. Чыстага жытняга хлеба я таксама ўжо каторы час як не еў.

А над галавою ў мяне свеціць цёплае вясновае сонца, пяюць жаўранкі. І такая стаіць ціхата, ветрыку зусім не чуваць. Сырая зямля дыміцца лёгкаю параю — падсыхае. З недалёкага бору чуваць вясёлыя галасы птушак.

Неўзабаве ў засценку забляялі авечкі, зарохкалі свінні. І я ўбачыў свайго гаспадара. Разам з іншымі засцянкоўцамі ён гнаў цэлую чараду. «Цікава,— падумаў я,— чаму Вінцук памагае сваім суседзям выганяць у поле?» У нас так не робяць. Кожны выганяе сваю жывёлу. Што ён, добры такі, хоча, каб мне весялей было гнаць разам з іншымі пастухамі і пастушкамі? Я ўспомніў, што нашы галынаўцы недалюблівалі засцянкоўцаў. Яны і фанабэрыстыя, і скупыя, і хварэюць на панскія хваробы: звысака

глядзяць на тых, хто бяднейшы за іх. Дражнілі мы іх рознымі мянушкамі, складалі на іх абразлівыя прыпеўкі. Аж, выходзіць, Вінцук зусім не такі, як пра яго ў нас думаюць.

Новая чарада далучылася да нашай. Авечкі разбягаліся па голым полі, а свінні, не знаходзячы травы, заўзята засвідравалі сваімі лычамі зямлю: відаць, мы апынуліся на леташнім бульбянішчы.

Разам з Вінцуком ішлі тры бабы і адзін хлопец, Юзаф, трохі старэйшы за мяне. Я ўзрадаваўся: ахвотней будзе пасвіць удвух!

Мы занялі ўсю чараду і пагналі далей, да бору. На поплаве каля хмызняку Вінцук сказаў мне, развёўшы рукамі:

— Вот твой статак і вот твая паша. Пасі. Добра пасі. А мы пойдзем кароў выганяць.

Ён паскуб трохі сваю каштанавую бараду, завярнуўся і пайшоў. За ім — бабы і Юзаф.

Я і рот разявіў. Значыць, я адзін застаюся пры ўсёй чарадзе! Значыць, нават Юзафа не будзе са мною! Але ж я павінен пасвіць толькі Вінцукову жывёлу!

Разгублены, я глядзеў услед Вінцуку і яго суседзям, якія чамусьці, нават нічога не сказаўшы, пакінулі сваіх свіней і авечак пры мне і на мяне.

Вінцук адвярнуўся і сказаў траха не на хаду:

— Ты, Пятрусь, сяды-тады лічы статак. А то яшчэ згубіцца каторае. У статку ўсяго пяцьдзесят шэсць штук. Добра?

Я моўчкі матнуў галавою.

І зноў мяне агарнуў учарашні смутак. «Як гэта разумець? — думаў я.— Няўжо Вінцук наняў мяне на ўвесь засценак? Калі так, то я скажу яму, што гэта падман. Я наймаўся ў пастухі толькі да яго, а не да іншых засцянкоўцаў. А калі гэтыя іншыя хочуць, каб я пасвіў і іхнюю жывёлу, то няхай noймуць мяне. З якой гэта ласкі я мушу бегаць за іх свіннямі і авечкамі? Што яны — сваякі мне ці добрыя суседзі?»

Мяне аж калаціла ад злосці. Хацелася плюнуць на ўсё ды ісці дахаты: пасіце, дабрадзеі, самі, калі вы такія разумныя!

Але, успамінаючы ўстрывожаную і заплаканую маці каля Вінцуковых варот, пачынаў вагацца: што яна скажа, калі я вярнуся?

Увечары, калі мы з Юзікам селі за стол, я запытаўся ў яго паціху:

— Ты толькі гаспадаровых кароў пасвіў ці і чужых?

— Усіх пасвіў, з усяго засценка,— адказаў ён.— А ты?

— І мне выгналі з усяго засценка...

Крыўда агарнула мяне яшчэ большая. Значыць, і Юзіку падкінулі чужы статак. Свае пастушкі будуць гуляць, а ты бегай за іх, мокні на дажджы, пячыся на сонцы. Дзе ж справядлівасць? Дзе сумленне ў гэтых людзей? Я ўжо добра ведаў, што няма праўды ў паноў і ў тых, хто іх абараняе. Пра гэта ўсюды гавораць. Але засцянкоўцы ж не паны! Яны такія ж мужыкі, як і мы, толькі што зямлі ў іх больш і жывёлы. Яны душацца на рабоце самі і наймаюць парабкоў або падзёншчыкаў. За свае пустыя ўзгоркі яны плацяць пану Ясінскаму арэнду грашыма. А мо засцянкоўцы не ўсе благія людзі? Можа скупы Вінцук сказаў ім, што наняў нас на ўвесь засценак? А сам будзе браць з іх плату?

Мы елі тую ж бульбу, што і раніцай. Але цяпер яна мне не здавалася такой смачнай. Я ледзь праганяў яе на гэты раз салодкім малаком.

У хаце была адна гаспадыня — высокая, худая і такая ж хмурая, як яе мужык. Калі б у гэтую хвіліну ўвайшоў сюды гаспадар, я, напэўна, сказаў бы яму нешта злоснае. Але ён усё яшчэ корпаўся на двары.

Пасля вячэры гаспадыня загадала нам ісці спаць.

— Заўтра рана ўставаць,— сказала яна.

Спалі мы з Юзікам на адным палку ў цёмнай каморцы. Падушку нам далі таксама адну. І посцілку адну. Пад бок падаслалі ахапак гарашын. Пасцель была нішто. Лепшай мы і дома не мелі.

Мне хацелася дачакацца Вінцука. Але я так і не дачакаўся яго: заснуў, не паспеўшы дакрануцца да падушкі. Ведама, нагайсаўся за доўгі дзень, як той сабака. Праклятыя свінні ніяк не хочуць трымацца гурту. Згоніш іх у кучу, а яны як бач распаўзуцца. Я ўсё баяўся згубіць каторую, хоць і стараўся не запускаць іх пакуль што ў алешнік. Авечкі, дык з тымі гора мала: ад чарады ні адну не адарвеш.

Праз ноч мая злосць крыху сцішылася, і раніцай я не адважыўся загаварыць з гаспадаром пра несправядлі-

васць. А калі ён выганіць нас? Што тады? Тут хоць есці даюць. Вядома, за доўгі дзень я з'еў бы не адну лусту хлеба. Затое на сняданне і на вячэру гаспадыня не скупілася на бульбу з малаком. Назаўтра мы не здолелі апаражніць начовак. Я запытаўся ў цёткі Галены, ці не можна ўзяць па некалькі бульбін у торбы. Яна не пярэчыла.

— Бярыце, калі хочаце. Картопель не шкада. Але ж халодныя яны нясмачныя.

Мы з Юзікам з ахвотаю ўкінулі ў торбы гэтыя нясмачныя бульбіны. У поўдзень або адвячоркам відней будзе — смачныя яны ці нясмачныя.

Лішняя бульба мяне таксама крыху падбадзёрыла. «Ліха з ім, са статкам,— падумаў я.— Большы статак — больш беганіны, толькі і ўсяго. Адна бяда, што хлеба мала даюць. Каб прыбавілі яшчэ лусту, другую, то жыць можна».

На гэты раз усе засцянкоўцы выгналі сваіх свіней і авечак проста на вуліцу. Я сабраў іх і моўчкі пагнаў на пашу.

І так пайшло дзень за днём. Хлеба нам гаспадыня не прыбаўляла, бульбы таксама насыпала адну мерку: хочаш еш, хочаш бяры з сабой. Яна ні разу не папыталася, пад'еў ты ці не, падліць табе яшчэ малака ці хопіць і гэтага. Строгая і хмурая, яна рабіла ўсё моўчкі. Так што цяжка было сказаць, добрая яна ці дрэнная, скупая ці шчодрая. Сына гаспадаровага мы рэдка калі бачылі: раніцай, калі мы выганялі ў поле, ён яшчэ спаў, а ўвечары дома і не стыкаўся. Ён чакаў прызыву і адчуваў сябе вольна. У суседнім сяле ў яго была дзяўчына, і ён прападаў там усе вечары. Сам гаспадар рабіў ад цямна да цямна. Як мы пасём, ён, здавалася, і не цікавіўся. Наесца скаціна ў полі ці не, яго мала турбавала, бо і кароў і свіней ён падкормліваў дома. У яго было чым карміць.

«І як яму ўдаецца трымаць такую спраўную гаспадарку? — не пакідала мяне думка.— У нас жа дык падмяталі падчыстую. Хіба толькі адзін стараста Палікар можа параўнацца з Вінцэсем. Старасту рэквізіроўшчыкі абыходзяць гэтак жа, як і яго».

Даведаўся пра гэта я неўзабаве ад маткі. Яна прыйшла праведаць нас. Спачатку схадзіла на лугавіну да Юзіка, потым — да мяне. Яна была вельмі засмучана і растрывожана. Я здагадаўся, што Юзік расказаў ёй, як падмануў нас несумленны Вінцук. Мне не хацелася скар-

дзіцца, і я стараўся трымаць сябе, як нічога і не было. І калі маці сказала, што яна запатрабуе платы ад Вінцука ці ад яго суседзяў, я нават спалохаўся: відаць, Вінцук і яго суседзі не такія добрыя людзі, каб паспачуваць нам. Каб не было горш.

— Ты, мама,— папрасіў я,— лепш не гавары нічога. Большы статак ці меншы — такой бяды. Як-небудзь перагаруем да восені.

Я запытаўся ў яе, чаму засцянкоўцы жывуць так багата, калі скрозь мятуць пад мятлу.

— У каго ж мятуць, сынок? — уздыхнула маці.— У бедных мятуць. У такіх, як мы. А багатыя адкупляюцца. Ды іх і воласць абараняе. Кажуць, засцянкоўцы маюць нейкія граматы ад воласці, і ваенныя начальнікі іх не чапаюць. Нам такіх грамат не дадуць.

Памаўчаўшы, яна сказала:

— Ды цяпер нам усё роўна...

Але ж, маці кажа праўду. У нас толькі паўдзесятка курэй яшчэ кудахкае на двары. Рэквізіцыя да іх пакуль што не дайшла. Маці хоча купіць хоць якое цялятка. На яго яна хавае грошы, выручаныя за Арлову шкуру. Ці ўдасца ёй гэта?

Маці расказала, што робіцца дома. Усе ўжо садзяць бульбу. Яна выпрасіла на дзень каня ў старасты на адработак. Але што за дзень зробіш. Трэба гной вывезці на поле. Пакуль накідаеш воз ды завязеш, дык і паўдня на дварэ. Ядзя малая, не паможа. Вось каб удалося мне на той час вырвацца з гэтага алешніку. Я памог бы. Ды дзе ты вырвешся. Юзаф цябе не заменіць, хоць я і замяніў яго на ўсё лета.

— Гарасім,— сказала маці,— падаўся на работу да пана. Пан новыя майстэрні заводзіць. Мала яму, душагубу, прыбыткаў ад маёнтка. Млын і пільня таксама ні на дзень не спыняюцца. Цяпер завёў яшчэ калёсную і рымарскую. Гарасім наняўся ў рымарскую. Будзе хамуты рабіць і падсядзёлкі. Ён такі чалавек: за што ні возьмецца — зробіць.

— Але ж у яго сухоты... Ён кашляе...

— Сухоты сухотамі,— сказала маці.— А жыць трэба. Ды і не ўсе ад сухотаў паміраюць. Іншыя да самай старасці кашляюць. Гэта як каму пашанцуе.

Я часта ўспамінаю Гарасіма. Які ён добры чалавек! Мне вельмі хацелася яго ўбачыць. Можа ў яго якія но-

выя кніжкі завяліся. Я ўсё яшчэ ніяк не магу забыць яго кніжак пра Ісуса Хрыста і пра мужыка Сымона, які так праўдзіва расказаў, куды мужыцкія грошы ідуць. Гарасім, як здавалася мне, і сам быў падобны на таго разумнага дзядзьку Сымона. Толькі яму не хапала Сымонавай смеласці рэзаць праўду-матку ў вочы.

Мы пагаварылі аб тым ды сім, і маці сабралася ісці дахаты.

— Ты ж толькі, мама, глядзі, не кажы нічога Вінцуку,— напомніў я.— Можа ён сам што прыбавіць, калі ўсё добра будзе. Яму ж ад суседзяў, нябось, нешта перападзе за нашу службу. Не такі ён добранькі, каб наймаць ім пастухоў.

Маці кіўнула галавою, папраўляючы хустку. «Яна не скажа»,— падумаў я. Цяпер яна спакойная за нас: мы негалодныя і апранутыя. Ад дажджу Вінцук даў нам нават па кавалку цыраты. Такія цыраціны ён накідвае ў дождж коням на хамут, бо на мокрым карку лёгка мазолі нацерці. Цыраціною можна абхінацца, як хусткаю. Яна лёгкая і зручная.

Сама работа мая і не цяжкая, калі ў яе ўцягнешся. Сумна толькі ў адзіноце, ой як сумна. А дзень такім доўгім здаецца. Дома мы пасвілі гуртам. Збярэцца пастушкоў колькі, і нам весела. Бегаем, дужаемся, гамонім. А тут толькі бор побач гамоніць з табою. Адтуль не толькі далятаюць да мяне птушыныя песні, а можа выскачыць і воўк. Калі? Ліха яго ведае. Можа сёння, можа заўтра, а можа і зусім не паказацца ў гэтым месцы, праляціць дзе-небудзь бокам. Вось і чакай яго, акаяннага, вочы праглядаючы. Воўк, калі яго адразу ўбачыць ды нарабіць крыку, уцячэ. Пра гэта я чуў не раз ад старых пастухоў. Горш, калі ён уб'ецца ў чараду. Тады яго не лёгка прагнаць. Юзіку лепш. Воўк калі і заскочыць у наш бок, то кінецца, вядома, да авечак, а не да кароў. Так што яму ваўка не трэба баяцца. Ды, здаецца, ён нікога і не баіцца, апрача Вінцуковага быка. Бык сам-то рахманы, ды пугі не любіць. З ім трэба ўмець ладзіць. Я рад, што Юзік не сумуе адзін у полі і робіць сваю работу ціха і без наракання ў і на свой статак, і на гаспадара.

Воўк гэтым летам у чараду не заскочыў, і ўсё абышлося добра. За лета мы з Юзікам не толькі загарэлі, як асмалкі, але і добра падраслі пад дажджамі ды пад сонцам. Так што маці, сустракаючы нас дома, не заплакала, як звычайна, а нават заўсміхалася:

— Павырасталі як мае хлопцы! Не пазнаць.

Цешыла яе і тое, што скупы Вінцук усё ж прывёз нам за нашу службу дзве асміны жыта і два мяшкі бульбы. Праўда, потым мы даведаліся, што ласку гэтую ён зрабіў не так сабе. Гарасім пры сустрэчы прысароміў яго. А можа і ў самога Вінцука заварушылася сумленне. Пастушкі ж яму каштавалі зусім нядорага. Кармілі нас усё лета адной і той жа бульбай з малаком. Рэдка калі перападала што лепшае. Ніводнага дня гаспадары не падмянілі нас. І пасвілі мы, не спускаючы з жывёлы вока. Мы далі матцы сваё цвёрдае слова, што будзем старацца, і стараліся як маглі.

Дома ў нас цяпер работы не было. Цяляці за Арлову шкуру матцы купіць не ўдалося. Грошай хапіла толькі на рудое парася. За лета яно добра падрасло, і цяпер маці не ведае, што з ім рабіць: закалоць або пускаць на зіму. Сена са сваіх шнуркоў на сенажацях яна прадала суседзям за тры мяшкі бульбы. Маці ўсё думала пра зіму. За лета яны нагаладаліся з Ядзяю. Хапіла ім гэтай бядоты. Але ж улетку лягчэй галадаць, чым зімою. Улетку крапіва ды лебяда ратуюць. Зімою гэтага дабра не знойдзеш.

Мы зрабілі патайную схованку ў гумне і схавалі там трохі збожжа на вясну. Схавалі і ад рэквізіцый і ад сябе саміх. Вайна ўсё яшчэ ідзе, і яна не клапоціцца, што табе есці і як жыць, а знішчае апошняе.

Добра яшчэ, што нас не выганяюць у бежанцы. Фронт як спыніўся леташняй восенню недзе за Стоўбцамі, дык і цяпер там. Відаць, такі і праўда выдахліся немцы. Ды і нашы не могуць пахваліцца сілаю. Вось і тузаюцца на месцы — ні туды, ні сюды. Праўда, чуткі былі, што генерал Брусілаў трохі пакалашмаціў улетку аўстрыякаў. Ды на гэтым справа і скончылася. Іншыя генералы не адважыліся адарвацца ад сваіх акопаў.

Дзе цяпер Казік? Ён, відаць, пакрыўдзіўся на мяне за

маё пісьмо і больш не піша. Можа напісаць яму новае пісьмо?

Мне так захацелася зрабіць гэта, што я ўжо не мог супакоіцца. Знайшоў сухую чарніліцу, падліў у яе вады. Выцер пяро. Канверта ў мяне не было, а паперы кавалак знайшоўся.

Я сеў і напісаў кароценькае пісьмо — так сабе, на ўсякі выпадак. Бо хто ведае, можа яны куды пераехалі, і пісьмо маё не знойдзе яго. У канцы пісьма прыпісаў: «Калі будзеш адказваць мне, то напішы, Казік, як ты жывеш сам. Пра вайну не пішы, бо я чытаю газеты і ведаю ўсё, што робіцца на свеце». Я знарок схлусіў пра газеты: іх я цэлае лета і ў вочы не бачыў. Засцянкоўцы газет не чытаюць, іх цікавіць толькі адно: калі скончыцца вайна? Але ж у газетах пра гэта не пішуць.

Напісаўшы пісьмо, я падумаў, што не шкодзіла б паказаць яго Гарасіму. Можа ён што разумнае падкажа. А заадно можа ў яго знойдзецца лішні канверт.

Гарасім прыходзіў з работы позна. Я сядзеў каля акна і пільнаваў яго.

І ўжо калі добра змерклася, я ўбачыў яго на вуліцы. Ён ішоў цяжкаю хадою змаранага і спрацаванага чалавека. Я пазнаў яго паходку і яго постаць — невысокую, шчуплую.

Я пачакаў крыху і пайшоў да яго ў хату. Жыў Гарасім у той жа маленькай варывеньцы. Толькі прырабіў да яе за гэты час дашчаную прыбудоўку з акенцам.

Гарасім быў рады майму прыходу.

— Падрос як, каб ты здаровенек быў! — патрос ён маю руку.— Дзяцюк! Нічога не скажаш.

Ён паказаў мне на ўслончык каля стала.

— Ну, сядай, браток, расказвай, як вам там пасвілася.

Гарасім падышоў да газовачкі, якая стаяла на прыпечку, і падкруціў крыху кнот.

— Не салодка жыць у чужых людзей, мусіць? Дома лепш?

— Дзіва што,— адказала за мяне Гарасімава жонка, цётка Надзя.— Ты ж некалі сам у пастухі наймаўся. Помніш?

— Помню,— прыцмокнуў Гарасім.— Усё помню. Недарэмна кажуць: «Батрачы хлеб — сабачы».

Ён прысеў з другога канца невялікага стала. У Гара-

сімавай хаце ўсё было невялікае — і вокны, і печ, і лавы, і палаці, дзе спала сям'я. А столь была такая нізкая, што нават я даставаў да яе рукою.

— А чаму б табе, Пятрусь, не пайсці да нас на работу? — раптам сказаў Гарасім і неяк загадкава паглядзеў мне ў вочы.

— На якую, дзядзька Гарасім? — здзівіўся я.

— На рымарскую.

— Хто мяне возьме?

— Я вазьму.

Мне здавалася, што Гарасім гаворыць пра гэта несур'ёзна. Які ж я рымар? Ды і гады ў мяне якія. Каму я патрэбен.

— Ты ўжо хлопец дужаваты, граматны, кемлівы,— гаварыў далей Гарасім, нібы ўгадваючы мае думкі.— Ды ў нас многа такой работы, што на яе і навукі не трэба. Я пагавару са старшым майстрам. Людзей у нас не хапае. Бежанцы раз'язджаюцца бліжэй да фронту. Маладых у армію пабралі. Засталіся толькі старыя ды падлеткі або бракоўныя, як я. Плата падлеткам, праўда, невялікая. Ды ўсё лепш, чым дома сядзець. У маткі лішняга хлеба, нябось, няма. А там хоць пакормяць раз на дзень.

Я, вядома, рад быў пачуць ад дзядзькі Гарасіма такую навіну.

А наконт пісьма ён сказаў:

— Добра. Пасылай. Казік, відаць, не адважыцца пасля двух напамінкаў лаяць у пісьме цара і яго парадкі. Гэта ж усё роўна што падстаўляць галаву пад тапор. Цар не любіць, калі яго лаюць. Ды і не лаяць яго трэба, а рабіць нешта большае...

Гарасім раптам змоўк і перавёў гаворку на іншае.

— Канверт у цябе ёсцека?

— Не, няма.

— То я табе дам.

Ён дастаў з шуфляды стала невялікі сіні канверт і падаў мне.

— Магу сам і на пошту занесці, калі хочаш,— падахвоціўся Гарасім.— Мы ўдзень маем гадзіну перапынку. То я схаджу за гэты час у мястэчка. Мне там усё роўна трэба быць.

— Добра, дзядзька Гарасім. Занясіце, калі вам не цяжка.

Я папрасіў у яго чарніла і напісаў адрас.

жыць нам стала лягчэй. Асабліва цяпер, увосень, калі, як кажуць, і верабей багаты. Ды мы, можна сказаць, ужо мала чым і розніліся ад вераб'ёў. Толькі што сваю хату маем. Рэквізіроўшчыкам яна не патрэбна, ды і стараста яе абыходзіць, хоць мы ўжо два гады як не плацілі падаткаў. Стараста, відаць, махнуў рукою і на нас, і на падаткі. Усё, што можна было, з нас вырвалі.

Пакуль мы з Юзікам пасвілі, у сяле зноў адкрылася школа. На гэты раз поп прыслаў сваю малодшую дачку. Мы рваліся ў школу і збіраліся кідаць сваю службу раней часу. Але засцянкоўскія дзеці, якія пайшлі запісвацца ў школу, прынеслі невясёлыя навіны: новая настаўніца бралася вучыць толькі два аддзяленні — першае і другое. А нам патрэбны трэцяе і чацвёртае. Мы супакоіліся і цягнулі сваю службу да канца — гэта значыць да пакроў [1]. «Прыйшлі пакровы — заганяй у хлеў каровы»,— гаворыцца ў прыказцы. Так было і ў нас.

Цяпер я ўжо зусім страціў надзею на школу. «Ну што ж,— суцяшаў я сам сябе,— іншым і тры гады не ўдаецца вучыцца. Двух настаўнікаў нам не прышлюць».

Усю восень мы з Юзікам хадзілі ў лес збіраць галлё. Бралі вяроўкі, вязалі вязкі і насілі на плячах дадому. «Калі выпадзе снег, тады лягчэй будзе,— цешылі мы сябе.— Тады будзем вазіць на санках».

Гарасіма я калі-нікалі сустракаў на вуліцы. Ён або праходзіў моўчкі, або гаварыў коратка:

— Яшчэ не дагаварыўся, брат, з майстрам. Пачакай.

— Нічога, дзядзька Гарасім,— адказваў я,— не турбуйцеся. Як-небудзь пражывём і без работы.

— Не, не, я думаю, усё будзе добра.

Чаму Гарасім не мог дагаварыцца з майстрам наконт маёй работы, ён не казаў. Але з яго кароткіх размоў відаць было, што ёсць нейкая перашкода і не маленькая.

Аднойчы, ужо зімою, я ўбачыў Гарасіма дома ў будны дзень. Ён, як здалося мне, быў вельмі хмуры і заклапочаны. Я прывітаўся і хацеў прайсці міма яго хаткі.

— Чакай, Пятрусь,— затрымаў ён мяне сам.

Я спыніўся.

— Чаму гэта вы сёння не на рабоце? — запытаўся я.— Можа свята якое?

— Свята беспрацоўнага,— горка ўсміхнуўся Гара-

---

[1] Пакровы — асенняе рэлігійнае свята (14 кастрычніка).

сім.— Выбачай, я так і не змог нічога зрабіць для цябе. А цяпер і самога мяне выгналі...

— Вас? За што?

— З майстрам Петухоўскім не паладзіў... Ён, бачыш, шкура такая, што вочы б на яго не глядзелі.

І Гарасім расказаў мне, як ён страціў работу. Выходзіла, пачалося ўсё з мяне. Майстар загарадзіў Гарасіму вялікі хабар за тое, што прыме мяне ў рымарскую. Спачатку Гарасім думаў, што ён жартуе. А потым даведаўся, што майстар гэты шмат з каго браў хабары або вымагаў розныя гасцінцы. Гарасім прысарамаціў майстра. І той пасля гэтага не меў на яго вока. Пачаў прыставаць, ганіць або і зусім бракаваць яго работу. Гэта яшчэ больш злавала чэснага і добрага работніка дзядзьку Гарасіма.

Скончылася ўсё тым, што майстар разлічыў яго, хоць Гарасім і быў адным з лепшых работнікаў у рымарскай.

— Ліха яго бяры,— скончыў свой сумны расказ Гарасім.— Знайду другога такога пана. Тут толькі вот зручна было — недалёка ад дому. Гэтага шкада. Ды паглядзім, можа што ў мястэчку на маю долю знойдзецца. Там цяпер рамеснікі таксама ваенныя заказы маюць. Пайду да каго-небудзь чаляднікам. Ну, і табе буду шукаць якога прыстанішча.

Які ўсё ж добры чалавек дзядзька Гарасім, падумаў я. Сам вунь без работы праз мяне застаўся, а ўсё не траціць надзеі дапамагчы мне.

## ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА Ў ГОСЦІ...

Прыйшлі каляды. Яны пачаліся з куцці. Калядныя куцці, як вядома, дзве: адна посная, другая скаромная, або багатая. Посная куцця нецікавая. Мы яе не любілі. Яна спраўлялася ў канцы піліпаўкі [1] перад самымі калядамі. Затое другая куцця радавала ўсіх.

Яшчэ зранку на шчадраца — у дзень перад Новым годам — уся сям'я пачынала займацца куццёю. Ухадзіўшыся, маці ставіла на чарэнь добры чыгун або гаршчок ячных круп, густа запраўляла іх свінымі рабрынамі. К калядам калолі свіней, і мяса ў гэты час было траха не ў кожнага гаспадара. Калі ж хто і не калоў, то меў «дзя-

[1] Піліпаўка — шасцітыднёвы пост перад калядамі.

лянкі» ад суседзяў. Так у нас вялося здавён. Толькі самыя скупыя не дзяліліся на каляды скаромнінаю.

Ячная каша, якая ў гэты дзень называлася толькі куццёю, прэла на гарачай чарэні да самага вечара.

Але ж куцця была толькі асноваю сямейнай вячэры. Да яе прыбаўлялася яшчэ адзінаццаць страў або хоць бы хто колькі мог назбіраць. Верашчака, бліны, крупнік, капуста, мучныя вушкі, рыба, селядцы, тоўчаны мак і іншыя прысмакі — вось што такое калядная куцця ў сваім поўным уборы і акружэнні!

Мы з дзедам траха не па каліву выбіралі самае доўгае сена і рассцілалі яго на стале. Маці даставала з куфра чысты белы абрус і засцілала ім наш зялёны стол. Ён разносіў навакол такі густы і прывабны пах, што здавалася, само сонечнае лета раптам урывалася ў хату і запаўняла ўсе яе куткі і шчыліны. Бацька выбіраў у кадушцы самыя буйныя зярняты гароху, крэйдаю маляваў на вушаках крыжы і іншыя таямнічыя знакі. Рабілася ўсё гэта не так сабе. Крыжы і таямнічыя знакі мусілі адганяць ад нашай хаты злых духаў. А буйны гарох, ён азначаў проста багацце, дастатак...

І вось надыходзіў чаканы і жаданы вечар. Над высокім ад сена сталом, пад столлю, зырка гарыць лямпа. Шкло, заседжанае мухамі, у гонар куцці маці вымывала і вычышчала. І кнот не шкадавала выкруціць. У звычайныя дні лямпа рэдка калі паліцца. Яе замяняе камінак або газовачка — «смаркачык».

Уся сям'я, стоячы каля стала з куццёю, шэпча пацеры. Кожны моліцца сам сабе. Нашы дзіцячыя пацеры кароткія, бацькі шэпчуцца даўжэй. І толькі пасля таго, як дзед тройчы стукне сябе кулаком у грудзі з прышэптам: «Будзе мне, грэшнаму», мы садзімся за стол. Дзед, як я казаў, не быў вялікі ахвотнік да пацераў. Але ў вялікія святы, тым больш на багатую куццю, абысціся без іх не мог. Адзін раз мы з Юзікам нават нарабілі бяды ў гэты вечар. Гледзячы, як бацька і дзед дружна матаюць галовамі і шэпчуць незразумелыя мне словы, я рассмяяўся. Мой смех перадаўся Юзіку. Бывае ж, нападзе на чалавека такі пусты смех. Бачу, бацька ўжо паглядае на сцяну, дзе на драўляным кручку вісіць папруга. А стрымацца не магу. І толькі калі бацька, не спыняючы шэптаў, зняў папругу з кручка, мы з Юзікам сяк-так супакоіліся.

Чыгун тлустай смачнай куцці пусцее ўвачавідкі. І не

дзіва: мы ж цэлы дзень яе чакалі, стараліся менш есці ў абед, каб не страціць смаку. А калі ўслед за куццёю маці ставіла на стол міску верашчакі са смажаным салам і кучу грэцкіх бліноў, дык мы пачыналі шкадаваць, што мала месца пакінулі на гэтыя не менш смачныя стравы. Звычайна мы з Юзікам любілі махаць нагамі пад сталом, стукаць адзін аднаго, шчыпацца. Цяпер жа ў нас прападаў усялякі інтарэс да дураслівасці. Мы наядаліся да колікаў у жываце.

А потым маці першая заводзіла песні. Яна ўмела іх спяваць. Ёй падпяваў і бацька.

Прыехала каляда ў госці,
Села яна на памосце.
Села яна на куце,
Паставіла ножкі на стаўбе...

Нам з Юзікам таксама была работа: карміць верабейчыкаў. Іх цяпер няма на двары: яны пахаваліся недзе пад стрэхамі. Мы гэта ведаем. Але якая ж гэта куцця, калі не падзяліцца ёю і з птушкамі. Мы бяром па жменьцы тугой куцці — яе маці знарок пакідае на прыпечку, выбягаем на двор і клічам:

Верабейчыкі-канарэйчыкі,
Ідзіце куццю есці!
Верабейчыкі-канарэйчыкі...

І падкідалі куццю ўгору, пад страху, дзе, добра чуем, варушчацца вераб'і.

Потым бацька сеяў гарох па хаце, а мы навыперадкі падхоплівалі яго рукамі. Маці і маленькая Ядзя выцягвалі з-пад абруса каліўцы сена. Якой даўжыні каліўца ўдавалася выцягнуць, такі налета будзе лён. Вось чаму мы з дзедам і стараліся вышукваць для каляднага стала самае доўгае сена — балотную асаку або лугавую мятліцу. Праўда, лён у нас усё ж не хацеў расці доўгім...

Усё гэта мне ўспаміналася цяпер, на трэцім годзе вайны, як добры, мілы сон. Пасля дзедавай смерці мы і зусім перасталі спраўляць куццю — і бедную і багатую. «Ат! — казала маці.— Не да куцці нам цяпер...»

Але каляды гэтай зімы не мінулі мяне. Кожны год у ноч перад калядамі ў нас вадзілі казу. Мы, малыя, цэлым натоўпам бегалі за калядоўшчыкамі, любаваліся казою, слухалі музыку і песні. А сёлета я сам стаў казою.

Завадатарам калядавання ўзяўся быць меншы Сымо-

наў брат, Цімох — хлопец спрытны да ўсяго. Ён і на гармоніку добра іграў, як і большы яго брат, і спяваў не дрэнна, і ў скоках быў з першых. Гэта яму і прыйшло ў галаву запрасіць мяне ў сваю кампанію.

— Ты малы,— сказаў Цімох,— табе зручней казою хадзіць, чым каму з большых хлопцаў.

Так я стаў казою. Ролю сваю мне завучваць не было патрэбы — я яе ведаў, можна сказаць, з пялёнак. Бывала, не раз і зайздросціў каляднай казе. Усе з яе дзівяцца, усе ёю цікавяцца. Каза ў такой справе — аснова асноў.

Я перавярнуў стары дзедаў кажух воўнаю наверх, з паркалёвых абрэзкаў змайстраваў казіную морду з рагамі. Не хапала толькі капытоў. Замест іх я абуў бацькавы боты з падкоўкамі. І выйшла з мяне каза як жывая. І маці, і Ядзя, і Юзік — усе хвалілі казу. Цяпер мне хацелася хутчэй паказацца людзям.

Адвячоркам перад калядамі мы сабраліся ў Цімоха. Прыйшлі і тыя, каго Цімох запрасіў, і тыя, каму хацелася далучыцца да калядоўшчыкаў. Але Цімох строга сказаў ахвотнікам:

— Хадзіць за намі хадзіце, толькі не ў кампаніі.

Цімох не быў скупы. Ніхто яго за гэта не папракнуў бы. Але ён быў хлопец разважлівы. І праўда, ці ж можна дзяліць мізэрныя калядныя падарункі на ўвесь гурт, які звычайна ходзіць за казою?

Ды, урэшце, ніхто Цімоху і не пярэчыў. Сказаў ён гэта так сабе, дзеля парадку.

У сапраўдныя калядоўшчыкі Цімох запрасіў чалавек дзесяць. Апроч казы былі тут музыкі, спевакі і механошы з кашамі і мяшкамі.

Як толькі пацямнела на дварэ, мы рушылі ў паход. Пачалі з нашага канца сяла. Першая хата ў нас Миронава. Цяпер у ёй жыве толькі цётка Мар'яна, або Міроніха, як найчасцей завуць яе, з кучаю дзяцей. Сам Мірон на вайне. Ужо разы тры ці чатыры быў паранены. А ўсё ваюе. Я думаў, Цімох абміне Міроніху. Ёй жа не да нашых казіных песень! І дарыць у яе няма чаго. Парсюка к калядам яна не калола.

Аднак Цімох гэтага не зрабіў. Адчыніў вароты і пашыбаваў да ганка. За ім падаліся і ўсе законныя калядоўшчыкі. Астатняя кампанія прыпынілася на вуліцы.

Каля ганка Цімох з гармонікам цераз плячо падняў руку. І тут жа расцягнуў сваю старэнькую двухрадку.

Спрытна ўдарыў смычком музыка Гальяш, дробна застукаў у бубен маленькі шчуплы дзядзька Рыгор. Я выскачыў наперад. Спевакі і механошы заспявалі хорам:

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Не забывайся —
Паварачайся!

Я пачаў варочацца, кідацца ў бакі, круціць рагамі, бадацца. Хлопцы з вуліцы рагаталі і паддавалі мне ахвоты:

— Давай, давай, каза-дзераза! Гэта табе не капусту ў агародах латашыць!

Тут жа я ўбачыў, што на ганку з казы цешыцца Міроніха і ўсе яе дзеці. Апрануты яны як папала: хто ў лапцях, а хто і босы.

— Хлопчыкі, зайдзіце ў хату! — папрасіла Міроніха, улучыўшы хвіліну.— А то на дварэ дзецям холадна.

І праўда. На дварэ даймаў мароз, хоць і невялікі, бо пачынаў падсыпаць сняжок. Ён мякка слаўся на маёй казінай футры, фарбуючы яе ў белы колер.

У хаце пры святле камінка мы заспявалі і заскакалі яшчэ весялей:

Дзе каза ходзіць,—
Там жыта родзіць.
Дзе каза хвастом,—
Там жыта кустом.
Дзе каза нагою,—
Там жыта трубою.

Дзеці аж пішчалі ад радасці і ўсё наравілі ўшчыкнуць казу. Я страшыў іх рагамі, мэкаў і кідаўся то на аднаго, то на другога. Меншыя хаваліся за матчыну спадніцу, а большыя выстаўлялі да мяне рукі і таксама мэкалі і бэкалі.

Песня канчалася выпрошваннем падарункаў:

На казіны ражок
Кладзі піражок,
На казіны хвасток —
Сала кусок.

Збянтэжана ўсміхаючыся, Міроніха хапалася за галаву.

— А мае вы хлопчыкі, дзе ў мяне тыя пірагі ды сала...

Яна павярнулася да стала, узяла паўбохана мякіннага

хлеба і падала механошу Паўлюку. Паўлюк глянуў на Цімоха: браць ці не?

— Дзякуем, цётка Мар'яна,— пакланіўся Цімох гаспадыні.— Але хлеб табе больш патрэбен, чым нам.

Цімох узяў хлеб з Паўлюковых рук і палажыў назад на стол.

Міроніха спалохана пляснула рукамі.

— А вой-вой, як жа вы, хлопчыкі, так з хаты пойдзеце. Пачакайце, я хоць місачку гароху вам насыплю...

— Не, не, цётка Мар'яна,— заматаў галавою Цімох.— Мы не з усіх бяром каляду.

— Дык што ж вы, даражэнькія, выходзіць, дарэмна ігралі мне ды спявалі?

— Мы, Мар'янка, не ў заработкі выйшлі,— адказаў ёй дзядзька Рыгор.— І нас ніхто не выпраўляў на такую работу. Мы хочам павесяліцца самі і людзей павесяліць. А браць будзем толькі ў тых, хто мае што даць.

Пасля такога Рыгоравага тлумачэння Міроніха вельмі расчулілася і не ведала, як нам дзякаваць.

Мы ішлі ад хаты да хаты. Калі гаспадар не хацеў прыняць калядоўшчыкаў, ён гасіў святло і не выходзіў на ганак. Але такі трапляўся мо адзін на дзесяць хат.

Песня пра казу спявалася па частках, бо яна была надта доўгая. Часамі да яе прыбаўляліся і іншыя калядныя песні і прыпеўкі. Калі ў гаспадара былі маладыя дочкі, услед за Цімохавай двухрадкай спевакі зацягвалі:

Ой, рана, рана пеўні запелі,
Каляда, пеўні запелі.
Ой, яшчэ раней Ганначка (ці Волечка, Марысечка) устала,
Каляда, Ганначка ўстала.

Для гаспадаровых сыноў меліся ў запасе іншыя песні.

А як хвалілі калядоўшчыкі ў сваіх песнях саміх гаспадароў! Аж смешна было слухаць. Гнілыя лядаштыя хаткі ператвараліся ў церамы і палацы, дзядзькі і цёткі — у паноў і паняў або нават князёў і княгінь.

Ой, ці дома, дома
Сам пан гаспадар?
Добры табе вечар,
Пане гаспадару!

Хіба ж не адклікнецца сэрца пана гаспадара на такую песню? Дзе ж яшчэ ён пачуе, што яго дочкі намералі трыццаць чатыры шанкі пшаніцы!

— А што тваё харошыя дочкі робяць?
— А ў гумне ды пшанічаньку мераюць.
Намералі трыццаць шанкаў і чатыры.
— А тыя чатыры нам, калядоўшчыкам!

Гаспадар, вядома, і шанку пшаніцы рад бы быў, бо ў нас мала хто яе і сеяў.

Самага шматдзетнага ў сяле Цупрука мы ў момант зрабілі найбагацейшым банкірам.

Добры вечар, пане гаспадару,
каляда!
Харошыя маеш ты сыночкі,
каляда!
Ой, што ж яны ў цябе робяць?
каляда!
— У святліцы золата важаць,
каляда!

У Цупрука апроч дачок было пяць ці шэсць сыноў, адзін аднаго меншы. А што да золата, то не толькі сыны, а сам Цупрук ніколі яго і ў вочы не бачыў. Але Цупруку ўсё ж было прыемна слухаць пра сваіх сыноў, якія ў святліцы важаць золата. Хлопцы яго тым часам забаўляліся з казою — мацалі, цягалі за рогі, за воўну. Я таксама не аставаўся ў даўгу: каго ўбрыкну, каго рогам падчаплю, каму скрадуся ды на самае вуха замэкаю. Малыя аж качаліся ад рогату.

Гадзіны праз тры мы змагліся так, што ледзьве ногі цягалі. Спевакі пасіплі і пахрыплі, у музыкаў здубянелі рукі. Ды і гаспадары ўжо спалі моцным сном.

Мы вярнуліся да Цімоха. Падзялілі падарункі і разышліся.

Я прынёс дахаты дзве каўбасы, тры кавалкі сала і з дзесятак яек.

— От добра,— зарадавалася маці.— Будзе хоць чым разгавецца.

Я таксама радаваўся. Але не так падарункам, як свайму першаму ў жыцці калядаванню.

## МІКАЛАШКА ДАЦАРАВАЎСЯ...

Гарасіму ўдалося вярнуцца ў рымарскую майстэрню. Майстар Петухоўскі не хацеў гэтага, ды за Гарасіма заступіліся сябры па рабоце. З месяц яны ваявалі з упартым хабарнікам, пакуль той не здаўся. А я мусіў чакаць

вясны ды зноў прасіцца ў Вінцука ў свінапасы. Але як дачакацца той вясны? Голад сёлета завітаў да нас раней, чым летась.

Мы з Юзікам рэзалі на балоце бярозавы хворост і вязалі венікі на продаж. У нядзелю звязвалі венікі вяроўкаю, каб не раскідаліся, і везлі на саначках у мястэчка. Маці вельмі радавалася, калі мы варочаліся з кірмашу з булкаю, а то і з дзвюма свежага ржанога хлеба. Сяды-тады пры лепшай выручцы мы дазвалялі сабе і пэўную раскошу: куплялі ўсім па селядцу. Усе гады мы пакутавалі без солі. Даставалі яе за вялікія грошы. Так што селядзец для нас быў самым лепшым ласункам.

У сяло па-ранейшаму наязджалі розныя рэквізіроўшчыкі. Казалі, сёлетняю зімою трохі паскублі нават і засцянкоўцаў. Заставалася некранутай адна толькі старастава гаспадарка.

Адным словам, усё ішло як звычайна, пакуль аднойчы не прыбег, моцна задыхаўшыся, з работы Гарасім. Было гэта ўжо напрадвесні. Казалі, хто яго першыя ўбачылі на вуліцы, што быў ён надта ўзрушаны. Размахваў рукамі і крычаў тым, хто трапляўся на вочы: «Свабода! Цара скінулі! Рэвалюцыя ў Петраградзе!..»

Людзі яго не разумелі, думалі, страціў чалавек розум, бо гаварыў ён такія рэчы, пра якія страшна было слухаць. Як гэта можна цара скінуць? Хто асмеліўся гэта зрабіць, калі цар вышэй за ўсіх? І як жа можна жыць без цара?

Я быў на сваім двары. Гарасім убачыў мяне.

— Пятрок, давай, браток, склікаць сход,— гукнуў ён мне весела.— Свабода прыйшла...

І ён спехам сказаў некалькі слоў пра цара і рэвалюцыю ў Петраградзе.

Я не ведаў, добра гэта ці дрэнна, але адчуваў, што дзядзька Гарасім вельмі рад такім падзеям. А калі ён радуецца, значыць, гэта добра.

Я бегаў ад хаты да хаты і таксама крычаў весела: «На сход! На сход! Цара скінулі!..»

Не мог жа я паверыць, што дзядзька Гарасім вярзе глупства. Не такі ён чалавек. І калі хто мяне затрымліваў, каб распытацца, што я такое лапачу, я смела і рашуча адказваў:

— Рэвалюцыя ў Петраградзе... Мікалашку далі па карку.

І дадаваў яшчэ сёе-тое пра Мікалашку, бо ўжо добра ведаў, што ён за цар.

Навіна пра цара дайшла і да старасты Палікара. Ён кінуўся да Гарасіма.

— Ты бунтаўшчык! Падбухторшчык! Я цябе ў астрог заганю!..

Гарасім шчыра разрагатаўся:

— Там, грамадзянін староста, няма ўжо каму прымаць мяне.

— Ты што вярзеш? Звар'яцеў?

Староста ніяк не мог уявіць сабе, што такое можа здарыцца. Але перш чым вязаць падбухторшчыка Гарасіма ды адсылаць у астрог, ён запрог каня і сам ірвануў у валасць у розведы.

Сход на гэты раз сабраўся вельмі хутка. І прыйшлі на яго не толькі мужчыны, як звычайна. Хто ж мог пасля маіх аб'яў уседзець дома?

Дзень выдаўся пагодлівы. Вясновае сонца ўжо выгнала з-пад стрэх нават самых гультаяватых вераб'ёў. Разам з пеўнямі яны спраўлялі свае першыя вясновыя канцэрты. На стрэхах раставалі ледзяшы. Снег чарнеў і асядаў увачавідкі. Яшчэ тыдзень, другі, і зашуміць, загудзе паводка. Я любіў гэтую пару года. Кожную зіму чакаў яе, як нечага самага жаданага.

Гарасім прыйшоў да школы, калі тут на ўсю ваколіцу ўжо гаманіў сход. Апрануты ён быў ва ўсё святочнае. Боты наваксаваў так, што яны блішчалі, як лакіраваныя. У руках трымаў невялікую палку з чырвонай хусцінкай на канцы. Хваравіты твар яго свяціўся радаснай усмешкай. Ніколі я яшчэ не бачыў Гарасіма такім светлым і шчаслівым.

Але што азначае гэтая палка з чырвонай хусцінкай, падобная на сцяг? Я ведаў, што ёсць белыя сцягі: іх падымаюць, калі здаюцца ворагу. А што азначае гэты чырвоны сцяг?

Чутка пра цара і рэвалюцыю ў Петраградзе пайшла ад Гарасіма. Гэта ўжо ведалі ўсе. А адкуль дазнаўся пра яе сам Гарасім? Праўда, ён прыбег з панскага маёнтка. Людзі гэта бачылі. Аднак мо хто выдумаў небыліцу ды пусціў па белым свеце? І што цяпер будзе, калі і праўда, што цара скінулі? Хто зойме яго месца? Хто будзе людзьмі камандаваць, з немцам ваяваць? А калі скінулі цара, то ці не можна скінуць і пана Ясінскага, і ўрадніка Вяр-

білу, і наогул усіх зненавідных царскіх слуг і служак? Словам, ці будзе якая палёгка беднаму мужыку ад таго, што зляцеў з прастола цар Мікалашка. Пра гэта і шумеў сход да прыходу Гарасіма.

Гарасім падняўся на школьны ганак. Шум сцішыўся. Усе ўтаропіліся на Гарасіма з яго незвычайным чырвоным сцягам. Мо і праўда, ён не ў сваім розуме?

— Дарагія мае аднасяльчане,— загаварыў Гарасім, размахваючы сваім чырвоным сцягам над галавою.— Я вельмі рад перадаць вам вялікую-вялікую навіну: няма больш у нас цара Мікалая Другога. Дурнога як бот Мікалашкі, які давёў Расію да вайны і галечы. Таго Мікалашкі, які дазваляў, каб ім кіраваў бадзяга з усяго свету распусны поп-расстрыга Распуцін і такая ж дурная, як і ён сам, царыца-немка.

З першых жа слоў Гарасіма перапынілі:

— Адкуль жа ты, Гарасімка, ведаеш пра гэта? Можа няпраўда?

— Праўда! — рашуча ўзмахнуў сваім чырвоным сцягам Гарасім.— Ісцінная праўда!

І ён расказаў, што зараз робіцца ў мястэчку. Там ужо ўсіх царскіх арлоў пазрывалі. Вярбіла збег некуды з самага ранку. Астрог пустуе. А ўсе людзі ходзяць па мястэчку з чырвонымі сцягамі, іграюць і спяваюць новыя, раней забароненыя песні.

Як было пасля гэтага не паверыць дзядзьку Гарасіму!

— А хто ж цяпер будзе замест цара?

Гарасім і пра гэта ведаў.

— Цара вымусілі адрачыся ад прастола рабочыя і салдаты Петраграда. Яны ж і ўстанавілі сваю новую ўладу — Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Але буржуі і царскія міністры таксама не драмалі: абвясцілі сваю буржуйскую ўладу — Часовы ўрад. Так што, выходзіць, замест адной царскай у Петраградзе цяпер дзве ўлады.

Разабрацца ва ўсім гэтым было нялёгка, і сход пачаў цікавіцца больш яснейшымі пытаннямі: дадуць новыя ўлады зямлю мужыкам ці не?

— А мы як будзем рашаць? — запытаўся Гарасім у сходу.— Якую ўладу прызнаем — Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў ці Часовы ўрад?

Мужчыны задумаліся, зашапталіся.

Потым за ўсіх адказаў наш самы мнагадзетны дзядзька Цупрук:

— Мы за тых, хто нам зямлю пана Ясінскага аддасць!

Сход дружна падтрымаў яго.

— У балота пана Ясінскага!

— На асіну!

— Хопіць яму панаваць!

Калі шум сціх, Гарасім сказаў:

— Зямлю пана Ясінскага, як я думаю, можа перадаць нам толькі ўлада Саветаў.

— Тады мы за ўладу Саветаў! — першым гукнуў той жа Цупрук.— Другой нам не трэба!

Людзі доўга гаманілі, меркавалі, як будзе жыцца без цара, прыходзілі да вываду, што даўно трэба было яго скінуць, і дзівіліся, як не дадумаліся рабочыя і салдаты Петраграда зрабіць гэта раней. Можа б тады і вайны не было, і гора, і голаду...

Міма школы праехаў стараста. Ён сядзеў на санях з апушчанаю галавою, залатая завушніца яго вяла павісла на шчацэ.

— Ну, што ты там даведаўся? — аклікнулі яго мужчыны.

Палікар толькі цяжка прастагнаў, махнуўшы рукою:

— Э...

І хвасянуў каня пугаю.

Смех і жарты пасыпаліся яму наўздагон. Пануры, маўклівы стараста быў лішнім сведкам праўдзівасці Гарасімавых слоў пра цара і рэвалюцыю.

Потым Гарасім выйшаў наперад і запрасіў нас прайсціся па сялу ўсім сходам пад чырвоным сцягам — мы ўжо ведалі, што гэта сцяг рэвалюцыі, які развяваецца ў гэтыя дні над прасторамі ўсёй вялікай Расіі.

Гарасім заспяваў:

Вставай, проклятьем заклейменный,
Весь мир голодных и рабов!
Кипит наш разум возмущенный
И в смертный бой вести готов.

Ніхто з нас не ведаў слоў песні. Але мы хутка засвоілі яе лад і дружна пачалі падпяваць адным голасам.

### А ПАН УСЁ ПАНУЕ...

Цяпер, як толькі Гарасім прыходзіў з работы, мы беглі да яго даведацца, што робіцца на свеце.

А па свеце тварылася такое, што галава кругам ішла. Што ні дзень, то новыя навіны. Галынаўцы рваліся дзяліць панскую зямлю. Ішла вясна, пара думаць пра сяўбу. Але Гарасім, якога мы цяпер слухалі больш, чым старасту Палікара, бо ён быў нашым дэпутатам у валасным Савеце, адказваў адно і тое ж:

— Пачакаем яшчэ, мужчынкі.

— Чаго чакаць? Цара вунь турнулі з прастола, а мы не можам пана з маёнтка... Выходзіць глупства нейкае, дый годзе!

Гарасім тлумачыў нам, што, як відаць па ўсім, рэвалюцыя запынілася на паўдарозе.

— Чаму запынілася? Хто яе запыніў?

— Саветы пайшлі на згоду з Часовым урадам,— адказваў Гарасім.— А Часовы ўрад забараняе паноў чапаць. Кажа: збярэцца нейкі ўсерасійскі сход, ён і вырашыць, што з панскаю зямлёю рабіць. А калі ён збярэцца, той сход, і як вырашыць? Гэтага ніхто не ведае. Тут, браткі, і ўся загвоздка. Мы прагонім пана, нам гэта не цяжка, а валасны камітэт, пастаўлены Часовым урадам, верне яго назад ды яшчэ пакарае нас за самавольства. Другая ўлада — валасны Савет — прамаўчыць, не паможа нам. Дзе-нідзе ўжо спрабуюць калаціць паноў. Дык туды насылаюць міліцыю, а то і казакоў...

Мы, вядома, моцна крыўдзіліся на Саветы, якія спынілі рэвалюцыю на паўдарозе, як кажа Гарасім. Чаму яны ўсё-такі пайшлі на згоду з Часовым урадам? Гарасім і пра гэта ведаў. З яго слоў выходзіла, што не ўсе рэвалюцыянеры сапраўдныя. Толькі тыя, што называюць сябе бальшавікамі, выступаюць за поўную рэвалюцыю. А іншыя — меншавікі, эсэры, бундаўцы — рэвалюцыянеры фальшывыя. Беднаму люду яны не спачуваюць.

На бяду, бальшавікоў у Саветах зусім мала. Саветы захапілі ў свае рукі ўсе гэтыя фальшывыя крыкуны.

— Што ж цяпер рабіць?

Гарасім сказаў, што ён выбраў для сябе правільную дарогу: запісаўся ў партыю бальшавікоў. Бо чым больш будзе ў Саветах дэпутатаў-бальшавікоў, тым скарэй можна дабіцца і зямлі, і свабоды. А то што ж робіцца? Цара скінулі — і толькі. Замест паліцыі паставілі міліцыю. Замест губернатара — губернскага камісара. Не кіем, дык палкаю... Вайна як вялася, так і вядзецца. Паны як панавалі, так і пануюць. Праўда, дзе-нідзе рабочыя дабіліся

невялічкай палёгкі — арганізавалі свае камітэты, саюзы, зменшылі рабочы дзень. А што выгадалі ад рэвалюцыі сяляне? Нічога!

Вясною, калі прыйшла пара наймацца ў пастухі, Гарасім запрасіў мяне нарэшце на работу ў рымарскую майстэрню.

— Цяпер, брат,— сказаў ён,— наш майстар Петухоўскі не той: паспакайнеў чалавек. Не ведае, бач, каго больш слухаць: пана ці наш рабочы камітэт. Рэвалюцыя нябось збіла з яго фанабэрыю. Баіцца за сваю шкуру. Калі Саветы перамогуць, думае, ды вытураць пана, давядзецца мець справу толькі з рабочым камітэтам. Ён цяпер, як кажуць, паміж двух агнёў круціцца. Учора сказаў: «Ты, Гарасім, выбачай, што ў мяне з табою так выйшла... Хлопца свайго, калі хочаш, прыводзь, няхай робіць». Ну, дык як?

Я адказаў не задумваючыся:

— Добра, дзядзька Гарасім. Пайду. Дзякую за турботы.

Гэта ж лепш, чым пасвіць засцянкоўскіх свіней, думаў я. Няхай скупы і хітры Вінцук сам пасе іх.

Назаўтра ж пасля гэтай гаворкі з Гарасімам я быў ужо ў маёнтку.

Рымарская майстэрня пана Ясінскага змяшчалася ў старой драўлянай аборы. Там жа была і калёсная. Для кароў пан пабудаваў новую абору — мураваную. І паставіў яе далей ад сядзібы, пры самай рэчцы. Туды ж перанесіліся і адрыны для сена і саломы.

Майстэрні ў аборы былі адгароджаны адна ад адной тонкаю дашчанаю перагародкаю.

У рымарскай працавала, як мне здалося, чалавек сто, не меней. Усе сядзелі на доўгіх лаўках за доўгімі шырокімі сталамі, на якіх былі раскіданы сырамяць, лямец, драўляныя клешні для хамутоў, цуглі і розныя іншыя тавары і шавецкае начынне.

Гарасім падвёў мяне да майстра Петухоўскага. З таго, што я ведаў пра гэтага майстра загадзя, я ўяўляў яго злым разбойнікам. Перада мною, аднак, апынуўся зусім звычайны чалавек: шчуплы, як сам дзядзька Гарасім, з худым выцягнутым тварам і густымі чорнымі вусамі. Толькі вочы яго мне не спадабаліся: нейкія яны вельмі ж неспакойныя. Такія вочы ў нас называлі зладзейскімі.

Майстар запытаўся, колькі мне год. Я адказаў.

— Ну, што ж, па гадах падыходзіш,— сказаў ён.— А які будзеш на рабоце, паглядзім. Плаціць пан будзе табе дзесяць рублёў у месяц, як малалетку, ну і карміць абедам у рабочай сталоўцы.

Ці мог я таргавацца з майстрам? Дзесяць рублёў цяпер, на трэцім годзе вайны, грошы невялікія. Іх не цяжка зарабіць і на веніках. А што да абеду, то рэч іншая. Скарэй бы яго далі! Ад галадухі ў мяне ўжо дрыжаць ногі і мутнее ў вачах. Так што абед мяне спакусіў больш, чым дзесяць рублёў.

Я сеў за стол побач з Гарасімам.

— Будзеш мне памагаць,— сказаў ён.

Гарасім дастаў з шуфляды стала вялікую шавецкую іголку і даў мне.

— Адрэж кавалак дратвы, навашчы і зацягні ў іголку.

Дратва мне была штукай знаёмай, і я лёгка справіўся з першым сваім заданнем.

Пасля гэтага Гарасім паказаў мне сшыты лямец — падкладку для падсядзёлка.

— Такую зробіш?

Я пакруціў падкладку ў руках.

— Паспрабую.

Работа мне здалася таксама не складаней. Вострымі кравецкімі нажнамі я лёгка выразаў дзве столкі лямцу па велічыні гатовай падкладкі. Потым пачаў сшываць іх. Гарасім сюд-туд кідаў вока на маю работу.

— Тужэй, тужэй нацягвай дратву,— раіў ён.— Не спяшайся. Адну-дзве падкладкі пашыеш і навучышся.

Я стараўся як мог.

Неўзабаве падышоў майстар. Ён доўга ўглядаўся на маю падкладку, круціў яе ў руках, калупаў пальцамі, нарэшце надзьмуўся і сказаў:

— Перашыць!

Я скалануўся ад гэтага слова. Гарасім зрабіў здзіўленыя вочы.

— Няроўнае шво! — буркнуў майстар тым жа сярдзітым голасам.

Гарасім узяў з яго рук падкладку і падаў мне.

— Чуў, што майстар сказаў?

Я матнуў галавою.

— То распары, браце, і перашый раўней. Што ж, бывае, бывае ў навічкоў і такі пачатак.

Майстар адышоўся, а Гарасім шапнуў:

— Шый далей. Шво добрае. Ён проста чапляецца. Цяпер то яшчэ нічога, а раней чуць што не па нораву — з кулакамі кідаўся...

Так пачалася мая новая работа ў панскай рымарскай майстэрні.

## ПЕРШАЯ ПЕРАМОГА

Гарасім казаў праўду: «Чым больш будзе ў Саветах бальшавікоў, тым скарэй можна дабіцца і зямлі і свабоды».

У валасным Савеце ў нас спачатку быў толькі адзін бальшавік — начальнік пошты Іван Прахарэня. Потым другім стаў Гарасім. Але што яны маглі зрабіць, калі іх галасы заглушаліся сямю галасамі эсэраў і трыма галасамі бундаўцаў. Іншыя дэпутаты не належалі да партый і галасавалі, як ім уздумаецца.

Калі выбіраўся Савет, эсэры не скупіліся на абяцанкі: яны і пра зямлю паклапоцяцца, і лесу на хату, у каго згніла, прыстараюцца, і старыя сервітутныя пашы вернуць... Адным словам, беднаму селяніну і не снілася, што ён будзе мець, калі прагаласуе за члена партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў або эсэраў.

Тым часам другі месяц на зыходзе, а эсэры маўчаць як вады ў рот набраўшы. Ні зямлі, ні пашы нікому не прыбавілася і на локаць. Пра гэта гаварылі ўсюды, і чым далей, тым мацней і галасней. Потым на ўсіх сельскіх сходах загаварылі пра перавыбары валаснога Савета. Калі Савет знюхаўся з панамі, то на якое ліха ён здаўся. Трэба выбраць другіх дэпутатаў. Знюхаюцца другія,— выбірай трэціх. Нябось, калі-небудзь натрапяць выбаршчыкі і на сумленных людзей. Не ўсе ж дэпутаты думаюць толькі пра свае выгады.

Пратаколы сельскіх сходаў пасыпаліся ў Савет да яго старшыні Адама Пятровіча. Пятровіча ўсе ведалі. Ён служыў землямерам пры воласці і ездзіў на веласіпедзе. Больш веласіпедаў ніхто ў нас яшчэ не меў. Пасля таго як прыйшла вестка пра рэвалюцыю ў Петраградзе, Пятровіч аб'ездзіў на сваім веласіпедзе ўсе сёлы і засценкі і ўсюды расказваў, што ён самы першы выступае за рэвалюцыю, што партыя эсэраў, да якой ён належыць, пры цару была загнана ў падполле, і з гэтай прычыны ніхто

раней не мог ведаць пра яго рэвалюцыйныя заслугі. Ён хваліў сваю партыю, не раўнуючы, як цыган нашага слепавокага Арла. Яму верылі, а некаторыя нават і самі запісваліся ў партыю эсэраў.

Як расказваў потым Гарасім, Пятровіч моцна напалохаўся перавыбараў. Цяпер ужо многія ведалі, што эсэры танцуюць пад дудку князя Львова[1] — верхавода Часовага ўрада. А гэта можа пашкодзіць Пятровічу і яго сябрам-эсэрам на новых выбарах. Ён спешна склікаў Савет і сам унёс прапанову: дазволіць сялянам ад імя Савета пасвіць сваю жывёлу ў панскіх лясах і на сервітутных выпасах. Дзе такіх выпасаў няма, прасіць паноў і багатых фальваркоўцаў выдзеліць пад пашу сялянскай жывёле непрыдатныя для ворыва і касьбы землі і лугі.

Гарасім пахваліў Пятровіча за такую важную прапанову і запытаўся:

— А што далей, грамадзянін старшыня Савета?

Пачуўшы такое запытанне, Пятровіч зморшчыў пераносіцу, потым зняў акуляры і пачаў церці нос, утаропіўшыся блізарукімі вачыма ў Гарасіма. Гарасім нямала крыві папсаваў яму за гэтую вясну. Ён не маўчыць, як многія іншыя дэпутаты, і з ім цяжка спрачацца.

— Я пытаюся, грамадзянін старшыня,— паясніў сваё пытанне Гарасім,— мы спынімся на выпасах ці пойдзем далей,— гэта значыць, прызнаем за сялянамі і права на панскія землі?

Дэпутаты зашумелі, перабілі Гарасіма:

— Гэта пасяганне на чужую ўласнасць!

— Так можна дакаціцца да таго, што адзін у аднаго пачнуць здзіраць світкі і боты!.. Гэта разбой, а не права.

— Бедната запусціць зямлю і пакіне ўсіх без хлеба...

Крычалі дэпутаты эсэры і бундаўцы. Іншыя чакалі, што скажа старшыня. Прахарэня таксама маўчаў, ведаючы, што ў Пятровіча цяпер больш нічога не вырвеш. Калі ўсе, хто хацеў, накрычаліся, Пятровіч спакойна адказаў Гарасіму:

— За неадкладную перадачу панскай зямлі сялянам стаяць адны толькі бальшавікі. Але ж бальшавікі, грамадзянін дэпутат, не адна партыя ў Расіі. У нас ёсць...

Пятровіч падняў левую руку да вачэй і пачаў лічыць па пальцах:

---

[1] Львоў Георгій Яўгеньевіч — старшыня буржуазнага Часовага ўрада, князь, буйны тульскі землеўласнік.

— Манархісты, кадэты, анархісты, меншавікі, эсэры, бундаўцы. Бачыце,— ёп паспрабаваў усміхнуцца,— пальцаў не хапае. І ўсе яны супроць скасавання ўласнасці на зямлю і па фабрыкі.

— Значыць, усе яны за паноў і фабрыкантаў? — не сцярпеў Прахарэня.— І манархісты і эсэры?

Пятровіч прамаўчаў, пачырванеўшы. Ён яўна траціў свой напускны спакой.

— Так ці не? — паўтарыў Прахарэня.— Выходзіць, усе пералічаныя вамі, грамадзянін старшыня Савета, партыі выступаюць супроць рабочых і сялян?

— Гэта не так,— павысіў голас Пятровіч.— Гэта паклёп на нашу партыю. Мы сялянская партыя.

— Кожная партыя абараняе чые-небудзь інтарэсы,— не адступаў Прахарэня.— Манархісты і кадэты абараняюць інтарэсы цара Мікалая Раманава і кучкі багацеяў. Бальшавікі — інтарэсы рабочых і сялянскай беднаты. А вы, эсэры, блытаецеся недзе пасярэдзіне: ні рыба ні мяса...

Спрэчка зацягнулася. Аднадумцы Пятровіча пачалі тупаць нагамі, крычаць:

— Не даваць бальшавікам слова! Гэта абраза нашай партыі!

Прахарэня махнуў рукою і змоўк.

Пятровіч вёў пасяджэнне далей. Ён яшчэ раз паўтарыў сваю прапанову і папрасіў падняць рукі,— хто за?

Прапанова сабрала большую палавіну галасоў і была прынята. Супроць яе галасавалі ўсе тры бундаўцы і багацейшыя гаспадары з беспартыйных дэпутатаў.

Падзея гэтая адбылася ў нядзелю. І ў той жа дзень, як толькі Гарасім вярнуўся дахаты, пра яе даведаліся ўсе галынаўцы. Людзі не верылі, і Гарасіму прыйшлося бясконца пераказваць, як усё было. Пастанова Савета зацьміла сабою ўсе іншыя нашы клопаты.

Праўда, яшчэ невядома, што скажа пан Ясінскі і валасная ўлада. Але што б яны ні казалі, з гэтага дня мы не адзінокія ў змаганні за Абадок. Знайшлася нарэшце сіла, якая заступілася за нас перад усемагутным панам.

Назаўтра ж добрая палавіна сяла выгнала кароў на Абадок. У падмацунак да пастановы Савета пастухі захапілі з сабою дручкі і вілы. Збіраліся, калі што, даць бой пану і яго слугам. Цяпер яны не самавольнікі, і за пабітыя панскія бакі будуць адказваць не адны, а разам з Са-

ветам. Тое, што пан не прызнае Савет, не іх віна. Няхай сабе не прызнае, калі яму так хочацца. А галынаўцы і ўсе іх суседзі прызнаюць, тым больш цяпер, калі Савет стаў з імі поплеч у нялёгкім змаганні з панамі за пашу.

Як я шкадаваў у гэты дзень, што няма ў нас ніякай жывёліны. Дзесяткі гадоў ваяваў з панам за Абадок нябожчык дзед, потым бацька. Захапіла гэтая вайна і мяне. А зараз, калі нарэшце праўда ўзяла верх і дарога на Абадок адкрыта, наша сям'я апынулася ўбаку. Крыўдна. Ды што зробіш. Нажыць цяпер каня ці карову нам не па сіле. Маці ўсё яшчэ марыць аб цяляці, хоць маленькім. Яна збіраецца прадаць аўчыны, без якіх мы пакуль што абышліся. Можа ёй і ўдасца памяняць іх на цяля. Юзік зноў пайшоў да Вінцука, на гэты раз за свінапаса, замест мяне. Выпраўляла яго маці цяпер без слёз. Яна ведала, што Вінцук сам зацікаўлены наняць такога руплівага і паслухмянага пастушка, як наш Юзік. Ён ужо вырас, даганяе мяне. І маці смела папрасіла ў Вінцука плату. Дагаварыліся, што Вінцук дасць двух парасят і мяшок бульбы. Я ўжо нават пакаяўся, што пайшоў у рымарскую майстэрню пана Ясінскага. Выгадней, відаць, усё ж было б паслужыць лета ў Вінцука.

Мне хацелася зараз хоць так пайсці на Абадок, парадавацца разам з людзьмі ў такі важны для нас дзень. Але трэба было спяшацца ў маёнтак. Я ўжо крыху ўцягнуўся ў сваю новую работу. Ходзім мы ўдвух з Гарасімам. А ён дзядзька гаваркі, дарога з ім не здоўжыцца.

Увесь дзень потым мы хваляваліся і думалі пра сваіх галынаўцаў. Як там і што? Прагоніць іх пан з Абадка ці не? А што, калі дойдзе да бойкі? І можа якраз у гэты час, калі мы шыем тут падсядзёлкі ды выразаем да іх паскі, там, на Абадку, льецца кроў...

— Пан Ясінскі не павінен пускаць у ход зброю,— разважае ўголас Гарасім.

Потым папраўляе сябе:

— А ўрэшце, чорт яму верыў. Паранены звер самы страшны, кажуць паляўнічыя. Трэба думаць, рашэнне Савета дэпутатаў для яго — рана, хоць і неглыбокая...

Гарасім нейкі час маўчыць, думае. Аднак я ведаю, яму цяжка доўга маўчаць. Яму трэба каму-небудзь або хоць бы сабе самому сказаць пра тое, што карціць і баліць.

— Пан Ясінскі,— зноў пачынае Гарасім гаворку, прышываючы скураны верх падсядзёлка,— на добры лад, па-

вінен яшчэ дзякаваць Савету за такую лёгкую рану. Мог жа Савет рашыць і так: усе панскія землі і жывёлу бясплатна перадаць бяднейшым сялянам Галынаўкі, Борак, Зарэчча і іншым, як гэта раяць зрабіць бальшавікі. Як бы тады заскакаў пан Ясінскі? Як на гарачай скавародзе! Кінуўся б перш-наперш у валасны камітэт. А там эсэру Сымону Ліпаю не вельмі зручна ісці на задзёр з эсэрам Пятровічам, бо Пятровіч у іх, эсэраў, галоўны завадатар. Вот якая штука. Пан, падкруціўшы свае прусачыныя вусікі, паджгаў бы ў міліцыю. А начальнік міліцыі Макарэвіч сам без Ліпая і Пятровіча на ражон не палезе. Застаецца павет. Ну, там-то ён напэўна знойдзе абарону. Камісарыць у павеце заядлы кадэт Яворскі.

— А што гэта за слова кадэт? — перапыняю я Гарасіма.— Нейкае не наша, мусіць?

— Гэта, брат, не толькі слова,— усміхаецца Гарасім.— Гэта — цэлая партыя, буржуйская, вядома. І слова не наша, і партыя не наша. Не тое што бальшавікі. Тут усё ясна: бальшавікі — значыць, большасць народу. А большасць народу — вядома ж, не паны з буржуямі.

Партый развялося так многа, што мала хто ўсе іх і ведае. Ёсць нават партыя, якая не прызнае ніякай улады — ні царскай, ні Часовага ўрада, ні Саветаў. Члены гэтай партыі называюць сябе анархістамі, хоць больш правільна ім бы называцца зладзеямі, разбойнікамі, бандытамі.

Увесь дзень мы прыглядаемся і прыслухоўваемся, што робіцца ў маёнтку. І нічога падазронага не чуем і не бачым. У абед Гарасім распытваў у парабкоў, ці не пасылаў пан стражнікаў у Галынаўку. Не, адказвалі яму, не пасылаў. Зранку ў маёнтку бачылі Лаўрэна. Ён забягаў да пана. Пан з аканомам пасля гэтага спехам памчаліся ў мястэчка і да абеду назад яшчэ не вярнуліся.

Мы здагадаліся, што Лаўрэн не так сабе прыбягаў да пана і пан не так сабе памчаўся ў воласць.

— Значыць,— разважаў Гарасім,— пан паджгаў да Пятровіча. Гэта ўжо добра...

— Чаму добра?

— Што рабіў пан раней, калі Лаўрэн дакладваў яму пра самавольства галынаўцаў? Садзіўся на жарабца, клікаў усіх сваіх стражнікаў і мчаўся на Абадок. А зараз, бачыш, змяніў маршрут — папёр у Савет. Разумееш?

Я не ўсё разумеў. Але матаў галавою, што разумею.

— І калі пан да абеду не вярнуўся,— развіваў сваю

думку ўголас Гарасім,— то гэта таксама добры знак. Значыцца, яго там не прынялі з разгорнутымі рукамі. Я так думаю.

Гарасім не памыліўся. Раніцай у валасны Савет зляцеліся ўсе паны і кіраўнікі маёнткаў — большых і меншых. Але Пятровіч прыстрашыў іх, што калі яны не згодзяцца на такія мізэрныя ўступкі, як сервітутныя выпасы, то сяляне самі ўварвуцца ў маёнткі. Тады ўжо будзе не да выпасаў...

Гэта крыху сцішыла раз'юшанага ад злосці пана Ясінскага і яго сяброў. Яны сабраліся ў валаснога старшыні Сымона Ліпая і ўвесь дзень сеймікаваліся, што рабіць. Мужыцкі бунт наганяў на іх смяртэльны страх. Яны ведалі, чым гэта пахне. Але ж не меншым страхам была для іх і добраахвотная згода пусціць мужыкоў без жаднай платы ў свае лясы і на свае лугі. Мужыкі ж будуць не толькі пасвіць жывёлу ў лесе, а і збіраць грыбы, ягады, драць лыкі, рэзаць дровы. Хто іх цяпер выганіць з панскага лесу. Раней жа пан браў плату за кожную ягадзіну і кожную травінку. Не было грошай на квіт — адрабляй мазалём. І адраблялі. Усё гарачае лета адраблялі.

Вось чым палохала паноў новая пастанова валаснога Савета сялянскіх дэпутатаў.

Доўга бушавалі паны ў старшынёвым кабінеце і нічога не маглі прыдумаць лепшага, як ехаць на раду да павятовага камісара Яворскага. Што ён скажа, тое і будзе. Ён чалавек свой. Яго паставіў кіраваць паветам не які-небудзь Савет, а Часовы ўрад Расійскай імперыі.

## ЗАБАСТОЎКА

Што параіў панам павятовы камісар, невядома. Але вярнуўся пан Ясінскі з павета не вельмі вясёлы. Усе чакалі яго на Абадку. Там жа вунь каторы ўжо дзень раскашуюцца галынаўскія пастухі і пастушкі са сваімі статкамі. Нават авечак і тых прыпускаюць паласавацца густою лугавой травою. І як толькі церпіць пан Ясінскі? Як не разарвалася яшчэ яго сэрца. То, бывала, гадзіны не мінала, як ён, натапырыўшы свае рыжыя прусачыныя вусы, ужо імчаўся ў бой. Нават бежанцаў — людзей без сваёй зямлі і сваёй хаціны — ён не мог бачыць на сваім лузе. Уласнасць і прага да багацця ўкараняліся ў яго

душу з малых гадоў, яны бралі свой пачатак ад дзядоў і прадзедаў. І калі б у пана Ясінскага было ў сто разоў больш зямлі, ён, напэўна, скарэй павесіўся б, чым перауступіў хоць вяршок яе беззямельнаму бедняку. Наадварот, не маргнуўшы вокам, ён сам адабраў бы апошні загон у самага беднага чалавека, як гэта зрабіў яго бацька з нашым селавым выпасам. Сумленне ў пана Ясінскага і не начавала. Не дзіва, што яго дзед і бацька прадавалі некалі і прагульвалі ў карты сваіх прыгонных. Да самай смерці мой дзед успамінаў Прусаковага бацьку нядобрым словам.

І раптам з панам Ясінскім нешта сталася, як быццам хто падмяніў яго. Мінаў дзень за днём, а ён усё не трубіў збору сваіх верных стражнікаў. Нават на пагулянку перастаў выязджаць. Можна было падумаць, што пан захварэў з дарогі. Аднак дактароў у маёнтку ніхто ў гэтыя дні не бачыў.

Гэта быў першы цяжкі ўдар па Прусаку.

Другі ўдар зрабіў яму наш рабочы камітэт.

Канчаўся другі месяц як скінулі цара, а ў майстэрнях пана Ясінскага ніякіх змен не адбылося. Рабілі тут па дванаццаць, а то і па трынаццаць гадзін на дзень. Абеды, якія варыў нам тоўсты панскі кухар Даніла, у іншы, лепшы час не еў бы і галодны сабака. Ды і сам заробак змізарнеў — грошы таннелі ўвачавідкі. Выходзіла, рабілі мы за нішто. І калі я, падлетак, яшчэ мог цярпець такую плату, дык як было цярпець дзядзьку Гарасіму ці бяздомным бежанцам? Яны ж мусілі зарабляць не толькі для сябе, а і для сваіх сем'яў.

Так што нашаму рабочаму камітэту было за што ваявацца з панам. Ды пан і слухаць не хацеў ні пра васьмігадзінны рабочы дзень, ні пра надбаўку да заробку, ні пра лепшыя абеды.

І вось цяпер, калі валасны Савет збіў крыху фанабэрыю з пана Ясінскага, рабочы камітэт смялей рынуўся ў бой, абвясціўшы забастоўку. Гэта была наша крайняя мера.

Зранку ў вызначаны дзень мы не заходзілі ў свае майстэрні, як звычайна, а спыняліся на дзядзінцы каля аборы. Мужчыны курылі, гаманілі паціху пра свае справы.

Гарасім падышоў да старшыні рабочага камітэта Алеся Рабцэвіча, падаў яму руку.

— Не адмяніў камітэт свайго рашэння?

Дзядзька Алесь усміхнуўся сваёю добраю яснаю ўсмешкаю.

— А ты сам адмяніў бы?

— Не, брат, такога глупства я не зрабіў бы.

— А чаму мы павінны яго рабіць? Для нас забастоўка — гэта свая рэвалюцыя. А рэвалюцыю ж мы не збіраемся адмяняць.

— А як млын, пільня? Не перадумалі?

— Павінны далучыцца,— адказаў Алесь Рабцэвіч.— Хоць, відаць, і не ўсе. Там парабкоў многа.

Апрача майстэрняў пан меў паравы млын і пільню. Быў у яго яшчэ і бровар. І казалі — бровар даваў пану большы даход, чым пільня і млын. Пан садзіў безліч бульбы і пераганяў яе на спірт і гарэлку. Аднак як пачалася вайна, бровар закрылі, а запасы спірту, каб ён не трапіў да мабілізаваных у армію апалчэнцаў, вылілі ў рэчку. Я сам бегаў з хлопцамі да маёнтка глядзець, як усплывала наверх атручаная спіртам рыба. З таго часу пан так і не зняў з бровара замкоў. Мусіць, чакае канца вайны. Тады ён павесіць замкі на сваіх майстэрнях і пусціць у ход бровар. Пану ж усё роўна, з чаго рабіць грошы.

Роўна ў сем гадзін да аборы падышоў хмуры пасля сну майстар Петухоўскі.

— Чаго сабраліся кучаю? — буркнуў ён замест прывітання.— Забыліся, дзе ваша месца?

Ён падышоў да рэйкі, што вісела на слупе супроць аборы, і са злосцю пачаў лупіць па ёй жалязякаю. Рэйка гэтая служыла нам замест гадзінніка. Як мы чакалі яе сігналу на абед або на заканчэнне работы!

Па сігналу рэйкі Алесь Рабцэвіч выйшаў наперад, падняў руку і гукнуў адрывіста, па-ваеннаму:

— Па чатыры — станавіся!

У той жа момант пачала строіцца шарэнга.

— Што за фокусы? — крыкнуў збіты з панталыку Петухоўскі.— Калі гэта было, каб вы строем заходзілі ў майстэрні?

— А ну, калёснікі, марш за мною! — паклікаў сваіх рабочых майстар калёснай майстэрні Груковіч.

Яго ніхто не паслухаў.

Алесь Рабцэвіч дастаў з кішэні невялікі кавалак чырвонага паркалю, разгарнуў яго і падняў над галавою замест сцяга.

— Шагам марш! — падаў ён каманду.

І ўся калона з песняю рушыла да панскага дома.

Отречемся от старого мира,
Отряхнем его прах с наших ног.
Нам не надо златого кумира,
Ненавистен нам царский чертог.

Песня гэтая была вядома нам з першых дзён Лютаўскай рэвалюцыі, і таму яе адразу ж падхапілі і тыя, хто меў сякі-такі голас, і безгалосыя.

Майстры спачатку толькі лыпалі вачыма, не разумеючы, што робіцца. Потым кінуліся да сцяганосца.

— Куды ты іх вядзеш? — вар'яцеў ад злосці Петухоўскі.

— Кідай сваю бальшавіцкую анучу! — вырываў сцяг з рук сцяганосца Груковіч.

Песня абарвалася. У калоне зашумелі.

— Рукі прэч ад сцяга!

На дапамогу сцяганосцу заспяшаліся рабочыя з першых радоў. Майстроў адапхнулі ўбок.

Калона рушыла далей. Адусюль да яе збягаліся парабкі. Адны глядзелі збоку на гэты дзіўны паход, другія самі далучаліся да калоны, падхоплівалі песню.

Калона спынілася каля панскага дома, куды толькі што забег Петухоўскі. Пан, відаць, яшчэ спаў, бо выйшаў на ганак не скора. Цяпер я добра прыгледзеўся да яго зблізку. Ён і праўда нечым быў падобны на прусака. І сухі маршчыністы твар яго быў рыжы, і рэдзенькія вусы рыжыя, і валасы з-пад саламянага капелюша вытыркалі таксама рыжыя. Толькі нос нейкі цёмна-сіні. А вочы цяжка і разабраць: сінія ці проста асалавелыя, вадзяністыя.

Пан Ясінскі нейкі час трывожна лыпаў сваімі асалавелымі вачыма, злосна варушыў рыжымі вусамі, відаць, хацеў нешта сказаць, ды не лёгка давалася першае слова. Потым усё ж неяк злаўчыўся і выдыхнуў заікаючыся:

— Ш-што? З-з-забастоўка!

Алесь Рабцэвіч падышоў бліжэй да ганка.

— Але, пан Ясінскі, забастоўка.

Пан ухапіўся рукамі за дубовую парэнчу.

— Я... я не пацярплю забастовак у сваім маёнтку!

— Але ж у нас няма іншага выхаду,— спакойна сказаў Алесь Рабцэвіч.— Мы доўга пана дабром прасілі. Пан ведае, як нам цяжка жыць...

— Вы што, разарыць мяне надумаліся?! — Голас у пана пачаў наладжвацца, мацнець.— Дай ім добрыя грошы,

добры абед ды за восем гадзін работы! Ого! Дурня знайшлі!

У гаворку пачыналі ўмешвацца рабочыя.

— Хіба ж пан не ведае, што шмат дзе фабрычныя людзі ўжо робяць толькі восем гадзін...

— То гэта фабрычныя! — агрызаўся пан.

— А мы што, не людзі? Скаціна і тая ад лішняй работы гіне.

Да панскага дома падышоў аканом Крывульскі, высокі тоўсты мужчына. Разабраўшыся, у чым справа, ён адразу ж кінуўся абараняць пана. Замахаў кулакамі перад самым тварам Алеся Рабцэвіча.

— Назад вядзі! Куды ты прыцягнуў гэты...

Аканом запнуўся, падбіраючы слова. Усе ведалі яго як служаку грубага, свінаватага. Аднавокага Лаўрэна ён проста заткне за пояс. Але сказаць на людзей «зброд» або пусціць у ход іншую падобную лаянку зараз не асмельваўся нават хамаваты аканом Крывульскі.

Алесь Рабцэвіч рэзка адвёў аканомавы кулакі ад сябе.

— Мы прыйшлі гаварыць з гаспадаром майстэрняў, а не з табою, грамадзянін Крывульскі,— сказаў ён.— Так што, калі ласка, не лезь, куды не трэба.

— Не, не, я не хачу з вамі гаварыць! — моцна застукаў пан абцасамі.— З вамі не гаварыць трэба, а... страляць!

Пачуўся трывожны гул рабочых. Нехта выгукнуў:

— Манархіст!

Стралялі ў рабочых толькі пры цару. І таму цяпер гэтае слова прагучала зусім недарэчна. Пан і сам, відаць, зразумеў, што хапіў занадта. Ён сціснуў свае тонкія губы і моўчкі прыслухоўваўся да сярдзітых выкрыкаў з рабочай калоны. Яго зноў падмяніў аканом.

— Хто не хоча станавіцца на работу, можа каціцца з маёнтка хоць к чорту ў балота,— закрычаў ён, перасільваючы моцны шум.— Так я кажу, пане?

— Так, так,— заківаў галавою пан.

— А хто згодзен рабіць, як рабілі, ідзіце ў майстэрні.

Некалькі чалавек з калоны памкнулася наперад. Але на іх скоса глянулі з усіх бакоў, і яны вярнуліся ў строй.

Пан гнеўна міргаў вадзяністымі вочкамі, гатовы расплакацца ад злосці.

— Апошняе маё слова! — прапішчаў ён пеўнем, голас

яго ўжо сарваўся.— Хто першы стане на работу, таму даю прыбаўку.

Гарасім запытаўся:

— Якую?

— Ну, грашовую. Якую ж яшчэ?

— І за якія грошы я павінен прадаць сваіх сяброў па рабоце?

Пан замітусіўся, як уджалены.

— Як гэта разумець цябе?

— Вельмі проста, пане. Падкуплены фабрыкантам рабочы мае імя іуда або штрэйкбрэхер.

Пана ўжо калаціла ліхаманка.

— Бальшавікі! — хрыпеў ён.— Вы хочаце загубіць Расію! Я хутчэй зачыню майстэрні, чым пайду на згоду з бальшавікамі.

Ён завярнуўся і, моцна стукаючы ботамі, пабег у пакоі. Аканом таксама падаўся дахаты.

Алесь Рабцэвіч паклікаў да сябе членаў рабочага камітэта.

Нарада была кароткая. Праз хвілін колькі ён абвясціў:

— Рашэнне камітэта такое: забастоўку не спыняць! Няхай пан Ясінскі падумае, што яму выгадней: сарваць ваенныя заказы ці пайсці на згоду з намі. Мы — людзі і хочам жыць па-людску. А цяпер не той час, што можна, як пры Мікалашку, глуміцца з рабочага чалавека. Калі пан і заўтра запяе свае старыя песні, пойдзем шукаць абароны ў Савет.

— Там таксама не вельмі заступяцца за рабочага чалавека,— перапыніў яго Гарасім.— На Пятровіча з яго эсэраўскаю хеўраю доўбня патрэбна.

— Ну што ж, патрэбна дык патрэбна,— сказаў Алесь Рабцэвіч.— Будзем рыхтаваць яму доўбню. Заўтра збіраемся ў маёнтак к сямі гадзінам, як звычайна. А сёння можна разыходзіцца.

## Я — САКРАТАР СЕЛЬСКАГА КАМІТЭТА

Пан не здаўся ні на другі дзень, ні на трэці. Цяпер ён нават не выходзіў на перагаворы. «Ганаровы, ліха на яго! — казаў пра яго Гарасім.— Ды нішто, доўга не вытрымае».

На гэты раз Гарасім, аднак, памыліўся. Праз тыдзень аканом Крывульскі павесіў на сцяне аборы аб'яву, каб тыя, хто не хоча станавіцца на работу, прыходзілі па разлік.

І тут ужо не вытрымалі самі забастоўшчыкі. Першыя здаліся бежанцы. Голад пагнаў іх назад у майстэрні. Да іх далучылася чалавек дваццаць з тых, каму голад яшчэ не зусім падпіраў да горла. Астатнія разлічыліся.

Да астатніх належалі і я з Гарасімам.

Трэба было думаць аб іншай рабоце. Пастухі ўжо даўно былі наняты. Дома, у нашай гаспадарцы, мелася толькі пара рудых парасят — іх маці выпрасіла ў Вінцука наперад за Юзікаву службу.

Тым часам, пакуль я гадаў, чым заняцца, у сяле адбылася важная падзея. Гарасіма выбралі старшынёю сельскага камітэта замест старасты Палікара, а мяне — сакратаром. Імя маё першы назваў сам Гарасім. Ён сказаў сходу, што хоць я па гадах і не поўны мужык, аднак лепшага сакратара зараз, на трэцім годзе вайны, у сяле не знайсці.

Цяпер у нас з дзядзькам Гарасімам была і новая работа, і новыя клопаты.

Месцам для камітэта мы выбралі нашу хату, бо Гарасімава варывенька была вельмі ж цесная. Да мяне першага і прыходзілі ўсе паперы і паперкі, якімі нас закідвалі валасныя начальнікі. Чаго толькі ў гэтых паперках не пісалася! Тут былі і загады, і просьбы, і пагрозы, і парады. Мы ледзьве паспявалі адказваць на іх. Гарасім, аднак, не надта стараўся дагаджаць валасным уладам — ні Ліпаю, ні Пятровічу. Паперы адпісваў і падпісваў, а сам рабіў так, як лепш. Ён выпісваў бальшавіцкую газету «Правда» і чытаў яе ад першых радкоў да апошніх. І калі вычытваў што больш важнае і цікавае, паказваў газету мне і ўсім, хто да нас заходзіў.

— Глядзіце,— трос ён пальцам перад газетаю,— во каго нам трэба слухаць, а не Ліпая і Пятровіча. Во ў каго трэба розуму набірацца.

Пры гэтым бледны твар яго ружавеў, а добрыя шэрыя вочы цяплелі і ўсміхаліся.

Кожную суботу Гарасім склікаў сход, на якім любіў пагаварыць сам і паслухаць, што гавораць людзі. А гаворка была адна і тая ж: пра вайну, якая ніяк не канчаецца, пра панскую зямлю, якую даўно пара б ужо

забраць у свае рукі, як раяць бальшавікі ў сваёй бальшавіцкай газеце «Правда». Мы ўжо добра ведалі, хто прыяцелі беднага чалавека, а хто — ворагі. Не раз чулі і пра Леніна, які лепш за ўсіх разумее сам і вучыць іншых, што і як рабіць народу, каб пакончыць і з крываваю вайною, і з галечаю.

К пачатку лета наша Галынаўка ўжо гатова была рынуцца ў бой супроць найпершага свайго ворага пана Ясінскага. Патрэбна была толькі іскра.

І яна ўспыхнула, гэтая іскра.

Пачыналася касавіца. Летась і пазалетась пан не даў галынаўцам касіць на частку. Прыйшлося рабіць сена ў іншых маёнтках і фальварках, далёка ад дому. Сёлета зноў пайшлі нашы мужчыны да пана. Думалі, можа ён памякчэў пасля ўсяго, што здарылася гэтай вясною. Ды ўпарты Прусак заставаўся сам сабою. Прагнаў пасланцоў з маёнтка са словамі:

— Няхай згніе на корані, а вам не дам ні каліва. Сенажаць мая і сена маё. Што хачу, тое з ім і зраблю.

Калі пасланцы вярнуліся ад пана, галынаўцаў ужо ніхто і ніхто не мог утрымаць.

Гарасім баяўся пусціць людзей адных на панскія сенажаці: чаго добрага, яшчэ пераб'юцца там паміж сабою. Ён сказаў мне спешна скласці спіс беднякоў і серадня-коў, каму патрэбна сена ў першую чаргу, а сам узяўся майстраваць землямерную «казу».

— Ва ўсякай справе патрэбен парадак,— казаў ён.— Мы не анархісты.

Калі ўсё было гатова, Гарасім склікаў сход і абвясціў:

— Ніякага самавольства, мужчыны, чыніць не будзем.

— Дык што,— дружна загаманілі мужчыны,— і ты заадно з Ліпаём і Пятровічам? Чакаць усерасійскага сходу? А ён табе хвігу выставіць...

Гарасім усміхнуўся.

— Не, браткі, хвігі дачакацца я не хачу. А вось панскую сенажаць будзем касіць толькі з законнага дазволу...

— Чыйго? — злосна перабілі Гарасіма мужчыны.

— Чыйго? Сельскага камітэта!

— То і дазваляй! Ты ж наш сельскі камітэт!

— А я што, не дазваляю?

Гарасім змяніў тон гаворкі на сур'ёзны:

— Я, браткі, не Ліпай і не Пятровіч. На сенажаць я

пайду разам з вамі. Але хачу, каб кожны касіў тую палосу, якую яму выдзеліць сельскі камітэт. Ніякай анархіі!

— Ну, гэта іншая рэч,— пачуліся дабрадушныя галасы.— А то — самавольства... Раз цябе выбралі, ты і кіруй, каб не было гэтага самавольства. Толькі рабі правільна, не хітры...

Знайшліся і такія, якім Гарасімава прапанова не спадабалася.

— Навошта тая дзяльба? — круцілі яны галовамі.— Сенажацяў у пана хопіць. Касі сабе на здароўе, калі твая сіла...

Не цяжка было заўважыць, што такую гаворку падымалі тыя, у каго сапраўды была сіла.

Але Гарасім цвёрда трымаўся свайго.

— Нам сена патрэбна не на продаж, а для сваёй скаціны. Лішняга браць не будзем. Я думаю, адмераем па дзесяціне, а ў каго жывёлы менш, то і паўдзесяціны хопіць. Апрача нас у ваколіцы яшчэ вунь колькі сёл і засценкаў. Усім сена патрэбна.

— Ну, што ж,— здаваліся нязгоднікі,— давай пачынаць, на месцы відней будзе.

Назаўтра ўся Галынаўка рушыла з косамі і віламі на панскую сенажаць. Прыйшлі і тыя, каго мы не ўставілі ў спісы.

Дзяліць панскую сенажаць аказалася справай не лёгкаю. Кожнаму хацелася мець поўную дзесяціну, ды яшчэ там, дзе яна яму прыглянулася. Таму адразу ж успыхнулі спрэчкі. Але Гарасім зрабіў так: таго, хто не хацеў браць выдзелены ўчастак, перастаўлялі ў канец не маленькага спіса. Потым разбяромся. Выклікаўся чарговы. Не кожнаму хацелася быць апошнім. Першыя вунь ужо ўхапіліся за работу. Пакуль суд ды справа, у іх сена высахне. Сонца, бач, прыгравае ўжо з самага ранку. Гэта нас і ратавала. Дзяльба ішла спакойна і без асаблівай затрымкі.

Калі панскія стражнікі зляцеліся на месца незвычайнага здарэння, на сенажаці ўжо свісталі косы. Паспрабуй цяпер адарві каго ад яго дзялянкі, тым больш, што гэтую дзялянку яму дала сама законная ўлада — сельскі камітэт.

Нашай сям'і Гарасім таксама адмераў на ўсякі выпадак дзялянку. І маці ўжо замахала касою. Касец з яе няважны, ды вось-вось я сам падскочу на дапамогу.

Пакуль што я памагаў дзядзьку Гарасіму: ставіў тычкі на межах дзялянак, падчэсваў іх сякераю зверху і пісаў хімічным карандашом з аднаго і другога боку прозвішча, каму надзел вызначаецца.

Стражнікаў ніхто і слухаць не хацеў. А калі яны прыставалі да каго больш чым трэба, касцы з пагрозаю гналі іх прэч.

— Адыдзі, а то каса ў мяне як агонь...

Пакруціўшыся туды-сюды, стражнікі кінуліся да пана на раду. Ды і што яны маглі зрабіць супроць цэлай грамады, узброенай косамі і віламі?

Сам пан на сенажаці не паказаўся. Але к паўдню сюды прымчаўся начальнік валаснай міліцыі Макарэвіч — высокі чубасты хлапец, увесь укручаны шырокімі доўгімі папругамі. І траха не ў той жа час з другога боку панскую сенажаць атакавала суседняе сяло. Гарасім правільна разважаў: не адным жа галынаўцам патрэбна сена. Няхай косяць і іншыя. Чым больш людзей выйдзе на сенажаць, тым лягчэй будзе ваяваць з панам. Так што зараз, паглядаючы на суседзяў, мы толькі радаваліся. Цяпер пану нездабраваць! Застанецца ён і без сена, і без барышу.

Макарэвіч не кінуўся на касцоў з шашкаю, як можна было чакаць. Пагаварыў з Гарасімам, нешта запісаў у сваю запісную кніжку і паехаў да суседзяў.

Больш да нас ён не вярнуўся.

— І не вернецца,— супакойваў касцоў Гарасім.— Макарэвіч — не дурань: бачыць, што без штыкоў і куляў з панскай сенажаці вас не выкурыш. А страляць у народ — гэта табе не пры Мікалашку. Ні адна, ні другая ўлада рабіць гэта яму не дазволіць. Ён проста далажыць Ліпаю — гэта значыць, скіне з сваіх плеч. А Ліпай як галава валасці пачне разбірацца, што і да чаго. Вядома, пакліча мяне, можа нават і за краты загоніць за перавышэнне ўлады. Я на гэта гатовы. Аднак пакуль суд ды справа — сена будзе ў гумнах.

— А з гумнаў яго гатовенькае выцягнуць рэквізіроўшчыкі,— пажартаваў адзін з касцоў.

— Цяпер,— адказаў Гарасім,— і рэквізіроўшчыкі не тыя. У іх таксама ёсцека свае салдацкія Саветы.

— А калі ў іх Саветах сядзяць такія ж эсэры, як нашы?

— Вядома, сядзяць,— згадзіўся Гарасім.— Але не ад-

ны, побач сядзяць і такія, як мы з вамі, хоць і апранутыя ў шынялі. Пара ўжо нарэшце пасылаць рэквізіроўшчыкаў да паноў і да багатых гаспадароў. А то каму вайна, а каму — маці родная.

Цяпер я добра зразумеў, што ўсё залежыць ад людзей, якія кіруюць Саветамі і камітэтамі. Калі б замест Ліпая і Пятровіча пасадзіць такіх, як Гарасім, пан Ясінскі даўно сам бы адрокся ад свайго маёнтка. І ўсе яго стражнікі паджгалі б за ім следам.

Мне толькі не зусім зразумела было, чаму Пятровіч фальшывы, як кажа Гарасім, рэвалюцыянер, служыць і нашым і вашым. Сам жа ён маёнтка не мае, фабрыкі або якой майстэрні — таксама. Уся яго ўласнасць усім вядомая — веласіпед. Бацька Пятровіча таксама чалавек небагаты. Ды Пятровіч даўно ўжо і не жыве пры бацьку. Праўда, жыве ён не так, як простыя людзі. У яго хапае і на яду, і на адзенне. Але ж ён не пан, а мужыцкі сын.

## ГАРАСІМ АРЫШТАВАНЫ

Пагода стаяла сухая, сонечная, і дні праз тры галынаўцы ўжо вазілі сена з панскай сенажаці ў свае гумны.

Мы таксама накасілі ды насушылі дзесяць коп. Заставалася толькі выпрасіць у каго каня перавезці іх. «Не прападзе цяпер наша Лысуха»,— радаваліся мы. Вазы два можна наскрэбці са сваіх шнуроў. Уга, аж залішне для нас. Каб жыў быў, хапіла б і Арлу.

Вось толькі як уберагчы гэтае дабро. Нам не верылася, што рэквізіроўшчыкі цяпер перакінуцца на багатых.

Гарасіма, як ён і думаў, усё ж паклікалі ў воласць. Там складаліся пратаколы, пісаліся розныя паперы і паперкі. Гарасім, аднак, не вельмі засмучаўся. «Няхай пішуць,— усміхаўся ён,— ім за гэта грошы плацяць. А зрабіць — нічога не зробяць. Бо ніхто з іх не ведае, што будзе заўтра. Самога цара скінулі, то чаму не можна скінуць князя Львова з яго Часовым урадам?»

І праўда, Гарасім як у ваду глядзеў. Толькі князя Львова не скінулі,— скінуўся ён сам.

У канцы чэрвеня Часовы ўрад паслаў рускія арміі ў наступленне. З той жа адной вінтоўкай на трох-чатырох салдат. І дзесяткі тысяч рабочых і сялян у салдацкіх шынялях склалі свае галовы так сабе, за нішто...

Пра страшнае злачынства Часовага ўрада загаварыла ўся Расія. Вось тады і вымушаны быў скінуць сам сябе князь Львоў. Яго месца заняў ваенны міністр эсэр Керанскі. Міністры Часовага ўрада спадзяваліся прыкрыцца ім перад гневам народа, як моцным шчытом. Керанскі ж не буржуй, не князь. Ён нават не кадэт, а сацыяліст-рэвалюцыянер, такі самы, як і тыя, што кіруюць Саветамі. Сам Керанскі кляўся і бажыўся, што ніхто так не стаіць за рэвалюцыю, як ён, што толькі ён адзін жадае народу дабра і давядзе Расію да поўнай свабоды. А ўсе іншыя рэвалюцыянеры — ворагі рэвалюцыі...

Справа з рэвалюцыянерамі была заблытана, і хіба адзін толькі Гарасім разбіраўся, хто з іх чаго варты. Керанскаму ён не верыў гэтак жа, як і князю Львову.

— Хітры крыкун,— гаварыў пра яго Гарасім.— Балбоча адно, а робіць другое.

Керанскі ўсё ж не мог адгарадзіць сваіх гаспадароў ад народнага гневу сваім эсэраўскім шчытом. Першымі выступілі на вуліцы рабочыя і салдаты Петраграда.

— Далоў вайну! Далоў Часовы ўрад! Далоў Керанскага! Уся ўлада Саветам!

Вось тут Керанскаму і прыйшлося раскрыць свае карты, паказаць, як ён любіць рэвалюцыю. Ён загадаў юнкерскім[1] і афіцэрскім палкам сустрэць петраградцаў кулямі. Гэтак жа, як зрабіў дванаццаць год назад цар Мікалай. Сотні петраградцаў не вярнуліся з дэманстрацыі ў свае сем'і. Цяпер ужо Керанскаму не было патрэбы прыкідвацца сябрам народа, бо ніхто яму не паверыў бы. І ён з адчаем заўзятага карцёжніка рынуўся ў бой супроць рэвалюцыі.

А праз колькі дзён крывавыя падзеі ў Петраградзе дакаціліся і да Галынаўкі.

Гарасіма зноў паклікалі ў воласць. На гэты раз дадому ён не вярнуўся.

Раніцай устрывожаная цётка Надзя, Гарасімава жонка, зайшла да нас.

— Ніколі ж не было,— расказвала яна,— каб ён аставаўся начаваць у мястэчку. Можа што здарылася...

Маці спрабавала супакоіць яе:

— Ён жа мо не ўпіўся, не пабіўся з кім... Нешта так затрымала, мусіць.

---

[1] Юнкеры — выхаванцы ваенных школ у царскай Расіі.

Я надзеў чыстую кашулю і сказаў:

— Я, цётка Надзя, збегаю ў мястэчка, даведаюся.

— Дык можа і я з табою, Петрусёк? — сказала цётка Надзя.

— Ці варта,— адказаў я.— Адзін я скарэй спраўлюся. У мяне ногі лягчэйшыя.

Цётка Надзя праслязілася.

— Цэлую ж ноч я не спала. Усё чакала, што вот-вот пастукае ў дзверы. І цяпер ўсё ўсярэдзіне млее... І навошта яму быў гэты клопат. Хворы чалавек. Выбралі б каго іншага старшынёю.

— Дзядзька Гарасім,— сказаў я,— мусіць, на сходзе ячэйкі затрымаўся. Цяпер жа вунь якая завdefinitely заваруха пачалася! У Петраградзе стралялі ў рабочых... Вы ж можа чулі?

— Трэці год страляюць...— уздыхнула цётка Надзя.— Колькі народу перастралялі. І калі ўжо людзі перастануць страляць адзін у аднаго?

Я не ведаў, што адказаць на яе пытанне. Ды і пыталася яна, як відаць, не ў мяне, а ў самой сябе, бо ніхто цяпер не мог сказаць людзям, колькі часу ім яшчэ пакутаваць і паміраць пад кулямі і снарадамі.

У мястэчку я перш-наперш забег на пошту да дзядзькі Прахарэні. Ён сядзеў у сваім невялічкім пакойчыку і чытаў нейкія тэлеграмы.

— Я да вас, дзядзька Прахарэня,— сказаў я, прывітаўшыся.

Дзядзька Прахарэня глянуў на мяне сумнымі, як мне здалося, вачыма. Мяне гэта здзівіла, бо дзядзька Прахарэня па натуры чалавек вясёлы і ласкавы.

— Што, брат, старшыню свайго шукаеш? — загаварыў ён, і ў голасе яго я таксама адчуў нейкую трывогу.

— Але,— матнуў я галавою.— З учарашняга ён не вярнуўся з мястэчка. Цётка Надзя не ведае, што ўжо і думаць.

— Ведаю, брат, ведаю...— Прахарэня адсунуў убок тэлеграмы.— У турме твой старшыня.

— За сенажаць? — здагадаўся я.

— Сенажаць, відаць, толькі прычэпка. На вот пачытай.

Прахарэня даў мне дзве тэлеграмы.

— Толькі што атрымалі.

Я прысеў каля стала на вольнае крэсла і ўтаропіўся

ў адну з тэлеграм. Яна была адрасавана старшыні валаснога камітэта Ліпаю. Павятовы камісар Яворскі загадваў у ёй пад строгую адказнасць самога старшыні неадкладна спыніць самавольную касьбу сялянамі панскіх сенажацяў, вярнуць законным гаспадарам гатовае сена там, дзе яно ўжо скошана, а вінаватых прыцягнуць да крымінальнай адказнасці... У другой тэлеграме павятовы Савет загадваў валасному Савету не чыніць ніякіх перашкод у рабоце мясцовых органаў улады, адмяніць усе свае пастановы наконт сервітутных выпасаў...

Мне стала млосна і горача.

— Трэба несці адрасатам,— сказаў Прахарэня.— А ў мяне ногі падкошваюцца...

Памаўчаўшы, ён сказаў:

— Цяпер табе ясна, чаму не вярнуўся дадому твой старшыня?

— Але ж Ліпай і Пятровіч гэтых тэлеграм яшчэ не чыталі? — дзівіўся я.— Чаму ж яны загадзя арыштавалі дзядзьку Гарасіма?

— Пасля расстрэлу ў Піцеры і без тэлеграм вядома было, куды вецер падзьмуў... Пятровіч вунь ужо каторы дзень ні адной паперкі не падпісвае без Ліпая.

Дзядзька Прахарэня гаварыў са мною як з роўным. Відаць, ён лічыў, што калі я служу ў бальшавіка Гарасіма за сакратара, то павінен ведаць больш, чым мне належыць па гадах.

— Цётцы Надзі,— сказаў Прахарэня,— перадай, каб не лішне засмучалася. Думаю, Гарасіма скора вырвем з турмы. Пра гэта ўжо клапоціцца наша ячэйка.

Прахарэня падняўся з-за стала, падышоў да акна і ўжо адтуль дадаў, сумна ўсміхаючыся:

— Калі і мяне самога сёння-заўтра не пашлюць у кампанію да Гарасіма. Керанскі вунь ужо закрыў нашу «Правду» і падпісаў указ, каб арыштавалі Леніна...

Пра Леніна я не раз чуў ад Гарасіма. Імя яго часта ўпаміналася ў «Правде». І таму ён ужо даўно стаў мне чалавекам блізкім і знаёмым.

— І што? — напалохаўся я пачутаму.— Яго арыштавалі?

— Пакуль не хваляцца. Відаць, не так лёгка арыштаваць Леніна.

У мяне адлягло ад сэрца.

З пошты я зайшоў у міліцыю даведацца, калі пры-

маюць перадачы арыштаваным. Дзяжурны міліцыянер — малады, але ўжо з добрымі залысінамі на лбе хлапец — пацікавіўся, навошта мне гэта трэба ведаць. Я сказаў, што ў астрозе сядзіць старшыня нашага сельскага камітэта.

— А-а,— заакаў дзяжурны,— ведаю, ведаю вашага старшыню. Яго ўчора ўзялі нашы хлопцы з канцылярыі пракурора.

Твар дзяжурнага — круглы, чырванашчокі — мне здаўся дабрадушным, строгасці ў голасе не чулася, і я адважыўся запытацца, за што арыштавалі нашага старшыню.

Дзяжурны зарагатаў, развёўшы рукамі:

— Ну, на гэтае пытанне, грамадзянін... як цябе зваць-велічаць?

— Пятрусь Валовіч,— адказаў я.

— ...Пятрусь Валовіч галынаўскі, табе можа адказаць толькі сам пракурор Аляксей Ферапонтавіч Бірылаўскі...

Я зразумеў, што дзяжурны жартуе са мной, і асмялеў яшчэ больш.

— Можа за сена? — запытаўся я.

— Якое сена?

— Ну, што нашы галынаўцы на панскай сенажаці касілі?

— А-а,— зноў заакаў дзяжурны,— ведаю, ведаю. Наўрад каб за сена. Сена панскае косяць мужыкі вунь па ўсёй Расіі. Дык што ж, усіх іх у турмы саджаць, па-твойму? Турмаў не хопіць. А ты хто будзеш арыштаванаму? Сын ці сваяк?

Я сказаў.

Дзяжурны пачаў разглядаць мяне з галавы да ног, як нейкае дзіва.

— Што ў вас, большага за цябе не знайшлося?

— Не,— адказаў я.— Большыя, хто ўмеў пісаць, цяпер у салдатах.

Дзяжурны чамусьці вельмі зацікавіўся маёю асобаю. Ці то яму надакучыла дзяжурства і захацелася з кім пагаварыць, ці можа ён і праўда быў добрым чалавекам, як здаўся мне з першых слоў. Ён даў мне лісток паперы і ручку і папрасіў, каб я што-небудзь напісаў: які ў мяне, бач, почырк.

Я напісаў: «Дзядзька Гарасім добры чалавек. Ён сапраўдны рэвалюцыянер, бальшавік. А тыя, хто яго арыштаваў,— фальшывыя рэвалюцыянеры».

— Ого,— зарагатаў дзяжурны, прачытаўшы напісанае мною.— А сам ты часам не бальшавік?

А і праўда? Хто я? Як адказаць мне на такое пытанне, няхай сабе можа і не сур'ёзнае: дзяжурны, відаць па ўсім, усё ж любіць і пажартаваць. Сказаць, што я бальшавік, будзе няпраўдай. Гэта вядома і самому дзяжурнаму. Сказаць наадварот — яшчэ большая няпраўда. Калі б такіх прымалі, я пэўна ж запісаўся б толькі ў партыю бальшавікоў, так, як мой старшыня дзядзька Гарасім. І я адказаў зусім сур'ёзна:

— Бальшавік.

— Малайчына,— гэтак жа сур'ёзна пахваліў мяне дзяжурны.— Люблю людзей прамых і чэсных. А я вот, брат, усё яшчэ думаю, куды падацца.

— А чаго думаць,— сказаў я.— Самая лепшая партыя для бедных — бальшавіцкая, а для багатых — кадэцкая.

Дзяжурны зноў весела рассмяяўся.

— Вот цяпер я паверу, што ты бальшавік. Разбіраешся ў партыях лепш за мяне, былога студэнта рэальнага вучылішча. Толькі скажы ж ты мне, малады бальшавік, яшчэ такую рэч: а як быць тым, хто ні бедны, ні багаты?

Тут я запнуўся. Сказаць: такія ідуць у партыю эсэраў? Але ж і Керанскі эсэр. А ён жа, трэба думаць, не з бедных, калі загадаў расстрэльваць рабочых і салдат. І Ліпай не бедны мужык. Ёсць яшчэ меншавікі. Ды я так і не разабраўся, чым яны адрозніваюцца ад эсэраў.

Жывых меншавікоў у нас не чуваць. У бундаўскую партыю, я ведаў, запісваюцца толькі местачкоўцы. Але не купцы і розныя гандляры, а майстаравыя, прыказчыкі.

Так што адказаць дзяжурнаму, што рабіць ні беднаму, ні багатаму, я не мог.

— Ну, нічога, браток,— ласкава сказаў дзяжурны.— Ідзі дахаты. Раз у твайго старшыні ёсць такія заступнікі, як ты,— ніякія турмы яму не страшны. Жонцы Гарасімавай скажы, няхай заўтра прыносіць перадачу. Калі што якое, няхай пашукае памочніка начальніка міліцыі Купрэйчыка — гэта значыць маю асобу,— пастукаў дзяжурны пальцамі ў грудзі.— Зразумеў? А я пацікаўлюся, за што пракурор загнаў твайго старшыню за калы.

Пасля гэтых слоў я паверыў, што памочнік начальніка і праўда не благі чалавек.

Не паспеў я вярнуцца дадому, як у сяло прыехаў Ліпай. Ён спыніўся каля Палікаравай хаты. «Чаго яго прынесла нялёгкая?» — падумаў я. Ліпая я не любіў і, відаць, толькі таму, што яго не любіў Гарасім. «Кулак,— казаў ён пра яго,— сапраўдны сельскі кулак». Мне смешна было чуць гэтае слова пра Ліпая. «Які ён, дзядзька Гарасім, кулак: ад малатарні ці ручны?» — пытаўся я, бо слова «кулак» па-нашаму нічога іншага не азначала.

Неўзабаве Ліпай з Палікарам выйшлі з хаты і накіраваліся ў наш бок. Можа на сход будуць загадваць? Але ж Палікар цяпер ніякі не начальнік.

Толькі ўжо як зайшлі на наш двор, я здагадаўся, што ў іх, відаць, нейкая справа да сельскага камітэта. Гарасіма дома няма. Ліпай гэта ведае. Застаўся ў камітэце я адзін.

Так яно і было. Ліпай папрасіў, каб я вылажыў усе камітэцкія паперы: яны ў мяне хаваліся ў старым куфэрку. Пагартаўшы іх збольшага тоўстымі пальцамі — кулак у яго і праўда быў нішто сабе,— ён сказаў Палікару:

— Забірай усё гэта дабро да сябе. А сакратаром стаў каго хочаш.

Палікар глянуў на мяне.

— Мне што,— сказаў ён,— хопіць і такога. Праўда, Пятрусь? Ты ж, можа, яшчэ не запісаўся ў бальшавікі?

Я прамаўчаў. Мне зусім не хацелася заставацца сакратаром у Палікара: цяпер мне было ясна, што Ліпай прызначыў яго старшынёю замест Гарасіма. Толькі чаму без сходу?

— Калі хто што пікне,— пагразіў Ліпай некаму сваім тоўстым кулачышчам,— будзе мець справу са мною... Ды загадай сваім, каб у панскі лес і на панскія выпасы кароў не пускалі. Прыйшла тэлеграма ад Яворскага забараніць самавольны захват чужых пасбішчаў.

Палікар скрывіўся, паскроб кіпцем сваю залатую завушніцу.

— Дык жа нашы не самавольнічаюць. Ім Савет дазволіў.

Ліпай зноў сціснуў кулак і паказаў Палікару:

— Савет цяпер у мяне во дзе... Што захачу, тое і будзе.

Мне страшна было слухаць такія словы. Калі так пой-

дуць справы, то такія кулакі, як Ліпай, могуць і цара вярнуць. Няўжо да гэтага людзі дапусцяць?

— А як жа з сенам? — запытаўся Палікар.

— Пакуль рашаем,— адказаў Ліпай.— Мусіць, адбіраць будзем. Пан не сцерпіць такога ўрону сваёй гаспадарцы. Ён цяпер асмялеў. Прыязджае ўчора да мяне і стукае кволенькім сваім кулачком па стале. Мне гэта не зусім падабаецца, скажу табе. Я не за паноў, але і не супроць іх, як бальшавікі. Лішнюю зямлю ў паноў трэба выкупіць, і ўся тут гаворка. Хто выкупіць? У каго грошы водзяцца. Я сам бы прыкупіў з валоку. І ты прыкупіў бы. Чаму не! Што з беднымі рабіць? Ім таксама прадаць патроху, каб з голаду не пухлі. За што яны выкупяць гэтую сваю крыху? Няхай казна дасць ім пазыку. Бо калі адбіраць у паноў зямлю бясплатна, парадку не будзе. На кім тады спыніцца? Адбяруць у паноў ды возьмуцца за багацейшых гаспадароў...

Ліпай гаварыў пра ўсё гэта, не зважаючы на мяне. Відаць, думаў, што я ў такіх справах яшчэ не разбіраюся. А я ўсё разумеў. Такім я і ўяўляў сабе жывога эсэра са слоў дзядзькі Гарасіма.

Ліпай з Палікарам пайшлі, а я ўсё думаў пра сена. Няўжо праўда пан адбярэ яго? Мы склалі сваё сена ў гумне. Схаваць бы яго куды? Але ж сена — не збожжа. У зямлю не закапаеш. Ды хто ведае, могуць разам з панскім забраць і наша. Сваё сена мы ўжо таксама скасілі. Каб ведалі, пакінулі б у стажку на балоце да восені. Так што не толькі з сенам, можа яшчэ і з цялушкаю давядзецца расстацца.

Я не мог супакоіцца ні ў той дзень, ні на другі. Мне хацелася з кім-небудзь пагаварыць пра ўсё тое, што гняло мяне. Але з кім? Маці мала разбіралася ў нашых мужчынскіх справах. У яе хапала свайго клопату: як сабраць што за лета, каб зіму перазімаваць. Ды і хатнюю работу трэба было рабіць.

Я ўспомніў пра Казіка. Вось бы з кім душу супакоіць. Сеў пісаць яму пісьмо. Але ў пісьме чамусьці не пісалася тое, што хацелася б сказаць жывымі словамі. А што, калі паехаць да яго? Вялікіх грошай на дарогу не трэба. У мяне яшчэ заставалася рублёў дзесяць са свайго заробку ў панскай рымарскай. Я пагаварыў з маткаю. Спачатку яна, як і трэба было чакаць, забедавала, а потым змірылася:

— Хто яго ведае. Можа паедзь, калі табе так хочацца. Яна ж, мусіць, не так і далёка, тая Ялоўка.

— Поездам гадзіна язды,— адказаў я.

— Адкуль жа ты ведаеш?

— Дзед казаў.

Маці ўспомніла, што я яшчэ нідзе поездам не ездзіў, і зноў забедавала. Супакойвала яе крыху толькі тое, што я пісьменны і разбяруся, што і да чаго. Узяўшы з мяне цвёрдае слова, што буду асцярожны і нідзе не палезу, куды не трэба, маці нарэшце згадзілася пусціць мяне з дому. Толькі на тыдзень, не больш. Пасля ўсяго гэтага шлях да Казіка мне быў адкрыты.

Заставалася сабраць торбачку. Гэта было зусім нялёгка. Мы ўсё ніяк у апошнія гады не маглі ўзбіцца на хлеб, не кажучы ўжо пра такія рэчы, як малако і сала. Улетку харчаваліся чым папала: варылі зацірку з ячнай мукі, лебяду і бацвінне, пяклі бульбяныя аладкі. Узяць з сабою я мог адны аладкі. Але ж есці іх можна толькі свежыя.

— Можа хіба рабую курыцу зарэзаць? — сказала маці.— Яна не вельмі нясецца.

Але на такую ахвяру не мог згадзіцца я сам. Я ведаў, як беражэ маці кожнае яйка. За яйкі мы купляем і соль, і газу, і запалкі.

Быў у мяне яшчэ адзін шанец — рыба. Я ведаў мясціну на старыцы, дзе водзяцца ўюны. Цяпер старыца падсохла, засталіся толькі дзе-нідзе лужыны, у іх і можна паспрабаваць шчасця. Бо лавіць рыбу ў нашай рэчцы справа марная. Рэчка вузкая, мелкая. І калі якая рыбіна ў ёй завядзецца, яе зловяць і без мяне больш спрытныя рыбакі.

Я надзеў старыя падраныя штаны, дастаў з вышак у хляве комлю, якой раней лавіў бацька, і рушыў за агароды.

За агародамі ў нас плот, а за ім невялікі паплавец і рэчка. Старыца захавалася з другога боку рэчкі, у кустах лазы і ракіты. Відаць, некалі там былі рукавы і затокі. Гэтага ў нас ніхто не помніў. Вакол старыцы добра рос бабок — авечае сена, а ў самой упадзіне ў рудой гразі раскашалася асака і іншыя балотныя травы. Цяпер іх пакасілі, і зарачанскае балота выглядала не так прывабна, як у пачатку лета.

Не даходзячы да ракі, я раптам убачыў, як з кустоў на другім беразе паказалася нейкая вялізная карова. Яна

спынілася ля самай вады і, узняўшы галаву, разглядала ваколіцу. «Як яна туды трапіла?» — падумаў я. За рэчкай кароў ніхто ў нас не пасвіў. Там і ў сухое лета гразка. Ды і карова нейкая надта дзіўная. Я спыніўся, каб лепш разгледзець яе. Высокія, як у каня, тонкія ногі, доўгае тулава сівага колеру. Са сківіц звісае барада, як у казла. А рогі? Я толькі цяпер пачаў здагадвацца, што не карова гэта перада мною. Няма ў каровы такіх рагоў! Гэта былі не рогі, а ражышчы.

Няўжо лось? Я чуў, што ў нас трапляюцца ласі, але сам іх ніколі не сустракаў.

Лось, відаць, убачыў мяне, бо неяк раптоўна махнуў сваімі ражышчамі і рынуўся назад у кусты. Я пашкадаваў, што спудзіў яго. Цяпер мне было ясна, што лось прыйшоў да рэчкі на вадапой, а я спалохаў яго. Што ж рабіць? Недалёка ад таго месца, дзе стаяў лось-прыгажун, мне трэба лавіць уюноў. Ці здагадаецца ён выбраць сабе другое месца? Проста хоць назад варочайся.

І я такі скора вярнуўся. Ніякіх уюноў у старыцы я не знайшоў. Ці то яны пазашываліся глыбока ў гразь, ці іх ужо вылавілі да мяне. Затое адразу ж мае босыя ногі абляпілі галодныя п'яўкі. Іх там кішма кішэла. Здавалася, яны толькі і чакалі мяне. А як улепіцца каторая, то хоць ты яе абцугамі адрывай. Я плюнуў на ўюноў і пайшоў дадому.

Паехаць да Казіка мне так і не ўдалося. Пакуль я збіраўся ў дарогу, вярнуўся з турмы Гарасім. Цяпер мне было з кім пагаварыць. Калі я сказаў Гарасіму, што збіраюся ехаць да Казіка, ён глянуў на мяне неяк спалохана і запытаўся:

— На чым думаеш ехаць?

— На поездзе,— адказаў я.— Да Стоўбцаў. А там дапытаюся.

Гарасім удыхнуў поўныя грудзі паветра і расцяжна выдыхнуў. Потым сказаў, прыцмокваючы губамі:

— У той жа бок, мусіць, адных салдат возяць. Там недалёка фронт...

Відаць, Гарасім баяўся за мяне гэтак жа, як і маці. Хто ведае, што зараз робіцца ў той Ялоўцы, дзе жыве Казік. Месяц назад у тым баку ішлі вялікія баі. Пра гэта пісалі ўсе газеты. Потым усё сціхла як па камандзе. У адной толькі «Праўдзе» расказвалася, што наступленне наша не ўдалося і што вінаваты ў гэтым Часовы ўрад. Пасля

гэтага «Правда» перастала прыходзіць да нас. Недарэмна кажуць: праўда вочы коле. Вось яна і ўкалола вочы генералам ды міністрам. Ну, тыя і закрылі яе.

Пра свой арышт Гарасім гаварыў скупа. Ніякай віны пракурор яму не выставіў. Пра панскае сена і гаворкі не было.

— Я думаю,— здагадаўся ён,— тут рэч іншая. Ліпай рашыў спіхнуць мяне са старшыні сельскага камітэта. А як гэта зрабіць? Сабраць сход і сказаць, што я дрэнны старшыня,— ніхто не паверыць. Вот ён і падстроіў такую штуку. Мяне загнаў у турму, а сам тым часам прызначыў Палікара. Ну, пэўна ж Ліпаю спакайней, калі сельскім камітэтам будзе кіраваць багаты мужык Палікар, а не бедны ды яшчэ бальшавік... А можа такую каманду далі яму з павета? Ліха яго ведае. Цяпер жа вунь нават эсэры грызуцца паміж сабою як сабакі. Эсэр Керанскі нападае на Саветы, у якіх большая палавіна тых жа эсэраў. А самому Керанскаму не вераць царскія генералы, бо ён не які-небудзь князь ці капіталіст, а просты адвакацік... Вот і разбярыся, што робіцца. Адным словам, гаворкі тут мала. Патрэбна сіла, каб разагнаць усю гэтую банду разам з яе верхаводам Керанскім...

Гарасім не хацеў прававанца з Ліпаём — нічога яму цяпер не зробіш! — і вярнуўся ў рымарскую пана Ясінскага. У апошні час пан нахапаў многа новых заказаў: разбітыя ў летнім наступленні арміі папаўнялі запасы, якія бязлітасна перамолвала ў сваіх крывавых жорнах вайна. Спыніць яе не было каму. Заклік «Вайна да пераможнага канца!» перайшоў ад царскіх генералаў да генералаў князя Львова і эсэра Керанскага. А яны былі адны і тыя ж.

Неўзабаве Гарасім забраў з сабою і мяне. Я ахвотна пакінуў у камітэце аднаго Палікара: да яго ў мяне душа не ляжала, хоць ён і не зрабіў мне ніякай крыўды.

## КАНЕЦ СЕРВІТУТУ

Адшумела трывожнае лета. Настала не менш трывожная восень. Кругом ішлі арышты. Міліцыя Часовага ўрада і асобныя ваенныя атрады лавілі дэзерціраў. А іх прыбаўлялася з кожным днём. Армія распадалася. Салдатам надакучыла вайна. І не толькі рускім, а і нямецкім, і аў-

стрыйскім. На фронце ўсё часцей яны вылазілі з акопаў і ішлі адзін да аднаго паціснуць руку ў знак згоды на мір.

Некалькі дэзерціраў хавалася і ў нашым сяле. Людзі ведалі пра іх. Але ніхто і не падумаў выдаваць іх. Нават Палікар маўчаў. Казалі, яму падкінулі паперку, што, калі ён заікнецца пра дэзерціраў,— застанецца без языка.

Калі ж ёй ужо будзе канец, гэтай праклятай вайне? І хто там цяпер ваюе, калі ўсюды толькі і гавораць пра дэзерціраў?

У нас усё яшчэ цепліцца надзея на бацьку... Можа і праўда ён дзе ў палоне. Салдаты, якія прыязджалі ў сяло на пабыўку, усе, як адзін, суцяшалі нас: «Чакайце. Кончыцца вайна, тады будзе ясна. Не ўсіх жа там забіваюць».

Ой, як цяжка нам дачакацца гэтай яснаты!

Гарасім стаў вельмі скупы на гаворку. Кожную нядзелю ён хадзіў у мястэчка на сходы сваёй бальшавіцкай ячэйкі. Я некалькі разоў спрабаваў загаварыць з ім пра Леніна — ці не знайшлі яго шпіёны Керанскага. «Калі б знайшлі, нябось зазванілі б ва ўсе званы»,— коратка адказваў Гарасім. У мяне цяплела на сэрцы: «Ленін жывы, значыць жыве і надзея на лепшую будучыню і для мяне, і для дзядзькі Гарасіма, і для ўсіх рабочых людзей. А такіх людзей мільёны. Дык няўжо ж яны будуць маўчаць і пакорна згінаць шыю для новага ярма? Гэтага не можа быць! Нават нашы галынаўцы і тыя ўсё лета ўпарта ваявалі з панам за права пасвіць жывёлу ў лесе і на Абадку. У пана не хапае леснікоў і стражнікаў ганяцца за кожным пастухом. І гатовага сена яму не вярнулі. Калі прыязджаў пан з начальнікам міліцыі Макарэвічам па сена, усё сяло — старыя і малыя — хапалася за косы, сякеры і што пад руку пападала ды выступала на смяротэльную вайну. Макарэвіч адступаў без бою. Праз тыдзень пан прыязджаў зноў, і зноў яму ладзілі такую ж сустрэчу.

У сярэдзіне кастрычніка проста з майстэрні паклікалі ў воласць Алеся Рабцэвіча і дзядзьку Гарасіма. Ні ў той дзень, ні назаўтра на работу яны не вярнуліся.

«Няўжо зноў здарылася што благое?» — з трывогаю думаў я пра дзядзьку Гарасіма. У абед я не пайшоў у сталоўку, а пабег у мястэчка да Прахарэні.

На рабоце дзядзькі Прахарэні не было. Я запытаўся пра яго ў акенцы, дзе прымалася і выдавалася пошта.

Пажылы лысы местачковец у акулярах, што сядзеў за гэтым акенцам, буркнуў, не падымаючы вачэй:

— Навошта табе Прахарэня?

— Дзядзька Прахарэня мой знаёмы,— адказаў я.

Лысы местачковец зняў акуляры і паглядзеў на мяне.

— То шукай яго, калі ён твой знаёмы, у турме,— строга сказаў ён і загрукаў паштовым штэмпелем па канвертах.— Туды цяпер усіх бальшавікоў зганяюць.

Я так і не зразумеў: радуецца гэты чалавек таму, што бальшавікоў зганяюць у турму, ці абураецца?

Я пабег у міліцыю да свайго знаёмага. За тым сталом сядзеў цяпер другі дзяжурны. Ад яго я даведаўся, што памочнік начальніка міліцыі Купрэйчык даўно, як пакінуў службу ў міліцыі і паехаў у Мінск вучыцца.

Больш я нікуды не пайшоў. Ногі не хацелі слухацца мяне, калі я варочаўся назад у рымарскую. Якою яна стала цяпер мне чужою!

Была сярэдзіна восені. Усё часцей і часцей хавалася сонца за хмарамі, усё часцей шумелі золкія вятры. Ні адна восень не здавалася мне такой нуднай, як гэтая. Мне хацелася кінуць рымарскую і сядзець дома, нікуды не выходзячы. Можа б я так і зрабіў, каб дома была хоць якая работа. А так — чым заняцца? Вады з калодзежа прынясе і ўсё, што трэба, зробіць Юзік. У гаспадарцы ён разбіраецца лепш за мяне. Маці не нахваліцца ім. Ядзя пайшла ў школу. Яна таксама ўжо добрая матчына памочніца. Так што я там цяпер лішні.

У адзін з такіх сумных асенніх дзён мы раптам убачылі на парозе майстэрні Алеся Рабцэвіча і дзядзьку Гарасіма. Абодва яны былі радасныя і вясёлыя, быццам вярнуліся на работу не з турмы, а з гасцей.

— Дзядзька Гарасім! — кінуўся я насустрач.— Вас выпусцілі з турмы?

Гарасім абняў мяне, пацалаваў у лоб.

— Няма больш, Петрусёк, у Расіі турмаў для рабочага чалавека...

Не паспеў я разабрацца, што сказаў Гарасім, як пачуў усхваляваны голас Алеся Рабцэвіча:

— Таварышы, браткі! Мы вярнуліся да вас з добраю весткаю: у Петраградзе новая рэвалюцыя!.. Крывавы кат Керанскі ўцёк. Уладу ўзялі ў свае рукі бальшавікі. Ура!

— Ура! Ура!

Людзі пакінулі свае дратвы і шылы, падхапілі Алеся

Рабцэвіча на рукі і з шумам і крыкам панеслі на дзядзінец.

На шум у рымарскай выбеглі нашы суседзі — калёснікі.

— Рэвалюцыя!

— У Петраградзе новая рэвалюцыя! — крычалі ім рабочыя з нашай майстэрні.— Керанскі даў лататы!

— Браткі! — пачуў я голас Алеся Рабцэвіча.— Лавіце пана, калі яшчэ не ўцёк.

Цэлы гурт людзей адарваўся ад грамады і кінуўся да панскага дома.

Я таксама пабег за імі.

Мы сутыкнуліся з панам нос у нос: з чамаданамі ў руках ён спускаўся з ганка. З боку стайні да яго імчалася павозка, запрэжаная лепшым панскім жарабцом.

Відаць, пан падумаў, што мы наладзілі чарговую забастоўку. На гэты раз ён вельмі лагодна залепятаў перапалоханым галаском:

— Згодзен, згодзен прыбавіць вам плату і зменшыць рабочы дзень! Ідзіце, працуйце. З богам! З богам!

Ён хацеў абысці нас. А калі рабочыя хапілі пана за дарагі футравы каўнер, яму ўсё стала ясна. Чамаданы вываліліся ў яго з рук.

— Матка боска! — прашаптаў пан сухімі губамі.— Яны ўжо ведаюць...

Яго падвялі да майстэрняў. Пан калаціўся як у ліхаманцы. Усё намагаўся нешта сказаць, ды язык не слухаўся яго. Куды толькі падзелася Прусакова фанабэрыя!

З боку парабкоўскіх хатак пачуўся новы шум. Я глянуў туды і ўбачыў: чалавек з дзесяць парабкоў цягнулі да нас тоўстага панскага аканома Крывульскага і мала худзейшага за яго аднавокага Лаўрэна. Адкуль ён тут узяўся ў гэты час? Потым я даведаўся, што ў апошнія дні Лаўрэн баяўся жыць у сваёй старожцы і больш аціраўся ў маёнтку. Яго не любілі парабкі гэтак жа, як і нашы галынаўцы.

Праз колькі хвілін пана і аканома заперлі ў склепе, які нашы навабранцы разбуalthaвалі тры гады назад. Лаўрэна паштурхалі трохі са злосці і пусцілі на ўсе чатыры бакі. Калоцячыся ад страху, ён драпануў з маёнтка так лёгка, што і на панскім жарабцы не дагоніш.

— Ату яго! Ату! — рагаталі рабочыя пасвістваючы.

Пан пакорна спусціўся ў склеп. Лепшых пакояў ён цяпер і не чакаў. А тоўсты аканом роў нема:

— Я не пан! Чапаць мяне не маеце права! Я буду скардзіцца...

— Каму? — жартавалі рабочыя.

— Вашаму Пятровічу!

— Цяпер ён ужо ваш, а не наш! З эсэрам Пятровічам нам не па дарозе, як і з табою...

Пакінуўшы ў маёнтку варту, Алесь Рабцэвіч павёў нас у мястэчка. Там было народу, як у кірмашны дзень. Мы хадзілі па вуліцах, спявалі «Інтэрнацыянал», «Варшавянку», «Смела, таварышы, у ногу». Потым сабраліся на дзядзінцы пры валасным камітэце, дзе дзядзька Прахарэня павіншаваў нас з перамогай рабоча-сялянскай рэвалюцыі.

Алесь Рабцэвіч папрасіў Гарасіма і яшчэ некалькі чалавек застацца начаваць у маёнтку.

— За маёнтак цяпер адказвае наш рабочы камітэт,— сказаў ён.— Заўтра будзем думаць, што з ім рабіць.

Я ледзь не бягом бег дадому адзін. Нашы ж, мусіць, яшчэ нічога не ведаюць!

Дзён праз тры рабочы камітэт дзяліў маёнтак. Мне далі каня — немаладога, каштанавай масці. Я здагадаўся, што паспагадаў мне дзядзька Гарасім. Сабе ён узяў бурую цялушку.

На каня мне вызначылі і корм: воз сена і воз саломы — на сечку.

Ад радасці я нават забыўся падзякаваць за падарунак. Схапіў каня за аброць, адвёў убок і ўскочыў яму на спіну. Як лёгка я гэта зрабіў, хоць конь быў і не такі ўжо нізкі. Раней мне нават на Арла не лёгка было садзіцца. Значыць, я вырас!

— Дэраш! — гукнуў я на каня, не ведаючы яго клічкі.

Конь быў паслушны, нераўня Дэрашу, хоць крыху і падобны на яго. Ён уздыхнуў, нібы развітваючыся з роднаю стайняю, і лёгка пайшоў туды, куды я накіраваў яго. А накіраваў я яго проста ў сваю родную Галынаўку. Там, падумаў я, запрагу Дэраша — няхай і праўда ён заменіць нам старога Дэраша! — у воз і вярнуся з Юзікам па сена.

Я ўсё не верыў, што гэта не сон. Каб прачнуцца, я

спрабаваў спяваць сам-насам тыя песні, якія мы спявалі ў мястэчку. Не, гэта не сон!

Недалёка ад дому я павярнуў каня ўбок, на панскі луг. Як даўно я не быў на ім! Цяпер Абадок мой, наш! Цяпер я не баюся ніякага Лаўрэна!

Я ўспомніў пра сервітут, пра які расказваў нябожчык дзед. Слова гэтае і цяпер было для мяне нейкім цьмяным, чужым, крывавым. Ды ліха з ім! Няма больш над намі ні пана, ні яго сервітуту. Прыйшоў нарэшце ім канец!

Трава на Абадку, хоць і не так весела, як улетку, яшчэ зелянела.

Я саскочыў з Дэраша і папусціў павады. Новы Дэраш, як і стары, прыгнуў галаву, прачысціў ноздры і пачаў лавіць сваімі мяккімі губамі рэдкую асеннюю дзяцеліну.

Я пяшчотна гладзіў яго па каштанавай шыі, і думкі, думкі, светлыя і радасныя, не пакідалі мяне, хоць на дварэ і церушыў дробны асенні дождж.

*1965 г.*

## УЛАДА НОВАЯ, А ПАРАДКІ СТАРЫЯ

З Дэрашам з панскай стайні я пасябраваў з першага дня.

О, таго дня, калі мне далі яго, я не забуду! Ды не толькі таго, а і тых, што былі перад ім. Пачынаючы з самай шчаслівай хвіліны, калі з турмы прыбеглі дзядзька Гарасім і дзядзька Рыгор і сказалі нам, рабочым панскіх арцеляў, што эсэру Керанскаму Расіяй больш не кіраваць, а нашаму пану Ясінскаму больш не панаваць.

Клічку «Дэраш» свайму каню я даў сам. Тады ж, як першы раз сеў на яго верхам. Я ўспомніў пра старога нашага Дэраша, якога мабілізавалі на самым пачатку вайны. Я яго тады вельмі шкадаваў, хоць і быў ён дужа наравісты. Затое новы Дэраш — любата. Слухаецца не толькі мяне, а і маму, і малодшую сястру Ядзю, не кажучы пра Юзіка — меншага майго брата. Ён таксама любіць Дэраша. Я і аглянуцца не паспею, як ён ужо імчыцца на ім куды-небудзь на ніўкі або на былы панскі Абадок. А калі я заікнуся — дай жа і мне хоць калі папасвіць нашага Дэраша, дык ён адказваў:

— Ты ж мо Гарасіму патрэбен будзеш на гэты час...

Хворы на сухоты Гарасім зноў стаў старшынёю сельскага Савета, а я — зноў сакратаром. Але не сядзім жа мы ўсе дні ў Савеце. У нас пакуль што нават сталага месца няма: ён прыходзіць да мяне, я — да яго.

Праз тыдзень пасля таго як я прывёў Дэраша, Гарасім сказаў мне:

— Ці не падацца табе, Пятрусь, у навуку?

Я нічога не зразумеў з яго гаворкі.

— Вы, дзядзька Гарасім, думаеце — вучыцца мне?

— Але, брат. Іменна я так і думаю. Хоць ты і патрэбен у Савеце. Ды абыдуся як-небудзь. Падбяром каго з тваіх сябрукоў.

— Але ж у нас усё яшчэ няма настаўніка...

— Пра гэта я таксама думаю,— сказаў Гарасім.— Цяпер у воласці новы загадчык аддзела народнай асветы. Дакляраваў, канешне, прыслаць нам настаўніка. Думаю, не падвядзе. Ён — свой чалавек. Можа, ведаеш — малады настаўнік з Зарэчча, Раман Кастравіцкі.

— Ён жа ў салдатах...

— Вярнуўся. Але я не пра сваю школу кажу. Табе трэба падавацца ў Вышэйшае пачатковае вучылішча. Чуў пра яго?

— Дзіва што!

Пра гэтае вучылішча я не толькі чуў, а і шчыра зайздросціў тым, хто ў ім вучыцца. Адкрылася яно ў мястэчку зусім нядаўна.

— Дык туды ж, дзядзька Гарасім, прымаюць толькі тых, хто скончыў пачатковую школу. А ў мяне тры аддзяленні...— з жалем сказаў я.

— Гэта мне вядома. Але, думаю, ты ўтрэш нос і тым, хто скончыў чатыры. Ці не так?

Я прамаўчаў. Хто яго ведае? Праўда, усе падручнікі за чацвёртае аддзяленне я сам вывучыў траха не на памяць. Але ж у мяне няма на гэта законнага пасведчання.

Гарасім упэўнена махнуў рукою:

— Нічога, брат. Паспрабуем прабіць табе дарогу ў гэтую школу і без чатырох аддзяленняў. Цяпер жа не царскія парадкі, калі нашаму брату дарогі ў навуку не давалі. А дома ўправяцца і без цябе. Юзік вунь які вырас. Колькі яму?

— Трынаццаць скора.

— Малавата. Ды нічога. Ён хлопец дужы. Як бацька будзе. Ты па матчынай радні пайшоў, як і я. Мая маці ад сухотаў памерла. Гэтага, відаць, скора і я дачакаюся...

— Што вы, дзядзька Гарасім. Вам толькі жыць цяпер. У турму ўжо больш не заганяць...

Гарасім кіўнуў галавою, усміхнуўся:

— Праўда, хлопча. Цяпер нам толькі жыць ды радавацца. Але ўсё роўна клопату хапае. Вайна яшчэ ідзе. Усюды нястачы. Людзі збяднелі. Адным словам, рабо-

ты — рабіць не перарабіць, як кажуць. Ну, ды нічога — самае галоўнае зроблена: улада цяпер у нашых руках.

Маці і Юзік не пярэчылі, каб я вучыўся (іх лёгка ўгаварыў Гарасім, бо калі я выйду ў людзі, на свой хлеб,— уся гаспадарка застанецца брату), і мы назаўтра ж запрэглі нашага Дэраша і рушылі ў мястэчка. Гарасім панскага каня сабе не браў, бо ў яго няма чаго яму рабіць. Дзяліць з братам бацькаўшчыну ён таксама не хоча — спадзяецца калі-небудзь зноў вярнуцца ў Мінск на сваю фабрыку.

Дэраш бег лёгкім трухам, сяды-тады пачмыхваючы: у ноздры трапляў дарожны пыл. Восень стаяла сухая, з невялікімі ранішнімі прымаразкамі, і дарога яшчэ трымалася добра — чыстая, гладкая, без разбітых непагодаю калдобін.

Як праязджалі каля маёнтка, Дэраш павярнуў на знаёмы дзядзінец. І вельмі, відаць, здзівіўся, калі я не пусціў яго туды.

— Адвыкай, адвыкай, кося, ад панскай стайні,— злёгку паторгаў я лейцамі.— Больш сюды табе дарогі няма, як і твайму пану. Дзе ён цяпер, наш Прусак? (Так усе ў нас звалі хударлявага і рыжага пана Ясінскага.)

Гарасім адказаў:

— З воласці тады яго завезлі ў павятовую турму. А далей што з ім — не ведаю. На добры лад судзіць яго трэба было б. І не дзе-небудзь, а ў нас, на месцы. Баюся, каб не выкруціўся, гад... Думаеш, няма ў яго прыяцеляў? Уга, колькі! Наш эсэр Пятровіч першы. Ён жа, як быў старшынёю валаснога Савета пры Керанскім, так ім і застаўся. А цяпер, калі валасная ўправа Часовага ўрада разбеглася,— ён першы ў нас начальнік.

— Чаму? — перапыніў я Гарасіма.— Хіба няма лепшага каго?

— Лепшыя то ёсць, ды тут, брат, не ўсё так проста, як табе здаецца. Керанскі ўцёк, а партыя яго засталася. Яна нікуды не ўцячэ. І яе не так лёгка разагнаць. Эсэраў у Саветах усюды поўна. Ну, што ж, будзем чакаць новых выбараў. Можа, на гэты раз наша партыя возьме верх не толькі ў сталіцы, а і ў сельскіх Саветах.

Вучылішча, куды мы ехалі, было якраз пры дарозе, на ўскраіне мястэчка. Яно займала два будынкі былой земскай управы. У адным з іх размяшчаліся вучэбныя класы, а ў другім — інтэрнат для тых, каму далёка хадзіць

дадому, і кватэры для дырэктара і некаторых настаўнікаў.

Мы заехалі на шырокі прасторны двор з калодзежам пасярэдзіне. Калодзеж гэты быў не такі, як нашы вясковыя, а з цэментных кругоў, з калаўротам пад стрэшкаю.

Паставіўшы каня недалёка ад калодзежа, мы пайшлі шукаць дырэктара вучылішча. Дырэктар, немалады ўжо чалавек, з добра пасівелымі скронямі на гладкім румяным твары прыняў нас ветліва. Гарасім запытаўся, як яго зваць-велічаць, і сказаў, хто ён сам.

— Рад бачыць у сябе старшыню новай сельскай улады! — загаманіў басам дырэктар Павел Кірылавіч.— Я, разумееце, заўсёды спачуваў рэвалюцыянерам. І вось мы нарэшце дачакаліся сапраўднай рэвалюцыі...

Але, калі Гарасім сказаў, што прывяло яго да дырэктара, Павел Кірылавіч адразу неяк спахмурнеў. Глянуўшы на мяне больш строга, чым спачатку, забасіў зусім іншым тонам:

— Позна, Гарасім Аляксеевіч. На жаль, позна... Дзе ж вы былі раней?

Гарасім закашляўся, схапіўшыся за грудзі. Я ўжо даўно заўважыў, што больш кашляў ён тады, калі пачынаў хвалявацца. Супакоіўшыся крыху, сказаў:

— Калі б не позна было, Павел Кірылавіч, не прывёў бы я яго сам да вас.

І ён коратка расказаў дырэктару, хто я і што. Мне няёмка было, як Гарасім хваліў мяне: я, маўляў, не толькі яго сакратар, а і працаваў разам з ім у рымарнай у крывапіўца Ясінскага, я не толькі пісаў праз усю вайну пісьмы салдаткам, а і чытаў мужыкам газеты і кніжкі. Каго ж тады вучыць у вышэйшым вучылішчы, калі не такіх, як я. Адным словам, я сам не ведаў, якая я важная асоба.

Дырэктар слухаў уважліва, сяды-тады матаючы галавою і пастукваючы тоўстым карандашом аб стол. А калі Гарасім расказаў, што хацеў, запытаўся:

— Пасведчанне аб заканчэнні пачатковай школы пры вас?

Гарасім пакруціў галавою:

— Чацвёртага аддзялення ён не паспеў скончыць; настаўніка з нашай школы забралі...

— Значыць, пасведчання ў вас няма?

— Няма...

Дырэктар рашуча развёў рукамі:

— Ну, бацейка. Тады і гаворкі няма. Не, не, не...

Ён дастаў з верхняй кішэні свайго цёмна-сіняга пінжака вялікі круглы гадзіннік, глянуў на яго і замітусіўся:

— Выбачайце, мне пара ў клас...

— Але ж Пятрусь ведае не менш, чым трэба для паступлення ў ваша вучылішча,— не здаваўся Гарасім.

— Нават каб ведаў і больш, чым трэба,— пачаў павышаць голас дырэктар,— прыняць яго я не магу. На жаль...

— Чаму?

— Ёсць на гэты конт інструкцыя... Яна не дазваляе.

— Дык інструкцыю, відаць, складалі пры Мікалашку! Тады, калі нашага брата не пускалі далей сельскай школы. Вы гэта ведаеце?

Слова за слова, і гарачы Гарасім добра такі пасварыўся з дырэктарам.

— Я казаў, дзядзька Гарасім, што нічога не будзе,— сказаў я, калі мы выйшлі з дырэктарскага пакоя на двор.

— Як гэта нічога не будзе? — сярдзіта бурчаў Гарасім ужо на мяне.— Паедзем да Кастравіцкага!

Аддзел народнай асветы займаў невялікі пакойчык з адным акном у добра знаёмым мне валасным будынку. Кастравіцкага мы засталі на службе. Высокі, у суконным сінім гарнітуры з шырокімі галіфэ, светла-русы, ён мне здаўся сапраўды сваім чалавекам, як казаў пра яго дзядзька Гарасім.

Павітаўшыся за руку, Гарасім запытаўся ў яго:

— Скажы ты мне, Раман Антонавіч: дырэктар вучылішча — хто ён?

Кастравіцкі дабрадушна ўсміхнуўся:

— Дырэктар і ёсць. Хто ж яшчэ?

— З паноў ці з мужыкоў? — растлумачыў сваё пытанне Гарасім.

Кастравіцкі пацісնуў плячыма:

— Ну, як табе сказаць. Не з паноў, але і не з мужыкоў. Бацька яго быў таксама дырэктарам, толькі гімназіі. А што? Чаму ён цікавіць цябе?

— Ага,— разважаў Гарасім уголас.— Я такі думаю: не ляжыць душа ў яго да нашага брата. Ён што — эсэр, меншавік ці мо сам кадэт?

— Ніхто,— зноў усміхнуўся сваёй светлай усмешкай Кастравіцкі.— Але спачувае, вядома, не нашай бальша-

віцкай партыі. Гэта я ведаю. Проста інтэлігент. Спецыяліст сваёй справы.

— А няхай яго з такім спецыялістам! Пазнаёміўся я з ім толькі што і не рад знаёмству...

І Гарасім пераказаў Каստравіцкаму пра мяне тое, што гаварыў дырэктару.

— Значыць, вучыцца хочаш? — ласкава глянуў на мяне Кастравіцкі, калі Гарасім скончыў сваю гаворку.

Я кіўнуў галавою.

— А мо і праўда позна ўжо?

— Я даганю...— сказаў я, адчуваючы, што і Кастравіцкі, мусіць, скажа тое, што дырэктар.

— Веру, што даганіш,— згадзіўся са мною Кастравіцкі.— Ты, відаць, не з тых, каго самога трэба падганяць. Што ж нам рабіць з табою? — задумаўся ён.— Адкладаць на год, як бачу, не хочацца ні табе, ні твайму старшыні, ні мне. Нам патрэбны спецыялісты з рабочых і сялян. І чым хутчэй мы іх навучым, тым лепш для новай савецкай дзяржавы. Бо з такімі спецыялістамі, як эсэр Пятровіч ці Павел Кірылавіч, мы далёка не пойдзем.

Паразважаўшы гэтак, Кастравіцкі запытаўся ў мяне:

— А ты і праўда сам вывучыў падручнікі за чацвёртае аддзяленне?

— Не ведаю, ці добра, але, здаецца, усё помню,— нясмела адказаў я.

— Ну, тады скажы мне, калі і дзе адбылася галоўная бітва рускіх з французамі?

Я не толькі лёгка адказаў на гэтае пытанне, але і расказаў яшчэ верш Лермантава «Барадзіно».

Узрадаваны маім адказам і дэкламацыяй верша, Гарасім закашляўся, а Кастравіцкі весела сказаў:

— Ты ж, браток, адразу здаў два экзамены за чацвёртае аддзяленне — па гісторыі і па літаратуры. Чаго ж ім яшчэ трэба? Ну, а як з геаграфіяй у цябе?

Я прамаўчаў. Геаграфію я таксама люблю, як гісторыю і літаратуру, ды не сказаў бы, каб так цвёрда ведаў усё, што вычытаў у падручніку.

— Якая самая большая рака ў Расіі? — запытаўся Кастравіцкі.

— Волга,— адказаў я без запінкі.

— А ў Маларосіі?

— Дняпро.

— А ў Беларусі?

Тут я задумаўся. Нёман? Заходняя Дзвіна? Сож? Не помню, каб у падручніку геаграфіі вылучалася якая-небудзь з гэтых вядомых мне беларускіх рэк. Відаць, не ведаў цвёрда гэтага і сам Каставіцкі, бо, не дачакаўшыся майго адказу, загаварыў аб іншым:

— Ну што ж, я згодзен з тваім старшынёю: табе трэба вучыцца. З цябе чалавек будзе.

Ён узяў на стале лісток чыстай паперы, нешта напісаў на ім і перадаў дзядзьку Гарасіму са словамі:

— Схадзіце яшчэ раз да дырэктара вучылішча. Можа, ён мяне паслухае. Я ўсё ж нейкі начальнік над ім.

Гарасім балюча паморшчыўся.

— Каб яго чорт слухаў. Зноў яшчэ пасварымся.

І праўда. Павел Кірылавіч прачытаў паперку і сказаў:

— Кастравіцкі — мой начальнік. Але над ім, як і нада мною, ёсць таварыш Пятровіч. Калі ўжо ён загадае мне парушыць інструкцыю, тады іншая справа. Ідзіце да Пятровіча.

— От жа чалавек! — пляваўся Гарасім, ідучы назад у валасны Савет.— Падумаць толькі — Кастравіцкага яму мала. Прычапіўся да сваёй інструкцыі, каб яго чорт узяў... Не, трэба рашуча ламаць і старыя інструкцыі, і старыя парадкі! А для гэтага, як кажа Кастравіцкі, патрэбны новыя, свае людзі. Усюды. Нават у крэслах школьных дырэктараў.

Да Пятровіча Гарасім пайшоў адзін. Улетку, да свайго арышту, ён быў членам валаснога Савета ад партыі бальшавікоў. Цяпер ён зноў стаў ім. Я ведаў, што Гарасім не любіць старшыню Савета Пятровіча, на валасных сходах часта сварыцца з ім. Пятровіч, вядома, адказвае яму тым жа. Быць у адным Савеце ім зусім нялёгка. Ні раней, да рэвалюцыі, ні цяпер Гарасім Аляксеевіч з Пятровічам сябрамі не былі і не сталі.

Вярнуўшыся ад Пятровіча, Гарасім доўга кашляў. Аж учарнеў, небарака. Я адразу зразумеў, што і там спасцігла яго няўдача.

— І гэтага чорта трэба гнаць да д'ябла! — сказаў Гарасім, адкашляўшыся.— Ён пяе тыя ж песні, што і дырэктар. Адзін аднаго варты. Значыць, мала змяніць уладу там, наверсе, трэба яшчэ змяніць яе і тут, у нас. Еду ў Мінск! І ўсё там раскажу...

— А мо не трэба, дзядзька Гарасім? Гэтулькі клопату

вам праз мяне. Мне ўжо расхацелася вучыцца,— пачаў я адгаворваць яго, хоць сам гэтага і не думаў.

Але дзе ты адгаворыш упартага Гарасіма! Назаўтра ўжо я павёз яго на станцыю — да поезда.

## Я ВІШУ НА ВАЛАСКУ...

І ўсё ж Гарасім дабіўся свайго: прывёз з Мінска такую паперу, што і дырэктар, і сам Пятровіч больш не напаміналі нам пра інструкцыю. Далі толькі месяц часу, каб я дагнаў сваіх аднакласнікаў.

Так я стаў вучнем Вышэйшага пачатковага вучылішча. Добры дзядзька Гарасім прывёз не толькі добрую для мяне паперу, а і падручнікі для першага класа: задачнік Малініна-Бурэніна, кнігу па літаратуры Саводнікава, геаграфію, гісторыю, нямецкую мову. Цэлае для мяне багацце! Два дні, казаў ён, бегаў па магазінах і па рынках. А спіс гэтых падручнікаў яму далі ў тым жа губернскім аддзеле народнай асветы, дзе ён атрымаў і загад дырэктару вучылішча, каб не пужаў нас старою царскаю інструкцыяй.

Ці трэба казаць, як я накінуўся на гэтыя новыя для мяне падручнікі! Я нават начамі ў сне паўтараў прачытанае ўдзень. Усё маё жыццё цяпер было запоўнена вучобаю. Добра яшчэ, што Гарасім адразу ж дагаварыўся з упартым дырэктарам, каб даў мне месца ў сваім інтэрнаце, а то бегаць дахаты далекавата. А тут і дажджы зачасцілі. Дарога раскісла. Боты мае, што я купіў летась, як рабіў у панскай рымарнай арцелі, вельмі не любілі такога мокрага надвор'я, хоць я іх яшчэ і мала насіў: дагэтуль хадзіў, як і ўсе ў вёсцы, у лапцях. Цяпер абуваць лапці было няёмка — я ж вучань не якой-небудзь сельскай, а вышэйшай школы! Ды і не проста школай, як усе сельскія, называецца мая цяперашняя школа, а вучылішчам. Было мне чым ганарыцца перад маімі вясковымі равеснікамі.

Кожную суботу я хадзіў дадому, там нядзеляваў, а ў панядзелак ранічкай бег у вучылішча з ладнаю торбаю харчоў — на ўвесь тыдзень. Бульбу і крупы я варыў, як і ўсе інтэрнатчыкі, асобна ў маленькім, аплеценым тонкім дротам гаршчку. Пэўна ж, вельмі не наядаўся: ні сала, ні масла ў мяне не было. Ды я не так ужо і думаў пра

яду. Што з'еў, тое і добра. За вайну мы да ўсяго прывыклі.

Сябры мае па інтэрнаце таксама былі не з багатых сем'яў. Яны ведалі, як нялёгка я пастулаў у вучылішча, і спачувалі, што мне трэба даганяць іх. Ад іх я ў першы ж дзень даведаўся, хто з настаўнікаў лепшы, а хто — горшы. Горшым быў сам дырэктар Павел Кірылавіч — настаўнік гісторыі і малявання, а таксама, яшчэ горшая за дырэктара, тоўстая, як ступа, яго жонка Мар'я Васільеўна — настаўніца мовы і літаратуры. Якраз тых прадметаў, якія я больш люблю. Праўда, гэтыя горшыя пакуль што мяне не чапалі. Але што будзе праз месяц?

У нашым пакоі стаяла пяць ложкаў. Адзін з іх — яго ўціснулі пазней — належаў мне, іншыя — жартуну і весялуну Міхасю Азаркевічу, хмураму, маруднаму на слова талаконшчыку (ён вельмі любіў аўсянае талакно) Язэпу Жаковічу, заўзятаму аматару-кніжніку Лёньку Астравуху і не меншаму аматару-песенніку Паўлюку Драздовічу. Побач з нашым у тым жа калідоры было яшчэ чатыры пакоі. Рэшту дома займаў сам дырэктар і настаўнікі.

Усё ішло добра. Ды неўзабаве пачаліся ў мяне сутычкі з Мар'яй Васільеўнай. Пішучы прыклады з граматыкі на дошцы, яна часта рабіла памылкі: замест «всего», пісала «всево», замест «керосин» — «карасин», не цвёрда ведала, дзе пісаць мяккі знак і цвёрды, дзе «е», а дзе «яць»[1]. Першыя дні я маўчаў, як і ўсе. А потым усё часцей чорт тузаў мяне за язык. Я падымаў руку.

— Мар'я Васільеўна, у вас памылка...

Мар'я Васільеўна густа чырванела, таропячыся на дошку.

— Дзе? Што ты выдумляеш? Сядзі, слухай!

— Ды вунь, Мар'я Васільеўна, у слова «беда» трэба «яць», а не «е»...

— Бес, беда, бег, еду, ем..:— шапталіся вучні між сабою, успамінаючы, у якіх словах трэба пісаць «яць», а не «е». Словы гэтыя мы ведалі яшчэ з сельскай школы, як табліцу множання.

Збітая з панталыку, Мар'я Васільеўна цішэла і моўчкі папраўляла сваю памылку.

За вайну я перачытаў не адну сотню салдацкіх пісем. І не менш напісаў. Я стараўся пісаць так, каб не асара-

---

[1] «Яць» — назва літары, якая азначала гук, блізкі да «е».

маціцца перад пісьменнымі салдатамі. Гэта і было прычынай, што ўсе асноўныя граматычныя правілы я ведаў, як поп пацеры [1]. А чаму іх не ведала Мар'я Васільеўна? Яна ж настаўніца. Мне тады здавалася, што настаўнікі мусяць ведаць усё і не рабіць ніякіх памылак.

Неўзабаве пра гэтую таямніцу я даведаўся ад самога Паўла Кірылавіча.

Паклікаў ён мяне ў свой дырэктарскі пакой і лагодна (так мне здалося) пачаў распытвацца, як я вучуся.

— Добра,— кажу,— Павел Кірылавіч. Скора даганю.

Дырэктар пачмыхаў, дастаў з кішэні насавую хустачку, выцер чамусьці не нос, а рот.

— Кажаш, добра? Ну, дык адкажы ж ты мне, з кім ваяваў кіеўскі князь Алег Рурыкавіч?

— З грэкамі, з хазарамі,— адказаў я.

— А дзе было царства хазараў?

Гэтае пытанне мяне збянтэжыла. Я ведаў, дзе жылі печанегі, што часта нападалі на Кіеўскую Русь, ведаў, адкуль прыйшлі да нас татары. А дзе ж былі хазары?

— На поўдні Маларосіі,— наўгад адказаў я.

Не маглі ж яны жыць дзе-небудзь на поўначы, каля Масквы. Там бы з імі ваяваў хто-небудзь з маскоўскіх або наўгародскіх князёў.

Павел Кірылавіч зноў выцер губы хустачкай.

— На поўдні-то на поўдні, але дакладней — дзе?

Я маўчаў.

— Ну, а як называлася сталіца грэкаў, у якой пабываў кіеўскі князь Алег?

На гэтае пытанне я адказаў лёгка.

— Ну, вось бачыш,— зноў лагодна загаварыў Павел Кірылавіч.— Хоць ты і хваліўся, што добра вучышся, ды далёка не ўсё ведаеш. Праз тыдзень зробім праверку, як ты дагнаў свой клас. Так што, можа, мы і не пакінем цябе ў вучылішчы...

Апошнія словы дырэктара як абухам па галаве мяне ўдарылі. У мяне аж каленкі задрыжалі. Гэтулькі клопату я нарабіў людзям, і ўсё можа кончыцца тым, з чаго пачыналася. Цяпер ужо ніхто мне не паможа...

Вытрымаўшы пэўны перапынак пасля страшных для мяне слоў, дырэктар гаварыў далей усё тым жа лагодным голасам:

---

[1] Пацеры — малітвы.

— Мы, вядома, маглі б паспачуваць табе, бо ты ўсё ж напалавіну самавук — чацвёртага аддзялення не канчаў. Але... паводзіны твае мне зусім не падабаюцца.

Гэта было для мяне нешта новае. Ніякіх сваіх дрэнных паводзін я не ведаў. Так я і сказаў яму.

Дырэктар устаў з-за стала, пахадзіў сюды-туды, свідруючы мяне сваімі цёмнымі калючымі вачыма. «Што ён задумаў?» — ламаў я галаву. Відаць, хоча ўсё ж на сваім паставіць — не пусціць, як кажа дзядзька Гарасім, мяне ў навуку.

— Мар'я Васільеўна скардзіцца на цябе...— раптам абвясціў ён, спыніўшыся супраць мяне.

— За што, Павел Кірылавіч? — спалохана запытаўся я.

— Ты зрываеш яе ўрокі...

— Не было гэтага, Павел Кірылавіч.

Дырэктар патрос перад маім носам указальным пальцам:

— Дык што ж, па-твойму, настаўніца Мар'я Васільеўна хлусіць?

— Я толькі дапамагаў ёй выправіць памылкі...

— Ты дапамагаў настаўніцы! — закрычаў дырэктар не сваім голасам.— Як ты асмельваешся нават казаць гэта не толькі мне, а і каму б там ні было! Гэта нахабства! Бачыце, ён такі грамацей, што настаўніцу папраўляе! Што ты гэтым хочаш даказаць?

— Але ж гэта праўда! — не адступаўся я ад свайго.— Мар'я Васільеўна робіць памылкі. Гэта ўсе бачаць.

— Усе бачаць і маўчаць. А ты адзін разумнейшы,— дакараў мяне Павел Кірылавіч.— Мар'я Васільеўна — хворы чалавек. Яна — рассеяная і можа выпадкова зрабіць апіску. Але ж гэта не прычына, каб такія зялёныя хлапчукі, як ты, папраўлялі яе перад усім класам. Зразумеў?

— Зразумеў, Павел Кірылавіч.

Ну, калі яна хворая, тады іншая справа. Хворага чалавека шкадаваць трэба, а не ганіць за нейкія там апіскі.

— Больш не буду, Павел Кірылавіч,— пакаяўся я.

— Ну, глядзі ў мяне,— зноў патрос дырэктар указальным пальцам перад маім носам.— Ты сам вісіш на валаску... І яшчэ: няхай гэтая наша гаворка застанецца паміж намі. Я не цярплю розных плётак. Згодзен?

Як тут не згодзішся, калі вісіш на валаску.

## ВАЛАСОК АБАРВАЎСЯ

Як не хацелася Пятровічу, а вымушаны быў абвясціць перавыбары валаснога Савета. Памагла гэтаму Гарасімава паездка ў Мінск.

Выставіўшы сваіх кандыдатаў у Савет, эсэры кінуліся ў вёскі збіраць галасы.

Меншавікоў у нас не знайшлося, а бундаўцы далей мястэчка не паказвалі і носа.

Валасны камітэт бальшавікоў вылучыў чалавек дзесяць сваіх кандыдатаў — і камуністаў, і спачуваючых. У іх ліку быў і дзядзька Гарасім.

— Ну, цяпер трымайся, эсэр Пятровіч! — радаваўся ён новым выбарам.

— А калі яго зноў выберуць? — не разумеў я заўчаснай Гарасімавай радасці.

— Яго-то могуць выбраць,— адказваў Гарасім.— Але не думаю, каб уся іхняя банда зноў вырвалася наверх, як да рэвалюцыі. Не той час — не той і выбаршчык. А калі ў Савет пройдзе больш нашых людзей, тады — мы гаспадары, а не яны. От якая тут справа, пане-браце!

Трэба думаць, Пятровіч гэта разумеў не горш за Гарасіма. І ён распінаўся як мог. Са скуры вылузваўся, як кажуць, каб сабраць найбольш галасоў за сябе і сваіх хаўруснікаў. Аднойчы завітаў нават да нас у вучылішча. Мы, малалеткі, вядома, яшчэ не мелі права выбіраць, ды хітры Пятровіч цэліў на другое.

Дырэктар сабраў нас на прасторным двары, бо ні ў адным класе ўсім месца не хапіла б, і сказаў, што з намі хоча гаварыць сам старшыня воласці Адам Пятровіч.

«Аб чым яму з намі гаварыць?» — гадалі мы, разглядаючы тоўстага каржакаватага мужчыну ў дарагім цёмна-шэрым паліто, у новых хромавых ботах і ў чорнай каракулевай шапцы на галаве. Тады мала хто ў нас так багата апранаўся, і мы, вядома ж, з цікавасцю разглядалі яго дарагое ўбранне. Раней, казалі, ён быў панскім каморнікам, ездзіў на веласіпедзе — тады адзін толькі Пятровіч на ўсю воласць і меў веласіпед. Цяпер пастарэў, раздабрэў і ездзіць на казённай брычцы.

Пятровіч падняў руку, зрабіў шырокую, на ўвесь пляскаты твар, усмешку і загаварыў:

— Дарагія мае вучні! Я хачу пагаманіць з вамі, як роўны з роўнымі. Гэта нічога, што вы яшчэ малалеткі.

Бывае, іншы малалетак закасуе якога і сталага мужыка. Праўду я кажу?

— Гледзячы ў чым,— пачуўся голас жартуна Азаркевіча.— За сталом, прагаладаўшыся, можа і закасаваць. А калі касіць або араць, то наўрад...

— Работа, якую я хачу вам даць, зусім лёгкая. Тут не трэба ні касіць, ні араць. Вы чулі, што ў нас зараз пачынаюцца выбары новай валасной улады?

— Чулі! — дружна адгукнуліся малалеткі.— Дык нас жа не выберуць...

— Правільна,— ахвотна згадзіўся Пятровіч.— Вас не выберуць у валасны Савет, а вы нас можаце выбраць... Як? Скажу. Угаварвайце сваіх бацькоў, братоў, сясцёр і ўсіх суседзяў, каб галасавалі толькі за нашу партыю.

— Якую? — выгукнуў я, хоць і добра ведаў, хто такі Пятровіч, і не любіў яго гэтак жа, як і дзядзька Гарасім.

— Партыю эсэраў — гэта значыць, сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

— А чаму трэба галасаваць толькі за эсэраў, а не за бальшавікоў? — зноў перапыніў я яго.

— Чаму за эсэраў? Правільна задаў ты, хлопец, пытанне. Як цябе зваць?

— Пятрусь Валовіч,— адказаў я.

— Ахвотна адкажу табе, Пятрусь, і ўсім тваім сябрам, чаму за эсэраў.

Пятровіч зрабіў перапынак, потым падняў перад сабою левую руку і сказаў:

— Хто выступае за Устаноўчы сход, які створыць законную ўладу ў Расіі?

Пятровіч загнуў мезены палец на выстаўленай рупэ.

— Эсэры. Хто прызнае ўласнасць любога чалавека свяшчэннай і недатыкальнай?

Пятровіч загнуў другі палец:

— Зноў жа — эсэры. Хто клапоціцца пра вас і вашых бацькоў?

Пятровіч загнуў трэці палец:

— Яны — эсэры. А бальшавікі што дадуць народу?

І Пятровіч пачаў плесці пра бальшавікоў несусветную лухту.

Я слухаў яго, і мяне аж калаціла ад злосці на гэтага несумленнага лгуна. За апошнія месяцы я нядрэнна разабраўся, якая партыя чаго варта. Шмат пераняў я і ад Га-

расіма. Цяпер я веру толькі яму. Часта нават гавару яго словамі.

Калі Пятровіч прыпыніў сваё красамоўства, каб высмаркацца ў хустачку, я задаў яму пытанне:

— У якой партыі быў Керанскі?

Пятровіч збянтэжыўся. Нешта замармытаў да дырэктара. Павел Кірылавіч зразумеў яго і строга закрычаў на мяне:

— Валовіч, я забараняю табе перабіваць дакладчыка недарэчнымі пытаннямі! Рана табе гэта ведаць.

А чорт тым часам — штурхель мяне пад бок: не маўчы! І я разышоўся:

— Керанскі — эсэр, такі ж, як старшыня нашай воласці. А эсэры — гэта ўсім вядома, Павел Кірылавіч,— абараняюць буржуяў і паноў. Яны не хочуць спыніць вайну. За гэта петраградскія рабочыя і далі па карку верхаводу эсэраў Керанскаму ды паставілі кіраваць Расіяй бальшавіка-камуніста Уладзіміра Ільіча Леніна...

Цяпер я забыў, дзе знаходжуся, і, відаць, не скора спыніў бы сваё слова ў спрэчцы з Пятровічам, каб дырэктар не схапіў мяне за каўнер і не крыкнуў:

— Валовіч, марш у інтэрнат!

Я адышоўся за вугал дома і крадком слухаў, што рабілася на двары.

Расхваліўшы сваіх эсэраў і зганіўшы да рэшты бальшавікоў, Пятровіч перадаў дырэктару аркуш паперы і сказаў:

— На гэтым аркушы запісаны прозвішчы кандыдатаў ад нашай партыі і кароценькія звесткі пра іх. Кожны з вас няхай перапіша сабе гэтыя прозвішчы і чытае ўсім, усім. Ну і, вядома, расказвайце ўсім пра тое, што пачулі тут ад мяне — прадстаўніка нашай партыі.

— А пра тое, што пачулі ад Валовіча, расказваць ці не? — запытаўся Азаркевіч.

— Нічога ваш Валовіч не разумее ў партыях,— адказаў Пятровіч.— Так што выкіньце з галавы яго дурныя словы.

Цяпер Павел Кірылавіч гаварыў са мною ўжо не так, як першы раз.

— Як ты, Валовіч, адважыўся так дзёрзка выступаць супроць самога старшыні валасной улады? — злосна тупаў ён нагамі.— Я ледзь скрозь зямлю не праваліўся ад сораму.

Я падумаў сабе: і добра было б. Прыслалі б новага дырэктара, можа, лепшага. А яму сказаў:

— Я не мог спакойна слухаць, як цыган хваліць сваю дохлую кабылу.

— Што, што? — Павел Кірылавіч вылупіў на мяне злосныя вочы.— Пятровіч табе — цыган, а партыя эсэраў — дохлая кабыла?

Я не здаваўся.

— Вы,— кажу,— запрасіце сюды нашага Гарасіма Аляксеевіча. Ён вам лепш раскажа, якая партыя хоча дабра народу. Кадэты, эсэры, меншавікі, бундаўцы — усе яны аднаго поля ягады. Так кажа Гарасім Аляксеевіч. І гэта праўда. Хіба вы самі не бачыце?

— Ну, бацейка,— збянтэжана круціў галавою дырэктар.— Недарэмна, відаць, ты быў сакратаром у бальшавіцкага старшыні. Зусім сапсаваў ён цябе. Добра. У панядзелак я збяру камісію, і мы праверым, ці так ты разбіраешся ў сваіх падручніках, як у партыях. Ідзі!

Вядома, камісія Паўла Кірылавіча правяліла мяне з трэскам. Сам дырэктар і яго жонка задавалі мне такія пытанні, якіх клас яшчэ не вучыў або іх і зусім не было ў нашых падручніках.

Валасок мой абарваўся, і я адвячоркам, заплаканы, пакінуў вучылішча.

Неба скрозь завалакло цёмнымі хмарамі. Падаў мокры ліпкі снег. На душы ў мяне, як кажуць, скрэблі кошкі.

## ПРАЎДА ЎЗЯЛА ВЕРХ

Калі я назаўтра расказаў пра гэта Гарасіму, ён аж за галаву хапіўся.

— Вось табе і нічыйны дырэктар! — перамагаючы чарговы прыступ кашлю, гаварыў ён.— Ды гэты ж спецыяліст, як называе яго Кастравіцкі, самы сапраўдны эсэр, калі не кадэт. Як ён можа прымушаць сваіх вучняў памагаць Пятровічу! Бач ты яго! А калі ты сказаў праўду ў вочы, дык, выходзіць, ён выгнаў цябе з вучылішча... Выгнаў за нашу бальшавіцкую праўду.

— Не выгнаў, дзядзька Гарасім. Я не адказаў на ўсе пытанні па гісторыі і літаратуры.

— Але ж ты кажаш, табе задавалі і тое, чаго ў падручніках няма.

— Гэта праўда,— пацвердзіў я.— У мяне памяць добрая.

— Значыць, гэты эсэр або, можа, і кадэт Павел Кірылавіч са сваёю Мар'яй Васільеўнай знарок так рабілі. А як іншыя настаўнікі?

— Па геаграфіі і арыфметыцы я адказаў на ўсе пытанні.

— Не! — рашуча стукнуў па стале сваім худым кулаком Гарасім.— Я гэтага так не пакіну!

Ён сказаў мне запрэгчы Дэраша ў павозку, і мы паехалі да Кастравіцкага.

Кастравіцкі нічога не ведаў пра хітрыкі Пятровіча і ўзлаваўся на яго яшчэ больш за Гарасіма.

— Хоць ён і мой начальнік,— сказаў ён,— але тут я вымушаны ўмяшацца. І Павел Кірылавіч нішто сабе гусь. Прагнаў бы гэтага балбатуна, дык не. Двое дарослых уцягваюць дзяцей у справу, якая да іх не мае ніякага дачынення. Ім вучыцца трэба, а не перапісваць і чытаць выбаршчыкам чортведама што!

Кастравіцкі папрасіў нас пачакаць яго, а сам пайшоў у вучылішча.

Вярнуўшыся праз некаторы час, сказаў, што ён строга забараніў Паўлу Кірылавічу займацца пабочнымі справамі, а Пятровічаў спіс парваў на дробныя кавалкі. І яшчэ загадаў Паўлу Кірылавічу на заўтра ж прызначыць новую праверку маіх ведаў.

— Дык яны зноў саб'юць хлопца...— махнуў рукою Гарасім.— Давядзецца хіба мне яшчэ раз ехаць у Мінск шукаць праўды.

— Я гэта ўлічыў,— сказаў Кастравіцкі.— Можа, на гэты раз абыдзецца і без Мінска. Зробім так. Я прыйду на праверку сам. А ты, Пятрусь, калі зададуць якое лішняе пытанне, смела адказвай: «Гэтага ў класе яшчэ не праходзілі». Або: «Гэтага ў падручніку для нашага класа няма». Так мы выкрыем іх несумленнасць. Цябе аднаго яны абдурылі, а двух нас абдурыць не ўдасца.

Так яно і было. На добрую палавіну пытанняў па гісторыі і літаратуры я адказаў, а другую палавіну адхіліў, як лішнія. Павел Кірылавіч і Мар'я Васільеўна нехаця згаджаліся, што так, яны трошкі забеглі наперад — гэтага клас яшчэ не вучыў.

— Дык што ж, выходзіць, вы не ведаеце сваіх прад-

метаў,— шчыра абураўся Кастравіцкі.— Не заглядваеце ў падручнікі? Якія ж вы тады настаўнікі!

Потым ён папрасіў мяне пакінуць клас, а сам астаўся. Чакаючы на калідоры прысуду па маёй справе, я чуў, як сярдзіта прабіраў Кастравіцкі дырэктара і яго жонку.

— Я на вашым месцы, Павел Кірылавіч, падаў бы пасля гэтага ў адстаўку! Настаўнік павінен выхоўваць сумленнасць у сваіх вучняў, а вы які прыклад паказалі маладому чалавеку?

Дырэктар нясмела апраўдваўся, што злога намеру ў яго і ў яго жонкі не было. Ого, не было!

Адным словам, праўда ўзяла верх, і я вярнуўся ў вучылішча. Ці надоўга толькі?

### ЯКАЯ ПАРТЫЯ ЛЕПШАЯ

Пасля апошняга здарэння са мною вучылішча зашумела, як вулей. Усе былі рады, што я добра асек Пятровіча, такога важнага туза, падобнага на буржуя з плакатных малюнкаў. І ўсе абураліся, што дырэктар выгнаў за гэта мяне з вучылішча.

Трэба сказаць, у нашым вучылішчы мала было дзяцей з багатых сем'яў. Тыя вучыліся ў Мінску ў гімназіях або ў рэальных вучылішчах. Яны насілі сваю адмысловую форму, чаго не было ў нас. Праўда, мы стараліся насіць боты, якія ў каго меліся,— хоць братавы ці бацькавы, а так нічым не розніліся ад астатніх вясковых хлапчукоў ці дзяўчатак. Хіба што, можа, сёй-той з хлопцаў набыў шапку з сінім аколышам. Ім зайздросцілі іншыя і таксама стараліся купіць сабе такія шапкі.

Дык вось я стаў, як кажуць, героем дня. Перш-наперш такім зрабілі мяне мае сябры па інтэрнаце. Увечары таго дня, калі я вярнуўся ў вучылішча, мы ў сваім пакоі наладзілі цэлы мітынг. Выявілася, што толькі Лёня Астравух сяк-так разбіраўся, што на свеце робіцца. Але і ён не мог дакладна адказаць, чаго хочуць нашы местачковыя бундаўцы.

— Эсэры не хочуць дзяліць панскую зямлю, пакуль не збярэцца Усерасійскі Устаноўчы сход,— растлумачыў ён нам.— Яны гавораць адно, а робяць другое. Калі ўлетку рабочыя Петраграда выступілі супраць вайны, дык эсэр Керанскі загадаў страляць у іх, як гэта зрабіў цар

9 студзеня 1905 года. Значыць, ён хацеў вайны, як буржуі.

Я слухаў Астравуха з вялікай цікавасцю. Вось што значыць начытаны чалавек. Нават я лепш не расказаў бы пра эсэраў, хоць і быў сакратаром у бальшавіка Гарасіма. Ды і пра бальшавікоў ён сказаў правільна: яны ў першы ж дзень рэвалюцыі абвясцілі, што ўся зямля пераходзіць у рукі тых, хто яе ўрабляе, і што мужыкам трэба без усялякіх устаноўчых сходаў дзяліць маёнткі паміж беззямельнымі і малазямельнымі. А вось чаго хоча бундавец Рубінштэйн — гаспадар дробнай крамкі на Свіной вуліцы, ліха яго знае. З расказаў Гарасіма я толькі ведаў, што бундаўцы абараняюць права ўсіх гандляроў — бедных і багатых — на ўласнасць і не хочуць, каб яўрэйскія рабочыя выступалі ў адных радах з рабочымі іншых нацыянальнасцей.

Я расказаў, што ведаў, пра бальшавікоў і меншавікоў, што яны былі ў адной партыі, а потым разышліся. Адны пайшлі за Леніным, іх была большасць, таму і назвалі іх бальшавікамі. Тыя ж, што не згаджаліся з Леніным, сталі называцца меншавікамі. Мае слухачы ахвотна згадзіліся, што так яно і было: бальшавікі, значыць — большасць, меншавікі — меншасць.

— Ну, а мы хто,— раптам запытаўся Паўлюк Драздовіч, калі я дапоўніў расказ Лёні Астравуха.

— Мы — недаросткі,— адказаў Азаркевіч.— Ні рыба ні мяса...

— Дык чаго ж тады ўгаварваў нас Пятровіч памагаць яго партыі? Помніце, ён сказаў: «Буду гаварыць з вамі, як роўны з роўнымі»?

— Гусь свінні не таварыш,— сказаў Азаркевіч.— Захацеў быць роўным з самім Пятровічам. Ды ён мала бяднейшы за нашага пана Дрыля, хоць той меў цэлы фальварак, а гэты — толькі ці аграном, ці землямер.

— І эсэр,— дадаў Паўлюк у рыфму.

— А хто ж, па-твойму, гусь, а хто свіння? — дапытваўся Астравух у Азаркевіча.

— Які нездагадлівы!

— Ну, дагаварыліся,— сказаў Паўлюк.— Калі Пятровіч і гусь, то я не хачу быць свіннёю. А калі казаць сур'ёзна, то я, як вырасту, буду выбіраць толькі бальшавікоў.

— Доўга, брат, чакаць, пакуль ты вырасцеш,— жартаваў Азаркевіч.

— А нашто чакаць,— сказаў я.— Мы ж можам ужо зараз стаць выбаршчыкамі, хоць і непаўнапраўнымі.

— Як? — зацікавіліся хлопцы.

— А так. Хто за бальшавікоў? Ну я, Паўлюк. А яшчэ?

— І я,— сказаў Астравух.

— І я,— зусім сур'ёзна сказаў Азаркевіч.

Жаковіч пакуль што ў гаворку не ўмешваўся.

— А ты? — запытаўся я ў яго.

Ён нейкі час чухаўся, думаў, потым сказаў:

— Не ведаю. Папытаюся ў бацькі.

Азаркевіч зарагатаў:

— Што твой бацька — буржуй?

— Буржуй не буржуй,— адказаў Паўлюк,— а твайму не раўня.

— Значыцца,— сказаў я,— з пяцярых чатыры — за бальшавікоў?

— Чатыры бальшавікі на аднаго меншавіка,— усклікнуў Азаркевіч.— Ды мы ж з яго, гэтага няшчаснага меншавіка, зараз талакно зробім. А мо ты бундавец?

Жартуючы, ён накінуўся на Жаковіча і пачаў яго тузаць. Жаковіч не зразумеў жартаў і траха не расплакаўся.

— Чаго ты прыстаў? Я дырэктару скажу...

— Дзіва што! — сказаў Азаркевіч, перастаючы тузаць Жаковіча.— Рыбак рыбака бачыць здаляка. Дырэктар такі ж меншавік, як і ты.

— Ну, добра,— перапыніў іх Астравух.— Мы — за бальшавікоў. А далей. Што мы можам зрабіць для іх?

— Тое,— адказаў я,— чаго ад нас хацеў Пятровіч.

Мне такая думка прыйшла ў галаву ў час нашай спрэчкі, якая партыя чаго варта. Калі Пятровіч спадзяваўся, што мы можам нешта карыснае зрабіць для яго, дык чаму нам не зрабіць тое ж самае для Герасіма і яго сяброў-бальшавікоў?

— А і праўда! — сказаў Астравух.— Але ж дырэктар не дазволіць...

— Можна зрабіць і без дырэктара...

І я расказаў хлопцам, што магу дастаць спіс бальшавікоў. Мы перапішам яго. Дырэктар і ведаць не будзе.

— А чаму толькі мы? — запярэчылі мае слухачы.— Думаеш, іншыя не згодзяцца зрабіць гэта?

— Яшчэ лепш,— сказаў я.— Калі з кожных пяці вуч-

няў нашага вучылішча чатыры выступяць за бальшавікоў, дык мы вунь якая сіла!

Словам, мы так захапіліся гэтай справай, што назаўтра ж пра яе ведала ўсё вучылішча. Пачаліся гарачыя спрэчкі, хто за якую партыю выступае.

Пятровіч і не думаў, куды павядзе нас яго просьба памагаць яму выбіраць у валасны Савет эсэраў.

## МАР'Я ВАСІЛЬЕЎНА

Сярод горшых нашых настаўнікаў Мар'я Васільеўна займала першае месца. Не любілі яе мы і за крыклівы характар, і за частыя апіскі ці памылкі на дошцы, і за скручаныя на галаве стаўбуном чорныя, як смоль, валасы. Мы прывыклі бачыць у жанчын і дзяўчат заплеценыя косы, а гэта гаршчок нейкі, а не косы.

І якое ж было наша здзіўленне, калі мы аднойчы ўбачылі ў сярэдзіне гэтага гаршка нейкае драцяное збудаванне, падобнае на пераплёт. Валасы расслабіліся, спаўзлі ўніз, і з-пад іх заблішчаў гэты драцяны пераплёт...

Мы не маглі стрымацца ад смеху. Першы зарагатаў Азаркевіч. А ён умеў рагатаць, як ніхто. Мар'я Васільеўна грозна асекла яго:

— Азаркевіч, да дошкі!

Азаркевіч выйшаў, душачыся ад смеху. За ім грымнуў рогат ужо добрага дзесятка іншых ахвотнікаў парагатаць.

У класе зашапталіся. Тым, хто не ведаў, з чаго рагочуць, суседзі паказвалі на Мар'ю Васільеўну.

Разгубленая, Мар'я Васільеўна мітусілася ўзад і ўперад, не ведаючы, каго яшчэ падымаць з-за парты.

Азаркевіч тым часам круціўся каля яе і рабіў розныя смешныя крыўлянні.

Мар'я Васільеўна падумала, што гэта Азаркевіч рассмяшыў так увесь клас, і выгнала яго на калідор. Але чым больш яна крычала, супакойваючы клас, тым гучней грымеў рогат. Рагаталі ўсе — нават хмуры талаконшчык Жаковіч і яго сусед па парце, такі ж таўстун Гулевіч.

Наш дружны рогат пачулі ў суседніх класах. Заняткі там спыніліся, і ўсе кінуліся да нас глядзець, што тут такое робіцца. Цяпер ужо да нашага рогату далучыўся рогат яшчэ двух класаў. Рагаталі і тыя, хто не ведаў, з чаго рагочуць. Кіслі са смеху і настаўнікі.

Апошні прыбег на рогат Павел Кірылавіч. Ён падхапіў збянтэжаную Мар'ю Васільеўну пад руку і павёў яе праз густы натоўп рагатуноў у сваю дырэктарскую канцылярыю.

Пасля гэтага Мар'я Васільеўна з тыдзень не паказвалася нам на вочы. А калі прыйшла нарэшце ў клас,— на яе галаве ўжо не было гаршка з драцяным пераплётам.

І ўсё роўна мы не любілі яе, нават і без гэтага гаршка.

Села аднаго разу Мар'я Васільеўна за свой настаўніцкі стол і адразу ж хапілася за нос. Фу! фу! — зафукала, скрывіўшыся і махаючы класным журналам. Потым акінула злоснымі вачыма клас.

— Хто сёння дзяжурны?

— Азаркевіч! — адказалі ёй з пярэдніх партаў.

— Азаркевіч, устаць!

Азаркевіч падняўся з-за парты.

— Чаму не праветрыў клас?

— Праветрыў, Мар'я Васільеўна,— зусім сур'ёзна адказаў Азаркевіч.— Нават больш чым трэба праветрыў...

— Адкуль жа тады такі агідны пах у класе?

Азаркевіч пакруціў галавою, пачмыхаў носам.

— Не ведаю, Мар'я Васільеўна. Можа, ад вашай пархумы...

Мар'я Васільеўна любіла парфуміцца. Але парфумы з такім пахам у нашай аптэцы яшчэ не прадавалі.

— Ты мне зубы не загаварвай! — закрычала Мар'я Васільеўна.

Але на Азаркевіча яе крык не зрабіў ніякага ўражання.

— Я, Мар'я Васільеўна, не знахар,— адказаў ён, усміхаючыся.— Зубы загаварваць не ўмею.

— Ах,— забегала перад сталом Мар'я Васільеўна.— Ты яшчэ грубіяніць будзеш! Прэч з класа!

Азаркевіч выйшаў на калідор. Мар'я Васільеўна падцягнула свой стол да другога рада партаў. Села, разгарнула журнал у чорных вокладках і сабралася весці ўрок. Але цяжкі незвычайны пах не даваў ёй спакою і на новым месцы. Вучні з пярэдніх партаў таксама пачалі хапацца за насы, фукаць.

— Не! — рашуча сказала Мар'я Васільеўна.— Праводзіць урок тут немагчыма. Не клас, а свінюшнік!

Яна схапіла са стала свой журнал і куляй выскачыла на калідор. Услед за ёю з вясёлым шумам выбеглі і мы.

Калі клас апусцеў, дзяжурны Азаркевіч адчыніў акно, выняў з шуфляды стала гнілое яйка з прабітым бокам і шпурнуў у кусты. Ніхто гэтага і не заўважыў.

## ТАЙНАЕ СЛЕДСТВА

З тыдзень пасля гэтага ішло следства. Павел Кірылавіч вёў яго не ў класе (ведаў, што ўсе будуць маўчаць) і нават не ў сваім дырэктарскім пакоі, а ў сябе на кватэры. І хоць ён кожнага, каго выклікаў, прасіў маўчаць пра іх размову, сакрэт гэты доўга не пратрымаўся ў тайне.

Нарэшце трапіў і я да яго на следства.

— Ну-с, малады чалавек, як жыццё-быццё? — лагодна, як гэта ён часам умеў рабіць, загаварыў дырэктар, сядаючы ў мяккае крэсла. Мяне сесці не запрасіў. Не прызнаваў за раўню.

— Усё добра, Павел Кірылавіч,— адказаў я.

— А вучышся як? Двоек не нахапаў?

— Двоек не, тройка адна. Вы ж ведаеце...

Тройку паставіў мне ён сам, хоць, як мне здавалася, і незаслужана. Мар'я Васільеўна гэтага не робіць: відаць, баіцца, каб я зноў не пачаў чапляцца да яе памылак. Цяпер я не дурань зноў вешацца на валаску.

— Ну, я думаю, тройку сваю ты хутка выправіш на пяцёрку,— скупа ўсміхнуўся Павел Кірылавіч.

— Наўрад, Павел Кірылавіч,— пакруціў я галавою.— Хаця б на чацвёрку.

— Чаму наўрад? Гэта залежыць ад нас абодвух. Калі ты забудзеш пра тое, што было паміж намі, ды будзеш слухаць мяне, у нас будзе поўная згода.

— А хіба я не слухаю вас, Павел Кірылавіч?

— Паглядзім. Вось мая першая да цябе просьба: памажы мне высветліць, што было ў класе на ўроку Мар'і Васільеўны. Разумееш, гэта для мяне вельмі важна.

— Адкуль жа мне ведаць, Павел Кірылавіч,— адказаў я, не задумваючыся. Я ўжо загадзя падрыхтаваўся да такога пытання.

Павел Кірылавіч, вядома, не паверыў, што я нічога не ведаю.

— Хлусіш,— сказаў ён мне.— Ведаеш, усё ведаеш...

Я пачаў апраўдвацца:

— Да мяне таксама нейкі нядобры дух даходзіў. Але я прывычны, не звяртаў увагі.

— А які гэта, па-твойму, быў дух?

— Не ведаю, Павел Кірылавіч. Можа, ад благой пархумы, а можа, з вуліцы нацягнула. Тут часта бочкі возяць на агароды...

— А я думаю,— сказаў Павел Кірылавіч,— гэты таемны дух быў у шуфлядзе стала. Мар'я Васільеўна не здагадалася заглянуць туды. А калі я, разабраўшыся, што здарылася, зайшоў у клас і адчыніў шуфляду,— яна была пустая. Толькі смурод цяжкі застаўся. Падобны на пах гнілога яйца. Ты не думаеш, што нехта з вас падкінуў яго туды знарок?

— Дык яйцо ж, Павел Кірылавіч, не магло само знікнуць. Вы б убачылі яго...

— Як я мог убачыць, калі прыйшоў ужо ў пусты клас. Значыць, той, хто яго падкінуў у шуфляду, паспеў яго забраць. Так ці не?

Павел Кірылавіч паказаў рукою на крэсла, што стаяла каля стала:

— А ты, Валовіч, садзіся, садзіся. Вось мы з табою і мусім разгадаць, хто гэта зрабіў.

Я сеў, бесклапотна разглядаючы карціны на супрацьлеглай сцяне: «Мядзведзі» Шышкіна, «Мора» Айвазоўскага і партрэт Пушкіна.

— Некаторыя вучні падказваюць мне, што зрабіў гэта ты,— раптам крута павярнуў Павел Кірылавіч убок нашу цікавую размову пра таямнічы дух.— Прызнавайся. Гэта застанецца паміж намі... Я не буду ні выключаць цябе з вучылішча, ні зніжаць ацэнак. Слова маё цвёрдае, як камень.

Я энергічна замахаў рукамі:

— Што вы, Павел Кірылавіч. Ніхто гэтага сказаць не мог.

— Чаму?

— Бо я гэтага не рабіў.

— А кажуць, бачылі, як ты заставаўся ў класе, калі ўсе ўжо былі на калідоры...

— Наадварот: я выбег адзін з першых.

— Дык хто ж тады выйшаў апошні?

— Не ведаю. Пасля мяне заставалася яшчэ паўкласа.

Допыт цягнуўся доўга. Надакучыў ён і мне, і самому следчаму, які нічога новага ад мяне так і не выведаў.

Выпускаючы мяне з кватэры, Павел Кірылавіч зноў загаварыў ніжэйшым тонам:

— Глядзі ж, Валовіч: тое, пра што мы тут з табою талкавалі, няхай застанецца паміж намі.

Я ахвотна матнуў галавою ў знак згоды. Вісець на валаску яшчэ раз мне зусім не хацелася.

## СПРАВЫ НАШЫ ПАЛЯПШАЮЦЦА

Неўзабаве тайнае следства спынілася. Пачаліся больш важныя падзеі.

Скончыліся выбары ў валасны Савет, і ўсім стала вядома, што на першае месца выйшлі бальшавіцкія дэпутаты. Пятровіч з Рабіновічам ледзьве наскрэблі адну траціну галасоў.

Мы радаваліся не менш за Гарасіма і яго сяброў, бо бачылі і свой, хоць маленькі, удзел у выбарах. Тайна наша, праўда, скора раскрылася, але спыніць нас ужо ніхто не мог. Спіс бальшавіцкіх кандыдатаў мы прачыталі сваім бацькам і ўсім суседзям па некалькі разоў, дабіваючыся, каб яны добра іх запомнілі.

І як Павел Кірылавіч ні страшыў нас двойкамі і тройкамі, цікавасць да грамадскага жыцця ў воласці ды і наогул на белым свеце ў нас не слабела. Астравух, які дагэтуль аддаваў перавагу толькі прыгожаму пісьменству, цяпер з прагнасцю накінуўся на брашуры і газеты. Вычытаўшы што цікавае і важнае, ён спяшаўся расказаць пра гэта і нам. Ад яго мы даведваліся, што робіцца на фронце. Немцы на пачатку снежня згадзіліся толькі на перамір'е. А што будзе далей? Старая царская армія развальвалася: салдаты кідалі акопы і самі, без дазволу афіцэраў, спяшаліся дахаты. Хадзілі чуткі, што супраць новай улады выступіў польскі корпус былой царскай арміі генерала Доўбар-Мусніцкага, а ў Мінску стварыўся нейкі беларускі ўрад, які таксама, як і польскі генерал, не прызнае Савецкай улады.

Адным словам, газетных вестак даходзіла да нас нямала, а розных чутак яшчэ больш. І нас больш цікавілі не расказы Паўла Кірылавіча пра князя Алега ці Ігара, а хто зараз будзе кіраваць нашым валасным Саветам —

начальнік пошты бальшавік Прахарэня, Кастравіцкі, Рабцэвіч з былога маёнтка Прусака ці Гарасім? Усе яны людзі добрыя, але стаць старшынёю, пэўна ж, можа адзін каторы. Дзядзька Гарасім чалавек хворы, ды і асвета ў яго невялікая, як і ў Рабцэвіча. Большая асвета ў Кастравіцкага. Але ж ён самы малады з іх. Застаецца Прахарэня.

Калі я ў чарговую нядзелю сустрэўся з Гарасімам, дык адразу ж задаў яму такое пытанне.

Гарасім адказаў пытаннем на пытанне:

— А каго б ты сам паставіў старшынёю валаснога Савета?

— Вас, дзядзька Гарасім,— шчыра адказаў я.

— Дзякую, браток, за ласку — але хопіць мне і сельскага Савета. Для мяне гэта ўжо не сакрэт, хто будзе на месцы Пятровіча.

— Дык раскрыйце, дзядзька Гарасім, свой сакрэт,— прасіўся я.

Гарасім ведаў, якую паслугу мы зрабілі ім на выбарах, і не стаў таіцца ад мяне.

— У аўторак,— сказаў ён,— збіраем пленум — гэта значыць, сход усіх новых дэпутатаў. Старшынёй ад партыі бальшавікоў мы выставім Прахарэню Рыгора Якаўлевіча. Падыдзе?

— Дзіва што! — з радасцю згадзіўся я.— І мы так думалі, калі не вас, то Прахарэню.

— Хто гэта — мы?

— Я і мае сябры.

— Правільна думалі,— сказаў Гарасім.— Прахарэня — чалавек мястэчковы, больш пісьменны, чым я, хоць таксама гімназій не канчаў. Доўга служыў у купца Залмана па лясной часці і плытніцтву. Ведае ў воласці кожнага чалавека. Ды і ва ўсім добра разбіраецца. Ён не падвядзе. Гэта не балбатун Пятровіч. Калі прыцісне́ш яго — выкручваецца як вуж. А як паслабіш лейцы,— пайшоў калясіць туды-сюды — і нашым, і вашым.

Сакратаром нашага сельскага Савета пасля мяне стаў Віця — сын цёткі Марылі. Раней ён вучыўся разам са мною, скончыў два аддзяленні, і яму брыдка было, калі маці прасіла мяне напісаць пісьмо свайму мужыку-салдату. Але Віця — хлопец упарты. Ён, калі не стала ў нас настаўніка, пачаў вучыцца сам і к гэтаму часу ўжо чытаў і пісаў не горш за мяне. Салдаты з Галынаўкі, хто застаўся жывы, вярочаліся дахаты. Але больш пісьменных за

Віцю сярод іх не было. Віцеў бацька, Піліп, таксама вярнуўся, толькі без левай рукі. І ўсе яны супакойваюць нас: пакуль, кажуць, вайна не скончыцца, не трацце надзеі. Можа, ваш дзе ў палоне. У аўгустоўскіх лясах ды ў мазурскіх балотах немцы тады ў першыя месяцы вайны шмат нашых і палажылі і паланілі. Абмен палоннымі, відаць, будзе зроблены пасля сталага міру, бо перамір'е — гэта яшчэ не мір.

Жыць у сяле стала спакайней.

— Сёлетняй восенню, дзякаваць богу,— радуецца маці,— казакоў не было. А тыя ж гады, бывала, наляталі як каршуны. Усё пад мятлу мялі. Гэта ж падумаць: апошнюю цялушачку ад дзяцей вырвалі, каб ім дактары апошнія зубы павырывалі.

Маці ўсё яшчэ бядуе па цялушцы Маньцы, якую летась сілаю адабралі ў нас царскія казакі. Так і засталіся мы пасля гэтага без надзеі мець калі-небудзь сваю карову і сваё малако.

— Дэраша ж мо не адбяруць, сынок? — заклапочана пытаецца яна ў мяне.

— Не павінны,— кажу.— Яго нам сама Савецкая ўлада дала. Вось толькі ці пракормім мы яго?

— Калі не адбяруць харчоў, што ты прывёз на яго з маёнтка, то, можа, як і выкідаецца...— разважае маці.— Але хто яго ведае, як яно будзе. Сёння ціха, а заўтра каб не было ліха. Калі ўжо таго міру дачакаемся? Тады б ужо ведалі — жывы бацька ці не?

З маткай заўсёды нялёгка гаварыць — вельмі шмат у яе клопату і бяды. Ды і здароўе слабае: усё за сэрца хапаецца.

На дварэ лягла ўжо сталая зіма. Мне вельмі хацелася зрабіць першы выезд на Дэрашу на санках. Але ж так ездзіць без дай прычыны няёмка. Я падгаварыў Юзіка паехаць па хворост для венікаў. Раней я разам з ім вязаў іх на продаж. Цяпер ён робіць гэта адзін. Шмат на веніках не ўтаргуеш, але любая капейка ў гаспадарцы спатрэбіцца. Бо хлеба свайго і сёлета надта і не нажалі, і не сабралі. А тое, што мне ўдалося зарабіць у пана Ясінскага, даўно распусцілі. Таму яшчэ невядома, ці ўдасца мне надоўга затрымацца ў вучылішчы, хоць маці і вельмі радавалася, што я вучуся.

Дарога да бярэзніку пры лесе была зараз добра працёрта — нашы ездзілі па ёй па галлё. Цяпер ужо не га-

няюць нас панскія стражнікі. Абы сіла была, то дроў колькі хочаш збірай. Я ўспомніў дзеда, якога забілі панскія леснікі за гэтае няшчаснае галлё. Проста не верыцца, што так усё змянілася.

У бярэзніку, куды мы прыехалі, я ўбачыў свайго добрага знаёмага — аднавокага Лаўрэна. Ён таксама рэзаў хвораст на венікі. Дзіва! Самы шчыры панскі служака не вартуе гэты бярэзнік, як раней, а сам робіць тут шкоду. І я зусім яго цяпер не баюся. Наадварот, мне хочацца нават пажартаваць з яго.

Я падышоў да Лаўрэна, прывітаўся.

— Як гэта вы,— кажу,— адважыліся рэзаць тут хвораст?

Лаўрэн разагнуўся, спалохана залыпаў на мяне адным сваім вокам.

— А што? Хіба Савет забараніў?

— Гэта ж панская сенажаць,— растлумачыў я яму.

Лаўрэн зусім збянтэжыўся:

— А што? Хіба пан вярнуўся?

— А хіба вы не чулі?

— Не...

Пажартаваўшы гэтак з Лаўрэна, я запытаўся ў яго:

— Помніце, як вы сарвалі ў мяне шапку?

Лаўрэн доўга ўглядаўся ў мяне.

— А чый жа ты? Я шмат у каго зрываў шапкі.

— Сцяпанаў. Помніце такога?

— Якога? Сцяпанаў многа.

— Таго, хто, едучы ў салдаты, злавіў вас каля панскага маёнтка ды добра такі, казалі, аддубасіў за маю шапку.

Лаўрэн паморшчыўся, відаць, не вельмі прыемныя гэта былі для яго ўспаміны.

— А цяпер не зрываеце шапак? — дапякаў я Лаўрэна.

— Дурны быў, дык і зрываў...— шчыра прызнаўся ён.— А што я — адзін такі быў?

Дзіва, як змяніўся аднавокі Лаўрэн, пажыўшы на волі, без пана Ясінскага!

Лаўрэн звязаў нарэзаны хвораст вяроўкаю, закінуў за плечы і пайшоў у сваю вёску. А мы з Юзікам смела, без аглядак, як бывала раней, ухапіліся за работу.

## КАМУ ВОРАГІ, А КАМУ І ГОСЦІ...

Перадышка на фронце цягнулася нядоўга. Не паспелі мы аглянуцца, як перамір'ю прыйшоў канец. У сярэдзіне лютага ўсе загаварылі пра новае наступленне немцаў. Трывога расла не толькі з кожным днём, а з кожнай гадзінай. Праўда, пра выезд у бежанцы цяпер не гаварылі так, як у пятнаццатым годзе. Хочаш едзь, хочаш — заставайся, ніхто нікога не прымушаў. Ні новы старшыня валаснога Савета Прахарэня, ні дзядзька Гарасім таксама не маглі нічога добрага параіць людзям.

Тым часам наступленне немцаў ішло так шпарка, што ні на якім бежанскім кані яго не перагнаў бы. Ад Гарасіма я даведаўся, што загадана вывезці з воласці ўсё самае каштоўнае, а што не ўдасца — спаліць або ўзарваць.

— А самі вы? — запытаўся я ў яго.— Вам жа няможна заставацца...

Я ведаў з газет і з расказаў тых, хто ўцякаў да нас з-за фронту, што нямецкія афіцэры — звяры звярамі нават да простых людзей. Гарасім жа не просты для іх. Яны загадаюць расстраляць яго першага. Мне шкада было добрага і да мяне, і да ўсіх нашых людзей дзядзьку Гарасіма. Я вельмі баяўся за яго.

На маё трывожнае пытанне Гарасім адказаў зусім спакойна:

— Я, брат, не сам рашаю такія справы. Як скажуць, так і буду рабіць. Хутчэй за ўсё мы пойдзем у падполле.

Слова «падполле» мне было знаёма. Але гэта рабіў — гэта значыць, ішоў у падполле — нехта недзе. А тут жа ў падполле збіраецца такі блізкі мне чалавек. Мяне гэта вельмі ўсхвалявала.

— Усё роўна дома вам жыць нельга, хоць і тайна,— сказаў я.— Яшчэ выдасць хто...

— А гэта мы ўжо вырашым у сваім камітэце, дзе каму жыць і што рабіць,— загадкава адказаў дзядзька Гарасім.— У нас так: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

Больш я ў яго пра падполле не пытаўся.

І вось настаў гэты страшны дзень. З захаду ўсё мацней і мацней грымелі гарматныя выбухі.

Мусіць, ужо да станцыі дайшла вайна,— гадалі мы, прыслухоўваючыся да гэтых выбухаў. Станцыя ад нас вёрст каля дваццаці.

У класы мы не пайшлі, хоць Павел Кірылавіч і спра-

баваў загнаць нас за парты. Сёння мы яго не слухалі. І не толькі мы — настаўнікі таксама сланяліся па двары, узрушаныя не менш, чым мы. Не да ўрокаў было і ім, і нам.

Апаўдні на заснежанай дарозе, што вяла ў мястэчка з таго боку, дзе грымела вайна, паказаліся нашы салдаты-чырвонагвардзейцы, у доўгіх шэрых шынялях і ў такіх жа шэрых шапках-кучомках з чырвонымі зорачкамі. Яны хутка прайшлі паўз наша вучылішча і зніклі за бліжэйшымі дамамі. Ні гармат, ні кулямётаў у іх мы не заўважылі. Адны вінтоўкі ў руках. І то не ва ўсіх.

Мяне ахапіла такая гаркота, што я не мог стрымліваць слёз. Горкія слёзы блішчалі і на вачах у маіх сяброў. Чырвонагвардзейцы панеслі з сабою нашу радасць і надзею на лепшую будучыню.

Праз хвілін дваццаць ваколіцу скалануў моцны выбух.

— Мусіць, мост узарвалі чырвонагвардзейцы за сабою,— сказаў я, успомніўшы гаворку з Гарасімам. З каштоўных пабудоў у нас яшчэ заставаліся млын і пільня. Але іх, відаць, рашылі не ўзрываць: яны ж больш патрэбны нашым людзям, чым немцам.

— А чаму чырвонагвардзейцы пакінулі мястэчка без бою? — пытаўся і ў нас, і ў сябе самога Азаркевіч. Такім сур'ёзным і засмучаным, як сёння, мы яго яшчэ не бачылі.

На яго пытанне ніхто не мог адказаць. Астравух, праўда, сказаў, што, мусіць, сілы ў іх мала ўтрымаць мястэчка.

Эх, далі б нам вінтоўкі! Так думаў не я адзін.

І раптам пачуліся трывожныя галасы:

— Глядзіце, глядзіце... немцы...

Сажняў за сто ад нас па дарозе, па якой нядаўна прайшлі нашы салдаты, рухалася калона немцаў. Вёў іх высокі афіцэр з сярэбранымі пагонамі на плячах і з аголенаю шашкаю ў руках. Дзень быў хмуры, але мы добра бачылі бліскучыя жалезныя каскі на галовах салдатаў, апранутых у цёмна-зялёныя шынялі. Спераду калоны некалькі салдатаў цягнулі за сабою кулямёты на колах. Замыкалі калону коні-ардэны, якія везлі вялікія гарматы на тоўстых цяжкіх лафетах. Гарматы моцна грукаталі па добра працёртай салдацкімі ботамі мёрзлай дарозе.

Пры ўваходзе ў мястэчка стаяў стары помнік польска-

му каралю Казімежу. Пабудаваў яго гадоў сто таму былы гаспадар мястэчка пан Завіша. Казалі, некалі наша мястэчка было каралеўскім. Потым адзін з польскіх каралёў — Казімеж — падарыў яго пану Завішу за нейкія нікому ўжо невядомыя заслугі гэтага пана перад каралеўскім дваром. Хто іх разбярэ, як яно там было. Каралі і паны гандлявалі тады не толькі асобнымі людзьмі, а і цэлымі валасцямі. Прахарэня ўсё збіраўся зняць гэтага старога надзьмутага Казімежа, а на яго месцы паставіць помнік каму-небудзь больш годнаму, чым гэты гандляр мястэчкамі. Ды не паспеў.

І вось зараз мы ўбачылі каля помніка групку людзей — не ваенных. Разгледзеліся і лёгка пазналі сярод іх Пятровіча з боханам хлеба ў руках на чыстым вышываным абрусе. А за яго шырокаю спінаю стаялі былы старшыня валасной управы пры ўрадзе Керанскага Ліпай, местачковыя божыя слугі поп, ксёндз і рабін, а таксама купец Залман і яшчэ некалькі невядомых мне чалавек. І што найбольш здзівіла нас — сярод гэтага гурту добра і цёпла апранутых людзей курчылася ад холаду ў сваім лёгкім палітончыку і наша настаўніца нямецкай мовы Лізавета Адамаўна.

— Што за кірмаш такі? — дзівіліся мы.

— Мусіць, выйшлі сустракаць гасцей з хлебам-соллю,— растлумачыў нам начытаны Астравух.— Так часта бывае.

— Якія ж гэта госці?

— Ну, каму ворагі, а каму і госці.

— А Лізавета Адамаўна? Яна чаго там?

— Мусіць, перакладаць будзе,— зноў даў сваё грунтоўнае тлумачэнне Астравух.

Пакуль мы так дзівіліся, калона падышла да помніка. Тут афіцэр узняў шашку над галавою і даў каманду спыніцца. Потым падышоў да Пятровіча, які сагнуўся перад ім, і прыняў хлеб-соль. Пятровіч нешта загаварыў, а Лізавета Адамаўна, выйшаўшы наперад, паўтарыла яго словы па-нямецку. Уся Пятровічава кампанія стаяла на каленях, без шапак. Пятровіч яшчэ загадзя зняў з галавы сваю дарагую каракулевую шапку.

Скончыўшы гаварыць, Пятровіч ліслівa глянуў на высокага пана афіцэра — спадабалася яму яго прамова ці не?

Афіцэр нешта сказаў — Лізавета Адамаўна паўтарыла:

— Устаньце!

Пятровіч у момант разагнуўся, следам за ім усхапіліся і астатнія.

Афіцэр зноў нешта загаварыў. Лізавета Адамаўна перaклала:

— Нямецкае камандаванне цэніць вашу глыбокую адданасць кайзеру Германскай імперыі Вільгельму Другому і спадзяецца на вас, як на сваіх памочнікаў у вайне з бальшавіцкай Расіяй. А цяпер — з богам! За работу!

Пятровічава кампанія адскочыла ўбок, і афіцэр павёў сваю калону далей.

Вось табе і Пятровіч! А бажыўся ж, што ён — шчыры сябар народа, дабра яму жадае. Ніводзін сапраўдны сябар народа не выйшаў вітаць хлебам-соллю сваіх заклятых ворагаў — кайзераўскіх захопнікаў. З Пятровіча ж як з гуся вада: служыў Керанскаму, потым Савецкай уладзе, а цяпер сагнуўся ў крук перад немцамі. Ніякага сумлення ў чалавека.

Панурыя, заклапочаныя, варочаліся мы ў свае класы. Што цяпер будзе? Мы нават не думалі, што будзе з нашым вучылішчам. Большая трывога прыгнятала нас — трывога за ўсіх сумленных людзей, за іх будучыню.

## НЯМЕЦКІ ПАРАДАК

На другі дзень пасля адыходу чырвонагвардзейцаў у мястэчка прыехаў нямецкі камендант Ганс Герштадь — аблыселы камлюкаваты лейтэнант у чорных акулярах. З ім прыехалі і яго памочнікі — цэлы ўзвод салдатаў, калі не болей. Яны занялі будынак валасной міліцыі і бліжэйшыя да яго дамы. Жыхароў з іх выгналі. Ідзі куды хочаш. Дазволілі забраць з сабою толькі вопратку. Пасцелі і посуд пакінулі для сваіх патрэб. Нікога са скаргамі да каменданта не пусцілі. Нават рабіна, які толькі што разам з Пятровічам вітаў «гасцей» хлебам-соллю. Пятровіч адразу ж абвясціў сябе старшынёю валаснай управы. Але на такое самаўпраўства камендант не звярнуў ніякай увагі.

Не паспеў Герштадь асвойтацца на новым месцы, як пасярод рыначнай плошчы ўжо стаяла дзябёлая шыбеніца з сырых хваёвых бярвенняў. На ёй пакуль што яшчэ нікога не павесілі. Але, пазіраючы на яе, у людзей сціскаліся сэрцы: не для мэблі ж яна тут пастаўлена...

Потым камендант вывесіў адразу аж тры загады. У першым гаварылася, што ўсе жыхары мястэчка, вёсак, пасёлкаў і засценкаў павінны ў трохдзённы тэрмін здаць, у каго ёсць, зброю — як агнястрэльную, так і халодную. За няздачу — расстрэл або пятля на новай шыбеніцы.

Другі загад патрабаваў, каб усе салдаты, дэмабілізаваныя з царскай арміі, з'явіліся ў камендатуру. Тэрмін — тры дні. За няяўку — расстрэл або тая ж пятля.

У трэцім загадзе не было «расстрэлу». Але ён таксама быў не лепшы за папярэднія два. У ім прапанавалася здаць усю маёмасць, рэквізаваную пры бальшавіках у панскіх маёнтках, ранейшым гаспадарам, а калі іх няма — панскім аканомам. За высечаны без дазволу паноў і іх аканомаў лес заплаціць законным гаспадарам па шэсць рублёў за кубічную сажань. За няздачу панскага дабра або нявыплату за панскі лес — астрог з канфіскацыяй усёй маёмасці. Тэрмін — таксама тры дні...

Дык вось для чаго высілася на рыначнай плошчы шыбеніца!

Загады гэтыя былі наклеены і на помніку каралю Казімежу, і мы бегалі чытаць іх.

Першыя два загады нашу сям'ю не закраналі, а трэці... Ад яго мне стала млосна. Ён адбіраў у нас Дэраша... Вочы мае затуманіліся. «Сёння пятніца,— падумаў я.— Значыць, у панядзелак мы развітаемся з Дэрашам». А мы ж так прывыклі да яго. І ён да нас.

Заняткі ў вучылішчы не спыняліся. Настаўнікі давалі нам новыя заданні, ставілі адзнакі, нібы нічога на свеце і не здарылася. Ніводзін з іх ні слова не прараніў на сваім уроку пра шыбеніцу на рыначнай плошчы і тры страшныя загады, наклееныя побач на помніку каралю Казімежу. Ніхто не сказаў, што няма ўжо Саветаў ні ў мястэчку, ні за мястэчкам, што кіруе воласцю нямецкі камендант з дапамогаю эсэра Пятровіча і што замест міліцыі стала паліцыя, куды зараз былы старшыня воласці Ліпай набірае ахвотнікаў служыць нямецкаму кайзеру і яго намесніку ў нас, Гансу Гершталю...

Цяжка нам было сядзець на ўроку нямецкай мовы і глядзець у сумныя вочы Лізавеце Адамаўне, якая разам з Пятровічавай кампаніяй выходзіла сустракаць няпрошаных гасцей. Цяпер, казалі, у каменданта быў свой перакладчык — з унтэраў, і наша настаўніца ім больш не патрэбна.

Я ледзьве дачакаўся канца суботніх урокаў. Маці там недзе пэўна залівaецца слязьмі: загады ж гэтыя, мусіць, ведаюць ужо і ў Галынаўцы. Я нічым не мог яе суцешыць, але мне хацелася хутчэй быць дома, у сям'і. Разам лягчэй бяду бедаваць.

Убачыўшы мяне, маці адразу ж кінулася ў слёзы:

— А сыночак, што ж гэта будзе?

Мне і самому хацелася расплакацца, ды я ж мужчына. Сорамна. Я набіраюся духу і адказваю знаёмаю прыказкай:

— Што будзе ўсім, тое і нам. Не плач дарэмна, мама. Слязьмі Дэраша не вернеш.

Услед за маткаю зарумзала і Ядзя. Яна вырасла за апошнія гады, але хадзіла толькі ў першае аддзяленне сваёй школы. Праўда, цяпер наша школа зноў пустуе. Як пачалося нямецкае наступленне, новы наш настаўнік Карней Сцяпанавіч сабраў ахвотнікаў з былых салдатаў старой арміі і павёў у воласць да ваеннага камісара. Назад яны ўжо не вярнуліся. Так другі раз за вайну наша школа засталася без настаўніка. Зноў хіба давядзецца замяняць яго каму з малалеткаў.

Бяда прыйшла не да нас адных. Зброі, праўда, у Галынаўцы не было. Можа, хіба хто тайком трымаў. А вось рознай маёмасці панскай крыху перапала і нашай беднаце. Асабліва лесу. Гарасім яго не шкадаваў, бо бачыў, што шмат у каго хаты даўно пагнілі. А гумны, хлявы? За панам лесу было не дакупіцца. Пан прадаваў яго толькі купцам па самай высокай цане, а тыя да вайны сплаўлялі яго па Нёману ў Нямеччыну — таксама за высокую цану.

Захваляваліся і былыя салдаты, што не пайшлі з настаўнікам у ваенкамат. Што цяпер рабіць ім? А калі камендант кліча ў пятлю? Або пагоніць у сваю Нямеччыну на катаргу. Пра нямецкую катаргу мы не раз чулі. Ды ўсё не верылі, што так можа быць. Палонныя — іншая рэч. Ды і для іх, кажуць, ёсць нейкі міжнародны закон. Закон гэты забараняе мучыць палоннага на катаржнай рабоце, карміць горш сабакі,— ён і ў палоне мусіць заставацца чалавекам, а не жывёлай.

Неўзабаве да нас зайшла цётка Надзя — Гарасімава жонка. Прыпынілася ў парозе, прывіталася. Маці запрасіла яе сесці на лаве каля стала. Як яна, небарака, змянілася. Пастарэла, асунулася. Мне карцела запытацца,

што з дзядзькам Гарасімам, дзе ён? Ды не адважыўся: можа, ёй і казаць няможна, дзе ён і што з ім.

— Што там, Петрусёк, у мястэчку чуваць? — загаварыла яна да мяне.— Ці надоўга гэтая бяда?

Не паспеў я надумацца, што адказаць цётцы Надзі, як зайшла цётка Марыля. І яе таксама цікавіць, ці надоўга бяда нас напаткала. За маткай зайшоў і Віця. Ён вучыўся ў чацвёртым аддзяленні (трэцяе скончыў самавукам). Збіраўся ўвосень паступіць да нас у вучылішча. І ўсё гэта рухнула.

За імі заглянуў стары Пракоп, недалёкі сусед. Сын яго пайшоў з настаўнікам у ваенкамат, і ён вельмі рады гэтаму. Але сын пакінуў сцірту бярвенняў на новую хату. Дзе цяпер узяць гэтулькі грошай, каб заплаціць за іх пану Прусаку? У старога Пракопа няма і шасці капеек, не тое што рублёў.

— І адкуль гэтыя нелюдзі на нашу галаву? — шчыра злуецца ён.— Што, мы кралі тыя бярвенні? Нам жа дала іх законная Савецкая ўлада. Якая справа немцам да нашых людзей і нашых парадкаў. Хто іх клікаў сюды? Мы ж не лезем у іх Нямеччыну.

Дзед кажа праўду. Ды хто яе будзе слухаць, апрача нас.

Набедаваўшыся, суседзі разышліся. Я запытаўся ў маткі пра Гарасіма.

— Не ведаю, сынок, дзе ён. Надзя кажа — некуды з'ехаў. Можа, вернецца, як аспакайнее.

Ну, што яго няма дома — ужо добра. Пакуль каго, а яго і Прахарэню з Кастравіцкім камендант Гершталь, відаць, першых павесіў бы на сваёй новай шыбеніцы. Ды не толькі яны — шмат хто пакінуў свае хаты перад прыходам немцаў.

— Калі ж мы, сынок, павядом Дэраша? — пытаецца маці.— А мо яны толькі страшаць? Мусіць жа, і сена забяруць...

— Навошта нам тое сена, калі не будзе каго ім карміць.

— А калі б дзе схавацца на гэты час? — далучаецца да нашай гаворкі Юзік.

— Зімою з канём не схаваешся,— кажу я.— Гэта табе не ўлетку. Ды ўсё роўна ўсе мы схавацца не можам. А камендант жа пагражае астрогам...

— Пачакаем, дзеткі,— уздыхае маці,— да панядзелка. Можа, яшчэ што зменіцца.

Ах, каб жа яно змянілася! Каб вярнулася тое, што было яшчэ які тыдзень назад.

## МЫ НЕ МОЖАМ МАЎЧАЦЬ

У панядзелак Юзік павёў у маёнтак Дэраша, а я пайшоў у вучылішча. Нічога, на жаль, не змянілася, як мы таго хацелі.

Яшчэ да заняткаў нехта пусціў чутку, што на помніку Казімежу вісяць новыя загады. І на першым жа перапынку я са сваімі сябрамі па інтэрнаце пабег да помніка.

Там і праўда віселі два новыя загады: адзін, верхні, пісаны ад рукі, а другі, пад ім,— друкаваны.

У першым камендант з нямецкай дакладнасцю вызначаў падаткі за жывую і нежывую маёмасць сельскіх і местачковых жыхароў.

1. За каня і карову — па 15 рублёў. Апрача гэтага, здаваць ад кожнай каровы па 2 фунты масла кожны месяц.

2. За сабаку і кошку — па 3 рублі.

3. Воўну ад астрыжаных авечак здаваць у камендатуру поўнасцю.

4. Ад кожнай курыцы — па 10 яек на месяц.

5. За дзесяціну зямлі — 9 рублёў.

6. За лоўлю рыбы ў рэках вудамі — 12 рублёў 50 капеек, невадамі — 25 рублёў.

— Здаецца, нічога не забыў гэты крывасмок! — зашумелі хлопцы, чытаючы камендантаву пісаніну.— Нават кошкі не абмінуў.

— А ў каго кот, а не кошка? Або сучка, а не сабака? — жартаваў Азаркевіч.— Што тады — плаціць ці не плаціць?

— Мусіць, лепш плаціць,— сказаў Паўлюк Драздовіч,— бо Гершталь жа не будзе пад хвост углядацца. А пад загадам вунь што прыпісана: штраф або турма да года...

— А здохне яна няхай, гэтая кошка, разам з Герштапем, каб за яе ды ў турму садзіцца! — плюнуў Азаркевіч, аглядаючыся, ці не чуе яго хто лішні.

Але лішніх сярод нас не было, і мы сёе-тое апрача

здыхаты пажадалі і яшчэ каменданту Герштадю, які прычапіўся нават да катоў і кошак.

І тут жа раптам усе мы прыціхлі, прачытаўшы першыя радкі другога друкаванага загаду. Не, гэта не Герштадева сабачая пісаніна! Тут нешта вельмі і вельмі важнае. «Таварышы сяляне! — пачыналася гэтае важнае пісьмо.— Нямецкія драпежнікі вядуць сваю белую гвардыю (графаў, князёў, дваран, паноў, купцоў, банкіраў і іншых крывапіўцаў) на вольную Расію, каб адабраць у вас зямлю, волю, братэрства і роўнасць, а потым трымаць расійскі народ у цемры, парабкамі ў гэтай белай гвардыі і вярнуць назад усе землі і лясы панам і дваранам...»

Мне аж горача стала ад гэтых першых радкоў. Я расшпіліў свой кажушок, хоць на дварэ было холадна, круціла завіруха. Хто ж бы гэта прыклеіў сюды нашу бальшавіцкую лістоўку?

Азіраючыся сяды-тады, ці няма дзе блізка немцаў або паліцэйскіх, мы не чыталі, а, стаіўшы дух, глыталі наступныя радкі:

«Таварышы мужыкі! Падымемся, як адзін, на барацьбу за святую волю і зямлю не толькі супраць нямецкай белай гвардыі, але і супраць тых, хто будзе немцам памагаць, а ім памагаюць вясковыя кулакі, паны, дваране, банкіры і, адным словам, тыя людзі, якім пры крывапіўцу Мікалаю Раманаву і пры буржуазных урадах Мілюкова і Керанскага добра жылося.

Таварышы сяляне! Узбройвайцеся, хто чым можа, і дайце бой усім, хто хоча ў вас адабраць волю і зямлю, купленую такою дарагою цаною — вашай крывёю і потам...»

— Гэтую лістоўку трэба перапісаць зараз жа,— сказаў я хлопцам.— А то яе сарвуць...

— Але ж урок скора...

— Карандаш і папера ёсць у каго? — запытаўся я.— Я застануся і перапішу.

Усе прамаўчалі, пагладаючы адзін на аднаго. Вядома, мы ж выбеглі сюды з класа толькі пацікавіцца новымі камендантавымі загадамі. Шкада, вельмі шкада, што вось-вось могуць знікнуць такія патрэбныя не толькі нам, а і ўсім добрым людзям праўдзівыя словы гэтай лістоўкі. Ніхто лепш, чым яна, не скажа, што нясуць з сабою на нашу зямлю нямецкія крывапіўцы, якая доля чакае нас.

Пачуўся школьны званок.

— Давай сарвём! — замітусіўся Азаркевіч.— А там відаць будзе.

— Рві! — падтрымалі яго іншыя.

Азаркевіч паспрабаваў ірваць — лістоўка не падда-лася: прыклеена была моцна.

Мы вымушаны былі пакінуць яе і вярнуцца ў клас. Там разам з Лізаветай Адамаўнай вывучалі вершык:

Іх лібэ дзі шуле,
Іх лібэ дас шпіль,
Іх лібэ дзі бухер,
Іх лібэ гар філь.

Вершык мне падабаўся, ён азначаў у перакладзе: я люблю школу, я люблю гульню, я люблю кнігу, я гэта люблю вельмі.

Але я не мог думаць пра гэты лёгкі песенны вершык: бальшавіцкая лістоўка на помніку каралю Казімежу — вось што займала ўсе мае думкі. Яе могуць сарваць кожную хвіліну, калі не самі немцы, дык тыя, хто ім спачувае. Як жа яе выратаваць? Нямецкіх прыслужнікаў сярод нас не было. Нават настаўнікі хадзілі моцна засмучаныя. Казалі, што немцы не збіраюцца плаціць ім за службу. З чаго ж тады жыць? Давядзецца кідаць вучылішча ды шукаць іншую работу, калі Гершталь не пагоніць іх у сваю Нямеччыну капаць вугаль або чысціць свінарнікі ў багатых баронаў.

Прамучыўшыся хвілін колькі, я падняў руку.

— Дазвольце, Лізавета Адамаўна, выйсці...

Пры гэтым я сагнуўся і скрывіўся, хапаючыся за жывот.

Настаўніца зразумела маю просьбу і сказала па-нямецку:

— Гут. Гэт аус [1].

Я куляй выскачыў з класа, забег у інтэрнат, схапіў сшытак і каранлаш. Адтуль кінуўся ў бок прыбіральні, якая была зусім блізка ад помніка. А там ужо, як кажуць, рукой падаць.

Каля помніка нікога ў такое надвор'е не было. І жаданая, моцна прыклееная лістоўка ўсё яшчэ вісела. Я прыклаў сшытак да мармуровага пастамента і спехам

[1] Добра. Ідзі (*ням.*).

зачыркаў карандашом. Словы пісаў скарочана, каб толькі разабраць потым самому. Рукі калаціліся ад хвалявання, ды я ўсё ж дапісаў да канца.

Калі я вярнуўся ў клас, настаўніца спыталася:

— Табе дрэнна? Баліць жывот?

— Але,— зноў сагнуўся я.

— То ідзі ў інтэрнат, паляжы. Пасля ўрока я прынясу табе лекі.

— Дзякуй, Лізавета Адамаўна...

У інтэрнаце я апынуўся адзін. Перачытаў спісанае, усё зразумеў — скарачэнні не пашкодзілі.

Што ж цяпер рабіць з гэтай дарагой паперкаю? Мне хацелася адразу ж перапісаць яе начыста. Але вось-вось празвініць званок, і да мяне можа зайсці Лізавета Адамаўна...

І раптам мне прыйшла ў галаву думка — ці не занадта рызыкоўна перапісваць такую лістоўку ад рукі? Немцы ж ці паліцэйскія могуць потым па почырку знайсці, хто пісаў. А яе трэба перапісваць, і чым больш, тым лепш.

Неўзабаве зайшла Лізавета Адамаўна з нейкай пляшачкай у руках.

— Ну, як жывот? Усё яшчэ баліць?

Я сказаў, што ўжо сціх, толькі трошкі пакалвае.

— Добра. Аднак прачысціць не шкодзіць,— сказала яна.— Лыжка ёсць?

— Ёсць.

Я падаў ёй лыжку. Лізавета Адамаўна адкаркавала пляшачку і наліла з яе поўную лыжку сваіх лекаў.

— Выпі, і ўсё будзе добра,— паднесла яна лыжку да маіх губ.

«Ды гэта ж рыцына!» — здагадаўся я. Вось дык уліп! Я страшэнна не любіў рыцыны. Але адмаўляцца ўжо нельга было. Так можна выкрыць сябе і сапсаваць усю справу. Я скрывіўся як мог, сціснуў нос пальцамі і коўтнуў усю лыжку адным глытам.

— Вось і малайчына,— пахваліла мяне Лізавета Адамаўна.— Паляжы яшчэ. Я скажу Паўлу Кірылавічу, што ты захварэў.

«Цяпер-то ўжо захварэю...» — ледзь не сказаў я.

Настаўніца выйшла, а траха не ўслед за ёю куляй выскачыў і я...

Пасля заняткаў мы зноў пабеглі да помніка. Лістоўкі

па ім ужо не было: нехта чыста саскроб яе. Мазоліў вочы адзін толькі камендантаў загад.

Ці трэба казаць, як шкадавалі мае сябры гэтую лістоўку. Шкадаваў разам з імі і я, хоць мне і вельмі хацелася выняць з кішэні дарагі нам лісток і сказаць: «Вось ён, чытайце!» Але каля помніка былі мы не адны — тут сабраліся і тыя, каму я пакуль што не адважваўся прызнацца ў сваёй таямніцы.

Калі мы варочаліся ў інтэрнат, я адклікаў убок Лёню Астравуха і паказаў яму чыста перапісаны лісток — я паспеў гэта зрабіць да канца ўрокаў, хоць настаўнічыны лекі і адрывалі мяне часта ад работы...

Прачытаўшы першыя ўжо вядомыя яму словы, Астравух утаропіўся на мяне, як на чарадзея: як, якім чынам я гэта зрабіў?

— І ўвесь тэкст у цябе?

— Ага,— матнуў я галавою.— Усё перапісаў. Да апошняга слова!

— Гэта, калі цябе раптам жывот схапіў? — здагадаўся Астравух.

— А што было рабіць?

— Я не дадумаўся б. Ды і рызыкоўна. Ніхто не бачыў?

— Здаецца, ніхто. А ўрэшце, можа, я камендантаў загад пра сабак і кошак спісваю? Спадабаўся ён мне — вось і перапісваю на памяць. Каму якая справа? Важна было з урока выскачыць.

Астравух радаваўся маёй удачы не менш, чым я сам. Відаць, думаў я, гэтаму будуць рады і ўсе мае сябры з інтэрната. Жаковіча, праўда, мы ўсе яшчэ асцерагаліся, хоць ён хлопец зусім бяскрыўдны. З яго бацькам мы ўжо даўно пазнаёміліся. Ён такі ж, як яго сын,— маўклівы, ацеслівы нейкі. І не такі ўжо багаты, як распісаў яго Драздовіч. Вядома, калі параўнаць з бацькам Драздовіча, то ён вунь які багацей — у яго ў пяць разоў больш зямлі: не адна дзесяціна, а цэлых пяць! Але ж такіх багацеяў у нас нямала.

Разам з Астравухам мы пахваліліся маёй удачай Азаркевічу і Драздовічу. Яны таксама ахалі і дзівіліся, як я здагадаўся вырвацца з урока.

— Цяпер мы можам перапісаць і расклеіць гэты лісток, дзе захочам,— сказаў я.— Але ці можна рабіць гэта сваім почыркам?

— А навошта сваім? — сказаў Азаркевіч.

— А чым?

— Нічыім.

— Як?

— Пісаць друкаванымі літарамі. І ніякі чорт не пазнае.

І праўда: хіба нам цяжка перапісаць невялікую лістоўку друкаванымі літарамі. Даўжэй толькі, чым звычайнымі. Затое чытаць лягчэй. Тады яе і малапісьменныя разбяруць. А хто прачытае — іншым, непісьменным, перакажа. Вопыт, хоць і невялікі, у нас ёсць з бальшавіцкім спісам пры перавыбарах валаснога Савета. Але як уцягнуць у гэтую работу найбольш вучняў? Тады мы хаваліся толькі ад Паўла Кірылавіча і Мар'і Васільеўны. Цяпер жа справа не такая простая. Тут павінна быць поўная і строгая таямніца.

Мы доўга ламалі галовы над гэтым. Нарэшце прыдумалі напісаць некалькі лісткоў (вядома, таксама друкаванымі літарамі) ды падкінуць сяму-таму ў парту. А каб тыя ведалі, што рабіць далей, дадавалі прыпіскі: «Прачытай сам і дай сваім блізкім сябрам. Перапішыце, колькі зможаце, такіх лістовак і расклейце ў сваіх вёсках».

Пасля гэтага засталося яшчэ адно нявырашанае пытанне: дзе пісаць? У сваім пакоі? Але ж тут Жаковіч. Азаркевіч быў за тое, каб паказаць лістоўку і яму. Драздовіч усё яшчэ не згаджаўся. Не ляжыць у яго душа да свайго блізкага суседа.

— Ну што ж,— сказаў я.— Давайце зоймемся гэтым дома. За суботні вечар і за нядзелю, калі пастарацца, можна напісаць па чатыры-пяць лістовак. У наступную нядзелю, будзем спадзявацца, іх напішуць іншыя ўжо ў дзесяць разоў больш.

— А там,— падхапіў маю думку Астравух,— можа, знойдуцца перапісчыкі і ў вёсках, куды трапяць нашы лісткі.

Мы так захапіліся гэтай марай, што з нецярплівасцю чакалі суботы. Я нават схапіў другую тройку ў Паўла Кірылавіча. Першую я ўжо даўно выправіў на чацвёрку. Павел Кірылавіч нездаволена паморшчыўся:

— Глядзі, Валовіч, каб больш гэтага не было! Дарэчы, як у цябе з іншымі прадметамі?

— Троек няма, Павел Кірылавіч.

— А што ёсць — двойкі?

— І двоек няма.

Гэта была такая спакойная размова, нібыта на свеце нічога і не здарылася. Як ён можа думаць пра двойкі ці тройкі або пра татарскае нашэсце, калі такое ж, а можа, яшчэ горшае, нашэсце перажываем мы зараз, у 1918 годзе!

Дзіўны нейкі наш дырэктар. Сапраўды, хто ён? Сябар ці вораг? Гэтага мы ўсё яшчэ не ведаем. Мар'ю Васільеўну мы не любім, толькі церпім, бо яна жонка дырэктара. А Павел Кірылавіч — ні тое ні сёе. Ні свой, ні чужы. З Лізаветай Адамаўнай мы разабраліся лёгка: яна памагае старшыні валаснога праўлення Пятровічу і начальніку паліцыі Ліпаю як перакладчыца. Яе просяць або прымушаюць, і яна гэта робіць. А так яна ўсё ж добрая.

Добры да нас настаўнік фізікі і матэматыкі Валерыян Іванавіч. Вечарамі ён часта заходзіць у інтэрнат са сваёю падзорнаю трубою. Паказвае нам планеты і зоркі. Расказвае пра навуку астраномію, якую ён, здаецца, больш любіць, чым свае школьныя прадметы. Ад яго мы даведаліся, што не бог стварыў зямлю за шэсць дзён. Свет, які мы бачым, ствараўся сам па сабе, па сваіх законах, і не шэсць ці сем тысяч гадоў таму назад было гэтае дзіва, як кажуць папы, а мільёны і мільярды гадоў. Гаворачы пра гэта, Валерыян Іванавіч сцішаў голас і дадаваў, ківаючы пальцам: «Вы толькі бацюшку Феафану не гаварыце, а то ён загрызе мяне...»

Валерыян Іванавіч, як нам здавалася, жыў толькі адной сваёй навукаю. Мы не ведалі, што ён думае пра немцаў і пра белых генералаў, якія з усіх бакоў накінуліся на савецкую краіну. Пра іх поспехі на франтах з ахвотаю расказваюць мінскія газеты — нямецкія і белагвардзейскія, якія сяды-тады траплялі да нас.

А мы не маглі пра ўсё гэта не думаць. Не маглі маўчаць. Хто больш, а хто менш — усе думалі. Быў у нашым класе вучань-местачковец Валодзя Ячэня. Да вучылішча ён служыў памочнікам у валаснога пісара Кручка — п'яніцы і хабарніка, таго, што хацеў у пачатку вайны садраць з майго дзеда пяць рублёў за наравістага Дэраша, каб не мабілізавалі яго ў армію. Дык гэты Ячэня лепш, чым хто, ведаў, што робіцца і ў воласці і за воласцю. Цікаўны да ўсяго, ён прагна слухаў расказы старых людзей, што заўсёды збіраліся ў валаснога ўправе. Адзін скажа адно, другі — другое. А Ячэня ўсё запамінае. Вось і цяпер

траха не кожны дзень ён прыносіць нам якую-небудзь навіну. Аднойчы цішком расказаў, што не ўсе бальшавікі выехалі з воласці. «А дзе ж яны? — дапытваліся мы.— Іх жа немцы як бачыш схопяць...» Ячэня хітра ўсміхаўся: «Думаеце, яны жывуць дома і чакаюць, каб іх схапілі немцы?» А сёння вось гэтая лістоўка... Не Пятровіч жа з Ліпаём расклеілі яе. Потым нехта ж недзе яе надрукаваў... Значыць, Ячэня праўду кажа, што не ўсе бальшавікі пакінулі воласць. Але адкуль ён пра гэта ведае?

Пасля чарговай нядзелі Ячэня прынёс яшчэ навіну: траха не ва ўсіх вёсках з'явіліся бальшавіцкія лістоўкі, такія ж, як была на помніку Казімежу. Толькі не друкаваныя, а пісаныя ад рукі тайнымі почыркамі. Гершталь шалее ад злосці, разагнаў усіх сваіх салдатаў і паліцыю шукаць ворагаў германскай імперыі. Тыя хапаюць каго ні папала і заганяюць у астрог...

## ЦАНА АПЛЯВУХІ ДЗЕДА ПРАКОПА

Арышты ў вёсках, дзе мы расклейвалі і развешвалі свае лістоўкі, не спыняліся. Хапалі і добра пісьменных і малапісьменных. Ніякія адгаворкі арыштаваных пад увагу не браліся. Калі нельга было даказаць, што ты перапісваў лістоўкі, дык нельга было і апраўдацца: почырк жа ў перапісчыкаў друкаванымі літарамі быў адзін і той жа. Рабілі мы гэта з добрымі намерамі: каб Гершталь не знайшоў нас па почырках.

Хто мог падумаць, што для яго гэта стане прычэпкай да ўсіх пісьменных.

Мы, завадатары гэтай справы, перажывалі страшэнна. Чаго толькі не прыдумвалі, каб вызваліць бязвінных людзей! І падкапацца пад турму з тыльнага боку... І падпаіць самагонкаю варту — вартуюць жа там не самі немцы, а хлопцы з паліцыі Ліпая. А яны такія аматары да самагонкі, што бацьку роднага за яе прададуць. Але, папершае, дзе ўзяць самагонку, а па-другое, як да іх дастуніцца. Была ў нас і такая думка, каб украсці самога Ліпая ды запатрабаваць абмену на арыштаваных.

Але ўсе нашы планы не мелі пад сабою ніякага грунту і заставаліся толькі пустымі марамі.

Нарэшце настаў самы страшны дзень: камендант расклеіў па мястэчку свой чарговы загад, у якім гаварылася,

што пяць чалавек з арыштаваных перапісчыкаў бальшавіцкай лістоўкі будуць павешаны, а іншыя высланы ў Германію на шахты. Кара адбудзецца ў нядзелю, у кірмашовы дзень.

Я адчуваў самую большую віну: з мяне ж усё пачалося... Каб не пабег тады да помніка каралю Казімежу перапісваць гэтую лістоўку, нічога б не было.

Што ж рабіць? Пайсці сказаць, што гэта я адзін усё зрабіў — не павераць. Выдаць сваіх сяброў? Можа, нас і не павесяць як малалеткаў, а толькі загоняць куды-небудзь у Нямеччыну... Таксама радасці мала і нам, і нашым бацькам. Ды і ведаў я толькі трох перапісчыкаў з свайго пакоя. Іншыя мне былі невядомы. Адным словам, куды ні кінь, дык клін.

Ішоў час, а я так і не мог прыдумаць нічога пэўнага. У суботу дадому я не пайшоў, хоць харчы мае і скончыліся. Як я мог сядзець дома, калі ў гэты час людзі будуць расставацца з жыццём!

Усю ноч я варочаўся з боку на бок. Галава трашчала і ад страшных думак, і ад болю. Трывожна спалі і мае сябры. Астравух часта выкрыкваў нейкія невыразныя словы, Драздовіч стагнаў, а Азаркевіч моцна лаяўся...

І я цвёрда надумаўся: пайду і скажу, што я адзін усё гэта зрабіў. Ніякіх памочнікаў у мяне не было. А можа, і павераць. Няхай што будзе!

Мне адразу неяк стала лягчэй. Я нават пачаў ужо драмаць, як раптам пачуў стрэлы за акном. Стралялі недзе недалёка.

Я пабудзіў хлопцаў. Мы спехам апрануліся і выбеглі на двор.

Тут ужо збіраліся настаўнікі, што жылі пры вучылішчы, і інтэрнатчыкі.

— Можа, нашы вярнуліся? — пачуў я голас Лізаветы Адамаўны.

Гаварыла яна гэта з нейкай, як мне здалося, радаснай надзеяй.

— Нашы далёка,— адказаў ёй Валерыян Іванавіч.— Можа, хіба разведка якая...

— Кіньце глупства гаварыць!..— супакоіў іх Павел Кірылавіч.— Не наша гэта справа...

Настаўнікі прыціхлі.

Страляніна спынілася, але на тым месцы, дзе яна адбывалася, успыхнула яркае полымя.

— Глядзіце, глядзіце! — загаманілі вакол.— Што гэта гарыць? Ці не валасная ўправа?

Мы хацелі бегчы на пажар. Але Павел Кірылавіч строга закрычаў:

— Не смець нікуды адлучацца!

І сілаю пагнаў нас назад у інтэрнат.

А раніцай мы даведаліся, што згарэла не валасная ўправа, а турма. На яе напалі нейкія ўзброеныя людзі, выпусцілі арыштаваных і зніклі разам з імі невядома куды. Напалоханы Гершталь уцёк са сваёю аховаю з камендатуры. Некалькі стрэлаў зрабілі толькі турэмныя вартаўнікі. Тушыць турму ніхто не прыбег, і яна згарэла да самага падмурка.

Хто ж яны, гэтыя смелыя налётчыкі? (Толькі ў панядзелак я даведаўся ад Валодзі Ячэні, што завуць іх паўстанцамі або партызанамі. І адкуль ён усё ведае, гэты Ячэня?) Але хто б яны ні былі, для мяне было ясна адно: можна спакойна ісці дахаты па харчы!

Як лёгка неслі мяне ногі! Бяды ўсюды хоць адбаўляй. Але самая страшная сённяшняя бяда мінула.

Пачыналася вясна. Снег ужо сышоў, дарога падчарсцвела. З-за лесу, з лёгкіх светлых хмарак, выглянула сонца. «Кажушок пара ўжо скідаць,— падумаў я.— Трэба будзе падлатаць сваю старую світку».

Недалёка ад Галынаўкі я сустрэў дзеда Пракопа. Яго везлі на яго ж кані, запрэжаным у павозку, два нямецкія салдаты. Твар дзедаў быў скрываўлены. Ён цяжка дыхаў.

«Хто ж яго знявечыў? — падумаў я.— І чаму вязуць яго ў бальніцу немцы, а не хто з суседзяў?»

Я запытаўся:

— Дзед Пракоп, што з вамі?

Адзін з салдатаў выставіў на мяне вінтоўку:

— Цурык!

Устрывожаны ўбачаным, я пайшоў далей. Значыць, не хто, а яны, немцы, скрывавілі дзеда Пракопа і, відаць, не ў бальніцу вязуць яго... Што ж благога мог зрабіць ён гэтым недавяркам? Чаго яны прычапіліся да старога чалавека? Ён жа непісьменны і не мог перапісваць лістовак. Я ўспомніў, што дзед гаварыў пра бярвенні з панскага лесу. Няўжо за іх?

Пан Ясінскі даўно ўжо вярнуўся ў свой маёнтак і завёў там такія парадкі, якіх раней і за царом не было. Хто

і адкуль яго выпусціў? Гарасім праўду казаў, што судзіць яго трэба было тут, на месцы, і загнаць у такую турму, калі не ў магілу, адкуль яму назад не было б дарогі. А то, відаць, трапіў у рукі такім суддзям, як Пятровіч, ну і выкруціўся на нашу галаву. Дэраша свайго мы вярнулі яму. І сена таксама. Цяпер у нашай гаспадарцы толькі тры курыцы засталося. Нясецца пакуль што адна. Маці бядуе, дзе ўзяць яек на здачу каменданту. Ні кошкі, ні сабакі мы не трымаем. А чым заплаціць падатак за зямлю? Яе ў нас няшмат — усяго паўтары дзесяціны, гэта значыць, нам трэба плаціць трынаццаць рублёў з палавінаю... Я ўжо не раз думаў, дзе зарабіць гэтыя рублі. Давядзецца зноў брацца за венікі.

Дома я даведаўся, што здарылася з дзедам Пракопам. Апошнія дні немцы заўзята вырывалі ў галынаўцаў плату за панскі лес. Пан, відаць, даў ім добрыя барышы за такую работу, і яны стараліся як маглі. Хто меў чым плаціць, разлічыліся самі. Засталіся толькі такія, як дзед Пракоп, у якіх няма і капейкі за душою. Дзед так і сказаў нямецкім зборшчыкам. «Няма грошай — давай каня!» — сказалі яму зборшчыкі. Яны самі вывелі з хлява дзедавага каня і пачалі запрагаць у павозку. Дзед спачатку прасіўся, потым, раззлаваўшыся, пачаў лаяцца, нарэшце схапіў загрудкі аднаго з салдатаў і ўрэзаў яму з усяе сілы добрую аплявуху.

— А цяпер забірайце сабе і каня, і мяне! — толькі пасля гэтага здаўся дзед Пракоп.

Немцы скамячылі дзеда, збілі да крыві ботамі на шыпах, укінулі ў павозку і павезлі ў камендатуру.

І хоць гэтая падзея моцна засмуціла ўсіх галынаўцаў, аднак яе перасіліла радасная навіна пра турму. Значыць, ёсць управа і на ліхадзея Гершталя з яго бандытамі! Калі тыя смелыя налётчыкі вызвалілі арыштаваных і спалілі турму, то, можа, яны дабяруцца і да самога Гершталя... А маладыя хлопцы цішком дапытваліся ў мяне, ці не чуў я там, у мястэчку, дзе шукаць тых смелых людзей. Я адказваў, што нічога пра іх не чуў, аднак рабіў выгляд, што, можа, і ўдасца сёе-тое даведацца. Я спадзяваўся на Ячэню, які ведае пра ўсё на свеце.

Назаўтра тыя ж два салдаты вярнуліся ў Галынаўку з загадам каменданта Гершталя: ён, недавярак, ужо ачухаўся пасля налёту на турму і ўхапіўся за сваю работу з яшчэ большым зверствам. У загадзе гаварылася, што за

зневажэнне жыхаром вёскі Галынаўка салдата вялікай Германскай імперыі камендант рашыў: дзеда Пракопа павесіць, а яго землякоў пакараць звышпадаткам. Староста Палікар мусіць сабраць і прыслаць у камендатуру дзесяць коней, дваццаць кароў, пяцьдзесят авечак і пяцьсот рублёў грашыма. Калі гэта не будзе зроблена за тры дні, ён загадае вёску спаліць, а ўсіх здаровых мужчын і жанчын выслаць у Германію на работу...

Вось як высока ацаніў камендант Герштaль дзедаву аплявуху нямецкаму салдату.

Гэта была страшная помста. Але, галосячы па сваіх конях і каровах, галынаўцы ганарыліся смелым учынкам свайго земляка: «От каб усе былі такія, як дзед Пракоп! Так ім, гадам, і трэба!»

Дзеда Пракопа павесілі на новай шыбеніцы каменданта Ганса Герштaля.

## Я ЗНОЎ ВІШУ НА ВАЛАСКУ

Нарэшце і зусім цёпла стала. Трапляюцца такія дні, што і світку скідаеш. У лепшы час радавацца б вясне ды цешыцца пад сонцам, якое ўсё вышэй ды вышэй узнімаецца над зямлёю, усё цяплей і цяплей саграваe яе.

Але з прыходам вясны прыйшлі і новыя клопаты. Галынаўцаў ужо ачысцілі дагала́. Цяпер то ўжо яны сталі сапраўднымі галынаўцамі. На трох-чатырох гаспадароў адзін конь, ды і той недабоек. Іх на шкурадзёрню цягнуць трэба, а не ў плуг ці ў барану запрагаць. Ды ўрэшце і сеяць няма чаго — хіба толькі што каму ўдалося прыхаваць у патайных сховах. Збяднеў нават і сам Палікар — пакінуў сабе аднаго каня і адну карову. Ганс Герштaль, як той павук, высмоктваў усё, што мог, каб карміць сваю ненажэрную Нямеччыну. Нашым людзям пакінуў хіба што толькі мох ды кару. Выжывуць дык выжывуць, клопат яму невялікі. Яго прыслаў сюды кайзер не для таго, каб думаць пра тутэйшых людзей. Крывасмок чапляўся да ўсяго, каб вырваць апошні кавалак з рота.

І вось у такую галодную вясну настаўнікам абвясцілі, што валасная ўправа больш не можа плаціць ім за службу. Хочуць бацькі, каб іх дзеці вучыліся, няхай плацяць самі. Нямецкая ўлада на такую справу грошай не мае.

Пра гэта сказаў нам Павел Кірылавіч. І папрасіў, каб

мы перадалі сваім хатнім, што ў чарговую нядзелю дзеля гэтага склікаецца бацькоўскі сход.

У мяне язык не мог павярнуцца сказаць матцы такую навіну. І не сказаць нельга. Трэба кінуць вучобу. Гэтага ад яе не схаваеш. Засталося ўсяго якіх месяца паўтара да канца навучальнага года. Мне вельмі хацелася скончыць хоць першы клас. Можа, плата будзе і невялікая, нас жа ў вучылішчы больш сотні, ды для маёй маткі любая плата — вялікая. Мы яшчэ за зямлю не ўвесь падатак выплацілі.

Я ламаў галаву, дзе і як можна зарабіць гэтыя грошы. А што, калі падацца да знаёмага засцянкоўца Вінцэся? Можа б, ён пазычыў на адработак ці наняў мяне за пастуха, як гэта было пазалетась. У яго грошы пэўна ж водзяцца, не так, як у нас. Засцянкоўцы добра жылі раней, пры Керанскім, іх і цяпер Гершталь не вельмі прыціскае.

Надумаўшыся так, я смялей пачаў гаворку з маткаю.

Паплакаўшы ад такой навіны, яна сказала:

— Хто яго ведае: можа, Вінцэсь ужо наняў каго? Пазычыць то не пазычыць. Не такі ён чалавек, каб пашкадаваў каго.

— Давай, мама, сходзім да яго. Калі ён нойме мяне, то, можа, што выпрасім наперад.

— А колькі ж у яго прасіць? Якая там, у вучылішчы, будзе плата?

— Хто яго ведае. Можа, рублёў пяць на месяц.

Добра ведаючы цану любой капейцы, я лічыў пяць рублёў вялікімі грашыма, хоць яны цяпер і танныя: фунт хлеба каштуе трыццаць або сорак капеек. Маці таксама балюча паморшчылася.

— Я думала — рублёў тры...

— Тады,— сказаў я,— пачакаем да нядзелі. Як там сход пастановіць.

— А мне ісці на той сход ці мо без мяне абыдуцца?

Я падумаў і адказаў:

— Як хочаш. Памагчы ты не паможаш, а толькі дарэмна лапці патопчаш. Пра цану я і сам даведаюся.

У панядзелак яшчэ перад заняткамі я даведаўся, што плаціць трэба не пяць рублёў на месяц, як я думаў, а дзесяць... І не толькі грашыма, а і хлебам, салам, яйкамі — хто што мае. І грошы за першы месяц трэба аддаць без затрымкі.

Вядома, я не ўзрадаваў матку.

— Не дасць нам Вінцэсь такіх грошай наперад,— забедавала яна.— Але ўсё ж пойдзем, сынок. Паспытаем шчасця.

Мы сабраліся і пайшлі ў добра знаёмы нам засценак.

Нішто ў засценку з таго часу, як я служыў тут пастухом, не змянілася. Тыя ж хаты, платы, агароды. У Вінцэся каля хаты той жа жарнавы камень. Толькі сабака другі — меншы, худы. Ён не разгульваў па двары, як стары сабака, а ляжаў каля будкі на ланцугу. Убачыўшы нас, нехаця брахануў раз-другі і зноў лёг, цікуючы за незнаёмымі людзьмі.

На двор, як і першы раз, калі мы трапілі сюды, выйшаў сам гаспадар.

— Заходзьце, заходзьце,— адчыніў ён нам вароты.— Даўно не былі ў нас.

Прыгледзеўшыся бліжэй, я ўбачыў, што Вінцэсь усё ж змяніўся за той час, як я пакінуў пасвіць яго свіней: пасівеў, зморшчыніўся.

У хаце каля печы тупала яго маўклівая жонка Антоля. На матчына «Добры дзень у хату» адказала: «Дзень добры». І больш ні слова мы ад яе не пачулі.

— Ну, што вас прывяло да мяне? — першы загаварыў Вінцэсь, відаць, здагадваючыся, чаго мы прыйшлі.

— Можа, дзядзька Вінцэсь, сына за пастуха возьмеш? — спытала маці.

Вінцэсь пакруціў галавою:

— Кабеціна, цяпер жа і пасвіць няма чаго. Хіба не ведаеш?

— Гэта ў нас няма чаго, дзядзька Вінцэсь. А ў вас жа, кажуць, не так пустошаць...

— Ну, пакуль выганя́ць у поле, то, можа, спустошаць і нас. Хто ведае, што будзе заўтра. Так што думаць пра пастухоў яшчэ рана.

Вінцэсь, як мне здавалася, гаварыў зусім шчыра. Мне стала нядобра — маці вельмі ж часта замаргала вачыма. Мне зусім не хацелася, каб яна расплакалася ў чужых людзей.

— Хадзем, мама,— пацягнуў я яе за рукаў.

— То, можа, пазней наведацца? — прагаварыла яна, глытаючы слёзы.

— Як хочаш, кабеціна.

Я мацней пацягнуў яе. Але ўжо ля парога Вінцэсь спыніў нас.

— Аднаго аддаеш у пастухі ці абодвух?

Маці павесялела:

— Можна, Вінцэська, і абодвух.

— А якую плату хацела б за іх?

— Якую твая ласка...

— Мая ласка — ніякай. За харчы. І то бяру, бо добра іх ведаю.

Збіваючыся, маці загаварыла пра маю навуку. Нам да зарэзу патрэбны хаця б пятнаццаць рублёў ужо зараз...

Вінцэсь спахмурнеў, замахаў рукамі.

— Не, кабеціна, за харчы і ні капейкі. Як сабе хочаш. Цяпер людзі галодныя,ноймуцца і за харчы.

Тут ужо маці не вытрымала. Я сілаю пацягнуў яе за дзверы.

## БЛАГІЯ СПРАВЫ І ДОБРЫЯ ВЕСТКІ

Назаўтра я зайшоў да Паўла Кірылавіча і сказаў, што пакідаю вучылішча.

Павел Кірылавіч, як мне здалося, і не зарадаваўся ад гэтага, і не зажурыўся.

— Ну што ж,— сказаў ён, не адрываючыся ад нейкай паперкі, якую чытаў.— Нічога зрабіць не магу. Не ад мяне залежаць гэтыя змены. Ты не першы.

І праўда: пакінулі вучылішча ўжо чалавек дзесяць. Астатнія пакуль што трымаюцца. Хто спадзяваўся выцягнуць яшчэ хоць месяц, а хто дабыць і да канца.

Услед за мною зайшоў да дырэктара Паўлюк Драздовіч і сказаў яму тое ж, што і я. Гаспадарка ў яго бацькі малая, а сям'я вялікая. Адарваць што-небудзь ад гэтай сям'і для Паўлюковай навукі няможна.

— Пайду ў пастухі,— рашуча сказаў Паўлюк, вярнуўшыся ад дырэктара.— Зраблю дудку-жалейку, буду на ёй іграць і песні спяваць. За лета зараблю грошай, а ўвосень зноў пайду вучыцца.

— Жадаю, браток, табе ўдачы,— усміхнуўся я.— Я ўжо спрабаваў зрабіць гэта.

— І што? — жыва зацікавіўся Паўлюк.— Многа даюць?

— Дулю з маслам!

— Якую дулю?

— Звычайную. Бяруць толькі за харчы.

— Ты што — смяешся?
— Плачу, а не смяюся.
— Ды я такому крывасмоку плюнуў бы ў морду.
— І што? Ён згодзіць другога. За тыя ж харчы. Мой крывасмок так і сказаў: «Цяпер людзей галодных хапае.Ноймуцца і за харчы».
Я забраў свае кнігі і рэчы — стары аплецены гарнушак, драўляную лыжку, відэльцы і са слязамі на вачах паклыпаў дахаты. Шкада было пакідаць вучылішча, ой, як шкада. Прывык я да яго. Шмат новых сяброў займеў тут. Ды і вучыўся з ахвотаю. А што цяпер рабіць дома? У поле ганяць яшчэ рана — гэта, калі пайсці да Вінцэся за харчы. Давядзецца зноў заняцца венікамі.
Я так і зрабіў. Хадзіў па балотах, рэзаў хворост, а дома вязаў венікі. Памагаў мне і Юзік. У нядзелю мы панеслі свае венікі ў мястэчка на рынак. Утаргавалі за іх рубель і семдзесят капеек. І ўжо збіраліся купіць хлеба, як я ўбачыў Валодзю Ячэню.
— Пятрусь! — кінуўся ён да мяне.— Ты мне патрэбен.
— Навошта?
Ячэня азірнуўся:
— Ідзі за мною.
— Пачакай мяне,— сказаў я Юзіку і пайшоў услед за Ячэнем.
Калі мы адышліся крокаў за дваццаць, Валодзя зашаптаў:
— Прывітанне табе, ведаеш, ад каго?
— Адкуль жа мне ведаць.
— Ад Гарасіма Аляксеевіча...
Я вытрашчыў вочы.
— Гэта што — жарты? Дзе ты мог яго бачыць?
— Там, дзе трэба. Ён сказаў, што ты хлопец свой і табе можна перадаць ад яго прывітанне. А за гэта ты перадай прывітанне яго жонцы. Але толькі ёй адной — пад сакрэтам. Разумееш? Яны даўно не бачыліся. Добра?
Я кіўнуў галавою. Значыць, Гарасім недзе тут, блізка. Ён толькі не можа ці не мае права сам пабачыцца з сваёю жонкаю і дзецьмі. Значыць, ён у падполлі, пра якое гаварыў тады.
Ячэня прашаптаў яшчэ цішэй:
— Скора ў нас пачнецца такое, што Герштaлю моташна стане. Шкада, што ты кінуў вучылішча.
— А што было рабіць?

— Я сказаў пра гэта Гарасіму Аляксеевічу. Можа, ён што прыдумае.

— Што ён можа прыдумаць. Ён жа, як сам ведаеш, у падполлі.

Я сказаў гэтае слова, каб паказаць Ячэню, што таксама сёе-тое разумею.

— Падпольшчыкі не такое зробяць, калі трэба,— адказаў Ячэня.— Загадаюць Паўлу Кірылавічу, і ён верне цябе без усялякай платы.

— А што — хіба Павел Кірылавіч з імі? — здзівіўся я.

— Не з імі, а ў іх руках. Яны — сіла. Ну, будзь здароў! Пра нашу гаворку — нікому ні-ні! Строгая тайна.

Дык вось хто ён — наш Валодзя Ячэня! Вось чаму ён усё ведае. Я шчыра радаваўся і за дзядзьку Гарасіма, які падаў мне голас, і за свайго школьнага сябра. Цётка Надзя таксама будзе рада. Але можна сабе ўявіць, як цяжка будзе ёй не сказаць пра гэту радасную вестку нават родным дзецям.

Я ўспомніў, што ў апошнія дні ўсё часцей гавораць людзі пра напады на нямецкіх салдатаў і паліцэйскіх. Б'юць іх і на дарогах, і ў самім мястэчку. Гершталь ужо замучыў некалькі западозраных у сваёй камендатуры. Двух нават павесіў, але не ў кірмашовыя дні, калі на плошчы збіраецца многа народу. Цяпер ён расклеіў новы грозны загад, каб ніхто з мужыкоў без дазволу не выходзіў за межы сваёй вёскі. Хто мае пільную на гэта патрэбу, мусіць браць пропуск у начальніка свайго гарнізона, а дзе такіх няма — у сельскага старасты. За пропуск трэба плаціць адзін рубель, а дзесяць пакідаць, як заклад, што вернешся. Суцэльную турму зрабіў нам камендант Гершталь. Добра яшчэ, што ў загадзе нічога не гаворыцца пра жанчын і нас, малых.

Пасля ўсяго гэтага я пачынаў сёе-тое разумець ясней. Прывалокшыся да нас, Гершталь, як вядома, загадаў усім былым салдатам царскай арміі з'явіцца ў камендатуру. Дурняў такіх знайшлося мала. А калі пасланцы камендантавы прыходзілі шукаць былых салдатаў, радня ў адзін голас заяўляла: «Няма. Пайшоў у камендатуру і не вярнуўся». Больш дзёрзкія жонкі яшчэ накрычаць: «Дзе вы падзелі майго мужыка? Вярніце мне яго!»

Гэтак жа, пэўна, было і ў суседніх вёсках. Значыць, пачынаю я здагадвацца, напады на немцаў — іх справа.

І яны, мусіць, выступаюць разам з Прахарэнем, з Гарасімам, Кастравіцкім... І іх, відаць, ужо нямала, бо не сказаў бы Ячэня так упэўнена, што скора Герштаклю моташна стане на нашай зямлі. Тым больш зараз, калі можна жыць абы-дзе, без цёплай хаты. Армія наша недзе далёка. Калі яна вернецца, невядома. А тут жа можна сабраць цэлую армію на месцы і біць немцаў з-за кожнага дрэва або куста, каб яны са сваёй камендатуры нікуды і носа не вытыркалі. Ды і сама камендатура — не крэпасць. Тым больш пасты і гарнізоны ў вёсках. Праўда, замест забітых яны могуць прысланць другіх. Дык і тым зрабіць тое ж. Эх, каб я быў трохі большы!

Фантазія мая разгулялася, і я не мог яе суняць. Хутчэй бы, хутчэй сталася тое, чаго мне так хацелася.

### БАЦЬКА ВЯРНУЎСЯ

Не паспеў я яшчэ заснуць, як пачуў лёгкі стук у шыбу супрацьпечнага акна.

— Мама,— ціха паклікаў я,— ты яшчэ не спіш?

— Мусіць, спала ўжо,— адказала яна.— А што?

— Нехта стукае ў акно...

— Але,— сказала маці, устаючы з пасцелі.— Хто ж гэта так позна? Ужо ж даўно сцямнела.

Яна ахінулася хусткаю і выйшла ў сенцы, пакінуўшы дзверы прачыненымі.

— Хто там? — акліканула маці таго, хто прасіўся ў хату.

— Гэта ты, Ганна? — пачуў я ціхі мужчынскі голас з двара.

— Я. А ты хто?

— Сцяпан.

— Які Сцяпан?

— Твой. З таго свету вярнуўся...

— А божачкі!..— ускрыкнула маці і змоўкла.

Па глухім гуку, які пачуўся ўслед за гэтым каля дзвярэй, мне здалося, што яна ўпала.

Я выскачыў у цёмныя сенцы і наткнуўся на матку, якая ляжала без руху.

За дзвярыма не сціхаў трывожны шэпт:

— Ганна, гэта я — твой мужык Сцяпан...

«Бацька!» — мільганула ў маёй галаве. Голас мне і

знаёмы, і незнаёмы. Але хто ж мог так гаварыць з маткаю, калі не ён!

— Тата, гэта я, Пятрусь. З мамай нешта здарылася...

— Адчыні, сынок!

Ад хвалявання і страху за маму я ледзь знайшоў засаўку. Адчыніў і далей не ведаю, што рабіць.

Бацька ўскочыў у сенцы.

— Ганначка, што з табою?

Ён падняў яе на рукі, пачаў тармасіць.

— Газоўка, сынок, ёсцека ў вас?

Газоўка, на шчасце, у нас была, і нават з газаю. Я кінуўся ў хату, запаліў газоўку.

— Цяпер вады прынясі, сынок. Маці проста знепрытомнела.

Я прынёс вады і глянуў на бацьку. У цьмяным святле газоўкі перада мною стаяў худы, аброслы чорнаю барадою з пасівелымі пасмамі чалавек у зялёным шынеліку і ў такой жа зялёнай шапцы без брыля. «Не, гэта не наш бацька! — падумаў я са страхам.— Але хто ж тады ён?»

Маці тым часам заварушылася, расплюшчыла вочы, паклікала мяне:

— Петрусёк, што гэта са мною?

— Мама, тата вярнуўся...

— Гэта я — Сцяпан,— паўтараў бацька, выціраючы рукою слёзы.— Ачніся, Ганначка!

— Сцёпачка!..— загаласіла маці ад радасці.— Гэта ты... Голас твой...

Яна павісла ў яго на шыі.

— Дзеці, дзетачкі, бацька вярнуўся!..

Доўга мы не маглі апрытомнець ад радасці. Больш трох гадоў у нашых сэрцах цяплілася нейкая кволая іскарка — а можа, ён дзе ў палоне? Можа, скончыцца калі вайна, і ён вернецца. Або хоць бы ўжо да рэшты патухла наша іскарка. І раптам яна ўспыхнула яркім полымем. Уся наша бяда, усе нястачы і нягоды змізарнелі, згарэлі ў гэтым полымі.

Я не зводзіў з бацькі вачэй. Хацеў знайсці хоць штонебудзь знаёмае з тым бацькам, які пакінуў нас летам таго страшнага чатырнаццатага года. І хіба адны толькі цёмныя выразныя вочы, праўда, змораныя, сонныя, са слядамі слёз нагадвалі мне здаровага прысадзістага мужчыну са смуглявым прыгожым тварам, з цёмнымі кучаравымі валасамі: цяпер яны на добрую палавіну пасівелі.

Маці затупала каля печы.

— Ты ж, Сцяпанка, мусіць, галодны? Можа, табе крышаных картопель зварыць? Сала няма, дык хоць цыбуліну ўкіну для паху.

— Не трэба, Ганначка. Не дачакаюся я тваёй вячэры. Дзе можна прылегчы? — акінуў ён вачыма хату.

Маці паказала яму на сваю пасцель.

— Не. На мне кішма кішаць...

— Зараз, зараз, Сцёпачка!

Маці ўзяла газовачку і выйшла ў сенцы. Хутка вярнулася з бялізнаю ў руках.

— Вот твае нагавіцы і сарочка. Усё чакалі цябе. І прычакаліся.

Сонныя бацькавы вочы ажывіліся. На нейкі час ён таксама выйшаў у сенцы. А калі вярнуўся ў чыстай бялізне, сказаў:

— Шматкі свае я згарнуў у вузел. Заўтра хіба спаліш у печы. А цяпер хоць спакойна засну першы раз за ўсе гэтыя гады на сваёй пасцелі.

Ён пляснуўся на саламяны сяннік, нацягваючы на сябе коўдру.

Маці патушыла газоўку.

— Пара, дзеткі, і нам спакойна заснуць гэтую першую ноч за ўсю вайну.

## СТРАШНЫ РАСКАЗ

Назаўтра, як звычайна, усталі мы рана. Глядзім на бацьку і не можам наглядзецца. Ён памыўся ў ночвах да пояса, адзеў свае шарачковыя штаны і цяпер стаў зусім падобны на нашага бацьку. Толькі худзізна і цёмная барада з сівымі пасмамі яшчэ страшылі нас. Ды і сам ён быў нейкі сумны, нібы спалоханы. Не рады, што дахаты вярнуўся, ці што?

— Можа б, ты, Сцяпанка, зрэзаў гэтае сваё цыганскае шчаціннне,— параіла маці.— Навошта яно табе цяпер? Пятрусь, дзе бацькава брытва?

— Дзе і была,— адказаў я.— За трамаю [1].

Бацька дастаў з-за трамы брытву, пацешыўся ёю, памацаў пальцам лязо.

— І не заржавела, глядзі ты,— радаваўся ён.

---

[1] Трама — бэлька пад столлю.

— А чаго ёй іржавець угары, пад столлю,— сказала маці.— Там суха.

Раней бацька не толькі сам галіўся гэтай брытваю, а і амалоджваў траха не паўвёскі. Бывала, у нядзелю вунь колькі вусоў і барадаў пакідалі ў нас галынаўцы — і чорных, і русых, і рыжых. А як пачалася вайна, галіць не было каго і не было каму. Брытва так і ляжала за трамаю без работы. Старыя дзяды не галіліся. Яны проста падстрыгалі свае вусы і бароды нажніцамі.

Бацька зняў са штаноў папружку, павесіў яе за спражку на цвічок на сцяне і падвастрыў брытву.

— А як у вас з мылам? — глянуў на маці.

— Але ж,— спахапілася маці,— без мыла не паголішся. Няма ў нас мыла... Хіба збегаю да Гарасімавай Надзі, можа, у яе пазычу. Ты ж помніш Гарасіма Аляксеевага. Цяпер ён дома жыве, не ў горадзе.

— Жыў,— сказаў я.— Калі прыйшлі немцы, ён уцёк з дому. У нас усе бальшавікі так зрабілі. Бо іх немцы першых павесілі б...

— Дзіва што павесілі б,— сказаў бацька.— Гэтаму я паверу. Нажыўся з імі і наглядзеўся на іх...

Маці сабралася ісці да Надзі. Бацька затрымаў яе.

— Не ідзі. Не трэба.

— Чаму? Яна з ахвотаю пазычыць кавалачак мыла. Потым, як расстараемся, вернем ёй.

— Можа, яна і пазычыць,— згадзіўся бацька,— але казаць, для чаго мыла, не трэба.

— Чаму ж не казаць? Яна ж таксама будзе рада, што ты вярнуўся.

Бацька спахмурнеў яшчэ больш.

— Вярнуцца-то я вярнуўся, але як? Ты ж не пыталася, а мне страшна і казаць...

Нам гэтыя бацькавы словы былі незразумелыя. Які і каму цяпер можа быць страх, калі бацька жывы і нават не скалечаны тут, сярод нас, дома.

— Мяне не пусцілі з палону,— паціху прагаварыў бацька.— Я ўцёк самавольна. У апошні час быў недалёка ад дому і не мог вытрываць, каб не пераведаць вас. А нямецкія ж афіцэры не такія людзі, каб паспачуваць чалавеку.

Бацька абвёў усіх нас сумнымі вачыма і дадаў:

— А цяпер не ведаю, што і рабіць: вярнуцца назад у тое пекла ці сядзець дома як мыш пад мятлою?

Цяжка ўздыхнуўшы, ён глянуў у наша нізкае акенца каля стала.

— Трэба пільнаваць, каб хто не зайшоў знячэўку. І пакуль што пра мяне нікому ні слова. Чуеце, дзеці?

І хоць нарэшце мы ўцямілі, што сказаў бацька, але ўсё яшчэ любую небяспеку лічылі не такой значнай, каб яна зацямніла нашу радасць. Бацька з намі, і мы зробім усё, каб ўратаваць яго ад новай бяды.

У сенцах у нас была невялікая каморка для розных хатніх рэчаў. Маці трохі расчысціла яе і сказала:

— Будзем пільнаваць каля акна па чарзе. Калі хто зойдзе на двор, ты, Сцяпанка, бяжы ў каморку.

Блізка лепшай схованкі не было. Лезці на вышкі — зойме больш часу.

Дагаварыўшыся пра схованку, маці папрасіла бацьку, каб расказаў, як ён жыў без нас на далёкай чужыне, чаму не падаў ніводнай вестачкі.

— Доўгі гэта і невясёлы расказ,— паматаў бацька сваёю чорна-сіваю барадою.— Такая жытуха і ў страшным сне добраму чалавеку не прысніцца. А пісаць вам як я мог? Не хадзілі і не ходзяць у вайну пісьмы ад палонных. Ну, хіба што збольшага скажу.

Паглядаючы ў акенца, ён пачаў свой расказ:

— Пра Лаўрэна ж вы ведаеце. Я тады, калі мы ехалі ў воласць на здачу ў салдаты, добра такі аддубасіў яго за Петрусёву шапку. Не шкадуючы, схвастаў на ім яго дубальтоўку. Нябось, потым доўга чухаўся панскі сабака.

— Затое, каб ты ведаў, якім ён пасля рэвалюцыі стаў,— сказаў я.— Зусім змяніўся. Дурны, кажа, быў, дык і выстранчаў пану. А цяпер, калі Прусак зноў вярнуўся пры немцах, больш на сваю сабачую службу не пайшоў.

— Глядзі ты, паразумнеў чалавек,— здзівіўся бацька.— А тады мне за гэтага дурнога Лаўрэна ўляпілі аж пяць гадоў астрогу. Каб гэта быў просты Лаўрэн, не панскі, далі б год-два. Але суддзя зрабіў ласку — паслаў на вайну. А калі выжывеш — тады і адседзіш. Так што, не дай бог, вернецца цар з яго суддзямі, то астрогу мне не мінуць. Цікава, дзе ён цяпер? Нам жа там нічога не гаварылі, што тут, у Расіі, робіцца.

— Кажуць, недзе ў Сібіры,— адказаў я.— Вядома, не на волі,— у турме.

— Ну, там яму і месца,— сказаў бацька.— Няхай па-

сядзіць, падумае, як і за што ён з немцам ваяваў. Можа, паразумнее, як наш Лаўрэн. Я мала пабыў у самым пекле вайны, але хапіла і таго. Іншыя ж, хто выжыў, праз тры і болей гады цярпелі гэтыя нялюдскія пакуты. Раскаэвалі раней старыя людзі пра турэцкую вайну. Дык там што — пухкалі са стрэльбаў адзін у другога. Ні кулямётаў, ні ярапланаў з дырыжаблямі яшчэ і не ведалі. Больш на штык спадзяваліся. А цяпер да штыка рэдка калі і даходзіла. Бо пакуль ты дабяжыш да немца са штыком, ён у цябе дзесяткі куль з кулямёта выпусціць. За два месяцы я толькі два разы і хадзіў у штыкавую.

— І ты сам калоў жывых людзей? — скаланулася маці.

— Каб я іх не калоў, дык яны б мяне закалолі... У мяне тады яшчэ сіла была. І спрыту хапала. Ды і намуштравалі нас упраўляцца са штыком. Цэлых тры тыдні ганялі за горадам, навучалі розным ваенным навукам. Лета. Гарачыня, як у лазні. А на табе поўная салдацкая выкладка — вінтоўка, шынель у скатку, рыдлёўка, кацялок, ранец з усім салдацкім скарбам. Бяжы, паўзі, калі чучала, страляй... Сто патоў за дзень вылоецца. А што не так — зводны Дзярыгорла (гэта мы яго так празвалі, сапраўднае яго прозвішча было Дзергуноў) адхвошча цябе — на нагах не ўстаіш. Або без абеду пакіне ці загадае фельдфебелю пасля адбою на сон паганяць з гадзіну за казармаю, як сабаку, туды-сюды з той жа салдацкай выкладкай. Ці разоў пяцьдзесят прысесці і ўстаць...

— І цябе гэтак ганялі? — пацікавілася ўсхваляваная пачутым маці.

— А што я, лепшы? Мяне яшчэ больш ганялі, чым іншых.

— Чаму ж гэта?

— Не ўмеў ладзіць з сваімі мучыцелямі. Здаецца, стараешся, як можаш, а ўсё роўна прычэпку знойдуць. Не так ступіў, не так зрабіў, не так казырнуў. Бадай вы паздыхалі. Скарэй бы вырвацца з кіпцюроў гэтых недавяркаў, думалі мы. Нам тады здавалася, што на вайне горш не будзе, як на такім абучэнні.

Ну, кончылася нарэшце наша вучэнне-мучэнне. Стары барадаты поп нам казань сказаў, каб камандзіраў сваіх слухалі, за веру і цара жыцця не шкадавалі. Мы на ўсё горла «ўра» пракрычалі — так зрабіць нам нашы начальнікі сказалі. Сабралі нас цэлы полк і пагналі ў Мінск на

таварную станцыю. Там пасадзілі ў цялятнікі і павезлі. У вагоне, як у астрозе. Дзверы на замку: баяліся, каб мы не разбегліся. Салдаты лаюцца на чым свет, а панам афіцэрам хоць бы што. Яны ж не ў зачыненых цялятніках, а ў асобных класных вагонах ехалі. Не людзі мы для іх, а гарматнае мяса.

Бацька спыніўся, цмокаючы губамі.

— Тытуню ў вас, нябось, таксама няма?

— Не,— паківала маці галавою.— Хлопцы яшчэ не кураць.

— Я,— сказаў бацька,— мала курыў гэтыя гады — не было чаго. А цяпер як успомніў пра мінулае — у грудзях засмактала. Ну, нічога. Перасмокча. Дык вот доўга мы ехалі, падоўгу стаялі на станцыях, нарэшце высадзілі нас (казалі, недзе за Гродняю), выдалі вінтоўкі, накармілі салдацкаю кашаю і пагналі пехатою далей. Ішлі мы па тых дарогах, па якіх нядаўна наша першая армія гнала немцаў у іхнюю Прусію. Афіцэры — яны былі тыя ж, што муштравалі нас на вучэнні — радаваліся: «Пакуль дойдзем да пазіцыі, дык і вайне канец!» Добра было б, думаем. І таксама радуемся. Скрозь валяюцца разбітыя гарматы, павозкі, трапляюцца незакапаныя забітыя коні, распухлыя, як горы. Шмат свежых магіл з новымі крыжамі. Рэдка дзе цэлую хату ўбачыш. Страшна глядзець на ўсё гэта.

Начаваў наш полк у нейкім лесе. Нарэзалі яловых і хваёвых лапак, на іх і спалі. Назаўтра чуць свет падНялі нас. Чуем — гудзе зямля пад нагамі. Недзе бухаюць гарматы. І не так далёка. Нам нават і снедаць не далі, бягом пагналі далей. Выскачылі за лес, прабеглі з вярсту па полі і чуем каманду:

— Заняць пазіцыю!

Дзярыгорла адмераў нашаму ўзводу дзялянку зямлі і загадаў капаць акопы ў паўроста чалавека.

— А снеданне калі падвязуць? — загаманілі салдаты.— Дзе кашавары?

— Скора пад'едуць,— супакоіў нас Дзярыгорла.— Капай!

Выкапалі мы акопы, а кашавараў — ні слыху ні дыху. Тым часам гарматы забухкалі ўжо зусім блізка. Паўз нас прамчалася нейкая батарэя з чатырох гармат, пры ёй афіцэры на конях. Пратарахцела некалькі санітарных павозак з чырвонымі крыжамі на белым брызенце.

— Немцы блізка...— зашапталі салдаты.

Бацька ўстаў з лавы, пайшоў да вядра з вадою:

— Трэба горла прамачыць, а то перасохла з непрывычкі доўга гаварыць.

А я ўспомніў расказ бязрукага салдата ў карчме па дарозе ў Мінск. Гэта было перад зімою першага года вайны. Ён таксама быў у арміі генерала Рэненкампфа. Тады гаварылі, што гэты генерал быццам сам немец і знарок адступіў назад з Прусіі, не памог суседняй арміі генерала Самсонава, якая трапіла ў акружэнне і была разбіта. Я сказаў пра гэта бацьку.

— Але,— пацвердзіў ён,— у нас таксама гаварылі, што Рэненкампф немцу спагадае. Ды хто іх там разбярэ. Усе яны чэрці адной шэрсці — што кайзераўскія генералы, што царскія. Народу ім не шкада. Гоняць у бой, як тую скаціну. А за што? Адны за веру і цара і другія за тую ж веру і цара, хоць ён у іх і кайзерам прэзываецца. Дык няхай ён згарыць, той цар, каб за яго гэтулькі людзей перабіць ды перакалечыць. А бог жа адзін і ў нас, і ў немцаў. Дык за якую яшчэ веру нам з немцамі ваяваць?

Паразважаўшы так пра цароў і генералаў, бацька вёў свой расказ далей:

— Ну, сядзім мы ў сваіх акопах галодныя, чакаем немца. А над намі, адкуль ні ўзяўшыся, яраплан нямецкі павіс, як той каршун. Мы нацэліліся ў яго.

— Не страляць! — нема закрычаў Дзярыгорла.— Інача ён выявіць нашу пазіцыю і перадасць на сваю батарэю.

— Пакруціўся яраплан і паляцеў у свой бок. Мы радуемся: не ўбачыў! Аж праз нейкі час ба-бух! перад нашымі акопамі. Зямля ўзарвалася і шуганула ўгору. Потым зноў і зноў. Шрапнелі рвуцца — галавы не падняць. Ды і гранатныя асколкі як гарох сыплюцца. Цяпер нам ясна, чаго лятаў тут яраплан. Ён усё ж убачыў нас. І чаму нашы камандзіры баяліся страляць у яго? Каб збілі, нябось, не навёў бы на цэль свае батарэі. З акопа чуюцца стогны, крыкі: «Братцы, ратуйце!» Туды спяшаюцца санітары з насілкамі.

Доўга так мясіў нашы акопы немец. А мы сядзім без руху, чакаем чорт ведае чаго. Потым бачым: валіць на нас нямецкая пяхота. Ідуць ланцугамі, у касках, з вінтоўкамі ў руках. Але пакуль што не страляюць: далекавата, ды і нас у акопах не бачаць.

— Падрыхтавацца да бою! — чуем каманду.

Выставілі мы свае вінтоўкі, трымаем пальцы па спускавых кручках. Вось-вось страляць пара. Аж тут новая каманда:

— Адставіць! Назад! Бягом!

Дзіва! Пабаяліся камандзіры бой прымаць, ці што? Ну, мы і рванулі да лесу. Немцы адкрылі агонь. Страляюць, але без прыцэлу. Так што ўрон у нас невялікі. Прыскочылі ў лес, стуліліся за дрэвамі. Немцы перад намі як на далоні. Мы і секанулі па іх. І з вінтовак, і з кулямётаў. Сыплюцца яны, як мухі. Потым пападалі і астатнія ў гатовыя нашы акопы, прыціхлі, бо якая карысць паліць у лясную гушчэчу. Перасталі страляць і мы. А тут чуем новую каманду — адступаць за лес. Чаму адступаць? Мы ж маглі трымаць немцаў у сваіх акопах да самай ночы. А каб памагла артылерыя, яны б доўга там не заседзеліся.

Дзіўна ўсё гэта было для нас і незразумела. Чаму нам загадалі капаць акопы ў чыстым полі, калі побач быў лес? Салдаты потым так і гаварылі, што гэта або дурнота, або здрада. Праўда, Дзярыгорла казаў, што нібыта немцы абыходзілі наш полк збоку.

Вот так пачалася для мяне вайна. Нешта з месяц тузаліся мы з немцамі — то наступалі, то адступалі. Начамі — а яны ўжо халодныя сталі — ляскалі зубамі ад холаду і голаду. Добра, калі раз на суткі перападзе лыжка кашы ці кавалак хлеба. Дзярыгорла — ён, недавярак, цяпер паспакайнеў — адказваў адно і тое ж: немцы папалілі з ярапланӑў і дырыжабляў нашы склады. А пакуль прывязеш харчы здалёку — месяц чакаць трэба. Шчасце яшчэ было, што сяды-тады нарываліся на гародніну.

На дварэ рыпнулі вароты. Бацька скалануўся і шпарка пабег у сваю схованку.

У хату ўвайшла суседка Марыля. Даўшы «добры дзень», загаварыла да маткі:

— Можа, ты, Ганначка, на соль багатая? Пазыч крыху, калі маеш. Гэта ж мой Піліп ніяк не прывыкне пасля салдацкіх харчоў без солі есці.

Соль у нас была. Праўда, зусім мала — мо з фунт, не болей. Мы хавалі яе, як лякарства: толькі некаторыя стравы прысольвалі.

Маці дастала з паліцы стары гарнушак з соллю.

— У што ж табе адсыпаць?

Марыля выставіла правую руку далонню ўверх.

— Адсып крышку ў жменю.

Падзякаваўшы, суседка выйшла, а ўслед за ёю вярнуўся з свайго падполля бацька. Цяпер ён таксама мусіць жыць у падполлі, як бальшавікі. Толькі нязручнае яно, сваё хатняе падполле. Дзе б яму знайсці больш спакайнейшае? Я адразу чамусьці падумаў пра Ячэню. Ці не сказаць яму пра сваю тайну? Можа, ён што параіць. А яшчэ лепш было б пагаварыць з самім Гарасімам. Толькі як гэта зрабіць?

— Чаго яна прыходзіла? — запытаўся бацька, прысаджваючыся на лаве каля акенца.— Можа, мяне хто бачыў учора?

Яму цяпер усё можа здавацца. Цяжка, ой цяжка будзе жыць бацьку ў сваёй хаце!

— А як жа ты, Сцяпанка, у палон трапіў? — запыталася маці.— І як табе там жылося ў тым палоне? Мы ж нічога-нічога не ведалі. Усё гадалі, а можа, ты не забіты, можа, у палоне. Ды і салдаты так гаварылі: «Чакайце. Скончыцца вайна, і тады відаць будзе».

— У палон трапілі тысячы, не я адзін. Праўда, у тую раніцу, як мяне ўбачыў немец у «воўчай» яме, жывых нашых салдатаў там не было.

— Ты ў воўчую яму ўваліўся? — моцна здзівілася маці. І ўсе мы таксама не менш за яе здзівіліся: адкуль жа на вайне тая воўчая яма?

— Было яно так,— растлумачыў бацька.— Роце, у якой я служыў, загадалі наступаць на нямецкія акопы. Яны былі за балотным хмызняком, на ўзгорку. Немцам вельмі зручна было абстрэльваць адтуль нашу часць. Дзярыгорла — ён к гэтаму часу ўжо камандаваў ротай — наважыўся выбіць іх з гэтай горкі. Павёў сваю роту туды на змярканні, цераз балота: каб захапіць немцаў знянацку. Дзе там! Яны ўбачылі нас, калі мы яшчэ і сярэдзіны балота не мінулі. І ўдарылі і з гарматаў, і з кулямётаў. На добры лад трэба было б назад вярнуцца. Ды ротны вырашыў іначай: даў каманду ў атаку кідацца. З крыкам «ура» мы рвануліся наперад. Я зачапіўся за нейкую патарчаку і пляснуўся вобземлю. Усхапіўся, чую, моцна забалела правая нага. Але няма калі прыслухоўвацца да болю. Кругом ірвуцца шрапнелі, шумяць кусты ад куляў. Рота ўжо недзе наперадзе. Бягу і я за ўсімі на балючай назе. Раптам зямля пада мною правалілася, і я

старчма кульнуўся ўніз. Боль у калене пекануў так, што ў галаве памутнела, і я ўжо не чуў ні крыкаў «ура», ні страляніны. А калі апрытомнеў, пачаў разглядацца: дзе я і што са мною? Кругом цёмна. Ляжу я на нечым мяккім. Памацаў — чалавек пада мною, увесь у вадзе. На ім шынельная скатка, значыць, салдат. Побач намацаў спіну яшчэ аднаго салдата. Я ляжу на іх, і вада да мяне мала зусім даходзіць. Паспрабаваў паварушыцца — нага баліць страшэнна.

— Братцы! — закрычаў я, перапалоханы насмерць.— Братцы, ратуйце!

Ціха. Нідзе нікога. Доўга я так ляжаў, клічучы на дапамогу. Нарэшце павярнуўся сяк-так на левы бок, каб глянуць угору. Бачу — нада мною зоры гарацъ. Гэта ж ноч ужо! Я ўспомніў пра «воўчыя» ямы. Нам расказвалі пра іх. Гэта выдумка людзей без сэрцаў — нямецкіх сапёраў. Яны рабілі такія пасткі перад сваімі акопамі. Капалі глыбокія ямы, набівалі ў іх вострыя жалезіны або калы, зверху прыкрывалі галлём. Так, як на ваўкоў гэта робяць. Значыць, я апынуўся ў такой яме, запоўненай балотнаю вадою. Ускочыў у яе пазней, таму і не напароўся на жалезіны. На іх завіслі тыя, хто праваліўся сюды да мяне. Можа, яны былі яшчэ жывыя тады. Але самі вырвацца з гэтай пасткі не маглі і захлынуліся ў вадзе. Што ж рабіць? Я памацаў калена — боль разрываў яго на кавалкі. Крыві абмацаць я не мог, бо калена было мокрае. Можа, гэта і не рана, а моцны вывіх?

— Братцы! — зноў клічу я ў вялікім адчаі.— Паможыце!

Доўга ўслухоўваюся — не чуваць жывога голасу. Ну, думаю, тут мне і канцы. Хто ведае, калі жывыя людзі знойдуць гэтую магілу. Я сяк-так падняўся на левую нагу. Стаю на спінах мерцвякоў, драпаю пальцамі за балотную зямлю, ірву яе. І ўсё дарэмна. Яма глыбокая, рукамі да краю не дацягнуцца. А тут холад працінае да касцей. Зуб на зуб не пападае.

Нарэшце неба пасвятлела. Настала раніца. Дзе яны, салдаты нашай роты? Іх жа нямала ўчора бегла разам са мною да нямецкіх акопаў. Што ж там было далей? Выбеглі яны ці вярнуліся назад? А можа, не было каму і варочацца... Сіла пакідае мяне. Яшчэ хвіліна, і я не ўтрымаюся на адной назе, палячу ўніз.

— Братцы! Ратуйце!

Аж чую, нехта ідзе да ямы. Хто ён? Свой ці чужы? Сэрца як не выскачыць. Каго я ўбачу зараз, што чакае мяне: воля ці смерць? Бо калі гэта немец, то навошта яму паранены рускі салдат. Прыстрэліць і пойдзе далей.

І вот каля ямы спыніўся... немец. Тоўсты, высокі, на галаве жалезная каска з арлом. У руках вінтоўка. Ну, думаю, гэта смерць мая стаіць нада мною. Я гляджу на яго і чакаю канца. Немец прыгнуўся, працягнуў мне руку. Нешта загергетаў, але па голасе чую — не сярдзіта. Я ўхапіўся за яго руку. Ён лёгка пацягнуў мяне ўгору. Ад страху мне нават нага перастала балець.

Вывалак ён мяне з магілы. Я пастаяў крыху на адной назе і ўпаў. Немец зноў нешта сказаў і пайшоў. Што ён задумаў? Чаму не прыстрэліў адразу? Паспрабаваў я паўзці, каб дзе схавацца ў гусцейшых кустах. Цяжка, але паўзу. Прапоўз трохі, чую, зноў нехта ідзе недалёка. Азірнуўся — два немцы з насілкамі. Нічога не кажучы, узвалілі мяне на насілкі і панеслі з балота.

Вот так я і трапіў у палон...

Мы слухалі бацькаў расказ, як страшную казку.

— Дык выходзіць,— сказаў я,— не ўсе немцы благія. Яны ж маглі і не ратаваць цябе.

— Вядома, маглі,— сказаў бацька.— Але вайна мае і свае законы: ляжачага не біць. Праўда, тут усё залежыць, хто бярэ цябе ў палон. Калі чалавек сумленны, то ён помніць гэты закон. А другі галаварэз з ахвотаю зробіць сваю чорную справу. Судзіць за гэта яго ніхто не будзе. Так што мне, можна сказаць, пашанцавала. Санітары занеслі мяне ў свой акалотак [1]. Нейкі фельчар ці мо доктар туга перавязаў мне нагу бінтам — яна была не ранена, а моцна вывіхнута, з разрывамі, потым ускінулі мяне ў санітарную павозку і разам з іншымі раненымі з нашай роты павезлі ў Нямеччыну. Ад іх я даведаўся, што мала хто вярнуўся назад з таго праклятага ўзгорка. Загінуў і сам Дзярыгорла.

Падлячылі маю нагу і аддалі мяне ці прадалі, хто іх ведае, у парабкі багатаму фермеру Вальтэру Шварцу. У яго [redacted] і жыў да пачатку гэтай вясны. Не скажу, каб соладка жылося, душыў гад работаю, карміў аб'едкамі, спаць не даваў, але хоць кулі над галавою не свісталі і «воўчых» ямаў не баяўся.

---

[1] Акалотак — салдацкі медыцынскі пункт.

Ну, жыў я там і думаў, што ваенныя начальнікі даўно пра мяне забылі, і чакаў канца вайны. Аж неяк ужо напрадвесні гэтага года фермер атрымаў паперу, каб не марудзячы даставіў мяне да воінскага начальніка. Гаспадар так і зрабіў. А воінскі далучыў мяне да дзесяткаў такіх жа палонных, сабраных з фермаў, і паслаў на Брэстчыну, у Белавежскую пушчу, на лясныя работы. Немцы ж цягнуць ад нас усё, што могуць. Дабраліся і да лясоў. Вот тут мы зноў вярнуліся ў пекла — хоць і не такое страшнае, як ваеннае. І напрацаваўся я там, і нагаладаўся, і нахаладаўся. Большую палавіну, што нам на харчы адпускалі, наглядчыкі нашы прадавалі розным махлярам. Сказаць што няможна — расстрэл на месцы. Памучыліся мы ў гэтым пекле ды пачалі разбягацца. Лес жа не астрог — на замок не замкнеш. Я таксама моцна ў галаву набраў: хай што будзе, а можа, мне ўдасца хоць сваю сям'ю ўбачыць.

Нялёгкая была дарога, ішоў толькі начамі, блудзіў, але моцнае жаданне вырвацца на волю прывяло мяне нарэшце ў родны кут.

Бацька гаварыў, а я ўвесь час думаў, ці вядомы немцам яго хатні адрас, ці не кінуцца яны шукаць яго дома. Па ўсім было відаць, што назад па добрай волі ён не вернецца.

Я хацеў быў ужо запытацца ў яго пра гэта, як ён зноў усхапіўся з лавы:

— Палікар ідзе...

І пабег у сваю схованку.

Палікар? Ён жа наш цяперашні стараста. Даўно ўжо не заходзіў да нас. З таго часу, як я пры Керанскім быў у яго за сакратара. Ці не пра бацьку ён што ведае? Можа, немцы ўжо шукаюць яго? Мне стала страшна. Кінула ў пот.

Палікар прывітаўся, прысеў на лаве.

— Ты, Пятрусь, я чуў, пакінуў сваё вучылішча? — запытаўся ў мяне.

— Але,— адказаў я ні жывы ні мёртвы.

— Выгналі, ці што?

— Не, дзядзька Палікар. Цяпер, пры немцах, настаўнікам казна не хоча плаціць. Самім трэба. А ў нас няма чым...

— А-а-а,— хапіўся Палікар за сваю залатую завушніцу на правым вуху.— Ось яно што. То, можа, да мяне вер-

нешся. Ты ўсё ж лепш за Віцю разбіраешся ў сакратарскіх справах. А ўвосень зноў настаўнікам цябе пастаўлю, як пазалетась.

— І зноў папа паслухаеце і знімеце,— выпаліў я са злосцю.

Палікар рашуча пакруціў галавою.

— Не, на гэты раз не зніму. Няма дурных. Дзеці вунь каторы год сабак ганяюць. Сам жа поп вучыць іх не хоча.

— Дзякую, дзядзька Палікар, за ласку. Але я не хачу станавіцца на месца Віці. Ён справіцца з вашай работаю не горш за мяне. А калі што — я памагу яму.

Палікар устаў з лавы, сказаў:

— Што ж, няволіць не буду. Я думаў, для цябе лепш, калі ты цяпер нічога не робіш. Ты ж і пры Гарасіму сакратарыў, і пры мне. Людзі цябе ведаюць. Добра. Памагай Віцю, калі будзе патрэба. Бывайце здаровы!

— З богам! — правяла яго маці да дзвярэй. Яна таксама перамлела не менш за мяне.

Спалоханы бацька ўбег у хату. Мы супакоілі яго.

— Ой, нешта мяне калаціць пачынае,— сказаў бацька.— Ці не хвароба забірае. Палезу хіба на печ.

## Я ДАЛУЧАЮСЯ ДА ВЯЛІКАЙ СПРАВЫ

Бацька прынёс нам не толькі радасць, а і новыя трывогі і неспакой. Мы бачылі, як цяжка яму жыць у хатнім падполлі. Ды і самім нам было не лягчэй.

Прыйшла чарговая галодная вясна. Запасы нашы — бульба ды квашаная капуста з грыбамі-апенькамі — канчаліся. Хлеб свой мы даўно ўжо з'елі. Надзея была толькі на венікі, і мы з Юзікам не вылазілі з балотных беразнякоў. Вязаў іх цяпер бацька, седзячы ля стала каля акенца. Разам з гэтым ён сачыў за дваром. А каб не зайшоў хто знячэўку, дзверы ў сенцах запіраліся на засаўку.

Першыя дні мы ўсё баяліся пагоні: вось-вось, думалі, немцы кінуцца шукаць бацьку. Потым страх наш пачаў крыху сціхацца.

— Можа, ім там не да мяне,— суцяшаў сам сябе і нас бацька.— Адрас мой мог за час вайны сто разоў загубіцца...

Нам хочацца верыць, што так яно і было. Гэтулькі народу сагналі на вайну і нашы, і немцы, ці ж можа хто

помніць пра іх або хаваць іх хатнія адрасы. Але кожны стук на вуліцы, кожны незнаёмы голас палохалі не толькі бацьку, а і ўсіх нас.

Не, думаў я, трэба, канешне, шукаць Гарасіма Аляксеевіча. Толькі ён адзін можа дапамагчы нам. Асцярожна я пачаў загаварваць з бацькам пра партызанаў. Расказаў яму пра бальшавіцкую лістоўку, да якой я меў дачыненне, пра турму, спаленую партызанамі.

— Вот гэта людзі! — радаваўся бацька пачутаму.— Не здаюцца немцам. А я сяджу тут, як мыш у цёмнай нары, і чакаю, пакуль яны цябе зноў схопяць... Эх!..— цяжка ўздыхаў ён.— З ахвотаю пайшоў бы да гэтых людзей. Але дзе іх шукаць?

Я, вядома, пакуль што не гаварыў яму пра Ячэню, на якога моцна спадзяваўся. Ячэня жыў у мястэчку на Свінной вуліцы, і я ўжо збіраўся ў наступную нядзелю, калі панясу венікі на рынак, пабыць у яго. І раптам стараста прынёс мне пісьмо.

Было гэта ў пятніцу адвячоркам. Мы з Юзікам толькі што вярнуліся з балота з вязкамі хворасту за плячыма. Не паспелі яшчэ зайсці ў хату, як убачылі каля варот старасту Палікара.

— Табе пісьмо, Пятрусь,— сказаў ён, паказваючы здалёк сіні канверт.— Дырэктар вучылішча прасіў перадаць у рукі. Мусіць, нешта важнае.

Нейкая няясная трывога ахапіла мяне: што за пісьмо? Я ўзяў яго, падзякаваў старасту. Адышоўся крыху і расрыў канверт. У ім была кароткая запіска такога зместу:

«Вучню першага класа Вышэйшага пачатковага вучылішча Пятру Валовічу.

З атрыманнем гэтага прапаную вярнуцца ў вучылішча для далейшай вучобы. Ад платы твае бацькі вызвалены па беднасці.

Дырэктар вучылішча *П. К. Міхайлоўскі*»

«Што ж мне цяпер рабіць? — захваляваўся я.— Радавацца ці смуткаваць? Ну, добра, вярнуся я ў вучылішча. А хто мяне карміць будзе? Хто будзе памагаць сям'і?»

Увесь вечар думалі-гадалі мы, як быць. Не толькі мне — усім хацелася, каб я вучыўся. Застаўся які месяц. А так цэлы год прападзе.

— Можа, як пражывём,— сказала нарэшце маці.—

Скора шчаўе пойдзе, крапіва. Карэнне аеру будзем варыць. Ядзю за няньку аддамо. У мястэчку такіх бяруць. Пойдзеш, дачушка?

Ядзя пакорліва кіўнула галавою.

— Ты ўжо не маленькая. Што ж зробіш...

Маці паднесла фартух да сваіх слязлівых вачэй.

— Юзік з бацькам, можа, што на веніках заробяць,— гаварыла яна далей.— А я пайду людзям памагаць. Ды і дома работа знойдзецца. Сеяць няма чаго, а картоплі пасадзім, апошніх не будзем есці. Агарод зробім. Насення я назапасіла летась — і капуснага, і бураковага, і маркоўнага. Паспрабую схадзіць да сваякоў — ці не памогуць чым-небудзь.

Пасля гэтых матчыных слоў у мяне крыху адлягло ад сэрца.

— У нядзелю я таксама магу насіць венікі на рынак,— сказаў я.— Цяпер жа суха, дарога добрая.

Бацька слухаў нас моўчкі. Але я разумеў, як нялёгка было яму маўчаць. Чым ён мог дапамагчы сваёй сям'і? Ён жа добра ведаў, што наадварот — яму патрэбна гэтая дапамога, што мы вымушаны дзяліцца з ім апошнім кавалкам. Вярнуцца назад у палон ён ужо не меў сілы. Выйсці з хаты і паказацца людзям? Таксама ўсё яшчэ не адважваўся. А раптам стараста ці яшчэ які непрыяцель пацікавіцца: па закону ты вярнуўся з палону ці не? Напалоханы партызанамі камендант Герштэль сочыць цяпер за кожным падазроным, а тым больш новым чалавекам. Усюды завёў сваіх шпікоў.

Назаўтра я пайшоў у вучылішча. Сябры сустрэлі мяне гэтак жа радасна, як і я іх. Але дзень цягнуўся марудна. Я дрэнна слухаў настаўнікаў, а ўсё думаў пра бацьку і пра Ячэню: як і калі пагаварыць з ім па шчырасці? Ён усё ведае. Ён скажа, дзе шукаць Герасіма Аляксеевіча. Але ж перапынку для такой гаворкі мала, ды і няма зручнага месца. Лепш, відаць, схаджу да яго дахаты.

Дачакаўшыся канца ўрокаў, я падышоў да Ячэні і сказаў:

— Я праваджу цябе, Валодзя. Добра?

Ячэня развёў рукамі:

— Цікава. Мы як згаварыліся. Я толькі што хацеў сам табе гэта сказаць.

Я пакінуў свае кніжкі ў інтэрнаце і пайшоў з Ячэнем.

— Ведаеш,— сказаў ён,— калі мы апынуліся адны на

ціхай Свіной вуліцы,— я ўжо збіраўся ісці да цябе ў тваю Галынаўку.

— Чаго?

— Ёсць справа. І вельмі важная.

І ён цішком расказаў мне, што Гарасім Аляксеевіч перадаў яму сорак рублёў — для сваёй сям'і і для мяне.

— Дзесяць рублёў з гэтых грошай ты вазьмі сабе, а трыццаць аддай Гарасімавай жонцы. Як яе зваць?

— Надзя.

— Ну, вось цяпер буду ведаць, а то я і забыўся папытацца ў Гарасіма, як завуць яго жонку. Сам Гарасім сказаў падзяліць гэтыя грошы па-роўнаму. А я так думаю: вы з братам хоць што-небудзь заробіце на сваіх веніках. А Гарасімава сям'я што дзе возьме?

— Вядома,— згадзіўся я.— Ім цяжэй, чым нам. Але адкуль у Гарасіма Аляксеевіча грошы? Ён жа не на службе?

— У багатых бяруць.

— Як?

— Гэта ўжо іх справа. Але я думаю, што апрача падаткаў з багатых ім памагаюць і нашы.

— Хто — нашы? — не зразумеў я.

— Ну, не мы ж з табою,— усміхнуўся Ячэня.— Савецкая Расія — вось хто ім памагае і грашыма, і зброяй.

Ячэня прывёў мяне ў стары, асунуты ў зямлю домік, што стаяў на канцы Свіной вуліцы, пры лесе. У ім былі два пакойчыкі, перагароджаныя дошкамі, і кухня з вялікай печчу. У адным з пакойчыкаў Ячэнеў бацька — барадаты мужчына сярэдніх гадоў з драўлянаю нагою — займаўся сваёй шавецкай работаю. У другім стаялі ложкі, засланыя стракатымі посцілкамі, і невялічкі столік, на якім змяшчалася ўся Валодзева вучнёўская гаспадарка. Маці яго памерла, і яны жылі тут з бацькам удвух.

Ячэня прысеў на табурэтку, адамкнуў скрынку свайго вучнёўскага століка, дастаў з яе грошы і падаў мне.

— А можа, ты лепш прынясі іх заўтра ў вучылішча,— сказаў я.— Пасля ўрокаў аддасі.

— Баішся, каб не ўкралі?

— Стала ж з замком у мяне няма...

— Ну, добра.

Ячэня палажыў грошы назад і замкнуў скрынку.

— І ведаеш, што яшчэ сказаў твой Гарасім Аляксеевіч?

Я паціснуў плячыма.

— Перадаваць хлопцам і маладзейшым мужыкам, якім можна верыць, каб ішлі да партызанаў.

— Куды? — падхапіў я, узрадаваны пачутым.

— У пушчу.

— Пушча вялікая. Дзе іх там шукаць?

— Няхай ідуць да лесніка Яловіка.

— І ўсё?

— Не. Трэба ведаць пароль.

— Які пароль?

— Ну, умоўны знак, сігнал. Ён такі: пасля звычайнага прывітання сказаць: «Ці не маеш, чалавеча, або дзядзька, тытуню закурыць?» Ляснік запытаецца: «А які ты тытунь уважаеш — мультан, турэцкі, бесараб?» Трэба сказаць: «Бесараб, калі маеш». Пасля такой гаворкі Яловік прыме цябе, як свайго чалавека, і зробіць што трэба. Зразумеў?

Я прызнаўся Ячэню, што ў мяне ўжо некаторыя хлопцы з нашай Галынаўкі пыталіся, як трапіць да тых смелых людзей, што спалілі турму.

— Вось ты і скажы ім, што пачуў. І яшчэ: у каго знойдзецца хоць якая зброя — няхай бяруць з сабою. Там яна спатрэбіцца.

Сказаць яму пра бацьку ці не? — думаў я. А ў самога як гара з плеч звалілася: бацька ж першы, хто з нецярплівасцю чакае гэтай сустрэчы з Гарасімам і яго сябрамі. Ён жа зноў стане ў строй, як салдат, толькі ваяваць будзе не за веру і цара, а за сябе, за сваю сям'ю, за сваю зямлю. Такая вялікая мэта не стаяла перад ім, калі яго выгналі пад нямецкія кулі тады, у чатырнаццатым годзе.

— Ну, а як зробіш гэта,— сказаў Ячэня,— будзеш мець новае заданне. Толькі яшчэ раз напамінаю: строга трымаць тайну! Кожны свой крок абдумваць. Помні пра Герштэлевых шпікоў. Яны страшныя ўсюды, а яшчэ страшнейшыя, калі трапяць да партызанаў...

Сустрэча з Ячэнем у гэты раз так акрыліла мяне, што мне хацелася спяваць ад радасці. Я адчуў сябе іншым чалавекам. Я далучаўся да справы, якая была вышэй і важней за ўсе іншыя.

Увечары я пабег дахаты. Паклікаў бацьку ў яго схованку і сказаў, што пачуў ад Ячэні.

— Я добра ведаю Яловіка,— сказаў узрадаваны бацька.— Я пайду да яго.

— Але без пароля ён не пусціць цябе да партызанаў. Так што запамінай добра пароль.

— А што тут запамінаць. Вельмі лёгка. Я ж курэц — усе гатункі тытуню ведаю. Не саб'юся. Я думаю, чакаць не буду. Скажу мацеры, каб сабрала што з адзення, і пад дзень пайду. Так, каб раніцай быць у Яловіка.

— Як знаеш, бацька,— сказаў я.— Там будзеш сярод людзей. Бо хто ведае, што чакае цябе дома.

— Але, але, сынок,— хваляваўся бацька ад добрай навіны.— Я пайду. Мне тут цяжка...

— А пра нас, бацька, не думай.

І я расказаў яму пра грошы, якія пераслаў Гарасім для сваёй сям'і і для мяне.

— Добры ён чалавек,— сказаў бацька.— Да яго я з вялікай душою пайду.

— Перадай жа хоць яму дзякуй за грошы. Скажы, што скора я падашлю ім нашых хлопцаў.

— Як гэта ты падашлеш? — не зразумеў мяне бацька.

— А так, што яны таксама хочуць да Гарасіма. Ды не ведаюць да яго дарогі.

Бацька прыгарнуў мяне да сябе і сказаў:

— Добра, сынок, памагай нам. Толькі будзь асцярожным. А мы там спаць у шапку не будзем.

У тую ж ноч бацька пайшоў у пушчу.

## ШАКАЛЫ

Пра польскіх легіянераў і іх верхавода, генерала Доўбар-Мусніцкага, гаворкі ў нас вяліся даўно, хоць іх саміх мы яшчэ і не бачылі. Я чуў пра іх і ад Гарасіма. І добра запомніў, хто такі гэты Доўбар і чаго ён хоча. Сам ён паляк. Быў царскім генералам. Ваяваў з японцамі, потым з немцамі. Летась Керанскі сфарміраваў асобны польскі корпус і паставіў на чале гэтага корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага.

Ну, пакуль кіраваў Расіяй Керанскі, Доўбар маўчаў. А прыйшла Савецкая ўлада, выскаліў свае панскія зубы. Ваяваць супраць немцаў не захацеў. Пайсці ў адстаўку — таксама. Загадаў Вярхоўнага камандавання не прызнаваў, а патрабаваў, каб Беларусь далучылася да будучай польскай дзяржавы. Вядома, як польскія, так і нашы паны і падпанкі лічылі яго сваім лепшым абаронцам ад бальшавікоў і памагалі яму.

Адчуўшы такую сілу за сабою, Доўбар узняў мяцеж супраць Савецкай улады і ў канцы студзеня рушыў свае войска на Магілёў, Бабруйск, Рагачоў, Асіповічы... Савецкаму камандаванню нічога не заставалася, як распачаць вайну з мяцежным генералам.

Вайна цягнулася цэлы месяц. Разбіты атрадамі Чырвонай гвардыі, корпус Доўбар-Мусніцкага дажываў апошнія дні, калі немцы, парушыўшы перамір'е рушылі на ўсходнюю Беларусь. Недабіты генерал Доўбар кінуўся ім у абдымкі. Ён памагаў немцам наводзіць у нас свае парадкі і разам з імі грабіў нашы гарады, мястэчкі і вёскі.

Пакуль яшчэ было што грабіць, новыя прыяцелі сяктак мірыліся. Потым, ужо вясною, пайшлі чуткі, што сяброўства ў немцаў з легіянерамі разладзілася, і цяпер яны грызуцца між сабою, як тыя шалёныя сабакі.

Неяк ужо ў канцы мая мы гэта ўбачылі на свае вочы.

На мястэчка наляцелі ўланы з корпуса Доўбар-Мусніцкага. Было іх чалавек дваццаць, калі не больш, конных і пяць павозак на жалезным хаду. Прымчаліся яны аднекуль з-пад Бабруйска ці з-пад Асіповіч, хто іх ведае. І хоць яны ўварваліся ў мястэчка не з заходняй дарогі, дзе было наша вучылішча, чутка пра іх маланкай далятцела і да нас. Многія з нас адракліся ад урокаў ды пабеглі глядзець, што там за дзіва — гэтыя легіянерскія ўланы? Разам з хлопцамі пабег і я.

Уланы спыніліся каля нямецкай камендатуры, папрывязвалі коней да шчыкетаў, а самі разміналі ногі, размахваючы нагайкамі. Відаць, не блізкая была іх дарога. Апрануты яны былі не так, як нашы салдаты. На іх былі цёмна-чырвоныя кароткія сурдуцікі са шнурамі на грудзях і на пагонах, сінія штаны з лампасамі, запраўленыя ў боты са шпорамі. На шапках з белым арлом — белыя гусіныя пер'і. У кожнага за плячыма карабін, а пры боку — шабля ў ножнах. Усе маладыя, з добрай салдацкай выпраўкай. Яны ажыўлена размаўлялі паміж сабою, гучна рагаталі, але мы блізка да іх не падыходзілі — баяліся, і таму не чулі іхняй гаворкі.

Неўзабаве з камендатуры з крыкам выскачыў, размахваючы рукамі, уланскі афіцэр з вострымі чорнымі вусікамі і доўгімі бакенбардамі на пунсовых шчоках. За ім выбеглі кароценькі камендант Гершталь у цёмных акулярах і Пятровіч. Гершталь таксама нешта крычаў. Пятровіч

маўчаў, надзьмуты як індык. Па ўсім відаць было, што размова ў гэтых паноў не была прыемнай.

Афіцэр падняў руку да уланаў.

— Панове, ходзь тутай! — паклікаў іх да сябе.

Уланы падбеглі, акружылі яго.

Праз момант каля прывязаных коней засталіся толькі вартавыя. Астатнія паселі на павозкі. На першую павозку ў гэтым абозе сеў афіцэр і запрасіў Пятровіча.

— Проша, пан старшыня, паказвай нам самых багатых сваіх мяшканцаў [1]. Толькі глядзі ў мяне...— пагразіў яму нагайкаю.

Вінавата лыпаючы на збянтэжанага Гершталя, тоўсты Пятровіч нехаця палез на павозку.

Неўзабаве адна павозка спынілася каля купца Залмана, другая — каля папа Феафана, побач з царквою, трэцяя — каля сальніка Зяньковіча, чацвёртая — каля рабіна. Пятую Пятровіч павёў недзе аж за мястэчка, відаць, да млынара Еселя.

Не паспелі уланы забегчы ў дамы, як адтуль пачуліся плач і крыкі. Першыя выбеглі на вуліцу Залманавы дзеці.

— Гвалт! Ратуйце! — галасілі яны.— Тату б'юць...

Людзі, як і мы, спачувалі ім, але ніхто не кінуўся ратаваць іх тату. Што мы маглі з голымі рукамі зрабіць гэтым разбойнікам?

Потым узняла крык пападдзя. За ёю — немалая сям'я сальніка. Ціха было пакуль што толькі каля дома рабіна. Відаць, уланы паладзілі з ім без разбою.

Бачым, цягнуць уланы на вуліцу старога Залмана. Прывязалі да павозкі, лупяць нагайкамі.

— Злота давай, юда! — крычаць.

Залман калоціцца як у ліхаманцы, ледзьве трымаецца на нагах.

— Паночкі, няма больш... Усё аддаў. Каб я так жыў...

— Лжэш, юда!

І зноў лупяць яго нагайкамі па чым папала. Аж страшна глядзець.

Залманава жонка і дзеці кідаюцца яму на дапамогу. Іх таксама хвошчуць нагайкамі. Тыя крычаць на чым свет.

Мы глядзім на ўсё гэта, і нас калоціць ад злосці, як старога Залмана.

---

[1] Мяшканцы — жыхары *(польск.)*.

— Ну і гады! — сціскаюць кулакі хлопцы.— Такія ж, як немцы.

— Не, тыя яшчэ Залмана не білі. Гэтыя, відаць, горшыя і за немцаў.

Нарэшце уланам надакучыў аднастайны занятак, і яны паехалі да камендатуры з прывязаным да павозкі Залманам. Туды ж вярнуліся і астатнія павозкі. Да адной з іх быў прывязаны і наш настаўнік закона божага Феафан Дамінікоўскі. Яго мы не любілі, як і Паўла Кірылавіча. Але не любілі больш за яго школьны прадмет, чым як чалавека. Пасля таго як мы пажылі пры Савецкай уладзе, мала хто з нас верыў і закону божаму, і таму, хто гэты закон удзёўбваў нам у галовы. Поп Феафан гэта разумеў і надта да нас не чапляўся, двоек не ставіў, так што ўсё абыходзілася добра. Цяпер жа, калі мы ўбачылі яго перад гэтымі фанабэрыстымі пеўнямі-уланамі, нам стала шкада яго.

Пакінуўшы павозкі на вартавых, уланы разбегліся па мястэчку. Плач і крык чуліся то ў адным, то ў другім двары. Налётчыкі стралялі курэй, цягнулі сала і каўбасы, а некаторыя і што лепшае з вопраткі, дарагія посцілкі і дываны... Падбягалі да стрэх з запалкамі і патрабавалі выкуп за тое, што не падпаляць дом.

Нагуляўшыся так па мястэчку, уланы вярнуліся да камендатуры. Тут Герштaль зноў распачаў сварку з уланскім афіцэрам. Ён патрабаваў, каб уланы пакінулі палавіну здабычы яму: гэта мы разумелі і без перакладчыка. А раззлаваны уланскі афіцэр выстаўляў яму фігу: «На выкусі! Ты сам сабе награбіш!» — такі сэнс мелі тыя словы, якімі ён падмацоўваў сваю фігу.

«Ты — злодзей! Крадзеш тое, што належыць майму кайзеру. Я скардзіцца буду. Мы разгонім ваш разбойніцкі корпус разам з самім Доўбар-Мусніцкім!» — так можна было перакласці адказ каменданта Гершталя на фігу уланскага афіцэра.

За гэтай зацятай сваркай моўчкі наглядалі збоку Пятровіч і Ліпай. Што ім яшчэ заставалася рабіць? Ніякай улады ні над немцамі, ні над уланамі яны не мелі. Яны былі радавымі слугамі тых, хто меў сілу.

Накрычаўшыся з Гертшалем, афіцэр загадаў паставіць папа і Залмана да сцяны. Але тут ён убачыў перад сабою Залманаву жонку з працягнутаю рукою, у якой блішчалі чырвонцы.

— Паночак, яшчэ дваццаць рублёў знайшла...

Афіцэр узяў грошы і сказаў уланам Залмана пусціць на волю.

— А ты,— звярнуўся ён да папа,— дзе злота хаваеш?

Поп рашуча трос сваёю рыжаю барадою, хрысціўся і кляўся ўсімі святымі, што больш золата ні ў яго, ні ў царкве няма...

— Ну, няма злота, няхай не будзе і папа Дамінікоўскага... Гэй, Янэк, Болесь! — клікнуў ён уланаў, што стаялі бліжэй.— Адпраўце папа Дамінікоўскага да пана бога грахі замольваць!

Янэк і Болесь навялі на папа карабіны. Той спехам пачаў хрысціцца. Але не паспелі Янэк і Болесь разрадзіць свае карабіны, як да афіцэра падбегла, засопшыся, тоўстая пападдзя.

— Пан афіцэр! Вось усё, што магла сабраць у веруючых!

І яна, як і Залманіха, падала яму некалькі чырвонцаў.

Афіцэр перакінуў іх з рукі на руку, пакруціў галавою:

— Мала!

— Няма, панок, больш... Няма...

І пападдзя, збялеўшы, асунулася на зямлю.

— Ну, д'ябал цябе бяры! Янэк, Болесь, вруць на месца! А ты, святы айцец, прэч з вачэй!

Поп падбег да сваёй матушкі, якая адразу ж ажыла, як пачула апошнія словы афіцэра, падняў яе і рвануў дадому, не азіраючыся.

Гершталь усё яшчэ таргаваўся з афіцэрам. Ён пагражаў нават пусціць у ход зброю, паказваючы на сваіх салдатаў і паліцэйскіх, чалавек дзесяць якіх круціліся тут побач: відаць, больш не было на гэты час у самім мястэчку. Уланы гэта бачылі і не звярталі ўвагі на сваіх супернікаў.

Пад вечар яны пакінулі ўстрывожанае мястэчка. Павозкі іх былі поўныя ўсялякага дабра, а ў кішэнях афіцэра звінелі залатыя дзесяткі і пяцёркі. Налёт для іх быў удалы, што і казаць. Там, каля Бабруйска, такой багатай спажывы ўжо не было. І гэта вымусіла іх пусціцца ў далёкі рэйс.

Мне хацелася пагаварыць з Ячэнем: што ён думае пра налёт уланаў? Але Ячэні з намі не было. Ён знік яшчэ тады, калі мы прыбеглі сюды з вучылішча.

Мы вярнуліся ў інтэрнат і доўга яшчэ не маглі супакоіцца пасля таго, што ўбачылі. Але найбольш нас цікавіла, чаму Гершталь не даў адпору нахабнаму афіцэру польскіх уланаў. Як ён мог дазволіць яму вывезці з-пад носа гэтулькі золата і дабра? Няўжо толькі таму, што ў таго ў гэты дзень была большая сіла, чым у каменданта?

— Калі б уланы грабілі саміх немцаў, то, можа б, яны і далі адпор,— сказаў Астравух.— А другіх ім не шкада.

— Воран ворану вока не выдзеўбе,— зрабіў вывад з усёй гэтай загадкавай гісторыі Азаркевіч.— А яны не толькі вораны, і шакалы. І адзін ірве, і другі.

— Але ж Гершталь пакуль што абыходзіць багацейшых,— сказаў я.— А гэтыя шакалы і на іх напалі.

— А што яны вырвуць у бедных? — сказаў Астравух.— Лапці ды аборы. Дык з-за гэтага ехаць за блізкі свет няма рахубы. Бачыў жа, што ўсе яны сыценькія, гладзенькія, апрануты, як папугаі.

Азаркевіч пакруціў галавою, павохкаў і сказаў:

— І калі ўсё гэта скончыцца...

Але, калі гэта скончыцца? А не можа ж так быць вечна. Мы вучылі гісторыю — старую і новую — і ведалі, што без войнаў людзі не жылі. Усё ім нечага не ставала — то зямлі, то багацця, то нявольнікаў для чорнай работы, то яшчэ якой трасцы. Але ўсе войны рана ці позна канчаліся. А калі ж ужо дачакаемся мы канца гэтай страшнай вайны?

Назаўтра Ячэня прынёс у вучылішча радасную навіну: па дарозе на Бабруйск польскія уланы нарваліся на партызанскую засаду... Большая палавіна іх перабіта, і ўсе павозкі з дабром трапілі ў рукі партызанаў... Загінуў і афіцэр з награбленымі чырвонцамі.

Пасля гэтага Валодзя Ячэня стаў у нас самым жаданым і блізкім сябрам. Мы кожны дзень распытвалі ў яго, ці не пачуў ён там, на сваёй Свіной вуліцы, яшчэ якую важную навіну.

Але дзе яму было набрацца такіх навін на кожны дзень?

## СВАЕ СВАІХ НЕ ПАЗНАЛІ

Неспадзяваны налёт польскіх уланаў на мястэчка лішні раз напомніў Гершталю, што ён занадта рызыкоўна распыліў свае сілы па ўсёй воласці. Быў бы гарнізон у

зборы, пад рукою, грабежнікі-уланы не адважыліся б так бесцырымонна выхапіць багатую здабычу проста ў яго з-пад носа. Гершталь ведаў, што ў таго-сяго з местачкоўцаў яшчэ не звялося золата, але ён пакуль што абыходзіў іх. Яны ж былі тут лепшай апорай і самога каменданта, і ўсяго нямецкага парадку.

Давалі Гершталю знаць аб сабе і партызаны. А іх смелы напад на уланаў па дарозе на Бабруйск і зусім устрывожыў яго. Гэтак жа рана ці позна яны могуць напасці і на самога Гершталя. Пры налёце на турму іх было ўсяго чалавек дзесяць. Але калі гэта было! Час ідзе, і сіла іх, напэўна, расце.

Так што Гершталю было нямала прычын чухаць сваю лысую патыліцу. І ён пачаў спехам мацаваць свой гарнізон. Папаўнення яму ўсё яшчэ не прысылалі, і ён спадзяваўся цяпер толькі на паліцыю, якую загадаў Ліпаю падвоіць, а калі ўдасца, то і патроіць. Сваіх салдатаў сабраў у гарнізон, бліжэй да сябе. І кожны дзень страшыў іх партызанамі — глядзіце ў мяне на ўсе вочы. Партызан — гэта не салдат у ваеннай форме пры поўнай амуніцыі. Ён можа стаяць побач з табою, і ты яго не пазнаеш.

Тое ж рабіў і начальнік паліцыі Ліпай — яму таксама траха не кожную ноч сніліся страшныя партызаны. Раніцай пасля такога неспакойнага сну яго калаціла ліхаманка, пакуль ён не заглушаў сваёй трывогі моцным самагонам.

Самагоншчыкаў і ў вёсках, і ў мястэчку хапала, і ўсе яны вымушаны былі даваць Ліпаю і яго памочнікам пэўную даніну.

Усе пра гэта ў нас ведалі і гаварылі.

І вось у адзін з такіх неспакойных дзён начальніку паліцыі і яго кампаніі не хапіла самагонкі. Ён паслаў двух сваіх служкаў на Свіную вуліцу да самагоншчыка Булыгі.

— У яго яна не зводзіцца,— сказаў ён сваім пасланцам.— Вы толькі прыпрыце яго да сценкі як след, калі будзе хлусіць!

Пасланцы зрабілі, як казаў ім начальнік, нацадзілі з запасаў Булыгі цэлы бусак гарэлкі, напіліся самі і рэшту неслі свайму заказчыку.

Было гэта позна вечарам. Стаялі сходнія дні. Хмарылася. Густая цемень закрыла ўсё мястэчка. Толькі дзе-нідзе праз шчыліны аканіц прабіваліся кволыя палоскі

святла ад лямпаў і газовак. Ліхтароў на вуліцах не было. Шлях паліцэйскіх ляжаў праз рынaчную плошчу, каля якой размяшчалася Герштaлева камендатура. Не толькі ўночы, а і ўдзень людзі баяліся сюды і блізка падыходзіць. А тут вартавы раптам бачыць — проста на яго сунуцца з цемры два чорныя цені... Ён працёр вочы — цені зніклі. Значыць, не здані гэта...

— Хальт! — крыкнуў ён, ускінуўшы вінтоўку.

Цені нешта замармыталі, але не спыніліся: вядома, п'яным і мора па калені.

— Партызант! — зароў на ўсё горла перапалоханы вартавы і стрэліў у цені.

Адзін цень пахіснуўся і ўпаў вобземлю.

— Стой, пудзіла гарохавае! — закрычаў другі цень.— У каго страляеш? У сваіх страляеш!

«Пудзіла гарохавае» нічога з яго гаворкі не зразумела і стрэліла другі і трэці раз... Другі цень таксама задраў ногі. Чуваць было толькі, як трэснуў, разбіўшыся на бруку, каля яго бусак самагонкі.

Тым часам, пакуль вартавы ваяваў з п'янымі паліцэйскімі, камендант падняў па трывозе свой гарнізон, а Ліпай — свой, з другога канца рыначнай плошчы.

— Партызант, партызант! — усё яшчэ крычаў на плошчы ашалелы ад страху вартавы.

— Дзе партызант? Хто партызант? — накінуўся на яго камендант.

— Там,— тыцнуў вартавы вінтоўкаю ў густую цемень перад сабою.

— Агонь! — скамандаваў Герштaль.

Немцы адкрылі дружны агонь.

Ліпай падумаў, што на камендатуру напалі партызаны.

— Агонь па партызанах! — загадаў ён свайму войску.

Паліцэйскія таксама дружна адказалі на агонь немцаў. Ліпай жа добра помніў, як прабіраў яго камендант за турму, спаленую партызанамі. Не, цяпер ён ім пакажа, гэтым партызанам. Тады ён не меў такой сілы, як зараз, і таму ад страху не мог нават каманды падаць як належыць.

Адным словам, стараліся і тыя, і другія, пакуль не расстралялі ўсе свае запасы патронаў.

Калі страляніна прыціхла, Ліпай падаў баявы кліч на атаку:

— Урра! За мною!

— Урра! — падхапілі гэты кліч і ўсе яго ваякі.

Пачуўшы грознае «ўра», Гершталь не кінуўся наўцёкі, а таксама даў каманду на контратаку.

Ворагі схапіліся не на жыццё, а на смерць: білі адзін аднаго прыкладамі, калолі штыкамі, душылі за горла, качаліся па зямлі...

І ўжо, калі добра намялі бакі адзін аднаму, Гершталь пачаў нарэшце пазнаваць у агульным вэрхале бою знаёмы Ліпаёў голас. Дык вось з кім ён схапіўся!

— Ліпай! — закрычаў ён, перасільваючы шум бойкі.— Ты што, нягоднік, партызанам прадаўся?!

Для Ліпая гэты голас прагучаў як гром з яснага неба. Адразу ўвесь хмель з галавы выскачыў.

— Хлопцы, выходзь з бою! — даў ён каманду.— Не таго б'ём, каго трэба.

І сам, прыпадаючы ад страху, падаўся на голас Герштался.

Раніцай счарнелы ад злосці Гершталь пастроіў рэшткі сваіх салдатаў і паліцэйскіх перад камендатурай, прачытаў кароткі прысуд здрадніку Германскай імперыі Ліпаю і сам застрэліў яго. Ліпаёвай адгаворкі, што ён шчыра ратаваў камендатуру ад нападу партызанаў, Гершталь пад увагу не ўзяў. Пабітых немцаў пахавалі за мястэчкам у асобных магілах, а паліцэйскіх і іх начальніка звалілі ў адну яму.

Мы, як і ўсе ў мястэчку, у тую ноч не спалі. І аж млелі ад цікаўнасці, што там робіцца на рыначнай плошчы. Але нават самыя смелыя не адважваліся бегчы туды ў разведку, бо кулі часам далятаалі і да нашага вучылішча. Затое колькі было гаворак потым! З гэтых гаворак і склаўся ясны малюнак памятнага начнога здарэння ў нашым мястэчку, пра якое я тут расказаў.

Калі верыць Ячэню, то трохі памаглі біць Гершталя і партызаны-падпольшчыкі з самога мястэчка. Да гэтага я думаў, што партызаны жывуць недзе далёка ад нас, у пушчы. А Ячэня прызнаўся мне, што ёсць яны і тут, сярод нас.

— Пачуўшы страляніну,— казаў ён,— местачковыя партызаны падумалі, што гэта іх лясны атрад напаў на немцаў. Схапілі, у каго якая была, зброю і кінуліся на плошчу. І тут — збоку відней, як кажуць,— хутка разабраліся, што ваююць немцы з паліцэйскімі... Значыць,

падумалі яны, Ліпай знарок напаў на камендатуру. Значыць, ён таксама падпольшчык... Як жа разумець інакшай? І пачалі самі смаліць па немцах — памагаць свайму «саюзніку» Ліпаю. А як скончылася вайна, цішком адступілі ў сваё падполле. Вось чаму немцы мелі страты траха не ў два разы большыя, чым паліцэйскія.

Праз тыдзень Гершталь атрымаў за гэты бой баявы жалезны крыж... Усе дзівіліся гэтаму. Але ніякага дзіва тут не было. Ён жа напэўна рапартаваў свайму начальству, што разбіў і партызанаў, і здрадніка Ліпая з яго паліцэйскім атрадам. А хто будзе разбірацца, як яно там было...

Аднойчы пасля ўрокаў Ячэня затрымаў мяне.

— Хачу табе паказаць адно пісьмо...— сказаў ён.— Вельмі важнае пісьмо.

Ён выняў з кішэні лісток, спісаны роўнымі дробнымі літарамі, і падаў мне. Я агляну́ўся — нікога блізка не было. Пачаў чытаць:

«Грамадзяне паліцэйскія! Гэтае пісьмо пішуць вам партызаны. Як бачыце, мы нават назвалі вас добрым іменем — грамадзяне, хоць, калі праўду казаць, вас можна назваць толькі іудамі. Вы прадаліся лютаму ворагу свайго народа — нямецкаму кайзеру. Апомніцеся, пакуль не позна. Кідайце сваю сабачую службу! Хто гэтага не зробіць, тых чакае бясслаўная смерць ад нашых куляў. Доўга цярпець вас мы не будзем.

*Галоўны штаб валаснога партызанскага атрада».*

— Ты што — сам напісаў? — запытаўся я.

— Хто напісаў — няважна,— сказаў Ячэня.— Важна, як перадаць паліцэйскім гэтае пасланне. Знаёмых жа прыяцеляў там ні ў цябе, ні ў мяне няма.

Я ўспомніў бальшавіцкую лістоўку. А што, калі і цяпер так зрабіць?

— Давай,— кажу я,— перапішам штук дзесяць такіх лісткоў тайнымі почыркамі ды развесім кругом паліцэйскага ўчастка. А можа, і на хатах бацькоў гэтых паліцэйскіх?

— Добра,— адразу згадзіўся Ячэня.— Няхай чытаюць сабакі і розуму набіраюцца.

— А каб скарэй усё зрабіць, адкрыем гэты сакрэт і нашым хлопцам. Яны памогуць.

— Добра,— зноў ахвотна згадзіўся Ячэня.— Бяры ты,

Пятрусь, гэтую работу сабе. У мяне зараз іншае, таксама вельмі важнае заданне... Толькі глядзі, будзь асцярожны. Ды што цябе вучыць. Гарасім кажа, ён верыць табе, як самому сабе.

— Гарасім праўду кажа,— пацвердзіў я.

Я схаваў партызанскае пісьмо ў кішэню і пайшоў у свой інтэрнат.

## Я ІДУ НА РЫЗЫКУ

Партызанскае пісьмо доўга ў нас не заляжалася. Пасля чарговай нядзелі мы ўжо не толькі ўпрыгожылі ім агароджу паліцэйскага ўчастка, а і ўсе слупы, дзе камендант Гершталь вывешваў свае загады, і нават помнік каралю Казімежу. Не толькі ж самім паліцэйскім цікава прачытаць такое важнае пісьмо,— няхай прачытаюць яго і ўсе добрыя людзі. А тыя, хто яшчэ збіраецца на сабачую службу да немцаў, няхай наматаюць сабе на вус.

Цяпер мы — гэта значыць, я, Астравух, Азаркевіч і Драздовіч, якога дырэктар таксама вярнуў у вучылішча,— думалі-гадалі, як знайсці адрасы бацькоў паліцэйскіх. Самі мы ведалі толькі тры такія сям'і.

— Калі мы чацвёра ведаем тры,— пачаў гадаць Азаркевіч,— то і другія чацвёра нашых суседзяў ведаюць не менш. А гэта значыць...

— ...што мы,— падхапіў я, здагадаўшыся, куды кіруе Азаркевіч,— не выходзячы з вучылішча, можам даведацца, што нам трэба... Гэта ты хочаш сказаць?

— Толькі гэта.

І мы ўхапіліся за работу. Тым, хто цікавіўся, навошта нам патрэбны адрасы паліцэйскіх, адказвалі, што мы, бачыш, такую гульню наладзілі... Дурная гульня, але лепшай мы не прыдумалі.

І, трэба сказаць, што гэтая дурная гульня давала нам усё больш і больш выйгрышаў. Хутка мы сабралі каля двух дзесяткаў адрасоў.

Але тут прыйшлі экзамены. Гульню давялося спыніць. Ячэня гэтаму не пярэчыў.

— Пачакаем,— сказаў ён,— можа, гэтыя дурні і без бацькоў паразумнеюць. У мяне зараз другое заданне — яшчэ важнейшае... Не ведаю, як да яго і прыступіцца.

Я ўтаропіўся на Ячэню: цікава, што там за новае заданне?

— Ты не чуў, хто добра ведае нямецкую мову? — запытаўся ён у мяне.

— Як — хто? Лізавета Адамаўна. Ты што — забыўся пра сваю настаўніцу?

— А хто яшчэ?

— З настаўнікаў?

— З каго б ні было.

— Не,— адказаў я з жалем,— не ведаю. Можа, мой бацька хіба? Я нават не паспеў распытацца ў яго пра гэта.

— Ён ведае не больш, чым мы з табою.

— Адкуль ты ўзяў?

— Усё адтуль жа...

Ячэня расказаў мне, што партызаны напісалі пісьмо і нямецкім салдатам, ды няма каму яго перакласці. Мой бацька ведае, як сказалі яму, толькі тыя словы, якія чуў на ферме ў багатага немца. А ў пісьме іншыя словы.

— Дык Лізавета Адамаўна...— зноў напомніў я.

Ячэня пацёр свой круглы лоб.

— Па-першае,— сказаў ён,— ці згодзіцца яна... А падругое, Герштэль адразу здагадаецца, хто перакладаў. Дык што ты хочаш, каб ён павесіў нашу настаўніцу?

— Гм... Праўда твая. Але ж не можа быць, каб нікога больш не было. Давай будзем шукаць.

— Як шукаць? Гэта ж не рэч, якую мы згубілі.

— Ну, распытваць будзем.

— А калі не распытаем?

— Тады,— рашуча сказаў я,— зробім пераклад самі.

— Ты што — пры сваім розуме?

— Прыдумаем якую-небудзь гульню ў нямецкую мову,— пачаў фантазіраваць я,— і будзем распытвацца ў Лізаветы Адамаўны, як завецца па-нямецку тое ці іншае патрэбнае нам слова.

Пра гульню я ўспомніў невыпадкова — мы ж толькі што гулялі ў збор адрасоў паліцэйскіх.

— Гэта нялёгка,— сказаў Ячэня.— Заблытаемся. Трэба ж ведаць не толькі словы, а і граматыку... Бо атрымаецца ў нас мова не нямецкая, а якая-небудзь турэцкая.

— Ну і што ж. Важна, каб салдаты зразумелі, аб чым ідзе гаворка. Граматыку яны самі паправяць.

І тут мне прыйшла ў галаву новая цікавая думка.

— Давай,— кажу я Ячэню,— мы ўсё ж падумаем пра Лізавету Адамаўну. Калі яна згодзіцца памагчы нам, то

няхай зробіць пераклад абы-як. Ну, возьмем, напрыклад, любы сказ. Няхай будзе такі: «Нямецкія салдаты! Кідайце зброю, ідзіце дахаты». Паспрабуем напісаць яго абы-як: «Нямецка зольдата! Кідайт пух-пух, тэпайт у свая хата». Сэнс не страціўся, а граматыка кульгае на ўсе чатыры нагі. Герпталю і ў галаву не прыйдзе, што гэта работа настаўніцы нямецкай мовы. Падумае, такі недарэчны пераклад мог зрабіць які-небудзь малапісьменны партызанскі пісар. Потым мы гэты пераклад перамалюем крывымі каракулямі і пусцім у свет. Ну, што — дрэнна прыдумаў, скажаш?

Ячэня павесялеў.

— Ніпто. Кацялок у цябе варыць,— пастукаў ён мяне па лбе.— Ну, а калі Лізавета Адамаўна выдасць нас...

— Не веру,— упэўнена адказаў я.— За ўсе гэтыя месяцы мы не чулі ад яе ніводнага слова — ні нямецкага, ні рускага — пахвалы каменданту Герпталю і яго парадкам.

— Гэта яшчэ нічога не значыць...

— Тады прынясі ёй загад ад партызанскага штаба. Паслухаў жа дырэктар партызанаў і вярнуў мяне з Паўлюком у вучылішча. А чаму яна не паслухае?

— А хто перадасць ёй такі загад?

— А хто перадаў Паўлу Кірылавічу?

— Я падкінуў яму ў акно праз фортачку, калі ён быў адзін дома.

— Дык давай і цяпер так зробім. У пакоі Лізаветы Адамаўны таксама ёсць фортачка.

— Добра. А як яна нам назад адкіне?

Тут я зразумеў, што сказаў нешта не тое: сапраўды, як і каму яна аддасць свой пераклад. Значыцца, хочаш ці не хочаш, трэба рызыкаваць.

— Давай пісьмо,— працягнуў я руку.

— Яно яшчэ пішацца. Мне толькі сказалі шукаць перакладчыка.

— Тады няхай заадно напішуць і загад Лізавеце Адамаўне.

Дзён праз некалькі пасля гэтага пісьмо да нямецкіх салдатаў і загад Лізавеце Адамаўне былі ў мяне ў руках. У пісьме, як і раней у бальшавіцкім лістку, гаварылася пра тое, хто распачаў вайну і каму яна патрэбна. Нямецкія рабочыя і сяляне каторы год церпяць страшэнныя пакуты, а багатыя бароны з банкірамі і генераламі тужэй

набіваюць свае кішэні. Пісьмо заклікала салдатаў спыніць здзекі з нашых мірных людзей, кідаць зброю і ехаць на радзіму да сваіх бацькоў, жонак, дзяцей, якія іх даўно чакаюць. Адным словам, сама вялікая праўда гаварыла ў гэтым пісьме поўным голасам. І ад мяне з Лізаветай Адамаўнай цяпер залежала, дойдзе гэтая праўда да тых, каму яна адкрые вочы, ці не.

Пасля ўрокаў я пайшоў да Лізаветы Адамаўны.

Пакой у яе быў такі маленькі і цесны, што лішняму чалавеку і ступіць не было дзе. Зрабілі яго з нейкай кладоўкі, прарэзаўшы невялічкае акенца. Апрача пабеленай цаглянай печкі і вузкага жалезнага ложка ў гэтай былой кладоўцы змясціўся яшчэ і столік са старэнькім крэслам, а таксама драўляны сундук, падобны на куфар. Усё тут было беднае і мізэрнае. Добра яшчэ, што гаспадыня шмат месца не займала. Мар'я Васільеўна тут і не павярнулася б.

Настаўніца пасадзіла мяне на адзінае сваё старэнькае крэсла, а сама села на ложак, засланы шэрай суконнай коўдрай.

— Ну што, Пятрусь, скажаш мне добрае? — першай загаварыла гаспадыня гэтага пакойчыка.— Можа, зноў жывот забалеў?

Я засмяяўся.

— Кажы. Не саромейся. Рыцына ў мяне яшчэ не звялася. Я сама сяды-тады ёю лячуся.

Яна таксама рассмяялася добрым шчырым смехам. Аж паружавела. Гэта мяне падбадзёрыла, і я без жадных слоў падаў ёй пісьмо і загад. Яна пачала чытаць, яшчэ больш паружавеўшы. Я не зводзіў з яе вачэй. Вось-вось, думаю, затупае нагамі, закрычыць і прагоніць мяне прэч.

Прачытаўшы два лісткі, што я падаў ёй, Лізавета Адамаўна ўстала, падышла да драўлянага сундука, палажыла пісьмо на самае дно, а загад вярнула мне са словамі:

— Парві на дробныя кавалачкі і выкінь у прыбіральню... Калі б прыйшоў да мяне з гэтымі паперамі не ты, а хто іншы, я не паверыла б,— скупа ўсміхнулася яна.— Падумала б, што падаслалі немцы. А цябе я добра ведаю, Петрусёк, і веру, што ты не ад ворагаў прыйшоў. Сакратар бальшавіка Гарасіма Аляксеевіча не стане здраднікам. Так я кажу?

Я матнуў галавою ў знак згоды.

— Я рада, што партызаны мяне ўспомнілі. Так ім і

скажы. Я ўсё зраблю для іх і цяпер, і ў любы час. Ідзі. Заўтра я перадам табе пераклад.

— Толькі ж, Лізавета Адамаўна,— шаптаў я, адыходзячы,— глядзіце, не забывайце пра памылкі...

— Ды я іх нараблю колькі ўлезе. Ох, як я ненавіджу гэтых звяруг на нашай зямлі!

Шчаслівы, я пакінуў маленькі пакойчык Лізаветы Адамаўны. Можа, думаў я, і іншыя нашы настаўнікі такія ж, як і яна, толькі мы гэтага не ведаем. Можа, за гэты час змяніўся і сам Павел Кірылавіч, які так неўзлюбіў мяне. Цяпер ён сяды-тады нават сам загаварвае са мною: «Як жыццё-быццё?» — пытаецца.— «Нішто,— кажу,— Павел Кірылавіч. Скора канчаем першы клас».— «Ну, глядзі, каб троек не нахапаў!» Выходзіць, дабра мне чалавек жадае. А можа, баіцца? Больш злосных пытанняў Мар'і Васільеўне я не задаю. Яна мне — таксама. Жывём ціха і мірна. Праўда, памылкі яна робіць па-ранейшаму і досыць часта. Ды няхай сабе робіць. Абы ціха было. У мяне цяпер справы важнейшыя, чым яе памылкі.

## Я ІДУ Ў ПУШЧУ

На апошні экзамен Валодзя Ячэня не прыйшоў. Я захваляваўся: ці не здарылася з ім што? Можа, яго высачылі немцы і схапілі ў камендатуру?

Сяк-так здаўшы экзамен па геаграфіі, я заспяшаўся да Ячэні. Мне трэба ўжо на ўсё лета перабірацца ў сваю Галынаўку, а я з ім так яшчэ добра і не дагаварыўся, што буду там рабіць, калі і з кім сустракацца. Не мог жа я спакойна вязаць свае венікі. Мне хацелася ведаць, што робіцца на свеце, і рабіць нешта і самому. Я радаваўся, што мы хоць трошкі насалілі Герпталю: паліцыя валасная пасля нашых лістовак не вырасла, а яшчэ зменшылася, ды, відаць, пачалася грызня і сярод саміх немцаў, бо некаторых з іх камендант выслаў у Нямеччыну, быццам на пабыўку. А іх жа ў яго не так і многа. Ці не памаглі і тут нашы лістоўкі?

Ячэня быў дома. Ляжаў на ложку і кашляў сухім кашлем.

— Што з табою? Чаму на экзамены не прыйшоў? Захварэў, ці што? — засыпаў я яго пытаннямі.

— Захварэў, і, здаецца, моцна,— прашаптаў сарваным

голасам Ячэня.— Кашаль душыць. Галава трашчыць. Падняцца не магу — у бакі водзіць. Ну, як здаў?

— Я-то здаў, а што з табою будзе?

— Нічога. Папраўлюся, тады здам. Думаеш, не прымуць?

— Хто іх ведае...

— Хвароба — уважлівая прычына.

— А калі не паверацъ, што ты хварэў?

— Папрашу фельчара Сасноўскага — ён дасць даведку.

— Дык, можа, лепш зараз паклікаць яго? Ты не падумаў пра гэта? Бацька дзе?

— Пайшоў недзе яшчэ ўчора. Фельчару плаціць трэба,— замахаў рукамі Ячэня.

— Я схаджу да яго сам,— сказаў я.— Папрашу, каб паглядзеў цябе пакуль што без платы: у нядзелю прынясу венікі і разлічуся з ім.

Валодзя яшчэ энергічней замахаў рукамі — навошта такі клопат! Але праз нейкі час згадзіўся: відаць, моцна сціснула яго хвароба.

— Прастудзіўся на рэчцы,— сказаў ён.

— Купаўся?

— І ўчора, і пазаўчора.

— Учора холадна было. Глядзі, каб запаленне не схапіў.

Стары фельчар Сасноўскі жыў недалёка, на той жа вуліцы, і неўзабаве я прывёў яго да Ячэні. Выслухаўшы сваёю доктарскаю трубкаю хворага, ён спачувальна паківаў галавою:

— Дзе ж гэта ты, хлопец, падпаліў свае лёгкія? Купаўся, мусіць? Біць вас няма каму. Сёння ты ў мяне чацвёрты з запаленнем лёгкіх...

Ён змераў тэмпературу, паахкаў, потым сказаў мне:

— Збегай да маёй старой па банькі.

Я кулём кінуўся з хаты. І, як бач, вярнуўся з банькамі.

Пакуль банькі нацягвалі, фельчар усё бурчаў, што не шануюць сябе маладыя людзі, такія, як мы. Захацелася катораму купацца — бух у рэчку, не праверыўшы, цёплая вада ці халодная. А калі дарваўся да рэчкі, то плюхаецца ў ёй да самых дрыжыкаў. Або: на двары халадэча, мокра, адна вільгота, а такія, як мы, рызыканты гуляюць сабе босыя, у адных кашулях. Усё гэта гаварылася пра нейкіх

маладых людзей, але мы лёгка здагадваліся, хто гэтыя людзі.

Зняўшы банькі, якія счарнілі ўсе плечы Ячэню, фельчар выпісаў рэцэпт на мікстуру ад кашлю, патрос сваёю трубкаю перад носам хворага і строга сказаў:

— Не ўставаць з пасцелі. Чуеш? Праз тры дні я зайду праверу.

Фельчар пайшоў, а я застаўся ў Ячэні: цяпер я тут быў больш патрэбны, чым дома.

Дзядзька Рыгор, Валодзеў бацька, вярнуўшыся, пахваліў нас, што паклікалі фельчара, сказаў, што разлічыцца з ім сам, і даў грошы на недарагую мікстуру. Так што з венікамі мне можна было пачакаць.

Пасля банек Валодзя павесялеў.

— Не можа быць, каб праз тры дні я не ўстаў...— не верыў ён фельчару.— Мне ўжо лягчэй стала.

Прыцмокнуўшы з уздыхам, Валодзя дадаў:

— У суботу мяне будуць чакаць там...

— У пушчы? — падхапіў я.

— Але.

— Субота ж якраз праз тры дні...— шапнуў я спалохана.— Дзе ты ўстанеш... Ды і фельчар прыйдзе...

Валодзя зноў уздыхнуў.

— А калі і ўстану, то ці дайду пасля хваробы...

— Ад запалення скора не папраўляюцца,— сказаў я, успомніўшы, як доўга хварэла гэтаю хваробаю напрадвесні наша Ядзя. Больш тыдня гарачка не спадала. А потым тыдні два яшчэ зусім слабая была.

— Тады давядзецца, Пятрусь, табе схадзіць,— сказаў Ячэня.— Пароль той жа, што я табе казаў. Не забыў?

— Не.

— Яловік завядзе цябе ў штаб да Прахарэні або да Гарасіма Аляксеевіча.

— І што я ім скажу?

— Скажаш, што я захварэў.

— Усяго?

— Усяго.

— Дык, можа, я там і свайго бацьку ўбачу? — зарадаваўся я.

— Можа, і ўбачыш. Калі ён яшчэ ў атрадзе.

— А дзе ж ён можа быць іначай? — цяпер ужо я спалохаўся.

— Ну, можа, на заданне пайшоў. А можа, цераз

фронт паслалі — у Чырвоную Армію. Усё можа быць. Атрад ужо нямала пераправіў туды сваіх людзей. І твае хлопцы з Галынаўкі таксама ў Чырвоную Армію трапілі...

Для мяне гэта была навіна. Значыць, партызанскі атрад збірае людзей не толькі для сябе, а і для Чырвонай Арміі! Ну, тады я яшчэ пастараюся пагаварыць з іншымі хлопцамі.

Цяпер я з нецярплівасцю чакаў суботы. Назаўтра збегаў толькі дахаты, сказаў, каб не чакалі мяне, бо я жыву ў хворага сябра, і зноў вярнуўся да Ячэні. Удзень ён трохі ажываў, гаварыў са мною, а ўвечары і ўначы аж да самай раніцы гарэў як у агні, трызніў, кідаўся на пасцелі, ірваўся некуды ісці. Я з дзядзькам Рыгорам сядзелі пры ім па чарзе, мачылі ў халоднай вадзе скарач[1] і клалі яму на галаву, часта давалі піць.

У суботу прыйшоў фельчар, паслухаў хворага, яшчэ раз паставіў банькі і сказаў, што першы прыступ агню патушылі. Цяпер лягчэй будзе.

Гэта ўзрадавала і Ячэню, і мяне. Я сказаў дзядзьку Рыгору, што вымушаны адлучыцца дахаты, і пабег у пушчу да лесніка Яловіка.

Пушча пачыналася блізка за мястэчкам. Крокаў якіх за сотню ад Ячэневай хаты. Спачатку ішлі звычайныя пералескі і сенажаці, потым адкрылася добрая прагаліна поля з невялікай вёскаю Баравое пасярэдзіне. І толькі за гэтай прагалінай пайшла ўжо суцэльная пушча — вёрст мо на дваццаць удаўжыню і ўшырыню. Вартаваў яе пэўна ж не адзін ляснік Яловік. Але яго леснічоўка стаяла найбліжэй да мястэчка. І, мусіць, з гэтай прычыны партызаны выбралі яе для свайго стану.

Быў канец мая. У пушчы ўсё бурна цвіло і зелянела. Не сціхаў птушыны грай. Сонца ледзьве прабівалася праз густыя верхавіны старых і маладых дрэў. Некалі сюды зімою ездзілі нашы мужыкі па калоды. Іх вазілі на бераг рэчкі, на рум, а адтуль вясною вязалі ў плыты і гналі на хвалях бурнай паводкі ў вялікую раку — Нёман. Цяпер і няма на чым і няма каму ездзіць у лес. Напрадвесні Герштäль спрабаваў ганяць мужыкоў сілаю — Нямеччыне ж і лес патрэбен, не толькі хлеб і мяса, але ахвотнікаў не знайшлося. А калі каго і выганялі, усе ў адзін голас

[1] Скарач — ручнік.

цвярдзілі — паўстанцы адбіраюць у іх пілы і сякеры, а голымі рукамі што зробіш. Так яно было ці не так,— ніхто праверыць не мог. Самі немцы лесу баяліся.

Я ішоў шпарка, аж угрэўся. І праз якую гадзіну быў ужо на месцы.

Леснічоўка — звычайная хата-пяцісценка з іншымі гаспадарчымі будынкамі — стаяла на абжытай палянцы ў самай глухмені. Вусцішна, мусіць, тут жыць, падумаў я, спачуваючы лесніку Яловіку. Але толькі так падумаў, як з будкі пры хляве выскачыў вялізны, з добрае цяля, сабака. Шэры, з цёмнымі лапінамі на баках. Доўгі ланцуг, на якім ён быў навязаны, забразджаў і зазвінеў. Сабака хрыпла забурчаў, выскаліўшы зубы. Ваўкалака нейкі, а не дварняк. Ну, з такім тут не прападзеш,— пераняніў я сваю думку наконт страху ў гэтай глухмені. Ён не толькі мяне — любога на двор не пусціць. Ды і воўк наўрад ці адважыцца схапіцца з ім.

Я спыніўся каля варот, чакаючы гаспадара. Стаю, пасвістваю на ваўкалаку, разглядаю леснічоўку. Усё тут, як на нашых дварах. Але нешта ж доўга нікога няма. Ці не спіць там гаспадар? Ды нехта ж і яшчэ з ім жыве. А можа, ён адзінокі? Я так і не ведаю. Я пачаў свістаць мацней — ніхто не выходзіць. Сабака тым часам злосна бурчыць, пільна сочачы за мною. Што ж рабіць? Застаецца адно — чакаць. Нехта ж некалі зойдзе сюды.

І праўда: праз нядоўгі час вярнуўся гаспадар з дубальтоўкаю за плячыма. Гэта быў немалады ўжо чалавек сярэдняга росту, шырокі ў плячах, са светлаю рэдкаю барадою і такімі ж вусамі. Спераду яго бег чорны сабака, трохі меншы за страшнага ваўкалаку.

Ляснік паглядзеў на мяне падазрона. Заблудзіўся я ці знарок прыйшоў? Я ж прывітаўся і выпаліў скорагаворкаю:

— Ці не маеце, дзядзька ляснік, тытуню закурыць?

Але замест размовы пра гатункі тытуню ляснік сказаў сярдзіта:

— А не рана табе, хлопец, курыць? Хто гэта навучыў цябе курыць?

Я збянтэжыўся і не ведаў, што адказаць. Значыць, гэты пароль для мяне не падыходзіць. Ні я, ні Ячэня пра гэта не падумалі.

Я ўжо чуць не заплакаў з роспачы, аж бачу, ляснік заўсміхаўся, суровасць сышла з яго строгага твару.

— Распушчаныя цяпер хлапчукі пайшлі. Бацькоў няма, няма каму ўшчуваць. Ну, а які ж ты тытунь уважаеш? Мультан, турэцкі, бесараб?

Я ажывіўся.

— Бесараб, дзядзька ляснік! — выгукнуў я з радасці.— Бесараб!

Ляснік яшчэ трохі паўглядаўся на мяне і загаварыў зусім лагодна:

— Ну, калі бесараб, тады іншая справа. Яго не адзін ты любіш. Хадзем, пачастую.

Ён завёў мяне ў хату, распытаў, хто мяне паслаў да яго і дзеля чаго. Калі я сказаў лесніку пра Валодзю Ячэню, пра Гарасіма і свайго бацьку, ён і зусім перамяніўся. Цікавіўся, як я вучуся, што робіцца ў мястэчку, ці прыслалі Герштаю папаўненне. І вельмі рад быў, калі я расказаў яму пра лістоўкі.

— Добра, вельмі добра робіце, хлопчыкі,— хваліў ён нас.— Трэба іх з усіх бакоў скубці. А потым, як збярэцца патрэбная сіла, мы іх так турнём са сваёй зямлі, аж пыл закурыць.

— Калі гэта будзе, дзядзька ляснік?

— Будзе! Не векаваць жа ім тут. Я гэтаму веру і памагаю добрым людзям як магу.

Ляснік дастаў з печы чыгунок і пачаставаў мяне добра ўпрэлай квашанай капустай са свінінай. Потым, клікнуўшы чорнага сабаку, павёў мяне ў глыб пушчы.

— А тытуню я табе ўсё ж не дам,— пажартаваў ён,— ні таго, ні другога, ні трэцяга. Я сам пачаў курыць гадоў у дваццаць, не раней. І другім не раю спяшацца. На ўсё, брат, свая пара.

— Ды я і не думаю яшчэ пра курыва, дзядзька ляснік,— сказаў я.— Але ж пароль такі. Я не вінаваты, што яго толькі для курцоў прыдумалі.

## У ГАСЦЯХ
## У ГАРАСІМА АЛЯКСЕЕВІЧА

Ішлі мы нядоўга. Але такімі нетрамі, што сам я і не пралез бы праз іх, каб не ляснік. Скрозь шчыльная гушчыня ад падлеску розных пародаў — і хвойных, і лісцёвых. Старыя дрэвы, здаецца, аж хмары падпіраюць. Кожнае стараецца вырвацца ўгору, каб хоць крыху захапіць

сонца і святла. І ўсюды то ўзгоркі, то забалочаныя нізіны, у якіх яшчэ і зараз чвякала пад нагамі веснавая вада.

На адным з узгоркаў ляснік спыніўся.

— Вот тут і жыве твой Гарасім Аляксеевіч,— сказаў ён.

Я пачаў углядацца перад сабою. Бачу — недалёка нейкая зялёная стрэшка з бляшаным комінам. Побач — скіданы з галля на скорую руку будан. За гэтымі пабудовамі віднеюцца і іншыя такія ж. Але нідзе ні жывой душы.

— А дзе ж тут людзі? — пытаюся ў лесніка.

Ляснік таксама нібы ўпершыню разглядае добра знаёмы яму партызанскі лагер.

— Хто іх ведае,— разводзіць ён рукамі,— сышлі куды, ці што?

Заглянулі ў першы будан — пусты. Спусціліся ў зямлянку пад зялёнаю стрэшкаю — таксама нікога.

— Гм...— збянтэжана чмыхае ляснік.— Значыць, сышлі і мне нічога не сказалі. Але ж не можа таго быць!

У гэты час з гушчару пачууся знаёмы голас:

— Пятрусь!

І траха не ўслед за голасам я ўбачыў Гарасіма Аляксеевіча. Ён спяшаўся да нас. Абняў мяне, прытуліў да грудзей.

— Ну і важнага ж госця прывёў ты, Мікалайка, мне,— весела загаманіў ён.— Колькі ж гэта часу я не бачыў цябе? А чаму Валодзя не прыйшоў?

Ён узяў мяне за руку, як малога.

— Хадзем у мой палац!

— А чаму ў вас, Гарасім Аляксеевіч, такая ціхата сёння? — запытаўся ляснік.— Патрулі мяне маглі прапусціць, не спыняючы, як заўсёды. А прыйшлі ў лагер — пуста. Так жа да вас можа сам Гершталь завітаць...

Гарасім рассмяяўся.

— Без цябе, Мікалайка, сюды яму не дабрацца. Гэта раз, а па-другое — мы такі і праўда перавялі свой лагер у іншае, запаснае месца.

— Даўно?

— Учора. Застаўся толькі я і каравульныя. Для сувязі з табою.

— Што вам тут не спадабалася? — здзівіўся ляснік.— Хіба там лепш?

— Не лепш, але гэтак трэба...

Гарасім прывёў нас у зямлянку, абшытую знутры гус-

тым жардзяным плотам. Побач з пасцельнымі нарамі тут стаяла невялічкая гліняная печка з бляшаным комінам. І нават свяцілася маленькае акенца на адну шыбінку.

Перад уваходам у зямлянку ляснік загадаў свайму чорнаму сабаку легчы каля парога і вартаваць гаспадара. Сабака пакруціў хвастом і прысеў на заднія лапы.

Пасадзіўшы нас на сваю пасцель, засланую стракатай посцілкаю, Гарасім пачаў распальваць печку сухімі дрэўкамі, што ляжалі побач, а калі печка загула, паставіў на яе бляшаны чайнік.

Я заўважыў, што Гарасім Аляксеевіч за ўвесь гэты час ні разу не кашлянуў. Ды і выгляд яго змяніўся к лепшаму: ён загарэў, папаўнеў. Няўжо вылечыўся?

— Як жа ў цябе з навукаю, Петрусёк? — пацікавіўся ён.— Можа, скончыў ужо?

— Скончыў, дзядзька Гарасім,— пахваліўся я.— Перайшоў у другі клас.

Ад радасці Гарасім аж заскакаў вакол сваёй партызанскай печкі.

— Ну, вот бачыш, дамагліся-такі мы свайго. А ты ўжо быў рукі апусціў. Так і ў кожнай справе — не трэба здавацца. Я вот вясною ўжо чуць ногі не выцягнуў: сухоты не давалі спакою. А памог мне выжыць не доктар які, а наш Прахарэня. Ён штодня напамінаў мне, што ніякай страшнай хваробы ў мяне няма. Прымусіў заняцца гімнастыкаю, спаць пад соснамі, а не ў сырой зямлянцы. І што ж! Дзень за днём я пачаў здаравець. Кашаль не прапаў зусім, але не мучыць, як раней. Жыць лягчэй стала.

Пачаставаўшы нас чаем, настоеным на лясных пахучых травах, Гарасім расказаў, што здарылася ў лагеры. Тыдзень таму назад камандзір атрада Прахарэня паслаў у Мінск свайго чалавека — сувязнога. У гэтым была пільная патрэба. Атрад вырас і ўзмацнеў так, што людзі ўжо самі пачалі пагаварваць, ці не занадта заседзеліся яны тут, у пушчы. Пара, бачыш, рушыць на Герштaля, вытурыць яго з мястэчка і з усяе воласці да ўсіх чарцей. Прахарэню ж яшчэ вясною строга загадалі з цэнтра ніякіх вялікіх вылазак без іх дазволу не рабіць. Чаму? Сёння ты вытурыш Герштaля, а заўтра ён вернецца з салдатамі суседніх гарнізонаў. Выходзіць, трэба выступаць не аднаму нашаму атраду, а і суседнім. І не толькі ім. Адным словам, рыхтуецца вялікая партызанская вайна. А для

вялікай вайны патрэбна і вялікая сіла — і не толькі партызанаў, а і Чырвонай Арміі, якая прыйдзе ім на дапамогу. А калі так, паўстанне, відаць, затрымаецца да восені. Што тады рабіць атраду зараз? Можа, распусціць людзей пакуль што? З гэтымі пытаннямі і паслаў Прахарэня ў Мінск свайго сувязнога. Але назад пасланец не вярнуўся. Гэта ўстрывожыла Прахарэню, ды і не толькі яго: а што, калі сувязны трапіў да немцаў?

— І цяпер мы не ведаем, што рабіць,— працягваў свой расказ заклапочаны Гарасім.— Пакуль што адвялі атрад у запасны лагер. Думалі паслаць у Мінск новага сувязнога. А калі там наша явачная кватэра правалена? Другой нам не далі. Мы з Прахарэнем надумаліся ўжо выправіць у розведы Валодзю Ячэню. Ён малы. Ніхто да яго не прычэпіцца, калі яўка правалена. Ды вот няважную вестку прынёс ты, Пятрусь: не скора, мусіць, падымецца Валодзя?

— Дык пашліце мяне, дзядзька Гарасім,— сказаў я.— Я быў у Мінску з нябожчыкам дзедам. Ведаю, як туды ехаць.

Гарасім задумаўся. Няўжо ён не давярае мне? Або лічыць, што я горш за Ячэню спраўлюся з такім даручэннем?

Нарэшце ён сказаў:

— Ну, што ж. Рызыка для цябе невялікая. Толькі ехаць лепш, вядома, не на фурманцы, а на поездзе. Ты малы, пропуска ад камендатуры табе не трэба.

— А што мне там рабіць?

— Рабіць вот што,— Гарасім глянуў на лесніка.— Выбачай, Мікалайка. Выйдзі трошкі пагуляй. Тут я буду гаварыць такія сакрэты, пра якія ведаць дазволена толькі мне і таму, каму я іх перадам. Такі, бачыш, закон у разведчыкаў. Парушаць яго не будзем, хоць я табе веру, як сабе самому.

Ляснік выйшаў з зямлянкі.

— Дык вот,— зноў загаварыў са мною Гарасім,— вазьмі з сабою спіс патрэбных табе на наступны год падручнікаў. Маеш такі?

— Ага. Нам ужо сказалі, якія купіць падручнікі для другога класа.

— У Мінску зойдзеш у кнігарню — яна на рагу вуліц Захараўскай і Губернатарскай.

— Губернатарскую я ведаю. Быў на ёй з дзедам.

— Яшчэ лепш, калі ведаеш, распытваць не давядзецца. Гэта невялічкая кнігарня — адзін пакойчык. І прадае ў ёй кнігі адзін чалавек — гаспадар кнігарні. Пажылы. Невысокі. Хударлявы. Барада клінком, траха не ўся сівая. У акулярах. Завуць яго Сяргей Платонавіч. Гэта чалавек, да якога хадзілі нашы пасыльныя. Праз яго мы звязаны з цэнтральным штабам — Краявым камітэтам. Разумееш?

— І што яму сказаць?

— Калі ў кнігарні будуць пабочныя людзі, паўглядайся на кнігі, пачакай, пакуль ён застанецца адзін. Так лепш. Купцоў у яго там мала бывае, бо і кніг кот наплакаў. Яны толькі дзеля віду. Улучыўшы час, запытайся, ці ёсць у яго кніга пад назваю «Дуброўскі» пісьменніка Льва Талстога. Ён скажа, што такой кнігі ў Льва Талстога няма — гэта кніга Аляксандра Пушкіна. А ты не здавайся. Кажы — мяне прыслалі купіць іменна кнігу Льва Талстога. І называецца яна «Дуброўскі». Запомніш?

— Дзіва што! У нашай Галынаўцы вунь колькі Дуброўскіх!

— Ён можа запытацца, чаму каго большага не прыслалі па гэту кнігу. Скажы — прысылалі тыдзень таму назад большага, але ён не вярнуўся. Таму і прыслалі меншага. Пасля гэтага ён скажа, калі не адразу, то на другі дзень, што перадаць Прахарэню ад цэнтра. Аб чым ідзе рэч, ён ведае. Ну, а калі Сяргея Платонавіча не будзе ў кнігарні, асцярожна запытайся пра яго ў суседа — ён побач бакалейную крамку трымае. І на самы горшы канец, калі яўка правалена і там цябе затрымаюць, скажаш, зайшоў кнігі купіць, пакажаш спіс падручнікаў.

Расказаўшы, што і як мне рабіць, дзе пераначаваць, Гарасім даў мне на дарогу пятнаццаць рублёў грошай.

— Ты хлопец з галавою,— пахваліў ён мяне,— справішся з такім заданнем. Валодзя казаў, ты лепшы ў яго памочнік. Я ўсё ведаю пра лістоўкі. Дзякуй табе за іх, Петрусёк.

— Няма за што, дзядзька Гарасім. Прысылайце новыя. Мы іх перапішам. А як тут мой бацька жыве? — запытаўся я.

— Добра жыве. Павесялеў. Песні нават спявае. Аджыў чалавек. І партызан добры — сам стараецца і другіх падганяе. Мы яго ў партыю бальшавікоў прынялі. Шкада, што я без яго дазволу пасылаю цябе аднаго ў горад. Але думаю, ён пярэчыць не будзе. А ў мяне на цябе больш на-

дзеі, чым на таго, каго мы пасылалі раней. Ты ж, мусіць, яго ведаеш?

— Хто ён?

— Іван Краўцоў з Баравога. Гарманіст вядомы. На вяселлях іграў.

— Ведаю,— сказаў я.— Хто яго не ведае!

— Ну, чакаем цябе з добрымі весткамі. Шчаслівай табе дарогі!

Гарасім зноў абняў мяне. Потым паклікаў лесніка і правёў нас са свайго лагера траха не да самай леснічоўкі.

## ЖЫВЫ ТАВАР

Назаўтра я падняўся чуць свет. Ячэня ўжо таксама не спаў: перад маёю дарогаю сон не браў яго гэтак жа, як і мяне. Запаленне яго пачало затухаць, і ён ужо сам мог памаленьку даглядаць сябе. Так што гэты клопат у мяне адпадаў. Я ўзяў торбачку з харчамі, падрыхтаванымі яшчэ звечара, і выйшаў з хаты цішком, каб не пабудзіць Валодзевага бацьку.

— Ні пуха табе, ні пер'я! — прашаптаў Валодзя ўслед мне.

Раніца была яркая, ціхая. Неба чыстае, васільковае. Толькі на ўсходзе ружавела кволае пакуль што зарыва. Скора яно ўспыхне чырвоным полымем. Я люблю гэты час, хоць цяпер і рэдка даводзіцца сустракаць усход сонца. Раней, калі ў нас была свая карова, мы, пастушкі, кожны летні дзень уставалі разам з сонцам. Тое ж было і тады, калі я пасвіў Вінцэсевых свіней.

Мястэчка яшчэ спала. Не чуваць было нават пастухоў з іх заклікамі да гаспадынь: «Выганяй!» Тут яшчэ, як ні дзіўна, вадзілася ў людзей жывёла. Гершталь, відаць, карміўся, як той воўк: блізкую ад логава здабычу пакуль што абмінаў. Ён толькі абкладаў местачкоўцаў рознымі грашовымі падаткамі ў два ці нават у тры разы большымі, чым спустошаныя сялянскія гаспадаркі. Камендатуру я абмінуў бокам, а патруль пры выхадзе з мястэчка перагарадзіў мне дарогу.

— Куды так рана выбраўся? — так зразумеў я яго пытанне да мяне.

Я дастаў з кішэні лісток паперы, на якім былі спісаны

патрэбныя мне падручнікі, і пачаў тлумачыць яму, як умеў,— і па-свойму, і трохі па-нямецку, што еду ў Мінск купляць сабе кнігі — «бухер». І прачытаў нават радкі з вершыка: «Іх лібэ дзі бухер, іх лібэ гар філь!»

— Я, я,— заматаў галавою патруль — пажылы немец з дабрадушным круглым тварам.— Гут, гут! Бухер — гут! Гет аус!

І ён паказаў мне рукою на дарогу — можна ісці.

Я пашкадаваў, што яшчэ зусім слаба ведаю яго мову. А так мог бы пагаварыць з ім не толькі як з салдатам, а і як з чалавекам, у якога ж, відаць, не адна вінтоўка за плячыма, а ёсць і сэрца ў грудзях. І ён жа, напэўна, не барон які, калі на ім не афіцэрскія пагоны. Можа б, ён зразумеў, што нядобра яму, як напісана ў той партызанскай лістоўцы, прыгнятаць чужы народ, грабіць і забіваць такіх жа людзей, як сам.

Дарога перада мною была немалая, але ногі неслі мяне лёгка. Мінуўшы дзве вёскі, я апынуўся ў лесе. І адразу ж убачыў, як ён змяніўся за той час, што я тут не быў. Нібы страшны віхор прамчаўся па ім, скалечыўшы яго траха не дашчэнту. Замест высокіх гонкіх хвоек і елак, якія раней цешылі вока, у ім тырчалі сям-там сярод пнёў і маладняку годныя хіба што на дровы крывулі ды сухастоіны. Значыць, у гэтым лесе пры станцыі няма партызанаў, падумаў я, і няма каму абараніць яго ад самых страшных сваіх шкоднікаў — ненажэрных ворагаў. Сэрца маё сціснулася і ад болю, і ад нянавісці да тых, хто тут так па-дзікунску пагаспадарыў.

Гэткім жа абкрадзеным і знявечаным быў цяпер і ўвесь наш край. Хіба ж можна пасля гэтага мірыцца з Герштэлем і яго воўчай зграяй? Чаму ж тады там, у цэнтры, не спяшаюцца даць партызанам каманду на вялікі паход супраць крывавых захопнікаў? А можа, яны далі ўжо такую каманду, а Прахарэня з Гарасімам не ведаюць, бо не дачакаліся свайго пасланца? Мне хацелася як найхутчэй трапіць туды, куды я ішоў.

Сонца ўжо ўзнялося высока і добра грэла мне ў плечы, калі я падыходзіў да станцыі. Захацелася есці. Але я рашыў спярша купіць білет і тады ўжо заняцца снеданнем, калі будзе час.

Людзей у касе было мала. На падлозе ляжала некалькі старых брудных мяшкоў, і каля іх сядзелі бабы, старыя і маладзейшыя, і малыя дзеці, апранутыя ў лядаштыя лах-

маны. Мужчын не відаць было. Куды ехалі гэтыя людзі? Бежанцы яны, што прабіраліся з усходу на сваю радзіму, ці звычайныя жабракі? Я заглядзеўся на гэтых няшчасных баб і дзяцей. Вось дзяўчынка гадоў пяці, худзенькая — скура ды косці, даўно нямытая, адною ручкаю выцірае заплаканыя вочы, а другою тузае матку за рукаў:

— Мамачка, есці хачу... Хлеба хачу...

— Няма, дачушка, у мяне хлеба,— адказвае маці, паціху ўсхліпваючы.— Ось прыедзем дадому — там будзе хлеб...

— А калі мы прыедзем?

— Калі нам немцы дазвол дадуць...

Дзяўчынка слухае матку, але не супакойваецца. Шкада мне стала яе. Я зняў з плеч сваю торбачку, дастаў хлеб, адламаў кавалак.

— На, малая, еш,— падаў я ёй хлеб.

Дзяўчынка збянтэжылася. Глянула на матку: ці дазволіць яна ўзяць хлеб у чужога?

— Вазьмі, дачушка,— пагладзіла яе маці па галаве.— А табе, сынок, вялікі дзякуй,— падзякавала яна мне.— Гэта ж мы трэці дзень чакаем тут, пакуль нас адправяць далей. І не можам адлучыцца, каб пайсці куды ў вёску чаго папрасіць.

Дзяўчынка схапіла хлеб і пачала есці яго папоўніцы. Гляджу, да мяне працягнулі рукі і іншыя дзеці. Я і ім адламаў па кавалачку свайго дарожнага хлеба. Рэшту — вельмі ўжо невялікую — палажыў назад у торбу. Думаю, выйду на двор і там з'ем яе. У мяне яшчэ заставалася трохі варанай бульбы і два кіслыя агуркі. Пакуль што хопіць з мяне. А ў горадзе, можа, дзе што куплю.

У касе мне прадалі білет на таварна-пасажырскі поезд і сказалі, што ён скора будзе. Чакаць трэба на пероне, гэта значыць, на дварэ.

На пероне тупала чалавек дзесяць мужыкоў — такіх жа, як і я, пасажыраў. Усе яны пэўна ж мелі дазвол на дарогу ад камендантаў або старастаў. Адзін я збіраўся ехаць самавольна, карыстаючыся сваім малым і ростам, і ўзростам.

Мужыкі курылі — хто люлькі, хто казіныя ножкі, гамонілі пацiху аб тым ды сім. Былі сярод іх, відаць, старыя знаёмыя, былі і такія, што пазнаёміліся тут упершыню.

Неўзабаве з боку Мінска паказаўся поезд. Доўгі, на

добрую вярсту. Паравоз даў гудок і спыніўся насупраць нас на другой лініі. Мы пачалі разглядаць гэты даўжэзны поезд. На адкрытых платформах шчыльнымі сціртамі ляжалі бярвенні. З закрытых вагонаў чулася муканне кароў, рохканне свіней.

— Валакуць награбленае ў сваю Нямеччыну,— са злосцю сказаў высокі мужык з чорнаю барадою, што стаяў каля мяне.— Усё ім мала...

З тамбура закрытага пярэдняга вагона сышоў немец-праваднік з вінтоўкаю ў руках. І тут жа мы пачулі адчайны стук у дзверы:

— Гэй, праваднік! Адчыні! Пусці да ветру! Пусці-і!..

Праваднік нешта накрычаў на тых, што стукалі, і пачаў знімаць папругу. Потым, убачыўшы блізка людзей, палез пад вагон на другі бок поезда, дзе нікога не было.

Стук і грук у дзверы не сунімаліся.

— Ну і гады! — сціскаў кулакі высокі мужык.— Людзей вязуць, як жывёлу. Свінні і людзі для іх — жывы тавар, ні больш ні менш.

— Але,— пачалі абурацца і іншыя мужыкі.— Мучаць людзей. І калі гэта ўжо скончыцца...

Я заглядзеўся на запору дзвярэй. Яна была не на замку, а проста закінута канцом на крук. Варта толькі скінуць гэтую запору і... Але мне да яе не дацягнуцца.

Я глянуў знізу ўверх на высокага мужыка з чорнаю барадою: ці не сказаць яму пра запору?

У гэты час пачуўся гудок паравоза з заходняга боку. А ўслед за гудком паказаўся з блізкага лесу і сам поезд. Ён шпарка набліжаўся да станцыі па першай лініі. Вось-вось загародзіць ад нас вагон з людзьмі. Немец-праваднік усё яшчэ сядзеў за вагонам на карачках, абапёршыся на вінтоўку. Цяпер усё прапала, падумаў я. Позна. Эх, чаму я сам не паспрабаваў дацягнуцца да запоры...

Раптам высокі мужык ірвануўся наперад, сарваў запору з крука і крыкнуў:

— Ратуйся, хто можа!

А сам траха не перад самым паравозам скокнуў назад да нас.

Поезд спыніўся, і мы пабеглі ў пасажырскі вагон. Абляпілі там адчыненыя вокны, углядаючыся на вагон з нявольнікамі: што там і як? Бачым, з вагона сыплюцца маладыя хлопцы і кідаюцца пад колы, туды, дзе сядзеў праваднік: там недалёка сінеў густы алешнік. Ні крыку, ні

стрэлаў не чуваць. Ну, значыць, з праваднікам яны пакончылі адразу ж, каб было ціха, здагадаліся мы. Той, заняты сваёю справаю, і стрэліць не паспеў. Гэта добра. Пакуль агледзяцца ды ачухаюцца вартавыя са станцыі, дык і лавіць не будзе каго.

Я глядзеў на высокага мужыка з чорнаю барадою з захапленнем. Вось што азначала хвіліна адвагі! Дзесяткі маладых хлопцаў-нявольнікаў вырваны з драпежных кіпцюроў гэтых чорных крумкачоў. Я нават падумаў: ці не саскочыць і мне з поезда ды пабегчы за імі? Я паказаў бы ім дарогу ў наш партызанскі атрад. Але ж у мяне важнае заданне. Ці маю я права цяпер рабіць, што мне ўздумаецца?

Наш поезд даў гудок, і мы пакінулі станцыю.

## СУВЯЗНЫ ЗНАЙШОЎСЯ

Таварная станцыя, куды мы прыехалі, была загрувашчана вагонамі і паравозамі. То тут, то там падавалі голас паравозныя гудкі, свісталі счэпшчыкі і сігнальшчыкі, ляскалі на рэйкавых стыках колы. У яснае чыстае неба шугаў густы чорны дым. На галовы сыпаўся вугальны недагар: у горле пяршыла ад непрыемнага гарэлага паху.

Разгледзець, што тут рабілася, не было калі: усе пасажыры, а за імі і я, кінуліся да выхада ў горад праз кантрольныя вароты. Але я ўсё ж паспеў сёе-тое ўбачыць. Каля таварных паяздоў мітусіліся людзі ў нейкіх брызентавых зашмальцаваных вопратках. Адны з іх насілі ў вагоны з блізкіх таварных складаў мяшкі са збожжам, розныя скрынкі — малыя і вялікія, фанерныя і дашчаныя. Другія грузілі на адкрытыя платформы дошкі, бярвенні, нават дровы. Трэція заганялі ў вагоны па дашчаных прыступках жывы тавар — кароў, свіней, авечак...

Я ўспомніў словы высокага дзядзькі: «Валакуць нарабленае ў сваю Нямеччыну...» Каб іх ужо нечага вывалаклі на могілкі, сказаў бы нябожчык мой дзед.

Але былі тут паязды і з салдатамі, платформы з гарматамі і ваеннымі павозкамі. А вось гэтае дабро валакуць да нас...

На кантрольным пункце два пажылыя салдаты ў зялёных шапках без брылёў правяралі дакументы на права

ўезда ў горад. Некалькі маладзейшых пасажыраў адпіхнулі ўбок, за перагародку. Апынуўся сярод іх і мой знаёмы — высокі мужык, якога я так моцна палюбіў за яго смелы ўчынак на нашай станцыі. Можа, хто з ворагаў заўважыў яго там, калі ён зрываў запору? А мо былі якія іншыя прычыны: прыглянуўся, як жывы тавар... Затрыманыя спрабавалі растлумачваць кантралёрам, што іх дакументы зусім спраўныя, падпісаныя самімі нямецкімі начальнікамі. Але тыя і слухаць не хацелі. «Авэк! Цурык!» — і справа з канцом.

На мяне яны не звярнулі ўвагі: відаць, я нічым не зацікавіў іх. А я ўжо збіраўся, калі што якое, паказаць ім свой спіс падручнікаў і прачытаць вершык «Іх лібэ дзі шуле...».

На Маскоўскай вуліцы, дзе я апынуўся пасля станцыі, людзей было мала. Трапляліся толькі старыя і дзеці. Дзенідзе сноўдаліся нямецкія салдаты і паліцэйскія.

Я дайшоў да вісячага моста і задумаўся: як лепш дабірацца да кніжнай крамы Сяргея Платонавіча? Некалі з дзедам мы адгэтуль павярнулі налева, на Нова-Маскоўскую вуліцу, і ехалі на Ракаўскую да заезнага двара, а ўжо адтуль ішлі пяшком на Губернатарскую — каля рыбнага рынку. Цяпер для мяне такая дарога, мусіць, будзе лішнім кругам. Мне патрэбна Захараўская вуліца. А яна ўжо і прывядзе мяне на рог з Губернатарскай. Я запытаўся ў адной бабулі, як трапіць на Захараўскую вуліцу. Бабуля махнула перад сабою пустым кошыкам:

— Ідзі, сынок, проста, і будзе табе Захараўская.

Я пайшоў проста і сапраўды за чырвоным касцёлам прачытаў на белым доме шыльду: «Захараўская вуліца». Але і на ёй, як і на Маскоўскай, людзей было мала. Я пачаў прыглядацца да магазінаў — мяне цікавіў хлеб: хацелася есці. Нідзе ў вітрынах ні хлеба, ні булак я не заўважыў. Як жа тут жывуць людзі без хлебных магазінаў? Трапляюцца толькі крамы з розным дробным таварам, можа, нікому і не патрэбным, як шпількі, грабяні, папругі... Нават гітары, скрыпкі, балалайкі.

У адным месцы стары чалавек прадаваў сельцерскую ваду. Я ўспомніў, як дзед мяне частаваў такою шыпучаю вадою. Халодная яна была і прыемная на смак. Сельцерская ў гэтага старога каштавала дорага — аж цэлых дзесяць капеек за шклянку. Я павагаўся крыху, аднак усё ж выпіў шклянку вады.

Кнігарню я знайшоў лёгка: у адным акне на рагу Захараўскай і Губернатарскай былі выстаўлены кнігі, а над уваходам вісела шыльда «Кнігарня пана С. П. Міхалевіча».

На маё шчасце, крама пана Міхалевіча была адчынена. І нават пустая. Адзін толькі чалавек, у якім я, па расказу Гарасіма, адразу пазнаў гаспадара кнігарні, сядзеў за прылаўкам пры акне і чытаў нейкую кнігу. На неширокіх паліцах каля сцен стаялі і ляжалі кнігі: тоўстыя і тонкія, старыя і новыя. Ды гэта ж цэлае багацце! Дарэмна дзядзька Гарасім казаў, што тут мала кніг. Вось бы такую бібліятэку ў наша вучылішча! Астравух бы тады і не вылазіў з яе. Ды і не толькі ён. Кнігалюбаў сярод нас было нямала. А ў бібліятэцы мо паўсотні кніг. І ўсе лепшыя хадзілі па руках. Я ўсю зіму марыў прачытаць хваленую Астравухам кнігу Гогаля «Мёртвыя душы». І толькі нядаўна дачакаўся чаргі. Добрая кніга, што і казаць! А «Вечары на хутары каля Дзіканькі» — таксама хваленыя Астравухам,— так яшчэ і не дайшлі да мяне. Цікава, ёсць тут такія кнігі? Але доўга любавацца кнігамі мне не было калі. Я баяўся, каб не зайшоў хто пабочны, і пачаў справу адразу.

— У вас ёсць у продажы кніга «Дуброўскі» Льва Талстога? — запытаўся ў гаспадара кнігарні.

Сяргей Платонавіч перастаў чытаць. Нейкі час маўчаў, прыглядаючыся да маёй асобы. Потым устаў і сказаў паціху:

— Не, такой кнігі няма — ні ў маёй, ні ў іншых кнігарнях.

— Чаму няма?

— Ёсць кніга «Дуброўскі» Аляксандра Пушкіна. Ты проста памыліўся.

— Не, я не памыліўся,— цвёрда сказаў я.— Мяне прыслалі купіць у вас такую кнігу Льва Талстога.

Сяргей Платонавіч выйшаў з-за прылаўка.

— Ты не маніш?

— Не.

— Хто ж цябе прыслаў? Прахарэня? Гарасім Аляксеевіч?

— І Прахарэня, і Гарасім Аляксеевіч...

Цяпер мне было ясна, што са мною гаворыць той, да каго я прыехаў.

— А чаму ж не прыслалі каго большага? — дапытваўся Сяргей Платонавіч.

— Большы ў вас быў тыдзень таму назад.

— І што?

— Не вярнуўся... Гарасім Аляксеевіч баіцца, каб ён не трапіў да немцаў...

— Гм...— сказаў Сяргей Платонавіч.— Яго сапраўды маглі схапіць немцы. Яны ў апошні час хапаюць каго ні папала і гоняць у Германію. У іх там не стае рабочых. Ды і фермы апусцелі. А тут лета ідзе. Яны ж усіх сваіх пазаганялі на вайну.

Паглядаючы ў акно на пустыя вуліцы, Сяргей Платонавіч гаварыў далей:

— Хутчэй за ўсё ваш пасланец у адным з перасыльных лагераў — на Аляксандраўскім вакзале або на Старажоўскай вуліцы. Можа, яго яшчэ не паспелі адправіць. Давай, хлопча, паспрабуем пашукаць яго. Там яны жывуць проста пад адкрытым небам, за калючым дротам. Калі мы яго ўбачым, то ўсё будзе ясна. Ты добра ведаеш яго?

— Ведаю,— сказаў я.

— Я яго таксама запомніў, але, можа, не так цвёрда.

Сяргей Платонавіч замкнуў сваю краму, і мы пайшлі на Старажоўскую вуліцу.

Лагер гэты размяшчаўся на месцы былых артылерыйскіх казармаў. Увесь вялізны пляц быў абгароджаны высокім плотам з калючага дроту; за якім мы ўбачылі натоўпы людзей. Яны тупалі ўзад і ўперад па гразкім двары, падыходзілі да агароджы, адкуль іх адганялі вартавыя. Тут жа, на вуліцы каля плота, сабралася, можа, сотня, калі не болей, гараджан — жанчын і дзяцей, якія шукалі сваіх родных і знаёмых, схопленых немцамі. Мы таксама далучыліся да іх і пачалі ўглядацца на двор. Якіх толькі людзей там не было! Адны апрануты бедна, па-рабочаму, другія — у чыстых вопратках, відаць, служачыя і гандляры. Усіх іх тут параўналі.

Я доўга ўглядаўся на ўсе вочы. І раптам недалёка ад плота мільгануў знаёмы твар. Ён! Я шапнуў Сяргею Платонавічу, паказваючы на Івана Краўцова.

— Але,— сказаў Сяргей Платонавіч.— Гэта ён.

— Што ж рабіць? — кажу я, хвалюючыся.— Можа, акліхнуць?

— А што? Давай! Калі што — скажаш патрулю, што гэта твой брат. Прыйшоў пераведаць брата. Разумееш?

Я падбег бліжэй і аклікнуў:

— Іван!

Нават «дзядзька» не сказаў, каб было відаць, што ён мне не чужы. Іван пачуў. Падскочыў да самага дроту.

— Ты хто? — пытаецца.

— Пятрусь з Галынаўкі.

— А як ты трапіў сюды?

— Гэтак, як і ты.

— Гарасім прыслаў?

— Але.

— А мяне вот злавілі. У Нямеччыну павязуць. Перадай Гарасіму. А хто цябе сюды прывёў?

— Той, да каго ты прыходзіў. Вунь ён стаіць.

— Ага. Значыць, ён табе скажа што трэба. Ну, цяпер я спакойны.

Да Івана падышоў патруль.

— Авэк!

Іван адступіўся крыху далей, не зводзячы з мяне вачэй. Патруль адчапіўся ад яго, пачаў крычаць на іншых, што туліліся да плота, шукаючы знаёмых сярод гараджан.

Сяргей Платонавіч сказаў Івану, каб падышоў да варотаў. А мне кіўнуў:

— Бяжы да кантрольнай будкі. Скажы каравульнаму, што Іван — твой брат. Прасі, каб выпусціў.

Ён выняў з кішэні чатыры паперкі па пяць рублёў і падаў мне.

— Пакажы яму. Яны на грошы падкія.

Я так і зрабіў.

— Гер зольдат! — загаварыў я па-нямецку.

Каравульны не авэкнуў на мяне, а заслухаўся: відаць, яму, рыжаму здыхляку, спадабалася гэтае «гер» — пан.

— Майн брудэр...— паказаў я на Івана, што стаяў побач з намі за калючым дротам.— Іх (тыцнуў я пальцам сябе ў грудзі) лібэ майн брудэр, гер зольдат...

А далей у мяне не хапіла слоў, каб працягваць гаворку па-нямецку. Але рыжага гера ўсё ж зацікавіла мая размова.

— Брудэр гут? — ухмыльнуўся ён.

— Зэер гут! — адказаў я.

Я паказаў яму грошы... Каравульны азірнуўся, ці не бачыць хто, схапіў грошы і сунуў у кішэню штаноў. По-

тым прачыніў крышку дзверы будкі і адышоўся ўбок.

— Іван! — гукнуў я.— Скарэй!

Іван куляй выскачыў на вуліцу. Мы з Сяргеем Платонавічам падхапілі яго і змяшаліся з гараджанамі. Ніхто, здаецца, і не заўважыў, як усё гэта адбылося.

Калі мы адышліся крыху ад гэтага страшнага месца, Сяргей Платонавіч сказаў:

— А цяпер уся задача, каб не трапіць нашаму Івану назад. У цэнтр не пойдзем. Паспрабуем прабрацца за горад па Старажоўскай вуліцы. Тут блізка поле. Як толькі пакажацца дзе патруль, ты, Іван, кідайся ў любы двор, забягай у любую хату. Мінчане ведаюць пра аблавы і памагаюць сваім людзям. А нам з Петрусём баяцца няма чаго — чарга да нас у немцаў пакуль не дайшла: я стары, а ён — малы.

Мы пайшлі па Старажоўскай і праз некалькі хвілін апынуліся каля могілак. За імі — канец горада. Ніводнага патруля тут, на далёкай ускраіне, на шчасце, не сустрэлі.

На могілках Сяргей Платонавіч распытаў у Івана, ці добра запомніў ён, што перадаць Прахарэню, і развітаўся з намі.

— Шчаслівай вам дарогі, дарагія мае! Другі раз няхай пасылаюць да мяне толькі Петруся. Згодзен? — запытаўся ён у мяне.

— Дзіва што!

На дварэ ўжо змяркалася. Сяргей Платонавіч заспяшаўся дадому, а мы — у свой бок. Цяпер ужо на поездзе не пад'едзеш. Трэба прабірацца пехатою па самых глухіх дарогах.

## НЕ ТАКІ ЧОРТ СТРАШНЫ...

К пачатку лета камендант Гершталь так знаглеў, што пачаў адбіраць у людзей і апошняе. Цярпець яго ўжо не было сілы.

Абрабаваўшы вёскі, ён дабраўся і да засцянкоўцаў. Юзік, які застаўся ў Вінцэся за пастуха замест мяне, ужо чакаў, што скора гаспадар адправіць яго дахаты: не будзе каго пасвіць. А так ён хоць не думае пра яду. Ды і Ядзя сяды-тады бегае да яго ў поле — Юзік дзеліцца з ёю сваёю пастухоўскаю доляй.

Як і раней, я вяжу венікі. Але хлеб усё даражэе, а венікі мае — не. Бацька нічым памагчы нам не можа. Мы рады, што ён хоць сам спакойна жыве сярод людзей. Праўда, пакуль што ніхто ім не цікавіўся. Немцы, відаць, на такіх беглякоў не зважалі: адны ўцякуць, другіх прыгоняць. Палонных у іх хапала. Хворых і непатрэбных ім яны зараз і самі адсылалі на радзіму. З нашай Галынаўкі таксама вярнулася некалькі чалавек.

Паўстанне супраць Герштaля і яго людаедскіх парадкаў пачалося з нашай Галынаўкі. А калі гаварыць больш дакладна — з аднарукага салдата Піліпа, Віцевага бацькі. А яшчэ дакладней — з кульгавага і дыхавічнага Піліпавага каня, ад якога адрокся нават Герштaль.

Справа была такая.

Аднойчы Піліп пасвіў свайго каня каля Абадка. І з ім здарылася тое ж самае, што некалі і са мною. На Абадок цяпер нашы баяліся ступіць і нагою: акрыяўшы пры немцах, пан Ясінскі гразіўся, што будзе страляць кожнага, каго зловіць на Абадку з жывёлаю. Некранутая ў гэтае лета трава там аж буяла. Худы і галодны Піліпаў коньнедабоек траха не сілаю завалок свайго гаспадара на гэты няшчасны Абадок. Піліп агляну́ўся — нідзе нікога не было, і ён даў каню волю. Што ж, няхай паласуецца трохі небарака, а то свая паша голая як бубен.

Ды, на бяду, у той дзень пан сам рабіў аб'езд сваіх сенажацяў. Пачыналася касавіца, і ён, мусіць, цікавіўся, што вырасла на яго абшарах.

Выскачыў пан на рэзвым каштанавым жарабцы з блізкага лесу і спыніўся, аслупянелы: сярод белага дня на яго Абадку пасецца чужы конь. Нахабства, ды і толькі. Колькі ні ўшчувай гэтых галынаўскіх мужыкоў, а яны сваё права правяць! «Я ж яму пакажу!» — загарэўся пан, заварушыў рыжымі вусамі, прышпорыў жарабца і ў момант апынуўся каля збянтэжанага Піліпа, які ўжо сілаю цягнуў свайго каня са смачнай забароненай пашы.

— Ты, хам, ведаеш, што пасеш на чужым? — закрычаў ён, спыняючыся каля Піліпа.

Піліп быў чалавек гарачы, і панская абраза закранула яго за жывое.

— Гэта не чужое! — цвёрда сказаў ён.— Ты сілаю адабраў у нас наш Абадок.

— Яшчэ спрачацца будзеш, хамула! — кіпяціўся пан, падскокваючы ў сядле.

— Я кажу праўду!

Пан свіснуў над Піліпам бізуном, якім гнаў жарабца:

— Вядзі сваю падлу ў маёнтак! А там я загадаю, каб яе здалі шкурадзёру.

Піліп змераў вачыма здыхляка пана: бач, як расхрабрыўся! І гэта ўсё немцы нарабілі. Каб не яны,— не было б Прусаку сюды дарогі.

— Нікуды я свайго каня не павяду! — сказаў Піліп.— Едзь, пан Прусак, адкуль прыехаў, а то горш будзе...

Злосць разбірала Піліпа не менш, чым пана.

— Ах, так!..

Пан прышпорыў зацуглянага жарабца, наляцеў на Піліпа і хвасянуў яго бізуном. Ён бачыў перад сабою аднарукага мужыка, хоць і занадта дзёрзкага, і зусім не баяўся яго. Калі што, за плячыма ў яго была стрэльба. Ды і стражнікі тут блізка: яны затрымаліся недзе ў лесе — ганяюцца там за бабамі, што збіраюць ягады. Самому пану не гонар звязвацца з бабамі.

Але пан Ясінскі на гэты раз моцна памыліўся. Піліп як бач адною рукою сцягнуў яго з сядла, паваліў на зямлю і з сілаю націснуў нагою на грудзі. Пану і дух заняло.

— Ты... ты... што...— прапішчаў ён.— Гвалт! Ратуйце!

Піліп яшчэ мацней націснуў нагою.

— Хопіць, гад, табе панаваць! Маліся свайму Езусу перад смерцю.

— Бяры майго жарабца...— узмаліўся пан.— Толькі пусці жывога.

З лесу паказаліся два конныя стражнікі. «Значыць, гэты жываглот не адзін тут,— з трывогай падумаў Піліп.— Трэба скарэй канчаць з ім...»

Калі пан перастаў варушыцца, Піліп зняў з яго плячэй двухствольную дубальтоўку. Паглядзеў — яна была зараджана.

Цяпер у яго іншага выхаду не было, як абараняцца зброяй. Але як жа гэта рабіць адною рукою?

Піліп наставіў дубальтоўку на стражнікаў. Думаў: можа, яны напалохаюцца і павернуць назад без перастрэлкі. Але стражнікі ўбачылі перад сабою аднарукага чалавека і смела кінуліся да яго з крыкам:

— Кідай стрэльбу!

Піліп прыціснуў прыклад барадою да пляча і спусціў курок.

Грымнуў стрэл.

Стражнікі спыніліся. Куля прасвістала каля іх, нікога не крануўшы.

— Кідай стрэльбу! — зноў закрычалі яны, хапаючыся за свае стрэльбы.

Піліп спусціў курок з другога ствала. Адзін стражнік як сноп зваліўся з каня. Другі стрэліў не цэлячыся і рвануўся да лесу.

Выратавала Піліпа добрая салдацкая практыка — ён і адною рукою здолеў паслаць кулю ў цэль, хоць і не з першага стрэлу.

Пасля гэтага ён завёў свайго каня дахаты, сказаў жонцы, што з ім здарылася, і знік з дому.

Стражнік, які застаўся жывы, не ведаў Піліпа. Але калі сказаў у паліцэйскім участку, што забіў пана і страляў у іх аднарукі чалавек, там адразу здагадаліся, каго шукаць. Прыляцелі ў Галынаўку. Перакапалі ўсю Піліпаву гаспадарку, збілі да непрытомнасці яго жонку Марылю і ні з чым вярнуліся да свайго начальніка Данілы Карлюка, высокага мужчыны сярэдніх гадоў, вочы якога траха не зусім заплылі ад самагонкі.

Калі б Піліп забіў аднаго стражніка, начальнік паліцыі і не паварушыўся б. Але ж ён прыдушыў і пана Ясінскага. І начальнік пабег на раду да каменданта Гершталя.

— Узяць заложнікаў! — загадаў Гершталь.

— Каго браць?

— Жонку, дзяцей... Блізкую радню... Абвясціць, што ўсе яны будуць расстраляны або павешаны, калі ён сам не здасца.

— Слухаю, пан камендант! Так і зробім! — адказаў начальнік паліцыі і сам памчаўся ў Галынаўку па заложнікаў.

Тым часам у партызанскім атрадзе, куды трапіў Піліп, занепакоіліся не на жарты. Гарасім і яго сябры радаваліся, што прыйшоў нарэшце канец зненавіднаму пану Ясінскаму. Але што зробіць Гершталь з Піліпавай сям'ёй ды і самой Галынаўкай? Калі за адну аплявуху нямецкаму салдату ён павесіў дзеда Пракопа і чуць не з торбамі пусціў людзей, дык якую ж плату ён запатрабуе за свайго любімага пана? Усе ж ведалі, што Гершталь часта гасцяваў у пана Ясінскага і ездзіў у адной з ім карэце.

Першае, што вырашылі зрабіць,— гэта забраць цётку Марылю і Віцю ў атрад. Потым — узяць Галынаўку пад

свой строгі нагляд. Дзеля гэтага паслалі туды разведку — з лепшых стралкоў.

Разведчыкі цішком падышлі да Галынаўкі якраз у той час, калі начальнік паліцыі са сваімі памочнікамі лавіў заложнікаў.

Мы ўсе збегліся на плач і енкі схопленых Піліпавых сваякоў. Смялейшыя крычалі на паліцэйскіх, кідаліся на іх з кулакамі, лаялі. Карлюк агрызаўся, махаючы рэвальверам:

— Разыдзіся! Страляць буду!

— Страляй, гад! — не здаваліся бабы.— За што да бязвінных людзей прычапіўся? Яны ж не забівалі твайго любімага пана. Піліп адзін гэта зрабіў, дзякуй яму, яго і шукай!

— Нічога,— выскаляўся начальнік,— ён сам да нас як міленькі прыбяжыць.

Пакуль ішла гэтая паліцэйская аблава, пакуль вязалі заложнікаў і кідалі на воз, разведчыкі перабраліся з кустоў да Піліпавага гумна.

Нарэшце Карлюк узабраўся на сядло і даў каманду сваім пешым паліцэйскім:

— За мною!

У гэты час ён зрабіўся для разведчыкаў такой зручнай мішэнню, што ў іх аж рукі засвярбелі.

Пачуўся стрэл, і Даніла Карлюк бразнуўся вобземлю.

Памочнікі яго не чакалі новых стрэлаў, а драпанулі хто куды.

Мы хутка развязалі заложнікаў. Забітага Данілу перакінулі цераз плот у грады. І ўсе дзівіліся, хто ж гэта ўхадаў яго так удала?..

— А цяпер,— сказаў Гарасім, выслухаўшы разведчыкаў, калі яны вярнуліся, — адступлення нам няма. ГерштАль не даруе гэтага. Праўда, да нас яму не так лёгка дабрацца. А вось Галынаўку ён пусціць з дымам.

— Каб жа толькі з дымам,— сказаў Прахарэня.— Ён можа пайсці і на большае, каб паказаць сваю сілу...

— Але ж яна ў яго не такая і вялікая,— сказаў Гарасім.

— Ну што ж,— зрабіў вывад камандзір атрада Прахарэня,— відаць, прыйшла пара нам памерацца сілаю з Герштелем. Галынаўку на згубу яму не аддамо.

Партызаны мелі ў паліцыі свайго чалавека. І калі даведаліся ад яго, што Герштэль рыхтуецца пасланць на зні-

шчэнне Галынаўкі траха не ўвесь свой гарнізон, вырашылі перахапіць яго на дарозе.

Прахарэня падзяліў атрад на дзве групы. Большую Гарасім павёў пад Галынаўку. З меншай ён сам падаўся да мястэчка. Хоць галынаўскую аперацыю Герштальі лічыў самай важнай, аднак, думаў Прахарэня, ён усё ж не адважыцца агаліць свой асноўны штаб. Дзесяткі два партызан загадзя прасачыліся ноччу ў само мястэчка. Ячэня потым казаў, што і ў іх тады начавалі пяць чалавек. Ды і ўсе местачковыя падпольшчыкі гатовы былі да бою.

Адным словам, цяпер ужо ўсё ішло да спробы сіл.

У Галынаўку Гершталь павёў свой атрад сам. Ён зусім спакойна пакінуў мястэчка з аднымі каравульнымі: не дурні ж партызаны нападаць на яго гарнізон сярод белага дня? Хутчэй яны могуць апынуцца ў Галынаўцы. Ды і то ён усё яшчэ не верыў, што гэта яны, а не хто з галынаўцаў, забілі начальніка паліцыі. Усё гаварыла за тое, што баяцца буйнай сутычкі з партызанамі не было прычыны. А калі ахвяраваць Галынаўкай, тады нікому і ў галаву не прыйдзе падымаць руку на яго і заведзены ім нямецкі парадак. Бо што ж выходзіць: сёння забілі пана Ясінскага і Данілу Карлюка, а заўтра, чаго добрага, дабяруцца і да яго самога...

З такім бадзёрым настроем вёў Гершталь у тую памятную раніцу з паўсотні сваіх салдатаў у нескароную Галынаўку. Войска яго мінула маёнтак, прайшло добры кавалак дарогі адкрытым полем і наблізілася да невялікага мастка на рэчцы Галынаўцы, што зарасла абапал густымі кустамі лазняку і алешын. За гэтым мастком сама Галынаўка як рукой падаць.

І раптам кусты ажылі — з іх, як тыя пчолы з вулля, пасыпаліся кулі. Гершталь аднак не разгубіўся, даў каманду лажыцца, хоць некаторыя ўжо зрабілі гэта і без каманды — забітыя і параненыя.

Як толькі Герштaлева войска залягло, кусты змоўклі. Як быццам нікога і нічога там і не было. Тады Гершталь даў новую каманду: абстраляць ворага. Абстралялі. Але забілі каго ці не — невядома: у кустах не відаць.

Надакучыла Гершталю ляжаць і страляць у невядома каго.

— Наперад! — крыкнуў ён.— У атаку!

Частка салдат нехаця паднялася. Але, як толькі яны ўсталі на ўвесь рост,— кусты зноў абсыпалі іх кулямі.

А з-пад блізкага мастка прыляцелі і дзве ручныя гранаты.

Параненыя ўзнялі страшэнны гвалт, праклінаючы Гершталя, які прывёў іх сюды на пагібель.

І тады сталася тое, чаго Гершталь зусім не чакаў: войска яго, замест таго каб рынуцца на кусты ў атаку, кінулася назад у мястэчка.

— Стой! Чакай! — крычаў Гершталь, даганяючы салдатаў.— Страляць буду!

Кулі свісталі каля яго вушэй, але яму шанцавала.

Хутка ён выскачыў з-пад абстрэлу. І больш ужо не даваў ніякіх каманд — бег і сам галопам за сваімі салдатамі.

Каля мястэчка ён пачуў новую страляніну. «Няўжо і там яны?» — падумаў знясілены бегам і перапалоханы Гершталь. Салдаты павярнулі ў густое панскае жыта. Гершталь застаўся адзін на дарозе. І яму стала яшчэ страшней. Ён і сам кінуўся ўбок і, прыгінаючыся ў жыце, памчаўся да дарогі, што вяла на станцыю.

Так бясслаўна скончыўся для каменданта Гершталя гэты паход у Галынаўку.

Улада валасная распалася ў той жа дзень. Але Прахарэня не застаўся ў мястэчку. Ставіць сваю ўладу было яшчэ рана. Для гэтага сапраўды, як раіў цэнтр, патрэбна паўстанне не адной воласці.

Аднак з гэтага дня і сам Прахарэня, і ўсе байцы яго атрада пераканаліся, што не такі чорт страшны, як яго малююць.

## ДЭРАШ ЗНОЎ СА МНОЮ!

Калі ўсё суспакоілася, Гершталь вярнуўся са сваім недабітым атрадам у гарнізон. Тут ён даў добрую праборку салдатам і паліцэйскім. Гэта яны вінаваты! Каб не ўцякалі ад партызанаў, усё было б зэер гут [1] — і ў Галынаўцы, і ў самім мястэчку. А то аднаго-двух забілі, трох-чатырох паранілі, і яны ўжо — наўгалоп, як апантаныя. Не дай бог дойдзе гэтая ганьба да высокага начальства. Тады яму не жалезны крыж — фігу дадуць. А ён жа не з апошніх афіцэраў-тылавікоў. Ён паслаў у фатэрлянд [2] гэ-

[1] Зэер гут — вельмі добра *(ням.)*.
[2] Фатэрлянд — радзіма, бацькаўшчына *(ням.)*.

тулькі дабра і рабочай сілы, што суседнія каменданты толькі зайздросцілі яму. Што ж, трэба галаву мець на плячах, а не капусны качан, як у іншых.

Расхрабрыўшыся ў сваім гарнізоне, Гершталь надумаўся калі не знішчыць, то хоць выгнаць партызанаў з воласці. Тады зноў можна будзе спакойна жыць, як жылося ўсе апошнія месяцы.

Дакладнага месца, дзе шукаць партызанаў, ён не ведаў. Меркаваў толькі па розных вестках, што база іх недзе блізка каля мястэчка, за вёскай Баравое. Што ж, партызанскі атрад не іголка ў стозе сена. Давядзецца пусціць у ход разведку.

Тым часам, пакуль Гершталь збіраўся на рашучую вайну з партызанамі, тыя таксама не драмалі. Недалёка ад іх лагера была моцна забалочаная мясціна. Там і ў сухое лета не высыхала гразь. Добрыя дрэвы на ёй не раслі,— адно кустаўё. Сюды і рашылі партызаны завабіць Гершталя, як толькі даведаліся пра яго зборы ў паход.

Вось чаму варта было Гершталю паказацца за Баравым, як ён адразу ж знайшоў тых, каго шукаў,— некалькі партызанскіх разведчыкаў ужо чакалі яго на ўскраіне лесу. Адстрэльваючыся без прыцэлу, яны паспешна адступалі ў глыб пушчы.

Узрадаваны, Гершталь падганяў салдатаў:

— Шнэль! Шнэль! Партызаны тут — перад намі. Цяпер мы іх не выпусцім ні з свайго вока, ні з сваіх рук.

Ён і не спадзяваўся на такую ўдачу: ледзь толькі ступіў за вёску Баравое, як перад ім і яны — яго ворагі.

Густа асыпаючы кулямі дрэвы, салдаты рушылі наперад. Яны таксама радаваліся, што ўсё так лёгка пачалося: партызаны страляюць рэдка і зусім няўдала — нікога нават не паранілі. Значыць, стралкі яны няважныя. І, як чуваць па гуках, пухкаюць з нейкіх дапатопных паляўнічых дубальтовак. Ну, з такімі ваяваць адна забава.

Аднак неўзабаве Гершталь заўважыў, што партызаны, за якімі ён гэтак заўзята гнаўся, раптам зніклі: перасталі страляць. Што яны — усе перабіты?.. Ён спыніў сваё войска і выслаў разведку. Але не паспела разведка вярнуцца, як зноў пачуліся стрэлы. Ага, падумаў Гершталь, значыць, разведка знайшла рэшткі партызанаў і завязала з імі перастрэлку.

— Наперад! — крыкнуў ён.— Вораг перад намі! Нам застаецца толькі дабіць яго.

Аднак на гэты раз вораг апынуўся не толькі спераду, а і з бакоў, абапал гразкага кустаўя, куды заляцеў з разгону Гершталь.

Доўга кідаўся ён туды і сюды па балотных кустах і нідзе не мог прабіцца наперад. Нарэшце, страціўшы палавіну свайго атрада, вымушаны быў адступіць. Самога яго, параненага ў нагу, салдаты вынеслі з бою на плячах.

Так пасля гэтага паходу Гершталь лішні раз пераканаўся, што не ён адзін поўны гаспадар у воласці. Ёсць тут і другая сіла, якая можа ў любы час паказаць сябе. І таму паміж дзвюма гэтымі сіламі ўстанавіўся на нейкі час неабвешчаны мір.

Цяпер Гершталь сядзеў у сваім гарнізоне як мыш пад мятлою. Салдаты яго хадзілі гуртам з вінтоўкамі напагатове: кожны чалавек ім здаваўся партызанам.

Грамадзянская ўлада Пятровіча ледзьве ліпела. Ніхто нікога не слухаў. Мужыкі ўспомнілі ранейшую волю і пачалі памаленьку дабірацца да маёнткаў і багатых фальваркаў. Нашы зноў ганялі пасвіць жывёлу, у каго яна была, на Абадок і нават касілі паціху для сябе, без часці, панскія сенажаці. Забітага пана Ясінскага замяніў яго сын Юзаф. Але, напалоханы партызанамі, ён збег у Мінск. Слугі ж без яго не вельмі стараліся вартаваць панскае дабро.

Я вязаў свае венікі і ўсё думаў пра Дэраша. Як бы мне вярнуць яго? Я ніяк не мог забыць яго. Венікі ў мястэчка я насіў паўз маёнтак. І кожны раз на ўсе вочы ўглядаўся, ці не відаць там дзе Дэраша. А мо яго ўжо і няма — прадалі ці Гершталь забраў: у апошні час ён ужо ачышчаў памаленьку і маёнтак пана Ясінскага.

Аднойчы, ідучы з мястэчка дахаты, я раптам убачыў Дэраша. Разам з іншымі коньмі ён пасвіўся каля кустоў пры рэчцы. Я пазнаў яго здалёк і не мог адарваць ад яго вачэй. Падышоў бліжэй, паклікаў. Дэраш падняў галаву, прыветліва заржаў, цягнучыся да мяне сваёю мяккаю пысаю. Пазнаў і ён мяне. Я нарваў у кусце добрай травы, даў яму. Ён ахвотна з'еў і зноў заржаў паціху — гэта значыла: дай яшчэ!

— Ах ты, мой Дэрашка! — гладзіў я яго па шыі.— Як жа табе тут жывецца без мяне, без Юзіка?

Я гаварыў з ім, як са сваім добрым сябрам, і ён, здавалася, разумеў мяне.

Нікога блізка не было. Папутаныя коні пасвіліся самапасам. А што, калі ўскочыць на Дэраша і... Мяне аж ска-

ланула ад такой спакусы. Гэта ж мой конь! Яго мне наша законная Савецкая ўлада дала. Каб не немцы, што сілаю захапілі наш край, хто ж бы адбіраў у мяне Дэраша!

Я распутаў каня, узяў за грыву, і ён ахвотна пайшоў за мною.

Кустамі мы выйшлі на жытняе поле, а там недалёка і дарога.

Пусціць Дэраша назад ці весці далей? Ніяк не мог я з ім расстацца. Эх, што будзе! Я ўскочыў на Дэраша і, пляскаючы злёгку яго па шыі, накіраваў на дарогу. Там цмокнуў, галёкнуў і памчаўся ў сваю Галынаўку.

Як мне было добра ў тую часіну! Дэраш зноў са мною!

І толькі ўжо каля самай Галынаўкі я апамятаўся: а што я скажу дома, суседзям, старасту Палікару? Што немцы або сам малады пан вярнулі мне Дэраша? Ніхто не паверыць. Ды, урэшце, што мне з ім рабіць? Ён жа зняжа мне рукі і не дасць займацца венікамі, зарабляць грошы на хлеб. Ды і сена ж для яго трэба рабіць на зіму...

Гэтыя цвярозыя думкі зусім расхаладзілі мяне. Проста хоць ты кідай Дэраша сярод дарогі і бяжы ад яго з усіх ног.

І тут я ўспомніў бацьку. А што, калі завесці Дэраша яму? Ён там будзе ездзіць на ім, куды трэба, і даглядаць яго. А потым — відаць будзе, што з ім рабіць. Пажывом, як кажуць, пабачым. Можа, і праўда хутка Гершталь пакоціцца ў сваю Нямеччыну, як пра гэта ў нас толькі і гавораць. Людзі чакаюць гэтага дня — не дачакаюцца.

Я спыніў Дэраша. Дзе ж узяць аброць? Без яе ў такую дарогу пускацца нязручна. У мяне было пута, што я зняў з Дэраша. І папружка старэнькая на штанах. Ды гэта ж паўаброці! — падумаў я. Калі звязаць іх, выйдзе намордніх. Не хапае толькі павадоў. З чаго ж іх зрабіць? Я агледзеўся наваколь. Бачу — недалёка пры дарозе расце лазіна. Падвёў да яе каня. Зламаў лазіну — лыка яшчэ добра дзярэцца, не засохла.

Так змайстраваў я самаробную аброць. Няважная яна была, але Дэраш — конь паслухмяны.

Я зноў сеў на Дэраша і павярнуў яго сваёй самаробнай аброццю ў пушчу, да лесніка Яловіка. Цяпер мне пароля не трэба — ён ужо добра мяне ведае.

## РАЗМОВА З БАЦЬКАМ

За Дэраша ў атрадзе мяне пахвалілі.

— Добра зрабіў,— сказаў дзядзька Гарасім.— Ты ўзяў не чужое, а сваё. Ты яго зарабіў у панскай рымарнай.

І праўда, падумаў я. Пан плаціў мне, як і ўсім рабочым, капейкі, а сам гроб з казны колькі хацеў. І ўсё яму мала было. Я ўспомніў пра сена, якое ён у нас адабраў, пра дзеда, якога забілі панскія стражнікі за нікчэмныя гнілякі на дровы. Добра, што Піліп утаймаваў панскую прагнасць. Далі яму тры аршыны на могілках, і гній сабе, гад. Сын яго, кажуць, не лепшы. Але вельмі ж дрыжыць за сваю шкуру. Партызаны, дзякуй ім, папудзілі яго, ён і даў драла.

Бацька таксама быў рады Дэрашу, хоць бачыў яго першы раз. Але чуў ад нас, як яно ўсё было. Так што і ён лічыў яго сваім. Вельмі ўзрадаваўся ён і нашай сустрэчы. Расчуліўся так, аж слёзы на вачах выступілі.

— Ну, як вы там, сынок, без мяне? — запытаўся.

— Нічога, тата, не думай вельмі пра нас.

— Лёгка сказаць — не думаць. З галавы не выходзіць дом. І блізка ён ад мяне, і далёка. Скарэй бы ўжо канец які...

— Канец будзе, тата. Толькі не які, а адзін: прагоняць немцаў, і ты вернешся дадому.

— Яно ж і я так думаю. Не векаваць жа ім тут. Нядаўна ў нас, у атрадзе, выступаў адзін чалавек з Мінска. Складна гаварыў. Казаў, немцы таксама бунтуюцца. Надаела вайна і ім. Волі хочуць і нямецкія рабочыя людзі. Ды я гэта і сам добра ведаю. З кім з парабкоў ні гаварыў там, ніхто не хваліў свайго гаспадара: нямецкія бароны такія ж крывасмокі, як і нашы паны. Не лепшыя, вядома, і фабрыканты. Так што, можа, рабочыя людзі і там выступяць супраць свайго кайзера і яго генералаў. Тады іхняму Гершталю ў нас не панаваць.

Я супакоіў бацьку як мог. Сказаў, што зарабляю сёетое на веніках, Юзік мае хлеб пастухоўскі. Пражывом якнебудзь. Ужо картоплі пачынаем капаць. Добрыя растуць. Цяўнік буйны, цвету многа. Вясною маці пазычыла трохі ячменю ў сваякоў. Пасеялі яго за агародамі, пры рэчцы. Таксама густы расце. А гародніны дык усялякай на градах — і капуста, і бручка, і моркаўка.

Я трошкі прыхарошыў свой расказ, але няхай сабе.

Бацьку лягчэй будзе на душы. А так з выгляду ён зусім змяніўся: папаўнеў, шчокі пасвяжэлі. Падобны стаў на таго бацьку, якога я ведаў да вайны. Толькі пасівеў яшчэ больш. Мусіць, ад суму па доме.

— А як ты тут жывеш? — пацікавіўся і я ў сваю чаргу.— Работы ж у вас ніякай.

Я ведаў, што раней бацька не мог без работы і гадзіны пражыць. Нават у святочныя дні знаходзіў сабе занятак. А што ён мог рабіць тут, у партызанскім атрадзе?

— Работы ў нас, сынку, не менш, чым у любой гаспадарцы,— адказаў бацька.— Мы нават лыкі дзяром на лапці — і для сябе, і на продаж.

— Дык гэта вашы лыкі на рынку? — здзівіўся я.— А я думаў,— іх прывозяць адкуль здалёк. Можа, і лапці вашы? Іх таксама часта прадаюць.

— І лапці нашы. І кашы, граблі, вілы. Усё, патрэбнае ў гаспадарцы.

— І самі партызаны прадаюць?

— Бывае, і самі, але больш перакупшчыкі. А з чаго ж нам жыць? Грошай жа нам за партызанства ні Герштäль, ні Пятровіч не плацяць. Усё трэба самім здабываць.

— Ну, а з немцамі і паліцэйскімі хто ваюе?

— Мы і ваюем. Калі Герштäль ішоў на Галынаўку,— страляў у яго з кустоў каля моста і я. Ды і тут, у пушчы, мы яму добра ўсыпалі.

— І забіў хоць аднаго?

— Думаю, што забіў. Страляю я не горш за Піліпа. Ён жа і адною рукою стражніка ўлажыў. А ў мяне дзве рукі. Здаровыя.— Бацька сціснуў кулакі.— Бачыш? Я зноў пачынаю дужацца з мужыкамі, як некалі. Сіла вярнулася, як на волі пажыў.

— Каб жа гэта воля...— сказаў я.— Ты яшчэ не ведаеш волі, не жыў пры ёй.

— Так-то яно так, але для мяне і такая воля ў сто разоў лепшая за нямецкі палон. Тут я, можна сказаць, дома, а не на чужыне. Я адчуваю сябе чалавекам, а не скацінай, як на ферме ў Вальтэра Шварца. Часта я навучаю стральбе і ружэйным прыёмам маладых хлопцаў. Яны цяпер траха не кожнага дня да нас прыходзяць. Мы трошкі памуштруем іх і пасылаем далей, у Чырвоную Армію. А ты кажаш, нам няма чаго рабіць. Ходзім і ў разведку.

— У якую? — не зразумеў я.— У вас жа не фронт.

— У нас свая разведка. Мы павінны ўсё ведаць, за ўсім сачыць і ў валасці і за валасцю. Ты, казаў Гарасім, таксама нядрэнны разведчык. Хваліў ён цябе. Маладзец, сынок.

— Я — разведчык?

— Але, ты. Хто ў Мінск ездзіў Краўцова выручаць?

— Гэта мяне проста папрасіў дзядзька Гарасім.

— Вось бачыш. Нас ён або Прахарэня таксама папросяць або загадаюць, кажучы па-ваеннаму, мы і ходзім куды трэба, і робім што трэба. Між іншым, пана Ясінскага павінен быў прыстукнуць я. Піліп проста апярэдзіў мяне. Я ўжо высочваў яго. Такі быў загад мне. Здраднікам і самым заядлым паліцэйскім мы таксама спуску не даём... Герштаалю так і не ўдаецца набраць моцную паліцыю. Ну, ды гэта наша звычайная работа.

Калі я ўжо збіраўся пакідаць партызанскі лагер — позна было, дзядзька Гарасім паклікаў мяне ў сваю зямлянку. Там дастаў з замкнутай драўлянай скрынкі густа спісаны хімічным карандашом аркуш паперы і падаў мне са словамі:

— Скажы, ваша настаўніца нямецкай мовы нікуды не паехала на лета?

— Нядаўна я бачыў яе ў мястэчку.

— Ты, як мне вядома, перадаваў ёй адно наша даручэнне, і яна ахвотна зрабіла тую важную работу.

— Яна нават прасіла,— сказаў я,— каб вы не забывалі яе.

— Добра. Мы помнім яе. Прыйшла пара збіраць такіх людзей у бальшавіцкія ячэйкі. І мы прымем яе ў адну з такіх ячэек. А пакуль што перадай ёй другую нашу просьбу: няхай перакладзе гэтае пісьмо на нямецкую мову.

— І ўсё?

— Усё. Пераклад прынясі нам. Мы тут самі перапішам яго і пашлём Герштаалевым салдатам. Трэба ж не забываць і іх. Зразумеў?

— Зразумеў, дзядзька Гарасім.

Я палажыў пісьмо за пазуху і пакінуў цяпер ужо зусім родны мне партызанскі атрад.

З лесу я выйшаў яшчэ завідна. Дастаў з-за пазухі спісаны аркуш і пачаў чытаць на хаду. Гэта сапраўды было пісьмо нямецкім салдатам. У ім проста і ясна расказвалася, што робіцца ў Нямеччыне: як ад вайны багатыя яшчэ больш багацеюць, а бедныя яшчэ больш бяднеюць. І ня-

хай Германія захопіць хоць цэлы свет, бедныя ад гэтага нічога мець не будуць — усё паглынуць фабрыканты, бароны, генералы. У канцы пісьма раілася салдатам стварыць свой камітэт і патрабаваць звароту на радзіму. Многія нямецкія салдаты ўжо так і робяць, бо дачакаюцца яны ў нас толькі пустога канца: Чырвоная Армія ўмацуецца і з паўстанцамі-партызанамі зробіць усім ім вялікі капут...

Заўтра ж, падумаў я, занясу гэтае пісьмо Лізавеце Адамаўне. Яго няможна затрымліваць надоўга. Няхай прачытаюць Герштлевы салдаты праўду пра сябе. Баронаў і фабрыкантаў сярод іх пэўна ж няма: тыя самі не служаць у арміі і не ваююць.

## НЯМА ДУРНЫХ

Яшчэ вясною ў нас былі чуткі пра нейкі новы ўрад у Мінску. Называўся ён — Беларуская народная рада, або БНР. Хто стварыў гэты ўрад і што ён робіць, ніхто сказаць не мог. Мы ведалі, што ў валасці ёсць валасная ўправа. Што кіруе ёю эсэр Пятровіч. І што гэты Пятровіч з сваёй управаю кроку не зробіць без Герштля. Герштлеў халуй — так цяпер усе ў нас звалі Пятровіча. Што ён рабіў? Збіраў падаткі для немцаў, ганяў людзей у абозы — вазіць на станцыю і ў Мінск рознае дабро для немцаў. Арыштоўваў тых, хто не хацеў слухаць немцаў. Адным словам, быў звычайным слугою ў нямецкага каменданта Герштля. А хто такія бээнэраўцы? Маюць яны якую-небудзь сваю ўладу ці такія ж халуі, як Пятровіч?

І вось ужо неяк у канцы лета сельскія старасты ва ўсе званы зазванілі, каб людзі збіраліся ў чарговую нядзелю ў мястэчка, што там адбудзецца вялікі валасны сход, што на гэты сход прыедзе нейкі вялікі начальнік з Беларускай рады. Не немец, не рускі гэты начальнік, а свой чалавек — беларус. У нас тады мала хто і чуў гэтае слова. Мы лічылі сябе мужыкамі. Можна яшчэ было пачуць слова — «тутэйшы». А беларус — гэта было для нас нешта новае. Ну, а да ўсякай навіны людзі, вядома, не застаюцца глухімі. І з гэтай прычыны ў нядзелю сабраўся ў мястэчку такі кірмаш, якога і ў самы лепшы фэст[1] не бывала.

[1] Фэст — кірмаш у дзень царкоўнага свята.

Я прыйшоў на гэты фэст без венікаў. Там, падумаў, ні маім купцам, ні мне будзе не да венікаў. І праўда: на рыначнай плошчы сышлося народу, як у царкве на вялікдзень. Усім жа хацелася пачуць новае слова ад свайго чалавека, ды яшчэ якога! Можа, ён пра волю што абвесціць? Можа, цяжкія нямецкія падаткі зніме, зямлю панскую дазволіць забіраць беззямельным і малазямельным? Урэшце, можа, перад усім народам пасарамаціць Герштаcomponent і Пятровіча за здзекі з мужыкоў? Ды ці мала думак і надзей цяплілася ў сэрцах тых, хто захацеў сваімі вачамі паглядзець на гэтага чалавека, пачуць ад яго добрае слова. Тым больш што для яго добрага слова збудаваны сярод плошчы побач з Герштaлевай шыбеніцай свежы дашчаны памост-трыбуна.

І што мне перш за ўсё кінулася ў вочы — на сход прыйшло нямала хлопцаў і дзяўчат і з нашага вучылішча. Быў сярод іх і Ячэня.

— Хто гэта да нас едзе? — запытаўся я ў яго.— Не чуў?

Але нават Ячэня не мог мне толкам растлумачыць, што гэта за Беларуская рада і хто там у іх начальнікі. Сказаў толькі, што радавец ужо тут, сядзіць у валасной управе.

Ячэню я не бачыў цэлы тыдзень, і мы цішком спыталіся адзін у аднаго, ці няма якіх важных навін у атрадзе. Цяпер ужо я мог і адзін, без яго, збегаць у атрад, калі мне захочацца. Навін у мяне не было, а Ячэня сказаў, што да гэтага сходу рыхтаваліся і мястэчковыя падпольшчыкі. Яны тут, у гурце. Хочуць таксама паслухаць важнага радаўца.

Мужыкі гаманілі, курылі, паглядаючы на недалёкі будынак валаснoй управы. Чаму не пачынаюць? Доўга ж нешта там сеймікуюцца [1].

Нарэшце мы ўбачылі, як з управы ўслед за паліцэйскімі паказаліся цывільныя начальнікі. Некаторых мы адразу пазналі. Гэта былі члены валаснoй управы, сельскія старасты і з імі чамусьці наш Павел Кірылавіч. Сярод незнаёмых вылучаўся высокі хударлявы мужчына ў летнім саламяным капелюшы і ў вышыванай кашулі пад светлым парусінавым пінжаком. На носе ў яго віселі акуляры без дужак — пенснэ, а пад носам тарчалі тонкія

[1] Сеймікавацца — раіцца.

чорныя вусікі. У руках ён нёс тоўсты жоўты партфель. Шмат ніжэйшы за яго Пятровіч нешта гаварыў яму, блытаючыся ў яго пад нагамі. Ніводнага немца сярод іх не было.

Паліцэйскія з ходу рассунулі натоўп, і куча начальнікаў важна прайшла на сярэдзіну плошчы да трыбуны. Высокі мужчына — гэта і быў той важны чын з рады, якога чакалі, а за ім і Пятровіч падняліся па сходках на трыбуну, іншыя разам з паліцэйскімі акружылі іх знізу.

Радавец зняў капялюш і памахаў ім перад сабою. Тыя, што стаялі пад трыбунай, дружна запляскалі ў ладкі. Сёй-той адгукнуўся на іх ладкі і з натоўпу.

Пятровіч таксама шчыра папляскаў, потым загаварыў да грамады:

— Панове! Грамадзяне! У нас сёння вялікае свята: да нас меў ласку прыехаць знакаміты госць — дэлегат беларускага ўрада Аляксандр Цвікевіч. Давайце ж усе дружна прывітаем яго!

Грымнулі тыя ж негустыя ладкі вакол трыбуны. Мужыкі маўчалі. Ніхто ж яшчэ толкам не ведаў, хто ён і што — гэты госць. Калі ён такі, як сам Пятровіч, то навошта дарэмна пляскаць у ладкі.

— Імя Аляксандра Цвікевіча,— гаварыў Пятровіч,— вядома ўсім, хто лічыць сябе шчырым беларусам. А мы ўсе тут — беларусы. Мы вельмі рады, што гэты славуты дзеяч Беларускай рады завітаў да нас. Давайце папросім яго расказаць нам пра сваю раду і растлумачыць, што трэба рабіць нам, каб дапамагчы нашаму беларускаму ўраду ў яго працы. Просім, высокапаважаны пан Цвікевіч!

Пан Цвікевіч зрабіў кіслую ўсмешку на сваім хударлявым твары.

— Навошта ж, грамадзянін Пятровіч, гэтае слова — «пан»? Мы — не палякі. Гэта ў іх усе паны — і багатыя князі, і бедныя абываталі. Завіце мяне проста — «грамадзянін» або па-нашаму — «спадар». Сам я не з багатай сям'і. Але я прызнаю толькі адну партыю — нацыянальную беларускую, у якую павінны ўваходзіць усе свядомыя грамадзяне-беларусы.

— І мужыкі, і паны? — перабіў яго голас з натоўпу.

— Але,— адказаў Цвікевіч.— Мы — не бальшавікі, якія касуюць прыватную ўласнасць на зямлю і на фабрыкі.

Зрабіўшы паўзу, прамоўца запытаўся ў слухачоў:

— Ці ўсе вы, грамадзяне, ведаеце, што ў нас ёсць свой урад — Беларуская народная рада?

— Ведаем, грамадзянін дэлегат рады! — гаркнулі тыя, што стаялі каля трыбуны. Іншыя прамаўчалі. Калі хто з іх і ведаў, то не хацеў падаваць голасу.

— Наша рада стварылася ў снежні мінулага года, яшчэ пры бальшавіках. Але мы не прызналі бальшавікоў-камуністаў, і яны сілаю разагналі нас. Што ж, на іх баку тады была ваенная сіла, якой мы не мелі. Яны стварылі свае бальшавіцкія Саветы і прызнавалі толькі Савецкую ўладу. А што такое гэтыя Саветы? Там гаспадарыла адна галота. Ці ж справядліва гэта? Ды, на наша шчасце, прыйшлі немцы. І прынеслі нам волю...

Натоўп захваляваўся, зашумеў.

— Каму прынеслі волю? — выкрыкнуў нехта блізка каля мяне.

— Усім, — упэўнена адказаў прамоўца.— І мне, і маім сябрам-радаўцам, і тым, каго не пускалі ў бальшавіцкія Саветы. Вядома, яны не прынеслі волі нашым ворагам — бальшавікам. А вось, прыкладам, побач са мною стаіць ваш старшыня, грамадзянін Пятровіч. Хоць ён і сацыяліст-рэвалюцыянер, а бальшавікі не давалі яму ходу. Толькі нямецкая армія памагла яму стаць старшынёю воласці.

— Затое ён і служыць немцам, а не нам! — зноў пачуўся голас, ужо з другога боку.— Мы яго не выбіралі!

— А каму служыць ваша рада?

— А як наконт панскай зямлі. Ці аддасць яе нам рада?

Змакрэлы ад гарачыні і хвалявання Пятровіч забегаў па трыбуне з кутка ў куток, махаючы рукамі:

— Цішэй! Дайце гаварыць грамадзяніну аратару!

Грамадзянін аратар трохі разгубіўся ад дзёрзкіх пытанняў, але выгляду пакуль што не падаваў. Відаць, прывык да такіх сходаў.

— Я ўсё растлумачу,— паўтарыў ён.— Паслухайце толькі. Тады будзеце задаваць свае пытанні. Бальшавікі яшчэ вясною адракліся ад Беларусі і заключылі з немцамі мір. Так што вы іх не чакайце. Але ж немцы не вечна будуць кіраваць намі. Рана ці позна яны пакінуць Беларусь і перададуць уладу нам — радаўцам. Ці ўтрымаем тады мы яе адны, без дапамогі моцнай дзяржавы? Бальшавікі зноў могуць падняць галовы.

— Не толькі падымуць, а і зноў паразганяюць нямец-

кіх халуёў, як рудых мышэй! — падказаў нехта аратару.

Падказка гэта была пэўна ж крыўдная для вялікага госця, і Пятровіч закамандаваў паліцэйскім знайсці няўдзячнага слухача. Тыя кінуліся шукаць, але дзе яго знойдзеш: ён ужо недзе крычыць у другім баку.

Цвікевіч тым часам працягваў:

— Каб гэтага не здарылася, рада рашыла прасіць яго высокасць нямецкага кайзера Вільгельма Другога прызнаць Беларускую раду і яе дзяржаву і быць нашым заступнікам перад бальшавіцкай Расіяй. Яшчэ 25 красавіка мы паслалі яму тэлеграму такога зместу:

«Рада Беларускай народнай рэспублікі як абраная прадстаўніца беларускага народа звяртаецца да Вашай высокасці са словамі глыбокай падзякі за вызваленне Беларусі германскімі войскамі з цяжкога чужога прыгнёту, гвалту і анархіі.

Рада Беларускай народнай рэспублікі дэкларыравала незалежнасць адзінай і недзялімай Беларусі і просіць Вашу высокасць абараніць яе дамаганні, каб стварыць дзяржаўную незалежнасць і недзялімасць Беларусі ў саюзе з Германскай імперыяй.

Толькі пад апекай германскай дзяржавы бачыць рада добрую долю сваёй краіны ў будучым.

Старшыня рады *Іван Серада*».

Выслухаўшы тэлеграму, натоўп зашумеў яшчэ мацней. Відаць, мала каму яна была па душы. Тут людзям дзень цяжка пражыць пры немцах, а то прадацца ім на векі вечныя... Вось дык рада!

І ўжо не спрэчка, а цэлая вайна распачалася з радаўцам Цвікевічам:

— Хто вас прасіў пасылаць такую тэлеграму крываваму кайзеру?

— Не кайзеру мы пашлём просьбу аб дапамозе, а Леніну! Толькі ён адзін нас абароніць і ад кайзера, і ад яго слуг!

Пятровіч расчырванеўся як вараны рак. Махаў кулакамі, стукаў ботамі аб трыбуну, пагражаў турмою тым, хто перашкаджаў аратару. Сам аратар пачынаў непакоіцца: то знімаў пенснэ, то зноў чапляў яго на свой доўгі нос.

— Вы не разумееце нашай нацыянальнай палітыкі! — крычаў ён.— Паслухайце. Я растлумачу вам.

— Разумеем, пан Цвікевіч! Добра разумеем, куды вы нас цягнеце.

— Але ж мы хочам мець сваю дзяржаву!

— Пад ботам кайзера і яго намесніка ў нашай воласці Гершталя!

— Чаму пад ботам,— агрызаўся Цвікевіч.— Мы будзем мець самастойную рэспубліку ў саюзе з Германіяй. Мы ўжо самастойныя. Вось паслухайце, якую важную пастанову прыняла наша рада.— Ён выняў з партфеля ліст паперы і пачаў чытаць:

— «Першы пункт: «Усе дэкрэты ўраду Леніна, а таксама былых народных камісараў Заходняй вобласці і фронту прызнаць для Беларусі несапраўднымі.

Другі пункт: Да часу ўстанаўлення законаў народнай рэспублікі ўсім установам карыстацца законамі Часовага былой Расійскай рэспублікі ўраду (Керанскага) і рабіць справу іменем беларускага ўраду.

Трэці пункт: Адзіным і прадстаўнічым, і вярхоўным органам Беларускай народнай рэспублікі лічыць народны сакратарыят, выбраны радай 1-га Усебеларускага з'езда».

— Ну, вось бачыце,— самаўпэўнена памахаў ён паперай-пастановай.— А вы кажаце, мы такія-сякія. Мы — самастойная дзяржава!

— Хто выбіраў вас і ваш урад? Нешта мы не чулі.

— Самі сябе выбралі.

— Самазванцы вы, а не беларускія прадстаўнікі!

І яшчэ з дзесятак шпілек сыпанулі слухачы дакладчыку, у якога, відаць, былі цвёрдыя намеры зачытаць на валасным сходзе гэтыя важныя для рады дакументы і дабіцца, каб іх ухвалілі.

— З кайзерам мы заключым дагавор,— працягваў дакладчык.

— Які? — паляцела да яго чарговая вострая шпілька.— Служыць яму верай і праўдай і пасля акупацыі?

Галасы цяпер чуліся з усіх бакоў. Мне і самому хацелася задаць дакладчыку тое ці іншае пытанне. Але хто тут пачуе мой слабы голас? Я ўспомніў, што гаварыў Ячэня пра падпольшчыкаў. Гэта, мусіць, яны памагаюць радаўцу Цвікевічу рабіць даклад. Добра прыдумалі. Хоць, трэба сказаць, дакладчык і сам някепска выкрываў сябе і сваю раду, як сапраўдных нямецкіх халуёў. Ён думаў — знойдзе ў нас сваіх прыхільнікаў. Але, калі яны і былі, то

пасля ўсяго не адважыліся і рота раскрыць. А пан Цвікевіч дзёўб сваё:

— Кайзер рад быў бы заключыць з намі дагавор, але ў час падпісання міру ён абяцаў Савецкай Расіі не ствараць самастойныя дзяржавы на яе ўскраінах без згоды ўсяго народа. Таму кожны з вас павінен паставіць свой подпіс пад гэтаю просьбаю. Тады кайзер возьме нас і нашу беларускую дзяржаву пад сваю апеку і абарону.

Тут ужо не сцярпеў і я.

— Узяў ужо...— прапішчаў я не сваім голасам. Але ніхто сапраўды мяне не пачуў, бо крычалі ўсюды, і не звычайнымі галасамі, а злоснымі галасішчамі:

— Падпісацца на нямецкую пятлю!

— Ды яна вунь і без нашых подпісаў вісіць!

— Не, няма дурных лезці ў нямецкае ярмо!

— Ганіце прэч гэтага нямецкага пса!

Пан Цвікевіч уцягнуў галаву ў плечы і змоўк. Пятровіч крыкнуў начальніку паліцыі:

— Кліч гарнізон!

Гарнізон доўга чакаць не прыйшлося. Гершталь прывёў яго як бачыш.

— Разыдзіся! — скамандаваў ён разгневаным на пана Цвікевіча слухачам.— Страляць будзем!

І сам тут жа стрэліў угору.

Рыначная плошча хутка апусцела. Засталіся на ёй каля трыбуны толькі начальнікі — важныя і няважныя, і іх абаронцы — Гершталь са сваім гарнізонам. Добра яшчэ, што ён не пачаў страляць у людзей. Мусіць, усё яшчэ помніць, што ў воласці не адзін ён гаспадар...

Я пайшоў праводзіць Ячэню. Мы доўга гаварылі пра сход і выступленне радаўца Цвікевіча. Цяпер нам стала ясна, якая такая рада, хто ў ёй сядзіць і хто кіруе. Гаспадары ва ўсіх адны — немцы. А, як кажуць, на чыім возе едзеш, таму і песні пяеш.

Вось толькі незразумела нам было, чаго трапіў у гэтую кампанію наш дырэктар. Няўжо і ён бээнэравец?

## ДАЛОЎ КАЙЗЕРА!

У вучылішчы пачаліся заняткі. І ўжо на другі дзень мяне паклікаў у свой школьны пакой Павел Кірылавіч. Ну, падумаў я, мусіць, пра плату будзе гаварыць...

Так яно і было. Толькі не так, як я думаў.

Дырэктар сустрэў мяне, як добрага свайго знаёмага. Нават усміхнуўся, нібы рады быў гэтай сустрэчы.

— Падрос ты, Пятрусь, за лета. Ну, што парабляў? Чытаў новыя кнігі?

— Сёе-тое чытаў, Павел Кірылавіч.

— Добра,— пахваліў ён мяне.— Маладзец. Ну, а што яшчэ рабіў?

— Вязаў венікі...

— Усё лета?

— Але.

— Навошта ж табе гэтулькі венікаў?

— Прадаваў.

— Унь яно што. І шмат зарабіў?

— Якія на веніках заработкі...

— То, можа, сёлета сам плаціць будзеш за навучанне?

— Не ведаю, Павел Кірылавіч. Тое, што я зарабіў, усё на хлеб патраціў. Хлеб цяпер дарагі. А свайго ў нас няма.

— Шкада,— паспачуваў мне дырэктар.— Вясною я цябе вызваліў ад платы. А зараз не ведаю, што і рабіць... А можа б, табе памог твой былы старшыня... Як яго зваць?

— Гарасім Аляксеевіч.

— Ты ж, мусіць, бачышся з і...

Ад апошніх слоў мне стала не па сабе. Ведае ён што пра Гарасіма Аляксеевіча ці проста так цікавіцца?

— Гарасіма Аляксеевіча няма дома,— адказаў я.— Як жа я магу з ім бачыцца...

— Гм... А дзе ён?

— Не ведаю. Казалі, пайшоў з Чырвонай гвардыяй.

Павел Кірылавіч хітра ўсміхнуўся:

— Ну, гэта ты скажы каму іншаму. А я то ведаю, што Гарасім Аляксеевіч нікуды не пайшоў. Ён ужо не малады і хворы. У Чырвонай гвардыі яму няма чаго рабіць.

Чаго ён прычапіўся да мяне? Што яму трэба? І што ён ведае сам пра Гарасіма Аляксеевіча? Я баяўся прагаварыцца і адказваў адно і тое ж: не чуў, не ведаю.

Нарэшце Павел Кірылавіч паставіў пытанне ясней:

— Калі ты скажаш, дзе ён, я зноў вызвалю цябе ад платы. А іначай — крыўдуй на сябе.

— Не ведаю, Павел Кірылавіч,— яшчэ раз паўтарыў я.— Каб ведаў, сказаў бы...

А сам сабе падумаў: трасцу б сказаў.

— Ну, як сабе хочаш,— спахмурнеў Павел Кірылавіч.— Але ведай: Савецкая ўлада не вернецца. Значыць, твайго Гарасіма Аляксеевіча не паставяць старшынёю.

— А якая ж у нас будзе ўлада? — пацікавіўся я.— Нямецкая, як і цяпер?

— Яна ўжо ёсць. Чуў пра Беларускую народную раду?

— Чуў, Павел Кірылавіч. Нават пана Цвікевіча слухаў.

— Маладзец. Хвалю. Дык вось сам пан Цвікевіч цікавіцца такімі людзьмі, як Гарасім Аляксеевіч, Кастравіцкі, Прахарэня...

— Навошта яны яму?

— А гэта ўжо не нашага розуму справа... Табе шкада іх? Ты будзеш вучыцца, станеш настаўнікам ці аграномам. Вядома, калі будзеш памагаць новай уладзе. Добра?

— Не ведаю, Павел Кірылавіч. Настаўнікам я не стану. Давядзецца зноў кідаць вучылішча...

— Ну, сёння я не вымагаю ад цябе платы. Падумай. Пагавары дома з бацькамі.

— Бацькі ў мяне няма... Вы ж ведаеце.

— Дык з маткаю. Ёй, нябось, нялёгка гадаваць вас. Трэба і яе пашкадаваць. А хто яе пашкадуе, калі не родны сын.

— Я і шкадую, Павел Кірылавіч.

— Пакуль што не відаць. Добра. Ідзі. Падумай. А праз тыдзень скажаш, дзе твой былы старшыня. А можа, што ведаеш і пра Кастравіцкага ці самога Прахарэню?

Я выйшаў з дырэктарскага пакоя ўвесь мокры. Дык вось чым займаецца наш Павел Кірылавіч, апрача вучылішча! Ён — памочнік пана Цвікевіча і яго рады ў нашай воласці. А тыя, як і камендант Гершталь, цікавяцца бальшавікамі-камуністамі. Не, пан дырэктар, чаго-чаго, а такой паслугі вы ад мяне не дачакаецеся. Бач ты яго — скажы, дзе Гарасім Аляксеевіч або Кастравіцкі з Прахарэнем! І такая злосць агарнула мяне на дырэктара, што, здаецца, плюнуў бы яму ў вочы. Ды няхай мяне не толькі з вучылішча выганяюць, а і на агні паляць, а гэтых людзей я не прадам. Не толькі гэтых — нікога вам не прадам.

Мінуў тыдзень. Я чакаю новага выкліку ў дырэктарскі

пакой. Аж раптам пайшлі ўпартыя чуткі, што ў Германіі пачалася рэвалюцыя... А ўслед за чуткамі ў вучылішча прыйшлі два нямецкія салдаты ў бліпчастых жалезных касках, у ботах на шыпах і запатрабавалі настаўніцу нямецкай мовы Лізавету Адамаўну. Як расказвала потым Лізавета Адамаўна, яна вельмі спалохалася: думала, праведалі яны пра яе пераклады лістовак. Але з першых жа слоў зразумела: перад ёю былі зусім нейкія іншыя немцы. Яны сказалі, што хочуць зрабіць усім гарнізонам дэманстрацыю, каб прывітаць нямецкую рэвалюцыю. Але іх ніхто не зразумее. А яны хочуць, каб тутэйшыя людзі зразумелі іх.

— А што скажа ваш камендант? — запыталася збянтэжаная Лізавета Адамаўна.

— Нічога не скажа,— адказалі яны.— Ён пасварыўся з намі і ўцёк на станцыю. Разам з сваім перакладчыкам. А мы пасля гэтага стварылі свой салдацкі камітэт, як рускія бальшавікі.

Ці трэба казаць, што на гэты раз Лізавета Адамаўна з вялікаю ахвотаю стала перакладчыцай у немцаў, якіх мы ненавідзелі і баяліся, як чумы.

Пад вечар, калі ў нас скончыліся заняткі, у мястэчку забілі барабаны, заігралі трубы і губныя гармонікі. Усе местачкоўцы збегліся на гэтую музыку. Прыбеглі і мы.

Гарнізон строем рушыў па галоўнай вуліцы. Немцы не толькі ігралі, хто на чым мог, а і раз за разам выкрыквалі:

— Далоў кайзера!

— Далоў вайну!

Усе гэтыя клічы на ляту падхоплівала Лізавета Адамаўна і ўголас перакладала на нашу мову. Яна расчырванелася, твар яе свяціўся ад радасці.

Гледачы такой дзіўнай дэманстрацыі дружна пляскалі кожнаму клічу, самі крычалі:

— Ура! Няхай жыве нямецкая рэвалюцыя!

Некаторыя падымалі сціснутыя кулакі над галовамі і таксама крычалі:

— Рот фронт!

— Я, я, рот фронт! — адказвалі ім салдаты.

Дэманстрацыя прайшла каля помніка Казімежу і павярнула назад да гарнізона.

Пасля гэтага гаворкі ў мястэчку было надоўга. Вось гэта дык навіна! Хто мог падумаць яшчэ тыдзень назад,

што нямецкія салдаты, якіх прыгналі сюды душыць рускую рэвалюцыю, самі пачнуць рабіць такую ж рэвалюцыю ў сваім гарнізоне! Тыя, хто ведаў трошкі больш, здагадваліся, што памаглі ім адшукаць праўду і нашы партызанскія лістоўкі. Відаць, рэвалюцыйная іскра і нянавісць да вайны даўно ўжо тлелі ў душах гэтых салдатаў. Я ўспомніў, што яшчэ год таму назад расказвалі ў нас пра сустрэчы на франтах рускіх салдатаў з нямецкімі. Каб не афіцэры, самі салдаты, напэўна, даўно ўжо дамовіліся б аб міры. Бо і сапраўды, нашто салдатам вайна? Што яна дасць ім, апрача свежых крыжоў на магілах і калецтва?

Зніклі з сваіх канцылярый пасля дэманстрацыі і Пятровіч з новым начальнікам паліцыі.

Назаўтра на перапынку Лізавета Адамаўна падышла да мяне і сказала паціху:

— Мне трэба, Пятрусь, пагаварыць з табою.

— Калі ласка, Лізавета Адамаўна.

Мы адышліся ўбок.

— Немцы хочуць сустрэцца з партызанскімі камандзірамі. Ты не мог бы перадаць каму-небудзь з іх?

— Магу, Лізавета Адамаўна,— упэўнена адказаў я.— Але партызаны ўжо і самі ведаюць, што ў нас тут робіцца. Скажу вам па сакрэту: у мястэчку ёсць падпольшчыкі.

— Я здагадвалася,— сказала Лізавета Адамаўна.

— І вы таксама падпольшчыца.

— Вось як! А я і не ведала.

— І ў нашым вучылішчы яны ёсць.

— З настаўнікаў?

— З настаўнікаў, апрача вас, не ведаю,— адказаў я.

— Дык што — з вучняў?

— Але.

— Ну, гэта для мяне вялікая навіна. Хаця,— усміхнулася яна,— ты ж, выходзіць, таксама падпольшчык.

— І я, калі можна хваліць сябе, і многія іншыя, хто не любіць немцаў. Добра, Лізавета Адамаўна, я перадам вашу просьбу свайму сябру, а ён — далей...

Мы разышліся ў розныя бакі.

Просьбу Лізаветы Адамаўны я перадаў Ячэню.

Пасля заняткаў мяне паклікаў Павел Кірылавіч. На гэты раз на кватэру. Адразу ж запрасіў сесці. Потым прынёс з кухні на блішчастым падносе дзве шклянкі чаю і нейкіх белых сухарыкаў.

— Будзем, Пятрусь, чай піць з табою,— сказаў.

Як мне было адмовіцца? Вядома, я згадзіўся.

— Я хачу сказаць табе,— пачаў ён, калі мы паселі за стол,— што мы тут прыкінулі сёе-тое і рашылі вучыць цябе бясплатна і ў гэтым годзе. Ты не супраць?

Як я мог быць супраць?

— Дзякую, Павел Кірылавіч, за ласку.

— Гэта, вядома, калі ты будзеш добра вучыцца і добра трымаць сябе,— дадаў дырэктар.

— Пастараюся, Павел Кірылавіч.

— А пра тое, што я гаварыў табе нядаўна, забудзем.

— Пра што? — не зусім зразумеў я.

— Ну, пра таварыша Гарасіма Аляксеевіча. Ты мог зразумець няправільна. А ў мяне добрыя да яго пачуцці.

Дырэктар нахіліў да мяне галаву і загаварыў ціша:

— Калі на тое пайшло, я скажу табе чыстую праўду. Не Цвікевіч з Беларускай рады, а паліцыя наша шукала яго. І я падумаў сабе: добры чалавек можа трапіць у рукі сваіх ворагаў. Трэба памагчы яму. А як? Калі б я ведаў, дзе ён, то сустрэўся б з ім і расказаў пра небяспеку. Вось так. А цяпер, бачу, няма такой патрэбы...

— Няма, Павел Кірылавіч,— матнуў я галавою.

Мне вельмі хацелася сказаць яму нешта непрыемнае, калючае. Але стрымаўся. Я ўсё ж яго вучань і не магу пярэчыць свайму дырэктару. Я прыкінуўся, што зразумеў добрыя намеры Паўла Кірылавіча.

## ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

Не паспеў яшчэ камандзір партызанскага атрада Рыгор Прахарэня дагаварыцца з нямецкім рэвалюцыйным камітэтам аб новай уладзе ў воласці, як вярнуўся камендант Герштать. І не адзін, а з новым атрадам. Ён акружыў свой стары гарнізон і загадаў камітэтчыкам скласці зброю.

— Ніякай рэвалюцыі ў Германіі няма,— сказаў ім Герштать.— Вас проста ўвялі ў зман бальшавіцкія агітатары.

Камітэт не паверыў яму. Пачаліся доўгія спрэчкі. І ўсё ж перамог Герштать, бо прыведзеных ім новых салдатаў было разы ў два больш, чым старых, і яны, відаць, яшчэ моцна верылі сваім камандзірам.

А вярнуўся Гершталь з вялікім атрадам не так сабе. Гэта неўзабаве ўсім стала ясна.

У той год людзі сабралі неблагі ўраджай. Першы такі за ўсю вайну. Цёплае, з частымі дажджамі лета добра паспрыяла абрабаваным да ніткі земляробам. Нават мы і то сёе-тое сабралі. Бульбы і капусты хопіць да вясны. А грыбоў насушылі гэтулькі, што палавіну і прадаць можна. Шкада толькі, што нічога са скаромнага не займелі. Ды нам не прывыкаць да нішчымніцы.

Застрашаны партызанамі, адбіраць ураджай у людзей Гершталь баяўся. Цяпер жа, папоўніўшы свой гарнізон свежымі сіламі, ён пайшоў напралом. Ведаў, што дні яго ў нас злічаны. Падпісаны вясною цяжкі для нас Брэсцкі мір Савецкая Расія скасавала. На фронце пачаўся разброд. Многія часці перасталі слухацца сваіх камандзіраў і пад націскам Чырвонай Арміі адыходзілі на захад, бліжэй да сваёй радзімы, ахопленай полымем рэвалюцыі.

Верны ж да канца кайзеру, Гершталь хацеў вярнуцца ў Германію з багатымі харчовымі трафеямі. Але ўжо з першых дзён вайны за новы хлеб убачыў, што людзі перасталі баяцца яго. І адкуль толькі ўзялася ў іх зброя! У Гершталевых салдат цяпер стралялі не толькі на лясных дарогах, а і з-за кожнага вугла. Рабаўнікі адракаліся ад усяго і беглі без аглядкі ў гарнізон. Сельскія старасты спіхвалі ўсё на партызанаў. Гэта яны страляюць! А што ім зробіш? Лаві ветру ў полі! Яны ж вунь на кожным плоце напісалі: «Ні фунта хлеба Гершталю! Страляйце яго бандытаў, як шалёных сабак! Хавайце хлеб для сябе і для Чырвонай Арміі!»

Гарнізон Гершталя, як пішуць у ваенных паведамленнях, нёс вялікія страты, а з харчовых трафеяў калі што і ўдавалася вырваць, то абозы з імі траплялі да партызанаў, яшчэ не даязджаючы да станцыі. Кінуць вайну за хлеб з мужыкамі ды выступіць супраць партызанаў Гершталь не адважваўся: ён добра яшчэ помніў летнія паходы ў Галынаўку і ў пушчу. Заставалася адно: прызнаць сябе пераможаным і даць драла, пакуль не позна.

Ён так і зрабіў.

Мы радаваліся і чакалі Чырвоную Армію. Яна была недзе ўжо зусім блізка.

Але... дачакаліся белагвардзейцаў генерала Кандратовіча. Быў такі царскі генерал у Мінску пры немцах. Спеўся з Беларускай радай і сабраў цэлае войска, каб захапіць

уладу пасля немцаў. Зноў пачалося тое ж, што і пры Герштаалю. Белагвардзейцы хапалі, дзе ўдавалася, коней з павозкамі, кароў, свіней. А трапляўся на вочы хлопец у гадах ці мужчына не надта стары — лавілі і іх: называлі гэта мабілізацыяй у рускую добраахвотную армію.

І зноў загарэлася новая вайна. Партызаны перарэзалі дарогі на станцыю і на Мінск. Так што і белагвардзейцы не надта ў нас пажывіліся. «Мабілізаваныя» разбягаліся хто куды, часта адбіраючы ў сваіх ворагаў вінтоўкі.

І раптам, ужо ў пачатку снежня, белагвардзейцы зніклі. Нібы іх ветрам здзьмула. Знікла разам з імі і валасная ўлада эсэра Пятровіча.

Ячэня сказаў нам:

— Ну, усё: цяпер чакайце Чырвоную Армію!

— А далёка яна? — дапытваліся мы. Што ж, Ячэня, можа, і пра гэта ведае?

— З Мінска ўжо збеглі міністры Беларускай рады,— упэўнена адказаў ён.

— А генерал Кандратовіч?

— Таксама даў драла. І не па добрай волі.

— Ой, скарэй бы дачакацца сваіх! — радаваліся мы.

Мы яму верылі, бо што ён ні казаў — усё збывалася.

На другі дзень раніцай Ячэня прыбег у вучылішча, задыхаўшыся, і закрычаў на ўвесь голас:

— Браткі! Партызаны прыйшлі!

— Дзе яны? Дзе? — акружылі мы Ячэню.

— Каля валаснай управы.

Мы адракліся ад заняткаў і пабеглі глядзець партызанаў. Павел Кірылавіч і гэты раз не пускаў нас.

— Марш у класы! — крычаў ён.— Няма чаго там глядзець! Без вас абыдуцца!

Але хто яго мог слухаць у такі дзень! Нават настаўнікі далучыліся да нас. Застаўся ў вучылішчы толькі ён адзін з сваёй Мар'яй Васільеўнай.

Мы прыбеглі на плошчу і ўбачылі там увесь партызанскі атрад. У першага ж партызана я запытаўся:

— А мой бацька тут?

У гурце яго не відаць было.

— А хто твой бацька? — глянуў на мяне партызан.

Ад радаснага хвалявання я забыўся нават назваць незнаёмаму партызану бацькава прозвішча.

— Сцяпан Валовіч,— сказаў я.

— Ёсць такі.
— Дзе ён?
— Можа, ва ўправе. Нарад на службу палучае.
— Які яшчэ нарад? — спалохаўся я.— Якая яшчэ служба? Вайна ж скончылася...
— Скончылася, ды не для ўсіх.
Я ўбег у валасны будынак і там адразу ўбачыў сярод іншых партызанаў і свайго бацьку. Кінуўся яму на шыю.
— Ну вот, сынок, мы і дачакаліся волі,— сказаў бацька, абнімаючы мяне.— У Мінску ўжо Чырвоная Армія.
— А які ты нарад на службу палучаеш? — запытаўся я.
— Адкуль ты ведаеш пра мой нарад?
— На вуліцы сказалі. Табе дадому трэба...
— Дык я дадому і пайду з гэтым нарадам.
Бацька сказаў, што Прахарэня з сваім штабам расстаўляюць людзей на ўсе пасады — валасныя і сельскія. І яго пасылаюць старшынёю сельскага Савета ў Галынаўку.
— А Гарасім што, не будзе старшынёй?
— Ну,— сказаў бацька,— яму будзе другая работа. Прахарэня хоча паставіць яго начальнікам міліцыі.
— Але ж ён хворы...
— Нічога, кіраваць міліцыяй будзе лепш за каго здаровага. Цяпер яму няма калі хварэць. Ты думаеш, лёгка супакояцца тыя, каму Савецкая ўлада прыцісне хвост?
У гэты час на вуліцы пачулася моцнае «ўра».
— Хто гэта там раскрычаўся? — сказаў бацька.— Нашы паўстанцы, ці што?
Мы выйшлі на вуліцу і ўбачылі конны атрад чырвонаармейцаў. Гэта іх віталі дружным «ура» партызаны і жыхары, што збягаліся сюды з бліжэйшых дамоў.
Чырвонаармейцы пасаскоквалі з коней. Людзі кінуліся да іх, моцна ціснулі ім рукі, абнімаліся.
Неўзабаве сабралася сюды на плошчу ўсё мястэчка. І пачаўся сам сабою цэлы мітынг. Адкрыў яго Прахарэня. Потым віталі дарагіх гасцей Гарасім Аляксеевіч і Алесь Рабцэвіч. Ад настаўнікаў нашага вучылішча слова далі Лізавеце Адамаўне. Усе гаварылі шчыра і горача, а наша настаўніца, як мне здалося, сказала яшчэ лепш. Адкуль толькі ў яе і словы браліся! Гэтыя словы, хоць, можа, і не ўсе, запомніліся мне на ўсё жыццё:
— Дарагія нашы браты — байцы слаўнай Чырвонай Арміі! Не перадаць словамі, як я рада, як усе мы тут рады бачыць вас на нашай зямлі, у нашым родным мястэч-

ку! Хоць на двары сёння і зіма, а ў сэрцах нашых — вясна, сонечная, цёплая, ласкавая, прыветная. Здаецца, мы нанава на свет нарадзіліся. А як жа нацярпеліся мы без вас, нагараваліся. Колькі слёз пралілі за адзінаццаць месяцаў няволі. Колькі крыві выссалі з нас кайзераўскія драпежнікі. І хто толькі не лез на шыю нашага беларускага рабочага і селяніна пры немцах — і здраднікі-эсэры, і гандляры сваёй бацькаўшчынай з так званай Беларускай рады, і панскія паслугачы-легіянеры Доўбар-Мусніцкага, і белагвардзейцы царскага генерала Кандратовіча... Усе яны, як тыя крумкачы, ірвалі жывое цела нашага народа, вырывалі ў людзей не толькі апошняга каня ці карову, а і апошні кавалак хлеба, рабавалі наш край.

Але скончыліся нашы пакуты. З сённяшняга дня мы зноў вольныя людзі. Вы, дарагія таварышы чырвонаармейцы, разам з нашымі народнымі абаронцамі-партызанамі, прынеслі нам гэтую волю, вярнулі нам Савецкую ўладу. Дзякуй вам за гэта! Вялікае дзякуй!

Дык паклянёмся ж, таварышы, моцна берагчы адваяваную ў ворагаў волю, бараніць яе да апошняй кроплі крыві ад драпежнікаў, адкуль бы яны не прыходзілі.

У гэты радасны дзень мы шлём сваё гарачае прывітанне Савету Народных Камісараў і вялікаму правадыру пралетарскай рэвалюцыі таварышу Леніну!

Няхай жыве Рабоча-Сялянская Савецкая рэспубліка!

Няхай жыве Чырвоная Армія!

Няхай жывуць чырвоныя партызаны! Ура, таварышы!

І над плошчай грымнула такое магутнае «ўра», якога тут зроду не чулі.

Шкада, што не прыйшлі сюды Павел Кірылавіч і Мар'я Васільеўна. Няхай бы хоць паслухалі ціхую і непрыкметную сярод настаўнікаў Лізавету Адамаўну.

Потым мы з Ячэнем доўга гадалі, чаму не пускаў нас Павел Кірылавіч на сустрэчу з партызанамі. Ці то ён і праўда думае толькі пра заняткі, баючыся сарваць іх, ці, можа, не па душы яму гэты самы шчаслівы наш дзень?

Затое ўсе іншыя настаўнікі былі разам з намі.

Цяжкі тысяча дзевяцьсот васемнаццаты год для нас скончыўся.

*1975 г.*

## У САСНОВЫМ БАРЫ

Якое раздолле ў зялёным бары летам! Колькі прастору тут для забавы, колькі дзіваў усякіх пабачыш!

Вунь па высокіх кучаравых хвоях і елках смела разгульваюць шустрыя жартаўлівыя вавёрачкі. Яны спрытна зрываюць сухія шышкі ды, спяшаючыся, нясуць у свае гнёзды. І якія працавітыя, руплівыя звяркі, гэтыя маленькія рыжыя вавёрачкі з доўгімі пушыстымі хвосцікамі! Праз усё лета заняты яны работай. Што ж, голад — не цётка, ды і малых гадаваць трэба; таксама і зіма не за гарамі — пра запасы падумаць варта.

А там, глядзіш, па густым зарасніку, як вецер, прамчаўся спуджаны некім касавокі заяц. Відаць, яловая шышка, незнарок скінутая вавёрачкай, так напалохала шарака. Доўга будзе даваць, небарака, чосу, пакуль не ўпэўніцца добра, што ніякага там ворага ззаду ў яго і няма і што ўсё гэта яму, баязліўцу, няйначай як здалося. Толькі тады спыніцца ён, выцягне ўгору свае доўгія вушы, паводзіць імі ды зноў, ужо спакойна, паскача шукаць дзе-небудзь салодкай канюшынкі.

У густых верхавінах елак цэлымі днямі кружацца каля сваіх гнёздаў крыклівыя вароны, нібы сварацца паміж сабою.

Даўгахвостыя дзятлы ў чорных вопратках з чырвонымі палоскамі заўзята барабаняць па дрэвах сваімі вострымі дзюбамі — то дробна і часта, то расцяжна, з перапынкамі. Адны з іх заняты звычайнай работай: шукаюць у кары на абед казюлек, другія — больш важнай: будуюць жыллё, і не толькі сабе, а і ўсім, каму яно з лясных жы-

нароў патрэбна. Натрудзіць дзяцел сваю дзюбу, збудуе сабе хату, і не паспеў яшчэ ў ёй асталявацца, як, глядзіш, ужо і кватарант заявіўся: рыжая вавёрка ці сама лупавокая драпежніца сава. Набядуе дзяцел-будаўнік, ды што зробіш з дужэйшым — не выганіш; прыходзіцца зноў шукаць гнілога сука дзе-небудзь на высокай хвоі для новай хаты.

Розныя дробныя птушкі пырхаюць між галля. Дружным хорам шчабечуць шпакі, весела пасвістваюць івалгі і дразды. А часта прылятаюць сюды з другіх ліставых лясоў і шэрыя зязюлі-непаседы. Хоць і не так багата знойдзеш тут вусеняў, затое гнёздаў чужых на выбор: ёсць дзе прыстроіць сваё патомства, ды і накукавацца можна ўволю, забраўшыся далей ад людскога вока.

І такая дзіўная музыка грыміць у бары!

На грудках-узгорках паспелі суніцы. Як чырвоныя пацеркі, рассыпаліся яны між дробных лісцікаў ягадніку на мяккім моху. Малых — ахвотнікаў да ягад — цяпер проста за вушы не выцягнеш з бору. Весела тут, і ягад — еш, колькі на іх ахвоты маеш.

А выйдзеш з бору — усюды поле. Шырокія прасторы даспяваючага жыта калышуцца на ветры, як белае мора. За ім зелянеюць кусты, сярод якіх звілістай люстранай дарожкай цячэ невялічкая рэчка — прывабная для малых мясцінка!

Але ніхто з дзяцей не любіў так бор з яго ваколіцамі, як Алёшка, сын удавы Кацярыны. Цэлымі днямі не вылазіў ён адтэтуль. І ніхто не ведаў так бор, як ён. Потым жа, каб быць справядлівымі, трэба сказаць, што ніхто не мог і так спрытна ўзлазіць на любое дрэва, як Алёшка. Ён адчуваў сябе ў бары, як дома, у сваім садку або на агародзе.

І бадай ніводная птушка не магла пахваліцца, што ёй удалося вывесці дзяцей без Алёшкавага догляду. Кожнае гняздзечка ведаў ён у бары і што ў тым гняздзечку: голыя птушаняткі або яшчэ толькі наседжаныя яечкі. Але затое ніводная птушка і не мела прычыны пакрыўдзіцца на Алёшку. Ён проста, як руплівы гаспадар, цікавіўся ўсім, што тварылася ў яго любімым бары, усё даследаваў, за ўсімназіраў.

Праўда, маці нямала ваявала з ім за штаны: заўсёды яны парваныя ў яго! Бяда з гэтымі штанамі, дый годзе!

— Хіба каб з жалеза пашыць іх табе, і то б, мусіць, даў рады! — не раз дакарала яна сына.

Ды не сядзець жа яму, такому шустраму хлопцу, дома праз гэтыя штаны?! А калі прыйдзеш у бор — не думаць жа толькі пра іх!

І самай любімай спадарожніцай ва ўсіх Алёшкавых паходах ды прыгодах была яго маленькая рагатка.

Нямала раней перавяла яго рагатка варон і іншых прадстаўнікоў птушынага царства. Цяпер жа, калі Алёшка пачаў хадзіць у школу, яна страціла сваё ранейшае прызначэнне і стала звычайнай забаўкай, да якой ён прывык, і, апрача таго, замяняла стрэльбу, пра якую ён так марыў.

## ЦІКАВАЯ СУСТРЭЧА

Аднойчы Алёшка гуляў у бары са сваім сябрам Грышкам. Хоць, праўду кажучы, сяброўства гэтае было невялікае. Грышка — суседаў сын, Алёшкаў аднагодак. І бацька Грышаў заўсёды просіць Алёшку: «Гуляйце, хлопцы, разам. Я вам, паглядзіце, нештачка куплю...» Гэтае «нештачка» Алёшка чакае ўжо даўно, але і ўцякаць ад Грышкі неяк не выпадае. Потым жа і аднаму і другому дома асаблівай работы няма ўлетку. Маці Алёшкава ўвесь дзень на полі, Марылька — у дзіцячым садзе.

Хлопцы хадзілі па бары, збіраючы ягады. Алёшка часамі «вадзіў за нос», як гаварыў ён, свайго сябра,— жартаваў з яго.

Вось падышлі яны да старой сукаватай хвоі. Глядзіць Алёшка ўніз на карэнні, спахмурнеў адразу, ахае спалохана:

— Што ж нам цяпер рабіць?..

Грышка адразу хапаецца правай рукою за штаны, але пакуль не ўцякае: невядома, адкуль небяспека?

Дапытлівымі вачыма ён пільна тарапіцца ў Алёшку. Кірпаты носік чмыхае, а круглы, як рэпа, твар выцягваецца і робіцца падобным на агурок.

— Ведаеш што,— ужо спакайней кажа Алёшка,— барсук тут...

— Ну? — ледзь шэпча напалоханы Грышка.

— Вось табе і «ну».

Нібы незнарок, Грышка апынаецца за Алёшкавай спіною, выцягвае адтуль шыю і баязліва пазірае з-за яго пляча на карэнні.

— Дзе? — зноў шэпча ён.
— На хвоі...
Галава Грышкава падскоквае ўверх.
— Не відаць...
— Думаеш маню? — не здаецца Алёшка.
— А ён кусаецца?
— Уга-а, горш за ваўка, горш за мядзведзя, горш...
Алёшка раптам весялее, і Грышка нерашуча стрымліваецца.
— Чакай, паспееш уцячы,— раіць ён сябру.
Алёшка, як па драбінах, узбіраецца на хвою, знаходзіць там круглае дупло і выганяе з яго дзятла.
— Дык гэта такі барсук! — дзівіцца Грышка.
— А які ты думаў барсук на хвоі?
Алёшка тым часам злазіць з дрэва і расказвае свайму сябру шмат цікавага пра стракатых барабаншчыкаў-дзятлоў. Сёе-тое ён ведае, а больш дык сам прыдумляе. Без гэтага ніяк не абыдзешся, каб цікава расказаць, тым больш што Грышка ахвотна ўсяму верыць: Алёшку ж такі слухач вельмі падабаецца.
Падыходзячы да баравой дарогі, сябры раптам пачулі нейкія незразумелыя ім гукі. Гукі гэтыя даляталі сюды з-за бору. Хлопцы прыціхлі, насцярожана ўзіраючыся ў бок дарогі. Потым Алёшка глянуў на Грышку:
— Бяжэм!
Грышка зноў хапаецца за штаны. Нораў сваіх штаноў ён добра ведае: калі моцна бяжыш і не трымаеш іх — абавязкова спадуць... Заблытаешся тады ў іх і не ўцячэш. Гэта ўжо не раз на практыцы выпрабавана.
— Куды бегчы? — перапытаў Грышка.
— Туды,— паказаў Алёшка на дарогу.
— А калі воўк там? Не, бяжы адзін, калі хочаш...
Грышка збаяўся. І наогул заўсёды ён усяго баяўся. Толькі з такім смялякам, як Алёшка, адважваўся хадзіць па бары.
Алёшка ж сапраўды быў самым смелым з усіх сваіх аднагодак. І зусім не дзівіўся ніхто, калі сустракаў яго аднаго ў бары ці ў кустах на сенажаці.
Маці толькі цешылася з сына. Калі ж, бывала, і лаяла яго за штаны, дык звычайна без злосці ў голасе.
Ды і ўсім падабаўся вясёлы, жвавы хлапчына Алёшка. Адзін толькі кульгавы Базыль, сусед іхні, заўсёды чарніў Алёшку перад людзьмі.

А злосным Базыль стаў на яго пасля прыгоды з катом, хоць у гэтай прыгодзе Алёшка зусім і не вінаваты. Не на ката ж Базылёвага настаўляў ён пастку... А што кот — такі-то памаўзлівы прапыра — трапіў у яе і загінуў бясслаўна, Алёшка тут ні пры чым. Урэшце, яму нават дзякавалі суседзі. Вельмі ж даўся ў знакі ўсім гэты Базылёў кот. Не было таго дня, каб дзе ў шкоду не ўлез: то збанок з малаком аберне, то кураня задушыць, то каўбасу з вышак сцягне...

І зараз вось праходу няма Алёшку.

— Фуліган! — трасе на яго палкаю Базыль.— Вырадак!

Дзе што здарыцца — Алёшка вінаваты. Ачысцяць у каго венцер з рыбаю,— «гэта ён, сірата няшчасная, фуліган!» — лямантуе на ўсю вуліцу Базыль. Схапіў у каго каршун кураня — і гэта яго работа! «Хто ж іншы такую пакасць зробіць?!» — даводзіць Базыль.

Калі Алёшка выскачыў на дарогу, дык убачыў: проста на яго імчаўся аўтамабіль...

— Грышка, скарэй! — паклікаў ён таварыша, які паспеў ужо схавацца пад густою елкаю і, як заяц, наглядаў адтуль за ўсімі падзеямі.— Аўтамабіль! Аўтамабіль!

Усё яшчэ мала верачы пачутаму, Грышка асцярожна вылез з гушчару, пачмыхаў носам, нібы абнюхваючы паветра, і пабег да Алёшкі.

Хлопцы ніколі яшчэ не бачылі сапраўднага аўтамабіля. Аднак Алёшка адразу пазнаў — на малюнках часта любаваўся імі ды нават і сам майстраваў іх. Праўда, хоць і не такія важнецкія выходзілі, але ўсё ж яны з поўным правам насілі гэтую назву.

Аўтамабіль, грукочучы па няроўнай баравой дарозе, з шумам прамчаўся міма. Здзіўленымі вачыма праводзілі яго хлопцы. Грышка нават прыгнуўся, каб лепш разгледзець знізу. Алёшка ж стаяў проста, круцячы ў руках сваю неразлучную спадарожніцу — рагатку. У адкрытым аўтамабілі, апрача шафёра, ён убачыў шыракаплечага вусатага дзядзьку ў кашулі цёмна-зялёнага колеру.

— Эх, пракаціць бы на такім! — пачухаў Алёшка патыліцу (гэтай прывычцы навучыўся ён ад старых).

— Угу,— нешта няпэўна прамарматыў Грышка, не зводзячы вачэй з машыны.

Аўтамабіль адскочыў крокаў сотню і неспадзявана спыніўся. Вусаты дзядзька адвярнуўся назад, паклікаў:

— Гэй, паляўнічыя, бяжыце сюды!

Хлопцы пераглянуліся: бегчы ці не?

— Давай,— сказаў Алёшка, як заўсёды, доўга ў такіх выпадках не думаючы.

Грышка неахвотна паківаў галавою:

— Я лепш пастаю тут...

— Ну і стой сабе!

Высока падкідаючы ногі, Алёшка кінуўся да машыны.

— Пакажы, брат, пакажы сваю дубальтоўку,— сустрэў яго вусаты дзядзька.— Цікава! Такі малы, а ўжо, бач ты,— паляўнічы!

— Ці ж гэта дубальтоўка? — зачырванеўся Алёшка, выстаўляючы наперад сваю рагатку.

Дзядзька ўзяў яе ў рукі, пакруціў, уважліва разглядаючы.

— Нішто сабе. І шмат ты хаця ваўкоў настраляў?

Алёшка засмяяўся. А дзядзька пытаўся, стрымліваючы ўсмешку:

— А ты, брат, дазвол на права палявання маеш? Га? Вось зараз мы цябе тут і аштрафуем...

«Смешны які дзядзька»,— падумаў Алёшка.

— Як жа цябе зваць, хлопча?

Алёшка адказаў.

— Ого, дык ты, брат, цёзка майму сыну! І ў мяне такі забіяка ёсць. Але ў яго вось дубальтоўкі такой няма,— шчыра пашкадаваў дзядзька. А потым запытаўся:

— Хочаш праехаць?

Алёшка ласа зірнуў яму ў вочы. Ну як тут адказаць: ясна, што хоча! Хіба ж ён сам гэтага не ведае?

— А там хто — таварыш твой? — Вусаты дзядзька паказаў на Грышку.— Кліч яго — паедзем.

Усё яшчэ не верачы такому шчасцю, Алёшка клікнуў:

— Грышка, бяжы сюды! — І сам асцярожна ступіў на падножку аўтамабіля.

Дзядзька пасунуўся крыху ўбок.

— Сядай тут, каля мяне, Алёшка,— шлёпнуў ён рукою па мяккай канапе.— Ды смялей, брат, не саромся.

Убачыўшы, што Алёшка падаўся ў аўтамабіль, Грышка куляй сарваўся з месца. «Хаця б не паехалі без мяне»,— падумаў ён, бегучы галопам і моцна трымаючы ў руках свае наравістыя штаны.

— Ты што ж гэта, Грышка, так засопся, як кавальскі мех? — сустрэў яго дзядзька.

Грышка паглядзеў на яго спадылба, хацеў нешта сказаць, ды так і не прыдумаў нічога. А потым, крыху счакаўшы, выпаліў скорагаворкай:

— Суніц наеўся...

Усе — і вусаты дзядзька, і шафёр, і нават Алёшка — дружна зарагаталі.

— Ну, калі такая справа, давай хіба памагу табе.

Дзядзька жыва падхапіў Грышку за руку і падняў уверх.

Калі хлопцы паселі, аўтамабіль завурчаў і лёгка сарваўся з месца.

Не памятаючы сябе ад радасці, сябры весела пераглядваліся паміж сабою і, здавалася, гаварылі без слоў: «Ага,— хваліўся Алёшка,— казаў — бяжэм. То-та ж, ведай другі раз».— «Ну і што ж,— адказваў Грышка,— усё роўна разам едзем: ці ты прыбег першым, ці я апошнім».

Дзядзька прыветнымі вачыма глядзеў на малых і ўсміхаўся ў густыя русыя вусы.

— Ты хто — піянер ці мо камсамолец ужо? — пытаўся ён у Алёшкі.

— Налета буду піянерам, казаў важаты...

— Дык ты, выходзіць, яшчэ акцябронак?

— Ага.

— І я таксама,— ужо як мае быць асмеліўшыся, паказаў Грышка кулаком на сваю асобу.

— Малайцы! — пахваліў дзядзька.— А бацькі вашы ў калгасе?

— Грышкаў у калгасе, а ў мяне няма бацькі... Маці ў калгасе.

— Дзе ж твой бацька?

— Забілі, мусіць...— адказаў Алёшка.

— Вось як! — смуглы ад загару твар вясёлага дзядзькі пакрыўся ценем сур'ёзнасці.— Хто ж яго забіў?

— Невядома. Зімою паехаў у пушчу па дровы. Конь прыйшоў, а бацька не вярнуўся... Шукалі яго і нідзе не знайшлі.

— Ён быў калгасным старшынёю,— дадаў Грышка.

— Дык ты, Алёшка, значыць, без бацькі і гадуешся...— паспачуваў дзядзька Алёшку.

Потым, крыху памаўчаўшы, запытаўся:

— А ў вас усе — калгаснікі?

— Не,— пакруціў галавою Алёшка.— Ёсць і некалгаснікі. Наш сусед Базыль таксама некалгаснік.

— Чаму ж ён некалгаснік?
— Яго не прымуць, і ён сам не пойдзе...
— Што ж, яго не любяць ці ён такі ганарысты?
— Не любяць,— адказаў Алёшка.
— Чаму?
— Бо ён багаты, кляпе калгас, а такіх не прымаюць,— дакладна, як дарослы, расказваў Алёшка.
— Ого, дык ты, брат, як відаць, талковы хлопец, усё ведаеш. Ну, а сам ты прыняў бы свайго суседа ў калгас?
— Не! — рашуча адказаў Алёшка.
— Чаму?
— Ён такі скнара і на рукі не чысты: у нас зімою ўсю мякіну з калашніка пакраў. Маці не гаворыць з ім. Ніхто яго не любіць.

Алёшка разгаварыўся, як са сваім даўно знаёмым. Спадабаўся гэты вусаты шыракаплечы дзядзька з такім дабрадушным вясёлым тварам. Хацелася нават запытацца, хто ён і адкуль, ды не асмеліўся.

— А што вы парабляеце тут, у лесе? — распытваўся дзядзька далей.
— Гуляем, ягады збіраем,— адказаў Алёшка.
— Гэта добра. Смачныя, мусіць, суніцы?
— Ага,— павесялеў Грышка.
— Толькі глядзіце, ягадныя ласуны, не аб'ядайцеся залішне, а то Грышка вось ужо і бегчы не можа,— жартуе дзядзька. Потым пытаецца: — Вы, хлопцы, часамі не прыглядаліся, як у вас жыта — ёсць пазразаныя каласы?

Алёшка пачаў расказваць:

— У Кутах паспела ўжо, дык нехта ўвесь клін зрэзаў; пра гэта ўчора і на сходзе гаварылі... А мы не прыглядаліся.
— Дрэнна, дрэнна... Вы вось ходзіце тут і не дагледзелі хто?
— Бо мы не глядзелі...— вінавата зірнуў на свае ногі Алёшка.
— Шкада. А вы такія баявыя хлопцы, што маглі б дагледзець. Напэўна, усе гнёзды ў бары дагледзелі?

«Цікава! — падумаў сам сабе Алёшка.— Адкуль яму вядома пра гнёзды? Здаецца ж, ніколі яго тут не было...»

— Піянеры, мабыць, таксама не даглядаюць?
— Не-э...— адказаў Алёшка.
— Так, так. Прыйдзецца тады сабраць вас ды пагаварыць. Вы хоць і малыя, але, відаць, хлопцы баявыя!

Алёшка падазрона зірнуў на Грышку. Вось аб ім дык ясна не ўгадаў гэты дзядзька. І смешна яму стала — Грышка баявы! Увечары сам на двор носа не высуне. У бары зайца напалохаецца.

Аўтамабіль прымчаўся ў вёску.

— Дзе ж ваша, хлопцы, праўленне?

— Недалёчка, у Тодаравай хаце, мы пакажам,— растлумачыў Алёшка.

Каля хаты Тодара, старшыні калгаса, машына спынілася. І з усіх бакоў пасыпаліся да яе малыя.

— Аўтамабіль! Глядзіце! Вунь і Алёшка з Грышкам на ім! — крычалі яны і паказвалі пальцамі.

Старэйшыя, хто быў дома, таксама не менш зацікавіліся аўтамабілем. Ды яшчэ дзіва якое — на аўтамабілі гэтым прыехалі іхнія ж хлопцы — Алёшка і Грышка! Гэта апошняе зрабіла на ўсіх не меншае ўражанне, чым сам аўтамабіль.

Хлопцы тым часам з гонарам выйшлі з машыны і пабеглі хваліцца сябрам аб сваёй незвычайнай удачы. З якой зайздрасцю глядзелі тыя на шчаслíўцаў! Яны ж першыя з іх усіх, хто ехаў на сапраўдным, «жывым» аўтамабілі!

## МЯДЗВЕДЗЬ

Алёшка моцна пакрыўдзіўся. І было за што.

Назаўтра ж, пасля таго як вясёлы дзядзька, а праўдзівей — начальнік палітаддзела МТС[1] таварыш Сакоўскі пагаварыў з піянерамі, важаты атрада вылучыў брыгаду па ахове ўраджаю. У брыгаду ўвайшлі толькі старэйшыя піянеры. Алёшку не прынялі, хоць ён і прасіўся.

— Малы ты яшчэ,— сказаў важаты.

— Мяне сам дзядзька Сакоўскі прасіў, каб даглядаў жыта, а ты — «малы» кажаш,— скрывіўся Алёшка, ледзь не плачучы.

Пасля гэтага важаты крыху памякчэў:

— Не бядуй, Алёшка: ты каласкі збіраць пойдзеш, як сажнуць...

Гэтым-то ён не вельмі і пацешыў Алёшку. «Цікавейшую работу сабе ўзялі, а нам каласкі... Каласкі збіраць кожны можа»,— падумаў ён.

Вось за гэта і пакрыўдзіўся Алёшка. Ён нават наду-

[1] МТС — машынна-трактарная станцыя.

маўся быў пайсці да дзядзькі Сакоўскага, каб паскардзіцца яму, расказаць пра сваю крыўду. Але далёка да тае МТС, ды і не быў ён ні разу ў тых краях. Нічога з гэтага так і не выйшла.

А праз нейкі час, калі жыта даспела скрозь, у калгасе ўсё часцей пачалі гаварыць пра «стрыгуноў». Бадай кожны дзень знаходзілі на полі свежыя выстрыжаныя лапіны жыта.

— Што за ліха,— хваляваўся старшыня калгаса Тодар,— і вартаўнікі ходзяць і піянеры — хоць бы аднаго каторага гада злавіць! Колькі шкоды нарабілі!

Настаў час жніва.

Калі шырокая дзялянка ржэўніку ў Кутах, за борам, была ачышчана ад бабак,— у адзін цёплы сонечны дзень на поле выйшлі дзеці. З кошыкамі, з лубянкамі,— прынеслі, хто што меў. Прыйшоў сюды і Алёшка з Грышкам.

З другога боку поле было густа ўсыпана бабкамі. Там жалі пазней, і жыта яшчэ дасыхала на сонцы. Здалёк бабкі здаваліся прысадзістымі белымі кустамі.

Уважліва прыглядаліся дзеці на ржэўнік, і то адзін, то другі нагінаўся, каб падняць каласок. Падышоўшы ў канец пожні, да кустоў, выбралі мясціну недалёка ад бабкі і пачалі высыпаць сабраныя каласы. У каго было больш, тыя з гонарам хваліліся перад таварышамі.

— А ну, хто са мной роўна назбіраў? Прызнавайцеся, бяды не будзе! — крычаў брыгадзір Лёня.

— А ў мяне — гляньце колькі, ды якія буйныя! — выстаўляла наперад свой кош піянерка Волька.

— А ў цябе, Грышка, дык і дно не закрыта,— глянуў Алёшка ў яго кошык.

— Бо не было болей...— пачырванеў Грышка.

— Ленаваўся нагінацца, скажы!

Грышка засаромеўся. Піянеры абступілі яго, жартавалі і смяяліся. А Лёня сказаў:

— А ты, Грышка, завініся ды ў другі раз назбірай больш за ўсіх, вот няхай тады і смяюцца. Добра?

Весела прайшоў дзень за работай. На ржэўніку ад бабак слаліся ўжо доўгія нязграбныя цені. Сонца спусцілася нізка, заружавела і пабольшала.

Але каля самых кустоў яшчэ заставалася дзялянка ржэўніку, як на разоў пару прайсці брыгадзе. Каласкі відаць былі яшчэ добра.

— Можа скончым? — запытаўся Лёня ў піянераў.

— Скончым, скончым! — ахвотна загаманіў атрад.— Пад балота і назад — і ўсё.

З песняю зноў весела зашагала брыгада. Падыходзілі ўжо да кустоў, як пачулі — нешта не то вурчыць, не то стогне... Гукі невыразныя, але падобны да звярыных. Што ж бы яно такое? Дзеці спыніліся, уважліва ўглядваючыся ў кусты.

Але вось у адным месцы куст раптам заварушыўся, і з яго высунулася страшная морда самога мядзведзя! Вызвярыўся ён, падняў галаву, раве сярдзіта, сам жа нібы выглядае — каторую тут ахвяру выбраць.

Немы крык агаласіў поле. Іржэўнік зашастаў пад нагамі перапалоханых дзяцей так, нібы шумлівы віхор прамчаўся па ім...

## ДЗЕ Ж КАЛАСКІ?

Вестка пра мядзведзя нікога з старэйшых не здзівіла. Ніхто гэтаму не паверыў.

— Здалося дзецям — мала што бывае,— сказаў Лёнеў дзед Клім.— Перапалохаліся толькі дарэмна. За маю памяць мядзведзя тут бачылі гадоў мо з дваццаць таму назад. Адкуль бы яго ліха прынесла?

— А мо гэта леснікоў Барбос быў: ён жа калматы і чорны, як мядзведзь,— рабіла здагадку Алёшкава маці.

Яе здагадцы паверылі. Вядома, іначай і быць не магло!

Але назаўтра піянеры ўсё ж не адважыліся ісці ў поле. Вырашылі толькі паехаць прывезці сабраныя каласкі.

Ехаць па каласкі згадзіўся Лёня. Алёшка сам напрасіўся, каб і яго ўзялі: чаму ж не скарыстаць такі зручны выпадак і не праехаць?

Дзядзька Якуб, якому даручылі гэтую работу, запрог каня ў лёгкія, на жалезным хаду, новыя драбіны.

— Ну, брыгаднікі, колькі ж мяхоў узяць нам для вашых каласоў?

Лёня падумаў.

— Штук дзесяць, не менш,— важна адказаў ён.

— Ну дзесяць дык дзесяць,— згадзіўся Якуб.

Праз усю дарогу не пераставаў ён жартаваць з хлапцоў.

— І вялікі хаця той мядзведзь? Можа гэта заяц быў, а вы з перапалоху не разабраліся? Кажыце, нечага, адкрыта.

— Што вы, дзядзька Якуб,— адпіраўся Лёня.— Зайца то мы б як-небудзь і самі напалохалі.

— Бывае, бывае, малойчыкі. І не толькі з вамі,— гледзячы некуды ўдаль, гаварыў Якуб.— Іншы раз і старому заяц можа мядзведзем здацца.

— Як гэта так? — запытаўся Лёня.

— А вось і так. Падобны выпадак здарыўся быў з маім бацькам-нябожчыкам. Праўда, даўно гэта было, але ж усё роўна.

Галёкнуўшы на каня, дзядзька Якуб расказваў:

— Ён, бацька мой, значыць, паехаў быў у лес. А зіма тады была лютая. Снег, завея так і круціць, так і сыпле. А тут дровы выйшлі. Ну, бацька і паехаў па дровы неяк адвячоркам (удзень, вядома, нельга было: не ў свой жа лес ехаў, разумець трэба...). Но-о, каб ты здаровенькі быў! — шмаргануў дзядзька Якуб лейцамі.— Дык вось. Прыехаў ён у лес, у гусцейшы, вядома, ды ў глушэйшы,— значыць, каб не відаць было. Паставіў каня, падкінуў сена, а сам ужо збіраўся ісці ссякаць сухастоіну, як бачыць — трывожыцца нешта конь, вушамі стрыжэ. Потым зафыркаў. У бацькі сэрца так і затрапяталася. Ну, думае, альбо ваўка, альбо мядзведзя чуе (тады мядзведзі ў нас яшчэ вадзіліся). А конь усё тапырыцца. Тут бацька, доўга не разважаючы, на воз ды па кані. Вымчаўся на дарогу, агляднуўся — куляецца здалёк за ім нейкая звярына: ні то воўк, ні то мядзведзь. Хто яго там разбярэ. Тым больш што сняжок пасыпае, і звер з чорнага белым стаў. Адным словам, у бацькі душа ў пятках. Хвошча каня пугай і лейцамі, а звер не адстае. Вось-вось дагоніць. Траха не за самым возам прэцца. Прымчаўся бацька на гумно — і звер за ім. Але тут дудкі, брат: звер гаспадар у лесе, а не на гумне. Скокнуў бацька з саней, схапіў кол ды да звера. Замахнуўся, аж бачыць — цьфу ты! — перад ім яго ж сабака Келма... Гэта ён і напужаў каня, а яшчэ больш бацьку. Сабака выбег з дому пазней за бацьку і знайшоў яго ў лесе. Але ў страха вочы вялікія: на той час і заяц можа мядзведзем здацца. Так вось і з вамі.

Пасля ночы Лёня і сам пачынаў не верыць таму, што здарылася. Сапраўды, нібы праз туман глядзеў ён зараз на ўчарашнюю прыгоду. Каб ведалі, не гаварылі б хоць нікому...

— Прыглядайцеся, хлопцы, на дарогу, можа порткі чые валяюцца. Нябось джгалі без аглядкі,— жартуе Якуб.

На полі выявілася, што хлопцы зноў памыліліся.

— Ну, дзе ж вашы каласы? — азіраецца навокал дзядзька Якуб.

Глядзяць Лёня з Алёшкам, праціраюць вочы: сапраўды не відаць. Усе знаёмыя мясціны абышлі, ды толькі адзін след ад іхняй работы: валяюцца сям-там невялічкія кучкі і тыя параскіданы.

— Гэтак вы збіралі?.. Падводы шкада толькі,— дакараў Якуб ашаломленых хлапцоў.

Збянтэжаны Лёня разводзіў рукамі. Няўжо і гэта ім здавалася? Збіралі ж яны каласы? Збіралі. Дык у чым жа справа? Што за мясціна такая зачараваная!

## ЗНОЎ МЯДЗВЕДЗЬ!

Нельга было не паверыць піянерам і зараз: шмат хто з старэйшых бачылі іх на полі за работаю.

Але мінула некалькі дзён, а таямніца з мядзведзем і каласамі так і заставалася неразгаданай.

Алёшка зноў асмеліўся пайсці ў бор. Не сядзець жа ўсё лета дома з-за нейкага там мядзведзя? Надыходзіла якраз пара плесці кашы,— работа, якая Алёшку асабліва падабалася. А дзе ж дастанеш патрэбныя для гэтага абручы і карані, як не ў бары? Праўда, на гэты раз Алёшка ішоў з асцярогаю. Ён нават клікаў Грышку (ахвотней усё ж удвух і смялей!), але той аднекаўся.

На ўскрайку бору на высокім грудку расла густая маладая елка. Галіны яе былі самымі зручнымі для абручоў. Алёшка даўно гэта прыкмеціў. Каб не заходзіць далёка ў бор, ён і ўзлез на гэтую елку.

З высокай верхавіны перад ім адкрываўся прыгожы краявід: вузкая палоса спелага ячменю, за ёй, нібы лахматыя купіны, кусты на балоце, сярод якіх дзе-нідзе паблісквала на сонцы вузенькая шкляная стужка — рэчка. І відаць усё далёка-далёка... Калгас жа іхні адсюль здаваўся зусім блізка, куды бліжэй, чым з зямлі.

Алёшка доўга ўглядаўся ў шырокую даль, з захапленнем любуючыся нябачаным дагэтуль краявідам, і дзіўна было яму, што не здагадаўся ніколі раней выбраць такую мясцінку. А колькі ж ён пералазіў па дрэвах! Ды ўсё ў самым бары, адкуль нічога асаблівага і не ўбачыш.

Раптам увага яго спынілася на бліжэйшых да поля

кустах. Адтуль выходзіла нейкая жанчына, у белай хустцы, з кашом у руках. Але ішла яна чамусьці крадком, увесь час аглядвалася. Вось яна спынілася на поплаве, крыху пастаяла. Здавалася, трапіла сюды першы раз, заблудзілася і шукае дарогі... Потым адразу, як каршун з вышыні на сцікаваную здабычу, шуснула ў ячмень. Ячмень, як жывы, заварушыўся ў тым месцы. Ну, вядома, не так сабе... Стрыгунка! Цяпер для Алёшкі было ясна, чаму ішла яна крадком і чаму так насцярожана азіралася.

Алёшка ні на хвіліну не зводзіў з яе вачэй. Сэрца яго моцна тахкала.

Што ж рабіць? І нідзе нікога больш не відаць... Ён адзіны сведка гэтай падзеі. Шмат думак, перамешваючыся адна з другой, замільгала ў галаве. Але кожная ўсё, як здавалася яму, ненадзейная. «Пабегчы ў калгас — не, не будзе ж яна тут чакаць? Злезці з елкі і напалохаць — уцячэ, і толькі...»

Нарэшце, сярод іншых, блiснула і такая думка: не чапаць! Калі хто з вёскі — відаць будзе. Нідзе ж яна не дзенецца! Застанецца толькі цішком правесці яе потым да калгаса, а там і затрымаць, нарабіць крыку, каб пачулі. Тым больш што можа нават і па дарозе хто трапіцца.

І Алёшка, хвалюючыся, пачаў чакаць гэтага моманту. Дрыжыкі ахапілі яго, ён ледзь трымаўся на суках. У вачах усё мітусілася. Спакойная, роўная даль гайдалася, як на качэлях.

Мінула з паўгадзіны. З ячменю высунулася белая галава. Пакруцілася над каласамі ды зноў знікла. Ячмень у тым месцы заварушыўся і пачаў расступацца.

І вось ён ясна бачыць: жанчына трушком пабегла да кустоў, а там спакойна рушыла поплавам уздоўж поля. І не ў калгас зусім, а ў другі бок...

Усе Алёшкавы планы рассыпаліся. Крыўда ахапіла яго і на сябе, што аказаўся такім бездапаможным, і асабліва на гэтую жанчыну, якая так неспадзявана пакінула яго ў дурнях.

Хоць бы ў твар зірнуць — хто яна? Не разважаючы далей над гэтай новай думкай, ён мігам саскочыў з елкі. «Перанясць, што б там ні было пераняць, пазнаць зладзейку!» — цвёрда вырашыў Алёшка і кінуўся з усіх ног уздоўж лесу так, нібы за ім следам гнаўся не адзін мядзведзь, а цэлая чарада. Каб пераняць, патрэбна было абабегчы бор, за борам вузкую дзялянку поля, аж да самай

пушчы. Адтуль жа — па новаму Алёшкаваму плану — ісці спакойна насустрач, нібы выпадкова ўсё гэта...

Алёшка вырас перад жанчынай між кустоў, як раптоўна наляцеўшы на паляўнічага заяц. Тая адразу спынілася. Пасля, як ні ў чым не бывала, прагаварыла:

— Што ты робіш тут, Алёшка?

Нечаканая сустрэча збіла яго на момант з панталыку. Перад ім была яго суседка цётка Аўдоля! І гэта — яна! Памылкі быць не можа: белая хустка, цёмны кафтан, кош. Усё гэта ён добра разгледзеў яшчэ з елкі.

— А ты, цётка, куды ідзеш? — не сваім голасам прагаварыў Алёшка.

— Я?.. У пушчу... Баравікоў, казалі, шмат нарасло каля лесніка...

Алёшку яшчэ мацней запякло ў грудзях ад злосці: ён зразумеў Аўдоліну хітрасць.

— А навошта ты травы цэлы кош нясеш? — запытаў ён.

Аўдоля скаланулася.

— Так сабе... цяляці...

Тут Алёшка забыўся на ўсё. Дык вось хто яна, яго суседка! І, смела гледзячы Аўдолі ў вочы, рашуча сказаў:

— Лжэш! Ячмень пад травою!

Ад такіх слоў Аўдоля задрыжала, кош выпаў з рук. Алёшка прыгнуўся, хацеў падняць траву.

Але Аўдоля штурханула яго, падняла кош і падалася ў пушчу.

— Стой! — крыкнуў Алёшка.— Зладзейка!

— Пайшоў вон, шчанё! Паброшы ты ў мяне больш! Не адбілі яшчэ пячонак, дык адаб'юць...

Алёшка адчуваў, што голас яе нерашучы і напалоханы. Гэта асмельвала яго. І, каб настрашыць Аўдолю яшчэ больш, ён пачаў моцна крычаць:

— Лё-о-ня, сюды-ы-ы...

Але ў адказ толькі пушча адгукнулася звонкім рэхам, ды зноў усё сцішылася.

Аўдоля ўсё ж спынілася і завярнула назад.

— Чаго крычыш? Вось жа які ты! — ужо з ласкай у голасе загаварыла яна.— Дурненькі... Ці ж так можна на сваю суседку?

Потым яна паставіла кош, засунула за пазуху руку, дастала адтуль вузельчык, развязала яго дрыжачымі рукамі. Алёшка з недаўменнем глядзеў на ўсю гэтую работу.

— Будзеш маўчаць — дам! — пакруціла яна на сонцы выпрастаны новенькі чырвонец.

І гэта нібы варам апякло Алёшку.

— Мне не трэба тваіх зладзейскіх чырвонцаў! — са злосцю адказаў ён і, азірнуўшыся, нібы шукаючы каго, моцна закрычаў: — Лёня — сюды!

Рэха зноў паўтарыла гэты кліч. А ўслед за ім, ву-рр-ррр! — пачулася раптам збоку. Алёшка агледзеўся і ўбачыў: густы лазовы куст у тым месцы моцна зашумеў, хістаючыся.

«На дрэва, хутчэй на дрэва!» — мільганула першая думка. Алёшка пакінуў цётку Аўдолю і рвануўся ў пушчу. Дабег да першай елкі, схапіўся за першы, што трапіў пад руку, сук. Але сухі, аброслы мохам сук толькі хруснуў. Алёшка сарваўся.

— Вур-рр! — зноў яшчэ мацней пачулася ззаду.

Пасля гэтага Алёшка доўгі час не зважаў, куды бяжыць. Дух захватвае, бязлітасна хвошча па твары галлё. Ён жа не чуе і не бачыць, як сарвалася з галавы шапка, як плывуць па шчоках струмені поту і крыві. Ён бяжыць без агляддкі на ўсю моц — толькі б далей ад гэтага страшнага мядзведзя! І ўсё, здаецца, вурчыць і раве ззаду, даганяючы яго, калматае страшыдла, сярдзіты звер — мядзведзь.

Толькі як зусім выбіўся з сілы, цяжкім каменем упаў вобземлю...

## ТРЫВОГА

Кацярына вярталася з работы ўжо на захадзе сонца. Па дарозе, як і звычайна, зайшла ў дзіцячы сад. Там, на двары, гуляла яшчэ шмат малых. Між імі была і яе пяцігадовая Марылька, чырванашчокая дзяўчынка ў доўгай сіняй сукенцы, з чырвонай шапачкаю-кулькам на галаве. Цяпер, улетку, яна ўсе дні праводзіць у дзіцячым садзе. Раніцой прыводзіць яе сюды Алёшка, бо маці выходзіць на работу, калі Марылька яшчэ спіць. Увечары ж маці заўсёды сама ідзе забіраць Марыльку.

— Хадзем, дачушка, дадому,— яшчэ здалёк паклікала маці.

Марылька з вясёлым крыкам кінулася да яе, як толькі ўбачыла.

— Мама прыйшла! Мама прыйшла! — бегучы, шчабятала яна ад радасці сваім сяброўкам.

Гэтага часу з нецярплівасцю кожны дзень чакае Марылька. Ідучы дахаты, яна расказвала матцы:

— А мы сёння, мамка, ведаеш, дзе былі?

— Не, дачушка, не ведаю.

— На рэчцы! І купаліся, і я купалася. Вада цёплая-цёплая. Мы кветкі рвалі. І я рвала. Во як многа нарвала,— разводзіла Марылька рукамі.

— А дзе ж твае кветкі?

— Пасохлі. Цёця Надзя казала — іх у шклянку з вадою трэба паставіць. Тады не пасохнуць.

Шмат чаго нарасказвала яна матцы па дарозе дахаты. Поўную справаздачу за ўвесь дзень зрабіла.

— Шчабятушка ты мая,— цешылася маці, гладзячы яе па галаве.

Калі ўвайшлі на двор, маці адразу заўважыла, што Алёшкі няма яшчэ дома. На двары быў непарадак: вішчала, бегаючы ля ганка, галодная свіння; ля закрытага хлява ляжала, жуючы жвачку, карова.

Пастукала ў дзверы — замкнуты на засаўку. Яна стала на дыбачкі, дастала з-пад страхі ключ, адамкнула.

— Не быў у вас, дачушка, сёння Алёшка? — запытала маці ў Марылькі.

— Не, мамка. Я ад ранку не бачыла яго.

Маці не падумала чаго благога. Алёшка не вельмі пільнуецца хаты — яна гэта ведала.

— Выгаладаецца — прыйдзе, нідзе не дзенецца,— сказала маці, беручыся за даёнку.

Падаіўшы карову, яна павячэрала з Марылькай і палажыла яе спаць. На двары ўжо добра сцямнела. Цяпер матку не на жарты браў клопат: пара ўжо выгаладацца Алёшку! Ніколі ж гэтага раней не было з ім.

Калі Марылька заснула, маці пайшла шукаць яго да знаёмых. Зайшла да суседзяў — можа там ён? А мо Грышка ведае, дзе ён?

— Не, не ведаю,— пакруціў галавою Грышка.— Ён зваў мяне ў бор па абручы.

— Калі ён цябе зваў?

— Яшчэ ўдзень.

У бор хадзіць Алёшку не навіна. Але ўсё ж пасля Грышкавых слоў маці адчула, як моцна закалацілася яе сэрца. Нічога не сказаўшы, яна ледзь не подбегам кінулася за гумны.

З-за пушчы выплываў круглы ружовы месяц.

Справа, як затока, выступала цёмная брыжастая сцяна бору.

Глухою і нямою здавалася гэтая сцяна.

Маці пастаяла з хвіліну, безнадзейна гледзячы ўдаль. Куды ісці? У бор? Ці варта? Яна ж добра ведае свайго Алёшку. Заблудзіцца ў бары — не, гэтага з ім бадай не здарыцца. А ў пушчу ён ні разу адзін не хадзіў, і няма яму туды патрэбы.

Заклапочаная вярнулася яна назад. Можа дома ўжо? Заглянула ў хату — пуста. Адна Марылька спіць. Пастаяла каля яе, пагладзіла па галаве, пацалавала ды зноў выйшла. Як жа класціся спаць — усё роўна не заснеш. Цяпер ёй было ясна, што Алёшкі нездарма няма дома.

На гэты раз яна пайшла вуліцай. Пытала і перапытвала ў кожнага стрэчнага, але ніхто не чуў і не бачыў. Заглянула да Лёні. Можа, ён ведае — яны ж часта па полі разам хадзілі.

Лёня ўжо спаў.

Яго пабудзілі.

— Не, не бачыў,— адказаў Лёня, праціраючы кулаком заспаныя вочы.

І чым далей, тым больш згушчалася трывога за Алёшку.

— Каб дзе ў рэчку не трапіў, не пры нас кажучы,— нясмела падала думку Лёнева маці.— Схадзі, Кацярынка, да Тодара, парайся, мо людзей сабраць варта, пашукаць...

У Тодара маці ўжо не магла расказваць спакойна. Плачучы, яна прасіла дапамогі.

Тодар хутка ўскінуў на плечы куртку і выйшаў збіраць людзей.

Аж да самай поўначы хадзілі людзі па бары, па кустах каля рэчкі, гукалі, клікалі... Але было спакойна, як ніколі.

Прыпарвала. З захаду надыходзіла цёмная навальнічная хмара. Яна засланіла сабою ўвесь небасхіл. Відаць было, як там, далёка, нібы пражэктары, часта і густа паблісквалі агністыя маланкі...

## СТРАШНЫ НАЧЛЕГ

Адсопшыся, Алёшка агледзеўся вакол сябе. Зусім незнаёмае месца! Высокі лопух, крапіва, густы лес. Між стогадовых тоўстых дрэў — гушчар з арэшніку, маладых бяроз, ліпы. У зялёным лісці пырхаюць сінічкі. Недзе

зверху чуваць карканне галоднага крумкача. Каля вушэй звініць цэлы рой камароў. І калі толькі паспелі яны ўчуць спажыву? Са злосцю па іх Алёшка стукнуў з размаху рукою па шчацэ. Штук пяць камарыных ахвяр прыліпла к далоні. Параненьі раней нос моцна зашчымеў.

Ён ляжаў каля вывaратня ў густым лопуху і пазіраў угору. Малюсенькія лапінкі неба, як дзірачкі ў рэшаце, свіціліся над ім скрозь гушчыню лістоў. Мядзведзь цяпер асабліва не турбаваў. Самы моцны страх мінуў. «Можа ён і не гнаўся далёка»,— думаў Алёшка.

Ён устаў, патупаў на месцы, успамінаючы — адкуль сюды прыбег? І нічога не мог успомніць. Куды ж падацца? К сонцу! Яно заўсёды спускаецца вечарамі лявей іхняга калгаса. Вось толькі — дзе сонца? Неба відаць, яснае, як шкло, а сонца як хто памялом змёў...

І ён пайшоў шукаць палянкі. Убачыць бы сонца! — рупіла яму. Прыгледзеўся,— здаецца, справа нешта святлее. Кінуўся туды. Ішоў, ішоў — прапала тая светлая прагаліна. Нібы нічога і не было. Аглянуўся — з другога боку, здаецца, святлей. Падаўся туды — зноў падман!

Алёшка адчуў, як ад зямлі павеяла сырой вільгаццю, зрабілася халадней. «Гэта ж вечарэе»,— прыйшла ў галаву страшная думка. Сонца спусцілася нізка, і праз лес яго не ўбачыш...

Гнятучы страх ахапіў яго. Небяспека згушчалася і нарастала з кожнай хвілінай: сонца не ўбачыш — дарогі не знойдзеш. А пушча — ён гэта ведаў — не бор, дзе так знаёма кожная мясцінка.

Раптам мільганула шчаслівая думка: залезці на высокае дрэва — няўжо і адтуль не відаць сонца? Яшчэ светла ўверсе, і сонца, напэўна, не зайшло. Яно проста закацілася за густы лес. Па суках, як па драбінах, ён мігам узабраўся на самы верх высокай елкі. Аднак — гэта елка толькі здавалася вышэйшай за іншыя. Тут жа, наверсе, выявілася, што, наадварот, яна нібы самая нізкая. Вакол раслі дрэвы большыя і засланялі сабою далягляд.

Вялым і расслабленым злазіў Алёшка з елкі, на якую так спадзяваўся. Рукі і ногі зараз не слухаліся яго. А як злез, прысеў ля камля, хапіўся аберуч за калені, і плечы яго сутаргава закалаціліся ад усхліпванняў...

Плакаў ён доўга. Не было каму ні суцешыць яго, ні пашкадаваць. Потым, знясілены, апусціўся на мох, скруціўся ў клубочак і заплюшчыў вочы.

Ад страху ці можа і ад вільготнай прахалоды яго ахапілі калючыя дрыжыкі. Цела ўздрыгвала. Адзеты ён быў зусім лёгка. Цяпер ужо ясна было, што да заўтрашняга сонца з пушчы не выберашся. Трэба было падумаць і аб начлезе.

Ён устаў, пачаў прыглядацца — што можна было б прыдумаць для начлегу? Глянуў на сваю рагатку. «Прапалі мы з табою, нічым ты, здаецца, не паможаш»,— хацелася сказаць ёй. Потым абмацаў у кішэні ножык. Дастаў яго, нават не думаючы, для чаго ён патрэбен, разняў. А што далей? «Зрабіць шалашык!» — нібы падказаў яму ножык-складанчык. «Насыпаць туды сухога моху, галінак — вось і начлег»,— зноў шапнуў ножык.

Гэтая думка абнадзеіла Алёшку. Нават весялей неяк зрабілася. Дацямна, калі завінуцца, такі шалаш можна збудаваць, што сам касалапы мядзведзь не разбурыць!

І ён жыва ўхапіўся за работу. Знайшоў некалькі таўставатых палак. Ножыкам нарэзаў яловых лапак, лопуху, хворасту. З маладой ліпы надраў кары. Усё гэта спатрэбіцца ў такой важнай будаўнічай рабоце.

Горача стала, буйныя кроплі поту сыпаліся з твару. Але ён нічога не чуў і не бачыў. Скарэй, скарэй! — падганяў сам сябе. Паспець бы дацямна!

Ужо добра змерклася, як ён скончыў сваю «хату». Абышоў яе, паварушыў нават — моцная. І нідзе ніводнай дзірачкі, толькі спераду як самому пралезці.

Захапіўшыся работай, Алёшка забыўся і пра мядзведзя. Не было калі аб ім думаць. Але зараз зноў страшныя думкі нахлынулі на яго. А што, калі мядзведзь бродзіць дзе недалёка? Што, калі знойдзе яго? Тады ўжо з шалаша не ўцячэш...

І ён безнадзейна пазіраў зараз на свой будынак: цяпер ужо не такім прывабным, як раней, здаваўся ён яму.

Цемень згушчалася ўвачавідкі, запаўняючы ўсе шчылінкі між густых дрэў. Лес напаўняўся таемнымі шорахамі і гукамі. Кожны такі шорах прымушаў Алёшку пільна насцярожыцца. За кожным карчом ці камлём дрэва ён гатоў быў бачыць нешта жывое, страшнае. Увесь лес нібы кішэў рознымі стварэннямі, якія цікуюць за ім, чакаючы зручнага выпадку, каб накінуцца на яго і расціснуць, як казюльку. Галава пачынала кружыцца. А цемень бязлітасна згушчалася...

Раптам зусім недалёка нешта залапатала. Мядзведзь,

як жывы, вырас у Алёшкавым уяўленні. Разважаць не было калі. І ў той жа момант ён апынуўся на дрэве. Выбраў таўсцейшы сук, прысеў на ім, а за другі моцна ашчапіўся рукою. «Што ж, мусіць, лепшага месца для начлегу не прыдумаць?» — вырашыў ён, калі ўсё зноў сцішылася.

Першы час на дрэве было нават і нядрэнна, халаднавата толькі. Затое смялей. Але неўзабаве ўшчэнт самлела рука, сядзець стала нясцерпна, вочы зрабіліся цяжкімі і часта зліпаліся. Галава ніяк не трымалася на шыі. Алёшка ўспомніў пра шалаш. Якім прывабным здаваўся ён зараз,— там цёпла, мякка, як на падушках...

«Што цяпер робіць маці? — думаў ён, дрэмлючы.— Напэўна, бегае, шукае, мо плача... Ах, каб ведала яна — дзе шукаць?» Алёшка пачаў прыдумваць — як можна было б наказаць матцы? А гэта ж можна, канечне, можна! У дзядзькі Тодара ёсць радыё, ён мо і зараз слухае, і нават тое, аб чым гавораць у Мінску ці ў Маскве. А тут жа зусім блізка. Варта было б толькі гукнуць: «Дзядзька Тодар, я тут, у пушчы, сяджу на дрэве, скажыце маме!» І ясна, што яна прыбегла б сюды, загукала на цэлы лес. Тады ён смела адгукнуўся б і пайшоў бы адгэтуль. Як бы зарадавалася маці!..

Ад радыё Алёшкавы мары пераходзяць да казкі пра хлопчыка з сямівёрстнымі ботамі. Таксама нядрэнна было б мець такія боты. Вось толькі — як хадзіць лесам у гэтых ботах? Напэўна, адным махам можна пераступіць усю пушчу. І пэўна ж знайшоў бы тады свой калгас. Ступіў туды-сюды, у адзін бок, у другі — і знайшоў бы. Яшчэ нават не вельмі позна — у хатах, мусіць, гараць яшчэ агні, на вуліцах брэшуць і выюць сабакі. Чаму гэта адсюль не чуваць іхняга голасу?..

— Уга-а-а-а!..— неспадзявана пачулася траха не над самым Алёшкавым вухам. Нехта зычна загаласіў піскля-вым, нібы дзіцячым, голасам... Алёшка не паспеў апамятацца. Цяжкім клубком паляцеў ён уніз, чапляючыся за сукі...

Над верхавінамі дрэў нешта моцна залапатала, і хутка ўсё зноў сцішылася. Нібы нічога не здарылася. Здавалася, ніводная галінка не скалыхнецца — такой спакойнай зрабілася цёмная пушча перад надыходзячай навальніцай.

«Што ж гэта?» — разважаў ледзь жывы ад удару і страху Алёшка. Ён ляжаў на зямлі пад тым дрэвам, з яко-

га зваліўся. Няўжо сава? Праўда, яму ніколі яшчэ не ўдавалася чуць, як кугакае па начах сава, але зараз, апамятаўшыся, няцяжка было аб гэтым здагадацца. Ён жа нямала чуў розных расказаў аб совах-начніцах.

Ачухаўшыся, Алёшка паспрабаваў падняць галаву — траха не перад самым носам скрозь цемру заўважыў свой шалаш. Цяпер ужо, нават не думаючы пра небяспеку, папоўз у яго. Балела пабітая галава, плечы... Сяк-так дабраўся да шалаша, асцярожна пралез усярэдзіну, зашыўся ў сухі мох, як вожык, і заплюшчыў вочы.

Заснуў ён скора. Пражыты дзень змарыў яго дашчэнту. Але спаў трывожным, неспакойным сном. Увесь час снілася цётка Аўдоля, сніўся страшны калматы мядзведзь.

...Вось нібы ён ужо тут — знайшоў-такі Алёшку ў гэтым зацішным шалашы! Бурчыць, ходзіць кругом, нюхае лопух, сярдзіта чмыхае, лапамі ўзрывае зямлю і падкідае яе высока-высока разам з мохам і карэннямі. Аж стогне пушча ад мядзведжага рову. Ад страху Алёша глыбей зашываецца ў мох, хоча крычаць, ды не можа: няма голасу. Потым над галавою нешта грукнула, нібы з гарматы стрэлілі ў драпежнага звера. Здавалася, усе дрэвы пападалі на зямлю...

Алёшка прачнуўся.

Першы момант здалося, што ён спіць у гумне на мяккім сене. Ён правёў рукою,— не, не сена пад ім. І толькі цяпер прыйшоў да памяці.

— Трр-р-р-ах-а-а-ах! — грымнула зноў угары. З галля на шалаш градам пасыпаліся цяжкія, як волава, кроплі дажджу.

Болей ён не заснуў.

Ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і чакаў, калі ўсё гэта скончыцца.

Неўзабаве шум зверху пачаў аціхаць. Чуліся толькі далёкія глухія грымоты, нібы ішлі яны з-пад зямлі. Над шалашом пачулася птушыная песня.

«Сойка, мусіць»,— падумаў Алёшка, расплюшчыўшы вочы. Скрозь шчыліны «страхі» проста на яго ўпалі рэдкія пасмы цьмянага ранішняга святла. Якая радасць! — пачынаецца дзень. Дзень пасля навальніцы, значыць, сонечны, ясны, з блакітным небам! Дзень, які нясе гэтулькі светлых надзей. Скарэй бы, скарэй бы сонца! — нецярпелася яму.

Але як жа хочацца есці! У жываце грыміць цэлы гром, ныюць плечы, шуміць галава.

Алёшка вылез са свайго логава. Хоць сонца яшчэ і не скора пакажацца над лесам, але повідну ўсё ж весялей. Што можна прыдумаць на снеданне ў гэтай глушы? — гадаў ён. Хоць бы на ягады натрапіць дзе-небудзь! Але — ён добра ведае — для гэтага трэба знайсці вышэйшае месца: не будуць жа расці ягады ў крапіве ды ў лопусе! І трэба знайсці! Канечне, знайсці! Іначай саслабееш ад голаду і ні сонца, ні дарогі тады не знойдзеш...

Ужо добра развіднелася. Алёшка апошні раз глянуў на сваю начлежку.

«Бывай!» — хацелася сказаць на развітанне гэтаму так міламу для яго будынку.

## ХТО ЯШЧЭ БЫЎ У ПУШЧЫ

У пушчы ў гэтую раніцу быў не адзін Алёшка.

Вось на ўскрайку лесу, блізка ад балота, у вялікім лаўжы капаюцца два мужчыны.

— Падмокла, Андрэй Ігнатавіч,— сказаў адзін з іх.

— Дзіва што. Такі дажджыска ўсыпаў. Лес аж калаціўся ад грому і перуноў...

— Я, Андрэй Ігнатавіч, праз усю ноч на волас не скархнуў. Усё думаў, перадумваў, а пад дзень і вырашыў: пайду, думаю, да цябе. Трэба, думаю, канечне, ачысціць нашу схованку... Чаго добрага, думаю, пачнуць шукаць яго ў пушчы і каб не натрапілі на наш след...

— Асцярожнасць у нашай справе зусім рэч не лішняя,— пацвердзіў Андрэй Ігнатавіч, высокі мужчына ў кароткай чорнай куртцы, у ботах з халявамі за калені.

Яго кампаньён — ніжэйшы, з пакамечанаю рыжаю барадою, пажылы мужчына — гаварыў далей:

— Як вярнулася ўчора мая жанчына ды як сказала,— я аж за галаву хапіўся. Ну, думаю, бяды не мінуць... І ўвесь час, аж да поўначы, стаяў на двары за шулом: вось-вось, думаю, прыбяжыць ён. Ажно, на наша шчасце, мо захлынуўся дзе ў пушчы...

— Так, маху дала твая жанчына. Я ўвесь час табе пра гэта кажу: асцярожнасць перш за ўсё. Але,— крыху памаўчаўшы, дадаў Андрэй Ігнатавіч,— па-мойму, ён ад аднаго страху павінен кончыцца...

— Ну, давай хіба рушым,— вылез барадач з лаўжа.—

Тут ужо мала чаго засталося. Я ўжо адзін спраўлюся,— падскочу потым.

Мужчыны ўскінулі на плечы туга напакаваныя мяхі. Той, каго барадач называў Андрэем Ігнатавічам, на правае плячо павесіў двухстволку.

Крадком, аглядаючыся, яны падаліся ў глыб пушчы. Спераду ішоў Андрэй Ігнатавіч, за ім, накульгваючы на левую нагу, чалавек з рыжаю барадою. Нейкі час ішлі яны моўчкі, потым загаварыў барадач:

— А я ўсё думаю, Андрэй Ігнатавіч: а што, калі не захлынецца ён?

— Усё можа быць.

— Ці не пайсці б нам пашукаць?

— І пад корч галавою? — дадаў Андрэй Ігнатавіч.— Бадай праўду сказаў ты...

Барадач з ахвотаю згадзіўся.

— Смялей было б. І варта!.. Дабра ад яго не чакаць. Такое ўдалося, ну, як бацька. Туды яму і дарога. Гэта ж думаць,— упартасць якая!.. Дзіця яшчэ горкае, а вунь што вырабляе. Што ж з яго будзе, як вырасце? — гарачыўся барадач.

Мужчыны падыходзілі да дарогі, што вяла да лесніковавай сядзібы.

— Пастой тут,— загадаў Андрэй Ігнатавіч. Сам жа апусціў на зямлю мяшок і толькі з адной стрэльбай падаўся наперад. Выйшаўшы на дарогу, ён нейкі час усё ўглядаўся то ў адзін, то ў другі бок, нібы сюдою вось-вось павінен прамчацца важны звер і трэба пільна сачыць за ім, каб не даць маху. Але ніякага звера нідзе не відаць было. Лес стаяў спакойны і нахмураны. З навіслых яловых галін зрываліся буйныя кроплі вады, глуха падаючы на мох. Хоць навальніца прайшла даўно, а сляды яе яшчэ ясна відаць былі: у каляінах стаялі лужыны, дрэвы былі мокрыя, і галлё звісала ўніз.

Андрэй Ігнатавіч вярнуўся назад.

— Ідзі!

— Ды які чорт можа цягацца тут у такую рань? — асіплым голасам адказаў барадач.

З-за пасекі ружавела неба: узыходзіла сонца.

— І яшчэ адно, Андрэй Ігнатавіч,— шэптам загаварыў барадач,— трэба збыць тавар, прамяняць на чырвонцы, з імі спакайней...

— Плёвая справа. Абмалоцім, а тады... Нават і купца

я ўжо маю на прыкмеце,— супакойваў яго Андрэй Ігнатавіч, адкрываючы вароты.

Барбос выскачыў з будкі, завішчаў, завіляў хвастом і гэтым выявіў сваю сабачую ні то радасць, ні то крыўду за тое, што гаспадар адзін без яго хадзіў сёння ў абход.

## НА ЛЕСНІКОВЫМ ДВАРЫ

Ішоў Алёшка праз мокры гушчар; увесь абрасіўся і дрыжаў ад холаду. У пошуках якіх-небудзь ягад ён уважліва прыглядаўся да кожнай прагалінкі. Вось каля аднаго вываратня ўвагу яго затрымаў вялізны баравік. Алёшка сярдзіта карпануў грыб нагою (што за карысць з яго!), а сам з цікавасцю глядзеў, куды ён пакоціцца. Гнілы грыб стукнуўся ў пень і рассыпаўся на дробныя кавалкі. Недалёка ад пня Алёшка заўважыў нейкі чорны скрутак. Падышоў бліжэй і ўбачыў звычайную папружку з заржавелаю пражкай. Падняў яе, паспрабаваў у руках — моцная, відаць, не згніла яшчэ. «Якраз спатрэбіцца»,— падумаў ён пра свае штаны, якія даўно ўжо збіраліся ўпасці,— ніяк не хацелі трымацца на галодным жываце.

Папружка была шырокая, з такой жа шырокаю бляшанаю пражкай. Алёшка вымыў пражку ў расе і стаў ачышчаць яе ад іржы. Раптам вочы яго акруглелі ад здзіўлення і сполаху: на шырокай пражцы ён убачыў знаёмыя літары: ВСШ. Значыць, тут ён, бацька, загінуў... Мядзведзь, канечне, мядзведзь яго задушыў...

Страшна было далей стаяць на гэтым месцы. Алёшка падцягнуў пражку, туга падперазаўся паўзверх кашулі і рушыў прэч...

Сонца яшчэ не ўзыходзіла, і шукаць дарогі было яшчэ рана. Але вось у адным месцы дрэвы спераду расступіліся. Перад вачыма бліснула светлая шырокая палоса — квартальная лінія. Калі б хто мог бачыць Алёшку ў тую хвіліну, дык палічыў бы яго найшчаслівейшым чалавекам на свеце. І сапраўды, зусім няцяжка было здагадацца яму: лінія — значыць, выхад. Куды б ні вёў гэты выхад, а выведзе. Сёе-тое па лясной часці ён ведаў.

Цяпер ён забыўся і пра голад, і пра ўсё перажытае. Зноў вярнулася да яго незвычайная сіла і незвычайная на гэты раз радасць. Вось толькі куды падацца? Упоперак лініі ляжала гнілая асіна, зламаная, відаць, навальніцаю. Яна перагарадзіла лінію і, нібы знарок, станавілася зараз

для Алёшкі мяжою. Гледзячы на асіну, Алёшка задумаўся: направа ці налева выбраць дарогу? Але гэта ж усё роўна,— вырашыў ён нарэшце. Розніцы тут і быць не можа: куды выведзе, туды і добра.

Узрадаваны такім шчаслівым паваротам справы, Алёшка памчаўся направа, уздоўж густа зарослай хмызняком лініі. Шумна шалясцела лісце, буйныя кроплі вады з усіх бакоў сыпаліся на яго. А ён усё бег, не памятаючы сябе ад радасці.

Але вось — што ж гэта? — амаль перад самым носам маланкай мільганулі нейкія рыжыя звяры. З разгону Алёшка ледзь не наскочыў на іх.

Рыжыя звяры перасеклі лінію ўпоперак і гэтак жа хутка, як з'явіліся, зніклі з вачэй за тоўстымі густымі дрэвамі.

«Цьфу ты,— падумаў Алёшка,— ды гэта ж дзікія козы...» Ён нават не сцярпеў і першы раз за ўвесь час у пушчы крыкнуў услед ім, выставіўшы рагатку:

— Пух! Бах!

Але толькі паспеў ён «бахнуць», як у момант зашумелі кусты і ўслед за гэтым, высалапіўшы доўгі язык, у бок ад Алёшкі скокнуў худы шэры звер...

Алёшка адчуў, як валасы самі падымаюцца на яго галаве. З самлелай рукі выпала рагатка... Але нагінацца не было калі. Так загінула Алёшкава спадарожніца ва ўсіх яго паходах ды прыгодах — спрытная маленькая рагатка...

Пасля навальнічнай ночы пушча выглядала весялейшай, чым учора. Рознымі птушынымі галасамі гаманілі зялёныя верхавіны дрэў. Толькі не да гэтага было Алёшку... Ён бег без памяці, пакуль зусім не выбіўся з сілы.

Вострае адчуванне страху праходзіла. Да яго вярнулася здольнасць разважаць. «Воўк, вядома, не прамяняў бы коз на мяне, бо, як усё паказвала, гнаўся ён за імі»,— думаў Алёшка. Успомніліся нават чутыя ад старэйшых гутаркі, што воўк баіцца чалавека: толькі вельмі галодны можа часамі адважыцца напасці.

Неўзабаве з левага боку дрэвы прыкметна парадзелі. І ўслед за гэтым ён убачыў шырокую светлую прагаліну. У самым кутку прагаліны паказаўся... комін!

Гэта была другая Алёшкава радасць за сённяшнюю раніцу. Цяпер і спяшацца няма чаго. Комін не ўцячэ. Калі ёсць комін — значыць, павінна быць і хата, хоць яе яшчэ і не відаць з зарасніку.

Алёшка зноў пачаў адчуваць голад і млявасць. У роце перасохла. Хоць бы дзе ягадку знайсці, рот прамачыць. Крыху збочыўшы з лініі, ён пачаў прыглядацца. Акурат перад ім у рэдкай траве зелянелі дробныя кусцікі чарнічніку. Нарэшце такі знайшоў іх! — узрадаваўся Алёшка. Аднак, чым больш ён збіраў ягад, тым больш хацелася есці. Ніяк не даганялі маленькія ягадкі адна адной. З коміна завіхрыўся першы дымок. Гэты дымок выклікаў прыемны ўспамін: шырокая печ; зырка шугаюць сухія дровы; пад чалеснікамі пішчыць скаварада з пульхным, мяккім блінам; на вуголлях кіпіць чыгунок з бульбай...

«Пайду,— падумаў Алёшка,— папрашу, няўжо не дадуць чаго?»

Мінуўшы агарод, ён апынуўся на двары мясцовага лесніка. Сабака ўбачыў незнаёмага, злосна забурчаў і наставіў хіб.

— Барбос, ты чаго? — выйшаў з гумна сам гаспадар.

— Дзядзечка!..— кінуўся да яго Алёшка.

Вусы лесніковы заварушыліся. Ён глянуў на Алёшку так, нібы ўкалоў яго.

— Дзядзечка...— паўтарыў Алёшка.— Я да вас...

Нічога не адказаўшы, ляснік падышоў да варот гумна і зачыніў іх. Потым вярнуўся назад.

— Ты адкуль? — запытаўся.

— Я заблудзіўся... Адзін начаваў у лесе. Я, дзядзечка, так рад, што знайшоў вас. Вы мяне правядзіце з лесу... бо сам я не ведаю дарогі. І мне,— сказаў ён, пачырванеўшы,— есці хочацца...

— Кажаш, заблудзіўся? — перапытаў нахмураны ляснік.

— Але, але. Я вам усё-ўсё раскажу...

— Чый жа ты?

Дзіўны які сёння ляснік! Хіба ж ён не ведае?! А колькі ж разоў у бары сустракаў яго! Ды і ў калгасе часта бывае...

— Ці ж вы не пазналі мяне? — адказаў Алёшка, заглядваючы лесніку ў вочы.

— Кацярынін?

— Ага.

— Ну, то хадзем у хату, калі так...— сказаў ён і сам падаўся цераз двор.

Алёшка пайшоў следам за ім.

Маці не звяла вачэй у гэтую страшную ноч. Да поўначы разам з другімі яна хадзіла па бары, па кустах ля рэчкі, пакуль не паліў буйны дождж. Пасля, вярнуўшыся, сядзела на ганку і з трывогай скрозь слёзы пазірала ў навальнічную цемень. Грымеў часты гром, неба штохвілінна ўспыхвала ад маланак...

Калі прайшлі цёмныя хмары і стала займацца на дзень, яна надумалася зноў ісці шукаць Алёшку. Разбудзіла блізкіх суседзяў: Адама (Грышкавага бацьку) і Івана. Папрасіла Грышкаву матку, каб дагледзела Марыльку.

Аглядваючыся кругом і гукаючы, яны мінулі поле і бор. Выйшлі да пушчы. І тут толькі маці ўспомніла пра лесніка. Можа ён што чуў ці бачыў? Ён жа штодня па лесе ходзіць.

— Усё можа быць,— разважна адказаў Адам.— Варта падысці, недалёка.

Чым больш маці думала пра лесніка, тым больш захвочвала яе гэтая новая думка. Ідучы пушчай, яна забывалася аб тым, што за ёю ледзь паспяваюць мужчыны. Ёй хацелася бегчы, нават ляцець цераз лес.

— Не спяшайся так, кабеціна,— сунімаў яе Адам, пакашліваючы,— здыхацца не магу...

Кацярына сцішала хаду, але ненадоўга. Мінала хвіліна, і мужчыны зноў заставаліся далёка ззаду. Даводзілася ёй часта спыняцца, чакаць. Як жа не цярпелася гэтая пачаканка! Нешта само рвала яе наперад. Здавалася, вось-вось яшчэ некалькі крокаў, і яна, напэўна, штосьці праведае, канечне, праведае пра Алёшку. А ў думках увесь час не пераставала дакараць сябе: «І навошта толькі раней дазваляла аднаму яму хадзіць у бор?! А можа мядзведзь і праўда не выдумка дзіцячая?»

— Каб, здаецца, знайсці жывым — нікуды б цяпер не пусціла,— кажа яна ўголас да мужчын.

— Каб жа гэта чалавек ведаў, што можа здарыцца,— суцяшаў яе Іван.

— Дзіва, ды годзе,— разважаў Адам,— каб раптам з бору прапасці... Ці ж гэта першы раз, што дзеці па бары ходзяць? І які тут лес — дзесяцін пяць рэдкага ельніку ды хвойніку. Ужо што-што, а ніякага звера, напэўна, няма.

Пра мядзведзя Адам таксама думаў, але сказаць ні-

чога не сказаў. Ужо вельмі ж даўно як не прыходзілася барчуць пра іх у гэтых лясах. Лось, дзікая каза, воўк, барсук,— шмат розных звяроў бачыў ён у пушчы. Мядзведзь жа яшчэ ў часы вайны сышоў адгэтуль: напалохаўся, відаць, вялікага шуму і гарматных стрэлаў.

* * *

У хаце, куды ўвайшоў Алёшка следам за леснікам, стаяў густы змрок, як у склепе.

— Трапляй за мной, а то нос разаб'еш,— гаварыў ляснік, ідучы спераду.

Калі вочы крыху асвойталіся з цеменню, Алёшка пачаў разглядаць хату. Спачатку заўважыў невялікае акенца, завешанае рэдкай посцілкай. Праз яе, як праз дробнае сіта, скупа рассявалася цьмянае святло. Потым паступова, нібы з зямлі, пачалі вырастаць розныя кублы, мяшкі збожжа, скрынкі... Пры самых дзвярах, на сцяне, убачыў дзве паліцы, устаўленыя гаршкамі і збанкамі. І толькі на сярэдзіне была вузенькая сцежка,— праход да акенца.

— Садзіся,— паказаў ляснік на невялікі куфэрак.

Алёшка прысеў, са здзіўленнем паглядаючы на гаспадара.

«Сказаў жа — «хадзем у хату»,— думаў ён,— а прывёў ліхаведама куды...»

Ляснік, хмуры і заклапочаны нечым, адхінуў край посцілкі і прыліп да акенца.

— Хіба ж вы, дзядзька, тут жывяцё? — запытаўся збіты з панталыку Алёшка.

Ляснік адвярнуўся.

— Не... згатуецца снеданне — тады пойдзем туды,— махнуў ён рукою ў бок дзвярэй.

Алёшку рабілася сумна. «Лепей бы на дварэ пачакаць снедання,— думаў ён,— чым у гэтай цёмнай нары».

Ляснік жа зноў засланіў галавою акенца.

— Вы зніміце посцілку, святлей будзе,— раіў Алёшка.

— Мухі наляцяць...— адказаў ляснік. Потым адвярнуўся, прысеў поруч з Алёшкам, уважліва разглядаючы яго кашулю.

— Дзе ты знайшоў яе? — раптам паказаў ён на папружку.— Гэта ж мая!

— Не, вы не пазналі, дзядзька,— адказаў Алёшка.

— Што ты: сваю папружку не пазнаць? Ты ў пушчы знайшоў?

— Ага, у пушчы. Але гэта ж бацькава: я добра помню яе, нават літары бацькавага імя і прозвішча на пражцы. Вось паглядзіце,— зняў ён папружку і падаў лесніку.

— Паглядзім...— сказаў ляснік.

«Што б гэта з ім сталася? — дзівіўся Алёшка.— Сустрэў як незнаёмага, замест хаты завёў у нейкую цёмную нару і — новая справа! — бацькаву папружку прызнае за сваю...»

Ляснік жа тым часам уважліва разглядаў папругу і гаварыў спакойна:

— А я так шкадаваў яе... Глядзі ты,— знайшлася!

— Вы лепш паглядзіце, дзядзька. Там жа літары. Гэта бацькава: яго імя — Віктар, па бацьку — Сымонавіч, прозвішча — Шабуневіч,— даводзіў Алёшка.— А разам і будзе — ВСШ.

Ляснік зачмыхаў, падкруціў вусы.

— Ты думаеш, толькі ў твайго бацькі магла быць такая? Як мяне зваць? — неспадзявана запытаўся ён, павысіўшы голас.— Ведаеш?

Алёшка пачаў прыпамінаць. Як жа, сапраўды, завуць яго? «Ляснік» — ніколі, здаецца, і не чуў ён іншага імя.

— Не, не ведаю...

— То-та ж, што не ведаеш,— павесялеў ляснік.— Завуць мяне... Валянцін, па бацьку... Сяргеевіч, прозвішча... Шамяцінскі. А першыя літары і дадуць — ВСШ. Ну, хто з нас памыліўся? Эх, малы, а ўжо, бач ты, са старэйшымі спрачаецца.

Алёшка вінавата глянуў на яго, просячы выбачэння.

— На, калі хочаш, другую, падпяражыся,— зняў ляснік сваю вузкую папружку; Алёшкаву ж павесіў на кручок і зноў шчыльна прыліп да акенца.

Алёшка падперазаў папружкаю штаны і, ад няма чаго рабіць, разглядаў цёмную кладоўку. Вось у адным кутку, між рознага хламу, убачыў ён штосьці калматае з выскаленымі зубамі.

Падышоўшы бліжэй, ён ахнуў ад вялікага здзіўлення і радасці:

— Дык вы, дзядзька, забілі таго мядзведзя?

Ляснік раптам адскочыў ад акенца.

— А-а... забіў! — адказаў ён.

— Учора?

— Але, учора...

Алёшка стукнуў нагой па галаве мядзведзя.

— Вось табе, страшыдла!

Мядзведзева галава лёгка перавярнулася на другі бок.

— А я думаў, вы ўсяго яго прынеслі — тут жа толькі галава...

— Увесь цяжкі, дзе яго прынясеш,— адказаў ляснік.

— Ну, цяпер і баяцца няма каго! А то ў нас усе піянеры на поле хадзіць перасталі. Баяцца!.. Я, дзядзечка, чакаць снедання не буду, пабягу, мне хочацца хутчэй расказаць пра мядзведзя ўсім, вы мне толькі дарогу пакажыце.

І Алёшка пачаў прабірацца да дзвярэй.

— Чакай! Ты куды? Уцёк ад мядзведзя, дык хочаш на воўчыя зубы трапіць...

— Ваўка я не баюся. Я ўжо сёння бачыў ваўка.

— Ого, смяляка які аб'явіўся! Пасядзі! Я сам правяду цябе. Мне ўсё роўна па дарозе: у абход трэба...

— Дык хутчэй, дзядзечка! Я ж з учарашняга дома не быў.

— Паснедаць то трэба? Як думаеш?

— Мне ўжо не хочацца есці.

— Пасядзі, а я даведаюся, як там... Тады пойдзем.

Алёшка мусіў згадзіцца.

Ляснік выйшаў. Але толькі рыпнулі ўслед за ім дзверы, як на двары злосна забурчаў сабака.

— Барбос, на месца! — пачуўся леснікоў голас.

Алёшка адхінуў ражок посцілкі і, не памятаючы сябе ад радасці, кінуўся да дзвярэй. На ганку ледзь не збіў з ног ашаломленага лесніка.

— Мама, я тут!

— Алёшачка, дзіцятка!..— схапіла яго маці ў абдымкі.

На тварах мужчын вырастала радасная ўсмешка. Ляснік жа застыў на месцы, збянтэжаны ад гэтай сустрэчы.

— Вот і ведай, дзе шукаць,— падышоў да яго Адам.

— А вы яго шукаеце?..

— Дай ты рады! Цэлую ж ноч шукалі. Бяды колькі нарабіў ён нам. Гэта ж такі-то хлапец прапаў.

— Дык забірайце, забірайце... Я спяшаюся... у абход трэба... І так праз яго затрымаўся...

І ляснік, сапраўды спяшаючыся, падаўся да гумна.

— Дзякуй жа табе, Андрэйка, за прытулак,— ужо наўздагон яму дзякавала маці.

Алёшка здзіўлена глянуў на матку: чаму «Андрэйка?» — хацеў запытацца. Але — можа памылілася маці?

Над пасекаю ўзышло сонца. Неба было чыстае, як шкло: аніводнай хмаркі. У паветры гулі авадні і сляпні, звінелі мухі.

— Ну, як жа гэта цябе занесла сюды? — запытаўся Адам, выходзячы на дарогу.

Алёшка пачаў расказваць.

## АБ ЧЫМ РАСКАЗАЎ АЛЁШКА

Каля Тодаравай хаты, куды, спяшаючыся, проста праз агароды, падыходзілі Алёшка з маткай і суседзямі, стаяў аўтамабіль. Яго густа абсыпалі дзеці. Шафёр нешта расказваў зацікаўленай грамадзе.

— Гэта ж аўтамабіль дзядзькі Сакоўскага! — закрычаў Алёшка здалёк, тармосячы матку за руку.

Дзеці пачулі Алёшкаў голас і кінуліся яму насустрач. Яны акружылі Алёшку і разглядалі яго, як дзіва. Алёшка ж ішоў проста да аўтамабіля і думаў толькі пра дзядзьку Сакоўскага. Як жа хацелася скарэй убачыць яго! Вось цяпер дык ёсць аб чым расказаць яму і... нават пахваліцца! Не так, як тады ў бары...

Неўзабаве на ганку паказаўся Тодар, за ім — Сакоўскі.

— А вось і Алёшка! — развёў рукамі ўзрадаваны Тодар.— Дзе ж гэта ты прападаў, сынку?

— Там, дзе нават і не спадзяваліся,— адказала за яго маці.

Алёшка быў заняты ў гэты час іншымі думкамі — як сустрэць дзядзьку Сакоўскага? Ці пазнае ён цяпер яго? Як прывітацца з ім? А хацелася б так шчыра, як з бацькам... Сустрэўшыся вачыма з Сакоўскім, ён падняў руку і тут жа апусціў... Хацеў зняць шапку, каб так прывітацца, ды ўспомніў, што няма яе... Сакоўскі ж тым часам ужо сам падыходзіў да яго і, жартуючы, гаварыў:

— Ну, брат, і свавольнік жа ты! Не ведаў я. Як відаць, і начаваць ужо не прыходзіш дамоў. Кепска, брат...

З крыўдай у голасе Алёшка перапыніў яго:

— Я не свавольнік, дзядзька Сакоўскі.

— А дзе ж ты прападаеш? Я, брат, як даведаўся, гэтак шкадаваў цябе: такі-то баявы хлапец, і на табе — прапаў! Ужо нават і ў міліцыю перадаў, каб шукалі.

— Я ўсё раскажу...
— Ну, давай расказвай. Ды і рагатку, відаць, прагуляў недзе...
Адам паклікаў убок Тодара і нешта гаварыў яму паціху.
— Таварыш Сакоўскі! — гукнуў неўзабаве Тодар.
Сакоўскі пакінуў Алёшку і падышоў да іх.
Праз хвіліну Тодар з Адамам шыбка зашагалі па вуліцы.
— Захапіце і Базыля! — наўздагон ім гукнуў Сакоўскі ды зноў вярнуўся да Алёшкі, на гэты раз сур'ёзны і ўсхваляваны.
На вуліцы сабралася шмат народу.
— Зойдзем, Алёшка, у хату,— кіўнуў галавою Сакоўскі, паказваючы на праўленне.
— Можа да нас, таварыш, ён жа галодны з учарашняга і мокры ўвесь,— папрасіла маці.— Хоць пераадзенецца няхай.
— Добра. Хадзем!
Дома маці наставіла на стол, што толькі мела, і частавала Алёшку, як ніколі ніводнага госця. Сакоўскі прысеў тым часам да другога канца стала, дастаў з кішэні газету і пачаў чытаць.
У хату ўвайшоў Тодар. Яшчэ на парозе загаварыў ён:
— Базыля няма. Аўдолю затрымалі...
Сакоўскі згарнуў газету. Задумаўся.
— Прыйдзецца варту паставіць,— сказаў ён.
— Так і зрабілі,— адказаў Тодар.— Ну, нарэшце такі выйшла наверх...— дадаў ён, глянуўшы на Алёшку...— Малайчына, Алёшка! Але тут, таварыш Сакоўскі, думаю я, не адна Аўдоля: не магла яна гэтулькі шкоды нарабіць...
Алёшка дапіў малако.
— Можа яшчэ падліць? — запыталася заклапочаная маці.— Колькі ж ты з'еў? Еш, сынок, еш.
— Не, мамка, хопіць. Потым,— адмовіўся Алёшка. Ён ведаў, што дзядзька Сакоўскі чакае яго, хоць пра гэта нічога і не кажа.
— Пад'еў? Тады расказвай, як гэта ўсё было.— Сакоўскі падсунуўся бліжэй да Алёшкі.
Алёшка пачаў успамінаць. І ўвесь час з затоенай радасцю сачыў за сваім слухачом, дзядзькам Сакоўскім. Той жа слухаў Алёшку з не меншай цікавасцю, як слухаў яго

Алёшка тады на піянерскім сходзе. Калі Алёшка ўспомніў і расказаў пра забітага мядзведзя, Сакоўскі вылез з-за стала і шырокай паходкай зашагаў па хаце, задумаўшыся.

— Цяпер усё ясна! — сказаў ён.

Алёшка нічога не зразумеў з гэтых слоў, але заметна павесялеў. «Ага, значыць, дзядзька Сакоўскі рад, што ляснік забіў мядзведзя»,— думаў ён і пасля гэтага стараўся яшчэ дакладней усё ўспомніць і расказаць. Не прамінуў сказаць нават і таго, як адпомсціў таму мядзведзю, хоць забітаму, стукнуўшы яму нагою па галаве.

Прыбраўшы са стала, маці прынесла з каморы чыстае адзенне.

— Пераадзенься, сынок! Хадзі вось сюды, да печы,— паклікала яна.— Ты ж увесь мокры. Хаця каб не прастудзіўся...

Алёшка пачаў пераапранацца. Сакоўскі, прысеўшы за сталом, паціху гутарыў з Тодарам.

— Адкуль гэта ў цябе папружка? — запытала маці, калі Алёшка скінуў верхнюю кашулю.

— Ляснік даў,— адказаў Алёшка.

Сакоўскі насцеражыўся.

— Што, што ты, Алёшка, сказаў пра лесніка?

— Папружку даў яму ляснік,— адказала маці.

— Навошта?

— Я ў пушчы сёння раніцай знайшоў адну папружку,— пачаў расказваць Алёшка.— Думаў, што бацькава: якраз такая, як у бацькі была. І нават бляха шырокая і тры літары — ВСШ...

— І што? Дзе ты яе падзеў?

— Ляснік забраў. Сказаў, што яго. А мне даў вось гэту.

— Яго сказаў?

— Ён сказаў, што ВСШ — гэта першыя літары яго імя і прозвішча.

Сакоўскі адвярнуўся да Тодара:

— Праўда?

— Не,— паківаў галавою Тодар.— Ён — Андрэй Вышанскі. А як па бацьку — не ведаю.

— Што вы, дзядзька,— які Андрэй? — запярэчыў Алёшка.— І мама сёння сказала так, калі дзякавала. Ён жа зусім і не Андрэй, а...— Алёшка нахмурыўся, стараючыся прыпомніць...— ага: Валянцін! Ён мне сам сказаў.

Маці збянтэжана глядзела то на Алёшку, то на мужчын.

— Ты помніш, дзе знайшоў папружку? — запытаўся Сакоўскі.

Алёшка заклапочана пазіраў яму ў твар. Ён успамінаў: лінія, доўга бег, а вось — у якім месцы выйшаў? Адтуль зусім не цяжка знайсці той выварацень.

— Не помніш? — не цярпелася Сакоўскаму.

— Зараз, зараз...

І раптам, павесялеўшы:

— Асіна! Зламаная бурай, у тым месцы, дзе я першы раз выскачыў на лінію... Ад яе налева і прама, а там і выварацень...

— А ты, Кацярына, пазнаеш мужаву папружку? — запытаўся Сакоўскі ў Алёшкавай маткі.

— Дзіва што пазнала б...

— Тады — паедзем! — сказаў Сакоўскі да Тодара.— І ты, Алёшка, з намі таксама. На аўтамабілі. Хоць і шкада цябе: нябось змарыўся?

— Не-е, я зусім не змарыўся,— ажывіўся Алёшка, пачуўшы пра аўтамабіль.

Выходзячы з хаты, ён аж падскокваў ад такой неспадзяванкі. Ого, тады ўдалося праехаць толькі з бору, а гэта ж — дарога ў разоў чатыры большая. Па крайняй меры, можна з'ахвоціцца! Ды яшчэ з кім ехаць — з самім дзядзькам Сакоўскім!

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ЭКСПАНАТ

Каля праўлення пасля ад'езду Сакоўскага сабраўся цэлы сход. Адам можа ў дзесяты раз расказваў пра Алёшку: падыходзілі ўсё новыя слухачы.

— Ну, убачыў ён, Алёшка, учора здалёк нейкую жанчыну ў ячмені,— гаварыў Адам,— захацеў пазнаць, хто яна? Пабег да пушчы і там стрэўся з Аўдоляй. А пасля — мядзведзь напалохаў. Ён уцёк і адзін начаваў у лесе: заблудзіўся і не мог вярнуцца назад. Раніцай прыбіўся да лесніка. А пасля і мы надышлі — забралі. Вось і ўсё. Нічога такоўскага болей не чуў я.

Сапраўды, гэта было ўсё, аб чым расказаў Алёшка дарогаю.

— А чаго ж яны так раптоўна некуды паехалі? — дапытваліся слухачы ў Адама.

— Хто іх ведае...

Дзеда Кліма з усяго Адамавага апавядання найбольш зацікавіў мядзведзь.

— Адкуль бы яго ліха прынесла? — гаварыў ён, жуючы кляновы цыбучок люлькі.— За свае семдзесят гадоў мне адзін раз толькі і давялося сустрэць яго ў пушчы. Праўда, казалі, бачылі ў час вайны. Тут нешта нейкае...

— А я думаю — леснікоў Барбос гэта,— здагадваўся Адам.— Ён, воўчае мяса, бурчыць так груба, як мядзведзь. І вялізны, калматы. Як паглядзеў я сёння на яго, дык адразу так і падумаў.

— Барбос мог дагнаць Алёшку,— адказаў дзед Клім.— Дзіва! Першы раз на вяку, як той казаў, такая загадка.

І чым больш мужчыны думалі і меркавалі, тым больш блытанай здавалася ўся гэтая незвычайная падзея.

Даўно пара было на работу. І ніколі ж улетку так позна не выходзілі ў поле. Але ніхто і не ўспамінаў пра гэта.

Так стаялі ўсе, разважаючы і мяркуючы, пакуль не затарахцела машына ў канцы вёскі.

— Едуць! — загаманілі мужчыны.

— Яны!

Спыніўся аўтамабіль каля людзей, якія загадзя ачысцілі яму дарогу.

І тут усе ўбачылі ў аўтамабілі лесніка Вышанскага са звязанымі рукамі. А на Алёшкавых каленях ляжала мядзведжая галава з выскаленымі парыжэлымі зубамі...

Дзед Клім хапіўся за сівую бараду, стукнуў сябе пальцам у лоб:

— І я, стары пень, не здагадаўся раней. А бачыў жа, каб я так жыў, гэтае чучала ў лесніка не раз...

Ляснік Вышанскі зверавата глядзеў уніз. Адам падышоў да аўтамабіля.

— Таварыш Сакоўскі, за што гэта вы яго звязалі? — паказаў ён на лесніка.

І ўсе глядзелі на Сакоўскага так, нібы яму даўно ўжо далі слова сказаць нешта вельмі важнае. Ён жа чамусьці нібы забыў пра гэта, спакойна вылазіць з аўтамабіля, за ім і ўсе, апрача лесніка.

— Базыля не знайшлі? — замест адказу запытаўся Сакоўскі.

— Не. Не прыходзіў.

— Прыйдзецца заняцца гэтым табе самому,— сказаў Сакоўскі да Тодара... А грамадзяніна Вышанскага адправім у раён...

Алёшка, вясёлы, як ніколі, трымаў зараз у руках заместа рагаткі чучала мядзведзя. Яго з усіх бакоў акружылі дзеці, дзівячыся гэтай новай навіною, удзельнікам якой і зараз быў Алёшка.

— Дзядзька Сакоўскі,— пытаўся ён,— а дзе ж мядзведзя падзець?

Сакоўскі павярнуўся да Алёшкі:

— Не баішся цяпер?

— Не-е,— усміхаўся Алёшка. Ямачкі на яго шчоках расцвіталі ружовым цветам.

Грышка смела памацаў мядзведжую морду і, махнуўшы рукою, сур'ёзна прагаварыў:

— Такога і я не баюся!

Сакоўскі абвёў вачыма дзяцей, якія з цікавасцю разглядалі мядзведзя.

— А хто яшчэ не баіцца? — запытаўся ён.

Піянеры змаўчалі, а меншыя так загаманілі, што невядома, каго было і слухаць. Услед за Грышкам яны з усіх бакоў пачалі церабіць рахманага звера.

— Ого, дык вы, відаць, усе смялякі. І зусім дарэмна ўцякалі ад яго з поля...

— Дык гэта той самы? — дзівіліся дзеці.

— Вядома, той,— адказаў Сакоўскі.— Вось падзякуйце Алёшку, што прывёз яго. І калі не баіцеся, дык забярыце сабе для школьнага кутка прыроды. Згодзен, Алёшка?

Алёшка матнуў галавою: дзіва што згодзен!

У школу гэтага незвычайнага мядзведзя неслі па чарзе ўсе дзеці, якім пашанцавала тут быць і прыняць удзел у такой важнай дэманстрацыі.

Алёшка ж, акружаны з усіх бакоў, расказваў сваім сябрам пра тое, аб чым вы ўжо даведаліся з гэтага апавядання. Праўда, і зараз ён мог расказаць не ўсё, бо не ўсё ведаў і сам. Прынамсі, не мог ён шмат чаго цікавага і важнага расказаць пра лесніка Вышанскага, былога белага афіцэра, які пасля грамадзянскай вайны, як крот у зямлю, зашыўся ў глухую пушчу і арганізаваў там штаб з бандытаў і зладзееў.

Пра ўсё гэта і сам Алёшка і ўсе яго сябры даведаліся крыху пазней.

*1935 г.*

## У ПАЛАЮЧЫМ ГОРАДЗЕ

Толя Кавалёў вяртаўся з піянерскага лагера ў свой родны горад на чацвёрты дзень вайны. Разам з ім ішоў Міхась Прахарэвіч — яго лагерны дружбак і сусед па палаце. Ён жыў недалёка ад Мінска ў калгасным сяле Зялёны Бор.

Шчодра пякло гарачае летняе сонца. Ветрык ледзь варушыў зялёную збажыну. Усё буйна красавала,— і на палях, і на лугах, і ў лясах.

Ісці было нялёгка. Рукі і плечы нылі ад чамаданаў. Першыя кіламетры не здаваліся надта цяжкімі: пажыткі ў хлопцаў былі невялікія. А потым кожны кілаграм пачаў пудам рабіцца.

Найбольш пакутаваў Міхась. Сам ён не вызначаўся сілаю, а чамадан меў самаробны, з моцных хваёвых дошак. Шпурнуць яго куды-небудзь у прыдарожную канаву ён не здагадваўся, ды так і цягнуў, перакідваючы з аднае рукі ў другую. Разы са тры падменьваў яго Толя, гэта значыць адбіраў у Міхася чамадан драўляны, а яму сілаю ўсучваў свой — фанерны, лягчэйшы. Плечы і рукі Міхасёвы крыху адпачывалі, і ён зноў адбіраў назад у Толі свой самаробны сундук.

У самы поўдзень хлопцы мінулі апошні ўзгорак на сваім шляху і ўбачылі горад. Траха не ўсю мінулую ноч яны не спалі, з трывогай углядаючыся ў агністае зарава над тым месцам, дзе знаходзіўся Мінск. Цяпер пры сонечным святле зарава не вылучалася так ярка, толькі скрозь над цэнтрам горада стаяў густы дым, у якім буша-

валі ружовыя языкі полымя ды высока шугалі над дымам іскры.

Над галовамі часта пралятталі самалёты — цяжкія бамбардзіроўшчыкі з чорнымі крыжамі на крылах і вёрткія тупарылыя «ястрабкі» з чырвонымі зоркамі.

Іншым разам хлопцы з цікавасцю панаглядалі б за шустрымі «ястрабкамі», а цяпер не да іх было. Страх, які заўладаў імі з першага дня вайны, гнаў іх наперад па гэтай ціхай прасёлкавай дарозе, туды, дзе чакалі іх бацькі і радня. Толькі там, здавалася ім, можна знайсці супакой і абарону.

На гарадской ускраіне, куды неўзабаве прыйшлі хлопцы, панавала цішыня. Пажараў тут не было. Бомбы рваліся недзе ў цэнтры, там жа трашчалі зенíткі, там жа ў ясным бязвоблачным небе кружыліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі, а вакол іх, быццам феерверкі, успыхвалі бела-шэрыя камячкі ваты...

Завулак, у якім жыў Толя, знаходзіўся недалёка ад цэнтра, у раёне вакзала. Але думаць аб тым, што ён можа таксама гарэць, Толя не мог. Не зважаючы на страшэнную зморанасць, ён ішоў цяпер подбегам. Міхась ледзь паспяваў за ім.

Людзі на вуліцах траплялíся рэдка. Сям-там прабяжыць чырвонаармеец, відаць, спяшаючыся на сваю зенітную батарэю, пратарахціць грузавік, крыты брызентам, з клункамі і чамаданамі пройдзе, прыгнуўшыся ад цяжару, прахожы. Адзін з гэтых прахожых — высокі пажылы дзядзька з двума чамаданамі ў руках — спыніў хлапцоў:

— Вы куды разагналіся?

— Дадому,— адказаў Толя.

— А дзе былі?

— У піянерскім лагеры.

— А-а...— няпэўна прамармытаў прахожы і, паставіўшы адзін чамадан на драўляны тратуар, выцер вольнаю рукою пот з твару і з ілба.— На якой вуліцы ваш дом? — спагадліва запытаўся ён.

— На Свярдлова,— адказаў Толя.— Там такі завулак ёсць, каля школы...

— Гарыць ужо і яна...— уздыхнуў прахожы і, схапіўшы чамадан, прыбавіў кроку.

Толя не паверыў прахожаму. Ды ўрэшце іншай дарогі ў яго няма. Дома ж яго чакаюць бацька і старэйшы брат

Мікола. Маці, відаць, яшчэ не вярнулася з курорта. Яна паехала ў Есентукі тыдні тры таму назад.

Недалёка ад вуліцы Свярдлова хлопцы трапілі пад бамбёжку. Толя ўпаў каля нейкага драўлянага доміка і ўнурыўся тварам у пясок. Тое ж услед за ім зрабіў і Міхась. Над імі павіс страшэнны звон, свіст, трэск, грукат... Здавалася, усё гэтае пекла навалілася толькі на іх адных, быццам варожыя лётчыкі не мелі тут ніякіх іншых аб'ектаў.

Бамбёжка і траскатня зенітак бушавалі хвілін пяць. Нарэшце ўсё сціхла. Хлопцы падняліся бледныя, разгубленыя, моўчкі абцерушылі пясок са штаноў і кашуляў і гэтак жа моўчкі рушылі далей, з жахам паглядаючы на свежыя языкі полымя навакол.

Міхасю ўжо час быў развітвацца з сябрам і падавацца на заходнюю ўскраіну. Адтуль ішла дарога да яго роднага сяла. Але ён усё яшчэ крочыў побач з Толем.

Праз нейкі час Толя загаварыў:

— Можа, зойдзеш, Міхась, да нас. Пасядзіш, паабедаеш...

Толю ўсё яшчэ здавалася, што гэта толькі на чужых вуліцах гараць дамы, сыплюцца бомбы і трашчаць зенікі. На іхняй жа вуліцы гэтага не можа быць. Прахожы дзядзька сказаў так сабе, наўгад. Ды ўрэшце іхні драўляны асабнячок стаіць наводшыбе ад вуліцы, у агародах. Там бамбіць няма чаго.

Міхась думаў аб іншым: ісці яму яшчэ далёка, а голад і змора бралі сваё. І таму ён гатовы быў зрабіць прыпынак у любым месцы, тым больш што сонца ўжо звярнула з паўдня і сёння, відаць, мала надзеі трапіць дахаты. Потым жа за час лагернага жыцця ён моцна прывык да Толі. Пасябравалі яны з першага ж дня. Ложкі іх стаялі побач, у сталоўцы яны занялі месцы таксама побач, у атрадзе былі ў адным звяне. Апрача ўсяго, яны былі аднагодкі, і як адзін, так і другі перайшлі сёлета ў сёмы клас. Ва ўсім іншым яны былі зусім рознымі. Толя выглядаў старэй сваіх год, ён быў дужы і плячысты, светлавалосы, а Міхась — хударлявы падлетак са смуглым тварам і чорнымі, як смоль, жорсткімі валасамі. Толя любіў вудзіць рыбу, а Міхась — збіраць ягады.

Апошнія кварталы да Толевага дома былі самымі цяжэйшымі. Бамбёжкі тут пачасціліся. Некалькі разоў хлопцы хаваліся ад іх у пад'ездах высокіх мураваных да-

моў, траплялі ў бамбасховішчы, куды збягаліся людзі з бліжэйшых дамоў. Пакутлівыя гэта былі хвіліны — глядзець на бедных, перапалоханых жанчын, слухаць плач дзяцей і заміраць ад жаху пры кожным блізкім выбуху цяжкой бомбы.

І вось нарэшце такі знаёмы Толю завулак! А ў ім, калі крыху адысціся ад вуліцы,— драўляны домік, з кустамі бэзу, вяргіні, з густым вішняком вакол дашчанага плота... Побач такія ж асабнячкі суседзяў. Іх яшчэ не відаць. Яны заслонены вунь тым чатырохпавярховым домам, што стаіць пры вуліцы.

Але... што ж гэта? Над мураваным домам клубіцца густы дым... І не з комінаў вырываецца ён, а з вокнаў, з балконаў!

Калі Толя павярнуў на завулак, дык ясна ўбачыў: на месцы, дзе быў іх домік і домікі суседзяў, тарчалі адны голыя печы ды курыліся галавешкі...

Людзей блізка не было. Мураванага дома ніхто не тушыў. Толькі недалёка, на другім баку вуліцы, стаяў каля пад'езда высокі міліцыянер у белых пальчатках, быццам нічога і не здарылася. Машыны — грузавыя і легкавыя,— якія сяды-тады пралятталі па вуліцы, ішлі за горад, у бок Чэрвеньскага рынку.

Ногі Толевы падкасіліся. Ён спыніўся і затуманенымі вачыма пачаў разглядаць нейкае чужое, невядомае яму месца. На папялішчы, апрача печы, тарчалі шкілеты абгарэлых жалезных ложкаў, валяліся перапаленыя балеі, каструлі, бляха...

— Гэта наш дом...— сказаў Толя не сваім голасам, махнуўшы здранцвелаю рукой у бок свежага пажарышча.

Яму хацелася заплакаць. Але пасля таго, што ён бачыў на другіх вуліцах, пажарышча на месцы роднага драўлянага доміка ўжо не здавалася нечым незвычайным. Гэта крыху адганяла слёзы, якія клубкамі каціліся да горла.

— А дзе ж бацька твой і брат? — прагаварыў разгублены Міхась.

Толя прамаўчаў. «Відаць, бацька на рабоце,— падумаў ён.— А Мікола, можа, пайшоў куды да знаёмых».

У садку, на самай сярэдзіне, уцалела адна яблыня. Лісце яе, праўда, прыхапіла агнём, яно завяла, але сам камель і галлё засталіся цэлымі. Хлопцы падышлі да гэтай яшчэ жывой яблыні і паставілі чамаданы. Самі паселі на

траву. І аднаго і другога неўзабаве ж пачаў марыць сон. Яны дасталі з чамаданаў свае паліто і прыляглі на іх.

Пад вечар бамбёжка супакоілася, ніхто больш іх не трывожыў. Ад папялішчаў і блізкага пажару веяла цеплынёй. Сон непрыкметна падкраўся да хлопцаў, скаваў іх на ўсю сваю моц.

## ПОШУКІ БАЦЬКІ

Прачнуліся хлопцы ўжо за поўнач. Папялішча і зямля ў садку пачалі астываць, а лёгкія кашулі і паліто не вельмі грэлі.

Астатнюю частку ночы яны драмалі седзячы. І ўсю ноч сніліся ім неспакойныя сны.

Раніцай горад зноў закалаціўся ад выбухаў і страляніны.

Ні бацька, ні брат дамоў не вярнуліся. Гэта ўсхвалявала Толю яшчэ больш, чым папялішча на месцы роднага дома. Значыць, з імі нешта здарылася нядобрае... Яны ж маглі хоць які знак пакінуць, дзе іх шукаць. Хіба ж яны забыліся пра яго?

Зноў, як і ўчора, хацелася плакаць. Пачаў даймаць і голад. На дарогу хлопцы ўзялі ў лагернай кухні па два бутэрброды — навошта лішні цяжар у дарозе, дома будуць абедаць! Бутэрброды свае, аднак, яны з'елі яшчэ ўчора перад горадам.

Недалёка ад чыгункі, якая перасякала вуліцу, стаяла купка ўцалелых драўляных домікаў. Там жылі незнаёмыя Толю людзі. Але зараз ён не думаў — знаёмыя там жывуць ці незнаёмыя. Яго цягнула да людзей. Ён спадзяваўся даведацца што-небудзь пра жыхароў са спаленых дамоў і расстарацца хоць кавалак хлеба.

Хлопцы абышлі ўсе домікі, і — дзіва! — нідзе ніхто ім не адчыніў. Дзверы ўсюды былі замкнуты, і ніводнай жывой душы каля домікаў яны не ўбачылі.

На вуліцы таксама нікога не відаць было. Знік і міліцыянер у белых пальчатках, які ўчора стаяў тут.

Недалёка наперадзе, дзе быў хлебны магазін, Толя ўбачыў людзей: адны ўваходзілі ў магазін, другія выходзілі з яго.

— Хадзем да іх,— ажывіўся Толя,— можа, хоць папросім у каго хлеба...

— Сорамна прасіць,— паморшчыўся Міхась.

— А што рабіць?

Міхась нічога не адказаў і моўчкі пайшоў за Толем.

Хлебны магазін сапраўды быў адчынены. Але паліцы яго пуставалі. Нікога з прадаўшчыц не відаць было. З насцеж расчыненых дзвярэй за прылаўкам выходзілі людзі з буханкамі хлеба ў руках. Хлопцы таксама зайшлі за прылавак і трапілі ў кладоўку. Там, на шырокіх дашчаных паліцах і ў вялізных плеценых карзінах, яшчэ можна было знайсці хлеб — праўда, пабіты і памяты. Людзі выбіралі з гэтага запасу цалейшыя буханкі і кавалкі. Толя з Міхасём таксама выбралі сабе па буханцы фармавога хлеба. Адламаўшы па кавалку, яны тут жа са смакам пачалі есці. Ніхто на іх не звяртаў увагі, ніхто не патрабаваў платы.

Перакусіўшы збольшага, хлопцы паклалі рэшту хлеба ў чамаданы і выйшлі на вуліцу.

«Дзе бацька?» — не пакідала Толю трывожная думка. Можа, і сапраўды ён зараз у сваім наркамаце днюе і начуе?

— Ідзі ты, Міхась, дахаты, а я буду шукаць бацьку,— сказаў Толя, ледзь стрымліваючы жаль, які не пакідаў яго.

Міхась заматаў галавою ў знак нязгоды:

— Дахаты я паспею. Хадзем лепш у наркамат.

Толя не пярэчыў. Наадварот, быў вельмі рады: без Міхася яму аднаму было б зараз вельмі цяжка.

Прабіраючыся міма палаючых і абгарэлых дамоў, хлопцы пайшлі да Дома ўрада.

Людзей на вуліцах траплялася яшчэ менш, чым учора. Дзе-нідзе на тратуарах валяліся клункі і чамаданы — адны адкрытыя, другія закрытыя. Ніхто іх не вартаваў і не чапаў...

Вестыбюль левага крыла Дома ўрада, дзе змяшчаўся Народны камісарыят сельскай гаспадаркі, быў адкрыты. Пакінуўшы Міхася з чамаданамі на ганку каля дзвярэй, Толя зайшоў у вестыбюль. І, як звычайна, убачыў у ім двух паставых міліцыянераў. Быццам нічога і не здарылася. Гэта ўзрадавала Толю. Ён не раз заходзіў сюды да бацькі і бачыў тут гэтых міліцыянераў. Праўда, сёння, апрача іх, нікога ў вестыбюлі чамусьці не было. Гэта адно, што тут змянілася.

— Можна зайсці ў Наркамат сельскай гаспадаркі? — запытаўся Толя ў маладзейшага міліцыянера.

Міліцыянер казырнуў:

— А навошта ён табе?

Толя сказаў, што ён шукае бацьку.

— З якога года твой бацька?

Толя гэтага не помніў, але ведаў, што вясной бацька спраўляў імяніны: яму было сорак год.

— Яго год яшчэ не мабілізуецца,— сказаў другі, на выгляд старэйшы, міліцыянер.— Ён, відаць, камандзір запасу?

— Ага,— адказаў Толя.— Ён капітан...

— Тады ясна: ён пайшоў у ваенкамат у першы ж дзень вайны — гэта значыць у нядзелю,— растлумачыў той жа другі міліцыянер.— А наркамат, браток, не працуе з учарашняга дня... Горад эвакуіруецца. Хто ў цябе застаўся з радні?

— Брат. Але дзе ён, невядома,— адказаў Толя.

— Тады не ведаю, што табе і параіць... Брат, відаць, цябе шукае дзе-небудзь?..

— Не ведаю...

— Калі не знойдзеш брата,— сказаў маладзейшы міліцыянер,— ідзі на пляц Волі: адтуль, я бачыў, вывозяць на машынах дзяцей за горад...

Толя пастаяў крыху і выйшаў на ганак. Слова «эвакуацыя» ён пачуў упершыню. Праўда, што яно азначае, ён ведаў з кніг.

Па вачах сябра, яшчэ больш сумных, Міхась зразумеў, што бацькі на рабоце няма.

— Бацька ў арміі...— сказаў Толя, не чакаючы Міхасёвага запытання.

— А дзе ж тады Мікола?

— Можа, таксама разам з бацькам пайшоў...

Сваякоў у горадзе ў Толі не было. Бацькава і матчына радня жыла далёка — на Віцебшчыне. Як цяпер дабірацца да яе?

Каля цэнтральнага пад'езда Дома ўрада стаялі грузавыя машыны. На іх ваенныя ў форме пагранічнікаў грузілі нейкія скрынкі і пакункі, перавязаныя вяроўкамі.

На вуліцы паказаліся танкеткі. Яны ішлі поўным ходам у бок чыгуначнага моста. Гэта крыху абнадзеіла хлопцаў: танкеткі, відаць, не адступаюць, а ідуць на захад. Можа не ўсё яшчэ страчана? Толя ўспомніў словы

старшага важатага піянерскага лагера Вадзіма Аляксеевіча: «Мы зломім Гітлеру хрыбет...»

Словы гэтыя старшы важаты сказаў у першы дзень вайны. Тады яшчэ яны не бачылі над лагерам нямецкіх самалётаў. Але і зараз Толю хацелася верыць у гэтыя словы. Ён ведаў, што Германія адна з моцных ваенных дзяржаў, што за апошнія два гады яна захапіла амаль усю Еўропу. Але ён ведаў і пра сілу сваёй Чырвонай Арміі. З гісторыі яму было вядома, што Чырвоная Армія ў гады рэвалюцыі, зусім маладая тады, дрэнна ўзброеная, галодная, выстаяла супроць траха не ўсяго буржуазнага свету. Цяжка было, а выстаяла.

Толю зноў захацелася паглядзець роднае папялішча. Нейкая невядомая сіла цягнула яго туды.

— Можа, лепш хадзем да нас,— прапанаваў Міхась.— Дзе ж ты будзеш жыць?..

— А што я ў вас буду рабіць? — праглынуўшы камяк слёз, адказаў Толя.— Я ж не радня...

Міхась перапыніў яго:

— Мой бацька добры. Паглядзіш. Ён будзе табе рады.

Другой дарогі ў Толі сапраўды не было. Але ж хто захоча трымаць яго? Міхась — дружбак па лагеры, і толькі. Якая справа Міхасёваму бацьку да Толі, ды яшчэ ў такі трывожны час!

— Можа мне паехаць у Есентукі да мамы? — выказаў услых затоеную думку Толя. І тут жа спахапіўся: — А білет? У мяне ж ні капейкі...

— Калі б і былі грошы, дык ты ж можаш не застаць яе там,— разважаў Міхась.

— Чаму?

— Можа, яна выехала дадому?..

«Але,— падумаў Толя,— маці магла выехаць. Яе трэба чакаць дома».

На папялішчы, як і раней, нікога не было.

Тым часам мінулі траха не суткі, як Толя вярнуўся ў горад. Сонца ўжо бралася пад поўдзень.

— Ідзі, Міхась, дахаты,— зноў напомніў Толя сябру.— Я адзін буду чакаць.

— Не, Толя, як сабе хочаш: адзін я не пайду...

— Тады — што? Тут застанешся?

— Хадзем разам...

— А калі Мікола вернецца або маці?..

— Напішы, куды ты пойдзеш,— яны знойдуць.

Толя падумаў: калі нават і вернецца хто з радні, дык жыць тут, на папялішчы, усё роўна нельга. А шукаць прытулку ў разбітым і спаленым горадзе, відаць, цяжэй, чым у Міхасёвым сяле.

Ён раскрыў чамадан, знайшоў кавалак чыстай паперы, потым пачаў мацаць па кішэнях.

— Карандаш, здаецца, згубіў... У цябе няма? — запытаўся ў Міхася.

— Я свой клаў у сундук, а не ў кішэню.

Міхась адкрыў сундук і хутка знайшоў там, на дне, хімічны карандаш.

Прымайстраваўшыся на Міхасёвым сундуку, Толя наслініў паперу і напісаў выразным почыркам:

«Дарагая мамачка! Мікола!

Калі вернецца хто з вас, дык шукайце мяне ў сяле З. Б. у Міхася Прахарэвіча. Я буду вас чакаць у яго.

Моцна цалую. *Толя*».

Ён перачытаў запіску і падаў Міхасю:

— Добра?

Міхась прабег вачыма.

— Чаму З. Б.?

— Навошта каб усе ведалі... Брат і маці ведаюць — я ім пісаў, адкуль ты. Цяпер хадзем,— махнуў Толя рукою, у апошні раз з замілаваннем глянуўшы на тое месца, дзе ён нарадзіўся і дзе правёў свае бесклапотныя дзіцячыя гады. Наперадзе перад ім быў цяжкі і невядомы шлях.

### «НОВЫ ПАРАДАК»

Сустрэлі Толю ў Міхасёвай сям'і, як роднага. Тут усе ўжо добра яго ведалі па Міхасёвых пісьмах. Глыбока крануў Міхасёвага бацьку расказ хлопцаў аб тым, што яны бачылі ў горадзе, што сталася з Толевым домікам.

— Вось гады! — калаціўся ён, курачы папяросу за папяросай.— Мінск жа не ваенны горад. Для чаго ж яго разбіваць і паліць? Там жа людзі жывуць! Значыць, выходзіць, фашыст і праўда горш за звера, як аб гэтым пісалі. Цяжка нават паверыць...

Міхасёў бацька Лявон Архіпавіч быў чалавек мяккі, душэўны. Пра такіх людзей кажуць, што ён і мухі не пакрыўдзіць. Лявон Архіпавіч меў гадоў сорак пяць, не

больш, але лічыўся ў калгасе адным з самых спрактыкаваных у сваёй рабоце і разважлівых людзей. Дабрата і справядлівасць калгаснага брыгадзіра Лявона Архіпавіча былі ўсім добра вядомы.

Маці Міхасёва, Ганна Навумаўна, працавала на ферме даяркай. Гэта была ціхая па натуры жанчына, рукі якой паспявалі даглядаць сям'ю і надойваць тысячы літраў малака ад любімых ёю Белак, Галак, Рагуль і Красуль... Праўда, былі ў яе па хатняй гаспадарцы і памочнікі — свякруха бабка Кацярына і дачка Валя, важатая піянерскага атрада.

У сяле ўсе толькі і гаварылі пра вайну. Маладзейшыя — хлопцы і мужчыны — развітваліся з роднымі і блізкімі ды спяшаліся ў раённы цэнтр. Адтуль на машынах і пехатою ішлі і ехалі на зборныя пункты. У іншы час, пасылаючы сына ў армію, кожны бацька спраўляў з гэтае прычыны вечарынку — з гасцямі, з танцамі і песнямі. Цяпер жа мабілізаваныя збіраліся цішком, горача цалавалі заплаканых бацькоў, дзяцей і жонак ды, горка засмучаныя, беглі даганяць сяброў. Спяшаліся туды, дзе вырашаўся зараз лёс і іх саміх, і іх сем'яў, і ўсёй краіны...

Калгас увачавідкі пусцеў. Лепшы калгасны статак яшчэ ўчора пагналі ў тыл — па дарозе, што вяла на ўсход. Разам з іншымі пастухамі, даяркамі і даглядчыкамі са статкам пайшла і Міхасёва маці.

Услед за статкам рушылі падводы і грузавікі з калгасным дабром.

Павёў іх сам старшыня калгаса Іван Якубавіч, пакінуўшы рэшту гаспадаркі пад адказнасць брыгадзіра Лявона Архіпавіча.

— Будзеш сам бачыць, што рабіць,— сказаў старшыня брыгадзіру пры развітанні.— Калі станецца самае горшае... раздай усё астатняе калгаснікам. Ясна?

— Ясна,— адказаў Лявон Архіпавіч, моцна цалуючы чалавека, з якім крочыў побач шмат гадоў, здабываючы тое дабро, аб якім зараз ішла размова.— Фашысты ў нас не пажывяцца! Спалім, у зямлю закапаем, а чужынцу не дадзім!

У першы дзень Міхась сумаваў па матцы. Ён быў яшчэ ў тым узросце, калі без маткі жыць цяжка. Усё, што ён рабіў, чым захапляўся,— ведала маці, толькі з ёй адной ён мог зусім шчыра, як з самім сабою, пагаварыць аб сваіх справах, параіцца. Ніхто — ні бацька, ні сястра Валя,

ні нават любімая бабка Кацярына не маглі замяніць яму мамы...

А назаўтра пачаліся такія падзеі, якія засланілі сабою ўсё іншае.

Амаль побач з сялом праходзіла шасейная дарога. Яна бегла полем, роўная як струна, потым знікала ў недалёкім баравым лесе. Зараз там, каля лесу, і ў самім лесе, так добра знаёмым Міхасю, ішла спешная работа. Ваенныя часці капалі акопы, устанаўлівалі гарматы, праводзілі тэлефонную сувязь.

Людзі са страхам паглядалі ў бок лесу: няўжо немец сюды прыйдзе? А потым, адвячоркам, усё загуло — і зямля, і неба... Здарылася тое самае горшае, аб чым у апошнія дні нават услых гаварыць не адважваліся — у ваколіцы сяла ішла сапраўдная вайна. Людзі хаваліся па скляпах і, здранцвелыя, чакалі канца бою. Сам бой ішоў уздоўж дарогі, потым на ўскраіне лесу, у сяло траплялі толькі выпадковыя снарады.

К ночы ўсё сцішылася. Чым закончыўся бой, ніхто не ведаў. А назаўтра раніцай людзі ўбачылі на вуліцах сяла чужых салдат... Яны прамчаліся на матацыклах, як віхор, бязладна страляючы направа і налева, і зніклі, як кашмарны прывід. Ахвярамі іхняга налёту сталіся з дзесятак сабак, якія накінуліся на няпрошаных гасцей. Сям-там былі выбіты кулямі вокны, але з людзей ніхто не пацярпеў. Пасля ўчарашняга бою людзі яшчэ баяліся пакідаць скляпы, гэта і выратавала іх.

Налёт нямецкіх матацыклістаў на сяло быў не выпадковы. З першага ж дня вайны абозы і рэзервы ворага, што ішлі ўслед за перадавымі часцямі, сустрэліся з праціўнікам, якога яны амаль што не бачылі, але затое моцна адчувалі на сваёй скуры. Па дарогах валяліся разбітыя машыны, мёртвыя і параненыя фашысты. Ужо на другі ці на трэці дзень вайны нямецкае камандаванне пачало здагадвацца, што гэта справа не толькі асобных ваенных часцей, якія заставаліся ў варожым тыле, а і партызан з мясцовых жыхароў. Каб запалохаць народ, падавіць у ім волю да барацьбы з акупантамі, і пасылаліся асобныя матарызаваныя атрады сеяць жах і паніку.

Роўна праз тры дні пасля гэтага ў сяло прыбыла нямецкая ўлада — камендант Ганс Штайн і два дзесяткі ўзброеных салдат. Ганс Штайн ехаў з перакладчыкам на легкавой ваеннай машыне, ахова яго — на матацыклах.

Першай на вочы новай нямецкай уладзе трапілася тугая на слых бабка Кацярына: яна збірала зёлкі пры дарозе за сялом. Камендант спыніў машыну і, разглядаючы карту, нешта загаварыў да свайго перакладчыка — белабрысага салдата з яфрэйтарскімі пагонамі на шэра-зялёным фрэнчы. Праз хвіліну той гукнуў да старой, махаючы рукой:

— Гэй, баба, ідзі сюды!

Бабка Кацярына зразумела, што яе клічуць. Разагнуўшы спіну, яна падняла свой кошык і падышла да машыны. Яна не баялася смерці і смела глядзела ворагам у вочы. «Чорт лупаты»,— сказала яна сама сабе ў думках, глянуўшы на напышлівы, надзьмуты рыжы твар каменданта, на якім сядзелі чорныя, страшныя, як савіныя вочы, акуляры: Ганс Штайн баяўся сонца і таму насіў летам цёмныя акуляры.

— Дзе ест ваш бургамістр? — запытаўся перакладчык у старой.

Бабка зразумела, што ў яе аб нечым пытаюцца. А што гаворыць гэты белабрысы салдацік з кручкаватым носікам — яна не дачула. Бабка прыклала рукі да вушэй:

— Мацней кажы! — загадала яна белабрысаму.

Перакладчык не зразумеў бабчыных слоў, ён палічыў, што яна крычыць на яго, лае па-свойму. Ён дастаў з кішэні кніжачку ў чорным пераплёце і, гартаючы яе, замармытаў сам сабе пад нос:

— Я, я, Вайс Русіш!..[1] Мацней, мацней... Ага — вось яно: сільней. Значыць, сільней кажы.— Адгарнуўшы некалькі старонак, ён прачытаў: — кажы — гавары...

Зразумеўшы з дапамогай чорнай кніжачкі бабчыны словы, перакладчык гукнуў на ўсю моц:

— Дзе ест бургамістр, кажы!

Бабка Кацярына адступілася, замаргала вачыма, утаропіўшыся на белабрысага яфрэйтара: ці не з таго свету ён выскачыў? Пра якога бурмістра[2] ён трызніць? Яфрэйтар, не ўпэўнены, што бабка пачула яго, крыкнуў яшчэ мацней.

— Чую, чую! — замахала рукамі бабка.— Быў некалі такі недавярак... Ды даўненька як здох!

— Здох! Бургамістр здох?

---

[1] Так, так, Белая Русь.

[2] Бурмістр — панскі стараста ў часы прыгону. Бургамістр — кіраўнік гарадской управы (у Заходняй Еўропе).

— Здох, эге ж... Як адмянілі паншчыну, дык яму рабіць не было чаго — пайшоў да пана за лёкая. Я яго яшчэ памятаю. Яго і пасля паншчыны не лёкаем, а бурмістрам звалі. Даўся ён людзям у знакі. Ды сабаку сабачая смерць: захлынуўся купаючыся. Праўда, казалі, адзін добры чалавек дапамог яму захлынуцца — стукнуў каменем па благой галаве, яна і пайшла на дно...

Бабка Кацярына не скупілася на словы і ахвотна завяла гаворку пра нядобрай памяці панскага бурмістра. Перакладчык, аднак, нічога не зразумеў з яе апавядання, апрача таго, што бургамістр ці бурмістр, як кліча яго бабка, быў ды здох. Ён паматаў галавою са спачуваннем і сказаў каменданту:

— Бургамістр капут...

— Запытайся, хто замяняе яго,— загадаў ён перакладчыку.— І дзе яго шукаць?

Перакладчык запытаўся.

— Ніхто яго не замяняе,— адказала бабка Кацярына.— Мы добра абыходзіліся і без бурмістра. На ліха ён нам. У нас ёсць старшыня сельсавета і старшыня калгаса.

— А дзе старшыня сельсавета?

— Да вайны быў у сяле, у канцылярыі. А дзе цяпер — не ведаю. Мусіць, з арміяй пайшоў.

— Ён што — ваенны?

— Які там ваенны — пажылы ўжо. Добры чалавек быў,— уздыхнула бабка Кацярына.

— А старшыня калгаса дзе? — дапытваўся перакладчык.— Таксама з арміяй пайшоў...

— Пайшоў. А чаго яму тут заставацца?

— І ён не ваенны?

— Не. У яго ўжо тры сыны ў арміі.

Яфрэйтар паціснуў плячыма і сказаў каменданту:

— Відаць, вар'ятка нейкая. Пляце ўсякае глупства. Можа, не пашкадаваць адной кулі?

Камендант гідліва скрывіўся:

— Не хочацца настрой псаваць. Паехалі!

Хутка камендант усё ж знайшоў пусты будынак сельскага Савета. Будынак быў невялікі — звычайны сялянскі дом, перагароджаны на два пакоі, з сенцамі. Камендант агледзеў печ, сцены, аклееныя стракатымі шпалерамі светла-сіняга колеру, і, пераканаўшыся, што клапоў і іх слядоў не відаць, заявіў сваім падначаленым:

— Тут будзе камендатура. А вы займайце дамы побач.

Варту каля камендатуры трымаць усе дваццаць чатыры гадзіны. Зразумела?

— Зразумела,— адказалі падначаленыя.

Камендант падняў руку:

— Хайль!

— Хайль! — дружна гаркнулі салдаты і накіраваліся да суседняга дома. Там жыла сям'я калгаснага садавода. Праз паўгадзіны сям'я пакінула свой дом, знайшоўшы часовы прыпынак у цеснай варывеньцы, дзе трымалі бульбу і іншую гародніну.

Гэткім жа чынам былі захоплены яшчэ два дамы побач з рэзідэнцыяй каменданта Ганса Штайна.

Лёгка вырашыўшы кватэрнае пытанне, Ганс Штайн пагаліўся і заняўся «дзяржаўнымі справамі». Перш-наперш трэба было знайсці хоць якую мясцовую ўладу і аддаць ёй належныя загады. На каменданта Ганса Штайна ўскладаліся вышэйшым начальствам самыя шырокія абавязкі як ваеннага, так і грамадзянскага характару. Дзеля гэтага яму даваліся самыя неабмежаваныя дыктатарскія правы. Ён мусіў навесці новы нямецкі парадак у сяле Зялёны Бор і яго ваколіцах. Гэтага патрабуе вялікая Германія. А Германія, як спявалася ў фашысцкім гімне, вышэй усяго. Іншыя народы, якім Германія зміласцівіцца дараваць жыццё, мусяць быць толькі паслухмянымі слугамі фашыста Гітлера і яго кампаніі.

У пошуках мясцовай улады камендант дабраўся нарэшце і да Лявона Архіпавіча.

К часу прыезду новага гаспадара сяла Ганса Штайна з калгаснага дабра нічога не засталося — ні ў свірнах, ні на фермах. Усё было раздадзена ў надзейныя рукі і схавана ў надзейных сховах. Вядома, Лявон Архіпавіч не сказаў пра гэта новаму гаспадару і не мог сказаць.

— Усё вывез старшыня ў савецкі тыл,— цвёрда паўтараў ён адны і тыя ж словы.

Ганс Штайн спачатку трымаў сябе спакойна. Ён не верыў, што ўсё дабро мясцовага калгаса, якое належыць яму, як заваёўніку, паспелі вывезці ў савецкі тыл. Таму ён не вельмі і прыставаў на першы раз да Лявона Архіпавіча. Толькі сказаў, адпускаючы брыгадзіра:

— Ідзі і падумай, дзе што схавалі. Потым скажаш.

Гэта была камендантава хітрасць. Ён спадзяваўся тым часам дазнацца пра калгаснае дабро ад іншых асоб, каб потым злавіць на хлусні Лявона Архіпавіча. Павінны ж

быць і тут прыхільнікі новага нямецкага парадку! Хоць адзін ці два на ўсё сяло. Так, як на захадзе, адкуль ён прыехаў. Там яны прыходзілі самі ў камендатуру і, знімаючы шапкі, нізка кланяліся, а потым расказвалі ўсё, што цікавіла каменданта Ганса Штайна.

Але мінула дні тры, а ні адзін прыхільнік не пераступіў парога камендатуры. «Дзіва! — хваляваўся камендант.— Няўжо ж ніхто з іх не рады нашаму прыходу?» А калі так, то ў каменданта Ганса Штайна ёсць іншыя спосабы, якімі ён дабіваецца прыхільнасці да нямецкай улады. Ён прывёз з сабою не толькі зброю, але і добрых малайцоў з моцнымі нервамі і пудовымі кулакамі. Ён загадае, і яны вырвуць прызнанне ў любога разам з языком.

Вось чаму другі раз камендант вёў размову з Лявонам Архіпавічам не адзін: апрача перакладчыка, у пакоі сядзеў добра адкормлены кат з тоўстым тупым тварам, чакаючы, калі яму загадаюць пусціць у ход свае кулакі.

Камендант грозна пачмыхаў і запытаўся ў Лявона Архіпавіча, штучна ўхмыляючыся:

— Ну, што, успомніў, дзе каровы з калгаснай фермы?

Перакладчык падхапіў гэтыя словы і перадаў іх па-руску.

— Усе каровы з калгаснай фермы пагнаў старшыня на ўсход,— спакойна адказаў Лявон Архіпавіч.

— Дзе збожжа?

— Павёз старшыня з сабою...

— Дзе коні, грузавыя машыны?

— Няма...

Камендант усхапіўся з крэсла. Люта бліснулі яго мутныя алавяныя вочы: цяпер, у хаце, на іх не было цёмных акуляраў.

— Курт! Дапамажы гэтаму бальшавіцкаму брыгадзіру ўспомніць сёе-тое...

Вярзіла Курт падняўся з крэсла, утаропіўся, як удаў, на Лявона Архіпавіча, потым левай рукой прыўзняў яго падбародак, а правай стукнуў з усяе сілы. Лявон Архіпавіч упаў, заліты крывёю: усе пярэднія яго зубы высыпаліся...

Мінула хвіліна, другая — Лявон Архіпавіч не падымаўся. Камендант уваходзіў у сваю звычайную ролю — разбэшчанага, фанабэрыстага фашыста, які вар'яцеў, убачыўшы кроў сваёй ахвяры.

— Курт, падымі!

Курт узяў з услона вядро вады і лінуў яго на твар Лявона Архіпавіча. Потым схапіў сваю ахвяру за каўнер і паставіў на ногі. Лявон Архіпавіч апрытомнеў. Погляд яго быў такі ж рашучы, як і раней. Толькі яшчэ больш нянавісці свяцілася ў яго вачах. Відаць, Ганс Штайн заўважыў гэта. Ён не першы раз глядзеў так у вочы сваім ахвярам. Такія не здаваліся, колькі б іх ні мучылі. Пунсавеючы ад злосці, камендант падняў рэвальвер:

— Будзеш гаварыць, русіш швайн? Ты не прызнаеш новага нямецкага парадку?

Стараючыся стрымліваць сябе, Лявон Архіпавіч адказаў шапялявым голасам:

— На тваім, пан фашыст, баку — сіла, а на маім — праўда. А з праўдаю і паміраць лягчэй...

Ганс Штайн запішчаў як ашпараны:

— Лічу да трох!.. Раз! Будзеш гаварыць? Два! Будзеш гаварыць?

Белабрысы яфрэйтар ледзь паспяваў перакладаць яго словы.

Лявон Архіпавіч падняў руку:

— Чакай, кат! Паспееш зрабіць сваю чорную справу...

Камендант апусціў рэвальвер. О так, ён паспее яшчэ расправіцца з гэтым упартым бальшавіком! Ён сцерпіць нават і тое, што гэты бальшавік назваў яго абразлівым словам: кат! Які ж ён кат? Кат — гэта Курт. А ён прадстаўнік вялікага вермахту[1] германскай імперыі, ён вышэйшы суддзя і пракурор над тысячамі такіх, як былы брыгадзір зялёнаборскага калгаса Лявон Архіпавіч. Кату такіх правоў не даюць.

Пакуль Ганс Штайн разважаў так над розніцай паміж ім і катам, Лявон Архіпавіч сабраўся з сілаю і плюнуў рэшткамі выбітых зубоў у самазадаволены фанабэрысты твар каменданта.

Ганс Штайн спачатку аслупянеў. Потым завыў, закруціўся па хаце, як падстрэлены воўк. Збянтэжыліся і яго памочнікі: белабрысы яфрэйтар і таўстаморды Курт. Адзін толькі Лявон Архіпавіч быў у гэтую хвіліну спакойны. Ён глядзеў на ашалелых ворагаў, і вочы яго свяціліся радасцю.

Абцёршыся збольшага цёмнаю хустачкаю-насоўкаю, Ганс Штайн, усё яшчэ завываючы і калоцячыся ад пера-

[1] Вермахт — гітлераўская армія.

жытай абразы, зноў падняў рэвальвер. На гэты раз ён ужо не дапытваўся ў Лявона Архіпавіча, дзе калгаснае дабро...

Праз некалькі хвілін усё сяло даведалася пра гераічную смерць брыгадзіра калгаса «Новы шлях» Лявона Архіпавіча Прахарэвіча.

## ШТО СТАЛАСЯ З ТОЛЕВЫМ БРАТАМ

У першыя два дні вайны Мікола Кавалёў не думаў забіраць брата з піянерскага лагера. Там, у лагеры, спакайней. Няхай ён лепш не бачыць і не чуе таго, што робіцца ў горадзе. Адны сірэны тут пераварочваюць усё нутро. Адыходзячы ў ваенкамат, бацька таксама нічога пэўнага не сказаў пра Толю. Прасіў толькі праведаць і супакоіць, каб малы не вельмі хваляваўся без бацькоў. Тое, што праз суткі ўсё зменіцца, бацька не мог прадбачыць: калі ён ішоў у ваенкамат, над горадам яшчэ не вісеў ніводзін нямецкі бамбардзіроўшчык. Першы налёт пачаўся толькі позным вечарам. Бацька шкадаваў, што няма маці дома ў такі цяжкі час, але ён цвёрда спадзяваўся, што яна хутка прыедзе, і тады ўсе клопаты аб дзецях лягуць на яе плечы. Уласна кажучы, старэйшага сына ён таксама яшчэ не лічыў самастойным і дарослым, хоць Мікола і скончыў у гэтым годзе першы курс педагагічнага інстытута. З дзіцячых гадоў Мікола любіў маляванне, і сам ён употай марыў аб мастацкай школе. Але такой школы чамусьці не прызнавала маці — настаўніца батанікі. Яна лічыла прыродазнаўчыя навукі вышэй усялякіх іншых і ўгаварыла сына ісці толькі па яе дарозе. Нават бацькавай — бухгалтарскай — дарогі яна не прызнавала, хоць і згаджалася фармальна, што такая навука і прафесія для дзяржавы патрэбны.

На трэці дзень пачалася самая моцная бамбёжка горада. Бамбілі не толькі цэнтр, а і іншыя вуліцы, на якіх былі шматпавярховыя дамы, бамбілі вакзал, фабрыкі, заводы. Размешчаныя блізка ад вуліцы Свярдлова драўляныя домікі, у адным з якіх жыў Мікола, былі засыпаны дробнымі запальваючымі бомбамі.

Мікола ў гэты час знаходзіўся ў бамбасховішчы. Калі ён выйшаў адтуль пасля адбою, домік іхні і суседнія былі ўжо ахоплены полымем. Ніхто не тушыў іх. У доме заставалася ўся маёмасць сям'і, нажытая за доўгія гады. Але яму чамусьці не хацелася зараз кідацца ў агонь, каб выра-

таваць што-небудзь. Ён стаяў здранцвелы, паглядаючы на бушуючае полымя — сухія домікі і розныя гаспадарчыя прыбудовы пры іх гарэлі, як смольныя кучы буралому.

Ноччу Мікола не спаў. Сядзеў каля папялішча пад уцалелай яблыняй і думаў невясёлую думу. Не было з кім і параіцца, што рабіць далей. Суседзі пакінулі свае папялішчы яшчэ ўвечары. Ды не толькі яны — тысячы іншых жыхароў, хто перажыў лютую бамбёжку апошняга дня, пакідалі горад ды ішлі з клункамі цэлымі сем'ямі на Магілёўскае шасэ.

Вось у гэтую ноч і вырашыў Мікола ісці да брата. Ён забярэ яго і пойдзе з ім таксама туды, куды ідуць людзі. Як яны будуць ісці, куды дойдуць, як будуць жыць — Мікола не думаў. Ён сапраўды быў яшчэ амаль што гэткім жа несамастойным, як і яго меншы брат. Можа з гэтай жа прычыны ён і не дадумаўся, адыходзячы, пакінуць аб сабе які-небудзь след на папялішчы.

Як толькі развіднелася, ён падаўся ў лагер. Думка пра Толю, з якім ён павінен быць разам у такі час, не давала яму зараз спакою.

Бамбёжка горада пачалася рана. Неба было чыстае, яснае, дзень меўся быць такім жа цудоўным, як і ўсе апошнія дні. І варожая авіяцыя спяшалася. Адбамбіўшыся на важнейшых аб'ектах, фашысцкія лётчыкі ганяліся па дарогах за людзьмі, бязлітасна расстрэльвалі з кулямётаў жанчын з дзецьмі і старых...

Мікола ішоў па вуліцах шпаркімі крокамі, ён не прыслухоўваўся да тых выбухаў, якія ўжо калацілі горад. Здавалася, яны былі нават гусцейшымі, чым учора. Але яны цяпер менш хвалявалі яго. Іншыя думкі раіліся ў яго галаве. Учора ён не чытаў газет і не слухаў радыё. Аднак, мяркуючы па тых падзеях, якія адбываліся ў горадзе, нічога добрага чакаць не прыходзілася. Ён, як і ўсе, не верыў, што немцы могуць дайсці да Мінска, тым больш за такі кароткі час. Відаць, думаў ён, вайна ідзе недзе на граніцы, што ж да авіяцыі, дык для яе граніц няма, яна можа лятаць па тылах за сотні кіламетраў. Але чаму ж тады з кожнай гадзінай пусцее горад? Чаму людзі пакідаюць яго? Мусіць, не адны бомбы гэтаму прычынай.

Яму хацелася распытацца ў каго з старэйшых, што робіцца на фронце, ды ўсе людзі, якія трапляліся па дарозе, былі моцна ўстрывожаны і спяшаліся. А можа і яны ведалі пра ваенныя падзеі не больш, чым сам Мікола?

Мінаючы Камароўку, Мікола раптам пачуў рэзкі завываючы свіст над галавою. Ён міжвольна ўвагнуў плечы і ўпаў на тратуар.

Аднак, відаць, ён спазніўся на нейкую долю секунды. Побач узняўся слуп зямлі і каменняў. І ўслед за гэтым Мікола страціў прытомнасць... Ён ужо не чуў, як неўзабаве побач спынілася машына хуткай дапамогі, якая раз'язджала па вуліцах, падбіраючы раненых.

## НЕЗВЫЧАЙНАЯ ЗНАХОДКА

Пахаваўшы бацьку, Міхась доўга не мог апамятацца. Ён не знаходзіў сабе месца ні дома, ні за домам. Начамі яму сніліся страшныя сны, а ўдзень яго часта бачылі з заплаканымі вачыма. Бабка Кацярына і сястра Валя стараліся трымаць сябе пры ім спакойна, як ні цяжка было ім гэта рабіць. Але суцешыць Міхася, заглушыць яго гора ніхто не мог. Ён замкнуўся ў сабе і нават перастаў загаварваць да Толі. Адкажа коратка, калі Толя спытаецца аб чым, і маўчыць, задумаўшыся. Толя моцна перажываў гэта. Аднойчы ён сказаў Валі:

— Я пайду дадому...

Валя паглядзела з трывогай на Толю і, хаваючы жаль да яго, адказала:

— У цябе, Толік, няма дома. Ты гэта ведаеш. А Міхасю без цябе яшчэ цяжэй будзе...

Валя прывыкла да Толі, ёй не хацелася, каб ён пакідаў іх сям'ю ў такі час. Ды куды яму ісці? Хто і што чакае яго на пустых папялішчах? Па натуры Валя была ўся ў бацьку — чулая, добрая, блізка прымала да сэрца людскую бяду. А як любілі яе піянеры! У гэтым годзе яна скончыла дзевяты клас. І ўжо два гады як працавала важатай.

Мінула дзён колькі, і душэўны боль Міхасёў пачаў патроху сціхаць. Цяпер хлопцы разам хадзілі з вудамі на рэчку, ставілі нанач рагулькі на шчупакоў, блукалі па кустах, вышукваючы гладкія і гонкія вудзільны.

Аднойчы Міхась угаварыў Толю пайсці ў лес па грыбы. Толя не быў вялікім аматарам грыбной справы, але за кампанію з Міхасём гатоў быў ісці хоць на край свету.

Была сярэдзіна ліпеня. Надвор'е стаяла цёплае, лагоднае, з сухім лёгкім ветрыкам. На небе, як згледзець вокам, ні хмурынкі. Хлопцы ішлі кустамі праз скошаную сена-

жаць па адной са сцежак, якая вяла з сяла ў лес. Успаміналі лагер сярод цудоўнага бору, сяброў, важатых. Дзе яны цяпер? Каму ўдалося вырвацца на ўсход? Як бы яны хацелі быць разам з тымі, каму не мазоляць зараз вочы зялёныя жабы-фашысты, хто жыве вольна, так, як жылі і яны да пачатку вайны!

Ужо траха не каля самага лесу Міхась раптам наступіў на нешта цвёрдае. Ён бы не звярнуў на гэта ўвагі, калі б цвёрды прадмет не здаўся занадта халодным для босай нагі. Міхась нагнуўся і ўбачыў у густой траве... аўтамат. Самы сапраўдны баявы аўтамат...

Аўтамат быў зараджаны доўгім каробчатым магазінам. Абмінуць яго хлопцы не маглі. Міхась схапіў аўтамат, пакруціў у руках. Вось гэта дык знаходка! У яго заблішчалі вочы. Колькі разоў ён любаваўся гэтай новай, не падобнай ні на кулямёт, ні на вінтоўку зброяй, але толькі здалёк, калі праходзілі ваенныя часці. А зараз у яго руках самы сапраўдны, баявы, зараджаны баявымі патронамі!

Тое ж, відаць, думаў пра такую незвычайную знаходку і Толя. Ён хоць і жыў у горадзе, аднак з сапраўдным баявым аўтаматам быў знаёмы не больш, чым Міхась.

— Давай забяром...— шапнуў ён Міхасю, радасна прыцмокваючы.

— А камендантавы аб'явы?..

— Ліха з імі. Ніхто ведаць не будзе.

— А перанесці як? У кішэнь жа не паложыш?..

Толя задумаўся.

— Ну, тады схаваем...

— Добра,— згадзіўся Міхась.— Давай схаваем.

Яны знайшлі самае глухое, як ім здавалася, месца ў адным з гусцейшых кустоў і, раскапаўшы ў ім старое лісце, мох і рознае ламачча, палажылі туды сваю знаходку, загорнутую ў альховыя галінкі. Добра запомнілі куст, надламаўшы ў ім некалькі галінак, і, узрушаныя, пайшлі далей. Цяпер яны ўжо не спускалі вачэй з травы, заглядвалі і ў кусты. А што, калі і яшчэ дзе валяецца такі ж аўтамат! Хлопцы трапілі на тое месца, дзе нядаўна адбываўся бой паміж нашай абаронай і наступаючай нямецкай дывізіяй. Бой быў кароткі, і фронт хутка перасунуўся далей на ўсход — нашы часці адступілі. Немцы спехам падабралі забітых і раненых. Раскіданай зброяй яны, вядома, не цікавіліся, пакінуўшы гэтую работу для тылавых часцей. Камендант Ганс Штайн, які захапіў вярхоўную ўладу над сялом

і яго ваколіцамі, відаць, нічога пра бой на ўзлеску не ведаў. Іначай ён бы ў першы дзень абшнырыў гэтыя мясціны ў пошуках лёгкіх трафеяў. Вось чаму хлопцам сапраўды неўзабаве пачалі трапляцца і іншыя знаходкі — абоймы патронаў, гранаты, а ў глыбіні лесу, у гушчары, побач з разбітымі гарматамі, можна было знайсці вінтоўкі і нават аўтаматы — нямецкія і савецкія...

Ніякі страх перад камендантам і яго загадамі цяпер не мог спыніць хлопцаў. Спачатку яны зносілі ўсе трафеі ў кучу. Потым, ужо на захадзе сонца, спахапіліся: а куды ж падзець такое багацце? Не пакідаць жа яго тут немаведама каму!

— Давай закапаем, як і першы аўтамат,— параіў Толя.

Міхась глядзеў на справу больш практычна. Не цяжка закапаць без рыдлёўкі адзін аўтамат. А калі ў цябе іх шэсць ды добры дзесятак вінтовак, ды куча патронаў, ды гранаты. Потым жа — у ствалы і механізмы пясок наб'ецца... Што тады рабіць з такой зброяй? Чым яе чысціць, калі ў іх няма ні масла, ні тавату.

Недалёка ляжаў высокі сухі лоўж. Вясною тут прыбіралі лес. Лаўжы потым, як падсохлі, спалілі ці разабралі на дровы. Але не ўсе.

— Схаваем пад лаўжом,— сказаў Міхась.— А заўтра паглядзім, што рабіць...

Яны прыўзнялі лоўж з аднаго боку, зрабілі пад ім гняздо з лапак і склалі туды свой скарб. Потым апусцілі лоўж на месца і, быццам нічога не здарылася, рушылі тымі ж кустамі дахаты. Дома выпілі па кубку малака з хлебам ды падаліся на вышкі. Цяпер яны начавалі на вышках, над хатай, куды яшчэ перад самай вайной Міхасёў бацька напакаваў траха не да самай страхі свежага мурожнага сена. Залазілі туды па высокіх драбінах, што стаялі ў палісадніку, праз закотнае акенца. Ні сястра Валя, ні бабка Кацярына не пярэчылі такому начлегу. У хаце было душна, а раніцай там шумелі на ўсе галасы мухі.

Колькі розных думак выклікала ў хлопцаў незвычайная знаходка! Спатрэбіцца яна каму ці не — пра гэта яны не думалі. Для іх гэта была таямнічая гульня, пра якую ніхто не павінен ведаць. Ды, урэшце, хіба ж маглі яны прайсці міма аўтамата або вінтоўкі, тым больш што гэтая зброя магла трапіць у рукі іх заклятых ворагаў! Фашысты пагражаюць смерцю ўсім, хто не здасць якой-небудзь дапатопнай дзедаўскай фузіі, а гэта ж цэлы арсенал, ды

яшчэ якой зброі! Быць уладаром гэтага арсенала і чхаць на ўсе фашысцкія загады і пагрозы — такая прывабная перспектыва да рэшты заўладала хлопцамі.

Назаўтра яны зноў пабеглі ў лес. Доўга блукалі па кустах, па гушчарах, але, апрача параccыпаных сям-там патронаў, нічога цікавага не знайшлі.

Схованка іх заставалася некранутай, ды хлопцы ўсё ж лічылі яе ненадзейнай.

— Мала якому дурню ўздумаецца падпаліць сухі лоўж? — хваляваўся Міхась.— Што тады?

— Што тады? Згарыць і ўся наша зброя, вось што,— адказаў Толя.— А каб гэтага не здарылася, трэба знайсці лепшую схованку.

Хлопцы прыўзнялі лоўж, каб палюбавацца сваім незвычайным скарбам. Міхась не ўстрымаўся і дастаў з зялёнага гнязда новенькі ППД з барабанным магазінам.

Хлопцы дасталі магазін, агледзелі і зноў асцярожна ўставілі ў пазы. І такая раптам спакуса з'явілася ў Міхася націснуць на курок, што аж галава закружылася. Ён пачаў нават прымярацца пальцам, навёўшы ствол аўтамата на сасну.

Прымяраўся, здаецца, лёгенька. Толя нават замахаў рукамі:

— Глядзі, а то выстраліш!

Не паспеў Толя сказаць гэтыя словы, як раптам — тррр! — засакатаў аўтамат і з сасны пасыпалася галлё.

Міхась спалохаўся, адхапіў палец з курка — аўтамат сціх. «Уф!» — выдыхнуў на поўныя грудзі стралок і ад спалоху, і ад радасці. Толя схапіў у яго з рук аўтамат.

— Што ты робіш? А калі хто пачуе?

— Не пачуе,— усміхнуўся асмялелы Міхась.— Да сяла далёка. Вось паспрабуй, як лёгка сячэ...

Толя спачатку вагаўся. А потым цікаўнасць узяла верх. Быццам забаўляючыся, ён націснуў на курок. І — той жа вынік, што і ў Міхася: аўтамат засакатаў, разносячы пошчак па лесе.

Дзіва, як усё проста і лёгка!

Пра небяспеку хлопцы зусім забыліся. Цяпер у іх ёсць сапраўдная зброя, і яны ўмеюць ёю карыстацца!

А небяспека іх усё ж не мінула. У сяле пачулі страляніну. Устрывожаны камендант Ганс Штайн загадаў двум сваім салдатам з аховы неадкладна праверыць, хто страляе і з чыйго дазволу. Фронт ужо адкаціўся далёка, і ў ваколі-

цах пакуль што было ціха. Страляць маглі і мелі права толькі самі немцы і паліцаі.

Салдаты ўскочылі на матацыклы. Праз хвілін пяць яны былі каля лесу. Толя з Міхасём убачылі іх зусім блізка. Уцякаць было позна. Салдаты маглі іх заўважыць і дагнаць — лес на ўскраіне быў не такі густы. А самае галоўнае — гінула ўся надзея застацца ўладарамі свайго ўласнага арсенала зброі.

Убачыўшы, што матацыклістаў толькі двое і за імі больш нікога не відаць, хлопцы пасмялелі. Міхась схапіў з лаўжа аўтамат, з якога яны толькі што стралялі, і шапнуў да Толі:

— Бяры другі!

Толя выбраў аўтамат нямецкі — з каробчатым магазінам.

Стаіўшыся за тоўстай елкай, Міхась нацэліўся. «Калі павернуць сюды,— падумаў,— буду страляць...»

Матацыклісты і праўда павярнулі з дарогі і накіраваліся туды, дзе знаходзіліся Міхась і Толя. Заўважылі яны хлопцаў ці проста засеклі раней месца аўтаматнай пальбы,— сказаць цяжка. Але мінуць стралкоў зараз яны не маглі.

І калі матацыклісты апынуліся метраў за пяцьдзесят, Міхась націснуў на курок. Услед за ім пусціў у работу свой аўтамат і Толя...

Адняўшы палец з курка, Міхась убачыў: фашыст, у якога ён цэліўся, пластам ляжаў на зямлі побач з матацыклам, колы якога яшчэ шпарка круціліся, дрылюючы пясок. Другі матацькліст імчаўся назад у пасёлак.

Цяпер ужо сапраўдны радасны ўздых вырваўся з Міхасёвых грудзей. Ён адчуў сябе такім смелым і дужым, што гатоў быў кінуцца наўздагон за фашыстам, якога мінула куля.

З гонарам пераможцы Міхась глянуў на сябра. Толя шырока раскрыў вочы, а на губах яго пачынала прабівацца нясмелая ўсмешка.

— Вось чаго яны баяцца! — усклікнуў Міхась.— Ты ў каторага страляў?

— У пярэдняга.

— Шкада, што не згаварыліся...

Толя пацісиуў плячыма.

Гэтая раптоўная і незвычайная падзея адбылася так хутка, што хлопцам яна ўсё яшчэ здавалася нейкім туман-

ным сном. Але ж яны ясна бачылі: адзін фашыст не падымаўся з зямлі, а другі, прыгнуўшы галаву да руля, даваў драла ў сваю камендатуру.

— Вось джгае! — зацмокаў у захапленні Толя.

— Пачакайце, праклятыя,— пагразіў Міхась аўтаматам у бок фашыста, які даваў драла,— мы вам яшчэ не такое пакажам!..

Ён не думаў зараз аб выніках гэтай першай у сваім жыцці баявой аперацыі, не думаў, што будзе з імі далей. Радаснае ўзбуджэнне надавала яму сілы і рашучасці.

Схаваўшы аўтаматы з пустымі магазінамі пад лаўжом, хлопцы пайшлі дахаты. А каб не трапіць на вочы фашыстам, яны выйшлі да сяла глухою сцежкаю з другога боку. Урэшце, хто мог імі цікавіцца? Ці мала хлапчукоў блукае па ваколіцы!

## МІЦЯ РАГАЧ І ВІЦЯ ДЗЯРКАЧ

Назаўтра ў сяле загаманілі аб радаснай навіне: нямецкія разведчыкі трапілі ў лесе пад кулі партызан... Гэта была такая падзея, якая ажывіла і ўзрадавала старых і малых, і ўсе ў адзін голас зрабілі вывад:

— Так ім і трэба, гадам! Шкада, што толькі аднаго ўкакошылі. Ды нічога, дачакаемся, што і ўсім будзе такі канец...

І кожны ў душы пазайздросціў таму, хто зрабіў такую патрэбную справу. Старыя ўспомнілі, як партызаны білі ваяк нямецкага кайзера [1] і Пілсудскага [2] ў дні грамадзянскай вайны. А шмат хто з маладых задумаўся: як і дзе шукаць сцежку да тых смелых людзей, што не скарыліся ворагу і вядуць з ім бітву да канца.

Зусім іншыя настроі выклікала гэтая падзея ў стане каменданта Ганса Штайна.

— Партызант! — калаціліся яго ваякі, на розныя лады пераказваючы гэтае здарэнне.— О, русіш партызант усім нам капут зробіць!..

Яны баяліся зараз высунуць нос куды-небудзь за сяло. Вядома, у страха вочы вялікія. Сам камендант напужаўся не менш, чым яго ваякі. У данясенні камандзіру ахоўнай

---

[1] К а й з е р — цар *(ням.)*.

[2] П і л с у д с к і — маршал і дыктатар Польшчы, заядлы вораг Савецкага Саюза.

13 Зак. 1458

дывізіі ён размалявау сутычку сваіх разведчыкаў з Міхасём і Толем, як цэлую вайну з рускімі партызанамі, і слёзна прасіў падмацавання для свайго слабага гарнізона. На ўсіх платах і сценах былі вывешаны аб'явы аб новым наборы паліцэйскіх. У другіх аб'явах, што віселі побач з гэтымі, застрашваліся жыхары сяла: хто ведае, дзе знаходзяцца партызаны, і не паведаміць нямецкім уладам,— расстрэл... А хто прыме партызана да сябе на начлег, будзе павешаны... Гэта ўжо былі не дзесятыя, а сотыя грозныя загады і аб'явы аб расстрэлах і павешаннях. Складалася ўражанне, што іншай мовы не ведаў ні камендант Ганс Штайн, ні яго «новы парадак».

Хлопцы чыталі гэтыя грозныя аб'явы і загады і шчыра рагаталі:

— Ну і напужалі ж мы фашыстаў!

— А што, калі мы ім яшчэ больш страху нагонім? — па-змоўніцку сказаў Міхась і паглядзеў у вочы сябру.

Толя не зразумеў яго.

— Не кожны раз так удасца,— адказаў ён.

— Навошта так? Мы проста расклеім свае аб'явы... Напішам у іх па некалькі слоўцаў, ды такіх, каб каменданту дух заняло, чытаючы! І падпішам: «Партызаны...»

— О-о! — усклікнуў узрадаваны Толя.— Давай!

Ён замітусіўся, гатовы зрабіць гэта, не адкладваючы ні на хвіліну.

— Камендант, відаць, не з храбрых, падумае, што ў нас і праўда партызаны ёсць...

— Каб быў храбры, дык не сядзеў бы ў тыле,— згадзіўся Міхась.

У той жа дзень на сваёй начлежцы пад страхою хлопцы, узброіўшыся чырвонымі карандашамі і лісткамі паперы з вучнёўскага сшытка, ухапіліся за работу. Спачатку прыдумалі змест лістоўкі. Складалі яго разам, правячы і папраўляючы. Нарэшце згадзіліся з такім кароткім, але выразным зместам:

«Фашысцкія выродкі, каты, забойцы!

Выбірайцеся прэч з нашай зямлі! Ды не забудзьцеся захапіць з сабою і свайго халуя Амельку Казла! А то ўсім вам будзе капут. Мы вас вешаць не будзем, бо не хочам брудзіць сваіх рук, мы проста будзем вас страляць, як шалёных сабак. Першага мы застрэлім галоўнага ката Ганса Штайна. За ім — Амельку Казла і ўсіх па парадку. Запомніце гэта, гады!»

Склаўшы такую лістоўку, хлопцы задумаліся, як яе падпісаць. Паставіць адно слова «партызаны» — малавата. Тым больш, сам характар зместу вымагаў, каб і подпіс пад ім чым-небудзь вызначаўся.

Выручыў юных партызан звычайны каровін рог, які хлопцы нядаўна знайшлі на лузе. Рог ім спадабаўся, і яны прынеслі яго на свае вышкі. Тут ён знайшоў сабе месца пад паплецінай, як каштоўны сувенір. Гледзячы зараз на гэты сувенір, Толя раптам усклікнуў весела:

— Партызан Рагач! Добра будзе?

— Добра,— згадзіўся Міхась.— Але ж нас двое. Трэба: партызаны Рагач і... ну, напрыклад, Дзяркач! Добра?

— Ага, зусім добра! — ухваліў Толя.— Але партызаны маюць не толькі прозвішчы, а і імёны. Падпішам так: Міця Рагач і Віця Дзяркач. Усё будзе гладка — у рыфму.

Лепшага подпісу хлопцы не прыдумалі і спыніліся на гэтым.

Адвячоркам яны прайшліся па вуліцах сяла, спыняючыся каля камендантавых загадаў і аб'яў. Чытаючы іх для адводу вачэй, хлопцы цішком прыколвалі тонкімі вострымі цвічкамі свае аб'явы побач з нямецкімі.

Зрабіўшы сваю справу, малыя непрыкметна зніклі на сваіх вышках.

Ні бабка Кацярына, ні Валя не вельмі прыглядаліся да таго, як жывуць Міхась і Толя. Яны лічылі іх самастойнымі і толькі клапаціліся, каб быў хлеб на стале і ў печы якое варыва. Ды і не было калі ім думаць пра хлопцаў. Бабка Кацярына ўсе дні тупала па лугах, збіраючы свае зёлкі, або корпалася на агародзе, даіла карову, а Валя хадзіла на палявыя работы.

Камендант нарэшце такі знайшоў сабе паслугача з мясцовых жыхароў, усім вядомага п'янчужку Амельку Казла, і паставіў яго на чале мясцовай улады.

Прымаючы пад увагу, што сяло Зялёны Бор мела каля двухсот двароў і стаяла на важнай магістралі — шасейнай дарозе, Ганс Штайн вырашыў зрабіць адміністрацыйную рэформу. Ён ператварыў Зялёны Бор у валасны цэнтр, якому мусілі падначальвацца ўсе навакольныя дробныя вёскі і паселішчы. Яму хацелася пайсці яшчэ далей: перайменаваць Зялёны Бор у горад... Зручней было б тады падпісвацца: камендант горада Зялёны Бор Ганс Штайн... Але на ўсіх ваенных картах Зялёны Бор значыўся толькі як сяло, цэнтр сельскага Савета, ды і ніякіх важных аб'ектаў

гарадскога значэння тут не было. Гэта і стрымлівала пакуль што далейшыя адміністрацыйныя рэформы Ганса Штайна. Ён толькі, хутчэй дзеля пацехі, чым сур'ёзна, чын даў Амельку гучны: бургамістр. Так бабка Кацярына, яе ўнукі і ўсе жыхары сяла Зялёны Бор пазнаёміліся з новым бурмістрам, апошні прадстаўнік якіх на гэтай зямлі здох, як казала бабка, гадоў семдзесят таму назад. Па сваіх правах і манерах новы бургамістр сапраўды аказаўся такім жа, як і бурмістр часоў далёкага прыгону: ён па-сабачаму выслужваўся перад панам камендантам і бязлітасна драў скуру з тых, хто павінен быў падначальвацца пану каменданту. У апошнія гады Амелька Казёл круціўся па ўсім свеце, працаваў у горадзе на нейкіх складах, загадваў крамай утыльсыравіны, краў, судзіўся... Дома ён пакінуў сям'ю — жонку і двое дзяцей. Але за ўсю сваю адлучку ні разу не прыслаў сям'і ні рубля грошай. І вось зараз гэты славуты Амелька раптам з'явіўся ў сяле. Жонка не хацела пусціць яго ў хату, ды ён прыгразіў ёй новымі законамі і сказаў, што можа, калі захоча, забіць яе, і яму ніхто нічога не зробіць.

Так Амелька Казёл зрабіўся паслугачом каменданта Ганса Штайна і панам бургамістрам над жыхарамі сяла Зялёны Бор. Каб падмацаваць яго ўладу сілаю, камендант вылучыў бургамістру трох паліцаяў.

Ураджай на калгасных палях і на палях недалёкага ад сяла саўгаса ўдаўся ў гэтым годзе на славу. Камендант і думкі не меў, што гэты ўраджай павінен належаць тым, хто яго вырасціў. І ўраджай, і ўсё іншае дабро на гэтай зямлі ён лічыў законным трафеем нямецкай арміі. Як будуць жыць мясцовыя людзі, што яны будуць есці — яго гэта не цікавіла. Але ж сам Ганс Штайн з Амелькам не маглі ўбраць ураджаю. Тут нельга было абысціся без рабочай сілы. І Амелька з паліцаямі ганялі народ на работу, як на паншчыну.

Валя вымушана была адбываць паншчыну за ўсю сваю сям'ю: бабка Кацярына старая, а Міхась яшчэ малы. Праўда, хутка Амелька ўбачыў у Валінай сям'і яшчэ аднаго жыльца — Толю. І не прамінуў, каб не запытацца пра яго. Валя адказала без запінкі:

— Гэта мой сваяк.

— Які?

Тут ужо Валя запнулася. Сваякоў у яе было многа — у сваім сяле і ў суседніх. І Амелька, калі захоча, можа лёг-

ка праверыць, чый сваяк Толя. Але тут жа яна ўспомніла пра самую далёкую сваячку і адказала:

— Цётку ж маю Марылю, тую, што на Палессі жыве, ведаеце? Дык гэта яе сын...

— А чаго ён тут?

— У госці прыехаў... Яшчэ да вайны. Ды і застаўся ў нас.

Амелька, відаць, паверыў, толькі сказаў, заядла чухаючы свой чырвоны нос:

— Хопіць яму гасціць — бяры на работу з сабою.

— Дык ён жа яшчэ малы!

— Гм...— чмыхнуў Амелька недаверліва.— Добры малы... Гадоў з пятнаццаць, мусіць?

— Дзе там! — рашуча замахала рукамі Валя.— Яму гэтулькі гадоў, колькі і нашаму Міхасю. Гэта ён толькі вырас вялікі. Не ўсе ж недаросткі...— Валя з агідай глянула на незайздросную фігуру бургамістра. Куртаты Амелька добра зразумеў, што яна хацела сказаць. «Бач, якая выдра! — падумаў ён, скрывіўшыся.— Пачакай ты ў мяне, я табе пакажу недаростка!..»

— Ну, глядзі! — буркнуў ён збянтэжана і з пагрозаю патрос куксаю вялікага пальца, адарванага некалі ў дзяцінстве самастрэлам.

На гэтым размова з панам бургамістрам пра Толю пакуль што скончылася. Але Валя запомніла яе і сур'ёзна пачала задумвацца над лёсам Толі Кавалёва. Суседзі ж ведаюць, што ніякая ён ёй не радня. Не магла ж яна прадбачыць усё тады, калі разам з Міхасём у іх сям'ю прыйшоў і Толя — абяздолены вайною бездапаможны хлапчук, якому яшчэ самая пара гуляць з дзецьмі ў свае дзіцячыя гульні, а не ліць пот на нямецкай паншчыне. Яна тады магла б пусціць пагалоску, што ён іх блізкая радня. А зараз? Амельку падмануць не цяжка было. А калі яму хто з нядобрых людзей нашэпча?

Валя вырашыла параіцца аб гэтым з былым сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі Тарасам Яцэвічам. Тое, што цяпер не было гэтай арганізацыі, не важна: сакратар яе застаўся і засталася дружная камсамольская сям'я, да якой належала і Валя.

Тарас Яцэвіч скончыў у тым годзе сярэднюю школу. Праўда, не зусім удала: з тройкамі і чацвёркамі. Шчыры, добрасумленны, ён захапляўся камсамольскаю работаю і аддаваў ёй шмат часу. Гэта і адбілася ўрэшце на яго

поспехах у вучобе. Вось чаму Тарас не надта і марыў аб вышэйшай школе. Чыстае сумленне не дазваляла яму падаваць у інстытут ці універсітэт атэстат сталасці з адзнакамі, якія сведчылі аб нясталасці яго гаспадара. Ён збіраўся паступіць на курсы трактарыстаў ці рахункаводаў. Але зараз і гэтыя мары адпалі. Вестка аб вайне моцна ўсхвалявала Тараса. Не верылася, што так раптоўна перавярнулася ўсё ўверх дном не толькі ў яго асабістым жыцці, але і ў жыцці ўсёй краіны. Адна надзея была на тое, што нахабны вораг будзе разгромлены на граніцы. А калі праз дзень радыё прынесла невясёлыя паведамленні з франтоў, Тарас Яцэвіч цвёрда вырашыў: прыйшоў і яго час стаць на абарону радзімы. Яго год яшчэ не прызываўся. Тарас надумаўся ісці ў ваенкамат і прасіцца, каб узялі яго добраахвотнікам. І ён пачаў збірацца. Але зрабіў памылку: сказаў пра гэта бацькам. Ён не думаў, што сустрэне з іх боку на гэтай сваёй дарозе такую перашкоду. Праўда, бацька толькі гарачыўся, даводзячы, што Тарас яшчэ малы, каб ваяваць, ды больш курыў самакрутак. А маці — тая не абмежавалася слязамі ды ўгаворамі. Слабае яе сэрца не вытрымала, і з ёю здарыўся моцны прыпадак. Прыйшлося Тарасу адкласці на нейкі час сваё першае ў жыцці самастойнае рашэнне. А потым — ужо было позна.

Зараз Тарас, таксама як і Валя, хадзіў на Амелькаву паншчыну. У той дзень яны разам зграбалі сена і ставілі ў копы. Валя, азіраючыся, цішком расказала Тарасу пра Толю.

— Што рабіць? — проста запыталася яна ў яго.— Амелька ж можа ўсялякую пакасць падстроіць.

— Я ведаю,— адказаў Тарас,— што Толя табе не сваяк...

— Адкуль?

— Чуткамі зямля поўніцца,— усміхнуўся ён.— Але не думаю, каб гэтыя чуткі дайшлі да Амелькі. Ва ўсякім разе, зараз у нас такіх шаптуноў ці шаптух не чуваць. Бачыш, нават паліцаяў прыходзіцца ім цягнуць з іншых месц.

— Але ж усё можа быць... Знайшоўся ж і ў нас Амелька!..

— Правільна,— разважліва адказаў Тарас.— Вось мы і будзем напагатове. Пакуль што для трывогі няма прычыны. А там — я скажу, што рабіць. Параюся...

Апошняе слова Тарас вымавіў з нейкім асаблівым адценнем. Валя добра пачула гэта. Але не асмелілася дапытвацца, як гэта разумець: параюся... За гэтым словам угадвалася нейкая іншая асоба або асобы, якім можна сказаць тое, што яна сказала свайму камсамольскаму сакратару.

Валі стала лягчэй на душы: значыць, яна не адна думае пра далейшы лёс Толі, значыць, аб ім ведае Тарас і будуць ведаць (або ўжо ведаюць) яго сябры. Хто яны? Тыя ж члены камсамольскай арганізацыі? Або людзі старэйшыя? Ды, урэшце, гэта не мае значэння. Важна іншае: яна цяпер не адна!

## ПЕРАПАЛОХ У ВАРОЖЫМ СТАНЕ

Партызанскія лістоўкі Міці Рагача і Віці Дзеркача віселі побач з аб'явамі каменданта траха не цэлы дзень. Іх прачыталі ўсе. Гэта была такая светлая новая падзея апошніх дзён, што аб ёй толькі і гаварылі. Цяпер усім ясна было, што ў іх сяле ёсць людзі, якія абвясцілі ворагу бязлітасную вайну. Напісаць і вывесіць такія лістоўкі маглі толькі тыя, хто адчувае сябе тут сапраўдным гаспадаром, хто можа трапна знішчаць акупантаў зброяй і біць іх вострым словам.

Адзін Амелька з паліцаямі нічога не ведаў пра партызанскія лістоўкі. Ён увесь дзень правёў у раённым цэнтры на нарадзе сельскіх і валасных старастаў, а паліцаі храплі на сенажаці, дзе яны выконвалі ролю прыганятых. Самі новыя гаспадары сяла аб'яў не чыталі, бо не ведалі чужой мовы. Белабрысаму ж яфрэйтару яны проста не трапілі на вочы.

Разам з усімі Валя ад душы радавалася новаму выступленню невядомых ёй таямнічых людзей, якія называюць сябе партызанамі. Вось гэта людзі! Яна перабірала ў думках усіх жыхароў сяла і ваколіц і гадала, хто гэта мог зрабіць. І чамусьці думкі яе спыняліся на Тарасу. Калі не сам, дык ён ведае гэтых смелых людзей. Інакш ён не сказаў бы ёй так упэўнена: параюся... Пасля тае размовы з Тарасам Валі здавалася, што ён не павінен хаваць ад яе гэтае таямніцы. Усім нутром яна імкнулася да гэтых смелых людзей, ёй хацелася быць зараз разам з імі і хоць кроплю зрабіць для агульнай справы. Не толькі помста за бацьку — помста за сваё скалечанае жыццё, за абяздоле-

нага Толіка, за ўсіх родных і блізкіх савецкіх людзей клікала яе на змаганне.

І якое ж было яе расчараванне, калі Тарас зусім спакойна адказаў ёй на другі дзень:

— Нічога, Валюша, не ведаю.

Валя не паверыла яму. Крыўда ахапіла яе. Значыць, Тарас ёй не давярае. Не спадзяецца на яе характар: дзяўчына, маўляў, слабая, пры першым выпадку не вытрымае суровасці барацьбы і выдасць сябе і іншых... Крыўда яе крыху суцішылася, калі Тарас дадаў да сваіх скупых слоў яшчэ некалькі:

— Ты мне можаш не паверыць. Але гэта так. Распытвайся, толькі асцярожна, у людзей. Калі што пачуеш, скажаш мне...

Тарас сапраўды нічога не ведаў. Ён сам шмат думаў пра апошнія падзеі і шукаў той сцежкі, якая вядзе да партызан. Ён цвёрда спадзяваўся, што зможа быць ім карысным, і не адзін: у сяле засталося нямала яго сяброў — і камсамольцаў, і некамсамольцаў. Не адна Валя спрабавала гаварыць з ім як з былым сакратаром камсамольскай арганізацыі. Але з чаго пачынаць? Ён ужо выйшаў з таго ўзросту, калі ўсё робіцца па аднаму жаданню. Так маглі рабіць Міхась і Толя. Але ж у іх гэта гульня, хоць і не звычайная. Калі Міхась націснуў на курок аўтамата, ён не думаў, да якіх вынікаў гэта можа прывесці. Тое ж самае і з лістоўкамі: захацелася малым напалохаць камендакта, яны, не задумваючыся, і зрабілі гэта.

Камендант, дарэчы, не толькі напалохаўся, прачытаўшы пераклад партызанскай лістоўкі,— ён проста траха не звар'яцеў ад злосці. Ён загадаў праверыць почыркі пагалоўна ўсіх жыхароў сяла. Гэтай работай заняўся Амелька з паліцаямі. Усе павінны былі пісаць такімі ж чырвонымі алоўкамі на такой жа паперы са школьных сшыткаў такі ж тэкст, які быў на арыгіналах. Гэта была хітрасць каменданта Ганса Штайна: так лягчэй будзе распазнаць почыркі і злавіць злачынцаў. Затое з якою ахвотаю і радасцю ўсе пісьменныя жыхары сяла пісалі гэты тэкст!

І толькі Міхась з Толем як непаўналеткі былі абыдзены Амелькам — яму і ў галаву не прыйшло, што такія лістоўкі маглі напісаць дзеці. А з тае прычыны, што дзяцей у сяле было больш, чым дарослых, Амелька ахвотна выключыў іх з ліку магчымых партызан і гэтым скараціў сваю нялёгкую работу больш чым напалавіну. Бо і так у

яго кожны раз сэрца абліvалася крывёю, калі ён чытаў свежую лістоўку, дзе было ясна сказана, што Амелька ды яшчэ Казёл — халуй... Так і назвалі яго, паважанага пана бургамістра, у сваіх лістоўках партызаны Міця Рагач і Віця Дзяркач! Ён жа забараніў усім называць сябе Казлом. Пан Амеліян Ко́зел! — вось як павінна было цяпер гучаць імя і прозвішча яго высокапастаўленай асобы. А гэта ж такая знявага. Ды перад усім народам. У душы ён затаіў злосць і на каменданта за яго выдумку — перапісваць лістоўкі з такім абразлівым для пана бургамістра зместам! «Нябось,— думаў Амелька,— сябе б ён не выставіў на такое пасмешышча. А бургамістра яму не шкада: ён што — падначалены... халуй...» І чым больш ён чытаў лістоўкі, напісаныя рознымі почыркамі, тым больш дражнілі яго гэтыя словы: «Халуй Амелька Казёл...»

Сабраныя тэксты камендант вывучаў дні тры, злічаючы з арыгіналамі. Але ніякага падабенства ні ў адным не знайшоў. Праўда, асобныя літары быццам супадалі ў некаторых тэкстах, але толькі асобныя. Ён запісаў прозвішчы тых, чые літары супадалі, і завёў на іх крымінальныя карткі. У ліку западозраных апынулася і Валя: яе літары «м» і «а» былі блізкімі па малюнку да такіх жа літараў з некаторых лістовак. Але Валя была дзяўчына, а падпісалі лістоўкі Віця і Міця — яўна мужчынскія імёны. Да таго ж камендант не мог паверыць, каб такой чыста ваеннай справаю займаліся семнаццацігадовыя дзяўчынкі. Таму ён пакуль што і не зрабіў іншых вывадаў з гэтага выпадковага супадзення дзвюх літар з такімі ж літарамі ў лістоўках.

Камендант яшчэ раз напісаў дэпешу камандзіру дывізіі, слёзна молячы аб умацаванні яго слабага гарнізона. На першую яго просьбу камандзір дывізіі нічога не адказаў. Гэта ўстрывожыла каменданта. Ён адчуваў, што ў ваколіцах ды і ў самім сяле не так спакойна, як бы яму хацелася. Ва ўсякім разе, побач з ім пачынаюць прыходзіць у рух нейкія актыўныя сілы, якіх ён не бачыць і таму не ведае, дзе яны і колькі іх. Камендант пачынаў трацціць сон і апетыт. Па некалькі разоў на ноч ён уставаў правяраць варту каля свайго дома. А калі засынаў, яго пачынаў душыць кашмар. У сне чамусьці выходзіла так, што не ён вешае і расстрэльвае людзей, а яго вешаюць і расстрэльваюць. Тады ён задыхаецца, крычыць спрасонку, кліча на дапамогу сваіх салдат, але ніхто і нішто яго не

ратуе. «Гэта жахліва!» — думае ён, прачынаючыся. Успамінае камендант і свайго бургамістра Амельку. Падумаць толькі — за цэлы месяц сваёй службы гэты п'янчужка з чырвоным носам не завербаваў ніводнага паліцэйскага з мясцовых жыхароў і не выявіў ніводнага ворага германскай дзяржавы на даверанай яму тэрыторыі! Пад самым носам яго партызаны вывешваюць лістоўкі, а ён іх нават не чытае. Свярбяць камендантавы рукі на Амельку. Ды ён пакуль што трымае сябе — можа, гэта «русіш швайн» яшчэ спатрэбіцца яму. Ва ўсякім разе, без яго зараз не лёгка будзе правесці ўборку ўраджаю для патрэб германскага вермахту на ўсходнім фронце.

## МІКОЛА ЗНАХОДЗІЦЬ СЯБРОЎ

Камендант Ганс Штайн хваляваўся недарэмна: сілы супроць новага нямецкага парадку на акупіраванай беларускай зямлі сапраўды збіраліся. Яны яшчэ былі слабыя, як першыя вясновыя ручайкі. Яны яшчэ не былі звязаны адзінымі цэнтрамі, не мелі ні сваіх складаў зброі, ні камандных штабаў. Але іх жыццёвая сіла мацнела з кожным днём. Яны былі патрэбны, без іх не маглі развівацца далейшыя падзеі ў гіганцкай бітве паміж двума светамі — светам фашызму, цемрашальства, рабства і светам свабоды, паміж смерцю і жыццём.

Вось чаму, калі Мікола Кавалёў выйшаў з бальніцы, ён пачаў шукаць не толькі Толю, а і сваіх сяброў, знаёмых і надзейных людзей. Яму хацелася пагаварыць з імі і аб тым, што адбываецца на свеце, і аб тым, што рабіць яму ў такі час. Мяркуючы па сабе, ён адчуваў, што народ не будзе сядзець склаўшы рукі і чакаць, пакуль яго запрагуць у ярмо або пагоняць на катаржныя работы ў фашысцкую Германію. У той час Мікола яшчэ не ведаў аб трэцім шляху, які рыхтавалі гітлераўцы для савецкага народа — знішчэнне ў душагубках ці пад кулямі над абрывамі брацкіх магіл. Дадумацца да гэтага маглі не людзі, а людаеды.

Раненне ў Міколы было не цяжкое — кантузія і некалькі невялікіх асколкаў парвалі пінжак ды скрывавілі плечы. Неўзабаве пасля таго, як ён упаў амаль побач з бомбай, па вуліцы праязджала машына хуткай дапамогі. Яна падабрала Міколу і разам з іншымі раненымі пера-

кінула ў клінічны гарадок. Там, ачуняўшы, першы раз і ўбачыў Мікола фашыстаў. Адзетыя ў белыя халаты, з-пад якіх відаць былі цёмна-зялёныя афіцэрскія фрэнчы, яны абыходзілі палаты і вышуквалі савецкіх байцоў. Таго, каго прызнавалі салдатамі Чырвонай Арміі, загадвалі пераносіць у асобныя палаты. Гэта ж іх трафеі! Да палонных салдат залічваліся і тыя з мужчын, хто трапіў сюды, як хворы або паранены пасля бамбёжкі горада. Яны спрабавалі даводзіць, што не маюць дачынення да арміі, але ніхто іх не слухаў. Просьбы і заступніцтвы рускіх дактароў не прымаліся пад увагу. Палонных чакае іншы лёс — лагер за калючай агарожай, а не бальнічная палата. Гэтак у лік палонных мог трапіць за калючы дрот і Мікола, каб ён не меў пры сабе пашпарта, у якім ясна было сказана, што яму яшчэ няма дзевятнаццаці год. Нямецкія афіцэры ведалі, што такія юнакі не мабілізоўваліся ў той час нават у іхнім фашысцкім вермахце.

Выйшаўшы з бальніцы, Мікола перш-наперш вярнуўся на сваё папялішча. Калі жыў хто з радні, то можа хоць які знак пакінуў аб сабе. Як ён каяўся зараз, што не пакінуў тады, адыходзячы ў лагер, сам такога знака. Гэта была недаравальная памылка. Відаць, толькі незвычайныя падзеі, якія так раптоўна абрушыліся на яго, маглі адабраць тады ў яго развагу. Але што прайшло, таго не вернеш. Можа, маці ці Толя, калі яны тут у горадзе, не зробяць такой памылкі.

Папялішча было пустым, як і ў той дзень, калі ён адыходзіў у лагер да Толі.

Не было на ім і Толевай запіскі: ці то сарваў яе хто, ці проста размокла на дажджы і звалілася. На жывой яблыньцы не было ніводнага яблыка.

Недалёка на агародзе Мікола ўбачыў нейкую чорную будку з такім жа бляшаным комінам. З коміна віўся дымок.

Як моцна забілася Міколава сэрца! Можа, хто са сваіх? Калі не маці, то можа хто з суседзяў. Ён кінуўся туды, да будкі...

Будка была зроблена з гарэлай бляхі, з яе ж быў выведзены і камінок. Вакол будкі стаяла агарожа з абгарэлых ложкаў, тазоў, асмаленых шчыкецін...

З заміраючым сэрцам пастукаў Мікола ў акенца. Хутка дзверцы будкі адчыніліся. На парозе паказаўся высокі стары ў цёмнай кашулі, у ботах, з люлькаю ў зубах. Мі-

кола ніколі раней не бачыў яго ў гэтых месцах. А можа, проста не заўважаў.

Не заходзячы ў будку, Мікола пачаў распытвацца ў дзеда, адкуль ён, ці даўно жыве на гэтым агародзе. Дзед ахвотна адказваў. Сам ён з суседняга квартала — насупраць. Дом яго згарэў. Усе маладзейшыя з радні пакінулі горад. А яму, дзеду Лукашу, куды было цягнуцца пехатою за блізкі свет. Можна дачакацца смерці і тут. Будку сваю ён паставіў праз тыдзень пасля прыходу немцаў. Чаму на гэтым месцы? Проста тут пуставалі агароды — ды яшчэ з бульбай, з градкамі. Вось дзед прадбачліва і заняў іх. Трэба ж думаць жывому чалавеку і пра харчы.

Мікола расказаў дзеду пра сябе. Дзед уважліва паглядзеў у бок папялішчаў і сказаў:

— Там на яблыні паперка вісела...

— На нашай яблыні? — скалануўся Мікола, і нейкая няясная надзея асвяціла яго: можа, маці або Толя напісалі тую паперку?

— Але,— адказаў дзед,— калі праўда, што ты жыў у тым доме.

— Жыў, дзядуля! Жыў! — горача ўсклікнуў Мікола.— Дзе ж яна, тая паперка?

— Відаць, сарваў нехта. А што вісела, то праўда. Я хадзіў туды збіраць бляху. Гэта ж,— паказаў дзед рукою на будку,— і з вашай страхі бляха тут таксама.

— А што было напісана на паперцы? — дапытваўся Мікола.

— Не зусім запомніў я,— паморшчыўся дзед.— Здаецца, пісаў нейкі хлапец ці хлапчук — імя не памятаю — матцы і яшчэ некаму,— дзед зноў зморшчыўся, успамінаючы,— пісаў, што ён пойдзе ў сяло і там трэба шукаць яго. Гэта я памятаю.

— Няўжо гэта запіска майго брата? — задумаўся Мікола.

— Усё можа быць.

— А ў якое сяло, дзядуля, ён пайшоў?

— Не памятаю... Там было толькі слова сяло і яшчэ нейкія літары...

І як дзед ні моршчыў лоб і ні пыхкаў люлькай,— нічога больш са зместу запіскі ён успомніць не мог, хоць яму і вельмі хацелася дапамагчы гэтаму няшчаснаму юнаку, які застаўся адзін тут на папялішчах, гэтак жа, як і ён сам.

— Пачакай, можа яшчэ ўспомню. Дзе ты жывеш?

— Нідзе, з бальніцы іду...

— Дык пераходзь да мяне,— шчыра прапанаваў дзед Лукаш.— Як-небудзь памесцімся. Усё лепш, чым на двары.

Мікола падзякаваў дзеду Лукашу і з ахвотаю прыняў яго прапанову.

Будка дзеда Лукаша, як выявілася, была зроблена са звычайных шчыкецін і абцягнута зверху гарэлаю бляхаю. У ёй стаялі такія ж самаробныя нары, на якіх дзед спаў, і самаробны маленькі столік з услончыкам пры ім. Затое адзежы ў дзеда хапала: самаробныя яго нары былі засланы добрай коўдрай, а на сценах віселі зімовае драпавае паліто, пінжак, штаны, камізэлька. Пад нарамі ляжаў пузаты чамадан.

— Трохі паспелі вынесці з пажару,— расказваў потым дзед Міколу, адкуль у яго гэтулькі адзежы.— Мэблі не выносілі, затое ўсе нашы пакінулі горад апранутымі. І ў чамаданы яшчэ што лепшае ўзялі. Дзе яны, небаракі? Дайшлі куды да сваіх ці не? Хваляцца ж вунь недавяркі, што ўжо да Масквы дапялі...

Вайна ў тыя дні ішла яшчэ каля Гомеля. Але ні дзед Лукаш, ні Мікола не ведалі пра гэта. Яны маглі чытаць толькі хвалебныя фашысцкія лістоўкі, якія вывешваліся на ўсіх уцалелых дамах і агарожах. Такія лістоўкі друкаваліся не толькі на нямецкай, а і на рускай і беларускай мовах. У гэтых лістоўках фашысты ўжо даўно і шмат разоў разбілі Чырвоную Армію і цяпер толькі чакаюць загаду Гітлера на ўступленне ў Маскву. Выходзіла так, быццам у Гітлера і яго генералаў яшчэ не гатовы парадныя мундзіры, у якіх яны маюць намер уступіць у пакораную сталіцу бальшавікоў — Маскву. Як толькі гэтыя мундзіры будуць гатовы, вярхоўны галоўнакамандуючы вермахту Германскай імперыі Адольф Гітлер дасць апошнюю каманду, і вайне будзе канец...

Назаўтра Мікола блукаў па спустошаным і спаленым горадзе, шукаў знаёмых. Але нікога не сустрэў. Трапіў і на Чэрвеньскі рынак. Нягледзячы на трывожны час рынак жыў сваім звычайным жыццём. Ён быў зараз адзіным бойкім і ажыўленым месцам у горадзе, дзе можна было ўбачыць дзесяткі людзей, сабраных разам.

Блукаючы па рынку, Мікола пачаў задумвацца над сваім лёсам: што яму рабіць? Як здабываць сабе хлеб?

Пакуль што яго прытуліў дзед Лукаш. Але ж доўга так цягнуцца не можа. Лукаш не бацька. Ды ўрэшце ён ужо не маленькі.

У верхняй частцы рынку, там, дзе звычайна гандлявалі рознаю дробяззю, Мікола раптам убачыў знаёмую постаць. Падышоў бліжэй — так і ёсць: каля раскладзеных і расстаўленых яркіх аж да болю вачэй малюнкаў і малюначкаў у танных самаробных рамках стаяў, цікуючы за пакупнікамі, былы яго школьны настаўнік малявання Іван Аляксеевіч. Мікола ўзрадаваўся сустрэчы. Сам Іван Аляксеевіч таксама рады быў убачыцца з самым любімым сваім вучнем: ён ганарыўся Міколавымі малюнкамі і ставіў яго работы ў прыклад іншым. Іван Аляксеевіч быў чалавек пажылы і не вызначаўся бойкасцю характару. Усе яго ведалі, як чалавека ціхага і сумленнага. Ён дасканала ведаў свой прадмет і ўмеў зацікавіць ім вучняў.

— Хто-небудзь купляе? — запытаўся Мікола, паказваючы на розныя танныя нацюрморты [1] і пейзажы.

— Не вельмі,— ускінуў плячыма Іван Аляксеевіч.— Але знаходзяцца ахвотнікі. Калі не дастанеш іншай работы, займіся хоць такім рамяством.

— Дзякую, Іван Аляксеевіч, за параду.

Што робіцца на свеце, настаўнік малявання ведаў не больш за дзеда Лукаша. Але затое ён паведаміў Міколу вельмі важную вестку: ён сам нядаўна бачыў у горадзе былых сваіх вучняў: Адама Ярашэвіча і Паўлюка Мяцельскага. Дзе яны жывуць, ён не ведае. Сустрэчы былі выпадковыя — на гэтым жа рынку.

Мікола добра ведаў, дзе жыве Адам Ярашэвіч. Раней ён сябраваў з ім. Цяпер жа, калі дарогі іх пасля сярэдняй школы разышліся,— хлопцы сустракаліся не часта: Адам вучыўся ў інстытуце народнай гаспадаркі.

Мікола адразу ж пабег да Адама — на вуліцу Талстога.

Адам сапраўды быў дома — у сваёй сям'і, у сваёй кватэры. Быццам нічога і не здарылася. Ды і ўсе домікі побач стаялі некранутымі. Тут скрозь зелянелі садкі і агародчыкі з ярка-чырвонымі ружамі і пахучымі гваздзікамі. Гэта быў жывы прывабны куток у параўнанні з апусцелым цэнтрам і вуліцай, на якой жыў Мікола.

---

[1] Нацюрморт — карціна, на якой намалявана нежывая прырода: кветкі, фрукты, рыба, дзічына і інш.

Адам — невысокі, каранасты хлапец з кучаравымі валасамі — дужа ўзрадваўся госцю. Сябры абняліся і доўга не маглі адарвацца адзін ад аднаго. Яны жывыя! Гэта было першае дзіва для аднаго і другога. Застацца жывым у горадзе пасля такой навалы — не кожнаму выпала такое шчасце.

— З якіх краёў, брат? — трос Адам сябра за плечы, не верачы таму, што гэта не сон.— І чаму так доўга не паказваўся? Я шукаў цябе ў першыя ж дні. Ды на тым месцы, дзе стаяў ваш домік, убачыў толькі мізэрныя рэшткі...

Замест таго каб адказаць Адаму, Мікола тут жа задаў яму пытанне:

— А ты блізка да нашага папялішча не падыходзіў? У садку не быў?

— Не,— паціснуў плячыма Адам.— Чаго я там не бачыў? Нагледзеўся ж я папялішчаў і на другіх вуліцах.

— Шкада...— уздыхнуў Мікола.

Доўга гаварылі сябры аб усім, што перажылі за апошні месяц, што чулі ды бачылі. Нарэшце Адам сказаў паціху, але так, між іншым:

— Ёсць, брат, у горадзе людзі, якія не пакарыліся і не пакорацца нахабным захопнікам...

Хто гэтыя людзі, ён не ведае, але яны ёсць!

— Прыходзь да мяне, брат, часцей,— сказаў Адам пры развітанні.— Я думаю, ніякая вайна нашай дружбы не парушыць. Мы будземісці разам да канца...

А праз які тыдзень Мікола Кавалёў ужо сам быў у радах смелых непакораных людзей — маладых падпольшчыкаў горада Мінска.

## СВЕТЛЫ ПРАМЕНЬ

Толя часта ўспамінаў свой дом. Ён рваўся ў горад. «Але,— думаў ён,— калі Мікола ці маці ў горадзе, яны б ужо знайшлі мяне». Толя не мог думаць, што паперка яго размокне і зваліцца з яблыні. А потым яе, высушаную, падхопіць вецер... І ён чакаў, не адважваючыся пускацца самому ў небяспечную дарогу.

У апошні час у хлопцаў прыбавілася работы. Валя ўсе дні прападала на Амелькавай паншчыне. А бабка часта хварэла. Яе і замянялі Міхась і Толя. Яны самі капалі на агародзе бульбу, скрэблі і варылі, выганялі карову ў

чараду, а ў вольны час хадзілі жаць сярпамі траву, потым сушылі яе і гэтым папаўнялі запасы харчоў на зіму для сваёй рагулі.

Другое, што скрашвала Толева жыццё, была схованка са зброяй. Яны часта хадзілі з Міхасём у лес, аблазілі ўсе кусты і знайшлі яшчэ нямала патронаў і гранат. Цішком ад Валі Міхась узяў з дому бутэльку алею, і хлопцы перачысцілі ім тую зброю, якая пабыла ўжо на дажджы або пачынала ржавець у схованках. Валя і бабка яшчэ не агледзеліся, што з дому пазнікалі і старыя посцілкі і анучы, якія пайшлі на ўпакоўку гранат і патронаў. Два аўтаматы і некалькі ручных гранат хлопцы прынеслі на вышкі і закапалі ў сена: няхай ляжаць пад рукамі!

Пра свае склады зброі хлопцы маўчалі. Яны пакляліся адзін аднаму чэсным піянерскім словам хаваць сваю таямніцу да таго часу, пакуль не знойдуць партызан. Толькі ім яны могуць даверыць сваё багацце. Ні словам не прагаварыліся яны і перад Валяй. Валя, вядома, забараніла б ім мець справу са зброяй. Яна старэйшая ў сям'і і адчувала сваю адказнасць за брата і яго сябра. Міхась гэта ведаў.

Ідучы аднойчы з рэчкі, хлопцы яшчэ здалёк заўважылі на старой вярбе, што расла пры ўваходзе ў сяло, нейкую светлую пляму.

— Мусіць, і тут камендант свае аб'явы развесіў? — усміхнуўся Міхась.— Мала яму сяла.

Што б там ні было, а хлопцы не маглі абмінуць вярбы, на якой яны сапраўды ўбачылі лісток паперы з надрукаваным чорнай фарбаю тэкстам. З першых жа слоў яны зразумелі, што гэта не камендантава работа: ён так сваіх аб'яў не піша. Затаіўшы дыханне, хлопцы прыліплі да паперкі.

«Таварышы калгаснікі і калгасніцы! — гаварылася ў лістоўцы.— Таварышы рабочыя і работніцы!

Фашысцкія сцярвятнікі на захопленай імі савецкай тэрыторыі ўсюды сустракаюць рашучае і магутнае супраціўленне насельніцтва. Каб зламаць гэтае супраціўленне, фашысты пашыраюць агідную хлусню, быццам бы Чырвоная Армія разбіта і адступае, не аказваючы супраціўлення германскай арміі.

Не верце гэтай хлусні! Наша Чырвоная Армія, узброеная магутнымі танкамі, самалётамі, гарматамі, кулямёта-

мі, гераічна абараняе нашу Радзіму. Савецкія байцы, мужна змагаючыся з ворагам, наносяць яму смяротнае паражэнне. Германская армія ўжо страціла ў баях больш мільёна чалавек забітымі і раненымі. Лепшыя гітлераўскія дывізіі знішчаны.

Таварышы! Арганізоўвайце партызанскія атрады ў тыле праціўніка. Нападайце на нямецкія абозы і атрады, разбурайце масты і дарогі, падпальвайце склады з харчамі і зброяй, знішчайце сродкі сувязі: тэлефон, тэлеграф, разбурайце тыл ворага. Хавайце хлеб, жывёлу, знішчайце пасевы, каб яны не дасталіся ворагу. Нічога не давайце крывапіўцам. Памятайце, што вы сваімі актыўнымі дзеяннямі ў тыле ворага дапаможаце Чырвонай Арміі хутчэй разграміць ворага, прагнаць яго з савецкай зямлі!

*Цэнтральны Камітэт*
*Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі».*

Хлопцы разоў пяць прачыталі лістоўку і ўсё ніяк не маглі ад яе адарвацца. Кожнае яе слова радавала іх і хвалявала. Значыць, жыве Чырвоная Армія, не разбіта, як дзяўбе пра гэта Амелька Казёл, як выхваляюцца ў сваіх газетах фашысты.

Лістоўка Цэнтральнага Камітэта партыі акрыліла юных партызан, кожнае яе слова было напоўнена моцнаю вераю ў перамогу над ворагам. Гэта быў той ясны прамень, які раптам развеяў змрок і ярка асвятліў перад імі дарогу.

Цяпер хлопцы толькі і думалі пра партызан. Ім жа, напэўна, патрэбны вінтоўкі і патроны, каб граміць фашыстаў у тыле, як гаворыцца аб гэтым у лістоўцы. А вінтоўкі і патроны ляжаць у схованках без карысці... «Можа, Валя што ведае пра партызан,— думаў Міхась.— Яна ж старэйшая».

Увечары, калі Валя вярнулася з работы, Міхась проста запытаўся ў яе:

— Валя, ты чула што-небудзь пра партызан?

Валя насцеражылася. Ёй здалося, што брат нешта ведае такое, чаго яму не трэба ведаць. Няўжо яна змянілася ў чым пасля таго, як стала членам камсамольскай падпольнай групы Тараса Яцэвіча, і гэтая змена выдае яе нават перад братам?

...Гэта здарылася зусім нядаўна. Тарас прыехаў на поле па снапы. Сталася так, што накладаць на воз снапы яму дапамагала Валя. Нікога блізка не было. Тарас спа-

чатку распытваўся ў яе пра жыццё-быццё, пра Міхася і Толю. Валя расказала, што Толя, відаць, прывык ужо да іх дому, асвоіўся. Можа, у душы ён яшчэ і пакутуе, ды гэта не выяўляецца перад усімі. Тарас пахваліў хлопцаў, што яны дапамагаюць старой бабулі Кацярыне весці гаспадарку і запасяць карове сена.

— Ды яны ўжо не малыя,— з гонарам за хлопцаў сказала Валя.— Баюся, што скора Амелька дабярэцца і да іх. Пакуль што не чапляецца.

Тарас азірнуўся навакол і, прыцішыўшы голас, адказаў:

— Нічога, Валюша, дабяромся і да Амелькі... Ох, дабяромся!..

Валя ўтаропілася на Тараса з цікавасцю і здзіўленнем. Гэта былі нейкія новыя, неспадзяваныя для яе словы. За імі адчувалася нешта большае, чым тое, што было сказана пра камендантавага халуя Амельку.

— Дажыць бы! — уздыхнула яна.

— Дажывём! — яшчэ ясней і весялей усклікнуў Тарас. А потым зноў загаварыў амаль шэптам: — Ты верыш мне, Валя?

Валя скаланулася. Сноп, які яна падавала на воз, застыў у яе руках.

— Веру,— адказала яна пасля кароткай паўзы.

— Гэтак жа, як сабе?..

— Гэтак жа...

— Чэснае камсамольскае?

Пачуўшы гэтае слова, якое прагучала зараз, як баявы пароль, Валя запунсавела ад радасці і, падняўшы руку над галавою, адказала па-піянерску:

— Чэснае камсамольскае!

— Усё,— сказаў Тарас, усміхнуўшыся.— Больш спавядаць цябе не буду. А цяпер слухай мяне ўважліва. У Мінску ў цябе ёсць знаёмыя?

— Былі. Цяпер не ведаю...

— Ну, ды гэта не так важна. Ты пойдзеш у нядзелю ў горад. Возьмеш з дзесятак яек, цыбулі... Будзеш ісці там па вуліцы Талстога — з боку Маскоўскай. Спынішся каля трэцяй студні-калонкі. Ну, вады напіцца, ці што. Да цябе падыдзе кучаравы брунет. Чуеш?

— Чую,— з хваляваннем прашаптала Валя, ловячы і запамінаючы кожнае слова сакратара камсамольскай арганізацыі Тараса Яцэвіча.— Чую...

Тарас дакладна расказаў Валі, што ёй рабіць, даў пароль для сустрэчы з кучаравым брунетам.

Валя выканала Тарасава даручэнне і стала такім чынам паўнапраўным членам арганізацыі тых людзей, пра якіх гаварыў Міколу яго школьны таварыш Адам. Якраз ад яго Валя і атрымала лістоўкі і сакрэтныя весткі для перадачы Тарасу. Вядома, хто ён, той мілавідны кучаравы хлопец з вуліцы Талстога, яна не ведала. Сустрэча была зусім кароткай...

І вось цяпер, калі Міхась задаў ёй такое пытанне, ці чула яна што пра партызан, Валя разгубілася. Што ён, ведае аб чым-небудзь ці здагадваецца? Гаварыць пра сваю падпольную работу яна не можа не толькі брату, а і роднай маці ці бацьку, калі б яны былі. «Эх, Міхаська, Міхаська,— уздыхнула яна ў думках,— рана табе пра гэта ведаць. Гуляй, пакуль можна, не трывож сябе лішнімі клопатамі. Хапіла табе і так гора...» І адказала брату, стараючыся надаць свайму голасу спакойнасць і разважнасць:

— Ніякіх партызан у нас няма. Навошта яны табе?

— Так,— замяўся Міхась.— Гавораць усюды пра іх...

— Няхай гавораць,— строга глянула на брата Валя.— А ты не перагаварвай. Чытаў жа аб'явы камендантавы!

— Я чытаў не толькі камендантавы...— пахваліўся Міхась.— Ты пра такія аб'явы яшчэ і не чула!

— Што ты пляцеш? — прыкрыкнула сястра. А сама падумала: «Відаць, брат прачытаў адну з тых лістовак, якія я прынесла з горада?»

— Пайдзі вунь за сяло, пачытай, калі не верыш.

«Ясна,— падумала Валя,— ён чытаў тую лістоўку!» Радасць ахапіла яе: значыць, лістоўкі чытаюцца! Але не для такіх жа малых, як брат, яны прызначаны. Яму яшчэ не трэба ўмешвацца ў справы дарослых. І яна, зноў напускаючы на сябе строгасць, сказала:

— А калі прачытаў, то маўчы. Разбяруцца без цябе.

На гэтым Міхасёвы роспыты пра партызан скончыліся. Сястра рашуча спыніла іх. «Яна калі і ведае што, дык не скажа,— зрабіў для сябе вывад Міхась.— Яна баіцца камендантавых аб'яў. Ну і няхай баіцца, будзем шукаць партызан без Валі».

Міхась пачаў успамінаць, што ён чытаў пра партызан грамадзянскай вайны. Успомніў і пра дзеда Талаша.

— У мяне была кніга пра яго! — пахваліўся Толя.— Я яе магу на памяць расказаць!

— Я яе таксама добра ведаю,— адказаў Міхась.— Дзед Талаш са сваімі партызанамі хаваўся ў лясах і адтуль нападаў на белапалякаў.

— Вось і нам трэба шукаць партызан у лесе...— усклікнуў Толя.— Дзе ж ім быць? На віду ў фашыстаў? Дык іх пераб'юць...

Міхась задумаўся.

— А калі яны не ў нашых лясах, а дзе за дзесяць — дваццаць кіламетраў? Лес не маленькі...

— І ўсё роўна трэба шукаць у лесе,— стаяў на сваім Толя.— У вашым сяле іх не знойдзеш.

— А што, калі нам падпільнаваць каменданта?..— раптам пачаў разважаць сам з сабою Міхась.

— Навошта?

— І самім без партызан укакошыць гада... Не пашкадуем на яго тоўстае чэрава аднаго дыска? Га?

Думка Міхасёва была надта смелая, але Толю яна прыйшлася да душы. Пасля здарэння на ўзлеску Толю цяпер зусім не здавалася нікчэмнай Міхасёва мара. Ён жыва ўхапіўся за гэтую думку і ахвотна пачаў фантазіраваць сам:

— Вось заенчылі б фашысты і паліцаі!.. Камендант жа ў іх, што Гітлер у Нямеччыне.

Пра тое, што замест каменданта Ганса Штайна паставяць другога такога ж фашыста, хлопцы не думалі. Аднак хутка фантазія іх вычарпалася. Яны ўспомнілі, што камендант адзін не ходзіць і не ездзіць. А рызыкаваць хлопцам не хацелася: у іх жа вунь колькі зброі, і яны павінны, канечне, знайсці партызан... Адным словам, нікчэмны камендант Ганс Штайн не варты такой рызыкі.

І ўсё ж закінутая ў душу іскра тлела.

## УЛЬТЫМАТУМ КАМЕНДАНТУ

У сяле і яго ваколіцах пачаліся арышты. Прычынай арыштаў былі частыя абстрэлы нямецкіх машын на шашэйнай дарозе. Расказвалі пра нейкія калючыя рагулькі і іншыя падобныя прылады, якія раскідаліся па дарогах. Машыны наляталі на іх з разгону і куляліся ў кювет з праколатымі шынамі. Вядома, не часта пасля такіх кулянняў заставаліся жывымі і цэлымі гітлераўцы, якія спяшаліся на фронт заваёўваць Маскву.

Арыштоўвалі людзей выпадковых — каго заставалі ў такі час на дарогах паблізу ад месца катастрофы. Але разам з гэтым камендант успомніў і пра тых, хто трапіў у яго картатэку як падазроныя. Сярод апошніх аказалася і Валя. Яе схапілі паліцаі зранку пасля чарговага абстрэлу перакуленай у лесе нямецкай машыны з афіцэрамі. Ніякага вобыску ў Валінай хаце не рабілі, бо загадзя ведалі, што нічога не знойдуць. Ганс Штайн проста спадзяваўся на катаванні. «Быць таго не можа,— думаў ён,— каб мясцовыя людзі не ведалі, хто забівае і калечыць салдат і афіцэраў нямецкай арміі!» Камендант цяпер асмялеў — на падмогу для барацьбы з партызанамі яму прыслалі яшчэ два дзесяткі фашыстаў. Лепш пачаў старацца і Амелька Казёл: ён нарэшце падгаварыў-такі некаторых сваіх былых дружбакоў пайсці служыць у паліцыю. Камендант, вядома, пахваліў за гэта Амельку і дакляраваў яму, калі будзе гэтак жа верна служыць вялікай Германіі, нарэзаць пасля вайны ладны хутар дзесяцін гэтак на пяцьдзесят... Тады ўжо Амелька стане сапраўдным панам. За гэта варта было старацца.

Валя менш за ўсё думала пра сябе. Яна хвалявалася за хлопцаў. Што будзе з імі, калі ёй не ўдасца вырвацца на волю? Ці здагадаецца Тарас Яцэвіч пераправіць у партызанскі атрад Толю? Перадаць аб гэтым яму праз каго-небудзь яна не мела права.

Тое, што Тарас звязаны з партызанскім атрадам, ведала толькі яна, Адам з вуліцы Талстога ў Мінску і яшчэ тры-чатыры падпольшчыкі. І Валя ішла з дому сумная і заклапочаная.

Для Міхася гэта быў другі цяжкі ўдар пасля забойства бацькі. Забраўшыся на вышкі ў цёмны куток, ён даў волю слязам. Толя не суцяшаў яго, бо і сам не мог стрымацца. Валя стала для яго цяпер такім блізкім чалавекам, як родная маці. Ён адчуваў гэта і розумам, і сэрцам.

Адвячоркам Міхась прысеў каля акенца і пачаў нешта пісаць.

Толя не дапытваўся ў яго, чым ён заняўся. Добра, што хоць крыху супакоіўся.

Праз нейкі час Міхась сам напомніў пра сябе:

— Паслухай, Толя!

Міхась выставіў перад сабою лісток паперы, які стракацеўся ад буйных літар, напісаных чырвоным карандашом, і прачытаў:

«Крывавы фашыст Ганс Штайн!

Калі ты заўтра ў 13.00 гадзін дня не выпусціш арыштаванай Валі Прахарэвіч, дык табе будзе капут. Мы на вецер слоў не кідаем...

Партызаны *Міця Рагач* і *Віця Дзяркач*».

— Ну, як? —запытаўся ён у Толі.

— Выдатна! — усклікнуў павесялеўшы Толя.

— Што выдатна?

— Напісана выдатна. Ясна, па-ваеннаму. Толькі ці дапаможа гэта Валі?

— Паспрабуем! — рашуча сказаў Міхась.— Давай, пішы.

У той жа вечар некалькі такіх аб'яў-ультыматумаў красавалася на дошках і платах вакол камендатуры і адна — на браме Амелькавай хаты.

Вось чаму збялелы як палатно Амелька прыбег у камендатуру з аб'явай у руках яшчэ да ўсходу сонца.

— Пан камендант...— задыхаючыся ад страху і гневу, залямантаваў ён.— Загадай зараз жа расстраляць гэтую бальшавічку Валю Прахарэвіч! Такое нахабства! Пагражаць самому пану каменданту...

Камендант слухаў Амельку спакойна. Яму ўжо прынеслі такія аб'явы, фашысцкае нутро яго перакіпела ўжо, і цяпер ён думаў, што рабіць. Смелы і рашучы ультыматум зрабіў на яго ўражанне. Каленкі яго дрыжалі. Але ён усё яшчэ не верыў, каб партызаны Міця Рагач і Віця Дзяркач маглі сапраўды зрабіць яму капут. «Як яны могуць гэта зрабіць? — думаў камендант. — Ён жа можа ў бліжэйшы час зусім не выходзіць з камендатуры. Ён можа паставіць не аднаго вартавога, а двух-трох. А потым?» — варушылася іншая думка ў патрывожаных аб'явай камендантавых мазгах. А потым — ён жа адзін без аховы нікуды не ходзіць і не ездзіць. Не так лёгка дабрацца да яго!

Пачуўшы Амелькаву параду расстраляць Валю Прахарэвіч, камендант скрывіў губы:

— А што гэта дасць?

— Як што? — ліслíва зашчабятаў Амелька.— Напужае тых, хто піша такую пакасць на самога пана каменданта!

— Не, пан бургамістр! За тое, што ў мяне пад носам пішуць і вывешваюць падобныя ультыматумы, расстраляць трэба перш за ўсё цябе! А потым ужо іншых.

Амелька як стаяў, так і ўпаў на калені, заенчыўшы, як пабіты сабака:

— Пан камендант... даруйце! Усё, што магу, я раблю для вас...

— Не відаць, каб ты ўсё рабіў!

— Усё, усё, з дарагой душой...

— Душа ў цябе прадажная: ты служыш і нам, і партызанам!

— Не, не, не! — заенчыў бургамістр.— Бачыць бог... Я шчыра служу вам. Вы ж ведаеце, як мяне бальшавікі крыўдзілі... Нават брыгадзірам у калгасе я не мог стаць пры іхняй уладзе. А цяпер — я бургамістр...

Камендант агідліва плюнуў на падлогу побач з Амелькам.

— Уставай, пан бургамістр, ды ідзі рабі сваю работу.

Амелька завішчаў ад радасці, цмокнуў усё яшчэ дрыжачымі губамі ў камендантаў бот і, усхапіўшыся, кулём кінуўся з камендатуры.

Камендант проста не прамінуў выпадку з аб'явамі, каб не прыгразіць лішні раз свайму халую — Амельку Казлу. Ён жа добра ведаў, што Амелька не мае такой сілы, каб спыніць партызанскі рух. Няма такой сілы і ў яго самога. І не толькі ў яго — у камандзіра дывізіі... ды нават і ў самога фюрэра!

Тое, што ні Валя, ні іншыя арыштаваныя не стралялі па нямецкіх машынах, каменданту было ясна. Але трэба ж было знайсці вінаватых, каб, апрача ўсяго, неяк апраўдацца перад вышэйшым начальствам. Камендант яшчэ не зрабіў свайго прысуду наконт арыштаваных. Цяпер, пасля размовы з Амелькам, ён якраз над гэтым і задумаўся. Расстраляць Валю разам з усімі іншымі не цяжка. А што гэта дасць яму? Змест ультыматума не выходзіў з камендантавай галавы. «А можа, і сапраўды выпусціць яе? — пачынаў гадаць камендант, быццам выбіраючы лепшы ход у шахматнай гульні.— А потым прасачыць. Да яе, напэўна, прыйдуць, яе будуць шукаць тыя, хто нам і патрэбен!»

Узбіўшыся на гэтую спакуслівую думку, камендант цяпер не растаўаўся з ёю. Фантазія яго разгулялася. Гэтым тактычным манеўрам ён зловіць сапраўдных партызан, а сам дабярэцца і да іх цэнтра. О, дзеля гэтага варта прыняць ультыматум Рагача і Дзеркача! Няхай

падумаюць, што ён і праўда спалохаўся і дрыжыць цяпер як мыш пад мятлою. А ён і не думаў палохацца!

Аднак, калі камендант глядзеў на гадзіннік, сэрца яго пачынала шчымець. Да таго ж гэтае число 13-00... Не прыносіць яно, кажуць, удачы тым, хто з ім мае справу. Ці не лепш і праўда абысці яго — і адпусціць арыштаваную, не чакаючы гэтых магічных трынаццаці гадзін? Ну, скажам, выкінуць яе за дзверы ў 12-00?

У дадатак да ўсяго з галавы камендантавай не выходзіў і нейкі недарэчны сон апошняй ночы, які так ясна запомніўся яму: быццам яго злавілі партызаны і збіраліся павесіць... І, відаць, павесілі б, каб не прачнуўся!

Узважыўшы ўсе за і супроць, камендант Ганс Штайн роўна ў 12-00 аддаў загад вызваліць з-пад арышту Валю Прахарэвіч. А каб не падумалі, што ён і праўда спужаўся ультыматума партызан Міці Рагача і Віці Дзеркача, разам з Валяй выпусцілі яшчэ трох чалавек.

## НЯЎЛОЎНЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

Тарас Яцэвіч убачыў ультыматум каменданту адзін з першых.

Дзіва! Зноў тыя ж партызаны, якіх ён шукае ўжо цэлых два месяцы... Першы месяц ён шукаў гэтых адважных людзей, каб самому далучыцца да іх. А цяпер шукае па заданню партызанскага атрада. І не адзін шукае. Дапамагаюць яму Валя і два паліцаі Сымон Крук і Сцяпан Лаўрыновіч. Нямала патраціў Тарас часу і цярплівасці, каб угаварыць іх ісці служыць у нямецкую паліцыю. Нарэшце звёў іх з камандзірам партызанскага атрада.

— У атрад, калі ласка, з радасцю пойдзем! — заявілі хлопцы камандзіру партызанскага атрада Андрэю Міхайлавічу, быламу сакратару райкома.— А ў паліцыю, божа барані!

— Добра,— сказаў Андрэй Міхайлавіч.— Лічыце сябе з гэтага дня партызанамі. Згодны?

— А як жа! — павесялелі хлопцы.

— А хто такія партызаны? Ведаеце?

— Дзіва што! Яны змагаюцца са зброяй у руках, як байцы Чырвонай Арміі, супроць акупантаў,— выразна адказаў Сымон Крук.

— А калі партызанскі атрад дае свайму байцу сакрэт-

нае заданне, ён што: павінен выконваць яго? — запытаўся Андрэй Міхайлавіч.

— Вядома,— адказаў Сцяпан Лаўрыновіч.

— Павінен,— згадзіўся і Сымон Крук.— Што за гаворка можа быць!

Андрэй Міхайлавіч усміхнуўся:

— Правільна разумееце партызанскі статут! — А потым зрабіў вывад: — Ну дык вось, таварышы партызаны Сымон Крук і Сцяпан Лаўрыновіч. Штаб партызанскага атрада імя Варашылава дае вам баявое заданне: паступіць на службу ў паліцыю. Ясна?

— Ясна, таварыш камандзір атрада! — траха не ў адзін голас адказалі хлопцы.

— Сувязь будзеце трымаць з Тарасам Яцэвічам. Пытанняў у вас да мяне па гэтай часці няма?

— Няма, таварыш камандзір атрада!

— Першае заданне вам такое,— працягваў Андрэй Міхайлавіч: — Шукаць разам з нашымі людзьмі партызан Міцю Рагача і Віцю Дзеркача. Мы зусім не зацікаўлены, каб яны вялі работу без ведама нашага атрада. Яны нам могуць гэтым толькі пашкодзіць. А калі яны будуць выступаць супроць акупантаў па нашых заданнях, сілы і ў іх, і ў нас прыбавяцца. Правільна я кажу?

— Правільна, таварыш камандзір атрада! — згадзіліся маладыя партызаны.

— Ну, вось і дагаварыліся. Мы, вядома, зусім не зацікаўлены, каб Ганс Штайн першым трапіў на іхні след... За вашай работай мы будзем сачыць. І прашу паверыць мне, што клапаціцца аб вас будзе цяпер увесь наш атрад. Як толькі мы ўбачым, што вам больш нельга заставацца ў логаве ворага,— адклічам у атрад. Вось і ўсё. Бывайце здаровы. Жадаю ўдачы!

З таго часу Тарас Яцэвіч займеў сабе двух надзейных памочнікаў у паліцыі.

Але і калектыўныя пошукі партызан Міці і Віці не далі вынікаў. Можна было толькі зайздросціць такой канспірацыі і вучыцца ў іх майстэрству падпольнай вайны.

Вось толькі чаму і на гэты раз няўлоўныя партызаны напісалі свой рашучы ультыматум на той жа паперы ў лінейку і тымі ж чырвонымі карандашамі? Вопытны канспіратар наўрад ці зрабіў бы гэта. І асабліва пасля таго, калі камендатура сабрала ў першы раз амаль усе сшыткі ў адну лінейку і ўсе чырвоныя карандашы...

Адным словам, і Тарасу і яго памочнікам было над чым падумаць.

А калі роўна ў 12-00 (не ў 13, як таго патрабаваў ультыматум) Тарас убачыў з акна свайго дома Валю, якая ішла з камендатуры без канвойных, загадкі яго ўскладніліся. Што гэта? Як разумець? Значыць, за партызанамі Міцем і Віцем стаяць вялікія сілы, якіх спалохаўся не маленькі нямецкі гарнізон? Можна сабе ўявіць, што камендант і вухам не варухнуў бы, каб атрымаў такі ультыматум ад цэлага атрада, які ўзначальвае Андрэй Міхайлавіч. А можа... Валя згадзілася служыць каменданту? Але тут жа Тарас шчыра пакаяўся: як мог ён так падумаць пра Валю!

У той жа дзень яму ўдалося перакінуцца некалькімі словамі з паліцэйскім Сымонам Крукам.

— Чаму выпусцілі Валю — не ведаю,— адказаў Сымон Крук.— У нас нічога пра гэта не гавораць. Вось толькі мне загадалі сачыць за адным з выпушчаных...

— Як сачыць?

— Ну, можа хто будзе заходзіць да яго ці ён куды адлучацца.

— Гм...— пачаў здагадвацца аб нечым Тарас.— Дык можа і за Валяй будуць сачыць?

— Не ведаю. Але думаю, што выпусцілі яе не так сабе...

Гэтую вестку Тарас і перадаў Андрэю Міхайлавічу пры чарговай сустрэчы. Выслухаўшы яго, Андрэй Міхайлавіч тут жа зрабіў вывад:

— Перадай Валі, каб кідала ўсё і перабіралася да нас. Зрабі для гэтага ўсё, што трэба.

— А з хлопцамі што рабіць? — задумаўся Тарас.

— Міхась няхай застаецца дома. Толю забяром.

— А што мы скажам Міхасю? — запытаўся Тарас.

— Сам нічога не кажы,— параіў Андрэй Міхайлавіч.— Няхай Валя скажа, што ў Толі аб'явіліся якія-небудзь дальнія сваякі... ну, скажам, на Смаленшчыне, і яна павязе яго туды...

— Ёсць у Валі цётка на Палессі,— заўважыў Тарас,— Валя ўжо сказала Амельку, што Толя яе пляменнік...

— Тым лепш,— згадзіўся Андрэй Міхайлавіч.— Гэтая пагалоска можа дайсці і да камендатуры, і Ганс Штайн з Амелькам не будуць пакуль што чапляцца да Валінай сям'і. Што ж,— усміхнуўся камандзір атрада,—

прыходзіцца іншы раз і сфантазіраваць, калі гэта карысна для нас. А што наконт няўлоўных партызан чуваць?

— Нічога, Андрэй Міхайлавіч,— вінавата развёў рукамі Тарас.— Ніякага следу. Сапраўды няўлоўныя. А з другога боку — відаць, зусім нявопытныя падпольшчыкі гэтыя Міця Рагач і Віця Дзяркач.

— Чаму?

— Пішуць свае лістоўкі і ультыматумы на адной і той жа паперы з вучнёўскага сшытка, аднымі і тымі ж карандашамі, адным і тым жа почыркам...

— Устойлівы характар у людзей,— пажартаваў Андрэй Міхайлавіч.— А ўсё ж мы павінны іх знайсці! Калі гэта сапраўды такая сіла, якой баіцца Ганс Штайн, дык яна нам вельмі спатрэбіцца.

— Будзем шукаць,— адказаў Тарас.

## У ПАРТЫЗАНСКІМ АТРАДЗЕ

Нялёгка было Толю разлучацца з Міхасём. Ды яшчэ хлусіць пра нейкіх новых дальніх сваякоў на Палессі. Міхась жа ведаў, што яго сваякі жывуць на Віцебшчыне. Але Валі не хацелася мяняць месца пражывання Толевых сваякоў: сказала ж яна Амельку, што ён з Палесся, ну цяпер гэтага і трэба трымацца.

Ніколі б, вядома, Толя не згадзіўся хлусіць сябру, каб не Валя. Ён верыў ёй і ведаў, што яна жадае яму толькі дабра. Да таго ж Валя проста сказала яму:

— Пойдзем, Толік, у партызанскі атрад. Міхась пра гэта пакуль што не павінен ведаць...

— Чаму? — здзівіўся Толя.

— Такі загад камандзіра партызанскага атрада...

Толю хацелася сказаць, што можа лепш, каб Міхась ведаў, куды яны ідуць, што ён ужо даўно сам партызан, але хто ведае, як успрыме гэтую навіну Валя. Яна будзе хваляваццa, загадае яму зараз жа выкінуць з вышак гранаты і аўтаматы і не пісаць больш ультыматумаў Гансу Штайну... Не, лепш ужо маўчаць, як гэта ні цяжка. Валя старэйшая, ёй лепш відаць, што рабіць. Апрача таго, яна кажа, што такі загад камандзіра партызанскага атрада.

У той жа дзень Валя перабралася з Толем у суседнюю вёску. Спыніліся ў сям'і партызанскага сувязнога дзеда Тамаша, куды паслаў іх Тарас Яцэвіч.

База партызанскага атрада знаходзілася ў глухім гушчары, кіламетраў за дзесяць ад вёскі. Трапіць туды маглі толькі тыя, хто добра ведаў гэтую мясціну. Тры разы за дарогу спынялі дзеда Тамаша партызанскія патрулі, і ўсе яны пыталіся адно і тое ж:

— Пароль?

— Смерць нямецкім акупантам! — з ахвотаю адказваў дзед, падміргваючы патрулям: усіх іх дзед добра ведаў, і пароль у яго яны, відаць, пыталіся больш дзеля парадку, чым для патрэбы.

Толя ўпершыню пачуў гэтыя ўсемагутныя словы, якія адкрывалі ім дарогу ў партызанскі лагер, і яны прыйшліся яму да душы. Тое, што гэта быў не толькі дзедаў пароль, а і ўсенародны кліч савецкіх людзей, Толя ў той час яшчэ не ведаў.

Пакуль прыйшлі ў атрад, ужо добра сцямнела. Таму спачатку Толя нічога тут і не ўбачыў. Яго завёў дзяжурны ў зямлянку, у якой стаяў моцны храп, і паказаў вобмацкам месца на нарах:

— Тут сена паслана. Мякка будзе. Накрывайся сваім палітом і спі. Спакойнай ночы!

Змораны за дарогу, Толя заснуў як забіты. Відаць, ён хроп і высвістваў не горш за тых невядомых начлежнікаў, якіх тут застаў. Але гэтага Толя не чуў.

Калі ён прачнуўся, у зямлянцы нікога не было: адны пустыя нары, засланыя лёгкімі летнімі коўдрамі і посцілкамі. Праз маленькае адкрытае акенца на нары трапляла цьмянае святло. Недзе высока над галавою каркалі вароны.

Толя пацягнуўся соладка і выйшаў на двор. Нідзе нікога навакол. Дзіва! Можа, партызаны пакінулі лагер, пакуль ён спаў? Ён напалохаўся ад гэтай думкі і пачаў тупаць каля зямлянкі. Толькі цяпер ён заўважыў, што яе не так і лёгка знайсці ў гушчары. Над зямлянкай высіліся высачэзныя дубы і клёны, сярод іх траплялася елкі і сосны. Лес быў густы, з непралазнымі хмызнякамі. З аднаго боку ён крыху святлеў ад узыходзячага сонца, і Толя пачаў шукаць арыентацыі. Стаўшы тварам да сонца, ён лёгка вызначыў для сябе захад, поўнач і поўдзень. Перавёўшы ў думках гэтыя знакі на Міхасёва сяло, ён мог прыблізна ўявіць, дзе знаходзіцца. «І ўсё ж самі мы з Міхасём, відаць, ніколі б не знайшлі партызан»,— вымушаны быў прызнацца сам сабе Толя.

Аднак цішыня і сапраўды пачынала яго трывожыць. Яму хацелася гукнуць. Ды хто ведае: ці можна тут гукаць?

Неўзабаве да Толі падышоў пажылы дзядзька ў звычайным сялянскім адзенні з няголеным шчацінiстым тварам. Толя ўтаропіўся на дзядзьку: хто ён і што яму тут трэба? Партызан Толя ўяўляў зусім не такімі. Ва ўсякім разе, у партызана павінна быць вінтоўка і шырокі патранташ, які замяняе яму папругу. Такімі ён бачыў партызан на малюнках, чытаў пра такіх у кнігах.

Толя ўжо думаў: уцякаць яму ад гэтага барадатага дзядзькі ці здацца на яго міласць, як дзядзька раптам усміхнуўся аднымі вачыма, бо шчокі былі закрыты цёмна-русаю барадою, і запытаўся:

— Ну як, малы, выспаўся?

Толя павесялеў: значыць, гэты дзядзька з тых людзей, хто ведае, што ён тут спаў.

— Але,— адказаў Толя,— выспаўся.

— Ну дык, можа, пара ў сталоўку.

— У сталоўку? — здзівіўся Толя. Ён падумаў, што дзядзька пажартаваў: якая можа быць у такім гушчары сталоўка?

Партызанская сталоўка змяшчалася таксама ў зямлянцы, толькі не ў такой, у якой Толя начаваў: замест нараў у ёй стаялі дашчаныя сталы і лаўкі на тоўстых калодках. Збоку частка зямлянкі была адгароджана дошкамі, і адтуль чуваць быў прыемны пах свежых скварак з цыбуляй. У сталоўцы таксама нікога не было. Партызан, які прывёў сюды Толю, зайшоў у бакавую прыбудоўку. Толя прысеў на лаўцы і пачаў разглядаць партызанскую сталоўку. На сценах яе віселі напісаныя ад рукі лозунгі, сярод якіх Толя з прыемнасцю адзначыў знаёмы яму партызанскі пароль: «Смерць нямецкім акупантам!» Апрача яго, былі тут лозунгі і з іншым зместам: «Знішчайце фашысцкіх гадаў дзе толькі можаце і чым можаце! Усе, як адзін, падымайцеся на свяшчэнную барацьбу за свой народ, за сваю Савецкую Беларусь!» На другой сцяне зямлянкі віселі ў рамках, аздобленых чырвонымі папяровымі істужкамі, партрэты правадыроў партыі і Савецкай дзяржавы, а пад імі ішоў тэкст:

«У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя гру-

пы для барацьбы з часцямі варожай арміі, для распальвання партызанскай вайны скрозь і ўсюды, для ўзрыву мастоў, дарог, псавання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, падпальвання складаў, абозаў. У захопленых раёнах ствараць нясцерпныя ўмовы для ворага і ўсіх яго пасобнікаў, праследаваць і знішчаць іх на кожным кроку, зрываць усе іх мерапрыемствы».

Хутка з бакавой прыбудоўкі выйшла пажылая жанчына ў белым халаце. У руках яна несла паліваную міску закрашанай скваркамі з цыбуляй заціркі і ладны кавалак ржанога хлеба. Паставіўшы міску перад Толем, сказала ласкава:

— Еш, дзетка. Калі мала будзе, скажаш — дамо дабаўкі.

— Дзякую,— адказаў Толя, разгублены ад такога багатага пачастунку.— Мне хопіць.

Жанчына ўздыхнула чамусьці, прывычным узмахам рукі паправіла хустку і пайшла на кухню.

Не паспеў Толя расправіцца са смачнай заціркай, як у сталовую зайшоў партызан у светлым ваеннага пакрою шарсцяным гарнітуры. Пры боку ў яго вісела кабура. Сам ён выглядаў не старым, але дробныя маршчынкі пад шэрымі вачыма гаварылі за тое, што яму ўжо, відаць, гадоў за сорак. Ён падышоў да Толі і загаварыў, падаючы руку:

— Здароў, Толя!

Толя ўсхапіўся з-за стала і, абцёршы руку аб штаны, працягнуў яе партызану.

Партызан прысеў побач.

— Смачную зацірку ў нас вараць? — запытаўся дабрадушна ўсміхаючыся.

Толя выцер спацелы лоб:

— Смачную...

— А як спалася на новым месцы?

— Добра...

Праз хвілін колькі Толя ўжо добра ведаў гэтага партызана: гэта быў Андрэй Міхайлавіч, камандзір партызанскага атрада. Праўда, пра сябе Андрэй Міхайлавіч гаварыў мала, сказаў толькі, як яго зваць, што ён робіць тут у партызанскім атрадзе і што ў яго ёсць сын, трошкі меншы за Толю. Найбольш ён распытваўся пра Толю: дзе ён жыў у горадзе, дзе працавалі бацькі.

— А ці не чуў ты ў Зялёным Бары пра партызан? — запытаўся між іншым Андрэй Міхайлавіч.

— Гавораць пра іх,— адказаў Толя.— А я іх не бачыў. Толькі адзін раз лістоўку чытаў...

— А пра Міцю Рагача і Віцю Дзеркача нічога не ведаеш?

Толя пачырванеў.

— А-а...— прагаварыў ён разгублена,— гэта мы жартам прыдумалі...

— Хто вы? — усклікнуў Андрэй Міхайлавіч.

— Я і Міхась...

— Дык ты і Міхась — партызаны Міця Рагач і Віця Дзяркач? — Андрэй Міхайлавіч усхапіўся з лаўкі і глядзеў на Толю, як на дзіва.

— Не,— адказаў Толя,— гэта мы проста так прыдумалі называць сябе партызанамі, каб страшней было фашыстам...

— І ультыматум вы прыдумалі?

— Гэта Міхась прыдумаў. А камендант Штайн — баязлівец, спужаўся і выпусціў Валю і нават яшчэ трох чалавек...

Андрэй Міхайлавіч схапіў Толю ў абдымкі і папляскаў па плячы:

— Дык ты ж, брат, рашыў для нас загадку, над якою мы доўгі час ламалі галаву ўсім атрадам! Ай ды малайцы! Праўда, партызаны вы «дзікія» аказаліся, але нічога: вынікі вашай дзейнасці проста цудоўныя! Я ўжо думаў: у гэтых Рагача ды Дзеркача, відаць, цэлы свой партызанскі атрад! А выяўляецца, што вас толькі двое. І ніхто больш пра вас не ведаў?

— Не. Мы нават Валі не асмеліліся сказаць...

— Значыць, строгая канспірацыя, як у сапраўдных падпольшчыкаў! Ну, а нямецкага патруля пры лесе таксама вы ўкакошылі?

— Мы...

— Чым? Адкуль вы зброю ўзялі?..

Андрэй Міхайлавіч не верыў вушам сваім. А калі Толя расказаў, як усё гэта было, камандзір атрада быў проста ў захапленні.

— Самае важнае ва ўсіх гэтых вашых прыгодах,— усклікнуў ён,— гэта зброя! Яна ж нам так патрэбна. Як хлеб! Ды што — хлеб. Як паветра! У нас большая палаві-

на атрада без зброі. Сёння ж мы даставім вашы запасы ў атрад. Бо калі хто знойдзе іх без нас — мы страцім многа...

У той жа дзень, познім адвячоркам, партызаны перанеслі ўвесь Толеў і Міхасёў арсенал у атрад.

## ДРУГ ЦІ ВОРАГ?

Нялёгка было Міхасю расставацца з Толем. І не мог ён знайсці ніякага апраўдання гэтай непатрэбнай разлуцы. «Іншая рэч,— думаў ён,— калі б гэта знайшлася маці ці брат. А то — сваякі!» Такіх сваякоў, ды яшчэ нават лепшых, ён мае і ў іхнім доме. Хіба ж Міхась сам, яго сястра ці бабка не могуць быць яму такімі ж блізкімі, як цётка, якой Толя можа добра і не ведае? Ды і відаць, што не ведае, бо ні разу ён нешта пра яе і не ўспамінаў...

Каб хоць крыху супакоіць сябра, Толя паабяцаў яму хутка вярнуцца. Ну, калі не праз тыдзень, дык праз месяц абавязкова.

І вось зараз Міхась застаўся адзін. Хадзіць гуляць да сваіх ранейшых сяброў яму не хацелася. Ды аб чым ён мог з імі гаварыць? Прызнацца ім пра таямніцу са зброяй ён не асмельваўся. Расказваць, як яны з Толем забілі фашыста або пісалі лістоўкі, таксама не раскажаш: так праз іх могуць дачуцца пра гэта і самі фашысты. А ён жа яшчэ марыць знайсці партызан і аддаць ім зброю. І ў самых запаветных тайніках яго мары гарыць яшчэ незгасальная іскра помсты самому каменданту Гансу Штайну за смерць бацькі. Пра ўсё гэта ён мог гаварыць адкрыта толькі з адным чалавекам ва ўсім сяле — з Толем Кавалёвым.

Міналі дні за днямі, а Валя ўсё не вярталася. Міхась пачынаў хвалявацца. Час трывожны, ці мала што можа здарыцца. Ён зноў і зноў дакараў у думках сястру, а заадно і Толю, што яны згадзіліся пусціцца ў такую далёкую і небяспечную дарогу без жаднай на гэта патрэбы.

Карцела Міхасю і схаваная зброя. Пара было б ужо праверыць яе, ды аднаго неяк не цягне ні ў лес, ні на рэчку. Іншая справа ўдвух — і смялей, і ахватней. І ён усё адкладваў свой паход у лес.

Прыйшла ўжо сапраўдная восень. Пасыпалася з дрэў пажоўклае лісце. Пачарнелі агароды і палеткі. Паляцелі апошнія ключы жураўлёў у вырай. А Валя ўсё яшчэ гасціла недзе ў Толевай цёткі. Некалькі разоў пра яе дапыт-

ваўся Амелька. Але і Міхась і бабка Кацярына адказвалі яму адно і тое ж:

— Няма яшчэ.

— А дзе жыве гэтая Толева цётка? Які яе адрас?

— Не ведаем.

Амелька, відаць, аб нечым здагадваўся. Але натрапіць на Валін след ён пакуль што не мог: адрасу Толевай цёткі сапраўды ніхто не ведаў.

Аднойчы Амелька прыйшоў з двума паліцаямі ўвечары, калі прыгналі з пашы кароў. Бабка Кацярына даіла ў гэты час на двары сваю Чарнуху. Амелька прысеў на лаўцы і пачаў заглядвацца на карову.

«Чаго яму яшчэ тут трэба, гэтаму недавярку?» — думала бабка, коса пaглядаючы на бургамістра і яго сяброў. Міхась цікаваў за няпрошанымі гасцямі з хаты. Ён таксама думаў над тым, якое ліха прыгнала іх сюды. Пра Валю Амелька распытваўся два дні таму назад. Потым жа — нічога не кажа бабцы Кацярыне, а сядзіць спакойна, быццам зайшоў адпачыць.

Выяснілася ўся гэтая загадка з Амелькам пасля таго, як бабка Кацярына скончыла даіць карову. Амелька ўстаў і шустра падбег да каровы.

— Па рашэнню мясцовай улады,— загаварыў ён піскдявым галаском, стаўшы ў позу начальніка,— ваша карова канфіскуецца ў карысць нямецкай арміі...

Бабка адставіла даёнку і прыклала руку да вуха:

— Што ты балбочаш?

— Я балбачу! — падскочыў Амелька як апечаны.— Гэта мяне, бургамістра, так абражаць! Юлісь, накідай вяроўку на рогі!

Паліцай Юлісь адным махам зрабіў сваю справу і пацягнуў Чарнуху з двара. Другі паліцай і сам Амелька, спяшаючыся, падганялі яе аскабалкамі, якія паднялі тут жа на двары.

Бабка Кацярына нарэшце зразумела, што здарылася. З крыкам і праклёнамі кінулася яна за грабежнікамі.

На дапамогу ёй выскачыў з хаты Міхась. Але ўсё было дарэмным...

Назаўтра Міхась сустрэў на вуліцы Тараса Яцэвіча. Тарас ішоў дахаты з работы. Цяпер ён працаваў на цагельным заводзе. Цагельны завод знаходзіўся кіламетры за тры ад сяла, траха што не пры самым лесе. Паступіць на завод яму параіў Андрэй Міхайлавіч. Фашысты ў гэты

час вельмі ж пачалі ганяцца за маладымі людзьмі, якія нідзе не працуюць. Іх хапалі і пасылалі на работу ў Германію або проста на фронт — капаць акопы, размініраваць пад абстрэлам замініраваныя ўчасткі... Каб пазбавіцца ад такога лёсу, Тарас і вымушаны быў пайсці на цагельны завод. Праўда, у Андрэя Міхайлавіча была і іншая, больш важная мэта: трымаць Тараса паміж лесам і сялом Зялёны Бор.

Тарас спыніў Міхася:

— Здароў, арол!

— Здароў,— адказаў засмучаны Міхась.

— Ну, як: сумуеш па Валі?

— Ага...

— Нічога, брат,— упэўнена сказаў Тарас.— Яна хутка вернецца...

— Адкуль ты ведаеш? — здзівіўся Міхась.

— Ведаю. Яна мне пісьмо напісала.

— Табе? А чаму дадому не напісала?

— Дадому нельга...

— Чаму?

— Пісьмо на ваш адрас магло б трапіць да Амелькі. А ён — перадаў бы яго ў камендатуру. Ясна?

— Ага...— згадзіўся Міхась.

Ён павесялеў. Важна, што Валя жывая. Няхай сабе гасцюе ў Толевай цёткі колькі хоча. А то дома фашысты могуць сапраўды зноў схапіць яе.

— Ты, Міхась, толькі — маўчок пра Валю,— сказаў Тарас, прыклаўшы палец да губ,— і пра пісьмо, што яна мне напісала,— ні-ні... Добра?

— Добра.

— Калі будзеш маўчаць, яна прышле пісьмо і табе. Толькі не па пошце...

— Буду маўчаць! Чэснае піянерскае... А Толя?

— І Толя напіша. А пра карову, Міхась, не думай.

— Шкада...— уздыхнуў Міхась.— Мы ж з Толем ёй і сена назапасілі...

— Няхай усе тыя фашысты, што будуць яе спажываць, падавяцца разам са сваім Амелькам! Праўда?

— Праўда! — цвёрда адказаў Міхась, і вочы яго, здавалася, пасвятлелі.

Пасля гэтай размовы Міхась неяк адразу адчуў у сабе ранейшую сілу і смеласць. У той жа дзень ён узяў кошык і пайшоў у лес у запаветныя мясціны.

Зброя была схавана ў трох месцах: вінтоўкі асобна, аўтаматы асобна і гранаты з патронамі — таксама асобна. Патупаўшы па лесе, прыслухоўваючыся і прыглядаючыся, Міхась нарэшце падышоў да гушчару, у якім былі схаваны аўтаматы. Да месца схованкі трэба было прабірацца паўзком. Калі Міхась прыгнуўся і пачаў разглядаць сцежку, што вяла да схованкі, ён адразу заўважыў тут невядомыя яму змены: сцежка была выкаўзана і засмечана сухім галлём...

У Міхася быццам абарвалася ўсё ўсярэдзіне: ці не знайшоў хто іх схованку? Ён кінуўся хутчэй у самы гушчар, папоўз, раздзіраючы да крыві твар і рукі. І неўзабаве ледзь не закрычаў ад крыўды і жалю: яма, у якой яны з Толем схавалі больш дзесятка аўтаматаў, была раскапана, і ніякай зброі ў ёй не засталося...

«Што ж гэта? — задыхаючыся ад хвалявання, шаптаў сам сабе Міхась.— Памыліўся я, ці што?» Ён вылез назад з гушчару і пачаў азірацца навакол. Не, месца тое самае! Ён кінуўся да другой схованкі, дзе былі вінтоўкі. І — той жа малюнак... Абрабаванай аказалася і схованка з гранатамі і патронамі...

Гэта быў такі ўдар, якога Міхась не чакаў. Ён апусціўся на пень, абхапіў галаву рукамі і заплакаў — сумна і горка. Тое, што скрашвала зараз яго незайздроснае жыццё і свяцілася нейкай жаданай надзеяй на сустрэчу з партызанамі, загінула беззваротна.

«Хто мог гэта зрабіць?» — ламаў ён галаву. Пра схованкі ведалі толькі ён і Толя. Але ж, выходзіць, пра іх ведаў і нехта трэці. Ён, гэты трэці, мог сачыць за хлопцамі і да часу маўчаць. А потым — забраў... Хто ж ён — друг ці вораг?

## АСЕННЯЙ НОЧЧУ

У адну з цёмных асенніх начэй ваколіца раптам асвяцілася палаючымі стагамі сена. Стагі гарэлі на Зарэччы, там, дзе былі саўгасныя сенажаці.

Разбуджаны Амелька ледзь не рваў на сабе валасы. Ён жа цэлы месяц ганяў людзей касіць і стагаваць, сварыўся з імі, біў іх, каб у пару і чыста ўбралі, а тут уся яго нялёгкая праца ідзе з дымам... А што скажа яму Ганс Штайн? Гэта ж ён, Амелька, угаварыў каменданта пакінуць сена да маразоў на сенажаці. Так рабілі яшчэ дзяды

і прадзеды. Бо навошта ж яго цягаць на сялібу ўлетку, у самы гарачы рабочы час? Ды і не лёгка цягаць насілкамі з гразкіх мясцін на сухі бераг, куды можна пад'ехаць на кані. А на чым было вазіць? З калгасных коней засталіся адны недабойкі. Голыя драбіны і тыя ім цяжка цягнуць. Лепшыя коні пайшлі на ўсход разам з саўгасным і калгасным дабром.

Калі ўсё гэта дайшло да сонных Амелькавых мазгоў, ён, калоцячыся, як у ліхаманцы, апрануўся і кінуўся будзіць паліцаяў.

Праз хвілін дзесяць уся мясцовая паліцыя была ўжо на нагах. На матацыклах і на веласіпедах паліцаі на чале з бургамістрам Амелькам памчаліся на Зарэчча. Пераскочылі масток цераз раку і апынуліся на месцы пажараў.

Пры святле бушуючага полымя сухіх стагоў не цяжка было разгледзець, што робіцца на сенажаці. Гарэлі стагі, што стаялі бліжэй да ракі. Астатнія, з боку лесу, былі яшчэ не кранутыя агнём.

У Амелькі крыху адлягло ад сэрца. «Трэба ратаваць хоць тое, што яшчэ засталося»,— падумаў ён. Але як ратаваць? Адкрыць страляніну, напужаць тых, хто іх падпальвае. Яны спалохаюцца і разбягуцца.

Так Амелька і зрабіў.

Страляніна пачалася наўздагад з розных бакоў і ў розных кірунках. Амельку ахапіў ваяцкі запал. Ён бегаў ад аднаго паліцая да другога і, смалячы раз-поразу з рэвальвера, камандаваў, куды страляць.

І раптам Амелька і ўсе яго ваякі ясна пачулі, як зазвінелі кулі каля іх уласных вушэй. Гэта было зусім неспадзявана для Амелькі і разбурала ўвесь яго ваенны план. Ваяцкі запал яго астыў.

— Партызаны! — завішчаў ён дрыжачым голасам і, увагнуўшы галаву, кінуўся да бліжэйшага куста.

— Партызаны! Партызаны! — падхапілі Амелькаў кліч і паліцаі. Пры гэтым асабліва стараліся крычаць Сымон Крук і Сцяпан Лаўрыновіч, быццам ім больш чым каму даліся ў знакі гэтыя партызаны.

Праз хвіліну ўсё Амелькава войска рассыпалася па кустах.

Калі страляніна з боку лесу сціхла, Амелька выскачыў з куста і, узмахнуўшы рукою, скамандаваў:

— За мною!

Услед за гэтым ён апынуўся на матацыкле. «Калі гэта

сапраўды партызаны, дык няхай яны самі і адказваюць за свае ўчынкі перад Гансам Штайнам»,— разважаў Амелька. Ваяваць з партызанамі справа каменданта, а не бургамістра.

Як толькі Амелька з паліцаямі ўз'ехаў на масток, дык ясна ўбачыў: гарыць сяло... Бургамістр так і абвяў на сваім матацыкле: «Няўжо і там партызаны? Пад носам у самога Ганса Штайна?»

У гэты час пачуўся трывожны сігнал рэйкі на былым калгасным двары. У начной цішыні яна звінела гучна, на ўсю ваколіцу.

Амелька сцішыў свой матацыкл, прапускаючы паліцаяў наперад: калі ў сяле і праўда партызаны, то не канешне яму рвацца туды першаму. Не такі ён дурны, як гэтыя малакасосы Крук ці Лаўрыновіч. Няхай іх страляюць партызаны. А ён, Амелька, яшчэ спатрэбіцца сваім гаспадарам, можа яшчэ і да павышэння даслужыцца. А ўрэшце, яму і цяпер не дрэнна жывецца — еш, пі што хочаш і колькі хочаш, усе табе кланяюцца, панам велічаюць. Каб не Ганс Штайн, дык зусім бы рай быў чалавеку. Вось толькі перад гэтым чортам лазатым трэба дрыжаць ды біць наклоны.

Траха не ўслед за трывожным рэечным сігналам у сяле ўзвіліся ракеты, пачулася страляніна. Стралялі з кулямётаў і аўтаматаў.

Цяпер Амельку ўжо было ясна, што на Зялёны Бор напалі партызаны. Што ж рабіць? Прыехаць — і проста ім у рукі? Ад адной гэтай думкі ішоў мароз па Амелькавай скуры. «Ага! — здагадаўся ён.— Трэба выслаць разведку. Не рызыкаваць жа ўсяму атраду! Калі разведка данясе, якія ў сяле варожыя сілы і дзе яны знаходзяцца, тады можна ўзважыць абстаноўку і рушыць у бой».

Гэта было самае лепшае рашэнне, каб не трапіць у сяло ў самы разгар бою. І галоўнае, лягчэй будзе апраўдацца перад Гансам Штайнам: бургамістр ваяваў па ўсіх ваенных правілах! Разведка — гэта ж першае, што праводзіць кожная ваенная часць перад боем!

У разведку паехалі два паліцаі на веласіпедах — каб шуму не нарабіць. Рэшта войска і сам яго «палкаводзец» Амелька Казёл размясціліся ў кустах каля ўскраіны сяла, заняўшы абарону на выпадак нападу партызан.

Ноч была цёмная, хмарная, і партызаны здаваліся Амельку за кожным кустом. Ён загадаў паліцаям Круку

і Лаўрыновічу заняць абарону побач са сваёю персонаю і весці пільнае назіранне за ворагам справа і злева.

— У вас добры слых і добрыя маладыя вочы,— пахваліў Амелька хлопцаў.— Глядзіце ж у мяне!.. Калі нават і мыш прабяжыць — дакладвайце зараз жа!

Сам Амелька пакінуў за сабою пярэдні сектар агляду.

Ні Сымон Крук, ні Сцяпан Лаўрыновіч не верылі таму, што партызаны захапілі сяло. Не было ў гэтым ніякай патрэбы. Урэшце, відаць, Тарас сказаў бы ім пра гэта загадзя. Павінны ж яны былі ведаць, як і што ім рабіць у такім выпадку! Вось і зараз ім зусім нічога не абыходзіць прыціснуць гэтага фашысцкага паслугача Амельку Казла да купіны, каб і не пікнуў. Свярбяць у хлопцаў рукі па Амельку. Ды — партызанская дысцыпліна! Без загаду Тараса яны не маюць права і пальцам крануць нямецкага бургамістра Амельку. Цяжка, вядома, хлопцам несці такую службу. Усе глядзяць на іх, як на здраднікаў. І хто ведае, можа, не сёння-заўтра знойдзецца такі, што не вытрымае і ўсадзіць нож у спіну або пашле кулю з-за вугла. І ніхто нават родным бацькам не зможа растлумачыць, як нялёгка было іх сыну несці партызанскую службу ў логаве ворага.

Праз паўгадзіны разведка вярнулася.

— Ніякіх партызан у сяле няма,— далажылі разведчыкі.

— А што гарыць?

— Тарпы...

— Немалочаныя тарпы? — ахнуў Амелька не сваім голасам.— Ну, нам цяпер не здабраваць. Камендант не даруе гэтага...

— А хіба вас не цікавіць, пан бургамістр, што яшчэ гарыць? — запыталіся разведчыкі.

— Чаму не цікавіць? Але ўсё іншае — дробязь. Тарпы — вось за што пападзе нам... Ну, а што там яшчэ гарыць?

— Управа...

— Мая валасная ўправа?! — схапіўся Амелька чамусьці не за галаву, а за жывот.— Ой, не магу...

Амельку і сапраўды хапіў жывот.

— А хто страляе? — ледзь прагаварыў ён здранцвелым языком.

— Відаць, камендацкія смаляць, баяцца, каб партызаны на камендатуру не напалі.

— І ніхто не тушыць маёй управы?

— Адны дзяжурныя там. Ды дзе ім управіцца! Гарыць, як сухі лоўж.

— Лоўж, лоўж!..— перакрывіў Амелька паліцая.— Ты, мусіць, і рад, што мая ўправа... ай-яй-яй!..

— А чаго вельмі ўбівацца, пан бургамістр? — зрабіў заўвагу Сцяпан Лаўрыновіч.— Пабудуеце яшчэ лепшую. А то гатовы будынак возьмеце. Яшчэ вунь школа вольная. Дзеці ж цяпер вучыцца не будуць.

— Чаго ўбівацца? — заскрыгатаў зубамі Амелька.— Там жа ўсе справы... Там жа сакрэтныя паперы... Што ж цяпер будзе?..

— Ну, паперы можна напісаць новыя!

— Ай народ! — не мог супакоіцца Амелька.— Нябось, каб гэта гарэў сельсавет, то ўсе збегліся б тушыць. Ну, пачакайце ў мяне! Я вам пакажу!

Амелька пагразіў кулаком у бок сяла і пачаў заводзіць свой матацыкл.

Калі Ганс Штайн убачыў перад сабою Амельку, ён перш-наперш пасадзіў на яго шчацэ пяць пальцаў сваёй правай рукі. Потым ён заскакаў вакол Амелькі з кулакамі, цэліўся ў яго з рэвальвера. Ад крыку ён запеніўся, як шалёны сабака, здавалася, вось-вось лопне, рассыпаўшыся на дробныя кавалкі.

Ды і было ад чаго звар'яцець. Ён расхваліўся перад штабам дывізіі, што сабраў для арміі дзесяткі стагоў мурожнага сена і сотні тон збожжа, праўда, пакуль яшчэ не абмалочанага. Ён чакаў зараз марозу, каб пачаць перавозку стагоў на цэнтральны пункт для прасавання ў кіпы. А потым — хто ведае! — можа, яго стараннасць была б заўважана не толькі ў ахоўнай дывізіі, а і ў самім Берліне... І раптам усё гэта лопнула як мыльны пузыр. Ды тут не толькі звар'яцець — застрэліцца мала.

У тую ж ноч пачаліся новыя арышты.

## КРОЎ ЗА КРОЎ...

Пераглядаючы аднаго разу свой скарб на вышках, Міхась спыніў увагу на гранатах. «Вось бы ўдружыць адну такую рыжаму каменданту! — раптам падумаў ён.— Хапіла б і на яго тоўстае пуза, і на сытае свіное рыла! Але дзе і як гэта зрабіць?» Думка гэтая з таго часу не давала

яму спакою. І ён хадзіў па сяле заклапочаны, цікуючы за камендатурай.

Дні праз тры Міхась сустрэўся з камендантам нос у нос... Ганарысты, як заўсёды, з пачуццём уласнай велічы, у цёмных акулярах, ён важна размахваў стэкам і задзіраў уверх галаву. За ім ішлі два салдаты. Аднаго з іх Міхась не раз бачыў. Гэта быў камендантаў ад'ютант Фрыц. Ён нёс у адной руцэ ладны чамадан, а ў другой бярозавы венік. Аўтамат яго вісеў на жываце. Другі салдат нёс свой аўтамат у руцэ і пільна шнырыў лупатымі вадзянымі вачыма па баках.

«У лазню ідуць,— здагадаўся Міхась.— Такі зручны выпадак!» — пашкадаваў ён, што няма пры сабе гранаты.

Лазня знаходзілася на ўскраіне сяла, побач з рэчкаю. Міхась добра ведаў яе. З тылавога боку да лазні шчыльна падступаюць густыя альховыя кусты. Там, у сцяне, ёсць акенца. Яно замазана белай вапнай, і, калі акенца адкрываецца, адтуль валіць густая пара. Калі Міхась быў меншы, ён не раз лазіў з хлопцамі праз гэтае акенца ў самую лазню.

Зараз Міхась ясна ўявіў сабе лазню і каменданта ў ёй. Цікава, хто там яшчэ будзе? Салдат ці Фрыц? Адзін з іх, відаць, застанецца на ганку, вартаваць. А непрыкметнае акенца — яно ж зусім з другога боку! Вось бы куды шпурнуць гранату!

Гэты малюнак здаўся Міхасю такім ясным і прывабным, што больш ні аб чым ён ужо не мог думаць. Ён прыбавіў крок, і ногі самі павялі яго дамоў, да вышак. Там ён дастаў у сене гранату, паклаў яе ў кішэню світкі і асцярожна спусціўся па драбінах назад. Цяпер, у халодную восень, Міхась спаў у хаце, але ўсё яго падпольнае дабро па-ранейшаму хавалася на вышках у сене.

Не заходзячы ў хату, Міхась падаўся на рэчку. Берагам цішком дайшоў да лазні. Яшчэ здалёку ён заўважыў, што з тылавога акенца валіць густая пара. Значыць, яно адкрыта! Камендант дыхае свежым паветрам. «Дыхай, дыхай, фашысцкая гадзіна! — усміхнуўся Міхась.— Зараз мы зробім табе лазню...»

Міхась асцярожна кустамі прайшоў міма лазні. Нарэшце ён змог убачыць, што робіцца на двары. Там, каля ўваходных дзвярэй, на ганку стаяў салдат з аўтаматам напагатове. Фрыца не відаць было. Значыць, ён у лазні

разам з камендантам — плечы шаруе... Нікога на двары больш не было.

Міхась гэтак жа цішком вярнуўся да ракі, падышоў да сцяны. Па шуму ў лазні ён лёгка вызначыў, у якім кутку парыцца камендант Ганс Штайн.

Ля адчыненага акенца Міхась яшчэ раз прымерыўся і нарэшце выняў з кішэні гранату. Адступаць ад задуманага было позна. І ён не змог бы гэтага зрабіць, каб нават тут раптам вырас перад ім не толькі вартавы, а ўвесь камендантаў гарнізон.

Рука ў Міхася не скаланулася. Ён адскочыў ад акенца ў той жа момант, як на шум бярозавага веніка паляцела спушчаная з кальца граната.

Выбух дагнаў яго ўжо ў кустах. Міхась на момант спыніўся, прыслухоўваючыся. На душы ў яго зрабілася лёгка, быццам адразу зваліўся з яе той страшны цяжар, які ён насіў апошнія месяцы. А калі да вушэй данёсся дзікі лямант вартавога салдата з двара, Міхась зразумеў: каменданту калі не капут, дык і не надта весела, і што лёгкай парай на гэты раз ён не абышоўся...

Кустамі Міхась дабраўся да шасэ, а там спакойна пайшоў дахаты, гэтак жа, як і тады, калі звёў са свету першага акупанта.

У сяле трашчалі стрэлы і матацыклы, мітусіліся, бегаючы ўзад і ўперад, салдаты і паліцаі. Каля камендатуры і новага будынка сельскай управы ўстанаўлівалі кулямёты. Паніка ў варожым стане была ў поўным разгары. Міхась паглядаў на ўсё гэта з жывою ўсмешкаю на твары і думаў: «Бач, як заварушылася змяінае кодла! Мы вам спуску не дамо!» — успомніў ён словы са сваёй першай лістоўкі, і яму захацелася і зараз вывесіць такую ж, каб давесці да ведама астатніх ворагаў, што партызаны Міця Рагач і Віця Дзяркач (ён цяпер не ведае, якое з гэтых імён і прозвішчаў належыць яму) слоў на вецер не кідаюць.

## ПА ДАРОЗЕ Ў МІНСК

Раніцай таго самага дня, у які Міхась расправіўся нарэшце з забойцам свайго бацькі, Валя і Толя выбраліся ў горад. Валя ішла да падпольшчыка Адама па заданню атрада. А Толю проста даўно хацелася наведаць роднае па-

пялішча. Аднаго яго пусціць у горад Валя не адважвалася. Да гэтага паходу старанна рыхтаваліся і яны самі, і штаб атрада. Перш-наперш трэба было знайсці Толю такую вопратку, каб кожнаму відаць было, што гэта ідзе звычайны сялянскі хлапчук. Дзеля гэтага сувязны дзядзька Тамаш прынёс яму паношаную, зашмальцаваную світку з таннага сукна, шапку-аблавушку такой жа якасці (было ўжо халаднавата), доўгія, да пят, чорныя штаны і чаравікі на рост — нумары на два большыя, чым патрэбна было. Валя таксама падрыхтавалася да такой дарогі. У рукі ёй далі лазовы кош з рыжым пеўнем, а Толю — такі ж кош з мякінаю, у якой, добра пашукаўшы, можна было знайсці дзесятак яек. Дакумент, які змайстравалі ў штабной канцылярыі, за подпісам бургамістра валаснай управы Амелькі Казла, з яго круглай пячаткай сведчыў, што Валі, як самай прыкладнай прыхільніцы новага нямецкага парадку, дазволен выезд у горад Мінск па справе абмену сельскагаспадарчай прадукцыі на гарадскую. Сам Амелька паверыў бы гэтаму пасведчанню, калі б яму давялося яго чытаць — гэтак дакладна былі выведзены на ім яго малапісьменныя каракулі. А пячатка — тая атрымалася нават больш выразнай, чым яго ўласная. Амельку далёка не заўсёды ўдавалася паставіць на сваіх паперах такую чыстую пячатку — яна ў яго нязграбных і дрыжачых ад п'янкі руках размазвалася і расплывалася ў нейкую невыразную пляму, у якой цяжка было прачытаць асобныя літары і словы. Толю пасведчання не выдавалі, бо ён яшчэ малы. Ён проста мог сысці за меншага Валінага брата.

Валя з Толем выйшлі з атрада яшчэ прыцемкам. Лесам іх праводзіў сам Андрэй Міхайлавіч. Калі яны дабраліся да шасэ, што вяло ў горад, ужо добра развіднелася.

— Ну,— памахаў рукою Андрэй Міхайлавіч,— шчаслівай дарогі!

— Дзякую! — адказала Валя і рушыла наперад па ўзбочыне шасэ.

Пагода стаяла сухая, з невялікімі прымаразкамі па начах. Удзень, калі сонца падымалася над лесам, усё навакол залацілася, пераліваючыся рознымі колерамі позняй восені, ад ярка-жоўтага да ярка-чырвонага. І здаровае, крамянае надвор'е, і яркія цёплыя фарбы маглі б толькі радаваць і бадзёрыць нашых хадакоў, калі б не такое тварылася на свеце.

Валя не пакідала думаць пра дом, пра Міхася. Што з ім, як ён жыве там без яе? Ей пачынае здавацца самае горшае. А што, калі фашысты пранюхалі пра яго партызанскія справы? Цяпер Валя дужа шкадавала, што не адкрыла яму праўды пра сябе і пра Толю і строга не забараніла займацца сваёй дзіцячай партызаншчынай. Ці ж яго гэта справа? Ён жа яшчэ хлапчанё зялёнае. Што сказала б маці, каб дачулася, што яна, Валя, не дагледзела, чым займаецца яе меншы брат? Дзе яна цяпер, родная? Напэўна, усе вочы выплакала, пакінутых дзяцей успамінаючы...

Толю агарнула нейкае няяснае пачуццё смутку і радаснай надзеі. Яму хацелася хутчэй убачыць тое месца, якое здаецца наймілейшым на свеце. Няма на тым месцы яго дома, бацькоў, сяброў... Няма школы, дзе прайшлі яго лепшыя бесклапотныя дзіцячыя гады. Усё гэта ён ведаў. І ўсё ж яму хацелася пахадзіць па тых вуліцах, успомніць, што ўспомніцца. А можа... можа там чакае яго маці, брат? Якім чынам гэта магло здарыцца, што яны там і не шукаюць яго,— лепш не думаць. Яму проста хочацца, каб так было, і ён адганяе ад сябе ўсе іншыя, горшыя, трывожныя думкі.

Першыя кіламетры дарога ішла лесам. Валі добра знаёмыя былі і гэтая дарога, што вяла ў сталіцу, і лес, які цягнуўся, з невялікімі прагалкамі, цераз увесь іхні раён, а потым паварочваў на ўсход ды ішоў недзе далей, куды Валі трапляць не даводзілася. Яна любіла лес, але раней не прыглядалася да яго і не ўслухоўвалася так, як зараз. Партызанскае жыццё навучыла яе сачыць за кожным сваім крокам і за кожным шоргатам навакол сябе. Раней лес ёй здаваўся агульным зялёным шатром, прыемным на вока і карысным для прагулак па ягады або грыбы. Цяпер яна навучылася дзяліць лес на яго асобныя часткі, адрозніваць адзін куст ад другога, не кажучы ўжо пра дрэвы. Раней для яе ўсе галасы птушак, за выключэннем хіба варон або сарок, зліваліся ў адну песню. Цяпер яна пачынала адрозніваць у гэтай песні і асобныя ноты, характэрныя для асобных спевакоў. Адным словам, лес рабіўся для яе родным домам, а ў родным доме ўсё чалавеку блізкае і знаёмае.

З лесу дарога раптам выбегла ў чыстае поле. Здалёку паказалася вёска. Адтуль ішла група людзей, чалавек дзесяць, акружаная канвойнымі ў зялёных шынялях. Людзі,

з рыдлёўкамі на плячах, цяжка ступалі па сухой гладкай дарозе, панурыўшы галовы — адны ў шапках, другія з голымі галовамі. Канваіры мітусіліся каля іх, нешта крычалі і штурхалі тых, што ішлі з бакоў, прыкладамі аўтаматаў.

— Хто гэта? — запытаўся спалоханым голасам Толя.

— Мусіць, на расстрэл вядуць...— стрымліваючы боль у грудзях, адказала Валя.

— А рыдлёўкі навошта ім? Можа, на работу гоняць?

— Наўрад, Толік. Рыдлёўкамі яны самі будуць капаць сабе магілу. Гэта вядома яшчэ з грамадзянскай вайны. Маўчы і не глядзі ў іх бок, як будзем праходзіць міма.

Валі не хацелася, каб Толя, яшчэ дзіця бязвіннае, глядзеў на такі малюнак: не кожнае сэрца можа вытрымаць яго. Нешта жахліва звярынае, не дастойнае годнасці чалавека было ў гэтым малюнку.

Але Толя не мог адвесці вачэй убок. Яму здавалася, што гэтыя людзі, якія ідуць капаць сабе брацкую магілу, яму знаёмыя, і сярод іх вось-вось можа мільгануць твар суседа, бацькі ці брата... Гэта ж яго родныя, тыя людзі, якімі і сярод якіх ён жыў і жыве і якіх ведае як самых чэсных, сумленных, добрых і дарагіх. Такімі яны былі, такімі і застануцца да канца свайго жыцця.

Адзін з канваіраў утаропіўся на прахожых, потым адлучыўся ад групы смяротнікаў і падскочыў да Валі.

— Хто ты ест? — запытаўся на нячыстай рускай мове.

Валя выняла з унутранай кішэні фуфайкі паперку. Канваір бегла прачытаў і вярнуў паперку назад, ухмыляючыся:

— Гут! Гут! Вы паважайт нямецкую ўладу. Эта карашо.

І раптам, змяніўшы тон і міну на твары, выкрыкнуў:

— Яйкі ест? Давай яйкі!

Валя пакапалася ў Толевым кошыку, дастала пару яек і падала канваіру. Ён схапіў іх, зноў ухмыльнуўся і, заматаўшы галавою, кінуўся даганяць групу.

— Ух!..— цяжка ўздыхнула Валя, сцяўшы зубы, і моўчкі пайшла далей.

Неўзабаве за імі, з боку лесу, пачулася рэзкая страляніна.

Валя азірнулася. «Дзіва,— падумала яна,— навошта ж людзі неслі рыдлёўкі? Выходзіць, іх пачалі расстрэльваць без ямы?»

Але ў гэты час яна ўбачыла: з лесу выскачыў канваір. За ім — другі, трэці... Усе яны, як апантаныя, беглі без аглядкі на бліжэйшы луг, дзе раслі густыя альховыя кусты. Страляніна на ўзлеску не спынялася. І, відаць, нехта страляў па канваірах, бо праз момант адзін з іх упаў. Валя добра бачыла, як ён грымнуўся вобземлю і замёр на месцы, нават не зварухнуўшыся. Потым крокаў за дзесяць ад яго ўпаў яшчэ адзін і таксама не падняўся. Астатнія дабеглі да кустоў.

— Хто гэта іх?..— радаснымі вачыма паглядзеў Толя на Валю.

— Выходзіць, на партызан нарваліся! — гэтак жа радасна адказала Валя. «У лесе кожнае дрэва дапамагае біць фашыстаў!» — успомніла яна словы Андрэя Міхайлавіча. Але чаму ж тады яны павялі людзей на расстрэл у лес? Ды проста, відаць, яшчэ не прывучылі іх партызаны трымацца далей ад сваіх уладанняў.

Вёска, якая добра відаць была яшчэ з лесу, ляжала траха не каля самай дарогі. Падышоўшы бліжэй, Валя заўважыла нейкую незвычайную трывогу на яе вуліцах: там моцна пішчалі свінні, рыкалі каровы, чуўся людскі гоман і плач... Каля крайніх ад дарогі хат стаялі вазы і прывязаныя да платоў каровы. Побач расхаджвалі нямецкія салдаты і паліцаі. Другія цягнулі сюды кароў на вяроўках. Відаць, гэта быў зборны пункт. Бабы і дзеці кідаліся да сваіх Красуль ды Рагуль, галасілі...

Сэрца камянела, гледзячы на ўсё гэта. Толю раптам зрабілася холадна, ён пачаў калаціцца. «Дарэмна ўсё ж я ўзяла яго з сабою ў такую дарогу»,— пакаялася Валя. Яна, чулая да людскога гора, і сама гатова была расплакацца або кінуцца на дапамогу пакрыўджаным. Але яна ведала, што партызан мусіць умець стрымліваць сябе ў любых умовах і выконваць даручэнне або пастаўленую камандаваннем задачу рашуча і без хістанняў.

Толя ішоў моўчкі. Ён і сам добра разумеў, што робіцца ў гэтай вёсцы, не пытаючыся ў Валі. Толькі калі мінулі няшчасную вёску, ён загаварыў, усё яшчэ калоцячыся:

— Вось каб партызаны былі ўсюды! І ў лесе, і ў гарадах, і ў вёсках... Тады б фашыстам не было ходу. Няхай бы здыхалі ў сваіх гарнізонах!

Валя і сама так думала. Ёй, як і Толю, хацелася, каб так было, каб фашысты не маглі і носа высунуць са сваіх баз і гарнізонаў. А яшчэ лепш, каб не было гэтай на-

валачы пiдзе, каб не паганiлi яны нашай зямлi. Яна ўспомнiла размову з Андрэем Мiхайлавiчам. Так, не лёгка гэта зрабiць, як ёй, i Толю, i ўсiм нашым людзям хочацца. Тут патрэбен i час, i сiла, i зброя. Тое, што такая сiла збiраецца ў адзiн кулак, Валя бачыць сама i верыць у яе. Кропля за кропляй — i рака, а з рэк — мора. Так i тут. Атрад за атрадам — стануць брыгады, армii, народзiцца грозная сiла, большая за сiлу ворага. Вось тады i паплывуць з iх слёзы i кроў так, як цяпер плывуць з нашага народа.

Пад поўдзень Валя з Толем падыходзiлi да горада. Тут часцей трапляліся ваенныя машыны i патрулi. Некаторыя з iх не звярталi ўвагi на прахожых, другiя прымушалi паказваць дакументы. Ведаючы сiлу сваёй паперкi, Валя смела выстаўляла яе перад патрулямi, i тыя, прачытаўшы, нават казыралi ёй. Як жа не так: сам пан бургамiстр валаснoй управы Амелiян Козел сведчыў, што Валя Прахарэвiч не меншая прыхiльнiца новага нямецкага парадку, чым сам гаўляйтэр Беларутэнii Вiльгельм Кубэ[1]. А заслугi перад вялiкай Германiяй трэба паважаць!

Мiнуўшы каменны мост у раёне таварнай станцыi, Валя сказала Толю:

— На вулiцу Талстога нам дваiм iсцi няма патрэбы. Iдзi ты лепш на сваю Свярдлоўскую. Я спраўлюся i зайду па цябе.

— Добра,— радасна матнуў галавою Толя. Яму хутчэй хацелася трапiць на сваю вулiцу i на свой завулак.

Неўзабаве Валя павярнула направа, а Толя рушыў далей, з цiкавасцю разглядаючы горад.

## ТОЛЯ ШУКАЕ БРАТА

У раёне, праз якi iшоў Толя, частка дамоў заставалася цэлымi, i горад меў тут свой належны выгляд. Здалёку вiдаць былi таксама цэлыя будынкi — Дом урада, чырвоны касцёл. Толькi некаторыя карпусы унiверсiтэцкага гарадка ззялi цёмнымi аконнымi праёмамi ды павы-

---

[1] Гаўляйтэр Беларутэнii — намеснiк Гiтлера ў Беларусi. Вядомы кат беларускага народа гаўляйтэр Кубэ быў забiты партызанамi ў 1943 годзе.

рыванымі ў сценах такімі ж цёмнымі дзіркамі. Спаленай была і ўся прывакзальная частка горада.

Толя павярнуў на скверык і пайшоў уздоўж глухіх і маўклівых цяпер карпусоў універсітэцкага гарадка ў бок вакзала. З Ленінградскай вуліцы ён трапіў у такі знаёмы яму малады скверык на месцы былога Віленскага рынку і апынуўся на сваёй вуліцы.

Вуліца была ў тым жа стане і выглядзе, у якім ён пакінуў яе ў той памятны дзень. Такая ж пагарэлая і амаль такая ж пустая. У аконных праёмах падвала чатырохпавярховага дома з левага боку замест шыбаў чарнела гарэлая бляха з маленькімі шкелцамі ў ёй і выведзенымі на вуліцу такімі ж чорнымі бляшанымі трубамі-комінамі. Там, відаць, жылі людзі. У глухой сцяне дома, які стаяў пры завулку, зіхацелі доўгія і глыбокія раны-расколіны. Толя хацеў успомніць, ці былі гэтыя расколіны ў сцяне ў той дзень, калі ён вярнуўся з лагера. І не мог успомніць. Тады тут яшчэ бушаваў пажар. Сэрца яго мацней закалацілася, калі ён ступіў на свой завулак. Колькі надзей было ў яго, колькі прыгожых сноў сасніў ён за гэты час пра свой дом, бацькоў і брата Міколу!.. І як цягнула яго сюды...

За сценамі цаглянага дома яшчэ не відаць было яго роднага месца. Але варта ступіць некалькі крокаў — і яно будзе як на далоні. Што ўбачыць ён там? Страшна было зрабіць гэтыя апошнія крокі, каб не разбіць апошняй надзеі...

І ўсё ж Толя зрабіў іх. Перад ім адкрыўся той жа знаёмы малюнак. Толькі цяпер, позняй восенню, тут было яшчэ пусцей, як тады, пасля пажару. Дрэвы стаялі голыя — і тыя, што былі апалены, і тыя, што заставаліся цэлымі; пажарышчы аселі і зраўняліся з перамёрзлай травою на агародах і ў садках. Пакінутай на яблыні запіскі не было. І ніякіх іншых слядоў жывых людзей ён тут не ўбачыў...

Толя пачаў азірацца навакол. За садкамі, у дальнім кутку агародаў, ён раптам разгледзеў нешта падобнае на будку. Такой будкі раней тут не было. Відаць, нейкую старожку збудавалі. Але што ж тут цяпер старажыць?

З будкі тоненькім струменьчыкам плыў дымок. Значыць, нехта жыве ў гэтай будцы! Толя падышоў бліжэй. Будка была агароджана спаленымі шкілетамі ложкаў.

З аднаго боку відаць былі варотцы, зробленыя з такой жа старой, перапаленай бляхі, як і сама будка.

На сцяне бляшанай будкі, побач з акенцам, Толя ўбачыў драўляную дошчачку і на ёй надпіс па-нямецку, а ніжэй па-беларуску. Нямецкага надпісу Толя не разабраў. А беларускі сведчыў, што будка гэта стаіць на Чыгуначным завулку і мае № 7.

Цікава! Чаму на Чыгуначным, а не на Свярдлоўскім? Чыгуначны ж вунь дзе — за цэлы квартал адгэтуль! І каму толькі магло прыйсці ў галаву лічыць гэтую будку за дом і вешаць на ёй шыльду, хоць і дашчаную? Толю хацелася зайсці даведацца, хто тут жыве. Але ж ніякага інтарэсу да жыхароў гэтага дома № 7 у яго не было. А так сабе зайсці без прычыны ў яго не хапала смеласці. І Толя нейкі час стаяў воддаль, раздумваючы: зайсці ці падацца назад? Ён, вядома, не мог бачыць, што ў гэты час за ім таксама нехта пільна сочыць праз акенца. Гэта быў стары Лукаш. Да яго, на агароды, рэдка хто заходзіў без патрэбы. Вельмі ж ужо незайздросны выгляд меў яго дом № 7 на Чыгуначным завулку.

Траплялі сюды толькі тыя, хто ведаў, што ў гэтым доме разам з дзедам Лукашом жыве мастак-самавук Мікола Кавалёў. Але ўсё гэта былі наведвальнікі дарослыя. А гэта ж спыніўся нейкі хлапчук і, відаць, мае тут нейкі інтэрас, калі так доўга і ўважліва разглядае дом.

Дзед Лукаш накінуў на плечы ватоўку і выйшаў з будкі.

— Каго, малы, шукаеш? — запытаўся ў Толі.

— Нікога...— адказаў Толя, чырванеючы.

Дзед Лукаш прыгледзеўся лепш да хлопца.

— Пачакай! — усклікнуў ён раптам, праціраючы рукою вочы.— Нешта ты мне вельмі знаёмы... І голас таксама як бы чуў дзе... Гм... Дзе я цябе бачыў?

— Не ведаю...

— А адкуль ты?

— Я тут да вайны жыў.

— Дзе тут?

— Ды вунь, каля таго цаглянага дома. Там нашы драўляныя домікі стаялі.

— Чакай, чакай!..— замітусіўся дзед.— Дык мы ж суседзі былі. Я каля пераезда жыў. Але чаму ж твой твар мне такі знаёмы? От як бы толькі раніцай цябе бачыў!

— Не, дзядуля,— адказаў Толя,— раніцай я быў далёка адгэтуль...

— Як жа так? — цёр стары лоб.— Ага, ага,— ледзь не закрычаў ён,— ты ж зусім падобны на Міколу! Толькі цяпер мне прыйшло ў галаву, чаму ты мне такі знаёмы. У цябе брат Мікола ёсць?

— Быў...— адказаў Толя.— Быў да вайны...

— І жыў тут, на гэтым завулку?

— Але.

— А цябе зваць Толя?

— Але, мяне так завуць,— адказаў здзіўлены Толя.— Што вы ведаеце пра майго брата? Ён жывы? Ён тут?

— Жывы, унучак, жывы!

Дзед Лукаш узяў Толю за руку і павёў у будку. Там Толя даведаўся, што брат яго зранку пайшоў на Чэрвеньскі рынак прадаваць свае самаробныя малюнкі і яшчэ не вярнуўся.

— Дык я пабягу да яго,— усхапіўся Толя з услончыка і кінуўся да дзвярэй. Яму не цярпелася хутчэй убачыць страчанага брата.

## АБЛАВА НА РЫНКУ

Толя забыўся пра дагавор з Валяй, што будзе чакаць яе на сваім завулку. Амаль бягом ён мінуў пераезд, пустку за чыгункаю і хутка апынуўся перад высокай агарожай рынку. Ён добра ведаў рынак. Раней сюды часта хадзіў і з мамай, і адзін па розных патрэбах. Звычайна тут было людна і шумна. Адразу пры ўваходзе пад доўгімі стрэхамі і на доўгіх лавах пад адкрытым небам ішоў бойкі гандаль гароднінай і рознымі прадуктамі, далей, на схіле ўзгорка, размяшчаліся саматужнікі і майстравыя са сваімі таварамі, а за імі на самым узгорку — цэлы пляц займалі сялянскія падводы, на якіх рохкалі адкормленыя парсюкі, бляялі авечкі, высіліся горы сена, саломы, капусты і ўсяго, што давала людзям калгасная зямля.

Зараз на рынку не было і пятай долі звычайнага збору. Аднак рынак ёсць рынак! Ён не можа пуставаць. І Толя шчыра здзівіўся, што рынак усё яшчэ жыве ў такім разбітым і спаленым горадзе. Гандлявалі тут тымі ж прадуктамі і таварамі, што і раней. І размяшчаўся рынак

гэтак жа па ярусах, як і раней. Толя не цікавіўся першымі радамі — ён спяшаўся далей, да ўзгорка, дзе тоўпіўся майстравы народ. Гэта было самае бойкае месца.

Толя даўно не быў на рынку, і яму хацелася лепш разгледзець яго. Але ён помніў толькі аб адным — шукаць брата. Ён павінен быць там, дзе гандлююць малюнкамі. Штурхаючыся, збіваючы людзей з ног, Толя бегаў узад і ўперад, выглядаючы знаёмае аблічча. Навокал гаманілі, крычалі, гукалі, заклікалі... Толя знайшоў некалькі гандляроў малюнкамі — старых і маладзейшых, мужчын і жанчын. Яны прадавалі розныя ярка і крыкліва размаляваныя нацюрморты, грубай самаробнай работы пейзажы, выкананыя сіняй і фіялетавай фарбамі, царкоўныя абразы, напісаныя мясцовымі багамазамі; трапляліся і забруджаныя мухамі старыя карціны ў танных багетных рамках, моцна паточаных шашалем... Прадаўцы неспакойна мітусіліся вакол сваіх тавараў, выкрыкваючы асіплымі галасамі:

— Астатнія карціны! Нарывайся, хто ахвочы! Распрадажа па дзяшоўцы!

Толя аблазіў гэтую частку рынку ўдоўж і ўпоперак. Але Міколы так і не ўбачыў.

Расчараваны, моцна засмучаны, ён нехаця падаўся да выхада — відаць, там недзе на Свярдлоўскім завулку ўжо даўно чакае яго Валя. Толькі цяпер ён успомніў пра яе і заспяшаўся.

Ужо траха не каля самых варот Толя ўбачыў, што народ вакол яго трывожна забегаў. Чуваць быў стрыманы шэпт: «Немцы! Аблава!»

Усе кінуліся да выхада. Але там ужо стаялі нямецкія патрулі і ў кожнага, хто выходзіў, правяралі дакументы. Тых, у каго дакументаў не было, або якія проста з якой-небудзь прычыны кінуліся ў вочы патрулям, хапалі за каўнер і штурхалі ў чорную закрытую машыну. Усё гэта рабілася хутка і ціха. Ніхто не асмельваўся заводзіць з патрулямі спрэчку. Людзі ведалі, што за адно лішняе слова яны могуць расплаціцца жыццём. Любы нямецкі салдат меў неабмежаваную ўладу над імі.

Толя не адважыўся пайсці за народам да варот. Ён адышоўся ўбок і пачаў наглядаць за тым, што рабілася. Дакументаў у яго не было. А пра тое, што ён малы і дакументы яму не патрэбны, ён не думаў.

Заклапочаны, ён абвёў вачыма рынак. Высокія шчыке-

ты навакол рынку былі аплецены зверху калючым дротам. Але ў адным месцы штыкеты ўпіраліся ў дашчаную будыніну. Толя прыкінуў у думках, што па сцяне гэтай будыніны не цяжка падняцца наверх і пераскочыць калючы дрот... Цішком ён падышоў да будыніны і, азіраючыся, шпарка пакарабкаўся па сцяне.

Усё ішло добра, як ён і думаў. Трымаючыся за страху, ён скокнуў і апынуўся на вуліцы на другім баку рынку. Але не паспеў ён падняцца з зямлі, як пачуў побач чужы голас:

— Хальт!

Проста да яго бег нямецкі салдат з выстаўленым аўтаматам. Толя зразумеў, што ўцякаць бескарысна. Ён падняў рукі ўгору і замёр на месцы. Салдат штурхануў яго ў плечы і паказаў рукою, куды ісці.

Толя ледзь перастаўляў ногі. Усё цела яго раптам здранцвела, зрабілася чужым, на лбе выступіў пот, не хапала паветра.

Салдат давёў Толю да варот і на хаду нешта крыкнуў па-нямецку патрулям. Адзін з патрулёў адвярнуўся і запытаўся ў Толі на рускай мове:

— Дакументы?

Толя паглядзеў на яго сумнымі вачыма і апусціў галаву.

— Колькі гадоў?

— Трынаццаць...— прашаптаў Толя не сваім голасам.

— Лжэш! — крыкнуў патрульны.— Партызан! Садзіся! — паказаў ён на дзірку ў задняй частцы чорнай машыны.

У машыне ўжо было поўна народу. Толя не паспеў і агледзецца, як дзверцы з трэскам зачыніліся і раптам зрабілася цёмная ноч. Машына загула і рванула з месца. Навакол чуліся стогны, енк, уздыхі...

Гэтак цягнулася хвілін пяць. Потым машына спынілася, пачуўся скрып варот. А яшчэ праз хвіліну заднія дзверцы адчыніліся і хрыплы голас закамандаваў:

— Выходзь!

Калі ўсё скончылася, Толя даведаўся, што ён апынуўся на перасыльным пункце. Тут чакалі сваёй чаргі для адпраўкі ў іншыя месцы не толькі дарослыя, а і дзеці — такія, як ён, і яшчэ меншыя. Адны былі з бацькамі, другія без бацькоў.

Для дзяцей быў адведзены асобны барак у дальнім кут-

ку прасторнага двара. У гэты барак трапіў і Толя. Яго адразу ж абступілі хлапчукі.

— Адкуль? — запытаўся худы, да сінявы бледны хлапчук з узлахмачанымі, даўно не чэсанымі валасамі, у парваных штанах і лёгкай памятай куртачцы.

— З Мінска...— адказаў Толя, аглядаючы сваіх новых сяброў па няшчасцю.— А ты?

— З Чэрвеня.

— А як трапіў сюды?

Хлапчук горка ўсміхнуўся:

— Папасці сюды штука няхітрая. А вось як адгэтуль назад вырвацца?

— А для чаго вас сюды сабралі?

— А цябе для чаго? — у сваю чаргу запыталіся хлапчукі.

— Не ведаю.

— Ну і мы гэтак жа ведаем.

— Яны,— худы хлапчук з Чэрвеня зрабіў асаблівы націск на гэтым слове,— мусіць, і самі не ведаюць, для чаго. Я ўжо тут два тыдні жыву. І нікуды не адпраўляюць. Толькі кроў бяруць, праклятыя...

— Кажуць, нас у Германію адправяць,— дадаў другі хлапчук, трохі дзябёлейшы за першага.— Мусіць, на работу да немцаў.

— Ох,— уздыхнуў трэці нявольнік, чухаючы галаву,— няхай бы ўжо адпраўлялі хоць куды. Надакучыла ў гэтым бараку сядзець...

— А кормяць як...— сказаў хлапчук з Чэрвеня.— Адны памыі. У нас у дзіцячым доме дрэнна кармілі — усё бургамістр сабе граб. А тут даюць тое, што і галодны сабака не еў бы.

Хутка Толя і сам пазнаёміўся з нямецкімі харчамі. На вячэру яму выдалі чарпачок вады, у якой варыліся лушпіны ад чарвівай бульбы, гнілых буракоў і бручкі,— ад усяго гэтага дабра ў вадзе застаўся толькі непрыемны пах. Хлеба да такой стравы не далі. Толя хоць і выгаладаўся за доўгі дзень, але есці нямецкага баршчу не мог і аддаў яго сваім новым сябрам.

— Гэта яшчэ нічога,— сказаў худы хлапчук з Чэрвеня,— сённяшні боршч, мусіць, варылі з лушпін з салдацкай сталоўкі. А вось калі прывязуць лушпіны з рабочых сталовак... Дык ад баршчу хоць нос затыкай.

Замест ложкаў ці нараў у бараку ўздоўж сцяны была

паслана салома. Яе збілі, перацерлі на мякіну. У гэтай мякіне Толя і знайшоў начлег, прыкрыўшыся сваёй партызанскай світкай...

## РАДАСНЫЯ І СУМНЫЯ НАВІНЫ

Мікола вярнуўся дахаты познім адвячоркам. Паставіўшы ў кутку вузкую фанерную скрынку з рэшткамі нераспраданых малюнкаў, ён прысеў каля цёплай «буржуйкі» і выставіў азяблыя рукі: на двары дзьмуў рэзкі паўночны вецер.

Дзед Лукаш чысціў бульбу — збіраўся варыць булён. Ён з цікаўнасцю паглядаў на Міколу, чакаючы, што той сам загаворыць пра Толю. Ён жа так бедаваў аб ім усе гэтыя месяцы, не было дня, каб не ўспамінаў. Калі брат быў у піянерскім лагеры, Мікола не чытаў яго пісем. Гэтым займалася маці, а потым, калі яна паехала на курорт,— бацька. Таму ён і не ведаў, з кім дружыў Толя. Ах, як бы гэта спатрэбілася яму цяпер! Даведаўшыся ад дзеда Лукаша пра запіску на яблыні, Мікола доўгі час распытваўся ў сустрэчных дзяцей піянерскага ўзросту, ці былі яны перад вайною ў лагеры і дзе. Гэткім чынам ён спадзяваўся напасці на след Толевага лагернага таварыша. Ды ўсё было дарэмным. Піянеры, якія былі ў адным з Толем лагеры, нічога пра яго ўспомніць не маглі. Яны, як і Толя са сваім сябрам, самі пакінулі лагер. Гэта было ўжо на пяты дзень вайны. У лагеры з хвіліны на хвіліну чакалі машын для вывазу дзяцей далей ад фронту. Але не ўсе згаджаліся выязджаць без бацькоў. Такія пакідалі лагер і ішлі дамоў самі.

Не дачакаўшыся, пакуль Мікола першы загаворыць пра Толю, дзед Лукаш запытаўся, хітра жмурачы вочы:

— Ну, што ж не хвалішся, хлопча?

— Чым? — запытаўся Мікола.— Гандляваў звычайна: мала купцоў на наш тавар.

— А Толя бачыў цябе?

— Які Толя?

Дзед паморшчыўся:

— Што, можа, і гэта сакрэт?

Дзед Лукаш даўно здагадваўся, што ў Міколы ёсць сакрэты, пра якія ён маўчыць. «Ну, і няхай сабе маўчыць,— думаў дзед,— яму відней, ці можна каму ўводзіць

у вушы пра сваю работу». А калі зараз Мікола і пра сустрэчу са сваім родным братам змаўчаў, тут дзед Лукаш ужо не мог не пакрыўдзіцца.

Міколу ўзяла цікавасць: знаёмых з такім імем у яго не было.

— Не, дзядуля, гэта не сакрэт,— адказаў ён зусім шчыра.— Але ж пра якога Толю сапраўды вы гаворыце?

— Пра твайго брата!

— Пра майго брата?! — усклікнуў Мікола.— Што вы пра яго ведаеце? Вы нешта хаваеце ад мяне...

— Я хаваю? — здзівіўся дзед Лукаш.— Мне здаецца, ты сам хаваеш. Твой брат Толя нядаўна быў у мяне, сядзеў вось тут, на гэтым услончыку. А калі я сказаў, што ты на Чэрвеньскім рынку, ён усхапіўся і стрымгалоў пабег туды цябе шукаць.

Мікола спехам пачаў апранацца.

— А я на Віленскім быў сёння...— заахкаў ён.— Значыць, ён, небарака, недзе яшчэ шукае мяне...

Мікола выскачыў з будкі і кінуўся на Чэрвеньскі рынак.

Рынак быў пусты. І гэта здзівіла Міколу. Праўда, адвячоркам кожны рынак пусцее. Але ж ён добра ведаў: у такую пару яшчэ хто-небудзь бывае тут. Каля дашчанай будыніны ён убачыў вартаўніка рынку з мятлою ў руках. Падышоў да яго, прывітаўся.

— Чаму, дзед Рыгор, так рана разагнаў рынак? — паспрабаваў пажартаваць Мікола.

— Каб я разагнаў, то яшчэ паўбяды,— адказаў дзед Рыгор.— А ты што, не быў тут сёння?

— Я на Віленскім быў.

— Ну, і добра зрабіў.

— Чаму?

— Аблава была. Дзве машыны народу нахапалі...

У Міколы пахаладзела ўсё ўсярэдзіне.

— А малыя часам не трапілі да іх у машыны? — запытаўся ён, ледзь пераводзячы дух.

— Яны не вельмі разбіраюцца...

Дзед Рыгор нічога пэўнага не мог сказаць пра Толю. Але дзе ж бы ён падзеўся? Няўжо, не ўбачыўшыся з братам, зноў пайшоў да свайго лагернага сябра? Гэтага ніяк нельга было ўявіць. Урэшце, ці сказаў ён хоць дзеду Лукашу, адкуль прыйшоў?

Засопшыся, Мікола прыбег дахаты. Не, дзед Лукаш не

запытаўся ў Толі, адкуль ён прыйшоў, а сам Толя таксама пра гэта не ўспамінаў.

Міколу душыла трывога за брата. Хацелася расказаць аб сваім горы таму, з кім у яго няма ніякіх сакрэтаў, хто разумее яго гэтак жа, як самога сябе. Гэта быў яго школьны таварыш Адам Ярашэвіч. Ад Адама ён атрымлівае заданні для падпольнай работы, яму ж аднаму дакладвае, што і як зроблена. Яго рыначнае мастацтва аказалася вельмі зручнай шырмай для падпольнай работы, і Адам трымаецца за гэтае мастацтва больш, чым сам Мікола.

Да Адама Мікола хадзіў часта. У сям'і Адама да гэтага прывыклі. Гэта было зусім натуральна — хлопцы мелі адны гады, раней разам вучыліся. А тое, што Адам з Міколам не толькі гулялі ў шашкі,— ніхто ў сям'і не ведаў і не здагадваўся. Адам вёў строгую канспірацыю і прывучаў да строгасці ў падпольных справах і Міколу.

Адам рэзаў у хлеўчуку дровы. Прывітаўшыся, Мікола падхапіў другі канец лучковай пілы і моўчкі пачаў дапамагаць. Адам добра ведаў свайго сябра. Таму ён адразу заўважыў у яго вачах нейкія змены: яны былі больш чым звычайна сумнымі і занепакоенымі.

— Здарылася што? — запытаўся Адам.

— Брат знайшоўся...

— Дык гэта ж радасць! — ажывіўся Адам.— А ты чаго такі кіслы?

Аднак, даведаўшыся, што адбылося, Адам і сам спахмурнеў.

— Але,— сказаў ён, задумаўшыся,— няважную навіну ты прынёс... Яго маглі схапіць эсэсаўцы. У апошні час яны ганяюцца і за падлеткамі. На перасыльным пункце вунь сотні нашых людзей. Іх збіраюцца везці ў Германію. Наш цэнтр даў заданне партызанскаму атраду, з якім мы звязаны, быць напагатове. Ёсць шансы перахапіць эшалон у раёне Дзяржынска. Так што, брат, не ўсё яшчэ страчана... На перасылцы мы маем свайго чалавека і трымаем з ім сувязь.

— Адам! — рашуча сказаў Мікола.— Дазволь пайсці і мне ў атрад. Я не магу цяпер цягацца па рынках і чакаць...

— Я разумею цябе,— сказаў Адам.— Але сам адказаць што-небудзь на тваю просьбу не магу. Праўда, дня-

мі мы пасылаем новую групу ў атрад. Ну, ды я пагавару з тымі, хто гэта можа вырашыць.

— Пагавары, браток, зрабі ласку. Я хачу сам напасці з партызанамі на чыгунку. Толькі гэта можа мяне цяпер супакоіць.

— Добра. Зайдзі праз два дні. Думаю, згодзяцца. Калі будзе патрэба, ты зноў можаш вярнуцца ў горад. Я так і буду дакладваць.

— Дзякую!

— А ты збірайся тым часам патроху. Дзеду скажаш, што паедзеш на тыдзень-два ў другі горад. Ну, у Гомель напрыклад. Там на рынку не хапае нацюрмортаў для нямецкіх афіцэраў. Хоць ён і добры стары, але пакуль што не трэба яму ведаць аб тваёй другой рабоце...

— А калі Толя зноў аб'явіцца? — падумаў услух Мікола.

— Папрасі дзеда Лукаша, каб пакінуў яго ў сябе. А там — відаць будзе. Я буду сяды-тады заходзіць да дзеда. І калі што — перадам табе.

Развітаўшыся з сябрам, абнадзеены Мікола пайшоў дахаты.

Дома ён моўчкі распрануўся і лёг на сваёй самаробнай канапе. Дзед Лукаш вячэраў пры газніцы — піў чай упрыкуску. Звычайна ў такі час да дзеда падсаджваўся і яго кватарант, тым больш што Мікола не хаваў ад дзеда сваіх харчовых здабыткаў. Нейк так павялося з першых дзён, што не толькі будка, а і ўся іншая гаспадарка ў іх стала агульнай і кожны мог карыстацца тым, што мелася ў доме, без папытання. Гэта было выгадна і Міколу, і дзеду Лукашу. Ходзячы па рынках са сваімі нацюрмортамі, Мікола сёе-тое здабываў патрэбнае для кухні, а дзед варыў, ацяпляў будку і наогул вёў усю хатнюю гаспадарку. Апрача таго, увосень дзед выкапаў каля будкі скляпок і насыпаў у яго аж даверху бульбы і рознай іншай гародніны. Робячы будку на пустым агародзе ўлетку, дзед Лукаш, як вядома, меў на ўвазе і эканамічную перавагу такога пасялення. «Трымайся, стары, зямлі-маткі,— разважаў ён,— і яна не здрадзіць табе». Так яно і сталася. Як толькі пачала паспяваць гародніна, на яе накінуліся з усіх бакоў: галодных людзей у горадзе хапала. Але ніхто не асмельваўся капаць бульбу на тым участку, дзе пасяліўся дзед Лукаш: кожны лічыў яго гаспадаром гэтай дзялянкі.

А каб яшчэ лепш замацаваць за сабою свой участак, дзед назбіраў абгарэлых шкілетаў жалезных ложкаў і пашырыў свой двор вакол дома № 7.

Паглядаючы зараз на Міколу, дзед падумаў: «Відаць, сэрца ў яго не на месцы, а можа захварэў? Ды чаму ж ён нічога не кажа пра Толю?»

Дзед пачмыхаў раз, другі, каб напомніць Міколу пра сябе. Што з ім сталася? Кожны дзень, бывала, як прыходзіў дадому, расказваў навіны — што рабілася на рынку, што чуваць у горадзе. А сёння маўчыць. І дзед не сцярпеў:

— Ты што, Мікола, захварэў, не пры нас казана?

Мікола павярнуўся тварам да дзеда, уздыхнуў і, ледзь стрымліваючы горкі камяк, які падступіў да горла, адказаў:

— Не, дзядуля... Але так нешта нядобра мне...

З апошніх слоў дзед зразумеў, што гэтае «нядобра», відаць, звязана з братам. Значыць, з Толем нешта здарылася, калі Мікола не радуецца і не хваліцца, што нарэшце такі знайшоў яго. Але чаму Мікола маўчыць пра гэта? Дзеду робіцца крыўдна. Ён ведаў, што Мікола не ўсе навіны яму расказвае, але ж сустрэча з меншым братам не можа быць нейкай дзяржаўнай ці хоць бы камсамольскай тайнай. Мікола не казаў дзеду, што ён камсамолец. Але дзед пра гэта і не пытаўся — тры яго сыны былі камуністамі. Дык чаму ж і Міколу не быць камсамольцам. А можа ўжо таксама ў партыі?

Напіўшыся чаю, дзед сказаў:

— А ты, сынку, што, вячэраць не будзеш?

— Не хочацца...

Дзед закурыў люльку і доўга кашляў ненатуральным кашлем. Нарэшце ён усё ж асмеліўся запытацца аб самым галоўным, што яго ўвесь вечар трывожыла:

— Ну і што з братам?

— Не знайшоў, дзядуля, я брата,— адказаў Мікола.— Відаць, ён зноў пайшоў да свайго сябра.

Дзед закашляўся яшчэ мацней.

— Гм...— сказаў ён.— Не можа быць, каб назад вярнуўся.

— Чаму?

— Ён жа ведаў, што ты тут жывеш. Значыць, прыйшоў бы нанач сюды.

Спачатку Мікола меў намер не гаварыць дзеду пра

аблаву на рынку: навошта яго хвалявацьʔ Ён жа бачыў, як моцна дзед заклапочаны лёсам яго брата. Але задушыць у сабе гэты боль і крыўду ў яго не хапіла сілы. Яму хацелася гаварыць пра Толю, думаць, меркаваць, што магло здарыцца. А дзед не апошні ў яго жыцці чалавек, і пра гэта гаварыць з ім, вядома ж, можна, не спытаўшы дазволу ў Адама. І ён расказаў дзеду, аб чым даведаўся на рынку ад вартаўніка Рыгора.

У тую ноч дзед Лукаш доўга не мог заснуць. А калі заснуў, перад яго вачыма ўсё яшчэ мітусіўся вобраз бялявага хлапчука, які быццам бы тапіўся і клікаў на дапамогу, и дзед не мог сысці з месца, каб дапамагчы яму.

## НА ПЕРАСЫЛЬНАЙ БІРЖЫ

Праз тры дні пасля гэтага Мікола развітаўся з дзедам.

— Паеду, дзядуля, у Гомель...— сказаў ён.

— Чаго так далёка?

— Там, кажуць, нашы малюнкі нарасхват... Добра зарабіць можна.

— Гм...— нездаволена чмыхнуў дзед.— Кажуць... Мала што кажуць... Людзей слухай, а свой розум май.

Дзед спрабаваў адгаварыць Міколу — не падабаецца яму гэтая паездка ў такі час, калі на кожным кроку можна нарвацца на сваю смерць. Лепш абыходзіць яе, не рызыкаваць лішне.

— А калі брат вернецца? — пусціў дзед у ход апошні козыр.

— То няхай пачакае... Я праз тыдзень-другі вярнуся...

Выправіўшы Міколу, дзед Лукаш моцна засумаваў. Ён прывык да яго, як да роднага сына. Ён кожны дзень вечарамі чакаў яго, грэў чай па самаробнай «буржуйцы» з дахавай бляхі. Мікола прыносіў што-небудзь з рынку: буханку хлеба, выпадкова купленую па недарагой цане, кавалак мяса, пакет з цукрам. Усё гэта дзед уважліва аглядаў, прыкідваючы, на колькі часу ім хопіць гэтых прадуктаў, раіўся з Міколам, што лепш зварыць з мясам — буракі з бульбай ці капусту з той жа бульбай. Адным словам, гэта была адна сям'я, хоць і невялікая і не родная, але сям'я. А зараз яе няма. Дзед часцей пачаў успамінаць Міколавага брата Толю. А можа, і праўда яго схапілі эсэсаўцы на рынку? На свеце робіцца такое, што

ўсяму можна верыць. Гэтыя недаверкі на ўсё здольны. Дзед нямала нагледзеўся і наслухаўся, што яны вырабляюць, як здзекуюцца з нашых людзей.

Нядаўна дзед Лукаш хадзіў на Шырокую вуліцу да свайго знаёмага. І там на свае вочы ўбачыў лагер ваеннапалонных. За калючым дротам блукалі ўзад і ўперад, як непрытомныя, людзі, абшарпаныя, у адных гімнасцёрках, з чорнымі ад голаду і бруду тварамі, худыя, як шкілеты. Яны высоўвалі рукі з-за калючага дроту, просячы ў выпадковых прахожых міласціну. А за імі пільна, як каршуны за сваёй здабычай, сачылі з вышак вартавыя з аўтаматамі ў руках.

— Такія гáды трапляюць,— расказваў дзедаў знаёмы пра вартавых.— Як толькі палонны ступіць да агарожы,— страляюць. А галодны чалавек дзеля кавалка хлеба на ўсё гатовы... Колькі ўжо людзей перастралялі! А колькі іх тут памерла. Кожны дзень машынамі вывозяць у парк,— там у брацкія магілы закопваюць. Некаторыя кідаюць ім хлеб ці якую бульбіну далей ад агарожы, так, каб не ўбачыў вартавы. Шкада ж людзей! Я ўсё, што маю, аддаю гэтым няшчасным пры зручным выпадку.

Дзед Лукаш назаўтра прыйшоў да лагера з цэлай торбай печанай бульбы. Памятаючы расказ свайго знаёмага пра ліхіх вартавых, ён тупаў па вуліцы вакол лагера, нібы жабрак, і кідаў сяды-тады за калючы дрот бульбіну, стараючыся трапіць у палоннага.

Калі торба апусцела, ён спакойна, як чалавек, што зрабіў добрую справу, вярнуўся ў сваю бляшаную будку, і той вечар не здаўся яму надта доўгім і нудным.

Цяпер дзед вырашыў схадзіць на перасыльны пункт. Яму карцела разведаць: можа, і праўда Толя трапіў у лапы фашысцкіх каршуноў?

Ніякіх пэўных планаў у дзеда не было. Што робіцца на тым перасыльным пункце, ці перасыльнай біржы, як яго празвалі, якія там парадкі і ці можна туды зайсці, дзед не ведаў.

Перасыльная біржа была вельмі падобнай на лагер ваеннапалонных, толькі меншая памерам. Праўда, калючы дрот аплятаў яе не скрозь: ён толькі тарчаў над высокімі шчыльнымі штыкетамі. Вартавы пры ўваходнай браме сведчыў, што тут, за гэтым калючым дротам, або турма, або турэмны лагер. Але ж сапраўдная старая турма была побач, насупраць, дзед яе ведаў. Там і цяпер

тоўпіўся народ з клуначкамі для перадачы родным і блізкім.

Каля шчыкет з калючым дротам падмятаў тратуар невысокі каржакаваты стары з лапацістаю рыжаю барадою, у суконнай куртцы і ў вялізных юхтавых ботах. На галаве ў яго была цёплая вушанка. Дзед Лукаш быў апрануты таксама проста, па-рабочаму: у старой ватоўцы, у ботах. Можа, таму ён так хутка знайшоў агульную мову з дворнікам перасыльнай біржы дзедам Лявонам. Дзед Лукаш пачаставаў дзеда Лявона моцнаю махоркаю вырабу Гродзенскай тытунёвай фабрыкі. Цяпер гэтую махорку дастаць было цяжка. Гэта ўжо расстараўся Мікола. Сам дзед Лявон быў з бліжэйшай прыгараднай вёскі Сляпянка. Звычайна ён курыў свой самасад. Зацягнуўшыся пачастункам дзеда Лукаша, ён пачаў успамінаць добры даваенны час, калі такую махорку можна было купіць у любым магазіне.

Адным словам, старыя разгаварыліся. Дзед Лявон расказаў дзеду Лукашу, што робіцца на біржы.

— Ёсць там і падлеткі,— адказаў ён на пытанне дзеда Лукаша.— Трымаюць іх, як і ўсіх,— пад строгім наглядам.

Дзед Лукаш прызнаўся, што ў яго на біржы ёсць унук Толя Кавалёў. Так і сказаў: унучак Толя. Іначай, хто б яму паверыў, што ён цікавіцца нейкім хлапчуком, якога толькі адзін раз у жыцці ў вочы бачыў.

Дзед Лявон шчыра паспачуваў свайму новаму знаёмаму.

— Хоць бы пераведаць як-небудзь...— уздыхнуў дзед Лукаш.— Ці пускаюць туды каго з радні?

— Бывае, што пускаюць,— абнадзеіў яго дзед Лявон.— Часамі прывозяць сюды і перадачы — адзенне ці з яды што. Цябе могуць пусціць. Толькі ж дзеля гэтага, сам здаровенек ведаеш,— падмазаць трэба...

— А чым жа іх мазаць?

— Найбольш яйкі любяць, сала, шпэк па-іхняму.

Дзед Лукаш запомніў усё гэта і, падзякаваўшы біржавому дворніку, шустра пашыбаваў дахаты. Там ён набраў у сваім скляпку добры кош бульбы, буракоў і маркоўкі ды падаўся на рынак.

Дзень позняй восені кароткі. Пакуль туды-сюды, ён і скончыўся. Але к канцу гэтага кароткага дня дзед Лукаш меў цэлы дзесятак свежых яек.

Яму зусім дрэнна спалася — ён штохвіліны варочаўся, крактаў, уставаў разы тры курыць. Нарэшце дачакаўся святла. Здабытыя яйкі ён загарнуў кожнае ў паперку, а ўсе разам — у чыстую анучку. Завязаў яе вузельчыкам, папляваў на пакунак, каб шчасце не мінала, і ледзь не пабег на Мэблевую вуліцу.

Знаёмы дворнік гэтак жа, як і ўчора, тупаў з мятлою па тратуары. Дзед Лукаш спыніўся, па-змоўніцку пакаваў яму на свой запаветны вузялок...

— Шмат? — запытаўся дзед Лявон.

— Дзесятак...

— Ну, то лічы, што ўнука ўбачыш. Нясі іх проста ў кантрольную будку пры ўваходзе. Там дзяжурыць Карл Шульц. Ён за дзесятак яек бацьку роднага прадасць. Ды, здаецца, і ў гуморы ён сёння: на губным гармоніку нейкія дрындушкі выцінае.

Дзед Лукаш хацеў тут жа бегчы да будкі, але дзед Лявон спыніў яго:

— Махорка пры табе?

— Але...— нехаця палез дзед Лукаш у кішэню.

Добра зацягнуўшыся, дзед Лявон закашляўся.

— Ну і крапчак! — паківаў ён галавою.— Аж слёзы выбівае.— А потым зусім сур'ёзна шапнуў дзеду Лукашу: — Калі дастанеш пропуск, дык не будзь дурнем...

— А што? — насцеражыўся дзед Лукаш.

— Ты ж можаш перадаць яго ўнуку... Зразумеў?

— Але...— пачынаў здагадвацца дзед Лукаш.— А самому потым як?..

— Дурань стары! — па-сяброўску ўсміхнуўся дзед Лявон.— Яшчэ вучыць яго трэба. Скажаш — згубіў недзе ў бараку ці на дварэ... А калі і затрымаюць цябе тут, дык ненадоўга. Такі тавар, як ты, ім непатрэбны. Ды ўрэшце, гэта твая справа. Я цябе не ўгаварваю. Але каб гэта быў у такой бядзе мой унук, я не паглядзеў бы на рызыку. Нам што... мы пажылі на свеце...

— Дзякую, братка!..— сказаў дзед Лукаш і спехам пайшоў да кантрольнай будкі.

Яшчэ здалёк пачуў ён з будкі тыя дрындушкі, аб якіх казаў дзед Лявон. Адчыніўшы дзверы, дзед Лукаш зняў шапку і нізка пакланіўся. Карл Шульц не звярнуў на яго ўвагі — сядзеў на крэсле за сталом, абнесеным нізкай агароджай, і, надзімаючы чырвоныя шчокі, іграў на сваім гармоніку. Гэтак цягнулася некалькі хвілін. Дзед Лукаш

стаяў перад агарожай не разгінаючыся. Нарэшце Шульц зрабіў перапынак. Устаў з-за стала і падышоў да агарожы.

— Што, дзед, хочаш? — запытаўся, ласа паглядаючы на вузельчык. Ён ведаў, што сюды з голымі рукамі мала хто ходзіць.

Усё яшчэ кланяючыся, дзед Лукаш падаў Шульцу свой вузельчык. Той асцярожна развязаў яго і, пераканаўшыся, што ў ім не гранаты, а самыя сапраўдныя яйкі,— весела загалёкаў нейкі свой прывычны матыў. Потым адчыніў скрынку стала і пераклаў па адным усе яйкі ў скрынку. Анучку вярнуў дзеду і зноў узяў у рукі гармонік. Дзед пабаяўся, што ігра яго можа зацягнуцца.

— Ці не далі б, паночку, мне пропуск,— загаварыў ён ціхім голасам.

Шульц паглядзеў на старога, успомніў пра яйкі і адказаў лагодна:

— Навошта?

— Хачу праведаць унучка. Вось і цукеркі яму прынёс,— дастаўшы з кішэні пару доўгіх ледзянцоў, дзед Лукаш паказаў іх Шульцу.

— Унук?

— Але, родны ўнук... Дачкі маёй сын...

— Як зваць?

— Толік Кавалёў.

Карл Шульц пагартаў тоўстую кнігу, што ляжала на стале і, спыніўшыся на адной са старонак, сказаў:

— Так, так, ёсць Анатоль Кавалёў. А твой унук — Толік...

— Дык гэта ж усё роўна! — падхапіў дзед.— Тое самае, што Вова і Уладзімір, Ваня і Іван...

Карл Шульц паверыў дзеду, што гэта ўсё роўна, і пачаў пісаць пропуск.

— Як зваць?

— Мяне?

— Але.

— Лукаш Дзям'янавіч Карпілаў.

Праз якую хвіліну дзед Лукаш выйшаў з кантрольнай будкі з пропускам у руках. Каля ўваходных дзвярэй стаяў вартавы. Дзед паказаў яму пропуск. Вартавы заматаў галавою: «Я, я...» — і ткнуў пальцам у фортку варот.

На двары біржы, куды трапіў дзед Лукаш, было шмат людзей. Але старых сярод іх дзед не заўважыў. Усё гэта былі маладыя хлопцы і дзяўчаты, людзі сярэдняга веку і падлеткі — па гадоў чатырнаццаць-пятнаццаць. Толі Кавалёва дзед тут не ўбачыў. Ён успомніў, што, падаючы пропуск, Карл Шульц гаварыў пра трэці барак. На дварэ дзеду паказалі, дзе шукаць гэты трэці барак.

У бараку дзед Лукаш знайшоў Толю Кавалёва. Ён ляжаў на саламянай мякіне ў кутку, бледны, змораны, і дзед Лукаш не пазнаў яго. Затое Толя адразу пазнаў дзеда. Яшчэ здалёку ён прыўзняўся і памахаў рукою:

— Дзядуля, хадзіце сюды!

Пераканаўшыся, што перад ім сапраўды меншы Міколаў брат, дзед Лукаш прысеў на дыбачках і загаварыў, разглядаючы Толю:

— Нездаровіцца табе, унучак?

— Ага...— адказаў Толя слабым голасам. Але вочы яго, як здалося дзеду, павесялелі.— Нядаўна ў мяне кроў бралі. Трэці раз ужо. А пасля гэтага хадзіць вельмі цяжка.

Дзед Лукаш адвярнуўся і моцна закашляў.

Выцершы вочы рукою, ён сказаў:

— І ўстаць не можаш?

— Паспрабую,— паморшчыўся Толя, падымаючыся з свайго логава.

Дзед падтрымаў яго. Толя пастаяў крыху і сказаў:

— Цяжка, але магу стаяць.

— А ісці можаш?

Толя зрабіў некалькі крокаў.

— Ногі дрыжаць.

— Нічога, нічога,— падбадзёрыў яго дзед,— перастануць. Давай пойдзем на двор.

— А дзе Мікола?

— На дварэ скажу.

Перамагаючы слабасць, Толя пайшоў за дзедам Лукашом. «Што рабіць?» — думаў дзед. Такога выпадку другі раз можа і не здарыцца. Але ці дойдзе Толік да яго будкі? Там бы ён адлежаўся, і ўсё было б добра.

Калі выйшлі на двор, дзед запытаўся:

— Ты да брата хочаш, Толік?

— Хачу...

— А да маёй будкі дойдзеш?

Толя глянуў старому ў затуманеныя слязьмі вочы.

— Дайду, дзядуля. Буду адпачываць і дайду. Але ж мяне не выпусцяць...

— Выпусцяць,— упэўнена сказаў дзед.— Я маю для цябе пропуск.

— Выпусцяць? — узрадаваўся Толя.— Мяне выпусцяць?!

— Ты толькі не бойся, ідзі смела. А калі запытае вартавы што, скажаш: хадзіў пераведаць сястру ці брата. Зразумеў?

— Зразумеў... А вы са мною пойдзеце?

Дзед дастаў з кішэні ключ і падаў Толю.

— Я, відаць, тут крыху затрымаюся... Але ты не бойся. Жыві ў маёй будцы. У скляпку там знойдзеш бульбу.

— А дзе брат?

— Паехаў у Гомель. Праз тыдзень вернецца. А я тут яшчэ маю справу...

Толя не распытваўся ў дзеда, якую ён мае тут справу, узяў у яго ключ і пропуск ды пайшоў да варот. Ішоў ён упэўнена, сапраўды верачы свайму пропуску, і таму ніякай падазронасці ў вартавога не выклікаў. Той узяў з рук Толі пропуск, глянуў у яго, пазяхаючы, і павесіў на вароты на цвічку.

— Гут, гут! — сказаў ён Толю.— Марш!

Толя смела выйшаў за вароты. Зрабіўшы крокаў дзесяць, ён раптам адчуў страшэнную млявасць, ногі падкасіліся, і ён упаў на тратуары.

Праз хвіліну да яго падышоў дворнік дзед Лявон.

— Што, ногі не слухаюцца? — загаварыў дворнік, убачыўшы, што Толя яшчэ не страціў прытомнасці.

Дворнік падняў Толю і, падтрымліваючы яго за руку, адвёў далей ад біржы.

На Савецкай вуліцы стары шапнуў Толю, паказваючы на спаленую камяніцу:

— Пасядзі тут, хлопча. Акрыяеш, тады пойдзеш памаленьку дахаты.

Так, адпачываючы, праз гадзіну Толя дабраўся да знаёмай дзедавай будкі. Адамкнуў і, убачыўшы ў кутку засланую канапу, паваліўся на яе, як цяжка спрацаваны і да рэшты змучаны чалавек. У тую ж хвіліну моцны сон разам з непрытомнасцю скаваў яго.

Дзед Лукаш не вярнуўся ні ў той дзень, ні на другі. Толя за гэты час адаспаўся ў дзедавай будцы, адагрэўся каля жалезнай печкі (балазе дзед пакінуў яму гатовыя дрэўкі і запалкі), ад'еўся ўволю печанай бульбы і адчуў сябе так, як і трэба: млявасць знікла, галава не кружылася, ногі не падгіналіся. І яму стала сумна сядзець тут аднаму. З галавы не выходзілі Валя, Андрэй Міхайлавіч, Міхась, якога ён даўно не бачыў... Як жа ён падвёў у той дзень Валю! Яна ж напэўна шукала яго, хвалявалася. І пэўна ж не ведае, што з ім сталася. Як хацелася яму зараз убачыць яе! Калі вернецца брат з Гомеля — невядома. І дзеда няма... А што, калі збегаць у лес? Ён жа добра ведае дарогу. Пабудзе ў лагеры, пераведае знаёмых і зноў сюды вернецца. Вось толькі куды ключ падзець? Суседзяў блізка няма. Павінна ж быць у дзеда Лукаша нейкая свая схованка! Ды як разгадаць яе! І што там за справа ў дзеда на гэтай праклятай нямецкай біржы? Там жа цяжка адну гадзіну перабыць, не тое што суткі. Ды, ўрэшце, калі ўжо такія важныя ў дзеда справы, то хапіла б яму і дня, а нанач можна было б прыходзіць дадому. Ён жа там па сваёй волі, а не пад прымусам.

Усе гэтыя пытанні былі для Толі незразумелымі. Ён пачакаў яшчэ адзін дзень. Але і на трэці, і на чацвёрты дзень дзед не вярнуўся. Толя ўспомніў, што некаторым нявольнікам прыносілі перадачы. Чаму б і яму не зрабіць гэтага? Дзед, напэўна, прагаладаўся там на біржаўскіх харчах. Толя добра іх ведае: цэлы дзень ад такіх харчоў ходзіш млосны, як пасля цяжкай хваробы, а жывот раве несціхана.

Толя напёк бульбы, сабраўся і толькі цяпер успомніў, што ён жа не ведае ні імені дзедавага, ні прозвішча. Значыць, перадачы ў яго для невядомага дзеда не прымуць...

Гэта было такой нечаканасцю для Толі, што ён ледзь не расплакаўся ад жалю. Потым успомніў, што ў густых шчыкетах там ёсць дзірачкі. Праз гэтыя дзірачкі ён і сам не раз выглядваў на вуліцу. А калі можна было праз дзірачкі глядзець на вуліцу, то з гэткім жа поспехам можна глядзець і з вуліцы на двор. А раптам там на двары ходзіць знаёмы дзед: маршчыністы, з сівою барадою, на галаве шапка-вушанка, на плячах — ватовая куртка. О, ён пазнае дзеда! Яму б толькі ўбачыць яго. Ён тады аклікне

яго і даведаецца імя і прозвішча, каб потым перадаць яму праз кантрольную будку пакунак з печанай бульбай.

Доўга не раздумваючы, Толя рушыў на перасыльную біржу. Каля біржы ён сцішыў крокі і пачаў прыглядацца да знаёмых дзірак. Прайшоў амаль да кантрольнай будкі і ніводнай дзіркі не ўбачыў. Толя павярнуў назад, гэтак жа пільна прыглядаючыся да штыкет. Хутка ў адным месцы ён убачыў свежую латку паміж штыкецін: акуратна прыбітую цвікамі дошчачку. Значыць, дзіркі паспелі залатаць! Апошняя надзея ўбачыць свайго збавіцеля рушылася. Толю зрабілася горача, ён адчуў такую ж млявасць у нагах, як і тады, калі выходзіў з праклятай біржы.

Насупраць стаяў невялікі драўляны дом з ганкам. Толя перайшоў вуліцу і прысеў на ганку, не спускаючы вачэй з агарожы. Агарожа была высокая, і з-за яе відаць былі толькі стрэхі дашчаных баракаў. Для пабочных людзей, якія не ведалі гэтай установы, знадворку яна нічым асаблівым не вызначалася: шмат уцалелых дамоў зараз былі абгароджаны такімі ж шчыльнымі платамі з калючым дротам. Гаспадары горада не надта спадзяваліся на прыхільнасць да іх заняволенага імі мясцовага насельніцтва. На перакрыжаваннях вуліц скрозь будаваліся доты і дзоты або выстаўляліся ўзброеныя пасты за тоўстымі цаглянымі сценамі спаленых дамоў. За сотні кіламетраў ад фронту горад жыў на асадным становішчы.

Кожную ноч то ў адным, то ў другім раёне рваліся міны, трашчалі стрэлы. Вайна ў тыле ворага не сціхала.

Адпачыўшы, Толя падняўся і хацеў ісці дахаты. Але ў гэты час ён заўважыў каля варот біржы знаёмую постаць дворніка з мятлою ў руках. Дворнік ішоў у той бок, дзе стаяў Толя.

Толя ўспомніў, як ласкава тады загаварыў да яго гэты стары і як дапамог яму выйсці на Савецкую вуліцу. Ён, напэўна, добры чалавек. Можа, ён ведае што пра дзеда.

Толя падышоў да дворніка, прывітаўся. Дворнік адказаў, прыглядаючыся да хлопца. Нешта знаёмае ў рысах яго твару і ў адзенні кінулася яму ў вочы. Але дзе ён бачыў яго і калі, не мог успомніць.

Толя загаварыў першы:

— Я вас, дзядуля, ведаю...

— Адкуль?

— Бачыў тут на біржы. І вы мяне нядаўна праводзілі з гэтай вуліцы. Помніце? Я зусім тады слабы быў.

— А-а,— успомніў дворнік.— Дык гэта ты ўнук Лукаша Дзям'янавіча?

Здзіўлены Толя не ведаў, што адказаць: роднага дзеда па імені Лукаш у яго няма.

— Ідзі, сынок, дадому...— спачувальным тонам сказаў дворнік.— Дзед твой не скора вернецца. Учора вывезлі яго разам з маладымі...

— Куды? — спалоханым голасам запытаўся Толя.

— Хто іх ведае, мусіць, у Нямеччыну.

— Дык дзед жа тут быў па сваёй ахвоце!

Дворнік адказаў нешта няпэўнае:

— Добры чалавек быў твой дзед, сынку...

А потым запытаўся:

— Дома з радні ў цябе ёсць хто?

— Старэйшы брат.

— Гэта добра, што не адзін. Ідзі, хлопча, не пападайся лепш на вочы ім каля гэтага плота.

Дворнік адвярнуўся і пачаў заўзята шоргаць мятлою па тратуары. Толя пастаяў трохі і, нічога не зразумеўшы, пайшоў дахаты.

Толя ні разу не бачыў на біржы старых людзей. Значыць, дворнік мог гаварыць толькі пра дзеда са Свярдлоўскага завулка. Тое, што Толя яму не даводзіцца родным унукам, дворнік не ведаў. Але ж дзед прыходзіў да Толі, дворнік мог гэта бачыць. А які ж другі дзед можа прыходзіць да каго на біржу, калі не родны? І чым больш Толя думаў пра гэта, тым больш да яго свядомасці даходзілі словы старога дворніка: дзед вернецца не скора... Значыць, ключ ад будкі цяпер яму не патрэбен, і Толя смела можа адлучыцца з дому разам з ключом ды схадзіць у партызанскі атрад. Больш чакаць яму цяжка. Трэба хутчэй убачыць Валю, расказаць ёй, што здарылася.

## НА ЧЫГУНАЧНЫМ ПЕРАГОНЕ

Вестка аб тым, што гаўляйтэр Кубэ збіраецца адправіць з Мінска першы эшалон савецкіх людзей у Германію, моцна ўразіла Андрэя Міхайлавіча. У той жа дзень ён пачаў рыхтаваць баявую групу і баявую аперацыю. Ён сам агледзеў і вывучыў мясцовасць, дзе партызаны меліся падпільнаваць і спыніць поезд, вызначыў пункты збору вызваленых людзей, падрыхтаваў для іх запасы адзення.

Аперацыя прадбачылася нялёгкая. У эшалоне магло быць многа падлеткаў. Што рабіць з імі? Тым больш што восьвось ляжа зіма. Дарослыя, вядома, пойдуць у атрад.

Пасланыя ў бліжэйшыя вёскі разведчыкі хутка прынеслі радасную вестку: людзі, з якімі ім прыходзілася гаварыць, з ахвотаю згаджаліся прыняць у свае сем'і сірот і бяздомных падлеткаў. Адкуль яны прыбудуць, партызаны не сказалі: гэта была пакуль што ваенная тайна. Андрэй Міхайлавіч павесялеў ад такіх вестак і рашуча ўзяўся за справу.

Разам з баявой групай сустракаць эшалон пайшоў і Мікола Кавалёў. Штаб атрада не вызначыў яго на гэтую аперацыю — у групу падбіраліся перш за ўсё тыя партызаны, якія добра ведалі мясцовасць і хто ўжо не першы раз хадзіў на баявыя справы. Міколу Кавалёву прыйшлося растлумачыць начальніку штаба, чаму іменна ён павінен быць у гэтай групе. Начальнік штаба не ўзяўся сам вырашаць гэтую справу і звярнуўся да Андрэя Міхайлавіча.

Андрэй Міхайлавіч захацеў пагаварыць з Міколам. Дарэчы, ён яшчэ не паспеў пазнаёміцца з новымі байцамі свайго атрада. Атрад за апошні час вырас, і цяпер яму нялёгка было ведаць усіх сваіх людзей.

Мікола Кавалёў коратка расказаў камандзіру атрада пра сябе і сваю работу ў падпольнай групе Адама. Навучыўшыся ўважліва слухаць людзей і разумець іх, Андрэй Міхайлавіч адразу ўбачыў, што перад ім баец, які не спалохаецца і не падвядзе сяброў пры першай жа сур'ёзнай сутычцы з ворагам. Гэтага ён больш за ўсё баяўся, падбіраючы людзей для свайго атрада. Дзіўнай і недарэчнай толькі здавалася яму гісторыя з Міколавым братам. І расказваў Мікола пра гэтую гісторыю неяк невыразна, з чужых слоў, хоць і зусім шчыра. І сапраўды: як мог знікнуць малы ў той час, калі ён натрапіў на пэўны след старэйшага брата, якога ён, відаць, шукаў? Эсэсаўцы забіралі падлеткаў, Андрэй Міхайлавіч гэта ведаў, але пакуль што толькі сірот — з дзіцячых дамоў. Як жа мог бы трапіць да іх на перасыльную біржу Міколаў брат? Немцы, робячы аблаву на рынку, пра якую расказаў Мікола, відаць, цікавіліся людзьмі дарослымі, а не дзецьмі.

Распытваючы ў Міколы пра яго брата, Андрэй Міхайлавіч успомніў пра самага юнага байца свайго атрада Толю. Нешта падобнае ўгадвалася ў лёсе аднаго і другога.

— Дарэчы,— раптам схамянуўся Андрэй Міхайлавіч,— як зваць твайго брата?

— Толя,— адказаў Мікола.

— Цікава,— задумаўся Андрэй Міхайлавіч.— У нас быў адзін Толя. І знік ён самым дзіўным чынам. Але больш дакладна аб ім ведае наша разведчыца Валя Прахарэвіч. Я толькі ведаю, што ён таксама быў з Мінска.

— А прозвішча вашага Толі? — перапыніў Мікола камандзіра атрада.

— Не помню. Зараз даведаемся.

Андрэй Міхайлавіч гукнуў дзяжурнага і загадаў паклікаць Валю.

З першых жа Валіных слоў Мікола пераканаўся, што самы юны партызан атрада імя Варашылава Толя Кавалёў і ёсць яго родны брат. Супалі і прозвішча, і завулак, у якім ён быў, і ўсе іншыя прыкметы.

Нешта гарачае разлілося ў грудзях у Міколы, як пачуў ён гэтую вестку пра свайго малодшага брата. Значыць, ён зноў трапіў на яго след. Праўда, гэта той жа ранейшы след, але цяпер ён усё-ўсё ведае пра Толю — дзе ён быў і што рабіў. Заставалася толькі няясным, што сталася з Толем у горадзе. Хто ж мог падумаць, што, перапалоханы аблавай, ён, замест таго каб выйсці праз вароты, пераскочыў плот і трапіў у чорную машыну...

Вынікам гэтых сустрэч і размоў пакуль што было толькі тое, што Андрэй Міхайлавіч добра пазнаёміўся з новым байцом свайго атрада і дазволіў яму рыхтавацца разам з групай на баявое заданне.

Валя таксама пачала прасіцца ў гэтую баявую групу. Як жа можна абысціся без яе? А можа, Толя і сапраўды пакутуе на перасыльнай біржы? І можа, зараз трапляецца апошняя магчымасць вырваць яго з рук катаў... Хто ж лепш зробіць гэта, як не яна. Цяпер, калі Міхась перабраўся ў атрад, Валя думала толькі пра Толю. Як перажывала яна і хвалявалася ўсе гэтыя дні за яго! Добра, што знайшоўся нарэшце Толеў брат, але ж яна, Валя, па-ранейшаму гэтак жа непакоіцца за Толю, як і яго родны брат. Урэшце, каб яна тады не ўзяла яго з сабою ў горад, зараз браты толькі радаваліся б сустрэчы...

Андрэй Міхайлавіч не згадзіўся з Валінай просьбаю.

— Няма ў гэтым, Валя, патрэбы,— сказаў ён.— Справяцца з заданнем і без цябе. Ідзі лепш дапамагай гаспадарнікам рыхтавацца да сустрэчы гасцей. Апрача падлет-

каў, якіх мы адразу ж пашлём у вёскі, у эшалоне знаходзяцца сотні дарослых. Іх нам трэба прыняць і размясціць у лагеры і на базах. Работы хопіць усім.

Андрэй Міхайлавіч гаварыў пра ўсё гэта так, нібы справа з эшалонам нявольнікаў была ўжо вырашанай. Ён вёў гэтую справу і верыў, што так яно і павінна быць.

Аднак, як і ўсякая рызыкоўная справа,— гэтая таксама вісела на валаску. Падпольшчыкам Мінска няцяжка было ўстанавіць, што на перасыльнай біржы рыхтуюцца адправіць эшалон нявольнікаў у Нямеччыну. Але ж гэтыя весткі яшчэ нічога канкрэтнага не давалі ні падпольшчыкам, ні партызанам. Праўда, Адам у той жа дзень перадаў іх у атрад, і баявая група выйшла бліжэй да чыгункі, цішком размясціўшыся ў невялічкім засценку. Яна мусіла чакаць тут больш пэўных вестак: калі эшалон выходзіць са станцыі і як пазнаць яго. Гэта было самае цяжкое заданне для падпольнай групы, якая вяла гэтую аперацыю ў горадзе. Хто павядзе эшалон? Як прабрацца ў яго аднаму з падпольшчыкаў, каб падаць сігнал партызанам? Іначай партызаны могуць затрымаць другі, выпадковы эшалон, і ўся справа сарвецца. Фашысты тады блакіруюць дарогу на гэтым участку, наробяць дзотаў. Пакуль што на перагоне, які Андрэй Міхайлавіч выбраў для аперацыі, было ціха. Перагон быў бязлесы, і гэта, відаць, супакойвала фашыстаў.

Адам меў некалькі планаў. Адзін з іх прадбачыў замену машыніста эшалона ў апошнюю хвіліну. Дзеля гэтага на станцыі ў той дзень павінен быў дзяжурыць падпольшчык з чыгуначнікаў, які ўмеў вадзіць паравозы. Важна было, каб поезд па той ці іншай прычыне прыпыніўся там, дзе трэба, або падаў сігнал.

Аднак усё адбылося прасцей, чым можна было думаць. Чыгуначнік-падпольшчык Марцін Ляўкоў намякнуў перад гэтым начальніку вакзала, што ён хацеў бы паехаць у Германію — ніколі там не быў. Начальнік вакзала запомніў гэта і пры фарміраванні паязной брыгады ўключыў у яе і Марціна Ляўкова.

Марцін Ляўкоў мог спыніць поезд у любы час і ў любым месцы. Ён так і зрабіў на тым перагоне, дзе эшалон чакалі партызаны.

Калі салдаты ўзброенай аховы выскачылі з свайго вагона, каб даведацца, што здарылася, яны тут жа трапілі пад кулі.

Бой быў кароткі. Нямецкім салдатам нічога не заставалася іншага, як падняць рукі ўгору.

Партызаны кінуліся да вагонаў. У момант затрашчалі дзверы, і праз іх пасыпаліся на палатно чыгункі людзі. Апынуўшыся на волі, яны не ведалі, што рабіць: адны з распасцёртымі рукамі беглі да партызан, каб абняць сваіх збавіцеляў, другія кідаліся ўцякаць у поле.

— Таварышы, усім збірацца ў засценку! — крычалі ім партызаны, паказваючы дарогу ў засценак.— Ратавацца самім небяспечна. Вас зловяць...

Беглякі прыслухоўваліся да гэтых галасоў і на бягу паварочвалі ў засценак.

Здарылася ўсё гэта так хутка, што Мікола Кавалёў не паспеў і апамятацца. Спачатку ён вёў перастрэлку з ахоўай, потым, калі з вагонаў шугануў народ, ён бегаў уздоўж эшалона і трывожным голасам гукаў брата. Але ніхто яму не адгукаўся.

Народ радзеў увачавідкі. Мікола ўжо траціў надзею ўбачыць брата, як раптам пачуў сваё імя:

— Мікола, сынок!

Ён агледзеўся. З апошняга вагона спяшаўся да яго самы апошні пасажыр, зусім падобны на дзеда Лукаша...

Мікола моцна заморгаў вачыма: ці не здань перад ім? Дзеда Лукаша ён пакінуў некалькі дзён таму назад у будцы на Свярдлоўскім завулку... Бывае ж такое падабенства! Ды яшчэ і па імені кліча яго гэты стары...

Пакуль Мікола разглядаўся, не верачы вачам сваім, дзед Лукаш ужо абнімаў яго і, задыхаючыся, гаварыў:

— Толя жывы!.. Жывы, галубок...

Узрадаваны Мікола падхапіў дзеда Лукаша пад руку і шпарка пакрочыў з ім у бок засценка, на хаду распытваючы, як ён трапіў у гэты эшалон і што ён ведае пра Толю.

У засценку тым часам ішло спешнае фарміраванне вызваленых: малых і слабых пасылалі з праваднікамі ў вёскі, а ўсе іншыя ішлі ў партызанскі лес.

Пакуль нямецкія дзяжурныя з бліжэйшых станцый разабраліся, што здарылася,— ад партызан і следу не засталося. Шукаць жа іх у лесе справа ненадзейная і рызыкоўная. Для гэтага патрэбны цэлыя дывізіі. А зняць іх з фронту камандаванне не можа. І яно вымушана было мірыцца з неспакойным тылам, чакаючы лепшых дзён.

Гэтыя лепшыя дні, па разліках гітлераўскага вярхоўнага штаба, маглі настаць тады, калі немцы захопяць

Маскву. Не адзін раз ужо вызначаўся дзень, калі Гітлер меўся ўехаць на белым кані ў заваяваную Маскву. Але мінула лета, мінае восень, а мары яго так і заставаліся пустымі. Толькі з кожным днём больш ляцела пад адхоны нямецкай тэхнікі і жывой сілы, што рвалася да Масквы, ды больш вырастала бярозавых крыжоў з нямецкімі надпісамі і каскамі зверху на ўсіх дарогах і франтах вялікай бітвы ад Баранцава да Чорнага мора...

## У АДНОЙ СЯМ'І

Была яркая светлая раніца. З чыстага бязвоблачнага неба свяціла ўжо нізкае ў гэтую пару года сонца.

Але добра разгледзеў Толя ўсю красу раніцы позняй восені толькі за горадам. У горадзе ён бачыў адны руіны, панурых людзей з адбіткам цяжкага гора ў вачах і на змучаных худых тварах. Ніякае сонца не магло ажывіць гэты сумны малюнак.

«Які ж сёння дзень і якое чысло?» — задумаўся Толя. У партызанскім атрадзе ён ведаў дні і числы. Потым усё пераблыталася, і цяпер гэты апошні час яму здаваўся нейкім недарэчным сном. Калі ён ішоў з Валяй у горад, стаяла такая ж пагодлівая раніца, дарога была сухая, як і цяпер, толькі было цяплей і на дрэвах яшчэ зелянелі лісты. Цяпер жа і сонца неяк пахаладнела і скрозь — дзе ні глянь — пуста і гола.

Патрульныя за горадам уважліва змервалі Толю з галавы да ног, але не затрымлівалі: відаць і без дакументаў, што звычайны сялянскі хлапчук варочаецца з горада ў вёску. У руках у хлапчука саламяны кошык, а з яго вытыркае гліняны гарлач. Толю не было патрэбы цягаць у партызанскі атрад ні гэтага кошыка, ні гарлача. Але з таго, як Валя і ён сам збіраліся ў горад, Толя зрабіў вывад: з горада ідучы таксама не шкодзіць мець у руках якую-небудзь рэч.

Толю так хацелася хутчэй трапіць у знаёмы лес, што ён, як толькі мінуў патрульных, далей пусціўся подбегам. Таму дарога яму не здалася такой доўгай, як ад лесу да горада.

Спыніўся ён, каб перадыхнуць, толькі ўжо ў самым лесе. Лес быў вялікі і глухі. Упершыню ў сваім жыцці Толя апынуўся ў такім глухім лесе адзін. Але — дзіва! — ніякага страху ён не адчуваў. Бо гэта быў той лес, дзе ён

пакінуў блізкіх і дарагіх яму людзей. Чужому чалавеку тут трэба дрыжаць, а свайму баяцца няма чаго. Вось чаму Толя смела звярнуў у адным месцы на знаёмую лясную сцежку і падаўся ў гушчар.

Першыя партызанскія патрулі заўважылі Толю яшчэ на шасэ. Яны крыху здзівіліся, што гэты невядомы хлапчук, замест таго каб ісці дарогаю далей, раптам звярнуў на партызанскую сцежку. Але гэта быў звычайны вясковы хлапчук, і патрулі не трывожылі яго: няхай ідзе, там бліжэйшым да партызанскага лагера патрулям відаць будзе, куды ён ідзе. Аднак, калі гэты хлапчук мінуў ужо некалькі пільных вачэй, чарговы патруль яго аклікнуў:

— Пачакай, малы!

З гушчару выйшаў чалавек з двухстволкай у руках. З выгляду гэта быў звычайны ляснік — пажылы, па-сялянску адзеты барадаты дзядзька.

— Куды сабраўся? — запытаўся ён у Толі, уважліва прыглядаючыся да яго.

Толя разгубіўся: свой гэта чалавек ці чужы, і што адказаць яму? За лесам Толя ведаў толькі адно сяло Зялёны Бор. Ён так і сказаў, што ідзе дадому ў гэты самы Зялёны Бор.

— У Зялёны Бор гэтай дарогай не ходзяць,— запярэчыў барадаты дзядзька.— Ты заблудзіўся, хлопча.

Дзядзька ўсё гэтак жа пільна вывучаў Толю. Хлапчук быў вельмі ж падобны да таго, якога ён разы са два бачыў у партызанскім лагеры. Адзін раз вельмі ж падобны хлапчук ішоў з разведчыцай Валяй у сталоўку.

— Па гэтай сцежцы,— сказаў дзядзька,— ходзяць толькі з паролем. Які твой пароль?

— Ніякі,— адказаў Толя.

Што такое пароль, ён ведаў: праваднік вёў яго ў атрад з паролем: «Смерць нямецкім акупантам!» Але ж такі пароль можна сказаць толькі сваім людзям. А хто гэты дзядзька?

— А можа ты да Валі ідзеш? — дабрадушна ўсміхнуўся дзядзька.— Я, здаецца, цябе бачыў з ёю...

Пачуўшы знаёмае імя, Толя зразумеў, што перад ім свой чалавек. І ён смела адказаў:

— Але, да яе.

— А чаму без пароля?

— Я даўно не быў тут...

— А дзе быў?

— У горадзе. Хадзіў зВаляй. Ды затрымаўся там...

— Ну то ідзі, брат, смела,— махнуў рукою барадаты дзядзька.— А калі хто спытае пароль, адказвай: «Смерць нямецкім акупантам!»

— О,— пахваліўся Толя,— такі пароль я ведаю.

— Адкуль?

— Калі ішоў першы раз у атрад, дык праваднік адказваў так.

— Пароль, браток, мяняецца,— растлумачыў дзядзька.— Але ёсць такія, што часта паўтараюцца. А ну, малы,— усміхнуўся ён,— паўтары самы любімы партызанскі пароль.

Узрадаваны, што так шчасліва ўсё абышлося, Толя выцягнуўся ў струнку, зрабіў піянерскі салют і выгукнуў з душою:

— Смерць нямецкім акупантам!

— Правільна,— пахваліў дзядзька.— Чуваць голас сапраўднага партызана!

Ці трэба казаць, што з такім паролем Толя зусім лёгка трапіў у свой партызанскі атрад.

Яшчэ здалёк пачуў ён дружныя воплескі. «Відаць, нейкі мітынг»,— падумаў Толя. Падышоўшы бліжэй да зямлянак, ён убачыў: на палянцы шчыльна стаялі партызаны і слухалі Андрэя Міхайлавіча. Самога яго не відаць было з-за народу, Толя чуў толькі яго голас:

— Паведамленне Савецкага інфармацыйнага бюро пра першыя сур'ёзныя поспехі нашых войск пад Масквой радуе кожнага з нас. Але вораг яшчэ моцны. Яго трэба біць ды біць — дзе папала і чым папала. Пакуль што ў яго збіта толькі фанабэрыя: ішоў ён да Масквы бравым пеўнем, а варочаецца мокрай курыцай... Ударым жа, таварышы партызаны, па гэтай мокрай курыцы з тылу так, каб з яе пер'е пасыпалася!..

Пасля апошніх слоў Андрэя Міхайлавіча ў натоўпе пачуўся дружны смех, а ўслед за ім зноў пасыпаліся воплескі.

Потым выступалі другія прамоўцы, і Толя, не чуўшы пачатку прамовы Андрэя Міхайлавіча, хутка зразумеў, аб чым ідзе гаворка: пад Масквой фашысты спынены, наступленне іх на Маскву правалілася!

О, дзеля такой весткі варта было бегчы сюды, у гэты запаветны край! Толю зрабілася лёгка на душы. Лес быццам пасвятлеў, і твары людзей выглядалі весялейшымі.

Калі чарговы прамоўца скончыў гаварыць, Андрэй Міхайлавіч абвясціў:

— Слова ад імя падпольшчыкаў Мінска мае Мікола Кавалёў.

Да свядомасці Толі не адразу дайшлі гэтыя знаёмыя імя і прозвішча. «Можа, проста здалося?» — падумаў ён.

Але і голас прамоўцы быў зусім падобны на голас брата. Няўжо і гэта здаецца? Толя закалаціўся і пачаў прабівацца наперад, каб убачыць на свае вочы, хто гэта гаворыць голасам яго брата. Партызаны стаялі шчыльна, і пралезці праз іх рады было нялёгка. На яго зашыкалі:

— Не штурхайся, малы, слухай!

Але малы не хацеў толькі слухаць — яму хацелася і ўбачыць таго, каго ўсе слухалі. І ён усё ж дамогся свайго — высунуўся на самы перад, туды, дзе ў цэнтры цеснага кола побач з прамоўцам стаяў Андрэй Міхайлавіч.

Цяпер Толю ўсё было ясна. Не чакаючы, пакуль Мікола скончыць сваю прамову, ён кінуўся да яго ў абдымкі. Мікола спыніўся на хвілінку, моцна абняў брата і, стоячы побач з ім, збіраўся гаварыць далей. Але ў гэты час аднекуль збоку пачуўся выгук — радасны, шчаслівы:

— Толя!..

— Міхась! — адказаў яму гэткі ж радасны голас.

Праз момант хлопцы сустрэліся ў цэнтры кола. Яны не ведалі, што ім рабіць — абдымацца ці цалавацца, як гэта робяць дарослыя, і нейкі час стаялі адзін супроць аднаго, расчырванелыя, усхваляваныя. Потым хапіліся за рукі і пасталі каля Міколы, слухаючы яго прамову.

— Вялікія пакуты выпалі на долю нашага народа,— гаварыў у гэты час Мікола.— Няма той сям'і, якую б абмінулі слёзы, смерць... Фашысты абвясцілі нам крывавую татальную вайну — гэта значыць вайну ўсяму народу. І ў нас няма іншага выхаду, як адказаць лютаму ворагу тым жа: знішчэннем усіх фашыстаў, якія асмеліліся ступіць на нашу савецкую зямлю.

— Правільна! — зашумелі партызанскія рады.

— Біць фашыстаў без літасці! Знішчаць іх, як паганых сабак!

— Кроў за кроў!

— Гітлер,— гаварыў далей Мікола,— выхваляўся ўсім і ўсюды, што за два тыдні захопіць Маскву і Ленінград. Два тыдні мінулі, мінаюць месяц за месяцам. І што ж? Масква стаіць, як і стаяла. І Ленінград стаіць, як і стаяў.

А з імі стаіць і Савецкі Саюз. І будзе стаяць векі вечныя. У нас бяроз хопіць для крыжоў усім, хто ахвотнік да нашай зямлі!

Толя і Міхась не маглі ўважліва слухаць прамоўцу, хоць гаварыў ён і аб важных рэчах.

— Дзе Валя? — шаптаў Толя.

— Вунь,— паказаў Міхась.— Гэта яна першая ўбачыла цябе.

Толя прыгледзеўся і сапраўды ўбачыў знаёмую хустку — цёмную з чырвонымі кветкамі. Сустрэўшыся вачыма з Толем, Валя ўсміхнулася яму і памахала рукою.

— А пра Ганса Штайна ведаеш? — шаптаў Міхась.

— Не. А што?

— Капут!

— Не маніш?

— Што ты!

— Вось добра,— ледзь не падскочыў Толя ад радасці.— І хто яго капутнуў?

— Я!..— стукнуў сабе ў грудзі Міхась.

— Адзін?

— Адзін.

— Не маніш?

— Чэснае піянерскае!

Міхась пачаў шаптаць Толю, як гэта было. Толя слухаў, не прапускаючы ніводнага слова, і шкадаваў:

— Эх, мяне не было!

— А чаму ты мяне падмануў? Сказаў, што едзеш на Палессе.

— Дык гэта ж не я сказаў, а Валя... А ёй сказалі так зрабіць. Ваенная тайна... Разумееш?

— Шчасце тваё, што гэта ваенная тайна,— усміхнуўся Міхась.— А так я ніколі б не дараваў табе. Хоць бы ты які знак пакінуў каля нашых схованак. Ну, напісаў бы на чым-небудзь сваё імя. Я здагадаўся б, што ты там быў. А так — думаў, хто трэці нас бачыў...

— Гэта праўда,— каяўся Толя,— не дадумаўся. Больш такога не зраблю.

— Ну, больш мы не будзем разлучацца! — цвёрда заявіў Міхась.

Хлопцы моцна сціснулі адзін аднаму рукі ў знак неразлучнай дружбы.

Тым часам Мікола скончыў выступленне і, падхапіўшы шчаслівых сяброў, прытуліў іх да сябе.

— Цяпер, малыя, баста: хопіць партызаніць у адзіночку!

Мітынг скончыўся. Валя падышла да хлопцаў. Яна таксама абняла Толю.

— А дзеда Лукаша хочаш убачыць? — раптам запыталася яна.

— Дзеда Лукаша? З Мінска?

— Але.

— Яго ж фашысты ў Германію адправілі...

— Чаго ён там не бачыў у Германіі! — усміхнуўся Мікола.— Фашыстаў? Дык іх і тут хапае. Не, нашаму чалавеку лепшага месца няма, як дома, на сваёй роднай зямлі. Вось таму мы і зрабілі папраўку ў адрасе: не ў фашысцкую Германію накіраваць нашых людзей, а ў свой родны партызанскі край!

— Як гэта? — не зразумеў Толя.

— Хутка ўбачыш сам — і дзеда Лукаша, і ўсіх сваіх сяброў з перасыльнай біржы.

Вочы Толевы загарэліся:

— І Валодзьку з Чэрвеня ўбачу? І Сашку з Рудзенска? І ўсіх?

— Усіх, усіх да аднаго! Толькі мы іх размясцілі не тут, а ў вёсках. Ты сходзіш да іх.

— А чаму дзед Лукаш на мітынг не прыйшоў?

— Захварэў, Толік, наш дзед Лукаш,— адказала Валя.— У партызанскім шпіталі ляжыць.

Па Толевым твары прабег цень смутку.

— Я хачу яго ўбачыць,— папрасіўся ён у Валі.— Завядзі мяне да яго.

Толя дастаў з кішэні невялічкі ключык і паказаў усім:

— Гэта ад дзедавай хаткі. Я аддам яго дзеду Лукашу.

Мікола дастаў з сваёй кішэні такі ж самы ключык:

— А я свайго дзеду не аддам. Хатка яго нам яшчэ спатрэбіцца!

Толя пачаў углядацца на Міколаў ключык:

— Дык і ў цябе такі ж? Значыць, я дарэмна баяўся, што ты вернешся з Гомеля і будзеш сядзець на парозе...

І ўсе чацвёра, весела гамонячы, рушылі ў партызанскі шпіталь да дзеда Лукаша.

*1960 г.*

## ЗМЕСТ

**Александр Иванович Якимович**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ТРЕХ ТОМАХ

*Том второй*

*Повести*

Для среднего и старшего школьного возраста

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар У. В. Ідэльсон. Афармленне Я. А. Ігнацьева. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Ф. І. Брук, Л. С. Мануленка, А. Т. Глушчанка, В. В. Шарамета.

ІБ № 375

Здадзена ў набор 26.07.78. Падп. да друку 5.01.79. АТ 01015. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 25,20. Ул.-выд. арк 26,34. Тыраж 23 000 экз. Зак. 1458. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Якімовіч А.**

Я 45 Збор твораў у трох тамах. Том II: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 464 с. 8 л. іл.

У другі том Збора твораў вядомага дзіцячага пісьменніка Алеся Якімовіча ўвайшлі аповесці «Канец сервітуту», «Цяжкі год», «Незвычайны мядзведзь» і «Смелыя людзі».

**Я $\frac{70803-018}{М 302(05)-79}$ падпіснов** **Бел 2**